# Аповесьці

## Круглянскі мост

### 1

Прачнуўся Сцёпка на золку.

Абудзілі яго галасы — блізкая гамана людзей, смех, ранішні курэцкі кашаль, бразгат кацялкоў. Яшчэ не зусім асіліўшы ў сабе дрымоту, хлопец зразумеў, што гэта ішлі на сняданак — побач, у алешнічку, была сцяжынка да недалёкае кухні, пах дыму ад якой даўно ўжо даносіўся да яго лаўжа. Сцёпкаў галодны нюх некалькі разоў лавіў спакушальны пах смажанага, і тады Сцяпан нават у сне адчуваў згаладнелую знямогу ва ўсім целе. Але пра яду ён тут жа і забыўся. Разам з абуджэннем на хлопца хлынула плоима самых непрыемных думак і адчуванняў — учарашняе абрынулася ўсё адразу, і ён з тужлівай самотай адзначыў гэты переход з санлявага забыцця ў надта турботны, нярадасны цяпер для яго свет.

Болей ужо не заснуў.

Свядомасць яго была цалкам ва ўладзе трывогі, на некалькі гадзін прыпыненай сном; зноў пацягнулася чаканне, у канцы якога, аднак, не прадбачылася нічога добрага. Сцёпка паварушыў галавой: шыя паранейшаму — не моцна, а неяк дакучлівaтупа — балела; скулы, эдаецца, нарывалі ўсё болей; адна, разбітая ўчора, мабыць, падсохла і, скранутая цяпер, азвалася вострым болем. Было балюча варухнуць плячом, і ён пакутна паморшчыўся, думаючы, што скуллё, якое нядаўна яшчэ атручвала яму жыццё, цяпер не болей чым дробязь.

У яме ад ранішняй свежасці было холадна, цела са сну

прабірала дрыготка, азяблі рукі. Струхлелая салома ў дне адсырэла, стала вогкая, як скошаная падвялая трава, і не грэла. Недзе, нябачнае за лесам, усходзіла сонца; абяцаючы пагодлівы дзень, у высокім прасторы неба бялела некалькі невялічкіх спакойных аблокаў. Ніжай пад імі высілася абсыпаная шышкамі вяршаліна елкі. Некалькі тугіх шышак ляжалі і ў доле, на ўтаптанай саломе, ля яго босых і брудных ног.

Яма была не такая ўжо і глыбокая, некалі нядбайна выкапаная на бульбу,— невялікі яе запас хавалі тут да вясны. З абсыпістых сцен бізунамі вісела яловае карэнне, таўсцейшае тырчала з бакоў, як цвёрдыя, вузлаватыя локці. Вылезці адсюль было проста, нават і дзіця вылезла б, але ён вылазіць не збіраўся. Па-першае, наверсе да ямы была прыстаўлена варта — партызан з вінтоўкаю, што пільнаваў яго як злачынцу. Па-другое, і гэта галоўнае, Сцёпка не лічыў сябе ніякім злачынцам, чакаў і дужа спадзяваўся на справядлівасць. Цяпер, памалу спакайнеючы пасля таго недарэчнага ўчарашняга здарэння, Сцяпан адчуваў, што пагарачыўся, што не трэба было даводзіць усё да бяды. Але разумныя думкі звычайна спазняюцца, і таго, што здарылася, ужо не перайначыш.

Галасы тым часам памалу аддаліліся, заглухлі ў ельніку, наўкола зноў стала ціха і

надта чуйна, як звычайна ў яме. У гэтай самотнай цішы лесавога ранку Сцяпану неяк міжвольна захацелася пачуць вартавога, які ўсю ноч тупаў паблізу. Калі ўчора саджалі сюды, дык ставілі Кучкіна, але цяпер, мусіць, не Кучкін — змянілі іншым. Той быў непаседлівы і надта шумлівы: то кашляў, то мармытаў нешта і ўсё хадзіў і хадзіў наўкола. Гэты ціхі — мусіць, сядзіць недзе паблізу і дрэмле.

Прыцяўшы дыханне, Сцёпка, аднак, злавіў на слых ціхенькія гукі, якіх спярша не адгадаў нават, а пасля неяк само сабою між думак стала зразумела, што вартавы стругае палачку ці можа дубчык: чутны былі ціхае шорханне нажа, мах рукі. Пасля ён пачуў і лопат дубца аб прысыпаны ігліцаю дол. І хлопцу раптам да

душэўнай сутаргі захацелася туды, на волю, хоць азірнуцца, паглядзець на бакі з краю ямы, вылезці з гэтага сырога, прасмярдзелага трухлявай саломай і зямлёй дна.

Але ён знае, што, пакуль не прыедзе камісар, ніхто яго адсюль не пусціць.

Між тым, на сцяжыне пад елкамі спярша невыразна, а потым усё гучней раздаюцца чыесь шырокія крокі, чуецца шорхат скранутых галін, мернае пабразгванне ў такт кроку — зброі ці чаго ў кішэні. Паблізу, чутно, мусіць, устае вартавы, ударамі далоні абтрасае падол світкі; рэзка пстрыкае складанчык. Сцёпка спазнела здагадваецца: ідуць сюды. Можа па яго? Ён чакае гэтага і гатовы ўжо узрадавацца, але замест адпаведных для такога выпадку слоў чуе іншыя.

— Ну, ідзі надрубай,— чувацъ здаля роўны голас задаволенага сабой і, пэўна, не галоднага ўжо чалавека. Нечакана блізка і хрыплавата адгукаецца вартавы:

— Што там? Зноў ячная?— Не, зацірка з садам.

— Ну, усё лепей. А то гэта ячная ўжо ў бруха не лезе.

— Палезе. Нуг як твой бандыт? — раптам пытаецца новы вартавы.

— Ціхі, як мыша. Спіць усё.

— Ціхі, кажаш?

Галасы незнаёмыя,— мусіць, хтось з новых. Сцёпка адчувае, што ідуць сюды, і, сеўшы, робіць незалежны выгляд, насупліваецца, ледзьве адольваючы невыразную, шчымлівую трывогу.

Над краем ямы з'яўляюцца дзве галавы.— адна ў шапцы, другая ў нямецкай пілотцы, а пасля і боты — трафейныя, падбітыя шыпамі,— гэта ў таго, што змяняе. Той, што адстаяў, месціцца далей, і Сцёпка бачыць яго да пояса.

— Прывет! — з пераіграной добразычлівасцю кідае новы вартавы, цікаўна абмацваючы яго нязлымі вачмі. Сцёпка паволі апускае голаў — яму не да жартаў і бязглуздых размоў. Вартавы, мусіць, разумее гэта і зганяе з твару усмешку.

— Нічога. Камісар, разбярэцца. Ты з чые роты?

— А табе што? — ціха кажа Сцёпка і ўзнімае дакорлівы позірк.

— Ды так.

— Што ты яго дапытваеш? — нецярпліва пераступае другі.— З чыёй бы ні быў, цяпер яго дзела труба. Расстрэл будзе.

— Ну, чаму ўжо і расстрэл? А калі змякчаючыя абстаяцельствы? Пашлюць на жалезку, іскупіць віну і будзе бегаць,— з бадзёрай упэўненасцю гамоніць вартавы.

Сцёпка прыслухоўваецца і ўзіраецца ў гэтага чалавека: ён не стары яшчэ, каржакаваты і — па гаворцы чуваць — не тутэйшы. Мабыць, з акружэнцаў ці з былога раённага начальства. Хлопец ужо гатоў павесялець, як у голасе вартавога адзначае ноткі няшчырасці, хутчэй — бяздумнае абыякавасці, і зноў тупіць свой позірк.

— Прыедзе камісар — ён яму пакажа «змякчаючыя».

— Нічога. Галоўнае — не дрэйф. Калі што — моў, пад мухай быў. А пад мухай — яно ўсё магчыма.

Яны паварочваюцца і знікаюць. Раздражненае напружанне ў Сцёпку патроху слабее — трываць гэтую гаману яму ўжо рабілася не пад сілу. Што б там ні чакала яго, абы толькі скарэй. Хлопцу ўжо здаецца, што ён сядзіць тут доўга-доўга, і ягоныя ўстрывожаныя пачуцці то прыглушваюцца ўспамінамі, то абуджаюцца да нясцерпнасці. Мусіць, лепш, калі ён адзін і ніхто не дакучае ні пагрозамі, ні непатрэбным цяпер суцяшэннем. Сцяўшыся ад золкасці, ён прытыкаецца плячом да вогкае земляной сцяны, адну да другой горне

азяблыя ступні — нагам так робіцца нібы цяплей.

Непадалёк у алешніку сякуць дровы — мабыць, на кухню, чуюцца непаспешлівыя ўдары, кароткі хруст дрэва, шорхат галля; часам тонка адзвоньвае сякера. Так і ён сек два дні назад і, мабыць, сек бы і цяпер, і заўтра, і жыў бы, хоць і не дужа весела, але ўжо напэўна без гэтых непрыемнасцей, якія горш за рану, а можа і за самую смерць, калі ў баі. І трэба ж было яму паперціся на тое заданне... Ён і дагэтуль не разумее, ці сапраўды Маслакоў яго шукаў, каб узяць у групу, ці можа выпадкам напаткаў у лесе і паклікаў.

Зрэшты, на Маслакова ён крыўды не мае — той усё рабіў з найлепшым намерам. Ці яго віна, што многае абярнулася такім чынам...

**2**

Тады ён, ссекшы некалькі альховых дравін, вяртаўся на кухню.

Нятоўстыя тыя дравіны аказаліся на дзіва цяжкія. Сцёпка іх спярша нёс, пасля валок за набрынялыя вясновым сокам камлі. Вяршаліны і няроўна абсечанае суччо дралі прэлую залеж леташняга лісця, чапляліся за хмызняк і ядловец. Камлі ж дык адрывалі рукі. А тут яшчэ вінтоўка на даўгаватай вераўчанай почапцы — яна біла прыкладам між ног, замінала ісці, і хлопец, добра прытаміўшыся, кінуў дравіны, трохі не давалокшы да кухні. Потым, памарудзіўшы, і сам стомлена апусціўся на дол у рэдкім яшчэ, з дробнымі лісткамі, альшэўнічку збоч сцежкі. Было цеплавата і зацішна, ён угрэўся, пад суконным мундзірам ажно прыпацеў карак. Сцёпка расшпіліў каўнер, кінуў на дол пляскатую рудавухую шапку, ад мокрай падшэўкі якой ішла пара. Некалькі хвілін хлопец, сапучы, аддыхваўся і думаў, што шапка — не бяда, як ні дзіўна, разам з яго галавой дажыла да цяпла і яшчэ, мабыць, паслужыць. Таксама як і руды, гузікасты, з чатырма кішанямі венгерскі мундзір, і чорныя, прашытыя кантам, паліцэйскія штаны. А вось з ботамі яму не пашэнціла.

развальваліся. Левы ён ужо з тыдзень насіў звязаны кавалкам чырвонага нямецкага кабелю, а правы не было як і звязаць: перад амаль увесь згніў. У ботах было мокра, ногі заўсёды стылі. Мусіць, з тае прычыны хлопца стала дапякаць скуллё — па баках, на сцёгнах, а цяпер вось яшчэ і на шыі — абляпіла так, што не павярнуць галавы.

Зрэшты, з ботамі ён быў вінаваты сам: мог сцягнуць з немца, якіх тады багата валялася на дарозе пасля ўдалай засады, звычайныя салдацкія, а не квапіцца на афіцэрскія. Афіцэр гэты падвярнуўся яму ў канаве, куды Сцяпан папярэдне шпурнуў гранату; і тут жа, не трацячы часу, хлопец зняў з яго дзягу, да якой была прычэплена цвёрдая скураная кабура парабелума і гэтыя вось боты. Парабелумам, аднак, ён пакарыстаўся нядоўга — мусіў уступіць новаму начальніку штаба, які меў нейкі старасвецкі даўгаствольны наган. Дзягу аддаў узводнаму Бойчанку, бо ў Сцёпкі і старая была някепская. А вось на хромавыя боты, занадта шыкоўныя для ляснога жыцця, ахвотнікаў памяняць не знайшлося — мусіў насіць. Пакуль не данасіўся да рэшты.

Наогул, у гэтым атрадзе Сцёпку не шэнціла ўсю зіму. Пачалося з таго, што яго зблыталі з адным сувязным, таксама па прозвішчы Таўкач, які недзе выдаў атрадных разведчыкаў і за якім палявалі партызаны. Пакуль разабраліся, мусіў з тыдзень пасядзець у замкнёнай зямлянцы. Потым яго выпусцілі, але на першым жа заданні ў Астапаўшчыне здарылася бяда. Невялічкая група іх заначавала тады ў пуньцы, Сцёпка звечара стаяў на варце і толькі, змяніўшыся, прыдрамаў у сене, як на вёску наляцелі паліцаі. Хлопцы гародамі ўцяклі ў лес, а яго пабудзіць, мусіць, забыліся. Давялося да паўдня, не варухнуўшыся, пастаяць ля шула за варотамі крокаў за дзесяць ад п'яных бобікаў, якія атабарыліся ў гумне. Калі ж назаўтра ён прыйшоў у атрад, усе вельмі здзівіліся яго неверагоднаму выратаванню. Вядома, нейкі час Сцёпку падазравалі, выклікалі да начальства, слухалі яго кароткі расказ, верылі і не верылі. Пасля,

калі гэтае падазрэнне крыху ўляглося, яму не стала адбою ад Трушэцкага, надта вострага на язык партызана з Полацка, які не мінаў ніводнага выпадку, каб паздзекавацца з хлопца. Неяк, не стрываўшы кпінаў, Сцёпка выцяў зласліўца вінтоўкай па галаве, за што тут жа быў надзелены мянушкай Псіх — самаю крыўднаю з усіх, якія ён меў за сваё васемнаццацігадовае жыццё.

У ранейшым атрадзе — імя Варашылава — жылося яму куды лепей, там ён быў ледзь не самы стары партызан, са стажам, не дужа меншым чым у самога камандзіра атрада лейтэнанта Круцікава. Праўда, там яго таксама дражнілі, ды ўсё ж мянушкі былі больш людскія: Белы — гэта за валасы ды бровы, а яшчэ Здыхля — маўляў, што худы, хоць худых і без яго ў атрадзе было нямала. Але там ён адчуваў сябе не горшым за іншых, раўнапраўным байцом, не тое што тут, у гэтых чапаеўцаў. На жаль, тагачаснае жытло яго беззваротна мінулася, пакінуўшы адны ўспаміны.

Сцёпка крыху адпачыў, але не спяшаўся ўпрагацца ў нялёгкую пастылую працу і задуменна калупаў трэскай у боце. Самае найгоршае было, вядома, не ў змене атрадаў і нават не ў адносінах да яго партызан. Хлопцы, зразумела, часам нахабнічалі над ім, маладым і слабасільным, але рабілі гэта без асаблівае злосці, хутчэй дзеля пацехі. А

вось начальства,— тое жартаў не знала. З начальствам партызан Таўкач быў у даўнім застарэлым канфлікце, прычыны якога з розных бакоў вызначаліся неаднолькава.

Сцёпка лічыў, што да яго прыдзіраліся, а начальнікі прытрымліваліся тае думкі, што Таўкач разгільдзяй, на якога патрэбна строгасць. Прынамсі, так гаварыў узводны Бойчанка, калі скардзіўся на яго камандзіру атрада за самаўпраўства з высялкоўскім старастам. За разгільдзяйства лаяў яго начальнік штаба, калі ён, пераведзены ўжо ў гаспадарчы ўзвод, упусціў прадуктовую карову. Атрад тады выходзіў з блакады, гаспадарнікі з вазамі і параненымі прабіраліся па

нейкіх раўках ды балацявінах, ля шашы іх усё ж падпільнавалі карнікі, усчаўся абстрэл трасіруючымі, і чорная порсткая рагуля — жывы прадуктовы запас — так ірванулася з рук, што толькі ён яе бачыў у прыцемках. Калі перайшлі шашу, мусіў з абарваным павадком з'явіцца перад разлютаваным начальнікам штаба. Думаў, гэта для яго кепска скончыцца. Але навакол было поўна карнікаў, і партызаны таіліся, баючыся хруснуць галінкай.

— Тоўкач!

Сцёпка ўздрыгнуў і азірнуўся: адхінаючы рукой голле, праз кустоўе ішоў Маслакоў — падрыўнік, колішні кадравы чырвонаармеец, з якім аднойчы зімой Сцяпан хадзіў на чыгунку. Апошнім часам Маслакоў залечваў у санчасці параненую руку і калі-нікалі наведваўся да іх у гаспадарчы ўзвод.

Трохі здзіўлена пазіраючы на падрыўніка, Сцяпан маўчаў, не цямячы, навошта спатрэбіўся. Рука ў Маслакова была ўжо без почапкі, аднак, ідучы, ён кратаў ёю засцярожліва, на далоні ўсё яшчэ бялеў замызганы бінт павязкі. Падрыўнік падышоў бліжэй — тонкае голле алешніку пругка прашоргала па яго расшпіленай зялёнай ватоўцы.

— Ну, як жысць, Тоўкач?

Сцёпка памаўчаў, не ведаючы, як аднесціся да гэтага пытання: каму не вядома, якое жыццё ў гаспадарчым узводзе, ля кухні. Было падобна, што Маслакоў жартуе, але ў тоне і выглядзе яго, здаецца, не было ні здзеку, ні нават іроніі; як заўжды, добрая, ледзьве прытоеная жартоўнасць бруіла на яго смуглым твары. І Сцяпан сказаў абыякава:

— Ды во — дровы запашу.

Нагою ў спраўным яшчэ, намазаным лоем кірзавым боце Маслакоў наступіў на крывы камель дравіны, вяршаліна якой, бы жывая, коратка варухнулася ў доле.

— Ну і алешына! І ты адзін цягаеш?

— А хто ж яшчэ?

— Не жыццё, а катарга! — спачувальна заключыў Маслакоў і павярнуўся да хлопца.— Слухай, а ў мяне да цябе справа.

Сцяпан з нецярплівай цікаўнасцю знізу ўгору зірнуў на Маслакова. Калі той яшчэ толькі аклікнуў хлопца, Сцёпка адчуў, што гэта не так сабе — што ён нясе навіну і што навіна гэтая неблагая. Таму ён цяпер на ўсе вочы глядзеў на падрыўніка, а той нейкі час нібыта вагаўся ў нерашучасці: на твары яго ўсё блукала стрыманая ўсмешка.

— Сходзім на адно дзела. З музыкай.

Невядома чаму, але Сцёпка ўжо адчуваў, што будзе іменна такая прапанова. Гэта было куды як зманліва — схадзіць з Маслаковым на баявое заданне, ды яшчэ «з музыкай». А то ён апошні час калі і вырываўся куды, дык то па бульбу на які-небудзь хутар, то па сена ў лугі, а аднойчы вазіў трафейны брызент у суседні атрад. На заданні яго не пасылалі.

Але Сцёпка ўспомніў сваё становішча ў гаспадарчым узводзе і тут жа апанурыўся.

— Кляпец хіба пусціць!..

— А куды дзенецца?

— Ты гаварыў з ім?

— Камандзір пагаворыць. Выкліча, загадае, і ўвесь разгавор,— без ценю сумнення сказаў Маслакоў.

Сцёпка, аднак, паныла махнуў рукой.

— Ну, камандзір не заступіцца...

Маслакоў нецярпліва пераступіў на месцы, таўхапуў на плячы новенькі, з паліраваным прыкладам ППШ.

— Ладна. Гэта маё дзела. Ты кажы: згодны?

— Ну.

— Дык патопалі. Часу мала.

Яшчэ не верачы, Сцёпка валюхаста ўстаў на ногі, падабраў з долу вінтоўку, глыбей за дзягу зашчаміў сякеру. Маслакоў аднаруч ухапіў дзве дравіны і імкліва пашыбаваў у хмызняк — напрасткі да недалёкае ўжо кухні. Сцёпка заспяшаўся следам. Насуперак сваім невясёлым апасенням, ён памалу стаў паддавацца бадзёрай упэўненасці падрыўніка і амаль ужо верыў, што лес нечакана павярнуўся да яго лепшым бокам. Але яшчэ не знікла і сумненне. Сцёпка надта добра ўяўляў сабе, як сустрэне гэтую навіну Кляпец, якому вечна не хапае людзей на кухні, ды і тыя ў яго заўжды гультаі і разгільдзяі. Аднак Маслакоў, мабыць, тым нікольку не клапаціўся. Азірнуўшыся, падрыўнік сказаў:

— Помніш, як мы пад Фарынавам грукнулі?

— Ну.

— Вось я і думаю: чаго гэта Тоўкача на кухні капцяць? Такога падрыўніка, з вопытам.

Ён паглядзеў на хлопца з такой шчырай сяброўскасцю, што Сцёпка ажно адчуў сябе шчаслівым. Праўда, хлопец зразумеў, што Маслакоў жартуе: які там у яго вопыт?

Вопыт, канечне, быў невялікі, апошнім часам на чыгунку ён не хадзіў. Але тады, пад Фарынавам, яны сапраўды грукнулі ўдала. Месца трапілася зручнае: насып, паварот, і да таго ж спуск, а наперадзе падмёрзлае балота. Машыніст, мабыць, не прадчуваў небяспекі, добра паддаў пары, і як грукнула — амаль увесь састаў зляцеў з насыпу. Помніцца, тады з імі хадзілі Балашэвіч і Струк. Першага ўжо няма, другі застаўся, паранены, у Казельскай пушчы.

З адною дравіной хлопцу было ўпраўней; яны вылезлі з хмызняку ў рэдкалессе, і Сцёпка падбег трохі наперад,

каб ісці поруч.

— А хто яшчэ пойдзе?

— Яшчэ? Яшчэ Даніла Шпак з узвода Мяцёлкіна. Пажылы такі. Мясцовы. І Брытвін. Ведаеш?

— Той, што ротным быў?

— Ну. Пойдзе іскупаць правінку. Як іскупіць, тады казалі, зноў камандзірам паставяць.

Што ж, гэта было няблага: Маслакоў, Брытвін — куды якія ўмелыя партызаны, Даніла Шпак — мясцовы, наскрозь ведае ўсе хады-выхады. Сцёпка памалу ўжо асвойваўся з сваёй радасцю; пра заданне ён не пытаўся: ведаў, прыйдзе час — усё растлумачаць, рабі як найлепш.

Яны падвалаклі дравіны да кухні ў ельніку, ад якой прытульна патыхала дымком, і спыніліся каля пня, дзе быў дрывасек. Тут ужо ляжала некалькі палак, прыцягнутых Сцёпкам раней, аднак ён адразу вызначыў, што на абед дроў было малавата. Тым не менш гэты клопат, які нядаўна яшчэ дапякаў яму, цяпер зрабіўся такі апрыклы, што не хацелася пра гэта думаць. Яны размашыста пакідалі свае дравіны на ранейшыя, і Маслакоў падштурхнуў па плячы аўтамат.

— Дык збірайся. Праз гадзіну патопаем.

## 3

Праз гадзіну, аднак, не патопалі: здарылася няўпраўка са ўзрыўчаткай. Пакуль Маслакоў бегаў па начальству, яны ўтрох чакалі пад елкай акрай лясное прагаліны, у тым месцы, дзе пачыналася дарога. Былы камандзір партызанскае роты Брытвін, толькі прыйшоўшы сюды, адразу паваліўся жыватом на іглісты пад елкаю дол і ляжаў так, з маўклівай засяроджанасцю ўткнуўшы ў рукавы моцны паголены падбародак. З іх трох ён адзін, у шынялі і суконнай пілотцы, меў хоць прыблізна вайсковы выгляд; Сцёпка ж у сваім зборным убранні

быў падобны хутчэй на паліцая. Што ж да трэцяга тут, стараватага селяніна Шпака Данілы, дык у таго наогул не было нічога вайсковага. Маўклівы, з зарослым чорнымі касмылямі тварам, у рыжым, злубянелым ад вільгаці кажуху і лапцях, ён сядзеў, прыхінуўшыся да смалістага камля елкі, і нешта старанна, з ненасытнаю асалодаю жаваў. Побач ляжаў яго кароценькі абрэз з нефарбаванай самадзельнаю ложай. Сцёпка не адразу і зразумеў, што Даніла еў боб, які даставаў з зашмальцаванай процігазнай сумкі патрошку, па пары каліваў, нібы яны былі ў яго ўжо апошнія. Тым не менш і праз паўгадзіны ён усё жаваў, кожны раз унікаючы Сцёпкавага позірку, калі той паварочваўся да яго. Хлопец наскрозь разумеў гэтыя прастадушныя дзядзькавы хітрыкі, але маўчаў, бо даўно меў за правіла нічога не прасіць у тых, хто не хацеў даць.

Ён быў у прыўзнятым, амаль радасным настроі, бо выхад на заданне ўвогуле абышоўся ўдала. Кляпца не спатрэбілася і выклікаць да камандзіра, проста Маслакоў

перадаў яму загад начштаба, і гаспадарнік, пабурчаўшы, змоўк, што значыла — пагадзіўся. Сцёпка не чакаў абеду, атрымаў свой кус хлеба, які тут жа з'еў, і цяпер быў ва ўладзе адвыклага ўжо хвалюючага нецярпення, калі хацелася толькі аднаго: як найхутчэй рушыць у дарогу. Закінуўшы за спіну вінтоўку, ён выламаў дубчык і пасцёбваў ім у доле, паглядаючы ў бок буданоў, адкуль павінен быў паявіцца Маслакоў.

— Можа ля Азярышча пойдзем? Не ведаеце?

Яму ніхто не адказаў. Даніла быў заняты бобам, а Брытвін толькі павёў на хлопца, косым абыякавым позіркам.

— Ля Азярышча б прайсці лягчэй. Там паліцыя свая.

— А ты скуль ведаеш? — суха запытаў Брытвін.

— Я? Гэткі сакрэт! Усе ведаюць,— знарок бесклапотна адказаў Сцёпка, але насцярожыўся: тон гэтага пытання

быў яму дужа вядомы, і ён ужо зразумеў, што дарма так сказаў. Брытвін пасля паўзы важка зазначыў:

— Ты за ўсіх не атветчык. А сам трымай язык за зубамі. Калі што і ведаеш.

Паверх лесу Сцёпка паглядзеў у неба, завалочанае малочнай смугой, праз якую з раніцы не магло выбавіцца сонца, потым перавёў позірк уніз, на буданы за палянай: Маслакова ўсё не было. Другому б ён нешта адказаў у такім выпадку, але Брытвіну пярэчыць цяпер не стаў: як-ніяк, той старэйшы, і нягожа было заядацца з ім. Праўда, хадзілі чуткі, што месяц назад Брытвін здорава праштрафіўся на заданні, яго знялі з роты, хацелі нават судзіць, ды перавялі ў іхні атрад радавым. І тым не менш тон і ўвесь яго выгляд сведчылі, што радавым ён сябе не лічыў. Прынамсі, тут, у гэтай групе, паводзіў сябе як старшы, хоць і з маленькай, але ўсё ж з перавагай над імі двума. Праўда, гэтае яго старшынство не дужа турбавала Сцёпку, які адзіным камандзірам црызнаваў тут Маслакова.

Паляскаўшы дубцом, Сцёпка зняў з-за спіны вінтоўку і таксама прысеў на дол, трохі воддаль ад іх двух. Вінтоўка ў хлопца была старая, з гранёным казённікам, выпушчаная, мяркуючы па кляйме, яшчэ да мадэрнізацыі 1930 года. Увогуле, страляла яна няблага, затвор таксама працаваў нармальна, і Сцяпан быў бы ёю задаволены, калі б не мушка. Мушка раскярнілася ў сваім гняздзе і соўгалася туды-сюды. Перш чым стрэліць, трэба было пасунуць яе на месца, да рыскі, а пасля ўжо цэліцца.

Сцёпка ўзяў з долу сучок, пазногцямі адшчыкнуў ад яго трэску і стаў ціхенька запіхваць яе ў шчылінку пад мушкай. Трэска, аднак, не лезла, ламалася. Ягоны занятак звярнуў на сябе ўвагу Данілы, а потым і Брытвіна, які нездаволена варухнуў брывамі.

— Што ты робіш?

— Ды во — мушка.

Былы ротны павярнуўся на бок і з патрабавальнай упэўненасцю працяг руку. '

— Ану!

Сцёпка яшчэ раз калупнуў трэскай, але зноў няўдала і падаў вінтоўку Брытвіну.

Той сеў, расставіўшы калені, звыкла паляскаў затворам.

— Ну і ламачына! Гразная, канечне, іржавая. У цябе хто камандзір? Мелік'янц, ага?

Сцёпка прамаўчаў. Гаварыць з Брытвіным у яго ўраз прапала жаданне — хлопец ведаў, што той скажа далей.

— Ладна. Давайце вінтоўку.

— Не, пачакай! — ухінуўшыся ад яго рукі, Брытвін шчоўкнуў курком, пакратаў прыцэльную рамку. Потым зірнуў на мушку.— А яшчэ казалі: Мелік'янц — строгі камандзір!

Сцёпка ўсё маўчаў, але пад елкай падазрона заёрзаў Даніла.

— Ды ён не Мелік'янца. Ён з кухні.

— Як з кухні?

Брытвін апусціў вінтоўку і ўтаропіў у Данілу недаўменны, амаль абураны позірк. Сцёпка за рулю выхапіў у яго вінтоўку, падумаўшы пра Данілу: «Каб ты прапаў! Цягнуў яго хто за язык!» Хлопец адчуў у сабе пакутную няёмкасць ад гэтае недарэчнай падказкі, але паправіць нічога ўжо нельга было, і ён агрызнуўся:

— А што на кухні — не людзі?

Пасля ўстаў і закінуў сваю ламачыну за плячо, гатовы ісці, толькі ісці яшчэ не выпадала — хочаш ці не, а трэба было чакаць з гэтымі побач. Тым часам Даніла з лёгкай пагардай на валасатым твары, а Брытвін з трывожлівай насцярожлівасцю пазіралі на яго.

— Дык хто цябе назначыў у групу? — запытаў Брытвін, ссунуўшы да пераносся густыя чорныя бровы.

— А вам якое дзела? — Так, усё было дужа знаёмае: Сцёпка зноў адчуў сябе ў становішчы горшага за іншых, і гэта міжвольна выклікала ў ім інстынктыўны парыў абараняцца.— Каму трэба было, той і прызначыў.

Брытвін, аднак, пільнаваўся стрыманасці, неўзабаве прыцяў здзіўленне і зірнуў на Данілу. Той без асаблівай увагі да іх варушыў рукой у сваёй сумцы.

— Дажыліся, няма чаго сказаць! — прабурчаў Брытвін і зноў адхінуўся на локаць. Сцёпка, патаптаўшыся трохі, сеў воддаль ад іх, ля сцежкі. Першая прасветліна ў ягоным настроі хутка завалоквалася прыкрасцю, ён ужо лаяў сябе, што даў Брытвіну ў рукі вінтоўку,— хай бы трымаў сваю. А то прыдбаў недзе дзесяцізарадку, дык столькі ўжо фанабэрыі. Калі спатрэбіцца, яшчэ невядома, чыя лепш возьме — гэтая СВТ ці яго, узору 1891 года. Сцяпан мог бы ўсё гэта ім растлумачыць, таксама як і тое, што на кухні ён апынуўся выпадкова, што ён не менш за іх пахадзіў у свой час на заданні. Але нейкая нядобрая ўпартасць у адносінах да іх, асабліва да Брытвіна, ужо брала сваё, і ён нічога не мог зрабіць з ёю. Яна яму не падпарадкоўвалася, ён ведаў гэта і не імкнуўся перасіліць яе.

Пакрыўджана прыціхшы, Сцёпка і не згледзеў, як ад буданоў паказаўся Маслакоў. Хлопец пачуў толькі, як пад хваінай, устаючы, зашорхаў кажухом Даніла, падняўся і зручней сеў Брытвін. У Сцёпкі ж ад скулля ламіла ў шыі, і, каб азірнуцца, ён мусіў

павярнуцца ўсім целам. Цераз прагаліну наўпрасткі ішоў іх камандзір. Адною рукой ён нёс штосьці цяжкое — здаецца, нямецкую каністру, у якой звычайна трымалі бензін. Падышоўшы бліжэй, паставіў каністру і ссунуў з потнага лба армейскую шапку.

— Што гэта? — запытаў Брытвін.

— Дымок, дымок рабіць будзем,— жартоўна загаманіў

камандзір групы.— Думаў, грукнем — нічога не выйшла. Будзем дыміць.

Яны ўсе пахмурна глядзелі на каністру: Даніла і Сцяпан — пастаўшы ля яе, а Брытвін — маўкліва седзячы на сваім месцы. Вядома, усе з прыкрасцю разумелі, што выходзіла горш, чым меркавалася: бензін — не тол; як бы там ні выпадала, паліць заўжды горш, чым узрываць.

— Дык мы што? Хіба не на чыгунку? — стрымана запытаў Брытвін, пазіраючы некуды ў дол, на камандзіравы боты. Маслакоў з жартоўнаю жвавасцю ў вачах агледзеў сваіх падначаленых.

— Не, не на чыгунку. У другі бок. На Кругляны.

— На Кругляны. А хто табе групу камплектаваў?

— А што — кепская група? Сам падбіраў.

Брытвін устаў і падышоў бліжэй. Потым з нейкаю замаруджанай важнасцю павярнуўся да Сцёпкі.

— А таго таксама сам выбраў?

— Каго? Тоўкача? А што, кепскі падрыўнік? Брытвін спадылба выпрабавальна і настойліва глядзеў на камандзіра.

— Дзе ж гэта ён падрываў? На кухні?

— Якое вам дзела? — не стрываўшы, агрызнуўся Сцяпан.— Падумаеш, начальнік знайшоўся.

— Ціха!

Маслакоў, мабыць, толькі цяпер зразумеў нешта. З ягонага твару сышла усмешка, без якое рысы яго зрабіліся рэзкія, амаль жорсткія.

— Каго браў — мая справа,— сказаў ён.— Хто заслужваў.

— Заслужваў! Ты паглядзі, якая ў яго вінтоўка,— кіўнуў галавой Брытвін.

Маслакоў павярнуўся да Сцёпкі.

— А ну, дай сюды.

Сцяпан падаў вінтоўку, Маслакоў адкрыў і закрыў затвор, спусціў курок. Строга зірнуў на хлопца.

— У чым справа?

— Ды мушка трохі ківаецца,— знарок, як аб дробязі, скорагаворкай адказаў Сцёпка і прыкусіў губу. Пакуль Маслакоў аглядаў і абмацваў мушку, хлопец усё болей панурыўся і з нянавісцю думаў пра Брытвіна. Ці ён быў вінаваты, што Кляпец уручыў яму гэту ламачыну? Ці яму самому не хацелася мець добрую зброю? З асаблівым шкадаваннем ён успомніў свой ладны трафейны аўтамацік, які ў яго забралі, калі пераводзілі ў гаспадарчы ўзвод.

Маслакоў узняў позірк на хлопца.

— Закярніць не мог, да?

— Дык не было чым.

— Цяпер некалі — на перакуры напомніш. Сам замацую. Астатняе ў парадку?

— У парадку,— паспешліва адказаў Сцёпка. Маслакоў яшчэ зірнуў на яго тонкую постаць, перацятую дзяжкай, даўжэй затрымаў позірк на завязаным дротам боце, але не сказаў нічога.

— Трымай!

Сцёпка на ляту ледзьве ўхапіў кінутую яму вінтоўку і з палёгкай уздыхнуў. Напружанне яго расслабілася, галоўнае абышлося — яго не прагналі; астатняе для хлопца ўжо не мела вялікага сэнсу.

— Так. Тады шагам марш! — сказаў Маслакоў да астатніх.— Каністру панясём па чарзе. Хто першы?

Першага, аднак, не знаходзілася, каністра стаяла ў

доле, над ёй, чакаючы ахвотніка, стаяў Маслакоў. Брытвін, па яго, мабыць, старой звычцы, адышоўся воддаль з такім выглядам, нібы яго тут нічога не датычыла. Даніла чамусьці глядзеў у лес — бы і не чуў, што сказаў камандзір. Тады Сцёпка з гняўлівай зацятасцю ступіў крок наперад і ўзяўся за гнутую металічную ручку каністры.

— Да-а,— няпэўна прамовіў Маслакоў і кораценька ўздыхнуў.— Ладна, пачынай, Тоўкач.

**4**

Пачынаць было не так ужо і цяжка — з гадзіну Сцёпка, мяняючы рукі, нёс каністру. Закінутая лесавая дарожка вілася спярша ў змрочным, замшэлым ельніку, пасля папаўзла нізінай, альховым хмызняком, расцяробамі. Цераз чорны, гразкі тарфянік хлопцы нядоўга абходзілі хлюпкае, з талай вадой балота, на якім у кустоўі нясмела яшчэ зелянелі кволыя зубчыкі вясновай травы.

Яшчэ ў пачатку Сцёпка знарок адстаў, каб не ісці поруч з Брытвіным, якога ён ужо амаль ненавідзеў. Хлопец разумеў, што былы ротны незадаволены ім, бо сумняваўся ў ягоных баявых якасцях, а можа і наогул лічыў няўдакам. У глыбіні душы Сцёпка не мог не адчуваць, што сапраўды ад радасці трохі пасяшаўся з выхадам. Мусіць, трэба было папрасіць у Спірыдзёнка аўтамат або хоць бы закярніць мушку, тады б можа і не было гэтае звягі. Цяпер, разважыўшы, ён не лічыў сябе зусім невінаватым, але і не мог пагадзіцца, каб яму «чытаў мараль» Брытвін, які тут, па сутнасці, такі ж радавы, як і яны ўсе. Калі ўжо на тое пайшло, дык Сцёпка яшчэ стрываў бы мараль ад Маслакова ці ад каго з атраднага начальства, але толькі не ад Брытвіна, якога ён не ведаў, а цяпер ужо і не паважаў зусім. Мала што ён колішні камандзір, але таварыш з яго няварты, гэта ўжо было ясна з самага пачатку. І гэта засмучала, бо ў той справе, на якую яны выпраўляліся, куды важней было мець проста надзейнага таварыша, чым нейкага там звяглівага камандзіра. Камандаваць, уласна кажучы, не было кім — трэ

было валачы каністру.

І ён валок яе, ледзьве не пераломваючыся напалам. Бензін нязвыкла смярдзеў, заглушаючы лесавую духмянасць, і з ціхім плёскатам мерна варушыўся ў пасудзіне. Спакваля, аднак, каністра ўсё цяжэла. Сцёпка стаў перабіраць яе ў руках амаль штомінуты, некалькі разоў спыняўся, мяняючыся рукамі, і ўрэшце адстаў. Наперадзе якраз трапіўся неглыбокі, зарослы ляшчыннікам равок, Маслакоў з астатнімі перайшоў па дарожцы на той бок, а Сцёпка спыніўся на ўзроўку і паставіў каністру. Напэўна, трэ было крыкнуць, каб падмянілі, але ён маўчаў: не хацеў пры Брытвіне ні аб чым прасіць — маглі б здагадацца самі. Студзячы ў паветры пякотную далонь, ён толькі глядзеў ім услед і думаў: азірнецца хто ці не? Тыя адзін за адным лезлі па схіле ўгору, і толькі выкараскаўшыся з рова, Маслакоў гукнуў яго. Сцёпка не азваўся, а з затоенай крыўдай сеў ля каністры. Яны за ровам таксама паселі — ніхто не ішоў сюды. Тады ён устаў і, узяўшы каністру, памалу сышоў у роў.

Ён думаў, што яны дачакаюцца яго і пойдуць, аднак яны не ўставалі. Акрай дарогі з заклапочаным выглядам сядзеў Брытвін, ля яго пераабуваўся Маслакоў. Даніла, засцярожліва хапаючыся за сучча, палез да ручая напіцца. Занятый размовай, яны не звярнулі на хлопца ніякай увагі.

— Раку над Круглянамі ведаеш? — казаў Маслакоў, пераабуваючыся.

— Ну.

— Дык вось там.

— Доўгі той? Драўляны?

— Ён самы.

— Наўрад ці што выйдзе,— падумаўшы, сказаў Брытвін, па сваёй звычцы пазіраючы ў дол.— Там ахова.

Сцёпка сцяміў, што размова датычыла іх задання, і

спадылба пільна пазіраў то на Брытвіна, то на камандзіра. Маслакоў, падчапіўшы наском, сцягнуў другі бот, двума дакладнымі рухамі загарнуў скарэлую анучу.

— Аховы няма. Учора прыйшоў Галёнкін з разведкі. На мосце пуста.

Насунуўшы бот, Маслакоў мякка прытупнуў ім па імшарыстым доле.

Сцёпка адразу ж здагадаўся пра сэнс іхняга задання, і яму стала зразумела, што спаліць мост, мусіць, будзе нялёгка. Калі нават і няма аховы. Там за логам — мястэчка з паліцыяй, адкуль гэты мост відзён як на далоні. Але цяпер сваім пярэчаннем хлопец не хацеў падтрымліваць Брытвіна і маўчаў.

— Удзень можа і няма. А ўночы? — сказаў Брытвін.

— А нашто ўночы? Мы ўдзень і падпалім.

— Пад носам у бобікаў?

— А што? Дрэва сухое — пыхне што порах! Толькі б бензіну болей,— бадзёра пацвердзіў Маслакоў і паглядзеўна Сцяпана.— Тоўкач, давай драгунку.

Хлопец падаў вінтоўку, камандзір дастаў фінку і чаранком пачаў ціхенька кляпаць над мушкай.

— Уся справа ў тым, як абмазгована. А абмазгаваў ты няважна. Хітрасці няма,—

незадаволена зазначыў Брытвін.

— Якой хітрасці?

— Такой, каб сказаў — і адразу паверылі, што ўдасца.

— Хітрасць, хітрасць! Тут наважыцца трэба. Чым раптоўней, тым лепш.

Ведама ж, так. Што разводзіць нейкія там хітрыкі, думаў Сцяпан. Слухаючы нетаропкую гаману-спрэчку,

ён пазбыўся першага міжвольнага сумнення наконт маслакоўскай задумы і ўзняў на Брытвіна крыўдлівы, амаль злы позірк.

— Не такія нішчылі. Аж трэскі ляцелі. І не палохаліся. Ён знарок сказаў так груба і задзірліва, каб зачапіць Брытвіна, над якім тым самым сцвярджаў нейкую сваю калі не перавагу, дык ва ўсякім разе не прызнаную ім годнасць. Праўда, гэта выглядала трохі самаўпэўнена, можа нават легкадумна, але ён ужо адчуў у сабе прыемны халадок помслівай рашучасці і ведаў, што не саступіць. Брытвін насупіўся.

— Хто гэта — нішчылі?

— А мы.

— Гляджу: разумныя вельмі,— з'едліва сказаў былы ротны. Было прыкметна, аднак, што ён асцярожнічаў, можа хітрыў, тым самым паслабляючы ў сабе звыклую камандзірскую самаўпэўненасць, якая нядаўна яшчэ трымала Сцёпку наводдалі. Адчуўшы гэта, хлопец ужо шыбаваў напралом, беручы на сябе яшчэ больш, абы толькі дапячы Брытвіну за нядаўнюю яго пагарду.

— Ды ўжо ж баяцца не будзем. За шкуру дрыжаць.

З рову, шорхаючы кажухом у голлі, змарана вылез Даніла і стаў ззаду, прыслухоўваючыся да размовы.

— Што ж, пабачым! — раптам рашуча аб'явіў Брытвін.

— Пабачыце.

— Ладна, годзе! — прыкрыкнуў Маслакоў. — Прыйдзем, агледзімся, вырашым на месцы. Трымай стрэльбу.

Не ўстаючы, ён шпурнуў у Сцяпанавы рукі вінтоўку, якую на гэты раз той са спрытным ляскам ухапіў за ложу.

— Абы дажджу не было.— Маслакоў паглядзеў на неба. Астатнія, апроч Брытвіна, таксама паднялі галовы. Бялявая смута там, здаецца, гусцела, небасхіл за

раўком нават падазрона засінеўся. Падобна — сапраўды збіралася на дождж.

— Нешта хмарыцца,— няпэўна сказаў Даніла.

— Відаць, што хмарыцца. Маслакоў энергічна ўстаў на ногі.

— Ну, патопалі! Даніла, бяры каністру. Тоўкач сваё аднёс.

**5**

Яны выходзілі з Грыневіцкага лесу, ельнік радзеў — мабыць, канчаўся, шырэй раздалося неба над галавой, побач ужо праглядваў узлесак. Раптам Маслакоў коратка кінуў: «Чакайце!» — і, крута збочыўшы са сцежкі, схаваўся ў суцэльным зялёным

гушчары хвойнага падлеску. Астатнія трое спыніліся з лёгкім недаўменнем на тварах. Даніла, адсопваючыся, адразу паставіў каністру і сеў, Брытвін засцярожліва глядзеў у гушчар. Сцёпка счакаў трохі, потым паклаў на траву вінтоўку і, стаўшы на калена, пачаў падкручваць завязку на боце, які ашчэрыўся так, што вылезла ануча. Але не паспеў хлопец развязаць драцяны вузел, як з гушчару данеслася:

— Сюды давай!

Не цямячы навошта, яны нездаволена падняліся і таксама палезлі ў ельнік, які густа пах маладою жывіцай і калюча чапляўся суччам за вопратку. Расхінаючы тугое калючае голле і ўгінаючы галаву, Сцёпка, аднак, неўзабаве вылез на вальнейшае месца. Тут быў край лесу. Над маладым ельнічкам на выспе ўзвышаліся дзве абымшэлыя таўшчэзныя яліны з разлапістым голлем, якое панура звісала з вышыні. Пад бліжняю з гэтых ялін нечага таптаўся, узіраючыся ў дол, Маслакоў.

— Давайце паправім хуценька.

У доле неглыбокай правалінай азначылася нясвежая, мусіць, леташняя, магілка. Нядбайна накапаная зямля асела, берагі абсыпаліся. Маслакоў пачаў ботамі гарнуць з бакоў да яе пясок. Даніла паставіў каністру,

— Што, знаёмы? — запытаў Брытвін.

— Двое нашых: Кудрашоў і Богуш. Увосень у Стараселлі на засаду наскочылі.

Сцёпка прыхінуў да елкі вінтоўку і без лішніх роспытаў падаўся да камандзіра. Каб зусім не застацца разутым, сунуць пясок ботамі яму не выпадала, і хлопец следам за Маслаковым пачаў далонямі разроўніваць зямлю па форме магілкі. Даніла з Брытвіным няпэўна глядзелі зводдаль.

— Ну, што? — падняў галаву камандзір.— Давай, Шпак, дзярна пашукай. Абкласці ж трэба.

Даніла моўчкі выцягнуў з ножнаў на дзязе нямецкі штык-цясак і стомленым крокам неахвотна паплёўся да ўзлеску. Брытвін сеў насупроць пад елкай.

«Падла! — шлёпаючы далонямі па воглай зямлі, думаў Сцёпка.— Баіцца рукі запэцкаць. Начальнік!»

Пакуль яны ўдвух завіхаліся над магілкай, Даніла ў пале кажуха прынёс тры скібы дзёрну, вываліў іх побач. Маслакоў паклаў дзярніны на край магілкі — іх было, вядома, замала. Тады з-пад елкі нецярпліва падняўся Брытвін.

— Дай штык! А то правалаводзішся тут…Даніла аддаў штых, і Брытвін рашучым крокам рушыў з выспы да ўзлеску. Трохі памарудзіўшы, Даніла пайшоў следам. Сцёпка падумаў, што і яму трэба ўключыцца ў гэтую працу, але перш чым выправіцца туды, ён сказаў Маслакову:

— Каб ведаў, не пайшоў бы. Камандзір выпрастаўся.

— А што?

— Ды гэты... Брытвін!

— Нічога,— сказаў Маслакоў, памаўчаўшы.— Не звяртай увагі. Звяглівы... Затое галавасты.

Усе па разу яны прынеслі дзесятак дзярнін, і Маслакоў якколечы аблажыў магілку.

Атрымалася зусім няблага — не горш, чым на могілках.

— Ну, во і паправілі. Харошыя ж хлопцы былі,— знорана ўздыхнуў Маслакоў.

Брытвін паморшчыўся:

— На ўсіх не напапраўляешся. Часу не хопіць.

— Колькі таго часу: паўгадзіны.

— Бывае, што і паўхвіліны важна. Асабліва на вайне,— разважліва сказаў Брытвін, выціраючы аб шынель далоні. Сцёпка незнарок зірнуў на яго рукі — не, яны былі даволі спрацаваныя: шырокія, з учэпістымі вузлаватымі пальцамі і тоўстымі кіпцямі. Ужо без нядаўняе пагарды хлопец падумаў, што, мабыць, ён перабольшыў, надта вызвяраючыся на гэтага чалавека. Але ўсё роўна прыкрасць на яго яшчэ не міналася.

Брытвін, між тым, паправіў на плячы сваю СВТ з аблезлаю ложай і, зрабіўшы крок, азірнуўся.

— На дыверсіях час — золата. Што-што, а гэта я ведаю. Дванаццаць паяздоў рота фуганула. Вунь ад Клепікаў да Замошша пад насыпам скрозь мая работа.

— Пад насыпам — гэта старо,— сказаў Маслакоў.—Што пад насып пускаць! У выемках трэба.

Брытвін, нібы перапыняючы яго, варухнуў далонню.

— Нічога. І так няблага.

Маслакоў з ім не спрачаўся, ён угрэўся і, зняўшы з ватоўкі дзягу, падперазаў ёю гімнасцёрку. Сцёпка спадылба пазіраў на Брытвіна і думаў: «Знайшоў чым

выхваляцца: яго работа! У тым атрадзе яшчэ зімою было загадана дыверсіі на чыгунцы наладжваць толькі ў выемках, бо спушчаныя пад адхон паязды затрымлівалі рух не болей як на паўдня».

— А наконт магілы,— сказаў Брытвін да Маслакова,— можна было б дзядзькам наказаць. Прывялі б у парадак як найлепш. І яшчэ далажылі б.

Яны падышлі да каністры, якую цяпер Даніла прыкметна не спяшаўся браць з долу, і Брытвін, мабыць, зразумеў, што настала яго чарга.

— Нязручна ж. Як вы яе неслі? — здзівіўся ён, прыўзнімаючы пасудзіну. Ён зноў паставіў яе, акінуў наваколле позіркам і, адышоўшыся, прынёс крываваты яловы сук, прадзеў праз ручкі каністры.— Ось так будзе лепш. А ну, бярыся, хлопец!

Гэта было сказана да Сцяпана, але той не крануўся нават: няма дурных, ён свае аднёс. Хай бярэцца Даніла.

— Ваша чарга. Ну і нясіце.

— От дзівак! — бяскрыўдна ўхмыльнуўся Брытвін.—Ты паспрабуй.

Але Сцёпка не хацеў і спрабаваць нават, і тады за канец палкі ўзяўся Маслакоў. Праўда, хутка стала відаць, што камандзіру несці надта нязручна: спаўзаў аўтамат з пляча; левай рукой Маслакоў упраўляўся засцярожліва — мусіць, яшчэ балела. Тады наперад выйшаў Даніла.

— Дайце!

— Што, у другую змену? Калі ласка,— усміхнуўся Маслакоў і аддаў палку.

Даніла і Брытвін хутка пайшлі па схіле пагорка ўніз, з імі поруч сігаў камандзір.

Але як толькі сунуліся з лесу, ледзь не наткнуліся на вёску: недалёка за гародамі шарэлі дахі з комінамі, хлеўчукі, на выгане пасвіліся гусі, і некалькі хлапчанят

капалася пад плотам. Крыху паўзіраўшыся праз рэдкі яшчэ хмызняк, Маслакоў крута павярнуў убок, у алешнік. Алешнікам яны ішлі доўга, пакуль не ўзбіліся на нейкую перакапаную кратамі сцяжыну, якая вывела іх да ручая на лужку. Ручай перайшлі па дзвюх хлюпасткіх жардзінах-кладках. Неўзабаве зноў трапілі на палявую дарожку, што вяла да густой сцяны пахмурага ельніку. Думалі адразу зашыцца ў яго, але дарога з вярсту кіравала па-над узлескам, акрай поля, якое заўзята зелянела густымі лапікламі вясновае руні. Вайна вайною, а сялянская душа без зямлі не магла: і сеялі, і аралі, і жалі. Што ж, жыць трэба было, каму хацелася прападаць, ды яшчэ з голаду. Маслакоў усё цікаваў па баках, часам азіраўся — Брытвін далёка не адставаў ад яго, жылісты, рукасты Даніла цягавіта тупаў у сваіх растаптаных, ды лёгкіх, аднак, на хадзе лапцях. Адзін толькі Сцяпан марудна валокся апошні: ён прытаміўся, на назе муляла ануча, у намочаных на балоце ботах надакучліва чвякала.

Урэшце дарога зноў павярнула ў лес, пад абвіслыя яловыя шаты, і ва ўсіх павальнела на душы: лес быў саюзнік, ахоўнік. Лес быў абаронца.

— Ну, болей вёсак не будзе,— уздыхнуў Маслакоў.— Загараны спалены. Каўшы хутарскія лесам абыдзем.

— Прохвішчы яшчэ,— глухім і нізкім, як з бочкі, голасам азваўся ззаду Даніла.

— Прохвішчы застануцца ў баку. За рэчкай.

— За рэчкай, ага. Пляменніца там замужам.

Гэта быў пэўны намёк, які таіў у сабе немалую спакусу. Калі ў каго ў вёсцы надараліся знаёмыя, ды яшчэ радня, гэта азначала шмат што, і не для аднаго толькі ляснога родзіча. Маслакоў, канечне, разумеў гэта не горш за іншых і, мабыць, таму хвіліну маўчаў, штосьці прыкідваючы.

— Пасля, як назад пойдзем. Не цяпер...

— Цяпер не. Дзе ўжо цяпер,— легка пагадзіўся Дапіла.

Сцёпка нечакана нават для сябе самога расчараваўся: зайсці ў вёску ён заўсёды быў рады, хоць і з рызыкай, з бояззю наткнуцца на бобікаў або немцаў — усё роўна пасля апрыклага ляснога жытла ўладарна цягнула да людзей, да звычайнага хатняга прытулку, якога не меў шмат год. Гэтая цяга жыла ў ім яшчэ з ранняга дзяцінства, калі пад час калектывізацыі ён страціў бацькоў, не прападала ў дзіцячым доме і ў школе ФЗН і асабліва асілілася за вайну, у яго беспрытульных партызанскіх бадзяннях па лесе.

Ступаючы на слізкія, абадраныя коламі яловыя карані, яны па адным абышлі вялізную, з застаялай вадой лужыну на дарозе, і Маслакоў азірнуўся. Было відаць, што скупыя Данілавы словы запалі і ў ягоную душу.

— Калі мо ўправімся, уночы заскочым. Так таму і быць, — сказаў камандзір групы.

Даніла прыспешыў крок, яны з Брытвіным дагналі Маслакова, і Даніла падхапіў размову, якая яго яўна цікавіла.

— Калі ўправімся, дык здатна было б. Вялікадня ж...

— Вялікадня, ага. А наогул — лепш не заходзіць,— сказаў Маслакоў.— Меней бяды будзе.

Брытвін чужавата маўчаў, а Даніла і гэта, хоць і без асаблівай ахвоты, пацвердзіў:

— Ну.

— Неяк зайшлі — ледзьве ногі вынеслі,— успомніў Маслакоў.— Прапанавалі, і я, дурань, паслухаўся.

— Ведама ж, як кажуць людзі: другіх слухай, а сваім розумам жыві,— прабубніў Даніла.

— Вось іменна. Закурыць няма?

— Ёсць троху.

— То давай задымім. Каб весялей жылося. Насільшчыкі ахвотна прыпыніліся, паставілі на зямлю каністру. Даніла адхінуў палу кажуха і пачаў поркацца ў кішэнях рудых суконных, дашчэнту злапленых штаноў. У Брытвіна тым часам знайшлася паперка — старонка са школьнага падручніка з чарцяжом раўнабедранага трохвугольніка. Стоячы ўбаку, Сцёпка абыякава пазіраў, як яны разадралі яе на шматкі, і Даніла адмераў кожнаму па шчэпцю самасаду. Сцёпка таксама .часам курыў, калі было што, але цяпер яму не прапаноўвалі, і ён не прасіў, бо ведаў, як даражылі курывам заўзятыя курцы накшталт гэтага вось Данілы.

— Прыкурым ад нямецкай запалачкі,— сказаў Маслакоў, засоўваючы руку за пазуху. Памацаўшы там, ён нязручна дастаў плоскую, бы пачак іголак, паперку з запалкамі, складзенымі ў радок накшталт зубоў у грабеньчыку. Камандзір ашчадна адламаў адну і крамсануў абцёрку. Даніла ажно спалохаўся.

— Ды я... У мяне ж крэсіва! — спахапіўся ён. Але запалка ўжо загарэлася, і ён першы мусіў прыпаліць з Маслаковых прыгаршчаў.— Сапсаваў, ну!

— Нічога,— супакоіў яго Маслакоў і палічыў: — Раз, два, тры, чатыры, пяць... На Круглянскі мост хопіць.

Яны з асалодай раскурылі цыгаркі і неяк весялей рушылі па парослай дробненькай мураўкай дарозе. Мабыць, вяртаючыся да ранейшае думкі, Маслакоў азірнуўся на астатніх.

— Пра камбрыга Прэабражэнскага чулі?

— Таго, з лук'янаўскай групы? — запытаў Брытвін, не вымаючы з рота цыгаркі.

— Ну.

— Чулі быццам. Я з ім увосень на засаду хадзіў.

— Якую восень! Яго ўлетку немцы расстралялі.

— А казалі — сам у палон здаўся,— ненастойліва

запярэчыў Брытвін.

Маслакоў ажно спыніўся.

— У палон! Языкі б тым папрыпякаць, хто так кажа.

— Не ведаю. Я ж у іх у атрадзе не быў.

Маслакоў кінуў беглы, але спрактыкавана-ўчэпісты позірк наперад, куды кіравала гэта пакручастая малаезджаная лесавая дарога, паўзіраўся па баках. У лесе скрозь было ціха, адно ў галлі паценьквалі нябачныя птахі, ды ўгары, на пасвяжэлым ветры,

ківаліся і шумелі яловыя вяршаліны. Унізе ж, у вузкім крывым калідоры між ельніку, было хораша і зацішна, камары яшчэ не з'явіліся. Час, мусіць, кіраваў пад вечар, сонца на небе не было відаць, над елкамі ціха плыла шэрая навісь аблокаў.

— Быў хто ў Шнурах? — запытаў камандзір.

Але наўрад ці хто быў там — Сцёпка першы раз чуў гэтую назву, ды і Брытвін, мусіць, таксама. Яны маўчалі, адзін толькі Даніла па сваім звычаі, штось успамінаючы, пакутна зацепаў вачмі.

— Гэта хіба тыя, што за Лясовічамі?

— Во-во, яны самыя,— пацвердзіў камандзір.— Ладная вёсачка, на пагорку, пры параснічку. Вось мы на яе і вылезлі. Людзі папаліся добрыя, залатыя людзі. Ну і заплацілі за іх дабрату...

**6**

— Розная дабрата бывае. Іншая горш, чым зло,— сказаў Брытвін, спакойна ідучы за Маслаковым. Цяжару каністры ён нібы і не адчуваў, трымаўся роўна, і Сцёпка падзівіўся з яго вынаходлівасці: здавалася, ноша цяпер нікольки і не важыла.

Маслакоў на рэпліку не адказаў — яго ўжо захапіла і

поўвіла вешта сваё.

— От было, хай яе чорт. На сто двое выскачыла, а камбрыга ўзялі. Узялі і павялі, а мы ляжалі, як ёлупы, у бульбе і не ведалі, што і думаць. На Палік тады ішлі. Ведаеце Палік? Возера за Лепелем, некаторыя з нашага атрада базіраваліся там. Двое сутак лазілі па балотах,вымаклі ў вадзе ды расе, сухое ніткі на целе не асталося. Зноў жа — і харч скончыўся. Трэ было запасціся болей, ды ў тых, што заставаліся, таксама не густа было з шамоўкай. Думалі, як-небудзь перахопім.

— А што, многа вас было? — запытаў Брытвін.

— У тым жа і справа, што мала. Трое ўсяго.

— Ну, для траіх — не праблема. У кожнай хаце...

— Ага, гэта здаецца так, у кожнай хаце... Сунуліся ў адну вёску — сабакі такі гвалт узнялі, што прыйшлося ў лес павярнуць. У другой паліцаі вяселле гуляюць, нейкага бобіка жэняць: панаехала, на вуліцах поўна падвод, п'янка — дым каромыслам. Думалі, патрываем, заставалася вёрст трыццаць, каб не зблудзілі. Заблудзіліся, аднак, у балотах, занервавалі, пасварыліся. А тут камарэча жарэ няшчадна, а наўкола то алешнік, то дрыгва, чараты, і сілы ўжо без жратвы пад канец падыходзяць.

Дык, значыць, было нас трое: я, камбрыг Прэабражэнскі і лейтэнант адзін, таксама з кадравых: ад самае граніцы ўсё камбрыга пільнаваўся — ну, быццам за ад'ютанта, хоць сам такі ж радавы ў атрадзе, як і камбрыг гэты. Не дзіва: камбрыг у сваёй танкавай брыгадзе камандзір, а прыбіўся да атрадзіка з пяццю ўцалелымі танкістамі — чужы чалавек. Атрадзік з мясцовых, хоць былі і чырвонаармейцы, акружэнцы, камандзірам Барсук. Во, той самы, што ў Цішкоўскі атрад перадалі ў рэйд. Да вайны быў старшынёй сельсавета. Не глядзі, што ў вайсковай справе ні гу-гу, затое ўсе вёскі яму знаёмыя, а ў вёсках процьма мужыкоў — свае. А што камбрыг без войска? Усёй цаны, што пісталет у кішэні ды граната на дзязе.

Праўда, Прэабражэнскі і не стаў фанабэрыцца, біць на амбіцыю, як некаторыя. Барсук прыняў, запытаўся, якую камбрыг пасаду хоча. А якая пасада ў атрадзе, дзе сорак чалавек? Два ўзводы, узводныя пастаўлены. Начштаба, камісар таксама ўжо ёсць. Прэабражэнскі і кажа: хоць радавым, абы немцаў біць. Так і пайшоў радавым у наша аддзяленне.

Я быў аддзялённы. Паніжэнне, вядома. Бо дзяйствіцельную служыў памкамузводам, старшы сержант быў...

— Вялікая шышка!—Брытвін задаволена азірнуўся на Данілу, шукаючы яго ўвагі.— Я паўгода радавым пабегаў.

— Ну, так, вядома, але не ў тым справа. У мяне такія ваякі сабраліся, што не сорам і аддзялённым пабыць: адзін сакратар райвыканкома, міліцыянер з Полацка, два лейтэнанты і гэты камбрыг, Прэабражэнскі. Спярша думаў — будзе артачыцца, не слухаць. Зноў жа — як мне, па ўзросту ўдвая маладзейшаму, камандаваць ім? Пасля аказалася: ён яшчэ і акадэмію ў Маскве скончыў. Ды нічога, утрэслася. Быў ціхі, маўклівы. Як усім, так і яму. Сам па чарзе і на варце стаяў, і буданы рабіў.

І ўсё ж не раўня нам, маладым,— у гэтым мы хутка пераканаліся. Чалавеку ўжо за пяцьдзесят, як ні пнецца-стараецца, а відаць: сілы не тыя. І задышка, і ногі цяжкаватыя. Пацее дужа. Праўда, ні разу нідзе не паскардзіўся, на хадзе з усяе сілы стараецца не адстаць. І ўсё ж адстае.

Тады яму нешта вельмі кепска было. Казаў (прагаварыўся пасля ўжо, як у лазні ляжалі) — радзікуліт даняў. І праўда — цягне гэтак нагу і моршчыцца ўсё. Твар суровы заўжды, грубы і неяк бы скошаны ў адзін бок — міна такая, як калі баліць што. Тады мы двое, маладзейшыя, і то без ног асталіся, а яму куды ўжо. Адставаць пачаў. Параснічак прайшлі, тры разы спыняліся, бо адстане — згубіцца і прападзе. Лейтэнант ужо ўзяў у яго сумку — болей не дае нічога. «Ніякай паблажкі, кажа. Не нада, кажа, балаваць цела.

Кажа, нада яго падчыніць волі. Як навабранца старшыне».

— Правільна. Такі закон арміі. А як жа? — уставіў Брытвін.

— Закон законам, а пад вечар ужо зусім кепска стала. Я і то ледзьве валакуся па пералесках. А тут яшчэ дождж заладзіў. У кустоўі макрэдзь. Пачало змяркацца, выбавіліся на ўзлесак, і тут — вёска. Цераз балацявінку за бульбоўнічкам — хаты, дым сцелецца над мокрымі гародамі,і так варанай бульбачкай пахне!..

— Знаёмая карцінка,— усміхнуўся Брытвін.

— Ну, прысланіўся я да бярозкі, маўчу. Прытопалі камбрыг з лейтэнантам. Лейтэнант быў дужы, спартыўны хлопец, кадравы камандзір, а ужо і ён спахмурнеў. Камбрыг жа датопаў і кажа: «Падажджыце, рабяты!»

Што ж там ждаць? Чалавек, вядома, знясілеў, падбіўся, наперадзе ноч, макрата — чаго дачакаешся? А вёска — вунь яна, і так зманліва дражніцца дымкамі, цяплом, утулкам. Кароўка, помню, зарыкала — мусіць, гаспадыня даіць пайшла. Гляджу на лейтэнанта, той на камбрыга, а камбрыг і кажа: «Пажалуй, рыскнём!»

Ну, вядома, перш трэба разведаць — а раптам немцы. Пайшоў лейтэнант, нядоўга пабыў. Бачу: ідзе бадзёра так і вядзе двух дзядзькоў. Адзін стараваты такі, аброслы

сівізной, але яшчэ ў сіле, такі дзедлесавік, другі — маладзейшы мужчына ў паддзёўцы. Павіталіся стрымана так, але добразычліва, сардэчна, павялі ўсіх у сяло. Кажуць, нікога няма, спрэе свае. Пачастуем, ды ў цяпле і пасушыцеся. Адчуваем: не зусім гэта добра, а ідзём — дужа ж абрыдла ўжо на пусты жывот па макрэдзі. Можа нічога і не здарыцца.

— Ось тут вы і праваронілі,— здагадаўся Брытвін і павярнуўся да Данілы.— Давай памяняемся, а то...

Яны паставілі каністру, Брытвін зайшоў з другога боку. Маслакоў цярпліва счакаў, пакуль яны мяняліся ля каністры.

— У тым-та і справа, што там нічога і не здарылася: людзі слаўныя аказаліся, дзед — бывалы салдат, усё пратую мікалаеўскую расказваў. Бабы — старая і дзве маладухі, сабралі на стол не горш, як у свята. Вядома, вёсачка глухаватая, немцы пакуль не чапалі, партызаны яшчэ не надакучылі, а галоўнае — адзін сын іх таксама ў арміі. Бацькоўскае сэрца, яно ў такіх выпадках дужа чулае. Знялі мы ўсё верхняе мокрае, бабы пачалі сушыць на печы і перад чалеснікамі. І пачаставаліся. За стол, праўда, з намі і яшчэ трое мужыкоў села. Дзед кажа: не бойцеся, усе людзі свае, акцівістыя. Ну, добра, мы не баімся. Слова за слова, размова пайшла пра вайну, пра немца. Камбрыг ім цэлую лекцыю прачытаў: Расію нікому неперамагчы, яна заўжды ўсіх біла — і шведаў, і французаў, зламае галаву і Гітлеру.

Дагэтуль не магу даўмецца, як яно тады атрымалася, што гаспадарам стала вядома, з кім яны маюць справу. Можа з нас двух хто прагаварыўся, а можа ён сам дзе ў размове памянуў. А магчыма, што і па голасе, паводзінах ці па якіх дробязях — рэмень, боты, пісталет; гімнасцёрка без ромбаў, праўда, а здагадаліся, што гэты чалавек — не радавы, а начальства, і вялікае. Праўда, тады мы не заўважылі нічога, наеліся, трохі падсохлі, а кімарнуць гадзінку дзед павёў па гародзе ў лазню каля бульбоўнічку. Цёмна, цесна, гарчыць ад прадымленых сцен, венічкам пахне. Заваліліся на палок — і спаць. Аховы не трэба, дзядзькі самі ўзяліся ахоўваць. У іх шчырасці мы ўжо не сумняваліся. Ранічкай дамовіліся рушыць.

Здалося, толькі задрамаў, як чую — бяда. У расчыненых дзвярах дзед: «Божухна, немцы!» У лазні цёмна, але акенца ўжо святлее — ранак. Падхапіліся мы — ды ў прылазнік, адтуль, сагнуўшыся, за рог будыніны. Ды чуем — дзед ззаду: «І там немцы!» Акружылі, значыцца. Куды падацца? Пападалі ў бульбоўнічку, ляжым. Бульбачка ўжо адцвіла, бульбоўнічак ладны, бухматы,

трохі хавае. Уткнуўся я ў камбрыгавы боты, спрасоння ні чарта не цямлю, чакаю...

— Халера, патухла. У цябе гарыць?

У Брытвіна гарэла, яны зноў спыніліся пад навіслымі над дарогай яловымі лапамі. Маслакоў прыкурыў, зацягнуўся і змоўк. Астатнія таксама маўчалі. З нейкага часу Брытвін перастаў устаўляць рэплікі: пафас расказу ўсё больш завастраў увагу.

— Вось так,— заклапочана, амаль журботна перажываючы ўспаміны, загаварыў далей Маслакоў.— Ранічкай цішыня, усе гукі наверсе; выглянуць нельга, а так чутно далёка. Не паспеў, мусіць, дзед ткнуцца на падворак, як там ужо немцы. Чуем: крыкі,

пагрозы, бабы ў плач. Мы слухаем: у чым справа — так проста наскочылі ці нас шукаюць? Няўжо хто прадаў? Вядома, якія б харошыя людзі ні былі, а падлюга між іх заўжды знойдзецца. Як пасля ўведалі, баба адна. Злая была за нешта на дзедавых жанчын, ну, і збегала праз ноч у мястэчка, прывяла фельджандараў — канты на пагонах кручаныя такія.

А тут, як на бяду, камбрыг паварочвае голаў і шэпча: гімнасцёрка ў хаце. Я ледзь не самлеў, але так і ёсць: камбрыг ахінуты палаткай, а гімнасцёрка ў хаце. Як вячэралі, цётка на печ паклала, каб да ранку падсохла. Падсушыла, на сваю галаву.

Ну, гімнасцёрку хутка знайшлі, і хоць у ёй нічога не было — камбрыг дакументы, вядома, пераклаў,— змікіцілі, мабыць, на каго натрапілі. Адкуль уведалі, чорт іх знае. Хіба знакі ад ромбаў засталіся. Ромбы тыя камбрыг даўно зняў, але калі прыгледзецца, дык месца пад імі бы намулянае трохі. Ну, і ўзяліся.

Перавярнулі ўсю хату, хлеўчукі, свіронак; а паўгадзіны мы слухалі, як яны там грукочуць, крычаць, нешта кідаюць, ламаюць. Двое зусім блізенька пратупалі да лазні, але там дзверы насцеж, пуста. Паспрабуй здагадайся, што мы за дваццаць крокаў у бульбе ляжым,

як вужы, у барознах. Думаюць: пэўна, у схове якім адмысловым. Шукаюць сховаў.

За гадзіны дзве ўсё перавярнулі — ні шыша. Дзед адпіраўся, аднекваўся, а як гімнасцёрку знайшлі — змоўк. Крычаць: «Кажы, куды бандытаў схаваў, інакш усіх црыканаем і хату дымам пусцім!» А дзед пакорліва гэтак адказвае: «Воля ваша. Вы — сіла».

Ля дарогі з лесу выглянула палянка — даўгаватая зялёная лугавіна з пачарнелым стажком наводдаль. Маслакоў прымоўк, спыніўся, бегла агледзеўся і, яны хуткім крокам прайшлі яе, аж пакуль не схаваліся ў дрэвах. Усе ўжо дакурылі, толькі камандзір сціскаў у пальцах акурак, які, відаць, даўно не гарэў.

— Зноў патух! Што такое?

— Кажуць — жонка гуляе,— сказаў Брытвін.

— Да жонкі дажыць трэба.

На хаду камандзір сунуў недакурак за вуха шапкі. Яны цяпер ішлі ўсе разам. Поруч з Брытвіным Маслакоў выглядаў маладзейшым, але быў вышэй за яго ды і шырэй у плячах, рухі яго былі лёгкія і стрымана-нетаропкія, як у кожнага дужага і ўпэўненага ў сабе чалавека.

— Вось, значыць, ляжым, я неяк адным вокам зірнуўпраз каліўе — выстраілі іх усіх перад хлеўчуком у шэраг: дзеда, старую, абедзвюх маладзіц і дзяцей — хлопчыка ідзвюх дзяўчынак. Бабы галосяць: яны-то не ведаюць, куды мы з лазні шаснулі, адзін дзед ведае. А дзед маўчыць. Тады паліцаі да баб: «Дзе бандыты?» Бабы праз плач: «А паночкі, даражэнькія, хіба мы ведаем? Былі і пайшлі, мы не глядзелі куды».— «Ах, не глядзелі?А схоў дзе?» — «Няма ніякага схову, хоць забіце — няма».— «Забіце! — кажа адзін. Паліцай, мусіць: чутно, па-тутэйшаму гаворыць. А можа перакладчык — з баразны не разабраць.— Не, мы спярша вашых шчанюкоў заб'ём». І тут — трах!

У мяне ўсё нутро пахаладзела — што ўдумалі, гады! Чую, і камбрыг варухнуўся,

напружыўся. А на падворку лямант, крык. Так і ёсць: у самую малую, самую крайнюю ў шэрагу. А праз крык — усё той жа голас: «Не скажаш — тады следуюшчага!» Пасля расказвалі падскочыў да хлапчука — і пісталет у лоб. А што яму — застрэліў бы і яго, і ўсіх. Хіба шкада, абы выслужыцца. Тым болей калі такая здабыча — камбрыг.

І што думаеце? Камбрыг падхопліваецца, развярнуў ботам баразну — на сцежку. А ляжаў ён трохі за лазняй; як уставаў — з падворка, мусіць, не відно было. І са сцежкі як крыкне: «Стой, варвары!» Мы сцяліся ў бульбе — ну, думаю, усё прапала. А ён гэтак рашуча проста на іх. Паліцаі — казалі пасля — ажно разбегліся з перапуду: хто за дровы, хто ў хлеў, а той крыкун з пісталетам хуценька на калена і пісталет на руку. Ну, у самы акурат як да вайны ў асаавіяхіме вучылі. А камбрыг: «Завошта дзіцёнка, ірады? Я камбрыг, бярыце!»

— Ну, і ўзялі,

Узялі ды зноў кінуліся да лазні — чалавек пяць. І туды, і сюды, але нідзе нікога. Камбрыг кажа: «Дарма стараецеся. Астатнія ўжо ў лесе!» Паверылі. Як не паверыць, калі чалавек на такое пайшоў. І што думаеце: усіх разагналі прыкладамі; дзеда, праўда, таксама забралі, але праз тыдзень выпусцілі. Дзяўчынку пахавалі. А камбрыг, казалі, ім такое ў лепельскім СД устроіў, што там жа і расстралялі. Нават і адпраўляць нікуды не сталі.

— Да,— сказаў Брытвін.— Сердабольны надта. А калі б яны і яго ўзялі і сям'ю не адпусцілі? Тады як?

— Знаеш,— падумаўшы, сказаў Маслакоў.— Тут дзела совесці. Аднаму хоць увесь свет у тартарары, абы самому выжыць. А другому — каб па совесці было. Мусіць, сваю віну чуў перад гэтымі людзьмі. Фактычна ж яго гімнасцёрку знайшлі на печы.

— Гімнасцёрку! Што гімнасцёрка,— нязгодна зазначыў Брытвін, відаць, маючы ў думках нешта сваё.

**7**

Рэшту дарогі, добра прытаміўшыся, ішлі ўскрай параснічку. Праз негусты хмызняк раз за разам праглядвала шырокая роўнядзь поплаву, са сцішанай радасцю зазелянелага першай вясновай травой. Там недзе, крывуляючы між дрыгвістых берагоў, цякла рэчка Круглянка. Яе, аднак, не было відаць, затое Кругляны паказаліся яшчэ здалёк, выцягшы доўгі рад шэрых дахаў на пагорку з дарогай. Каб трапіць да моста, трэба было зайсці з другога боку, і Маслакоў, параіўшыся з Данілам, крута ўзяў па расцяробе ўгору, у абход. Цяпер яны ўдвох ішлі наперадзе, каністру ж зноў неслі па адным — у хмыззі з палкай было не вывернуцца — паднёс крыху Брытвін, і апошняму яна зноў дасталася Сцёпку.

Даніла, які тут ведаў усе закуткі, неяк дзіўна круціў: то ішлі алешнікам, то, зрабіўшы дугу, улезлі ў роў, выбраліся на яго круты бок і зашыліся ў дробненькі, але густы беразняк, нібы апырсканы зелянінай першых лісточкаў. Потым хуценька перабеглі пыльны ўзараны дапік пашы і ўвайшлі ў поўны смалістага паху сасоннік.

Сцёпка з каністраю звоў адстаў, але з астатніх сіл прадзіраўся праз зараснікі, баючыся згубіць таварышаў.

Яны лезлі на пясчаную сухую выспу; рослы і густаваты з берага сасоннік трошкі вышэй здрабнеў і радкавата рассыпаўся па схіле ўперамешку з беразняком і ядлоўцам. У гэтш сасонніку на схіле Сцёпка і нагнаў траіх — паскідаўшы шапкі, разваліўшыся, яны сядзелі ў доле.

— Ну, данёс? — усмешыста жмурачыся, азваўся насустрач яму Маслакоў.— А то баяўся.

— Чаго мне баяцца? Хай фрыцы баяцца,— сказаў Сцяпан, бокам на пахілы дол кладучы каністру.

У хлопца ад стомы ажно падгіналіся калені, але ён прымусіў сябе на невялікую вытрымку: зняў з-за спіны і нетаропка паклаў на зямлю вінтоўку, расшпіліў потны мундзір — восем гузікаў ад каўняра да дзягі — і потым ужо выбраў мякчэйшую, з траўкай мясціну, дзе і прысеў.

— Ну, тады давай даві вуха. А я паназіраю, як там мост. Толькі ціха каб.

Маслакоў устаў, узяў свой аўтамат з зайздросна новенькай лакіраванай ложай і пайшоў угору.

Застаўшыся без камандзіра, трое падначаленых адчулі сябе неяк нібы вальней. Даніла, стаўшы на калені, расперазаўся, сцягнуў з плеч кажух і з асалодай разваліўся на ім, засцярожліва ўздзеўшы на руку пачапку свайго куртатага абрэза. Сцёпка таксама адхінуўся на здаровы, без скулаў бок, закінуўшы голаў, паглядзеў у неба. Там па-ранейшаму грувасцілася туманная мешаніна аблокаў, часам павяваў свежаваты, з сырасцю вецер — надвор'е, здаецца, мелася сапсуцца. Дзесьці ўбаку, мабыць, на недалёкай дарозе, ледзь чутна пратахкала коламі і сціхла фурманка. Было ціха. Праўда, у хвойніку, непадалёк узляцела і доўга нязграбна мясцілася на сасонцы варона. Здаецца, там былі і яшчэ: сярод голля чулася ціхая, але настойлівая птушыная валтузня. Даніла ўжо, мабыць, спаў, накрыўшы шапкай валасаты твар, спакойна і смачна пасопваў. Брытвін нядоўга пасядзеў побач, а потым устаў і з заклапочанай нядобрасцю на сухім абветраным твары пайшоў угору — мабыць, да Маслакова. Сцёпка паляжаў трохі, пакуль спачыў, і зноў сеў. Пакрысе, але ўсё настойлівей начала напамінаць аб сабе тужлівая пустата ў жываце: хацелася есці. Зашмальцаваная Данілава сумка ляжала ад яго за тры крокі. Мусіць, там нешта было з яды, і хлопец адвёў убок позірк, каб не глядзець на яе, не растраўляць марнага цяпер жадання. Ён толькі падумаў, што было б здорава пусціць дымам той мост ды заваліцца куды ў вёску — столькі наўкола знаёмых сялян, было дзе паесці кулічоў, яек ды і выпіць. Як бы там ні было, а ўсё ж вялікдзень, вёскі

святкуюць, як святкавалі некалі, толькі вось ім, лесавым бадзягам, не да таго: заданне, дарога, праклятая гэта каністра замест толу, якая пагана і неадчэпна смярдзіць побач, атручваючы такія харошыя, не застарэлыя яшчэ пахі вясновай зямлі. Ну, але на каго крыўдаваць? Пайшоў сам, ніхто не прасіў, з першай ваеннай вясны ўцёк у лес, прыхапіўшы чужы карабін, напаткаў акружэнцаў, і з імі пачалося яго турботнае лесавое жыццё. Шкадаваў толькі, што не забіў таго

падлюгу Валодзьку, які атруціў яму ўсё яго местачковае жыццё. Колькі ён начуўся ад яго пагроз і нацярпеўся здзеку, колькі перахадзіў для яго па гарэлку! Сам паліцай быў трусаваты, з мястэчка баяўся далёка паткнуцца, а яго, бязбацькавіча, прыблуднага чужака, якраз і прыгледзеў на гэтую справу.

Як толькі Сцёпка ўспамінаў той час, дык кожнага разу пачынаў хвалявацца ад даўняй застарэлай крыўды, нібы зноў перажываючы жахлівую зіму свайго бяспраўнага існавання — без дакументаў, на падазрэнні, сярод чужых людзей. Але і ў Віцебску жыць не было як — завод закрылі, іхні інтэрнат з будаўнікамі рэквізавалі нямецкія салдаты, і каб не прапасці з голаду, ён рушыў з горада ў вёску пад Лепель, дзе — цьмяна памятаў — была нейкая матчына радня, напаўзабытая цётка Сцепаніда. Дабірацца давялося амаль скрозь пехатой, праз гразкую познюю восень; яго брызентавыя туфлі разваліліся праз два дні, хлопец прастудзіўся і аднойчы, заначаваўшы ў крайний ля рова хаціне з абмазанымі глінай вугламі, так і не ўстаў ранкам. Шаласлівая, падатная на чужую бяду бабка Усцінка выхадзіла яго, адагрэла на печы пад кажушком, адпаіла ліповым наварам, і ён далей ужо не пайшоў, застаўся да вясны ў гэтым мястэчку над голай нячыстай аўражынай, куды вылівалі памыі і скідвалі пастраляных паліцаямі сабак. Ачуняўшы, Сцяпан, каб не быць дармовым нахлебнікам, надзяваў бабчыны боты, кажушок, браў у суседзяў санкі і ехаў цераз поле ў лясок па дровы або за кавалак хлеба насіў местачкоўцам ваду з раўка, здабываў з капцоў бульбу, якое тады багата зазімавала ў полі. Так і жылі. А поруч, цераз тры двары, хмельна раскашаваў у

прыманах былы лейтэнант Валодзька, дружок, які, пераседзеўшы зіму ў сельмагаўскай прадаўшчыцы, па вясне падаўся ў паліцыю і пачаў жартам і ўсур'ёз чапляцца да хлопца. Ён дапякаў Сцёпку яго незаконным жыхарствам і тым, што ў яго не было дакументаў, казаў, што такіх, як ён, загадана збіраць па вёсках і адпраўляць у раён, і калі ён, Валодзька, не арыштоўвае яго, дык толькі па сваёй добрасці, якая, аднак, не бясконцая. Паліцай патрабаваў ад Сцёпкі самых розных паслуг: то схадзіць да суседа-інваліда, каб штось выведаць, то пад ранак папільнаваць дарогу на выездзе з вуліцы, ці насячы дроў і амаль кожнага дня здабываць гарэлку. Сцяпан апасаўся Валодзькі і да пары да часу мусіў слухацца, хоць узненавідзеў яго так, што гэтае нянавісці не нераборала і вострая жаласць да Усцінкі, адзінокай гаротніцы ў пахілай хаціне. Аднойчы, пакуль паліцай пасля начной сховы-засады мыгўся ў двары ля парога, Сцёпка проста з лаўкі ўзяў яго зараджаны карабін і праз дзірку ў сенцах шмыгнуў у равок, каб болей сюды не вярнуцца...

Аднак Маслакоў з Брытвіным нешта бавіліся: не ішлі і не гукалі, Даніла дык нават ужо і пахропваў пад шапкай. Сцёпка пацягнуўся нагой і разы два ціхенька штурхануў яго лапці — Даніла прахапіўся, недаўменна пазыркаў наўкруга асалавелымі са сну вачмі, але, супакоіўшыся, зноў лёг на спіну.

Сцёпка тужэй падкруціў драціну на боце, пакалупаў галінкай вямлю, пасля заняўся сваёй злашчаснай вінтоўкай. Спярша прыадчыніў затвор — рукаятка пругка, амаль без шуму варухнулася на скосе — са шчыліны магазіннай каробкі з гатоўнасцю выглянулі вострыя дзюбкі куль. Не дасылаючы іх у патроннік, Сцёпка ашчадна

засунуў затвор. Потым ён дастаў ножык — сточаны даваенны сельпоўскі складанчык з пляскатымі тронкамі — і ад няма чаго рабіць паскроб ім ложу. З-пад бруду, рэштак счарнелага лаку І змазкі палосамі засвяцілася моцнае сухое дрэва, і Сцёпка амаль з захапленнем узяўся скабліць — абнаўляць брудны, счарнелы

прыклад.

Брытвіна ўсё не было, а Даніла, аказваецца, болей не спаў — ціха паляжаў колькі хвілін і глуха абазваўся:

— Чаго яны там?

Сцёпку здалося, што ён гэта спрасоння, але Даніла, услухоўваючыся, уважліва глядзеў у сасоннік.

— Хто?

— Ды вараннё. Схадзіць, можа людзі...

Сапраўды, усё ў тым жа месцы ў гушчары чулася птушыная валтузня, часам кароткі лопат цяжкіх варонніх крылаў; недзе ля таго ж месца засакатала сарока — пэўная адзнака ляснога неспакою, калі не трывогі. Сцёпка ўстаў і з вінтоўкай у руках паціху палез у гушчэчу.

Яшчэ здаля ў кустоўі адчувалася прысутнасць, апроч варання, і яшчэ некага, хоць наўрад ці тут мог быць хто жывы. А вароны ўсё капашыліся, адны ўзляталі на верхавіны сасонак, іншыя адтуль важка ападалі ўніз. Сцёпка падабраў ламачыну і шпурнуў у птушыны гам.

— Кыш вы, праклятыя!

Вароны неахвотна падхапіліся з зямлі, залапатаўшы ў галлі крыламі, але далёка не паляцелі: адны пачалі кружыць наўкола па-над узлескам, другія, нездаволена пракаркаўшы, апускаліся паблізу на сасоннік. Сарока засакатала мацней і трывожней, але гэта ўжо на яго. Сцёпка расхінуў сасновыя лапкі і з непрыемнасцю спыніўся, апанаваны не страхам, а нейкаю нерашучасцю.

Між сасонак на іглістым доле, з якога сям-там прабіваліся жоўтыя іскрынкі кураслепу, ляжаў чалавечы труп. Тут жа таптаўся вялізны груган.

— Кыш!

Гурган неахвотна азірнуўся, пераступіў і, пругка адштурхнуўшыся жылістымі лапамі, замахаў крыламі.

— Карррр, каррррр...

Сцёпка, заціяўшы дыханне, падступіў бліжай: труп быў даўні, мабыць, зімовы ці нават леташні, нейкі пляскаты, бы ўтаптаны ў зямлю. Вопратка на ім, адчувалася, амаль струхлела. Хлопец нядоўга паразважаў, шукаючы адказу на адзінае цяпер пытанне: хто — свой ці чужы? — як раптам згледзеў пад нагамі ў траве невялікі шэра-зялёны лапік. Тады ён ступіў да яго і падняў — то была чырвонаармейская пілотка, сухая і нават пыльная з аднаго і сыраватая з другога, ад зямлі, боку. Увогуле, яна была ўжо нікчэмная, апроч хіба чырвонай эмалевай зоркі, пад якой рудзела невялікая плямка ржы. Сцёпка зазірнуў над клапаны, там аказалася ўваткнутая ў падклад іржавая іголка, абматаная чорнаю ніткаю. Хлопец выдзер зорку, а пілотку кінуў.

Ідучы ўгору, туды, дзе застаўся Даніла, ён думаў, што зорку трэба пачысціць ад іржы, і тады можна будзе прымацаваць да шапкі, а то за год партызанства ён так і не прыдбаў сабе ніякіх вайсковых адзнак. Зрэшты, не шмат іх было і ў іншых.

Даніла сядзеў на сваім кажуху і, мусіць, чакаў, углядаючыся ў яго бок. Сцёпка махнуў рукой і паказаў знаходку. Даніла адразу выцягнуў шырокую, у валассі руку.

— Ану...

— Цэленькая, камандзірская, пэўна.

Узяўшы зорку, Даніла нейкі час з цікавасцю пакруціў яе ў руках.

— Да, гэта сама... Харошая звяздэчка.

І, нічога не кажучы болей, на вачах у хлопца сунуў яе ў кішэню сваіх суконных, густа залапленых штаноў.

— Гэта ж мая! — разгублена сказаў Сцёпка.

Даніла выскаліў доўгія пракураныя зубы:

— Гы! Была твая, стала мая.

— Ты што? Аддавай!

Але Даніла, як і раней, нязрушна сядзеў на сваім кажусе і толькі нахабнавата ўхмыляўся маленькімі сярод чорнага дрымучага касмыцця вачмі.

— Давай! — крыкнуў Сцяпан.

— А не крычы. Вунь камандзір ідзе.

Сапраўды, збоку ад іх над растапыранымі галінамі сасонак з'явілася галава Маслакова.

— Тоўкач, сюды!

— Давай! — з апошняй рашучасцю патрабаваў Сцяпан, але тут жа зразумеў, што марна, і, сцяўшы ў сабе крыўду, падаўся да Маслакова.— Ну, пачакай!..

Маслакоў ужо быў павярнуўся, каб ісці, як ззаду, хапаючы кажух, сумку і абрэз, падхапіўся Даніла.

— Таварыш камандзір, чакайце!..

Не цямячы, у чым справа, камандзір спыніўся, сышоў ніжэй да партызана, і калі Сцёпка, пастаяўшы, таксама вярнуўся да яго, Маслакоў ужо прымацоўваў на шапку тую ягоную зорку.

— Ну, дзякуй. А дзе ўзяў?

— Ды вунь Тоўкач падарыў,— хітра жмурачы шчылінкі-вочы, нявінна сказаў Даніла.

«От падла!» — падумаў Сцёпка, але не сказаў нічога. Для Маслакова зоркі яму было не шкада — Маслакову ён аддаў бы і шапку. І тым не менш хлопцу стала чагосьці няёмка і — галоўнае — крыўдна.

Бралася на змярканне, у хвойніку прыкметна цямнела, неба скрозь засцілалі аблокі, некалькі кропель упала на шыю і рукі — відавочна збіраўся дождж. Першы вясновы

дождж, не халодны і не ветраны; яму, помніцца, некалі радаваліся людзі, бо пасля ўсё навыперадкі зелянела, аж шапацела, пускаючыся ў рост.

Цяпер жа, аднак, дождж не радаваў, здаецца — наадварот, нават устрывожыў іх камандзіра трупы. Усё ў тым сасонніку Даніла са Сцёпкам узышлі на верх выспы і следам за Маслаковым апусціліся на калені пад крайняю ад нрагаліны хвойкай. Побач сядзеў Брытвін і нерухома глядзеў кудысь між хваёвага голля.

Там была дарога і мост.

— Ну што? — ціха спытаў Маслакоў.— Не відаць?

— Ні чарта не разбярэш. Каб бінокль...

Яны ўсе стаіліся, углядаючыся туды, дзе святлявая стужка дарогі, вынікшы з сасонніку збоку ад гэтае выспы, бегла па невысокім на лужку насыпе да моста — доўгага шэрага збудавання з бярвення, што выглядала адсюль, нібы агромністы чарвяк, які споўз з дарогі ў ваду і спыніўся.

— Трэба ісці,— сказаў Маслакоў.

— Цяпер? — насцярожыўся Брытвін, не адрываючы позірку ад прыцьмелай ужо вечаровае далечы.

— Ну, а калі ж? Пакуль дождж не разышоўся. А то намочыць — не ўпаліш.

— Ну ўжо не,— падумаўшы, сказаў Брытвін.— Цяпер я не найду.

— Можаш не ісці,— пачынаючы нерваваць, кінуў Маслакоў і падняўся.— Даніла!

Даніла выпрастаўся на каленях, але не ўстаў.

— Ды у мяне ж абрэз.

— Ну і што?

— На якіх дваццаць крокаў, не болей. Калі што, дык і не пацэліш, мушкі ж няма,— загаманіў ён нейкім не сваім, бы вінаватым, з плаксівасцю голасам. Маслакоў ціха вылаяўся і ўхапіў каністру.

— Тоўкач, айда!

Сцёпка ўстаў, непрыязна, амаль з варожасцю зірнуў на Данілу. Хлопцу таксама было не шмат радасці выпраўляцца цяпер, яшчэ завідна, па голай дарозе добрую вярсту навідавоку, але ён болей за ўсё не хацеў, каб тое ўбачылі іншыя. Ён быў гатовы. Асабліва калі з Маслаковым — хай гэтыя героі сядзяць ззаду і чакаюць.

На хаду ён пераняў у Маслакова каністру, яны хуткім кронам выдраліся з хвойнага зарасніку на ўзлесак і апынуліся на лугавіне.

Дожджык усё сыпаў — дробненькі, але спорны; далячынь за ракой заслала туманам, у ім прыцьмелі і мост, і поплаў, і ўвесь той бераг з Круглянамі. Увогуле, гэта было няблага, здалёк іх на мосце не ўбачаць, толькі каб загарэлася дрэва...

Брытвін з Данілам засталіся на ўзлеску акрай дарогі, а Маслакоў са Сцёпкам амаль подбегай пашыбавалі дарожнай узбочынай. На хаду Маслакоў некалькі разоў азірнуўся, і ў тых яго позірках Сцёпка згледзеў трывогу. Яно і зразумела: атрымлівалася не так, як было ўдумана, прыбаўлялася рызыкі, надзея на поспех меншала. Па сутнасці, яны дзейнічалі цяпер на славуты «авось», хоць яўнай небяспекі пакуль не адчувалася, непагадзь добра хавала іх— а можа і пашэнціць? Адкладваць

жа наўрад ці будзе разумна, бо калі разыдзецца дождж і намочыць на мосце гразь ды бярвенне, колькі тады трэба будзе чакаць, пакуль усё гэта высахне. Зноў жа — цяпер мо дапаможа вялікдзень: усё ж паліцаям таксама

ахвота пасвяткаваць.

Сцёпка ледзьве паспяваў за Маслаковым, яны ўжо амаль беглі, камандзір раз-поразу азірнуўся, але на дарозе, здаецца, скрозь было пуста.

— Якраз такі час, панімаеш? Удзень там іх вартыняма. А на ноч яшчэ не паспелі. Каб не дождж толькі.

Яны ўсё памыкаліся на бег, але Маслакоў знарок стрымліваўся — мусіць, каб не адрывацца ад Сцёпкі або не выклікаць падазрэння, калі хто з'явіцца насустрач. Аўтамат свой ён трымаў напагатове, прыкладам пад пахай. Сцёпка вінтоўку нёс на плячы, почапка яе недзе на закарку сцягвала скуру, скуллё на шыі балела, але ён не мог нават прыпыніцца, каб перамяніць руку з каністрай.

— Ты па верху. А я ўнізе. Пальеш, а я знізу падпалю.Толькі акуратна, каб на зямлю не лілося. Па бёрнах.

— Знаю.

— Крайнюю ад вады апору. Загарыцца! Павінна загарэцца. І паглядвай на мост. Каб з Круглян хто не наскочыў.

У ашчэраны Сцёпкаў бот набілася пяску,назе стала мулка, хлопец памалу пакульгваў. Сасоннічак застаўся ўжо далёкавата ззаду, яны былі адны на пустой дарозе; дожджык неяк раздумна лапатаў па дарожным пыле, які смярдзеў, беручыся зверху мокрай васпаватай скарыцкай.

Мост быў блізенька, ужо відаць сталі яго парэнчы, адна з іх была абломана з канца і звесілася над вадой. Насып пабольшаў, дарога на ім стала цвярдзейшая, пясок застаўся ззаду, і Сцёпка на хаду трасануў у паветры ботам — каб высыпаць, што там муляла. Мусіць, дзеля засцярогі Маслакоў перабег на другі бок, яму ўжо трэба было спускацца пад насып, але камандзір марудзіў, ва ўсе вочы ўзіраючыся праз дождж наперад, на мост.

І раптам з дажджлівай прыцьмеласці на пустым за секунду да гэтага мосце з'явілася постаць.

Маслакоў нібыта спатыкнуўся, зменшыў крок, Сцёпка таксама прыцішыў хаду, ногі адразу сталі цяжэйшыя, чым секунду раней, і агідна падрыгвалі ў каленях. Постаць — не зразумець было здаля — ні то стаяла, ні то памалу варушылася, ідучы ўздоўж ля парэнчаў. Няўжо хто са спазнелых праходжых ці, не дай бог, ахова — тады справа іх кепская. У абсалютным неразуменні яны, аднак, ішлі, катастрафічна хутка зблiжаючыся з ёй, бо захінуцца тут было недзе, а ўцякаць не выпадала — іх ужо ўбачылі.

Аднак, паўхвіліны той, на мосце, нічым не выказваў сваіх намераў, толькі, здаецца, спыніўся ля зламанай парэнчы і — гэта адразу адчулася абодвум — праз прыцемак уважліва пaглядзеў на іх. Яны таксама ва ўсе вочы сачылі за ім, гатовыя ўхапіцца за зброю, як ён раптам ускрыкнуў нешта палахліва-пагрозлівае і знік. Спярша яны абодва спыніліся — здалося, ён скочыў пад мост або дзіўным чынам правапіўся праз

насціл. Але тут жа у прыцемку востра бліснула, і рэха вінтовачнага стрэлу скаланула абшар.

Гэта была жахлівая нечаканасць, якой яны не прадбачылі, і цяпер абодва разам шаснулі з дарогі пад насып — Сцёпка па адзін, а Маслакоў па другі яе бок. Хлопец, мусіць, не дабраў спрыту, разгоніста саўгануўся з каністрай, здорава ўдарыў сцягно і бокам споўз да палевы скосу. Тут жа ён ухапіўся за вінтоўку, хуценька тузануў затвор, але не стрэліў — тыцнуўся тварам у зямлю: кулі ў двух месцах ля яго, пырснуўшы жвірам, дзеўбанулі насып. Ад моста стралялі — таропка, спалохана, але зноў, як на злосць, таго, хто бахаў, не было відаць, над дарогай толькі пранозліва дзігала — мусіць, па той бок насыпу. Маслакоў, аднак, маўчаў, і Сцёпка таксама зацяўся, сціх на адхоне, не адважваючыся адкрываць сябе і ўсё гледзячы ў той бок, да моста: чакаў, як пабягуць, каб жарнуць ужо ва ўпор, напэўна.

Аднак адтуль ніхто не бег. Пасля дзесятка стрэлаў там сціхлі, рэха закацілася за лес, і ўсё наогул змоўкла. Сцёпка паляжаў яшчэ грудзьмі на скосе, як раптам падумаў, што, мабыць, ён тут адзін, і гэта ажио напалохала яго. Ведама ж, Маслакоў наўрад ці ляжыць на тым баку, мусіць, адбег да лесу; значыць, і яму трэба падавацца назад. Мост, відаць па ўсім, прыйдзецца адкласці, да моста цяпер не падступішся.

Ускочыўшы на калені, Сцяпан адной рукою ўхапіў каністру, другой вінтоўку і, коўзаючыся па мокрай траве, пабег па-за насыпам. Ён чакаў стрэлаў, і яны сапраўды пачуліся, зноў часта і грымотна: бах — дзіууу... бах — дзіууу... Толькі вельмі хутка ён вызначыў, што стралялі не па ім, а міма. Тады ён упаў, загнана дыхаючы, азірнуўся — месца тут было крыху вышэйшае, а насып ніжэйшы, чым ля моста, і згледзеў здаля на дарозе цьмяны, прыгнуты сілуэт, які неяк, быццам крадком, бег, падаў і бахаў у ягоны бок стрэламі. Але кулі ён перастаў чуць, і гэта прарвалася ў ім неспадзёўкай-сполахам: ён ужо зразумеў, што паліцай страляў у Маслакова. Значыць, Маслакоў там, бліжэй да моста. Але чаму ж ён не страляе?

Сцёпка кінуў, дзе быў, каністру і, вывернуўшы ўбок ногі, амаль не цэлячыся, грымнуў стрэлам насустрач постаці, потым яшчэ і яшчэ. Ён не цэліў, ды і не было куды цэліць: ужо добра прыцьмела, і паліцай зноў знік — упаў ці можа скочыў за насып. Пасля трох стрэлаў Сцёпка даслаў у патроннік і чацвёрты патрон, але страляць не стаў, а, ускочыўшы, за тры крокі перабег дарогу.

Тут ён зноў зморана ўпаў і стаіўся. Ззаду, узбітае ботам!, пасунулася воблака смярдзючага пылу, пад рукамі і грудзьмі замулялі ў мокрай траве нейкія калючкі, па шапцы і плячах далікатна і гусценька лапатаў дожджык.

Сцёпка думаў тут недзе знайсці Маслакова, але яго не было відаць ні ззаду, ні спераду. Хіба што камандзір ужо адбег да лесу, што ўвогуле было зусім верагодна. І ўсё ж нейкае падсвядомае адчуванне сведчыла, што ён не ззаду, а мабыць, ля моста. Трохі аддыхаўшыся і

заця́ўшы ў сабе страх, Сцяпан таксама падаўся туды.

Увага яго раздваілася: ён чакаў стрэлаў, каб тут жа ўпасці пад насып і з усяе сілы хацеў убачыць, дзе Маслакоў. У яго ўжо з'явілася і шырэла ў сваёй акрэсленасці думка, што з ім кепска, мусіць, яму папала. Тады Сцёпка проста не ведаў, чым можна

дапамагчы камандзіру і як яго ратаваць тут, пад носам у аховы. Баючыся самага найгоршага, ён, аднак, спадзяваўся яшчэ, што можа Маслакоў проста стаіўся, і ён яго зараз знойдзе.

Ён і сапраўды хутка ўбачыў свайго камандзіра — у дажджлівым паўзмроку той цёмным бугром знерухомеў акрай насыпу, і яшчэ зводдаль Сцёпка зразумеў, што камандзіра падстрэлілі. Напэўна, упаў Маслакоў яшчэ на скосе і ссунуўся ўніз. Ён так і ляжаў цяпер, закінуўшы ўгору рукі, з ненатуральна падкурчанымі ў каленях нагамі. Ватоўка на ім загарнулася, кашуля таксама, і голы запалы жывот цьмяна свяціўся ў доле. З разбегу Сцёпка выцягся ля камандзіра, і па тым, як той ніводным рухам не рэагаваў на яго з'яўленне, хлопец з паныласцю зразумеў, што найгоршае сталася. Сцяпан не стаў тармасіць яго ці абмацваць: не было часу — на дарозе вось-вось маглі з'явіцца паліцаі. Ён толькі выдзер з-пад пляча аўтамат і стаіўся побач, чакаючы.

Унутры ў ім усё аж захлыналася ад стомы і страху, пачуцці, здавалася, дасяглі мяжы напружання і, бы сірэны, гулі ад роспачы. Наўкола, аднак, было ціха: дождж роўненька, але настойліва лапатаў па дарозе, траве. Паліцаі нешта марудзілі — не беглі сюды і не стралялі. Сцёпка тады азірнуўся, і сцяўшы ў сабе агорклае дыханне, пераваліў Маслакова на бок. Не адрываючы позірку ад дарогі, ён зачапіў на руку початкі аўтамата і вінтоўкі і, напружыўшы не дужа вялікія свае сілы, узваліў на сябе страшэнна цяжкога цяпер Маслакова. Ён ажно спалохаўся, што не падніме; ад натугі ў вачах блiснулі і расплыліся жоўтыя плямы, але ўсё ж ён устаў на ногі і, сагнуўшыся ў тры пагібелі, бы п'яны, пабрыў пад насыпам.

Ён упаў, крыху не дасягшы ўзлеску. У трохі святлявым небе відаць былі верхавіны сасонак, але ў яго не хапіла сілы забрысці ў лес, ногі падламаліся, і ён мякка лёг з ношай на бок. Сцёпка чакаў, што з лесу выбегуць тыя двое і скончацца яго пакуты, утрох бы яны ўжо маглі выхапіць адсюль камандзіра і адбіцца. Хвілін пяць ён захлынаўся горкай задухай: прыціснутае да зямлі, шалёна таўклося ягонае сэрца; усё на ім было мокрае ад поту і дажджу. Ён не памятаў, колькі часу, нібы ў непрытомнасці, ляжаў на мокрай маладой траве, і ніхто да яго не бег ні насустрач, ні ззаду. Зрэшты, ззаду ён не бачыў нічога — ён толькі слухаў, але ні крокаў, ні стрэлаў адтуль не было.

Найгорш, што ён па-ранейшаму не ведаў, жывы Маслакоў ці не. Магчыма, ён нёс забітага. Але ні жывога, ні мёртвага ён бы яго не кінуў, хоць нешта ў ім пратэставала супроць гэтай няўдачы, у якой, мусіць, найбольшая віна была Маслакова. Цяпер, аднак, становішча Сцёпкі і яшчэ горшылася ад новай неспадзеўкі: чым болей раўнела яго дыханне, тым выразней расла ў ім злосць на тых двух, якія чорт ведае дзе прапалі і не ішлі, калі дарага была кожная секунда. А можа і зусім ўцяклі? Гэта абурала да слёз, ён ужо гатовы быў і заплакаць, толькі не ставала сілы, а галоўнае — зноў трэба было ўставаць і несці.

І ён устаў. Жахліва цяжка было падняць непрытомнае цела Маслакова, але ён, ледзьве не выломваючы камандзіру рукі, неяк усцягнуў яго на сябе. Толькі калі ўставаў з калень на ногі, не ўтрымаўся і зноў паваліўся на бок. Тут жа, не даючы сабе

передышкі, пачаў узграбацца зноў і, дужа сагнуўшыся, абапіраючыся аб зямлю адною рукою, неяк устаў.

Найлепш было б зашыцца ў лес, але на ўзлеску ён напароўся ў цемры на нейкае калючае суччa, абдзёр твар — мабыць, тут быў найбольшы гушчар, і ён не адважыўся лезці ў яго — зноў пайшоў краем пожні. Ад слабасці Сцёпка хістаўся і з усяе сілы стараўся не ўпасці. Маслакоў жа тугім, налітым цяжарам увесь час спаўзаў долу, хлопец ледзьве ўтрымліваў ягоныя рукі і

хіліўся наперад — так лягчэй было трымаць яго на спіне.

Увесь час страшэнна замінала зброя, чаплялася за зямлю і блыталася ў нагах, але ён не мог кінуць нават вінтоўкі. Яна яму, мабыць, была ўжо не патрэбна, ды ён памятаў на гэты конт загад па брыгадзе і ведаў, як дарага там было ўсё, з чаго можна страляць. Добра, аднак, што яго не даганялі, і ён ажно падзівіўся з таго: так проста было цяпер узяць іх двух з Маслаковым.

Праз якіх паўсотню ці меней крокаў ён зачапіўся ботам за нейкі корч і ўпаў — балюча, грудзьмі на цвёрдае, перавярнуўшыся на бок, застагнаў ад болю і тут жа прыцяў у сабе гэты стогн: ззаду ён пачуў крокі. Сцёпка схапіўся за аўтамат, аднак хутка сцяміў, што ён не спатрэбіцца — яшчэ здалёку на светлаватым небе ля хвойніку ён пазнаў характэрную ў кажуху постаць Данілы, які прыпыніўся і глухавата гукнуў там, напэўна Брытвіну:

— Унь ён.

Хлопец аслабела павярнуўся і сеў побач з распластаным на зямлі Маслаковым. Даніла падбег першы, за ім праз рэдкае сяйво дажджу ўжо варушыўся ў шызым шыняльку Брытвін, які змораным голасам спытаў:

— Што, паранілі?

Сцёпка не адказаў, ён пакратаў мокрую, без шапкі галаву Маслакова, якая падатка перакацілася пад ягонай рукой. Потым яго рукі трапілі ў нейкую ліпкую макрату на ватоўцы; хлопец зразумеў, што гэта кроў, і толькі цяпер адчуў яе пах — трывожлівы пах чалавечай бяды. Але тут ужо за параненага хапіўся Даніла, і Брытвін дыхавічна камандаваў:

— Так! Пасля... Давайце бярэм! Панеслі...

Яны ўдвух зграблі з-пад яго рук Маслакова, Даніла моўчкі прысеў і натужыўся, пераняў яго на сваю спіну і

крута павярнуў у цёмны гушчар сасонніку.

Воддаль на дарозе тым часам пачуўся рух, прыцішаныя адлегласцю галасы, штось стукнула на мосце, і па насціле глуха затопалі конскія капыты. Сцяпан устаў, згроб з долу аўтамат, вінтоўку і зноў ледзь не заплакаў ад крыўды і вострага ўсведамлення няўдачы.

**9**

Яны бясконца доўга прадзіраліся ў цемры праз мокры хмызняк, пасля натрапілі былі на сцяжынку, але хутка згубілі яе ў лесе, перайшлі змрочны, шумлівы на ветры ельнік і апынуліся ў нейкім чорным праваллі — яры. Даніла, які ўвесь час цярпліва

валок на сабе Маслакова, у цемры паслізнуўся на мокрай траве, упаў і склаў з сябе цела параненага.

— Годзе! Уходаўся...

— Ладна,— спыніўся наперадзе Брытвін.— Адпачнём. Ён падышоў бліжэй і таксама апусціўся долу на не шырокай травяністай прагаліне сярод кустоўя. Недзе побач, унізе, чутно было, бурчаў-гаманіў ручай, неба ўгары нядобра чарнела, але дождж сціх. Скрозь стаяла лясная ціхмань, глушэча, адно з галля наўкола шапотка падалі сцюдзёныя кроплі. Людзям, аднак, было цёпла, нават горача пасля імпэтнай хады па лесе.

Пакуль Даніла аддыхваўся, Сцёпка перш-наперш абмацаў у доле ўсё яшчэ непрытомнага Маслакова. На шчасце, той быў жывы, сэрца яго, чуваць было, торгала слабымі няроўнымі штуршкамі. У грудзях, калі прыслухацца, штось булькатала-хлюпала, і гэта палохала хлопца — здавалася, Маслакоў памірае. Павязка з сарочкі, як-колечы зробленая імі ў дарозе, перакруцілася, спаўзла на жывот. Удвух з Данілам яны пачалі папраўляць яе. Зводдаль, згорбіўшыся, апанурана сядзеў Брытвін.

— А каністра дзе? — спахапіўшыся, запытаў ён.

— На дарозе,— буркнуў Сцёпка.

Брытвін памаўчаў і сказаў са злоснай іроніяй:

— Падпалілі, называецца!

Сцёпка з Данілам маўкліва поркаліся над параненым.

— Здаецца, вопытны падрыўнік, а такога цюху-мацюху ўпароць!

Даніла аслабіў канцы ўшчэнт скрываўленага кавалка сарочкі, Сцёпка прытрымліваў іх і, амаль глытаючы слёзы ад жалю па Маслакову, не мог запярэчыць Брытвіну. Як ён ні быў настроены супроць яго, але мусіў цяпер прызнаць, што Брытвін казаў праўду. Хоць, вядома, пасля бяды, калі было позна штосьці паправіць, кожны станавіўся разумнейшы; а тады хто ведаў, што паліцаі ўсё ж выставяць варту? І тым не менш былая яго непрыязнасць да ротнага сама па сабе меншала, зрэшты, як і да Данілы: мінулыя крыўды сталі цяпер драбязой перад тым няшчасцем, якое напаткала Маслакова.

— Што тут у яго робіцца! — бурчаў Даніла, поркаючыся над загорнутай мокрай кашуляй.

Ноч наогул была цёмная, без месяца, а ў гэтай лясной яме дык і пад носам нічога нельга было разабраць. Каб хоць пасвяціць чым, агледзець рану, а то першы раз перавязалі навобмацак і цяпер таксама. Так нядоўга і сплысці крывёй. Сцёпка, аднак, успомніў, што ў Маслакова недзе былі запалкі.

— Запалкі ж былі. Пасвяціць?

— Трымай.

Сцёпка ўзяў канец павязкі, а Даніла пачаў абмацваць мокрыя кішэні параненага, якія, як, зрэшты, і ва ўсіх, былі туга напханы рознай драбязой. Цяпер, выцягваючы адтуль, што трапляла пад рукі, Даніла пералічваў:

— Нож. Анучка нейкая. Кніжка ці блакнот...

— Дай сюды,— ярацягнуў руку Брытвін.

— Патроны. Скрутак дроту... Аловак ці не — запал бытта. Наце, паглядзіце там.

Брытвін без асаблівай цікаўнасці ўзяў у яго нешта і, абмацаўшы, адразу вызначыў:

— Бікфордаў шнур, а не дрот. І ўзрывальнік быццам. Ну, да, узрывальнік. Толькі ўзрываць нечага.

— А во запалкі.

— Нашто табе тыя запалкі? — раздражнена загаманіў Брытвін і ўстаў.— Ты што, будзеш яму аперацыю рабіць? Падводу трэба шукаць!

Даніла на момант, мабыць, збянтэжыўся ад гэтага амаль начальніцкага вокрыку і няўцямна павярнуў голаў да невыразнае ў змроку постаці былога ротнага. Неяк так атрымлівалася, што той цяпер браў над імі двума старшынство, хоць аб гэтым яшчэ і не было ніякай гаворкі.

— Падвода, кажу, трэба. Не можам жа мы тут сядзець, пакуль паліцаі налезуць. Вёска далёка?

Даніла агледзеў змрочныя лясныя схілы, нібы там можна было што ўбачыць.

— Валатоўка тут недалёка, бытта. І хутары. Хутары, мабыць, бліжэй.

— Дзе, у які бок?

Даніла няпэўна тыцнуў рукой у цемру.

— Ось бытта туды, як па рове. Трошкі можа лявей.

— Так! — прыкінуў Брытвін.— Ты, як фамілія? Сцёпка не адразу і зразумеў, што гэта звяртаюцца да яго, але Даніла ахвотна падказаў:

— Тоўкач яго.

— Ану, Тоўкач, марш за падводай. Інакш твой Маслакоў у пяць хвілін дуба дасць. Паняў?

Сцёпка хуценька ўстаў, адчуваючы, што гэта праўда. Тое, што яго пасылалі немаведама куды, у ноч, цяпер не крыўдзіла, хоць спярша ён і адчуў маленькае недаўменне: чаму не Данілу, які тут ведаў усе хады-выхады. Але, бадай, Даніла патрэбны быў ля параненага, зноў жа — ён столькі валок яго цераз лес. Падабраўшы з долу аўтамат, Сцяпан устаў і палез у мокрае кустоўе.

З веццяя лілося, ён аж асцерагаўся яго чапаць, хоць і без таго даўно ўжо намок. На схіле ў мокрай траве было слізка, хлопец некалькі разоў упаў і ўрэшце сышоў ніжэй, да ручая. Тут, аднак, было не лягчэй. Ён доўга прабіраўся праз мокрыя травяныя зараснікі, абышоў прагаліну, заваленую сухім ламаччам. У дашчэнту змакрэлых ягоных ботах надакучліва чвякала,ануча збілася на пяту і муляла, жорсткія калівы папараці рэзалі голыя пальцы. Але ён, не спыняючыся, таропка прадзіраўся ў кустоўі і толькі думаў, каб не заблудзіць, не прыпазніцца, знайсці падводу, якую чорт ведае дзе і шукаць. Найперш трэба было знайсці вёску. Праўда, ён не першы раз ужо хадзіў па начы і трохі ўмеў арыентавацца, у асноўным па формах рэльефу: адкладваў у памяці ўвесь шлях — дзе ўніз, дзе ўгору, дзе касагор або балацявінка. І ўсе павароты таксама.

Праз нейкі час лясное кустоўе абапал асела ніжэй, угары шырэй разлеглася шараватая святлявасць неба, на якім у двухтрох мясцінах слаба бліснула некалькі

зорак,— роў аставаўся ззаду. З ім неўзабаве скончыліся і зараснікі, хлопец апынуўся на лужку, а ўзяўшы правей, вылез па касагоры на ўзгорак. Існі стала лягчэй, мокрыя боты роўна шорхалі ў рослай густаватай азіміне, наперадзе высіліся нейкія бялявыя купкі — здавалася, людзі. Але людзей тут не магло быць, то цвілі грушы-дзічкі. І тым не менш Сцёпка міжвольна браў стараной, далей ад іх — страх не страх, а нейкая

інстынктыўная засцярожлівасць прымушала яго паводзіць сябе тут надзвычай чуйна. Праўда, ён зусім не ведаў, куды ісці, і часам лавіў сябе на тым, што паварочвае то ўправа, то ўлева,— самае горшае без дарогі. Так можна круціць да ранку і нават зноў выйсці да рова.

Але вось шорхат азіміны пад нагамі сціх, і ён апынуўся на чымсь голым і цвёрдым, не адразу зразумеўшы, што гэта дарога. Тады ён паглядзеў у адзін яе канец, у другі — дарога пралегла якраз упоперак ягонаму кірунку, а ў які бок было лепш павярнуць, ён не ведаў. Прайшоў дзесятак крокаў улева, падумаў і вярнуўся ўправа, увесь час напружена ўзіраючыся ў прыцьмелую далячынь, у якой была няпэўнасць і нешта загадкава-страхавітае.

Дарогай ён ішоў, мабыць, доўга, думаючы, што нарэшце павінна ж яна прывесці ў вёску. Трапіць на вясковую вуліцу ў яго не было намеру — там варта, мужыкі і паліцаі; хто ведае, як паставяцца яны да незнаёмага начнога прыблуды. Лепш зайсці з гарода ў які двор. Праўда, цяпер у яго аўтамат — новенькі, з лакіраванай ложай ППШ, з якім можна пастаяць за сябе,— гэта не вінтоўка ўзору 1891 года. Але ўсё ж лепш асцярожна. Неасцярога ім надта дарага абышлася сёння.

Наперадзе, аднак, зноў, здаецца, чакаў яго лес — нагрувашчаная чарната няроўнай паласой зусім затуліла і без таго азмрочаны краявід. Сцёпка прыцішыў крок, аўтамат перасунуў на плячы пад паху, гатовы кожную секунду рвануць кароценькую ручку затвора. Але ён яшчэ не дайшоў да гэтае чарады дрэў, як учуў збоч нібыта знаёмы, хоць адразу і не зразуметы ім глухі стук аб зямлю. Хлопец стаў, і тады, выразней пачуўшы ўдары, здагадаўся, што гэта забівалі кол. Так, мусіць, кол, ды яшчэ калі камянём — некалькі цяжкаватых тугіх udараў аддалося ў зямлі. Сцёпка падумаў, што б гэта магло значыць, і пасля, абнадзеены, нясмела яшчэ ўзрадаваўся.

Ён збег з дарогі і паціху, ледзь не крадком, падыбаў на гэты стук, які, аднак, тут жа сціх. Тады Сцёпка прысеў, знізу угору агледзеў святлявы край неба — паблізу

нічога падазронага не было відаць. Мякка, амаль нячутна ступаючы па пожні, ён прайшоў яшчэ крокаў дзвесце і зноў, прыгнуўшыся, агледзеўся. Зноў нічога навокал не было відаць, толькі зводдаль шырока чарнела куп'ё лазняку, між якога тырчалі ўгору рэдкія дрэўцы алешын. Тым часам трава ў доле пабольшала, стала мякчэй, пад ботамі мокра зачвякала — мусіць, пачыналася забалаць. Ён ужо хацеў быў павярнуць у абход, як зусім побач — так блізка, што ён ажно скалануўся, знянацку ўбачыўшы,— быў конь. Пачуўшы хлопца, конь трывожліва махнуў галавой і сціх, а Сцёцка прыпыніўся, прысеў, зірнуў сюды-туды, але блізка, здаецца, нікога не было. Асцярожліва, каб не спудзіць жывёліну, ён пайшоў да каня.

Конь па-ранейшаму ціха стаяў з цікаўнай страхавітасцю, завярнуўшы галаву ў яго

бок і, відаць па ўсім, недаўменна чакаў яго набліжэння. «Кось-кось»,— ласкавым шэптам паклікаў Сцёпка і выцяг руку, нібы ў ёй было што смачнае. Потым гэтаю ж рукой ён намацаў у доле вяроўку і кароценькі калок, убіты ў пожню, які тут жа, натужыўшыся, выдзер. Цяпер трэба было, не спудзіўшы каня, узлезці на яго.

Сцёпка закінуў за спіну аўтамат і, перабіраючы ў руках вяроўку, памалу пацягнуў за аброць. Конь выцяг морду, але не пайшоў. Тады Сцёпка сам пайшоў да яго, трымаючыся за вяроўку, але яшчэ не дайшоў, як конь раптам коратка і пужліва заржаў.

Сцёпка другі раз скалануўся і вылаяўся, злосна тузануў за аброць. Ён падышоў ужо ўпрытык і рукой ухапіўся за мокры цвёрды хрыбет, ды конь крутануўся задам, не даючыся. «Ах ты, падла!» — сцішана вырвалася ў хлопца злосна-роспачнае, як праклён. Не выпускаючы вяроўкі, ён ўжо болей рашуча аберуч ухапіўся за хрыбеціну, але скочыць зноў не паспеў — конь матлянуўся ўбок.

І тады ззаду ён пачуў глухаватыя, як удары ў зямлю, штуршкі нечых крокаў.

— Хто гэта? — пачулася страхавіта-пагрозлівае. — Што ты робіш?

Сцёпка адскочыў ад каня, але вяроўкі не выпусціў, толькі правай рукой за ствол саўгануў з-за спіны аўтамат. Тут жа ён зразумеў, што аўтамата можна было не чапаць,— да яго бег нехта адзін: невялічкі, у расхрыстанай адзежыне чалавек, босы, як гэта ён адразу пазнаў у змроку па тонкіх, з падкасанымі штанамі нагах. Не адказваючы, Сцёпка счакаў, пакуль той, запаволіўшы бег, нерашуча падыходзіў да яго.

— Куды вы бераце? Гэта мой конь.

Па голасе Сцёпка канчаткова ўпэўніўся, што гэта падлетак, і зноў адчуў сябе амаль спакойным і ўпэўненым. Ён падумаў, што зблізку выгляд яго і асабліва зброя дадуць хлопцу ўсё зразумець без роспытаў.

— А ты хто? А ну падыдзі бліжэй!

Хлопец не дужа рашуча падышоў і спыніўся трошкі воддаль, ва ўсёй сваёй постаці тоячы боязь і недавер. Конь з высока ўзнятай галавой уважліва глядзеў на гаспадара, нібы не цямячы, што тут адбываецца.

— Гэта мой конь. Не бярыце, дзядзька, майго каня.

Сцёпка пацяг за вяроўку, конь нехаця пераступіў, і ён падышоў бліжэй да хлопца.

— Дзе калёсы?

— Калёсы? Дома.

— А дом дзе?

— Дом? Ды вунь за аселіцай.

— А хто дома ёсць?

— Дома мама і бабка.

— А паліцаі ў вас ёсць?

— Ну, ёсць...

Хлопец, мусіць, нешта ўжо зразумеў і ціха стаяў у намоклым, з чужога пляча пінжачку, пакорліва чакаючы ягоных пытанняў. Сцёпка, аднак, падумаў, што калёсы,

мабыць, не прыйдзецца браць — Як-небудзь абыдуцца канём, а то налезеш яшчэ на паліцыю. Паглядзеўшы, куды паказваў хлопец, Сцёпка здагадаўся, што тая чорная града непадалёк, якая здалася яму лесам, была вёска, дрэвы, сады: на краі ўгадвалася шэрая святлявая пляма — мусіць, новая страха нейкай будыніны.

— Каня аддамо,— сказаў ён.— Праз пару дзён толькі.

Хлопец, аднак, бадай зусім ужо асмялеў і, ступіўшы на крок бліжэй, запярэчыў:

— Дык нельга мне без каня. Я малако важу.

— Ну, знаеш! Ты малдко возіш, а нам трэба чалавека ратаваць. А ну падзяржы свайго злыдня!

— Ды не бярыце, дзядзька, далібог, не хлушу: нияк мне без каня! — запрасіўся хлопец, аднак узяў каня за аброць і прытрымаў. Сцёпка грудзьмі скочыў на конскі карак і з прыемнасцю ашчаперыў нагамі цёплыя бакі.

— Дзядзька, партызаны не робяць гэтак!

Сцёпка тузануў быў за вераўчаны повад, конь паслухмяна павярнуў у патрэбны бок, ды раптам хлопцава нявыкрутка ці можа ягоны папрок нешта кранулі ў Сцёпку.

— Ну, вось што... Айда з намі,— сказаў ён.— Завязём куды трэба і аддамо. Заутра дома будзеш.

**10**

Па лесе яны прабіраліся пехатой абодва, ведучы каня на повадзе. Мясціну гэтую падлетак ведаў, ён адразу ж

знайшоў сцяжыну на ўзроўку і, расхінаючы рукамі мокрае вецце, упэўнена вёў Сцёпку з канём.

Мусіць, было за поўнач. Ноч яшчэ паглушэла, лес стаіўся, нават не стала чутна шастання кропель, толькі роўна тупалі ззаду конскія капыты, ды ў голлі, спуджана залапатаўшы крыламі, часам кідаўся прэч які-небудзь патрывожаны імі птах. Аднак у лесе па-ранейшаму было мокра, няўтульна і трывожна; дрыготкая золкасць нябачным воглым туманам распаўзалася між кустоў.

Сцёпка настойліва цягнуў за сабой каня, які, аднак, не дужа ахвотна ішоў за чужым. Вядома, каня лепш было б аддаць падлетку, але хто ведаў, што ў таго ў галаве. Зноў жа, у парасніку некалькі часу назад Сцёпка пачуў пах дыму, і гэта пачало яго крыху трывожыць. Добра, калі палілі Брытвін з Данілам, а калі хто чужы? Тадкое суседства, вядома, не падабалася, і ён трывожліва ўглядаўся ў туманны змрок рова, каб не спазніцца ўбачыць агонь. Ён і сапраўды яго хутка ўбачыў — праз хмызняк кораценька бліснула чырвоная плямка і знікла. Спыніўшыся на момант, Сцёпка падумаў, што, здаецца, гэта яны.

Сапраўды, на краі той самай невялічкай прагаліны ля ручая бліскала маленькае цяпельца, ля якога памалу варушылася сутулаватая постаць у ватоўцы. Учуўшы іх на ўзроўку, постаць крута павярнулася і на хвіліну знерухомела, узіраючыся ў змрок. Але яны ўжо лезлі па схіле ў роў і Сцёпка сцішана прыкрыкнуў на каня, які страхавіта сунуўся на падкурчаных задніх нагах, дзеручы капытамі зямлю. Абое яны з хлопцам прытрымлівалі яго за аброць і хутка спусціліся, збегшы да самага вогнішча.

Брытвін паправіў на плячах нейкую ватоўку і адступіў убок, гойдаючы ззаду, па кустоўі, хісткі змрочны цень.

— Ну, вось конь,— сказаў Сцёпка.— А калёс няма. Ён чакаў, што Брытвін або выкажа задавальненне, што ўдалося дастаць каня, або пачне папракаць, чаму без калёс. Аднак былы ротны паглядзеў на незнаёмага

падлетка, які сціпла спыніўся збоч, і абыякава і нетаропка сеў ля агню; побач, распяты на палках, сушыўся яго шынелак.

— Дарма стараўся.

Сцёпка не зразумеў і запытальна паглядзеў на Брытвіна, але той з маўклівай ваўкаватасцю на твары працяг да вогнішча далоні і пачаў грэцца. Агонь паволі разгараўся, дым шэрымі клубамі плыў угару і еў вочы. І тады Сцёпка, ужо адчуўшы нядобрае, пачуў нейкае тупаценне ў другім краі прагаліны. Туды ж касіў насцярожаны позірк конь. У цьмянай валтузні ценяў пад хмызняком, аднак, можна было разгледзець сагнутыя плечы Данілы, які, стоячы на каленях, нешта калупаў у зямлі. Працяты кепскім прадчуваннем, Сцёпка кінуўся да яго, але адразу за канём наткнуўся на прыкрыты кажухом бугорчык. З-пад аўчыннай палы вытыркаліся дзве босыя, недарэчна белыя ў змроку ступні.

Далей можна было ні пра што не пытацца.

Раптам адчуўшы сябе ўшчэнт знясіленым, Сцёпка апусціўся ля гэтых босых, блізка ссунутых ступняў, па якіх далікатным дотыдам гулялі водбліскі, і зразумеў, што самае страшнае, чаго ён баяўся, сталася. І не з ім, слабаком і няўдакам, не з недарэкам Данілам, нават не з Брытвіным, а з самым лепшым, самым для яго дарагім чалавекам у атрадзе.

Не хочучы паверыць, што гэта не сон, не хваравіты, недарэчны прывід, Сцёпка ў абсалютным змярцвенні прыцяўся позіркам да гэтых надта збялелых ступняў, і перад яго вачмі памалу выплывалі з туману тыя, убачаныя ім у сасонніку, шэрыя, падзяўбаныя вараннём ногі. Цяпер ён не мог, ды і не стараўся асэнсаваць тую несумненную агульнасць, якая аб'ядноўвала іх нейкім аднолькавым сэнсам,— гэты сэнс ён спасцігаў пачуццём. Не зважаючы, што там быў невядомы, зусім абыякавы яму чалавек, а тут ляжаў Маслакоў, на паляне, як і там у сасонніку, ужо ўладарыла смерць. Яна адштурхоўвала, палохала і сваёй несправядлівасцю,

як заўжды, падаўляла жывое.

Сцяпан сядзеў так доўга, прыдушаны роспаччу і крыўдай за камандзіра, а можа і за сябе таксама,— на жыццё, на вайну, а болей на сляпы выпадак, які часцей за ўсё іншае гаспадарыў над іхнім лёсам.

— Цяпер не падвода — лапата трэба. Лапаты няма? — спытаў ля вогнішча Брытвін.

Скручаны горам, Сцёпка не абазваўся, аднак, пэўна, падлетак даў знаць, што лапаты яны не маюць, бо Брытвін не пытаўся болей. Конь пастаяў, паўзіраўся на Данілу ў змроку і, памалу пераступаючы, пачаў скубці маладую траву. Сцёпка ж усё сядзеў, ні аб чым не думаючы, змярцвеўшы ўсімі сваімі пачуццямі, абыякавы да ўсяго і найперш да самога сябе. Ён надта азяб ад начное золкасці, цела яго пачало

міжвольна падрыгваць пад воглым мундзірам. Брытвін, мусіць, убачыўшы тое, сказаў:

— Хопіць мандражыць. Падмяні Бараду.

Сцёпку было ўсё роўна што рабіць, галоўнае для яго мінула, а ўсё астатняе не мела сэнсу. Ён пакорліва ўстаў і паплёўся да змрочнае постаці на краі прагаліны.

— Што тут падмяняць! Каб было чым, даўно б выкапаў, — бурчаў Даніла, але вылез з неглыбокай, па калена, ямiны і аддаў хлопцу вышараваны ў зямлі цясак.—На, дзёўбай!

Сцёпка апанурана стаяў у змроку на раскіданай зямлі. Не ўзнімаючы вачэй, узяў у Данілы штых і, калі той ступіў да яго, пачуў ці нажа адчуў, што крок яго нейкі не такі, як ранейшы, нязвыклы для Данілы. І тады ён заўважыў, што Даыіла ўжо ў ботах. На Брытвіне ладная ватоўка, у гэтага боты — ужо ўсё падзелена. Але што ж! Гэта было дужа звычайна і зразумела ў іхнім жыцці: рэчы, як заўжды на вайне, перажывалі людзей. Сцёпка прывык ўжо да таго, тым не менш нешта ў яго пачуцці міжвольна і неўсвядомлена варухнулася кароценькай

нязгоднай крыўдаю немаведама на каго.

Ён скочыў у магілку і пачаў драць ды сячы цесаком тугія і цвёрдыя, як рамяні, лесавыя карані, якімі тут густа і бязладна пераплецена, мусіць наскрозь, зямля. Накрышыўшы, рукамі выкідваў мяккія лесавыя ацяробкі. Аднак усё гэта ён рабіў нібы ў сне, машынальна, не займаючы свае свядомасці. Яго думкі бязладна снавалі ў галаве, часам затрымліваючыся на чымсь далёкім, дробязным і не абавязковым для такое хвіліны, штораз абрываючыся і пераскокваючы на другое. Часам яны znікалі зусім, і тады ён чуў блізкую размову там, ля агню. Знарок са строгасцю ў тоне, як дарослы малому, Брытвін казаў падлетку:

— Ось так! Пабудзеш, пакуль захаронім. А тады шагам марш дадому. Панятна?

— Панятна,— ціха адказаў хлапчук.

— Як панятна, тады і ўвесь разгавор,— сказаў Брытвін, але, памаўчаўшы трохі, спытаў: — Табе колькі год?

— Пятнаццаць.

— Бацька ёсць?

— Ёсць, але...

— На вайне хіба?

— Не,— сказаў хлопец, уздыхнуўшы. Голас яго зрабіўся нейкі няўпэўнены і ледзь чутны.

— Што, у паліцыі? — здагадаўся Брытвін.

— У паліцыі,— ціха пацвердзіў падлетак.

Сцёпка ў магілцы трохі нават здзівіўся, зацікаўлены і непрыемна ўражаны адначасова. Называецца, знайшоў памагатага! Мусіць, пра бацьку трэ было запытаць раней, а то яшчэ меўся весці з сабою аж у Грыневіцкі лес — ось бы нарабіў перапалоху! Ён з адчуваннем вінаватасці падумаў, што Брытвін, мабыць, пакліча яго

да агню і задасць перцу, якога ён цяпер, безумоўна, заслугоўваў.

— Ну, а ты што ж, значыць, бацьку памагаеш? — запытаў былы ротны яшчэ болей

пасцюдзянелым, амаль варожым голасам.

— Я не памагаю,— сказаў хлопец,— Я ў партызаны пайду.

— Ого!

Брытвін — чутно было — разламаў галінку і паклаў яе ў агонь; мігатлівыя водбліскі яго ў наваколлі на момант атухлі, пасля, памалу ажыўляючыся, васкакалі зноў. Хлопец насупіўся і нявесела маўчаў.

— Нічога не выйдзе,— сказаў Брытвін.— Такіх, як ты, у партызаны не бяром. Каб у партызаны пайсці, заслужыць трэба.

— А я заслужу.

— Гэта як жа?

Хлопец, аднак, не адказаў, мабыць, маючы ў думках нешта надта сур'ёзнае, каб так проста даверыць гзта незнаёмаму лясному чалавеку. Сцёпку гэта спадабалася. Ён зірнуў з ямы — невялічкая постаць у абвіслым, дужа паношаным пінжачку цьмяна, але з нейкай упартай годнасцю маячыла ля вогнішча. Побач на каленях стаяў Даніла і падкладваў у агонь суччa.

— Ось так! — заключыў размову Брытвін.— Мы пойдзем, а ты пасядзіш ля агню. Як развіднее, тады паедзеш. Ііаняў? Не раней. А што не спаў, дык заўтра выспішся.

— Мне ўранку малако на сепаратар везці.

— Паспеецца тваё малако,— сказаў Брытвін, павярнуўшы палкай у агні, з якога шаснуў угору мігатлівы рой іскраў.

Полымя добра разгарэлася, на прагаліне стала відно, дым у цішы слупам валіў угору і барвовым воблакам знікаў у начным небе. Брытвін пасунуўся далей. Раптам, нібы штосьці ўспомніўшы, ён падхапіўся.

— Да, а куды ты малако возіш?

— У мястэчка, куды ж! — з яўнаю нездаволенасцю сказаў хлопец, і Сцёпка падумаў, што паліцаеў сынок, здаецца, з характерам.

— У Кругляны?

— Ну.

Брытвін змоўк, неяк са значэннем паглядзеў на хлопца, потым на Данілу. Той, адваліўшыся на бок, нерухома павіраў у агонь.

— Цераз мост ездзіш?

— Цераз мост. А як жа.

— Ага! І ўчора вазіў?

— Вазіў. Позна прыехаў толькі. Партызаны паставога забілі, дык не пушчалі доўга.

— Так-так,— сказаў Брытвн і ўсеўся ямчэй, прытрымліваючы на плячы ватоўку,— А што ж у іх, ахранастаіць?

— Раней не было, а цяпер ставіць пачалі. Два паліцыянты з Круглян.

— Глядзі ты! Усё ведае. Маладзец! А ну ідзі бліжэй. Сядай во, грэйся.

Хлопец памалу зайшоў з таго боку агню і апусціўся на кукішкі. Даніла, мабыць, зацікаўлены новай акалічнасцю, прыўзняўся і сеў роўна, загарадзіўшы агонь. Цераз прагаліну да Сцёпкі разлёгся ягоны шырокі цень, у магіле не стала відна нічога, і

Сцёпка стаў на калегні, каб ямчэй было калупаць. Ен

ужо не глядзеў туды, толькі слухаў.

— Вот так. Сушыся. Таксама ж мокры. Як цябе завуць?

— Міця.

— Дзмітры, значыць. Харошае імя. У мяне быў друг Дзмітры. Дык, кажаш, партызаны паліцая забілі?

— Ну. Увечары падкраліся і застрэлілі. Роўба яго прозвішча. Да вайны ў маслапроме рабіў.

Дзеручы ў магілцы карані, Сцёпка сціпла парадаваўся: гэта ўжо ягоная работа. Дзіўна толькі, як удалося папасці: ані ж не цэліў нават. Пасля гэтае весткі стала зразумела, чаму не даганялі: мусіць, таксама вывалоквалі з-пад моста забітага і ўпусцілі яго з Маслаковым.

— Так-так,— штосьці ажыўлена памеркаваў Брытвін.— Бачу, ты хлопец харошы. Мабыць, мы цябе возьмем. Толькі...— ён не дагаварыў і павярнуўся ў другі бок.— Даніла, а ну, па сакрэту.

Абое яны падняліся ад вогнішча і, гойдаючы на кустах пужлівыя цені, ступілі некалькі разоў да ямы. Сцёпка выпрастаўся, пераводзячы дух, Брытвін крануў за рукаў Данілу.

— Ты казаў пра тол. Гэта дзе?

Даніла пераступіў ботамі, нявесела паглядзеў у хмызняк.

— Быў. А ці ёсць, хіба я знаю.

— Гэта дзе? У Фралоўшчыне?

— Ну.

— Слухай, трэба падскочыць.

Не адказваючы, Даніла гучна высмаркаўся ў траву, старанна выцер пяцярнёй нос і бараду.

— Дык жа цёмна. А там балота, ліха на яго. Ды не знаю, ці швагер той дома,— пачаў ён панылым, глухім голасам, які заўжды ў яго сведчыў пра неахвоту. Брытвін, аднак, абарваў:

— Нічога! Сядай на каня і скачы.

Яны павярнуліся да агню, у якім цяпер засяроджана поркаўся Міця. Даніла на хаду гучней ужо сказаў:

— Дык што, калі ў мяне абрэз гэты!

— Бяры вінтар!

— Што вінтар! Аўтамат каб. Брытвін спыніўся.

— Бяры аўтамат. Тоўкач, аддай аўтамат!

— Нашто аўтамат? Хай з вінтоўкай едзе,— панылa сказаў Сцяпан.

Брытвін нецярпліва настояў:

— Кажу: дай аўтамат!

Сцёпка з сілай увагнаў у зямлю цясак і ціха вылаяўся: болей за ўсё на свеце яму не хацелася цяпер аддаваць аўтамат. Але загад Брытвіна прагучаў так катэгарычна, што

хлопец стрымаўся ад спрэчкі і падняў з-пад алешыны былы маслакоўскі ППШ.

Брытвін з нецярплівасцю падганяў Данілу:

— І давай скачы. На тое табе дзве гадзіны. Фралоўшчына недалёка, знаю.

Даніла, аднак, усё нешта поркаўся, яўна не спяшаючыся на заданне, да якога ў яго, відаць па ўсім, не дужа ляжала душа.

— Кажух мокры... Калі б вы далі ватоўку.

— На. На і ватоўку,— рашуча шкуматнуў яе з плеч

Брытвін.— Толькі не цягні рызіну,

З маўклівай засяроджанасцю Даніла апрануўся, узяў на краі прагаліны каня і, натугай цягнучы яго за повад, палез на ўзровак.

**11**

Брытвін болей не сеў да вогнішча, ля якога цяпер гаспадарыў Міця, а пастаяў на прагаліне і, калі тупаценне каня сціхла на ўзроўку, падышоў да Сцяпана.

— Ну, ты доўга тут калупацца будзеш?

Хлопец выпрастаўся — магілка была яшчэ мелкаватая, яму да пояса, але Брытвін, прыкінуўшы, вызначыў:

— Хопіць! Давай закопваць.

Ён так і сказаў: не «хаваць» ці «хараніць», а «закопваць». І менавіта ад гэтага слова Сцёпку стала зноў не па сабе, нібы тым самым былы ротны зняважыў Маслакова. Хлопец памаўчаў, думаючы, што, мабыць, трэба б яшчэ паглыбіць: зямля тут сухая і няцвёрдая, ручай куды ніжэй. Аде Брытвін падышоў да нябожчыка.

— Давай сюды! Дзмітры, а ну памагні!

Міця з. паслухмянай гатоўнасцю ўскочыў ад агню, але тут жа, зразумеўшы, што ад яго патрабуецца, у панылай нерашучасці спыніўся воддаль. Сцёпка вылез з магілкі.

— Чакайце! Што ж, так і закопваць?..

Ён выцер аб траву цясак і, агледзеўшыся ў мільготкім паўзмроку, падышоў да маладой ялінкі, голле якой тырчала з цемры на прагаліну.

Праз хвіліну Сцёпка сабраў у ахапак лапкі, якія ён насек затупленым цесаком, і зноў скочыў у магілу. Тут было цесна і няўпраўна, але, прытоптваючы ў цемры, Сцёпка як-колечы выслаў лапкамі дол. Потым, заціскаючы ў сабе дужа ўзмацнелы напаследак жаль, з

некалькіх лапак змайстраваў узвышак пад голаў — нібы рыхтаваў Маслакову пасцель. Пасцель назаўжды, на вечны сон.

— Ну, гатова там? — не трываў Брытвін.— Давай усесюды.

Ён адкінуў мокры Данілаў кажух, і ўдвух са Сцёпкам яны ўзялі пад пахі нябожчыка.

— Дзмітры, бяры за ногі! — распараджаўся Брытвін.Міця абшчапіў дзве босыя ступні ног.

— Узялі!

Маслакоў, здаецца, і яшчэ пацяжэў: утрох яны ледзьве паднялі яго прагнутае ў паясніцы, яшчэ не закалянелае цела і цяжка патупалі да магілы. Там, вязнучы ботамі ў

свежай зямлі, пасталі ўздоўж вузкай шчылiныямы і пачалі апускаць. Гэта было нязручна, цяжкае цела імкнула выкаўзнуць у яму. Сцёпка прытрымліваў яго за сцюдзёную, не дужа гнуткую ўжо руку. Апускаючы, перабраў пальцамі да кісці, паранейшаму перавязанай брудным бінтом, і, ухапіўшы за яе, ажно спалохаўся: здалося — прычыніў боль. Тут жа зразумеў марнасць свайго спалоху, але за перавязаную далонь болей не ўзяўся — укленчыўшы на жвіры, апускаў цела ўсё ніжай, аж пакуль не адчуў, што яно мякка легла на спружыністыя лапкі.

— Ну во! — выпрастаўся Брытвін.— Давай загартаць!

— Чакайце!

Нагнуўшыся ў чорны зеў магілы, Сцёпка аднаруч пазапіхваў туды рэшту яловых галін, накрыў найбольш твар нябожчыка, і яны з незразумелай палёгкай пачалі дружна гарнуць зямлю. Сцёпка гроб рукамі, Брытвін ботам, Міця, таксама ўкленчыўшы, аберуч выграбаў з травы рэшткі накапанай зямлі. Вогнішча іх ужо дагарала, ледзьледзь свецячы па кустоўі дробнымі язычкамі агню.

— Ну, так! Даканчвай, а мы ў агонь падкладзём,— выціраючы аб траву рукі, сказаў Брытвін.— Дзмітры, а ну пашукай дзе дравішак!

Міця адразу ж падаўся на ўзровак, а Сцёпка тым часам завяршыў магілку.

На палянцы стала пуста і ціха, яна нібы папрасторнела цяпер без каня, без Маслакова, з невялічкім вогнішчам на краі, ля абрыву. Зрабіўшы ўсё, што можна было зрабіць у адносінах да мёртвага, Сцёпка адчуў сябе такім адзінокім, такім няшчасна-непатрэбным на гэтым свеце, як, мабыць, не адчуваў ніколі. Адзінае, што тут яшчэ вабіла яго, быў касцёр, хлопец падышоў да Брытвіна.

— Што, да ранку тут будзем?

— Пабудзем, да.

— А потым?

— А потым паспрабуем грымнуць,— сказаў Брытвін, стоячы на кукішках і зграбаючы ў доле недагаркі, якія ён кідаў у вогнішча. Спакваля на вуголлі весела заскакалі агеньчыкі, зблізку асвятліўшы сухі, нібы прасмалены,твар ротнага.

— Як гэта — грымнуць?

— Пабачыш як. План адзін маю.

Сцёпка пачакаў яшчэ, не дапытваючыся, думаў: скажа сам. Але той не сказаў, затаіў, што ўвогуле было ў ягоным характары, і Сцёпка змоўк, не ведаючы яшчэ, ці можна прымаць усур'ёз трохі саманадзейныя словы гэтага чалавека.

— Такі план маю, што ахнеш! Калі выгарыць, вядома. Сцяпан паныла моўчкі сядзеў, спадылба паглядаючы на Брытвіна і баючыся яшчэ паверыць яму.

Міця нешта бавіўся з галлём — спярша чуваць было яго шастанне па ўзроўку, а потым і яно сціхла. Сцяпан

паглядзеў туды, услухаўся і трохі занепакоена сказаў:

— Каб не збег. Паглядзець мо?

— Не збяжыць. Цяпер ён да нас як прывязаны. Сцяпан не паверыўг так ужо і прывязаны! Зрэшты, наўрад ці ён пабяжьвдь, пакінуўшы тут каня. І сапраўды, неўзабаве наверсе зашумела, зашорхала, і з цемры паказаўся сам Міця, які валок

звязанае вяроўкай бярэма галля. Брытвін з трохі не ўласцівым яму ажыўленнем узрадаваўся:

— От здорава! Цэлы воз! Такі і на кані не ўвязеш! Міця быў яўна падахвочаны пахвалой: маленькі і з выгляду трохі слабаваты на свае пятнаццаць год, ён, аднак, аказаўся на дзіва старанным у працы. Люба было глядзець на вялізнае бярэма, якое ён пагаспадарску ўпарадкаваў побач і акуратна зматаў вяроўку.

— На каня я воз во які кладу! — падняў ён руку вышэй свайго росту.

— Харашо, харашо. А каня як завуць?

— Каня? Рослік. Двухлетак ён, малады яшчэ, але ладны конік. А разумны які!

— Ну?

— Яй богу, Вот ад'едзеш куды, схаваешся, гукнеш:«Рослік!» — і бяжыць. А то як заржэ!

— Глядзі ты! Як дрэсіраваны.

— Ды ну! Хто яго дрэсіраваў.

— Гэта ж я ўсё даглядаю яго: і кармлю сам, і на выпас. У начлег тым летам вадзіў. Тады яго ў мяне немцы забралі. Раніцай вяду з Круглянскага лесу — едуць тры. Вярхамі. Ну і забралі. Думаў —усё: прапаў мой Рослік. Аж прыбягае ўночы. Чую —хрумстае хтось. Выходжу — ходзіць па двары, траву скубе. І повад нарваны.

— Да, замячацельны конь,— пагадзіўся Брытвін.

— Ага. Толькі стрэлу баіцца. Ляціць тады, як шалёны.

— Ну, хопіць хлапатаць — ідзі сядай, пагрэемся. Брытвін зняў з палак, мусіць, прасохлы ўжо шынелак і разаслаў яго на зямлі.

— Сядай во побач.

Відаць, ужо асвоіўшыся з партызанам і прывыкшы да ягонай увагі, Міця задаволена апусціўся на край шыняля цягнучы да агню скарэлыя рукі. Касцёр добра гарэў, пырскаючы іскрамі, наўкола стала горача, мокрыя рукавы хлопцавай світкі хутка задыміліся парай. Прытомлены і апануранаы Сцёпка самотна сядзеў збоч, вяла слухаючы ажыўлена-сцішаную гаману хлапчука. Твар у яго быў маленькі, нейкі сцяты, нібы дзіцячы кулачок, з якога піпкай тырчаў кірпаты нос. На доўгай, худой шыі з-пад світкі выглядваў зашмальцаваны зрэбны каўнер споднях кашулі.

— Слухай, а ты даўно малако возіш? — зацікаўлена пытаўся Брытвін.

— Ды з вясны. Як лёд сышоў. Спярша Кузьмоў зяць вазіў, але яго ў паліцыю забралі.

— За што забралі?

— А хто яго ведае. За нешта забралі.

— А тыя, што на мосце, цябе ведаюць?

— Паліцаі? Ведаюць, а як жа. Усё чапляюцца! «Водкі прывязі». Асобенна гэты Роўба, што забілі.

— Гарэлкі, значыцць? — раздумна перапытаў Брытвін.— Ну, на гарэлку яны любіцелі. А малако не чапаюць?

— Малако? Неа,— сказаў Міця і сарамліва заўсміхаўся сваім маленькім тварам.—

Я ў тое малако курачае ...сыплю.

— Ды ну? Дзеля тлустасці, мусіць? Маладзец! Усхапіўшыся ад нейкае думкі, Брытвін сеў, саўгануў на патыліцу пілотку. І раптам сказаў:

— Слухай, Міця! Хочаш мост узарваць?

Сцёпка ад здзіўлення ажно разявіў рот, але тут жа падумаў: а праўда ж — хлопец мог бы памагчы. Міця, з выгляду ніяк не ўражаны пытаннем, адказаў проста:

— Хачу. Каб было чым.

— Ну, гэта не твой клопат. Гэта мы пакумекаем. Калі ўдасца — табе найперш аўтамат. Той вунь, з якім Барада паехаў. Далей — правіцельсцвенная нагрsucc. Ну, і ў атрад, вядома, з ходу. Я сам парэкамендую.

Уважліва выслухаўшы Брытвіна, Міця ўздыхнуў.

— Мне галоўнае — каб у партызаны. Бо мне ўжо дома неяк...

— Гэта чаму?

— Бацька ў мяне... Ну, і хлопцы ў вёсцы чапляюцца. Мне ўжо неяк стала.

— Так, зразумела. За атрад я ручаюся. Цяпер слухай мой план. Проста і ясна,— сказаў Брытвін, але змоўк і раздумна паглядзеў у агонь.— Хаця, ладна. Хай Даніла прыедзе.

«Ну, што ж, хай прыедзе. Калі толькі ён прыедзе?» — расчаравана падумаў Сцёпка, які ўжо быў сабраўся пачуць план Брытвіна. Але той усё таіўся. Размова іх на тым перарвалася, стала ціха. Ад нерухомасці Сцёпку пачала адольваць дрымота; вогнішча прыгравала твар і грудзі, а спіна стыла. Мусіць, нацёртыя мокрым каўняром, разбаleліся скулы на шыі. Сцёпка падумаў, што трэба б перавязаць шыю, ды не было чым. Боты і калені яго былі ў гразі, рукі таксама. Каб прагнаць дрымоту, хлопец устаў.

— Ты куды? — зірнуў праз дым Брытвін.

— Рукі памыць.

Унізе, у беспрасветнай цемры кустоўя, булькатаў ручай. Шукаючы здатнай для спуску мясціны, Сцёпка пайшоу краем прагаліны, пакуль не наткнуўся на свежую, сіратліва аціхлую пад алешнікам магілку, і аж схамянуўся ў недаўменні. Ён усё не мог зразумець чагось і ніяк не мог прыняць гэту недарэчную смерць. Сённяшняе яму здавалася благім сном. Хацелася спадзявацца, што міне ноч і ўсё зробіцца як раней: ён убачыць жывога, рухавага Маслакова, які з добрай усмешыстасцю зноў гукне яго на заданне.

Хапаючыся за галлё, Сцёпка збег да ручая. Тут было сыра і холадна. Нешырокі струмень вады старанна мыў слізкія камяні. Хлопец намацаў нагой адзін і схіліўся.

Не, Брытвін не такі. Ён жорсткі, нядобры, але справу сваю, здаецца, ведае. Гэты не спудлуе, думаў Сцяпан, апускаючы ў сцюдзёную ваду рукі. Яму надта хацелася цяпер удачы; пасля перажытага ён гатовы быў на новыя пакуты і рызыку, абы толькі расквітацца за іх няўдачу.

## 12

Даніла прыехаў ранкам, калі праяснілася неба над ровам і ў галлі навакол ваўсю ішла світальная птушыная гамана: цвіркатанне, цоканне, пасвіст. Акрай прагаліны ў шэрай кучы вуголля ледзь цепліўся агеньчык, стала халаднавата; яны ўсе трохі падрамалі. Аднак конскі фыркат на ўзроўку адразу прагнаў дрымоту. Угары зашастала кустоўе, пачулася знаёмае глухое: «Стой ты, халера!» Дзеручы нагамі зямлю, з шэрых прыцемак на палянку ссунуўся рыжы запараны Рослік.

Міця першы падскочыў да каня, залашчыў яго, гладзячы па шыі. Рослік задаволена стрыг вушамі і касіў блішчастае вока на Сцёпку. Сцёпка, аднак, глядзеў на ўзровак, як і Брытвін: там, няпэўны яшчэ ў ранішнім паўзмроку, цяжка варушыўся Даніла. Спярша яны не зразумелі, чаму ён затрымаўся, а пасля ўбачылі

ў яго, сагнутага, нейкую ношу ў руках.

Злезшы з узроўка, Даніла цяжка асадзіў долу амаль пад завязку напханы чымсь мех.

— Вось! Ледзьве давёз, халера. Мокры, ці што?

— Як мокры?

Брытвін быў ужо побач, абое яны схіліліся над мехам. Даніла апусціўся на калені і кіпцюрамі пачаў калупаць тонкую вяровачку завязкі. Сцёпка, ды і Міця, ад якога не адступаўся Рослік, стаялі насупроць.

Тым часам ужо без агню стала відаць уся прагаліна — шэрая, як і ўсё ў гэты світальны час, з расплывістымі ценямі людзей, каня; змрок паволі спаўзаў пад кустоўе, да ручая; неба ўгары ўсё яснела густым вясёлым блакітам — ранак збіраўся быць сонечны.

Даніла развязаў мех.

— Што такое? — адразу вырвалася ў Брытвіна. Запусціўшы руку ў мех, ён дастаў адтуль жменю нейкіх жаўтаватых драбкоў, угледзеўся, нават панюхаў. Выгляд ягонага твару быў амаль што разгублены.

— Што ты прывёз?

— Ды гэта самае... Тол. Ці як яго...

— Якога хрэна тол? Аманіт? — сярдзіта запытаў Брытвін, шырэй разгортваючы край мяшка.

— Ну. Аманіт бытта. Так казалі.

— Дзярмо! Я думаў — тол. А гэтым што зробіш? Рыбу глушыць?

Даніла вінавата стаяў збоч, пашкроб за каўняром, потым пад ватоўкай, за пазухай.

— Казалі, бахае. Карчы ім на дзялянках ірвалі. Дык нейкую сілу мае.

Брытвін маўчаў — з яўным недаверам на твары ён даследаваў аманіт: адламаў дробку, раскрышыў яе ў пальцах, зноў панюхаў і зморшчыўся — ад паху ці ад расчаравання. Сцёпка, са спадзяваннем гледзячы на яго, пераборваў у сабе сумненне: няўжо не ўдасца? Так усё добра сышлося: і Міця, і ахова, няўжо ж падвядзе ўзрыўчатка?

— Падмочаны? Ну да. Зляжаўся, як гліна. Эх ты, галава калматая, купаў ты яго, ці што?

— Чаму купаў? У яме ляжаў — дык вільгаці набраўся.

Брытвін штось пашукаў наўкола вачмі.

— А ну дай шынель!

Міця паслухмяна збегаў да вогнішча па шынелак, і Брытвін шырокім рухам распластаў яго на траве.

— Высыпай!

Даніла вываліў усе з меха — на шынялі аказалася ладная куча жоўтае, з камякамі мукі, ад якой курэла рудым смярдзючым пылам. Усе чацвёра абступілі яе, Сцёпка таксама памацаў некалькі сыраватых драбкоў, якія лёгка раскрышыліся ў пальцах.

— Ладна. Сушыць трэба! — падабрэла рашыў Брытвін.— Дзмітры, сядай на каня і дуй па малако. Дарога дзе?

— Якая дарога? — не зразумеў хлопец.

— Дарога, па якой возіш. Дзе, далёка адсюль?

— Не дужа каб. Можна выехаць. Па кусціках.

— Давай! — прыспешыў Брытвін.— Мы чакаем. А тады дамовімся.

— Добра.

— Толькі глядзі: каб ніхто ні-ні!

— Ну.

— Ні адна душа каб не сніла, не бачыла. А не — дык...

— Знаю. Што я — не разумею? — гатовы быў пакрыўдзіцца Міця.

Невялічкі і рухавы, ён павалок за сабой на ўзгорак коніка, які, цяжка хакаючы, каторы ўжо раз адолеў круты касагор. Кусты хутка схавалі іх, недзе там пачулася ціхае «тпру», потым тупат капытоў па сцежцы.

Брытвін павярнуўся да Сцёпкі.

— Давай па галлё! Паболей. Сушыць будзем.

— Як сушыць? — заморгаў вачмі Даніла.— Ля агню?

— На агні! — адрэзаў Брытвін.

Даніла зусім знерухомеў.

— А гэта самае... не ўзарвецца?

— Не бойся. А ўзарвецца — не вялікая бяда. Ці жытухі шкада?

Замест адказу Даніла валюхаста пераступіў з нагі на нагу і пасунуў наперад сваю процігазную сумку. Там нешта грувасцілася, камякамі выпіраючы ў бакі, напяты раменьчык быў зашпілены на апошнюю дзірачку. Адшпіліўшы яго, Даніла дастаў ладны акрайчык хлеба.

— А, гэта маладзец. Здагадлівы.

— І во яшчэ — задаволена буркнуў Даніла, варухнуўшы сумкай, з-пад вечка якой тырчала рыльца бутэлькі з самадзельнай папяровай затычкай.

— Атлічна! Толькі пасля. Не цяпер. Давай болей галля! Усе па галлё! — бадзёра камандаваў Брытвін.

Сцёпка, глытнуўшы сліну, раптам на ўсю глыбіню адчуў свой пусты жывот і з неахвотай адарваў позірк ад Данілавай сумкі, якую той асцярожна паклаў ля шыняля.

Аўтамат ён, пэўна, не збіраўся аддаваць і нават не знімаў яго з-за спіны. Сцёпку гэта пачало не падабацца, і ён ступіў да Данілы.

— Аўтамат давай!

Даніла павярнуўся, зірнуў на хлопца, потым, бы шукаючы падтрымкі, — на Брытвіна.

— Ну, што глядзіш! Здымай, кажу!

— Ладна, аддай,— прымірэнча сказаў Брытвін. Нехаця Даніла сцягнуў аўтамат цераз галаву, сапхнуўшы на траву шапку.

Яны палезлі на ўзровак, бо паблізу ўжо ўсё было падабрана за ноч, ламачча трэба было шукаць далей. Даніла ў акуратнай ватоўцы і ботах зрабіўся зусім не падобны на сябе ранейшага, у сялянскім адзенні і ў лапцях. Набыўшы нейкі не ўласцівы яму зухаваты, вайсковы выгляд, ён нібы памаладзеў, хоць па-ранейшаму не траціў страхавіта-пагрозлівага выразу свайго касмылявага твару. Але касмылявасць не была навіной, многія насілі бароды і вусы, асабліва старэйшыя.

Яны вылезлі з рова. Сцёпка трохі пакрыўджана маўчаў, Даніла, мусіць, адчуўшы тое, адсопся і запытаў:

— Міну тэй хлопец павязе?

— А я адкуль знаю?

— Брытвін не казаў?

— Мне не казаў,— буркнуў Сцяпан, не маючы ахвоты гаварыць з гэтым чалавекам.

Даніла дабрадушна згадзіўся:

— Гэты не скажа. Але я бачу...

«Бачыш, ну, і ладна»,— падумаў Сцёпка, забіраючы ўбок ад яго. Яны разышліся па парасніку. За ноч трава ў

доле трохі падсохла, лес таксама зрабіўся сушэйшы і болей прыветны, хоць сцюдзёныя кроплі нене ды апякалі за каўняром скуру. Месцамі тут раслі елкі з бярозамі, і скрозь раскашаваў абмыты дажджом алешнік, у якім дзе-нідзе зелянелі густаватыя купкі ядлоўцу. Сушняку тут хапала. Сцёпка хутка назбіраў бярэма, прыхапіў за камель ссечаную сухую яліну, павалок за сабой.

Тым часам у рове на сярэдзіне прагаліны ваўсю ўжо гарэла новае вогнішча, у якое Брытвін кідаў прынесены Данілам сушняк. Даніла ж яловымі лапкамі, як памялом, размятаў затухлае начное вуголле.

— Давай сюды!— прыпыніў хлопца Брытвін.— Бяры і падкладвай, каб зямля грэлася. Будзем аманіт смажыць.

Падкладваючы ў агонь, Сцёпка з прыцішанаю асцярогай пазіраў, як яны там, на выгаралай чорнай плешыне, разаслалі распоратую ўдоўж тарбіну і ссыпалі на яе раскрышаныя жаўтлявыя камякі аманіту. Неўзабаве ад гэтых камякоў пацягнула парай і нейкім удушлівым, рэзкім смуродам. Даніла жмурыў вочы, а пасля, кінуўшы ўсё, пачаў аберуч церці іх. Брытвін грубавата падбадзёрваў зводдаль:

— Нічога, нічога! Жывы будзем! Хіба вошы падохнуць.

— А хай яго! Як усё роўна цыбуля!

Наўсцяж па рове папоўз удушлівы серны смурод; добра, што ранішні ветрык гнаў

яго, як і дым, нізам, па ручаі; на адным краі прагаліны можна было трываць. Цяпер справа была за часам. Пазіраючы, як сохне на гарачым подзе іхняя ўзрыўчатка, Брытвін з Данілам селі ўбаку, і Даніла ўзяўся за сумку.

— Ты, ідзі сюды! — паклікаў Брытвін.

Сцёпка рабіў выгляд, што заняты вогнішчам, і яшчэ паклаў туды дзве галіны, хоць зноў пакутна глынуў

сліну. Брытвін зласнавата гукнуў:

— Ну што — прасіць трэба?

Знарок нетаропка, бы нехаця, ён падышоў і атрымаў з Данілавых рук цвёрды ражок акрайца.

— І давай палі. Гэты астыне — на той перакладзём. А то скора Дзмітры прыедзе,— гаманіў Брытвін.

Сцёпка вярнуўся да вогнішча і незаўважна праглынуў усё — хлеб быў такі смачны, што, здавалася, з'еў бы ўвесь акраец. Падкладваючы ў агонь галлё, ён неўпрыцям кідаў позіркі на іх двух. Аманіт у грудцы на мяху, здаецца, памалу сох, быццам і смярдзеў ужо меней. Раз-поразу Даніла памешваў яго палкай, Брытвін, пазіраючы за ім, гаманіў:

— Мы ім зробім салют! Харашо, гэты хлопец папаўся. Хлопец — находка. А ну давай паварочай сярэдзіну!

— Ай-яй, хай ён згарыць! — хутка заенчыў Даніла, адварочваючы твар і смешна моршчачы таўставаты, бульбінай нос. З рудаватых грудак зноў заструменіў жоўты смярдзючы дым.

— Нічога, не смяртэльна. Затое грукне, як бомба.

— Каб жа хоць грукнула! — Даніла кінуў палку і абедзвюма рукамі пачаў церці вочы.

— Грукне, а як жа! Гэта вам не банка бензіну... Смехата: каністрай бензіну захацелі мост знішчыць! А яшчэ казалі: Маслакоў — вопытны падрыўнік. Падрыўнік ён, аказваецца, ліпавы. Пабег, як дурань, завідна... На што разлічваў? Без разведкі, без апоры на мясцовых! Без мясцовых, брат, не шмат зробіш. Гэта точна.

— А можа ён не хацеў нікім рызыкаваць,— азваўся зводдаль Сцёпка.

— Рызыкаваць? Знаеш ты, разумнік, што такое ванна? Спрэс рызыка. Рызыка людзьмі. Хто разумней рызыкуе,

той і пабяждае. А хто ў розныя там прынцыпы гуляе, той вунь дзе! — Брытвін паказаў на прагаліну. Твар яго расчырванеўся, стаў злы, і Сцёпка пашкадаваў, што не змоўчаў: сварыцца з Брытвіным цяпер не хацелася.

— Ты зялёны яшчэ, дык я табе скажу: слухаць старэйшых нада,— сказаў ён памаўчаўшы.— Вунь у нас прошлай зімой адзін балван таксама ў благародства надумаў сыграць, ледзь таварыша на той свет не адправіў. Бач, прынцып яго заеў!

**13**

Брытвін адышоў за тры крокі ад агню і сеў, падкурчыўшы перад сабой ногі.

— Цярпець не магу гэткіх разумнікаў. Проста злосць бярэ, калі пачую, як каторы вылупляецца. Трэба дзела дзелаць, а ён пачне рассуждаць: так ці не так, правільна —

няправільна. Не дай бог, калі хто нявінны пастрадае! Пры чым нявінны — вайна! Надта немцы вінаватых шукаюць? Яны, знай, б'юць! А мы рассуждаем: добра, нядобра... Быў адзін такі. У Капылова. Можа хто помніць — усё ў акулярах хадзіў?

— У нямецкім шынялі? Худы такі, га? — запытаўсяДаніла.

— Да, худы. Здыхлаваты чалавек, не такі малады, настаўнік, здаецца. Не, не настаўнік — інспектар района. Вось забыў яго фамілію: ні то Ляховіч, ні то Ляўковіч.

Я яшчэ ўвосень кацялок яму трафейны даў — свайго ж не меў, вядома. А акуляры ў яго на драцінках замест дужак, адно шкло трэснута. І то сляпы. Перш чым што ўбачыць, доўга ўглядаецца. Вочы вылупіць і глядзіць-глядзіць. Адзін раз на пераездзе на немцаў наткнуліся, абстралялі і цікаць. А ён стаіць на каленях і ўзіраецца. «Не можа быць,— кажа,— каб гэта немцы».— «Цікай,— крычу,— пакуль кулю ў зад не ўсадзілі!» Не, пакуль не

ўбачыў, як за будкай перабягаюць самыя стопрацэнтныя фрыцы з аўтаматамі, не пабег.

Не чалавек, а недацёпа, яй богу. А так, здаецца, і не дурны, вышэйшая адукацыя. А можа ўсё гэта праз адукацыю? На вайне яна непатрэбна. Раз паслалі яго ў Гумялёва нейкага тамашняга паслугача прыкончыць. Чаму яго? Бо знаёмыя там былі ў яго, сувязі. Вабшчэ, у тых месцах сувязі ў яго былі крэйкія. У кожнай вёсцы свае. І да яго няблага адносіліся. Ніхто не прадаў ні разу, пакуль сам не ўскочыў. Ну, але гэта пазней ужо, зімой. А тады пайшоў з напарнікам. Напарнікам быў Сураў, акружэнец. Рашучы хлопец, але трохі таго, за гальштук любіў закінуць. Потым ён вярнуўся і адмовіўся болей з гэтым хадзіць. Дурны, кажа, або кантужаны. Тады гэты Ляховіч так удала ўсіх абышоў (жанчына там адна памагла), што да гэтага запраданца проста на кватэру з'явіўся. У кішэні парабел, дзве гранаты, аховы ў двары ніякай. Напроці на лавачцы Сураў сядзіць, семкі лускае — страхуе, каб не перашкодзілі.

І што ж думаеце: хвілін праз пятнаццаць вывальваецца, разводзіць рукамі — маўляў, не выйшла. У лесе ўжо расказаў, як было. Аказваецца, дзіця перашкодзіла. Разумееце: паліцаяў абвялі, СД, гестапа, бабу яго (таксама, сучка, ва ўправе рабіла), а дзіця перашкодзіла. І дзіцю таму гады два. Апраўдваецца: з дзіцем на ложку сядзеў, карміў, і гэты дурань не наважыўся ў яго кулю ўсадзіць. Ну, гэта ж трэба! Вы чулі такое?

Не, мабыць, такога яны не чулі і не бачылі. Тым не менш, тое, што абурала Брытвіна, не выклікала ў Сцёпкі ніякай рэакцыі. Наадварот, чымсь той Ляховіч нават здаўся яму сімпатычным.

Брытвін на хвіліну задумаўся, успамінаючы.

— А другі раз зноў кавфуз выйшаў. Хадзіў недзе на жалезку, ды няўдала. Налезлі на фрыцаў, ледзьве з засады вырваліся. Далі кругаля, выйшлі на дарогу, усе злыя, як чэрці,— вядома, няўдача. І тут, мінаючы адну

вёсачку, ужо ў партызанскай зоне, чуюць: у кустах гергочуць. Прыгледзеліся: немцы машыну з гразі штурхаюць. Вялізная такая крытая машына буксуе, а штук пяць фрыцаў уперліся рукамі, піхаюць, па баках не глядзяць. Ну, хлопцы, натуральна, узрадаваліся, кажуць: ударым! Ляховіч гэты — ён старшым быў — агледзеўся, памеркаваў. «Не,— кажа,— нельга. Вёска

блізка». Маўляў, машыну знішчым вёску агнём пусцяць. Так і не даў каманды. А немцы вывалаклі машыну, селі і газанулі.

Даніла з Сцёпкам маўчалі. Адхінуўшыся ад смярдзючага дыму, Даніла ўсё моршчыў расчырванелы, у чорным валассі твар, адным вокам пазіраючы на ўзрыўчатку. Сцёпка ж дбайна напякаў зямлю, роўным кругам расклаўшы на доле цяпельца. Трава навокал яго шырока абгарэла. Аднак касцёр дагараў: канчаўся сушняк. Хлопец паскідаў у сярэдзіну канцы-галавешкі, якія ціха курэлі апошнім агнём.

Устаўшы са свайго месца, да яго падышоў Брытвін. Распяразаны, у ботах і ладным, хоць і пацёртым, цёмна-сінім галіфэ, ён выглядаў цяпер нібы сапраўдны кадравы камандзір, хіба што без знакаў адрознення.

— Ну, пажалуй, нагрэлася. Давай адграбай. Барада, нясі рэшту сюды. Падбяры з краёў.

Сцёпка голлем старанна адмёў у адзін бок прысак, і яны насыпалі на пыльную гарачую выгарыну нятоўсты слой аманіту.

— Так. Хай грэецца. І мяшай, мяшай, няма чаго глядзець!

Цяпер настала Сцёпкава чарга задыхацца і плакаць ад смярдзючай едкасці. Разы два, не стрываўшы, ён ажио ўцякаў падалей глынуць чыстага паветра. Брытвін адышоўся ў надветраны бок і зноў усеўся на сваім пакамечаным шынялі.

— Але гэта што,— лагодна казаў ён, усё яшчэ ва ўладзе

сваіх успамінаў.— Гэта што! Во ён у круглянскай паліцыі выкінуў фокус. Гэта ўжо зусім дзіва. Самая бязглуздая дурасць.

— Казалі, гэта самае, бытта павесілі яго? — спытаўсяДаніла.

— Ну. Павесілі. Прапаў нізашто. А Шусцік, каторыз ім папаўся, той і цяпер у Ягорава бегае. Пусцілі. Спярша думалі: хлусіць. Думалі: завербавалі. Ды праверылі праз сваіх людзей — не, праўда, Шусціка пусцілі, а Ляховіча павесілі. І, думает, за што? За прынцып.

— Як гэта? — не зразумеў Сцёпка.

— А так. Злапалі іх у Пракопавічах на начлезе. Як гэта сталася — не ведаю. Факт: прывезлі ў мястэчка ў паліцыю і здалі. А начальнікам паліцыі там быў адзін прыблуда з белагвардзейцаў. Знюхаўся некалі, ну, і служыў, хоць і з нартызанамі заігрываў — вядома, свае разлікі меў. Во яшчэ піў здорава. Расказваюць: хоць шнапсу,хоць чыміргесу — кварту за раз кульне, і ніякай закусі.А пісталет дастане і за дваццаць крокаў у курыцу — цюк!Галава прэч, і рэзаць не трэба.

Дык гэты паліцай, мабыць, змікіціў, хто такія, а віду не падаў, павёў да шэфа. А шэф такі стары ўжо немец быў, сівы і трохі з прыдурам — усё баб каціным крыкам палохаў. Бабы наўцёк, а ён рагоча. Лічылі яго дурнаватым, але калі справа даходзіла да экзекуцыі, не пудлаваў. Звераваў нароўні з усімі.

Дарэчы, гэты Ляховіч з Шусцікам, калі іх бралі, аружжа сваё недзе прыхавалі, сказалі: маўляў, акружэнцы па вёсках хадзілі, на хлеб зараблялі. Невядома, што белагвардзеец шэфу далажыў, але той паставіўся не строга, Шусціку толькі даў

палкай па горбе. Паліцай і кажа: «Кланяйцеся, прасіце пана шэфа, можа даруе». Шусцік, як расказвалі, не чакаў угавораў, адразу немцу ў ногі, лбом як грукне ў падлогу, ажно гузак ускочыў. Паліцаі, іх некалькі чалавек было, ухмыляюцца; немцу прыемна, рагоча.

«Прызнаеш уласць вялікага фюрэра нямецкага народа Адольфа Гітлера?» — «Прызнаю,— кажа,— паночку, як не прызнаць, калі ўвесь свет заваяваў». Гэта спадабалася, немец паказвае на Ляховіча: а той, маўляў, прызнае? Паліцай перакладае, а ён маўчыць. Маўчаў, маўчаў, а пасля кажа: «На жаль, я не магу гэтага прызнаць. Гэта не так». Немец не разумее, пaглядвае на паліцая. Паліцай шыпіць: «Не прызнаеш — памрэш сёння ж!» — «Магчыма,— адказвае,— але памру чалавекам, а ты будзеш жыць скацінай». Хлёстка, праўда? Прыгожа, як у кіно, ды што карысці. Немец без перакладчыка здагадаўся, у чым справа, і як гыркне: «Аднаго вэк, другога на вяз!» На вязе тым вешалі. Павесілі і Ляховіча. Ну, хіба не дурань?

**14**

Як паставіцца да гэтай гісторыі, Сцёпка не ведаў: калі верыць Брытвіну, дык Ляховіч сапраўды дурань — які там прынцып у адносінах з немцамі. Мусіць, трэба як мага хітрыць, каб абдурыць іх, бо, не абдурыўшы, не паб'еш — паб'юць яны. А яны літасці не знаюць, для іх усе сродкі здатныя, абы перамагчы. Аднак гняўлівая рэзкасць Брытвіна ў асуджэнні Ляховіча ўвогуле спадабалася Сцёпку, і ён з маўклівай задаволенасцю падумаў, што Брытвін — не Маслакоў; гэты, мабыць, свайго дабіцца ўмее. Пойдзе сам і пагоніць усіх на мост, Міцю таксама. Але што ж, калі трэба, дык трэба. Зусім магчыма, што ім прыйдзецца сербануць ліха, і хай. Толькі б удалося.

Стоячы на кукішках, ён старанна памешваў аманіт, які хоць і смярдзеў — аж блажыла,— але нібыта сох. Узяўшы адзін драбок з тых, што былі найбольш мокрыя, хлопец, бы гарачы вугольчык, перакінуў яго з далоні на далонь, паспрабаваў раструшчыць. Дзе там: спёкся, як камень.

— Высах ужо.

— Ладна, хай яшчэ паляжыць,— сказаў Брытвін.— Не зашкодзіць. Усё роўна Дзмітра няма.

Над ровам ужо ўспаўзло сонца; узровак, край прагаліны і кустоўе над ею ярка заззялі ў святле; патроху стала цяплець, Брытвін санліва расцягнуўся на шынялі, паглядзеў у высокае, з рэдкімі аблокамі неба.

— Значыць, так,— раптам сказаў ён і сеў.— Эй, Барада, шчэ храпець пачнеш!

Ён штурхануў нагой залапленае калена Данілы, той расплюшчыў сонныя вочы і, паволі заварушыўшыся, таксама сеў.

— Значыць, так. Некаму трэба падабрацца да моста. Кусцікі там ля ракі, я ўчора бачыў: падход харошы. Задача: у случаі чаго падтрымаць агнём. Хто пойдзе?

Даніла, відаць было, адразу пазбыўся сну і маўкліва ўтаропіў кудысь у дол свой позірк: мабыць, думаў, што б гэта для яго магло значыць. Сцёпка таксама маўчаў: навошта напрошвацца самому? Справа тая, мусіць, не дужа вясёлая; каго пашлюць, той і пойдзе.

— Так,— сказаў Брытвін.— Ну, тады ты, Тоўкач. Падкрадзешся і замры. Паняў?

Сцёпка маўчаў. Ён быў гатовы, калі гэта выпала на яго долю. Хоць тое, што Брытвін цяпер звярнуўся іменна да яго, маленькай крыўдай закранула хлопца. Ён усё ж не падаў выгляду, нібы нічога і не меў супроць. Тым не менш Брытвін нешта, мабыць, заўважыў.

— У цябе ж аўтамат. Ці можа аўтамат Барадзе аддаць? Тады ён пойдзе.

— Не ўжо, не аддам.

Яны яшчэ пасядзелі хвілін пятнаццаць. Аманіт, мабыць, пачаў ужо астываць, як Брытвін ускінуў галаву — на ўзроўку з'явіўся Міця. Хапаючыся за вецце, хлопец імкліва збег аж да нізу. Брытвін ускочыў з трывогай на твары, але Міця, ажыўлены і спатнелы, усё ў тым жа чорным картовым пінжачку, супакоіў:

— Ну, усё гатова.

— Маладзец,— сказаў Брытвін.— Дзе падвода?

— Тут, у кусціках. Прыпазніўся толькі, але нічога.

— Так! — Брытвін азірнуўся.— Тоўкач, марш з ім да воза, з аднаго бітона малако вэк, бітон сюды. Колькі ў цябе бітонаў?

— Тры.

— Двух хопіць. Адзін пойдзе на міну.

Міця неяк з няёмкасцю пераступіў босымі нагамі.

— Тут от... паесці вам.

Аберуч ён выдраў з тугой кішэні нейкі пакунак, загорнуты ў чыстую кужэльную анучку, аддаў Брытвіну. А той толькі і ведаў, што хваліць ды з трохі фальшывай празмернасцю захапляцца хлопцам:

— Маладзец! Проста герой! Ну, дабро. На, Барада, у тваю сумку.

Даніла пачаў запіхваць сняданак у сумку, а Сцяпан з Міцем таропка падаліся на ўзровак.

Міця бег наперадзе. Яго босыя, пасіверыя пяткі рупна мільгалі па мокрай траве, невялічкая галава ў чорнай зашмальцаванай кепцы, бы ў вараняці, зырка снавала на шыі туды-сюды — праз радкаваты алешнічак было відаць далёка. Сцёпка, аднак, прывык ужо за ноч да рова і схілу і, як на знаёмай мясцовасці, амаль не адчуваў небяспекі.

Ён думаў над тым, што сказаў Брытвін,— стараўся зразумець яго план, але зразумеў не многа. Былы ротны ўсё нешта хітрыў з імі, намякаў, а па сутнасці — таіў ад іх сваю задуму — дзеля сакрэтнасці, ці што? Калі Сцёпку пасылаюць на прыкрыцце, дык, выходзіць, самі паедуць на мост? Але ці не мала будзе іх двох, каб зладзіць з аховай, якая цяпер, пасля ўчарашняга выпадку, мабыць, набралася пільнасці і, вядома, спаць у шапку не будзе. Зноў жа, паліцаі іх убачаць, мабыць,

здалёк, і мала што ведаюць Міцю, але іншых могуць западозрыць і не падпусціць блізка. Тады што рабіць?

Гэты брытвінаўскі план з малакавозам ужо ў самым пачатку выглядаў не надта пераканаўча.

Рослік стаяў непадалёк, забіўшыся ў ляшчыннік разам з калёсамі, на якіх, увязаныя вяроўкамі, блішчалі белыя бакі трох бітонаў. Мабыць, недзе паблізу была дарога, бо Міця сцішана палашчыў прывязанага за куст каня і моўчкі ўскочыў у воз. Удвух яны ледзьве саставілі крайні бітон на зямлю. Пад рукамі цяжка боўтала, запахла сырадоем, статкам, і калі хлопец адчыніў вечка, Сцёпка ажно сумеўся: стольні малака трэ было выліць.

— Пі. Хочаш? — прапанаваў Міця.

Піць Сцяпан зусім не хацеў — хацеў есці, але цяпер не стрымаўся. Укленчыўшы, ён наглыкаўся, колькі змясціў ягоны пусты жывот, хоць асаблівае асалоды не адчуў: іншая справа, каб быў хлеб.

— Ну, што? Выліваем?

— Давай.

Яны нахілілі пасудзіну і, абліваючы белымі пырскамі ногі, пусцілі па траве духмяны малочны ручай. Падняўшы на сабе сухое лісце, галінкі, featureрознае ляснoё смецце, малако шырока расцяклося ў кустоўі.

Парожні бітон здаўся даволі лёгкім. Сцёпка ўзваліў яго на плячо і пашыбаваў у алешнік. Міця бег побач.

— А ў ім колькі патронаў? — спытаў на бягу хлопец.

— Дзе? — не зразумеў Сцёпка.

— Ну, у аўтамаце гэтым.

— А-а. Семдзесят у адным магазіне.

— Ого! Гэта семдзесят чалавек можна пакласці! Бокам лезучы праз ляшчыннік, Сцёпка трохі падзівіўся

вайсковай недасведчанасці хлопца і цярпліва вытлумачыў:

— Семдзесят, гэта калі адзіночнымі стрэламі. І то калі лучаць усімі. А калі чэргамі, дык дай бог дзесятак.

— А астатнія міма?

— А ты думаў? Немцы ж таксама не дурні, мух лавіцьне будуць.

— Нада ляпей цэліцца,— заключыў Міця.— А ў вінтоўцы пяць толькі?

— Ну.

Ідучы наперадзе, Міця засцярожліва адхінуў галіну, прапускаючы Сцёпку, і азірнуўся.

— А ў гэтага, камандзіра вашага, самазарадка, га?

— У Брытвіна? Самазарадка.

— Харошая вінтоўка?

— Калі спраўная. А калі заесць — бяры палку.

— А аўтамат не заядае?

— Калі як,— знарок няпэўна сказаў Сцяпан, пасоўваючы на плячы ношу. Роспыты гэтага хлопца пачалі дакучаць, тым болей, што той надта ўжо выразна паглядваўна яго новенькі ППШ, а яго Сцёпка не меў намеру ўступаць нікому.

Размова на тым спынілася. Яны злезлі з узроўка, і Сцёпка глуха гэпнуў бітон перад Брытвіным.

— Харашо! Барада, нясі ўзрыўчатку!

Рабіць міну Брытвін узяўся сам, не даяраючы гэтае справы нікому. Побач на шынялі ўжо ляжаў узяты ноччу ў Маслакова паўметровы абрэзак бікфордава шнура, злучаны з жоўценькім цыліндрыкам узрывальніка.

Зрэшты, начыніць міну было не складана. Праз дзесяць хвілін Брытвін насыпаў да палавіны бітона аманіту, асцярожна ўставіў у яго нутро ўзрывальнік, канец шнура выпусціў цераз край.

— Гарэць будзе пяцьдзесят секунд. Значыць, трэба падпаліць, метраў трыццаць не даязджаючы да моста.

Мабыць, для лепшай дэтанацыі, ці што, ён дастаў з кішэні і гранату — жоўтае нямецкае «яечка» з рубчыкам — і таксама паклаў усярэдзіну. Пасля пад самае вечка напхаў у бітон аманіту.

— Ну во, і гатова. На сярэдзіне моста з воза вэк і пугай па кані. Пакуль паліцаі апомняцца, ірване за мілую душу.

— А хто павязе? — запытаў Сцёпка, сціпла стоячы побач з цікаўным, поўным таямнічае ўвагі Міцем.

Брытвін нібы знарок не зразумеў пытання.

— Як хто? — зыркнуў ён на Сцяпана строгімі вачмі. І раптам амаль закрычаў: — А ты яшчэ не пайшоў? А ну бягом, куды я сказаў! Паняў?

— Я-то паняў.

— Ну, і давай! І мы зараз едзем. А то, бач, сонца дзе.

Сцёпка ямчэй паддаў на плячы аўтамат і зноў палез на адхон. Наверсе, перш чым схавацца ў лесе, ён азірнуўся. Між кустоўя ўнізе выглянуў напаследак зялёны лапік іхняй прагаліны з дзвюма плямамі ад вогнішчаў і накапанай зямлёй на краі. Тры невялічкія здалёку постаці тоўпіліся над блішчастым бітонам, таксама гатовыя неўзабаве пакінуць гэтае прыстанішча, каб можа ніколі больш не з'явіцца сюды. Адзін толькі небарака Маслакоў навек заставаўся ў гэтым рове, які так нечакана стаў для яго апошнім прытулкам на гэтай зямлі...

Дачакаўшыся за альховаю купкай, калі вартавы на мосце паверне ў другі канец, Сцёпка куляю матлянуўся за кустоўем і ўпаў ледзь не пад самаю крайняй чародкай маладога алешніку — за якіх сто крокаў ад насыпу.

Некалькі хвілін ён цяжка, зморана соп, распластаўшыся на амаль голай тут, не зарослай яшчэ травою, чорнай зямлі, і ва ўсе вочы глядзеў на дарогу.

Самае найгоршае, здаецца, мінула: ён падабраўся да моста, і, мабыць, яго не заўважылі. Праўда, за вярсту адсюль ён незнарок наткнуўся на нейкага дзядзьку ля рэчкі — па той бок, мабыць, была сцяжына: неспадзеўкі з-за хмызняку выткнуўся чалавек у шэрай суконнай паддзёўцы, з пугаўём у руцэ. Раздзеленыя нешырокай рачулкай, яны спаткаліся позіркамі, абое трохі схамянуліся ад нечаканасці, але Сцёпка хуценька і моўчкі праскочыў міма і схаваўся ў радкаватым прыбярэжным

кустоўі. Чалавек таксама ні пра што не спытаўся, толькі зацяў у сабе здзіўленне, ці можа і спалох, і памалу пайшоў па беразе рачное крывуліны. Мабыць, трэба было б прасачыць за ім, ды не было калі — Сцёпка і так баяўся спазніцца з выхадам да моста і, як апантаны, імкнуўся наперад, хоць і адчуваў што ў такой спешцы надта проста было дастукацца бяды. Пакуль жа, аднак, усё абышлося: яго не затрымалі, ззаду нікога не было відаць.

Да моста адсюль было так блізка, што аж рабілася страшна. Ён ужо мог крамсануць па ім з аўтамата, хоць, вядома, цяпер лепш было мець вінтоўку: з яе куды зручней было зняць вартавога, які, між тым, лена сноўдаўся сюды-туды між парэнчаў. На сярэдзіне ненадоўга спыніўся, паглядзеў уніз, плюнуў і з блазенскай цікаўнасцю прасачыў, як плявок плюхнуўся ў ваду. На плячы ў паліцая вісеў нямецкі карабін, які ён раз-поразу папраўляў аберуч. Калі паліцай адварочваўся, Сцёпка бачыў яго вузкаватую спіну ў цеснай чорнай куртцы і светлую стрыжаную патыліцу пад чорнай, з кантам пілоткай — быў ён гліставаты,

малады — мабыць, не надта старэйшы за Сцёпку. Гэтага вартавога хлопец угледзеў яшчэ здалёк, з кустоўя, і падумаў спярша, што ён тут адзін. Але потым да алешнічку данеслася ціхая гамана на дарозе, аднойчы нават пачуўся лязгат рыдлёўкі аб камень ці жалезку: мабыць, у тым канцы моста акрай насыпу нешта капалі. Сцёпку адсюль не было відаць, колькі іх там, ён чуў толькі скупыя абрыўкі размовы, часам невысока па-над дарогай узлятала зямля. Праз нейкі час з-за насыпу на дарогу вылез распрануты да пояса паліцай у зялёных штанах і чорнай пілотцы. Ён недалёка пратупаў узбочынай, нагнуўшыся, нешта падняў з долу і зноў пайшоў сабе туды, дзе капалі.

Сцёпка здорава ўгрэўся, пакуль бег, але цяпер, заняты ўвагай да моста, не здагадаўся нават расшпіліць гузікі ды зняць шапку. Трохі спачыўшы ў засені, ён зразумеў, што, мабыць, давядзецца паляжаць тут доўга: на дарозе ў сасонніку яшчэ нікога не было відаць. Затое з боку мястэчка, неўзабаве паказалася нейкая фурманка, якая хутка каціла дарогай да моста. Яшчэ праз нядоўгі час стала відаць, што гэта брычка; запрэжаны ў яе ладны буланы конік рухава кідаў капытамі, наравіста выгінаючы прыгожую, з коратка падстрыжанай грывай шыю. Сцёпка сцяміў, што гэта хтосьці з начальства. Сапраўды, хутка брычка ненадоўга спынілася каля тых, што капалі, там жа апынуўся і вартавы; не злазячы з сядзення, чалавек у шэрым паліто нешта загаманіў, другі, з лейцамі ў руках, сядзеў ля яго моўчкі. Неўзабаве, аднак, ён заварушыўся, гукнуў на каня, і брычка з ціхім стукатам пакацілася па дашчаным насціле моста.

Сцёпка шчыльней прытуліўся да зямлі, нават зацяў дыханне; яны праехалі зусім блізка ад яго, але нават не зірнулі ў яго бок, і Сцёпка ўздыхнуў, з прыемнасцю адчуваючы вясновыя пахі зямлі.

Зноў пацягнуўся час. Сонца ў небе павольна падымалася над лесам; мабыць, было ўжо гадзін дзесяць, калі не болей. Сцёпка часцей, чым на мост, пазіраў цяпер назад, на дарогу, чакаючы ўбачыць там

Міцеву фурманку з Рослікам. Але там доўга нікога не было, і хлопца пакрысе пачаў агортваць неспакой: ці не здарылася што на дарозе?

Вартавы разы тры прайшоўся сюды-туды па мосце і зноў завярнуў у гэты канец. Правей рукой ён высока, ля самага пляча, перахапіў рэмень, а левай, заклаўшы яе назад, ашчаперваў ложу карабіна, які, мабыць, добра ўжо намуляў за змену яго худое плячо. Ён нетаропка пашкандыбаў уздоўж па мосце, спыніўся ля паламанай парэнчы, і Сцёпка падумаў, што зараз паверне назад. Але паліцай чамусь не паварочваўся. Ён нават выняў левую руку з-за спіны і таксама перанёс яе на рэмень карабіна, нібы рыхтуючыся зняць яго з-за пляча. Адчуўшы штось новае ў паводзінах паліцая, Сцёпка азірнуўся і з-пад навіслай альховай галінкі ўбачыў, як з горкі ў хвойнічку шпарка і неяк весела нават коціць уніз знаёмы іх Рослік.

Хлопец пасунуў бліжэй да сябе аўтамат, ямчэй упёрся локцямі ў чорны мяккаваты дол. Думкі яго набылі іншы, наскораны тэмп. Сам не хочучы таго, ён захваляваўся, адчуваючы, што зараз настане самае важнае. Праўда, ягонае напружанне трохі расслабілася ад здзіўлення, калі ён згледзеў на калёсах аднаго толькі Міцю: ні Данілы, ні Брытвіна там не было. Не відаць іх было і ззаду, і нідзе паблізу. «Няўжо яны выправілі Міцю аднаго?» — падумаў Сцёпка. А мо там што здарылася? Здагадвацца, аднак, не было калі: фурманка хутка набліжалася, а паліцай стаяў у пачатку моста, і ў Сцёпкі аж схаладнела ўнутры: а раптам спыніць? Калі паліцай спыніць падводу, тады, мусіць, усё прапала.

Сцяўшыся і нязручна падкурчыўшы ногі, Сцёпка праз вецце пазіраў то на дарогу з фурманкаю, то на мост, дзе ва ўпартай нязрушнасці ля зламанай парэнчы стаяў паліцай. І тады ў хлопца мільганула думка: а раптам гэтаю ноччу варту змянілі, паставілі новых, якія цяпер першы раз бачаць малакавоза? Вядома, тады ўжо яны яго спыняць. Але ж Міця недзе тут, блізенька ад моста, павінен падпаліць шнур — што ж тады здарыцца?

Між тым, борзда патрухваючы, Рослік з фурманкай

набліжаўся да кусцікаў. Міця высока сядзеў на адным з бітонаў, выглядаў ён спакойным. Праўда, трохі ненатуральным здавалася гэта яго сядзенне, хіба што так ямчэй было сапхнуць з задка міну. І зноў — ні ў фурманцы і нідзе паблізу нікога: Брытвіна з Данілам сапраўды не было. Няўжо яны засталіся ў сасонніку, ці можа з імі здарылася што кепскае? — дзівіўся Сцёпка. Вядома, ён прыкрые Міцю, калі на тое пасланы, але навошта тады яны? І на што ўвогуле ўсё гэта падобна?..

І тут Сцяпан згледзеў над возам дым. Хлопец здзівіўся, нават спалохаўся, але неўзабаве сцяміў, што Міця пыхкаў цыгаркаю. Пыхкаў, аднак, няўмела, надта ўжо дымна і часта — незразумела было, ці для таго, каб падпаліць шнур, ці каб замаскіраваць ягонае гарэнне. Міця настойліва варушыў лейцамі, Рослік увішна бег, і фурманка на момант схавалася за навіслым суччам алешын...

У Сцёпкі ад хвалявання нядобра закалацілася сэрца, спатнелі далоні, ён пасунуўся крыху ўбок, ствол аўтамата нацэліў на вартавога. Як на тое ліха, свежаваты вецер заматляў перад тварам галінкі, маладая лістота то адкрывала на момант, то зусім затуляла сабой паліцая. Але вось той ступіў з месца насустрач фурманцы і, нешта нягучна гыркнуўшы, зняў карабін. Міця саскочыў на дарогу.

Фурманка спынілася, трохі не даязджаючы да вартавога, мо за які дзесятак крокаў ад моста. Рослік, выставіўшы наперад нагу, узяўся яе церабіць зубамі. Сцяпан у алешніку ўвесь сцяўся ад напружання — ён кепска разумеў, што адбываецца, але адчуваў, што брытвінаўскі план пляжыцца, што справа паварочвае ў другі бок і што цяпер, відаць па ўсім, настала ягоная чарга.

Ён не ведаў, ці запаліў Міця шнур (павінен быў запаліць), але калі сапраўды той гарыць, то паліцай, як толькі падыдзе да воза, адразу ўсё згледзіць. Тады незалежна ад таго, будзе выбух ці не, хлопец загіне. Дужа хвалюючыся, каб як ўратаваць хоць бы Міцю, Сцёпка скіраваў аўтамат па-над насыпам і цісануў на

спуск.

— Тр-р-р-р-р-р-рр-рт!

Што адбылося далей, ён не адразу і сцяміў. Ён убачыў толькі, як ірвануў з месца Рослік — збіўшы, ці што, паліцая, конь з возам кінуўся па мосце наперад, задняе кола, мусіць, трапіўшы на выбоіну, дужа падскочыла, затрэсліся ўвязаныя вяроўкай бітоны, фурманка апантана загрукала. Ззаду на дарозе астаўся адзін толькі Міця, паліцай недзе знік. Хлопец памкнуўся быў за фурманкай, але ў нейкай няўцямнасці спыніўся, раскінуўшы ў бакі рукі.

Сцёпка ўскочыў, каб бегчы, ды позірк яго напаследак ухапіў гэтую разгубленую постаць Міці, і ён зноў асеў за кустом. Ён хацеў крыкнуць хлопцу, каб той бег, ратаваўся, як раптам Міця скалануўся, нібы ад жаху, ад таго нябачнага, што ў гэты момант сталася на мосце. Сцёпка хуценька і трывожна выглянуў праз голле — Рослік, упаўшы ў аглоблях на пярэднія ногі, біўся аб насціл каленямі, спрабуючы ўстаць, высока і роспачна матляў галавой. У тое ж імгненне аднекуль збоку, нібы нават здалёк, да слыху запознена данеслася нягучнае «бахх!». Сцёпку здалося, што гэта паліцай з-за насыпу, і ён зноў ірвануў да пляча аўтамат.

Але стрэліць ён не паспеў.

Міця апантана сарваўся з месца і, матляючы поламі свайго пінжачка, кінуўся па мосце. «Што ты робіш?!» — нема закрычала ўсё ў Сцяпане. З таго канца моста да фурманкі ўжо бегла трое паліцэйскіх, Рослік скроб заднімі нагамі па насціле, марна спрабуючы падняцца, воз перакасіўся, упёршыся адным колам у парэнчу...

Сцёпка на каленях крутануўся з-за вецця ўбок, ловячы на мушку тых, што беглі, але яму не хапіла якое секунды, каб сумясціць яе з прорезам, як магутная сіла выбуху кінула хлопца вобзем. На ўсю глыб скалануўся поплаў, цёплая смярдзючая хваля шаснула па кустоўі. Аглушаны Сцяпан нейкаю часткай пачуцця адзначыў, як штось важнае гэпнула паблізу на зямлю. Ён, аднак,

тут жа ўскочыў, глытаючы горкую сліну, навобмацак ухапіў ля сябе аўтамат. Клубы едкага рудога дыму ахінулі кустоўе, вочы тут жа заслала слязьмі, хлопец спатыкнуўся і зноў упаў на штось цвёрдае — пад нагамі, коса ўбіты ў зямлю, тырчаў абламаны брус ад парэнчы.

Ён прабег трохі за алешнічкам — далей ад моста і дарогі, потым па лузе завярнуў да недалёкага знаёмага хвойнічку. Па ім не стралялі, усё наўкола замерла, аглушанае выбухам. Паступова Сцяпан адолеў сваё ўзрушэнно і ўпершыню азірнуўся: мост акурат пасярэдзіне быў разарваны вялізнай праломінай, з якой бязладна тырчалі ў

бакі абломкі бярвён, дошак. Там жа нешта смылела — шызы, не густы дым слаўся па-над рэчкай і поплавам.

На мосце і каля яго не было ніводнай жывой душы.

**16**

Заграбаючы ботамі ў дробнай траўцы, Сцёпка ацяжэла трухаў да недалёкага ўжо сасонніку. Драціна на боце парвалася ці можа спаўзла, падэшва зусім адстала і на кожным кроку дакучліва ляскала. Аднак цяпер было не да падэшвы — удалося б вынесці ногі. На бягу ён колькі разоў азірнуўся: дарога з мястэчка ўжо закурэла пылам — некалькі конных імчалі да моста.

Але наўрад ці яны дагоняць яго: ужо зусім блізенька лес, кустоўе, а ззаду рэчка з багністым берагам у трысці — хай паспрабуюць перабрацца цераз яе з коньмі. Праўда, яны маглі дастаць яго тут агнём, ды ўсё роўна ён перайшоў на крок: не хапала ўжо сілы бегчы — гаркота распірала грудзі, вочы залівае гарачы салёны пот.

— Хутчэй! Хутчэй ты! Бягом!..Сцёпка падняў разгарачаны твар — між хвойніку у зялёным суччы варухнулася знаёмая галава ў пілотцы, Брытвін апантана махаў рукой і з прыцішанай злосцю патрабаваў цяпер ад яго:

— Бягом!!

Сцяпан аслабела затрухаў, кіруючы трохі ў бок ад свайго напрамку, туды, дзе быў Брытвін, і праз хвіліну, расхінаючы грудзьмі калючае суччa, уціснуўся ў хвойнік. Ззаду так і не стрэлілі ні разу, і ён не азірнуўся болей — дзе былі ў той час яго даганятыя, ён не бачыў. Ён імкнуўся цяпер хутчэй далучыцца да сваіх двух. Але тыя не дужа чакалі яго — зводдаль у сасонніку мільганула зялёная ў ватоўцы спіна Данілы: не трацячы часу, яны цераз пагорак беглі далей.

Цяжка тупаючы па мяккім іглістым доле, абдзіраючы твар у гушчары, Сцёпка вылез на выспачку і з палягчэласцю ў нагах пабег уніз. Тут ён зноў убачыў тых двух: Брытвін быў ужо на ўзлеску — коратка азірнуўся, матлянуў рукой: «хутчэй!» — і кінуўся на ніўку.

Здаецца, яны адарваліся ад даганятых, ва ўсякім разе схаваліся з іх вачэй і сталі недасягальныя для іх агню. Можна было б уздыхнуць з палёгкай, нервовае напружанне збавілася. Як ні дзіўна, да Сцёпкі толькі цяпер, у сасонніку, дайшло, што наперекор усяму яны перамаглі. Мост узарваны, было чаго радавацца. Але радасць чамусь не прыходзіла, не было нават сціплага задавальнення, нешта яшчэ не ўсвядомленае замінала ўнутры, не давала нават завязацца радасці. Вядома, найперш — Маслакоў. Ён усё гэта пачаў, вёў іх, першы пайшоў на самае небяспечнае, а цяпер вось яны без яго. Мусіць, без Маслакова самая вялікая ўдача будзе для яго пазбаўлена радасці — Сцёпка пачаў адчуваць гэта амаль выразна. Зноў жа — падлетак Міця. Вядома, Міця — эпізод, хлопец на адзін дзень,— колькі такіх з'яўлялася на яго партызанскім шляху і ішло ў свой лёс: жыло ці нават гінула — якая яму была да іх справа? Але гэты хлапчук штось зацямніў у ім, штось непраясненае, толькі крышку

адчутае панёс з сабою з жыцця, пакінуўшы Сцёпку пытанне: як жа так? Мо таму, што ён нават не быў партызанам, падпарадкаваным абавязку ці сіле загаду, сам па сваей ахвоце пайшоу на тую сваю пагібель і

прапаў. Але чаму тады тут муляе нешта ненатуральнае і крыўднае? Быццам несправядлівае нават?

Калі Сцёпка таксама вылез з узлеска, тыя двое, пылячы раллёй, ужо беглі па ніўцы: у разоры Брытвін і ззаду, крокаў праз дзесяць ад яго, Даніла. Яны зноў не прычакалі хлопца, і ён проста не меў сілы дагнаць іх: схіл тут скончыўся, пачалася роўнядзь, бегчы стала цяжэй.

Усё ж ён бег, горка дыхаючы разяўленым ротам. Аўтамат яго вісеў пад пахай, і ён прытрымліваў яго рукою, не даючы біць дыскам аб бок. І тады ўспомнілася, як некалі ўзімку бадай гэтаксама яны беглі ад чыгункі па снезе: наперадзе Сцяпан, за ім Маслакоў, а група прыкрыцця сядзела ў ельнічку — да апошняй хвіліны, чакала, пакуль іх двое не прайшлі паласу расцяробу. Яны ўдвух выконвалі самае цяжкае: закладвалі міну, тузалі «вуду», і астатнія шанавалі іх за рызыку, беручы пасля выбуху ўсё на сябе. Такі быў парадак, партызанскі звычай, які свята выконвалі ў атрадзе; і толькі калі двое выйшлі з-пад агню, тады пабеглі ўсе разам. Гэтыя ж не маглі дачакацца нават у лесе. Балазе яшчэ ззаду не было даганятых, а то б ён даўно ўжо трапіў на іхнюю мушку.

Сцёпка зусім ужо прыставаў, і чым меней у яго заставалася сілы, тым большая прыкрасць паднімалася ўнутры — нібы яго знарок хацеў хто пакрыўдзіць. Ён, аднак, ведаў, што не знарок, што сапраўды хутчэй трэба змывацца, але не мог зладзіць са сваей злосцю і, раптам спыніўшыся, крыкнуў:

— Стой вы!

Яны азірнуліся, убавілі кроку і, дасягшы кустоўя, трохі недаўменна прыпыніліся, бокам пастаўшы да яго. Брытвін сцішана загаманіў, таксама не трымаючы злосці:

— Давай хутчэй! Ну, што ты грабешся, як баба! Змораным крокам Сцёпка ўрэшце дагнаў іх. Ваўкавата тулячы позірк, хлопец, аднак, убачыў спатнелы твар

Брытвіна, ажыўлены рызыкоўным азартам. Удачлівым, аднак, азартам.

— Не бачыў, не беглі? — запытаў Брытвін, калі ён падышоў бліжэй.

Сцёпка знарок не адказаў — ён проста не мог размаўляць з імі і нават глянуць у іхнія вочы — яго даймала пытанне: «Дзе вы былі?» Ён адчуваў сябе абдураным, бо амаль паверыў ужо ў Брытвіна, яго валявую рашучасцы ўмельства і нават схіляўся да таго, каб аддаць яму перавагу над Маслаковым.

Нарэшце яны ўтрох разам ступілі ў негусты тут, дробненькі параснік. Бегчы па ім было лёгка, толькі шорхала пад нагамі прэлае лісце ды пахруствалі апалыя галінкі. Праз хвіліну Брытвін зноў азірнуўся на Сцёпку.

— Кантузіла, ці што?

— Нічога не кантузіла,— буркнуў хлопец.

Няхутка бегучы, Брытвін трошкі затрымаў на ім свой прыдзірлівы позірк і шаснуў за куст. Выскачыўшы па той бок яго, загаманіў з задаволенай зухаватасцю ў тоне:

— Здорава, га? Гахнула, што, мусіць, у Круглянах шыбы павыскоквалі!

Даніла на бягу таксама павярнуў да яго свой касматы, з праставарадаснай ухмылкай твар.

— Ну.

— Парадак у танкавых вайсках!

Яны радаваліся — што ж, было чаго. Сярод белага дня пад носам у немцаў рванулі мост — хіба не падстава для радасці? Асабліва Брытвіну, ды і Данілу таксама.

Бег іх, аднак, пачаў выдыхацца, і неўзабаве Брытвін таксама перайшоў на крок, тым болей што наперадзе пачыналася поўнае вады лясное балотца, якое трэба

было абысці. Даніла цяпер не выбіраў дарогі — кіраваў наўпрост, абы далей ад Круглян, глыбей у лясную глуш. Так было заўжды: галоўнае — паспець, пакуль не позна, як мага адысціся ад таго месца, куды цяпер кінуцца паліцаі.

Сцёпка даўно ўжо хацеў спыніцца, перавесці дыханне ды нешта зрабіць з ботамі, бо на кожным кроку чапляцца падэшвай аб дол стала накутай. На правай назе, да таго ж, даўно ўжо балела пята — мабыць, нацёр да касці. Хлопец рашуча гэпнуўся ў дол, аберуч садраў бот, які ўжо зусім разваліўся, і, не ведаючы, як зладзіць з ім, са злосцю шпурнуў яго ў кустоўе. Потым тое ж самае зрабіў і з правым, шпурнуўшы яго ў другі бок. Сапрэлыя і дзіравыя анучы хлопец, устаўшы, раскідаў нагамі.

Наперадзе з ягонай вінтоўкай на плячы недаўменна азірнуўся Даніла.

— Гы! Што ты ўдумаў?

Сцёпка закінуў за плячо аўтамат, босым нагам стала куды як вольна і нязвыкла сцюдзёна ў сырым, непрагрэтым доле, трава закалола ў падэшвы, але не бяда. «Даўно б так»,— падумаў ён з невясёлай палёгкай.

Даніла з Брытвіным, аднак, спыніліся. Барадаты партыаан выглядаў яўна здзіўленым ягоным учынкам.

— Ці ты здурнеў? Нашто кінуў?

— Ідзі вазьмі!

І Даніла сапраўды палез у хмызняк, адшукаў яго левы, цалейшы бот, з цікавасцю абмацаў падэшву.

— Харошы ж бот. Хіба каб саюзкі новыя. Кідае, ха!

— Ты навошта гэта? — пахмура павярнуўся да Сцёпкі і Брытвін.

— Бо рваныя. Не бачылі?

Даніла, аднак, улез у балота і дастаў другі бот. Падэшва ў ім зусім адвальвалася і вісела, ашчэрыўшы рад паржавелых, густа набітых цвікоў.

— Падрамантаваць каб, дык насіць можна.

Ён па-гаспадарску склаў боты ў адно і пачаў падпіхваць іх халявамі пад дзягу. Сцёпка спадылба кідаў непрыязныя позіркі на яго ладныя маслакоўскія кірзачы і ватоўку, амаль новенькую, нават яшчэ не замусоленую. Нічога не скажаш: прыбраўся Даніла на гэтым заданні. Хоць і не забіў ніводнага немца. Каму ляжаць у зямлі, а каму пашэнціла нават і прыфранціцца: глядзі, які ладны, нібы дэсантнік. Хіба што штаны саматканыя.

— Ану, зараз жа абуй боты! Ты што? — са строгасцю накінуўся на Сцёпку

Брытвін, пэўна, ужо зусім адчуваючы сябе камандзірам. Гэты быў усё ў тым жа паношаным чырвонаармейскім шынялі без пятліц, расшпіленым на ўсе аплікі, на плячы трымаў сваю СВТ, з якое, мабыць,ні разу не стрэліў. Але Брытвін меў свой інтэрас.

— Ты ж праз гадзіну заплачаш. Тады несці цябе?

— Не бойцеся! Не панесяце. Яго заставіце.

Брытвін, штосьці адчуўшы, падазрона ўгледзеўся ў хлопца, нешта прыкінуў, нібы ўслухаўся ў лесавы шум. Сцёпка падумаў, што справа скончана і зараз, мабыць, пачнецца звыклае ўжо яму і агорклае ўшчуванне, а то і пагрозы. Але Брытвін нібы адумаўся, толькі кальнуў яго напаследак злым позіркам і пайшоў па гушчары.

**17**

Добра-такі адышоўшыся па хмызняках ад Круглян, яны набрылі на сцяжыну ў мяшаным з альхой старым ельніку. Здаецца, тут недзе павінен быў пачынацца Грыневіцкі лес — знаёмая, бяспечная мясціна, іх партызанская парафія. Стала спакойней, пра даганятых

ужо не думалі. У ельніку панаваў моцны, амаль спіртовы настой вогкай вясновай прэласці і смалы, вільготны імшарыстьг дол туліўся ў стракатай ад сонечных блікаў засені; лапчастае голле ялін, пагойдваючыся, звыкла шумела ўгары.

Ледзьве прыкметная ў імшарыне сцяжынка вывела іх на старую, закінутую дзялянку з колісь нарыхтаваным, ды так і не вывезеным кругляком — акрай шырокай прагаліны прыткнулася некалькі доўгіх штабялёў аброслай мохам рудастойкі. Апрэлая кара разлезлася, у пацямнелых ад часу камлях жаўцелі выдзеўбаныя дзятламі ямкі.

На дзялянцы прыпякала сонца, яны ўсе ўгрэліся, і Брытвін, які нёс перакінуты цераз плячо шынель, рашуча шмякнуў яго пад ногі:

— Прывалі

— Фу, цёпла! — згодна азваўся Даніла і, як быў, таўставаты і нязграбны ў расшпіленай ватоўцы, задам, сунуўся ў засень над штабелем. Брытвін спярша зняўдзягу, расшпіліў усе гузікі на гімнасцёрцы, потым плюхнуўся на шынель і, сапучы, сцягнуў боты.

Сцёпка, памеркаваўшы, таксама прысеў над штабель.

— Далёка яшчэ топаць? — запытаў Брытвін.

— Не так, каб далёка. Троху нройдзем да Ляхавіна, пасля ляснічаства мінуць,— пачаў прыкідваць Даніла.

— Дык колькі кіламетраў? Пяць, дзесяць?

— Кіламетраў? Каб не салгаць... Не многа засталося. Брытвін асуджальна пакруціў галавой.

— Ну і арыфметыка ў цябе! Многа, нямнога. Давай сумку ды перакусім.

Даніла з падкрэсленай гатоўнасцю перакінуў цераз голаў скручаную почапку сумкі

і найперш выцяг адтуль бутэльку з папяровай затычкай. Засцярожліва ўмацаваў яе на няроўным імшыстым доле між сабой і Брытвіным. Сцёпка стараўся не глядзець туды — рабіў выгляд, што даследуе палец наназе, сапраўды да крыві збіты аб корань. Есці яму перахацелася, болей дакучала смага, і ён думаў, што, адпачыўшы, трэба пашукаць, дзе ручай.

— Ну, што ж, тады дзёрнем! — задаволена сказаў Брытвін.

— Зарабілі,— ухмыльнуўся Даніла.— Ёсць за што. Брытвін варухнуў сумку.

— А там жа і закусь была. А ну даставай, што нарыхтаваў паліцаеў сынок.

Сцёпка аж скалануўся: так проста і будзённа было сказана гэта, нібы Міця ўсё жыццё быў яму ворагам. Хлопед недаўменна ўскінуў галаў, чакаючы нешта ўбачыць у выразе Брытвіна. Аднак на пругкім, кранутым свежаю шчэццю твары таго было толькі шчырае задавальненне ад прадчування хуткай яды з выпіўкай.

Даніла дастаў самадзельны, змайстраваны з акоска ножык і разгарнуў кужэльную анучку. Тоўстая скіба хлеба, адрэзаная ад сяродку бохана, кавалак мяса і чатыры фарбаваныя велікодныя яйкі прымусілі іх неўпрыцям праглынуць сліну. Яны ўжо не маглі адвесці вачэй ад вялікіх Данілавых рук, калі ён пачаў дзяліць харч: разрэзаў на тры кавалкі хлеб, мяса, расклаў яйкі, два з якіх былі патрушчаныя. Брытвін адной рукою ўзяў бутэльку, другой згроб сваю порцыю закусі.

— Ну, а Тоўкач што — не згаладнеў?

Сцёпка ваўкавата зірнуў на іх двух: словы Брытвіна прагучалі так, што стала зразумела: калі ён адмовіцца, яны бедаваць не будуць. Мусіць, менавіта з тае прычыны ён рашуча ўстаў і, нетаропка падышоўшы бліжэй, узяў астатнюю пайку — другая была ўжо ў руках у Данілы.

Брытвін пажлукціў з бутэлькі, паморшчыўся.

— Атрава! І як яе паліцаі п'юць?

— А п'юць! І нічога. Пальзіцельна, кажуць,— жартоўна азваўся Даніла, пераймаючы бутэльку. Апошнім часам ён стаў гаваркі — не тое што ўчора, і Сцёпка падумаў: ад чаго б гэта? Даніла таксама выпіў. Можа і не столькі, як Брытвін, але таксама нямала — ледзь не ўсю. Выцяг у руцэ і паглядзеў, ці многа засталося.

— Ну, а табе не трэба. Малы яшчэ,— сказаў ён да Сцёпкі, нібы жартуючы, але і сапраўды бутэльку адставіў убок. Сцяпан перастаў жаваць.

— Хто малы, а хто стары. Давай сюды!

— Сап'ешся яшчэ. П'яніцам будзеш.

— Не тваё дзела. Дай бутэльку!

— Гэта хай камандзіру,— раптам маслена заўсміхаўся Даніла.— Камандзір — ён галава. Глядзі, як усё ўладзіў!

— Ладна, дай і яму,— махнуў рукой Брытвін. Даніла яшчэ раз паглядзеў на бутэльку — там было, мусіць, з паўшклянкі — і аддаў. Сцяпан, хоць і не меў да гарэлкі вялікай ахвоты, цяпер амаль са злосцю, зацяўшы дух, выцягнуў усё да кроплі.

— Глядзі ты! — здзівіўся Даніла.— Во моладзь пайшла!

Энергічна жуючы, Брытвін з лёгкім асуджэннем касіў на яго позіркам, а Сцёпка

сядзеў да іх бокам і засяроджана еў. Мяса яму дасталося нямнога, ён хутка зжаваў яго. Заставаўся кавалак хлеба і маленькае, нібы галубінае, велікоднае яечка, якія ён пакідаў на пасля. Хлопцу было напляваць, што пра яго гаварылі гэтыя двое, ён не паважаў іх і не адчуваў ніякай удзячнасці за выпіўку. Ён ледзьве стрымліваў у сабе злосць, усё выразней адчуваючы, што ў гэтай даволі ўдалай аперацыі з мостам нешта нячыста. Тое, што ўсю дарогу і цяпер

Брытвін упарта абыходзіў у размове Маслакова і Міцю, толькі пацвярджала яго падазрэнне, і гэта не магло не азвацца ў ім ранейшаю непрыязнасцю да ротнага.

— Ні павагі табе, ні ўступкі! Во моладзь! — бурчаў тым часам Даніла.— Раней гэтак не было.

— Што б вы рабілі без гэтай моладзі? — рэзка сказаў Сцяпан, адчуваючы, як гняўлівая задзірыстасць узнімаецца ў ім з катастрафічнай няўхільнасцю.— Блох па хатах пладзілі б?!

Звычайна рахманы Даніла з-пад касмылявых брывей нядобра нацэліў на яго вузенькія шчылінкі вачэй.

— А ты нам не указ! Не камандзір, каб указваць.

— Надта ты, бачу, камандзіраў любіш. Каб камандавалі. Нябось, без каманды, пэўна, і ў лес не пайшоў? Чакаў, пакуль з печы сцягнуць!

— Маё дзела. Не табе папракаць. Смаркач яшчэ!

— Будзе, не заядайцеся! — абарваў сварку Брытвін.— Тоўкач хоць і злы, а смелы. Маладзец!

Сцёпка ўважліва паглядзеў на Брытвіна, але той на поўным сур'ёзе вытрымаў яго погляд. Хлопец, аднак, зласліва ўсміхнуўся аднымі вуснамі: не ўжо, на такую тайную прынаду яго не возьмуць.

— Хваліце? Таксама як і яго хвалілі?

— Гэта каго?

— Міцю, каго!

Брытвін выразна хмыкнуў.

— Ну, знаеш! Трэба было, дык і хваліў.

— А цяпер ужо не трэба? Цяпер мяне трэба? — хутка наліваючыся злосцю, адрывіста сказаў Сцёпка. Кавалак недажаванага хлеба мулка тырчаў за яго шчакой.

— А ты што, недавольны?

— Давольны!

— Слава богу. А то я падумаў, што ты ў абідзе: чамуя цябе, як учора Маслакоў, на мост не пагнаў?

«Ах, вось што!» — мільганула ў галаве ў Сцёпкі. Можа Брытвін яшчэ пачне папракаць яго за няўдзячнасць? Сапраўды, на мост не пагнаў, справу зрабілі, і ўсё як найлепш. Нават узрыўчатку для атрада сэканомілі. Але ўсё роўна да Маслакова яму далёка.

— Маслакоў не гнаў! — амаль крыкнуў, зрываючыся на сварку, Сцяпан.— Маслакоў вёў! Гэта ты гнаў!

— Каго я гнаў?

— А Міцю! Успомні!

Ну, так і ёсць! Тут ужо стала пэўна, што Сцёпка трапіў у яго балючае месца. Распяразаны, босы, Брытвін раптам ускочыў і ашчэрыўся на хлопца.

— Ах ты, сапляк! Абгаварыць хочаш? У мяне во — сведка! А ну, хай скажа: гнаў я ці ён сам пайшоў!

— Сам, сам! — хуценька пацвердзіў Даніла.— Прасіў Хрыстом богам. Каб, значыць, за бацьку апраўдацца.

— Паняў? Паліцэйскага сынок да таго ж! Не забудзь. Сцёпка маўчаў, трохі збянтэжаны гэтым нечаканым паваротам спрэчкі. Так, тут яны мелі рацыю. Прасіўся, гэта праўда. І што паліцаеў сынок, таксама праўда. Але што ж тады атрымліваецца?

— Выходзіць тады, гэты паліцаеў сын мост узарваў.А не мы. Так?

— Не, не так! — цвёрда сказаў, як адсек, Брытвін.— Мы ўзарвалі. Мы арганізавалі ўсё і кіравалі. Я кіраваў. Ці ты з гэтым не згодзен?

Сцёпка не ведаў чаму, але з гэтым ён сапраўды быў не

згодны, хоць і пярэчыць болей не стаў. Мусіць, для сваркі з гэтым чалавекам ён быў слабак. Нешта ў яго галаве пераблыталася, усе гэтыя ўзаемазалежнасці і складанасці, і без таго не дужа зразумелыя яму, цяпер і зусім прыцьмелі — не разабрацца. Толькі нейкаю самай упартай і самай чуйнай часткай свае душы ён адчуваў, што Брытвін махлюе, і ён нізашто не мог памірыцца з ім.

Даніла пад штабелем драў жоўтымі рэдкімі зубамі кавалак мяса:

— Гэта самае... Каб не яны,— кіўком барады ён паказаў на Брытвіна,— каб не яны, усё прапала б.

Сцёпка падняў голаў і, адчуўшы нешта загадкава-важнае ў гэтых словах, утаропіўся на Данілу.

— Ага. Калі конь падбрыкнуў на мост, яны бабахнулі, і гатова. Якраз пасярод моста.

— Каго? Каня?

— Ну! Таго Росліка. Во снайпер, а-яй! — набраўшыся голасу, басавіта гаманіў Даніла.

У шумлівай і хісткай Сцёпкавай галаве, мусіць, са спазненнем, але надта выразна бліснула проста неверагодная здагадка, асляплены якой, хлопец хвіліну не мог вымавіць слова. Ён толькі глядзеў то на Брытвіна, то на Данілу. Але спакваля ўсё станавілася на свае месцы, і ён ужо зусім пэўна пачаў разумець, чаму не пабег разам з ім Міця: хлопец кінуўся ратаваць Росліка.

А яму, дурню, здалося, што ў каня страляў паліцай.

— Падлюга! — адчуваючы, як нешта лютасцю ўзгарэлася ў ім, закрычаў Сцёпка.— Падлюга ты! Паняў?

Амаль не валодаючы сабой, Сцёпка ўскочыў на ногі, сашчэпленыя ў кулакі яго рукі дрыжалі, і ён задыхнуўся ад бяссільнага абурэння. Брытвін хвіліну сядзеў, нібы

таксама збіты з панталыку ягонымі словамі.

— Ах, во як! — урэшце зразумеў ён і таксама ўскочыў на шынялі.— Здаць аўтамат!

Цяпер ужо апешыў Сцяпан.

— Аўтамат? А ты мне яго даваў?

Брытвін памкнуўся да хлопца, але Сцёпка, апярэдзіўшы яго, з нетаропкаю ўпэўненасцю нагнуўся і ўзяў з долу свой новенькі, з лакіраванай ложаю ППШ.

— Здаць аўтамат! — гняўліва патрабаваў Брытвін.

— А хрэна вот!

— Ты што, блазнота! Выпіў, дык бунтаваць? Проці камандзіраў ісці?

— Ты не камандзір! Ты — жулік!

— Ах, так!

Стычка прымала новы абарот. З-пад штабеля са спуджаным тварам таропка і няспрытна ўзграбаўся Даніла. Брытвін, счакаўшы секунду, моўчкі павярнуўся і рашуча схапіў прыхінутую да бервяна яго трохлінейку. З ёй ён упэўнена сігануў да Сцёпкі.

— Не падыходзь! — крыкнуў Сцяпан і пад штабелем адступіў на адзін крок.

Але Брытвін і яшчэ сігануў з нарыхтаванай вінтоўкай у руках — увесь зацяты, напружаны і рашучы.

— Не падыходзь, кажу! — амаль з роспачнай лютасцю папярэдзіў Сцёпка і скінуў з пляча аўтамат. Ад шалёнасці і хвалявання ён цяжка, задышліва дыхаў, заходзячыся ў крыўдзе, што іх двое на яго аднаго.

Брытвін на момант спыніўся, самкнуўшы настырчаныя бровы, з лютасцю ў вачах, затым раптам шырока скочыў і апынуўся насупроць. Сцяпан тузануў рукаятку — затвор шчоўкнуў у цішы, стаўпіы на баявы ўзвод.

Дзеручы аб дравіны плечы, Сцёпка ціснуўся спіной да штабеля.

У азвярэлых вачах Брытвіна слізганула нерашучасць. Але зараз жа яны ўзгарэліся яшчэ большым шаленствам, ён зрабіў рэзкі выпад наперад і адначасна ўзмахнуў вінтоўкай. Сцёпка ўгнуўся, ды няўдала: боль электрычным ударам пранізаў яго ад скуляной шыі да пят, па плячах пацякло штосьь гарачае. Хлопец ледзьве не выпусціў аўтамат і сцяў зубы. Злосная крыўда пыхнула ў ім з новаю сілай, не сваім голасам ён крыкнуў: «Сволач!» — і, захліпнуўшыся, пырануў ад сябе аўтаматам. Кароценькая, у тры кулі чарга пругка пырснула ў лесавой цішыні.

Брытвін раптам выпусціў вінтоўку, угнуўся, абедзвюма рукамі схапіўся за жывот і, хістка ступаючы, пачаў хіліцца долу.

У гарачцы хлопец яшчэ нічога не паспеў зразумець — ён толькі адчуў, што сталася бяда,— як ззаду штосьць дыхавічна хакнула, і шырокія чужыя рукі сашчапіліся на яго грудзях. Сцёпка тузануўся, паспрабаваў вырвацца, але не хапіла сілы, і ён, тузаючыся і жахліва слабеючы, асядаў пад цяжарам, пакуль не ўваткнуўся тварам у імшысты дол.

— Блазнота! Страляць? Ах ты!..

— Вяжы яго! Рукі вяжы! — сіпеў побач плаксіва-разлютаваны голас.

Даніла без пільнай патрэбы помсліва крутануў яго на зямлі, болей падламаў рукі, каленам бязлітасна ціскапуў у рэбры ніжай лапаткі — у хлопцавых вачах бліснуў і расплыўся жоўта-агнявы круг. Сцяпан захліпнуўся, але змаўчаў, з усяе сілы трываючы боль і задыхаючыся ад кіслага смуроду імшарыны, які раздзіраў яго грудзі.

**18**

А цяпер вось сядзі. Відаць, і сапраўды расстраляюдь.

Сонца з-за яліны лагодна высвечвае адзін бок ямы — робіцца цяплей. Лес наўкола поўніцца гукамі: чувацъ, гамонячы, строіцца кудысь група партызан — мабыць, на чарговае заданне; хтосьці з пасыльных, аклікаючы па дарозе знаёмых, шукае начальніка гаспадаркі Кляпца; з другога боку адпрагаюць каня — бразгаюць кінутыя на дол аглоблі, і рыпіць хамут. Чуваць рэплікі і смех людзей. Новы вартавы не-не ды і падыдзе да ямы — мусіць, зазірне ў яе: на земляныя камякі ўскрайку тады кладзецца яго рэзкі зламаны цень і тут жа знікае. Хоць ён і суцяшаў Сцёпку, але, мабыць, размаўляць яму з арыштантам не хочацца, і хлопец адчувае гэта. Нейкая страхавітая адчужанасць ужо аддзяліла яго ад астатніх, колішніх яго суседзяў і таварышаў па атрадзе, і паставіла ў асаблівае становішча — крыўднае і пагрозлівае. Што ж, мусіць, ён вінаваты.

Наверсе, мяркуючы па гуках, нічога асаблівага не адбываецца, там з поўнай абыякавасцю да яго ідзе заўсёднае атраднае жыццё. І таму зусім нечаканы знаёмы голас прымушае яго здрыгануцца.

— Во дзе яны! Шукаў, шукаў...

— Чаго шукаць! Вунь кухня.

Сцёпка непрыемна сціскаецца ў камяк — гэта ўжо па яго, пэўна. Але чаму Даніла?

— Ну, дзе ён? Сядзіць?

У зямлі добра аддаюцца крокі, абодва з вартавым яны ідуць да ямы, і неўзабаве Сцяпан бачыць над сабой знаёмыя Данілавы касмылі. Ну, што яму яшчэ трэба?

— Во пасадзілі! Як ваўка. Га! На, есці прынёс.

У яму звешваецца на драцяной дужцы зроблены з нейкае бляшанкі кацялок, на краі яго свежы, трохі падсохлы пацёк куляшу. Пах ежы адразу забівае ўсе іншыя, затхлыя пахі ямы. Адчуўшы на хвіліну радасць, Сцёпка бярэ кацялок і заціскае яго між калень.

— Лыжка ёсць?

Лыжка ў яго ёсць, ён дастае яе з кішэні — сваю даўнюю алюміневую карміцельку з коратка абрэзаным тронкам, выцірае пальцамі ад крошак і пачынае есці. Даніла сядае над ямай. Побач стаіць вартавы.

— Знаю я гэтага Брытвіна,— кажа ён.— Занудлівы, не дай бог. Вунь зімой Маланчука ў Падасінавіках застрэліў. Нібыта за парушэнне дысцыпліны. Нягоднік ён.

— Нягоднік,— лёгка згаджаецца Даніла, і Сцёпка ажно папярхаецца ад здзіўлення:

глядзі, як хутка перамяніў думку! Ён коратка пазірае знізу ўгору: Даніла нетаропка ладзіць цыгарку — на яго касмылявым твары не разабраць што.

— Дык, кажуць, пабіліся? — пытаецца вартавы.

— Было,— няпэўна адказвае Даніла. Мяркуючы па яго настроі, расказваць, як і што адбылося ўчора, у яго няма ахвоты.

— На гэтай чортавай вайне ўсё бывае. Мабыць, ты, Барада, на закурку багаты?

— Дзе там! Ацяробкі сабраў.

— Дык бычка пакінеш. А то ўжо два дні не курыў — вушы апухлі... З такімі, як гэты Брытвін, лепей не заядацца. Ну іх. Што нам — болей за ўсіх трэба?

— Пэўне. Нашто проціў ветру рукамі махаць? — пагаджаецца Даніла, напусціўшы ў яму дыму.

Размова не клеіцца, вартавы чакае «бычка», і Даніла з прагнай асалодай дацягвае цыгарку.

— На, куры.

Кончыкамі пальцаў вартавы асцярожна бярэ з Данілавых кіпцяў акурак і адыходзіць — ягоны цень слізгае па Данілавых ботах. Сцёпка выскрэбвае кацялок. Кулеш смачны, але малавата, з'еў бы і болей.

— Ну, пад'еў?

Сцёпка маўчыць: што яму размаўляць з чалавекам, ад якога немаведама чаго чакаць.

— Брытвіну аперацыю рабіць будуць. Хацеў, каб цябе прывялі.

Яшчэ чаго не хапала! Навошта яму ісці да Брытвіна — сварыцца хіба? Але сварка ўжо скончана. Цяпер слова — начальству, яно ўсё і вырашыць. У ягоных руках лёс Сцёпкі Таўкача.

— Доктар казаў, мала не пацэліў,— прадаўжае тым часам Даніла.— Яшчэ б трохі — і капец!

Чорт з ім! Гэтая навіна Сцёпку і не радуе, і не засмучае. Зусім ён не цэліў. Каб цэліў, дык доктар, мусіць, не спатрэбіўся б.

— І гэта самае...— Даніла чагось азіраецца, хоць побач нікога няма, і трошкі цішэйшым голасам гудзіць над ямай: — Казаў, на цябе не злуецца. Ну, выпілі, ведама... Калі па-добраму, дык можна дамовіцца.

Сцёпка паднімае галаў. Ён шчыра здзіўлены.

— Гэта як?

— А так, значыць. Сказаць, што незнарок. Выпадкам аўтамат стрэліў. А пра Міцю таго маўчок. Узарвалі, і ўсе.

— Не ўжо! Пайшоў ён у адно месца.

— Гэта самае... Нядобра ты! — настойліва бурчыць Даніла.— Пра сябе падумай. А то прыедзе камісар...

— Хай едзе!

Даніла зверху ўважліва, нібы нават не разумеючы, глядзіць у яму. Сцёпка ўстае і ставіць парожні кацялок ля яго ботаў.

— Хай едзе. Я не баюся!

Даніла круціць галавой, уздыхае. Увесь яго заклапочаны выгляд сведчыць, што ён не ўхваляе хлопца.

Неўзабаве ён пачынае ўставаць, абсыпаючы ў яму зямлю, потым падбірае кацялок, папраўляе на плячы зброю. І Сцёпка толькі цяпер бачыць у яго свой ППШ. Значыць, ужо і ўзброіўся. Сцёпка сядае на ранейшае месца. Нешта цвёрдае і на дзіва ўпэўненае ўжо авалодала ім і не саступае.

— Нядобра ты ўдумаў. Шкадаваць будзеш.

— За мяне не бойся.

— Ды мне што... Ось толькі абяцалі адпачынак, трое сутак. А цяпер...

Ён не дагаворвае, заклапочана пазірае ўбок, мусіць, на вартавога паблізу, і Сцёпка здагадваецца, што ён мае на ўвазе. Цяпер, калі яны не дамовіліся, мусіць, адпачынак у Данілы лясне.

І правільна, што лясне.

«Адпачынак за што? Хто сапраўды заслужыў яго, тых ужо няма. А гэтаму за якія заслугі? — думае Сцёпка. Не, нічога ў іх з Брытвіным не выйдзе. Хопіць хітрыць і выязджаць на чужым гарбе. Сцёпка вінаваты, яго, вядома, пакараюць, але раней ён раскажа, як усё гэта адбылося, і назаве Міцю.

Камісар справядлівы, ён зразумее.

Не можа таго быць, каб не зразумеў. Хай едзе камісар!»

## Дажыць да світання

### 1

– Усё. Спрачацца не будзем, стройце людзей! – сказаў

Іваноўскі Дзюбіну і выйшаў з-за вугла пуні.

Даўганогі, худы і нязграбны ў сваім белым абвіслым маскхалаце старшына Дзюбін памкнуўся нешта сказаць, але змоўчаў; у снегавым змроку блізкае ночы было відаць, як незадаволена перасмыкнуўся яго цёмны ад сцюжы і ветру, заўчасна зморшчаны твар. Пасля кароценькай паўзы, якая засведчыла яго маўклівую нязгоду з лейтэнантам, старшына рэзка ступіў па ледзьве азначанай у снезе сцяжынцы да старанна прычыненых дзвярэй пуні. Цяпер ужо зачыняць іх не было патрэбы, шырокім размашыстым рухам Дзюбін адкінуў дзверы, і тыя коса загойдаліся на адной завесе.

– Пад’ём! Выходзі строіцца!

Іваноўскі, стоячы побач, прыслухаўся. Нягучная размова ў пуні адразу заглухла, усё там сціхла, нібы загіпнатызаванае гэтай, па сутнасці, такой звычайнай армейскай камандай, якая цяпер азначала для ўсіх надта многае. Праз імгненне, аднак, усё там заварушылася, зашамацела, пачуліся галасы, і вось ужо нехта першы выйшаў з дзвярэй на чыстую вечаровую белізну снегу. «Півавараў», – задумліва адзначыў сабе Іваноўскі, убачыўшы белую фігуру байца ў новенькім маскхалаце на фоне цёмнага бярвення сцяны. Аднак лейтэнант тут жа і забыўся пра яго, агорнуты ўласнымі клопатамі і слухаючы загадныя вокрыкі старшыны ў пуні.

– Хутка выходзь! І нічога не забываць: вяртацца не будзем! – глухавата даносіўся праз дзверы заклапочана-буркатлівы голас Дзюбіна.

Старшына відавочна злаваўся, так і не пагадзіўшыся з лейтэнантам, хоць амаль нічым і не выказваў гэтае сваёй нязгоды. Але хай! Злавацца сабе Дзюбін мог колькі хацеў, гэта яго асабістая справа, але пакуль тут камандуе ён, лейтэнант Іваноўскі, яму і рашаць. А ён ужо і рашыў – канчаткова і беспаваротна: пераходзіць перадавую будуць тут і цяпер, таму што колькі можна адкладваць! І так ён чакаў амаль шэсць сутак – было зусім блізка, якіх трыццаць кіламетраў, стала

шэсцьдзесят – толькі што мераў па карце; на мясцовасці, вядома, набярэцца і болей. Праўда, у канцы лістапада ноч доўгая, але ўсё ж надта многа ўскладвалася на гэтую адну ноч, каб неразумна губляць такі дарагі цяпер для іх час.

Лейтэнант рашуча ўзяў прыслоненую да сцяны звязку лыж – сваю звязку – і адышоўся са сцежкі ў снег – на тры крокі наперадзе групы. Байцы таропка разбіралі лыжы, нацягвалі на галовы капюшоны; вецер з-за вугла злосна тузаў тонкую бязь маскіровачных халатаў і ляскаў па грудзях даўгімі канцамі завязак. Як Іваноўскі ні выкідваў усё лішняе, грузу набралася занадта, і ўсе дзевяць байцоў выглядалі цяпер нязграбна-няўклюднымі ў сваіх тоўстых ватоўках, абвешаных пад масхалатамі рэчмяшкамі, гранатнымі сумкамі, падсумкамі і патранташамі. У дадатак да ўсяго яшчэ і лыжы, якія былі пакуль што груваcткім цяжарам, не больш. Але ўсё было неабходна, а лыжы, якія здаваліся цяпер непатрэбнымі, вельмі спатрэбяцца потым, у нямецкім тыле, – на лыжы ў яго была ўся надзея. Гэта менавіта ён прапанаваў там, у штабе, паставіць групу на лыжы, і яго ідэю адразу і ахвотна адобрылі ўсе, ад флегматычнага пачальніка аддзела разведкі да прыдзірлівага, строгага начальніка штаба.

Іншая справа, як яе выкарыстаць, гэтую ідэю.

Менавіта гэта болей за іншае турбавала цяпер лейтэнанта, пакуль ён маўкліва, са стоеным нецярпеннем чакаў пастраення групы. У снежным паўзмроку байцы разбіралі лыжы і, глуха пастукваючы імі, цесна месціліся на вузкай сцяжынцы. Як яны пакажуць сябе на лыжах? Не было часу як след праверыць усіх на лыжні, набліжаліся да перадавой завідыа, сагнуўшыся, прабіраліся ў кустоўі. З раніцы ён праседзеў на НП камандзіра тутэйшага стралковага батальёна – назіраў за праціўнікам. Увесь дзень з нізкага хмарнага неба сыпаў рэдкі сняжок, пад вечар сняжок пагусцеў, і лейтэнант узрадаваўся. Ён ужо выгледзеў увесь маршрут пераходу, запомніў на ім кожную купіну, і тут пайшоў снег, – што можа быць

лепш! Але як толькі пачало змяркацца, вецер павярнуў убок, снегапад стаў меншаць і амаль перастаў зусім, толькі рэдзенькія сняжынкі несліся ў сцюдзёным паветры, слепа натыкаючыся на патрэсканыя сцены пуні. Старшына прапанаваў пачакаць пару гадзін, можа, завея зноў разгуляецца. У завею яны б управіліся куды як лепш...

– А калі не разгуляецца? – рэзка перапытаў яго Іваноўскі. – Тады што ж? Паўночы – кату пад хвост? Так, ці што?

Паўночы траціць не выпадала, увесь іх шлях быў разлічаны менавіта на поўную ноч. Зрэшты, старшыне нельга было адмовіць у разважлівасці – калі пераход сарвецца, не спатрэбіцца і самая поўная, самая доўгая ноч.

Правафланговым на сцежцы стаяў сяржант Лукашоў, з кадравых – плячысты маўклівы дзяцюк, сапраўдны працаўнік-пехацінец, памочнік камандзіра ўзвода, спецыяльна адкамандзіраваны з батальёна аховы штарма на гэта заданне. Ва ўсім яго абліччы, нетаропкіх і дакладных рухах было нешта ўпэўненае, дужае і надзейнае. Побач уладкоўваўся на сцяжыне таксама ўзяты з стралкоў баец Хакімаў. Хоць яшчэ і не было ніякай каманды, на смуглявым твары яго з цёмнымі бровамі ўжо з’явілася ўвага да камандзіра; вінтоўка ў адной руцэ, а лыжы ў другой роўненька стаялі ля ног. Поплеч з ім, папраўляючы сваю ношу ўзрыўчаткі, стаў баец Суднік, малады яшчэ хлопец-падрыўнік, рухавы і даволі спрытны на выгляд. Ён адзін з нямногіх сам папрасіўся ў групу, пасля таго як у яе быў залічаны ягоны саслужывец сапер Шалудзяк, з якім яны разам займаліся абсталяваннем КП штарма. Іваноўскі не ведаў, які з Шалудзяка падрыўнік, але лыжнік з яго аказаўся няважны, гэта адчувалася ў самым пачатку. Мітуслівы і мешкаваты, гэты саракагадовы дзядзька, яшчэ не паспеўшы стаць у строй, ужо разваліў сваю звязку, лыжы і палкі раз’ехаліся канцамі ва ўсе бакі. Баец спахапіўся збіраць іх і ўпусціў у снег вінтоўку.

– Не мог як трэба звязаць? – ступіў да яго Дзюбін. – Ану, дай сюды!

– Бы на лыжах як ходзіце? – адчуўшы нядобрае, запытаў Іваноўскі.

– Я? Ды так... Хадзіў некалі.

«Некалі!» – з раздражненнем падумаў лейтэнант. Чорт вазьмі, здаецца, падабралі групу. Зрэшты, яно і зразумела, трэба было самому ўсіх апытаць, пагутарыць з кожным па-асобку, кожнага праверыць на лыжні. Але самому не было калі, сам два дні правалэндаўся ў штабе, у начальніка разведкі, пасля ў камандугочага артылерыяй, у палітаддзеле, у асобым аддзеле. Групу падбіралі іншыя, без яго. А вядома, як падбіраюць для некага.

Хутка цямнела, наступала сцюдзёная ноч, снегапад канчаткова пераставаў, і лейтэнант заспяшаўся. Дзюбін, здавалася, надта доўга пракорпаўся з лыжамі гэтага Шалудзяка, пакуль звязаў іх. Насупраць у цярплівым чаканні, азначаным на цёмных пад капюшонамі тварах, стаялі яго байцы. За Шалудзяком высіўся Краснакуцкі, мажны прыгажун у вастраверхім, як і ў Дзюбіна, шлеме-будзёнаўцы, побач застыў даўгашыі Кудравец і ля яго – непрыкметны маўклівы Заяц. Апошні на сцежцы стаяў, напэўна, самы малады тут, баец Півавараў. Лейтэнант недастаткова ведаў іх, тых, з кім неўзабаве прыйдзецца яму падзяліць славу або смерць, але выбару ў яго не было. Вядома, было б куды лепш адправіцца на такую справу з добра знаёмымі, выпрабаванымі ў баях хлопцамі, але дзе яны, тыя яго добра знаёмыя хлопцы? Цяпер цяжка ўжо і прыпомніць усе вёскі, магільнікі, усе ляскі і пагоркі, дзе ў брацкіх і адзіночных магілах пазаставаліся яны, яго батарэйцы. За пяць месяцаў вайны ўцалела няшмат, тыдзень назад з ім разам прабілася цераз лінію фронту ўсяго чацвёра. Двое прытым аказаліся абмарожаныя, аднаго паранілі пры пераходзе каля Аляксееўкі; да самага канца з ім аставаўся вычысліцель сяржант Варанок. Гэты Варанок вельмі спатрэбіўся б цяпер, але Іваноўскі не мог адшукаць яго. Вычысліцеля адпраўІлІ ў

стралковы батальён на перадавую, адкуль, як вядома, не ўсе вяртаюцца...

– Так... Раўняйсь! Смірна! Таварыш лейтэнант...

– Вольна, – сказаў лейтэнант і запытаўся: – Усе ведаеце, куды ідзём?

– Ведаем, – прабасіў Лукашоў.

Астатнія згодна маўчалі.

– Ідзём да немца. Нашто і чаго – пра гэта пасля. А цяпер – хто хворы? Ніхто? Усе, значыць, здаровыя? Хто ш лыжах хадзіць не ўмее?

Кароценькі строй насцярожана сціх, цёмныя прытомленыя чаканнем і ўвагаю твары пакорна і ўважліва пазіралі з-пад бязевых капюшонаў на свайго камандзіра, які цяпер непадзельна браў пад сваю апеку іх салдацкі лёс. Усе, прыціхшы, маўчалі, напэўна, яшчэ не ва ўсім, што чакала іх, разабраліся самі. Але нічога болей, як цалкам пакласціся на яго, іх камандзіра, ды на гэтага вось цыбатага старшыну, каторы другі дзень апякаў групу, ім не заставалася.

Іваноўскі цераз проразь у маскіровачных штанах прасунуў руку ў кішэню і выцягнуў важкі кубік гадзінніка, некалі зняты ім з падбітага нямецкага танка. Гадзіннік жвава і радасна зацікаў на далоні, засвяціўшы ўсімі лічбамі свайго цыферблата. Было без дзесяці хвілін сем.

– Дык вось, у нашым распараджэнні дванаццаць гадзін. За гэты час, мінус гадзіну-другую на пераход баявых парадкаў праціўніка, трэба адмахаць шэсцьдзесят кіламетраў. Зразумела? Хто на гэта не здольны?

Уважлівым позіркам ён абвёў строй, у каторым ніхто не варухнуўся нават, і так было ціха, што чуўся шорхат сняжынак на даху. Але зноў ніхто не азваўся на гэта яго далека не дробязыае пытанне.

– Тады ўсё. Старшына – замыкаючы. Група – за мной

марш!

Іх ніхто не праводзіў тут, уся таропкая падрыхтоўка да пераходу была закончана загадзя. Гадзіну назад на КП камандзіра стралковага батальёна яны дамовіліся, што батальён будзе маўчаць, каб не насцярожваць немцаў, і яны пастараюцца прашмыгнуць незаўважанымі ў шэрым паўзмроку. Зрэшты, калі б і патрабавалася дапамога, то чым ім мог памагчы батальён, які толькі зваўся батальёнам, а на справе складаўся са стралковае роты – не больш, якім, дарэчы, і камандаваў нядаўні ротны, старшы лейтэнант, кулямётчык. У крайнім выпадку ён абяцаў прыкрыць іх агнём, хоць гэта і было вымушанае абяцанне, паколькі таго патрабаваў капітан з разведаддзела штарма, каторы прысутнічаў тут. Але капітан пабудзе ды пойдзе, а батальёну ваяваць далей, боепрыпасаў жа ў яго не густа, і начальства патрабуе берагчы іх для болей важнага выпадку.

Праўда, капітан зусім не настойваў, каб ён пераходзіў менавіта тут І цяпер. Гледзячы, як стаў заціхаць снегапад і перад імі дужа адкрыта і пустэльна раскінуўся гэты рачны прасцяг з крывулястай паласой кустоўя пасярэдзіне, прадстаўнік штаба сказаў:

– Сапраўды, як на пустой талерцы. Але рашай сам, лейтэнант. Табе відней.

– Пайду, – проста сказаў Іваноўскі.

– Што ж, твая справа. Можа, яно і лепш: сунуцца туды, дзе не чакаюць.

«Чорт іх ведае, дзе яны не чакаюць. Не запытаеш», – заклапочана падумаў лейтэнант. Але ён не мог болып адкладваць – у той справе, дзеля якой яны адпраўляліся, прамаруджанне сапраўды было падобна на смерць. А ён і так ужо прамарудзІў звыш меры, хаця, канечне, і не па сваёй волі.

Грузнучы па костачкі, а дзе і па калена ў снег, байцы гуськом узышлі на пагорак. Іваноўскі азірнуўся і ўпершыню адчуў задаволенасць – кароценькая калона

яго паслухмяна падабралася, ніхто не адстаў; спыніўся ён, і амаль адначасова спыніліся астатнія. Далей трэба было пачакаць, можа, перадыхнуць нават, залегчы – з вяршыні зарэчнага пагорка іх маглі ўжо заўважыць немцы. Над поплавам і справа на схілах, дзе акапаўся батальён, стаяла цішыня, далёкія водгукі бою каціліся з-за лесу справа, там жа нешта няярка адсвечвала ў цёмным і мутным ад нізкіх аблокаў небе. Перад ім наўскос раскінуўся ў паўзмроку поплаў з расплывістымі плямамі кустоўя, прысыпанага снегам трыснягу над рэчкай, грыўкамі быльнягу. Да рэчкі было паўкіламетра, не менш, гэтую прастору трэба было адолець на кукішках, пасля добры адрэзак паўзці па-пластунску, а далей ужо і трудна вызначыць як – толькі б хутчэй апынуцца па той бок поплаву ў не бачным адгэтуль лесе.

– Лажысь! За мной марш! – напаўголаса скамандаваў лейтэнант і апусціўся локцямі ў снег.

Снег быў глыбокі, пульхны, бы вата, і марозна-пякучы. Ён лез ва ўсе прарэхі маскіровачнага халата, набіваўся ў рукавіцы, за пазуху, у рукавы, халявы ботаў і раставаў там, агіднай макрэддзю ліпнучы да разгарачанага цела. Гэтая яго макрэдзь, аднак, хутка грэлася ўперамешку з потам; было душна, парна, задушлівая знямога горыччу распірала грудзі. Іваноўскі зубамі здзёр з рукі рукавіцу і мокрымі пальцамі рассмыкнуў матузок капюшона. Твару стала вальней, прахалодней, а галоўнае – адклала вушы, ён пачуў шорхат ветру ў быльнягу і невыразныя разрозненыя гукі ззаду. Прапаўзлі яны, мабыць, з паўкіламетра, пагорачак з сасняком ледзьве шарэў ззаду на краі начнога змрочнага неба, якое ў зімовых прыцемках амаль злівалася са снегавым долам. Следу-баразны, пракладзенай іх дзесяццю целамі, на шчасце, не было відаць нават зблізку, зрэшты, як і саміх байцоў. Праўда, Іваноўскі ведаў, што варта ўзляцець ракеце, як нібы на далоні стане відаць і снег, і яны самі.

Пакуль, аднак, было ціха і цёмна. Бой грукацеў за ляском убаку, на краі неба звечара шырокім агнявым сполахам бліскала зарніца далёкае кананады, і

прамерзлая зямля пад іх локцямі глуха, няспынна дрыжэла. У тым жа баку за лесам раз за разам пырхалі жоўтыя зоркі ракет і гаслі ў мутнай мешаніне святла са змрокам. Але яны былі далёка, тыя ракеты.

Трэба было як найхутчэй рухацца далей, пярэдняга краю яны яшчэ не адолелі, яшчэ з кіламетр спатрэбіцца паўзці па рэчышчы ля кустоўя. Але ўжо і так усе прытаміліся, група спакваля расцягнулася. Іваноўскі раптам спахапіўся, што не чуе зморанага дыху Лукашова, які поўз следам. Лейтэнант азірнуўся і пачакаў хвіліну, адпачываючы сам, хоць ведаў, што трэба як мага хутчэй, бо толькі ў хуткасці і непрыкметнасці іх поспех. Але і таго і другога без пары пачало бракаваць – воддаль ужо другі раз глуха стукнула, пэўна, вінтоўкай аб лыжу, і лейтэнант сцяўся, упіваючыся ў прыцемак злосным, абвостраным позіркам. Недарэкі, інакш не скажаш! Колькі гаварыў, каб вінтоўкі трымалі ў правай руцэ, а лыжы ў левай, але вось, мабыць, камусь спатрэбілася згрэбці ўсё разам, і цяпер бразгае.

Ззаду заварушыўся шэры, медзведзяваты ў прыцемку камяк у маскхалаце, шумна сапучы, ён падпоўз упрытык да Іваноўскага і спыніўся. За ім варушыўся яшчэ нехта, а далей ужо было і не згледзець, перашкаджаў змрок.

Іваноўскі запытаў асіплым зморанымшэптам:

– Паўзуць?

– Паўзуць, лейцінант, – такім жа задышлівым шэптам адказаў Лукашоў.

– Перадай: шырэй крок!

У лагчынцы снег стаў яшчэ глыбейшы, тулава ў ім зарывалася па самыя плечы. Пад змакрэлымі каленямі адчувалася змерзлая калючая трава сенажаці – мабыць, пачынаўся поплаў. Іваноўскі не пазіраў на компас – як амаль і заўсёды, кірунак ён угадваў па характэрных зменах рэльефу, які быў вядомы яму з карты. Тут скрозь

трэба было кіраваць нізам да рэдкага кустоўя абапал рачулкі, затым крыху збочыць правей і паўзці па яго самым краі. Шлях паўзком быў яшчэ доўгі, ён, вядома, выматае іх як мае быць. Але толькі б не нарвацца на немца, на які выстаўлены на ноч замаскіраваны сакрэт. Тады ўжо неўпрыкмет не пяройдзеш, тады пачнецца такое, што можа скончыцца кепска ў самым пачатку

Іваноўскі, аднак, адагнаў ад сябе кепскія думкі і пільыіей угледзеўся ў снегавы змрок. Здаецца, зусім ужо недалека цямнелі кусты, там была засыпаная снегам рачулка. Гэта мясціна – ён памятаў з карты – была якраз пасярэдзіне нейтралкі, далей за рэчкай на пагорку пачыналася невялікая, разбітая снарадамі вёска, у якой сядзелі немцы. Праўда, іх першы акоп быў бліжэй, праз якіх сотню метраў па той бок рачулкі, і там трэба будзе зрабіць паварот уздоўж рэчышча і паспрабаваць прабрацца ў кустоўі між гэтым акопчыкам і другім ззаду, на мыску вастраносага, нібы лыжка, пагорка.

Снег тым часам не толькі паглыбеў, але стаў і яшчэ болей мяккі, пад рукамі шастала прысыпаная ім змерзлая, не кошаная з лета трава. Аднаго разу Іваноўскі неасцярожна націснуў каленам і праламаў крохкую скарынку моху, з-пад якой плесканула вада. Знячывелы лейтэнант падаўся ўбок і тут жа вылаяў сябе за паспешлівасць: знайшоў чаго асцерагацца! Быццам праваліцца ў ваду было самае горшае з усяго, што іх магло напаткаць. На некалькі секунд ён прыпыніўся і ўслухаўся: ці не выдаў сябе гэтым міжвольным рухам. Але ўжо тут, побач, было кустоўе, як рукой дастаць тапырылі голле алешыны, купкі ніцай лазы, што густа тырчала са снегу. Іваноўскі яшчэ нядоўга прапоўз пад кустамі, каб даць сваёй расцягнутай групе размясціцца пад іх аховай, і аблёгся на лыжы. Хмызняк добра хаваў іх ад вёскі, тут ужо не страшныя былі і ракеты. Праўда, яшчэ заставаўся адкрыты і небяспечны пагорак-лыжка ў другім баку, але ён быў усё ж далей. Адтуль іх маглі ўжо і не ўбачыць нават і пры святле ракет.

Увесь час лейтэнанту карцела ўстаць і азірнуцца, як там, у хвасце, ці не занадта расцягнуліся апошнія. Цяпер вельмі важна было трымаць усіх у адным кулаку – ведаў, у такой сітуацыі разрозненасць мяжуе з бядой. Праўда, у выпадку чаго там ёсць каму пакамандаваць, апошнім поўз Дзюбін, здаецца, чалавек разумны і разы ў паўтара старэйшы за лейтэнанта. Але Дзюбін быў прызваны з запасу, і, хоць характарам яго Бог не пакрыўдзіў, невядома, ці хопіць у яго франтавога ўмельства? Кадравы камандзір Іваноўскі, які выцерпеў усе пакуты вайны з яе самага першага чэрвеньскага дня, трохі не давяраў запасным і для пэўнасці частку іхняй паклажы звычайна імкнуўся ўзяць на сябе. Сённяшняя яго кароткая сутычка са старшыной, які прапанаваў пачакаць з пераходам, пакінула непрыемнае ўражанне ў абодвух. Лейтэнант не любіў дзяліць сваю ўладу з кім бы то ні было ды яшчэ ў такой справе, дзе можна было спадзявацца толькі на самога сябе, сваю кемлівасць і рашучасць. Пакуль увогуле ўсё абыходзілася, пашанцуе – абыдзецца і далей, і тады як-небудзь пры выпадку ён напомніць Дзюбіну...

Ззаду ў баразне пульхнага снегу сіпата зашаптаў Лукашоў:

– Цяпер куды, таварыш лейцінант?

– Ціха! Як там астатнія?

– Ды паўзуць. Шалудзяк вунь адстае толькі...

Зноў Шалудзяк! Гэты Шалудзяк яшчэ ў батальёне сваёй мешкаватасцю выклікаў кароткае незадавальненне ў лейтэнанта, але ў мітусні кароткае падрыхтоўкі Іваноўскі проста забыўся пра яго, падумаўшы, што чалавек, мабыць, здаровы, вытрымае. Да таго ж групе быў патрэбны сапёр, а выбар быў невялікі, давялося браць першага, хто трапіў пад руку – гэтага вось немаладога і медзведзяватага дзядзьку. Але вайна ў каторы ўжо раз пераконвала, што, апроч звычайнай сілы, патрэбна яшчэ і ўменне, і трэніроўка. Зрэшты, трэніроўкі ў іх таксама не было ніякай, на яе проста не хапіла часу. Увесь дзень начальнік разведкі з

начальнікам асобага аддзела праглядвалі і ўтрасалі спісы, падбіралі людзей, і калі нарэшце сабралі групу, пра трэніроўку не было чаго і думаць.

Іваноўскі пакінуў на месцы лыжы, абышоў Лукашова і папоўз па ягоным следзе назад. Шалудзяк сапраўды адстаў ад сяржанта і цяпер зморана і грузна грэбся ў снезе, затрымліваючы сабой астатніх.

Лейтэнант сустрэў яго ціхім злым шэптам:

– У чым справа?

– Ды вось спацеў, каб яго! Ці хутка там, каб на лыжы?

– Жыва варушыся! Жыва!!! – бязлітасным шэптам падагнаў ён байца.

Валюхаючы задраным задам, наўючаны пад маскхалатам цяжкім мехам узрыўчаткі, Шалудзяк на кукішках памкнуўся даганяць сяржанта, за ім падаліся астатнія. Лейтэнант прапусціў паўз сябе Хакімава, Зайца, Судніка, яшчэ некага, чыйго твару ён не разгледзеў пад нізка насунутым капюшонам, і дачакаўся старшыну Дзюбіна.

– Што здарылася? – запытаўся той, ненадоўга затрымліваючыся каля Іваноўскага.

Лейтэнант не адказаў. Што было адказваць, хіба не відно старшыне, што група расцягнулася, парушыла неабходны парадак, да якога меў пэўныя адносіны і старшына як замыкаючы.

– Хто стукаў у хвасце?

– Стукаў? Не чуў.

Вядома, ён не чуў. Іваноўскі не стаў гаварыць далей і ўслухаўся. Паблізу, аднак, усё было ціха, нашы на пагорачку з сасняком насцярожана маўчалі, маўчалі наперадзе і немцы. Дзевяць бугрыстых постацей у белых, прыцярушаных снегам халатах, зморана сапучы, роўна ляжалі ў раскапанай імі снежнай канаве.

– Трэба слухаць, – кароткім шэптам заўважыў Іваноўскі. – Зараз пераход. Каб мне ні гуку!

Старшына прамаўчаў, і лейтэнант на кукішках хутка папоўз наперад, абмінаючы па снезе байцоў. Ён не бачыў іх твараў, але амаль фізічна адчуваў іх насцярожаныя, поўныя чакання і трывогі позіркі з-пад капюшонаў. Усе маўчалі. Абганяючы Шалудзяка, які, вінавата сапучы, распластаўся ў баразне, Іваноўскі строга патрабаваў:

– З усіх сіл! З усіх сіл, Шалудзяк! Паняў?

Лейтэнант выпаўз у галаву сваёй цяпер ужо сабранай у адно пластунскай калоны і зноў пагробся ў самым глыбокім снезе на краі кустоўя. Адпою рукой ён валок лыжы, другой аўтамат, сумка з аўтаматнымі дыскамі ўсё з’язджала са сцягна на жывот, і ён раз-пораз адкідваў яе за спіну. У снезе ён налез на нейкую кучу галля, якое гучна затрашчала ўначы, за штось зачапіўся, парваў маскхалат. Ціха вылаяўшыся, лейтэнант хвіліну выбіраўся з гэтае пасткі, пасля ўзяў убок, трохі далей ад кустоўя. Дзесь тут паблізу павінен быў трапіцца ручай, які ўпадаў у рачулку, ад ручая пачынаўся самы небяспечны адрэзак шляху ў разрыве нямецкай лініі.

Да ручая, аднак, ён не дапоўз – наперадзе і зусім блізка нешта шчоўкнула ўгары, засіпела, заіскрылася, і яркая агняная дуга разрэзала край неба. Разгарачаны барацьбой са снегам, Іваноўскі не адразу сцяміў, што гэта ракета. Яна ўзвілася, крыху не даляцеўшы да іх, ярка распусцілася ўгары букетам зіхоткага белага полымя, і снегавы дол з кустоўем сцяўся, прыціх, залітыя ліхаманкавай яркасцю. На секунду ўсё наўкола замерла, а пасля здрыганулася, па полі ў бакі шаснула блытаніна невыразных імклівых ценяў, Ракета ўпала на снег за хмызняком і яшчэ секунды са тры зыркала па снегавым наваколлі хліпкімі рэшткамі святла.

Іваноўскі заціх, дзе ляжаў, амаль не дыхаючы, грудзі ўдушліва раздзірала ад нястачы паветра, вецер віхрыў ля твару снегавым пылам. Лейтэнант чакаў стрэлаў,

крыку, наступнай ракеты, але ў згусцелай суцэльнай цемры над поплавам стаяла ранейшая няпэўная цішыня. Тады ён на секунду заплюшчыў вочы, каб хутчэй прайшло асляпленне, і зноў паглядзеў наперад. Яго здзіўляла ўжо, адкуль тут магла з’явіцца ракета, у тым жа баку, адкуль яна вылецела, не павінна быць немцаў, там балота, рачулка, хмызняк. Туды ж якраз трэба было паўзці ім. Цяпер выходзіла, што той шлях закрыты.

Ззаду яго пакратаў за бот Лукашоў, але лейтэнант не зірнуў на яго і не азваўся. Самае важнае, што непакоіла яго, было – заўважылі або не? Калі заўважылі, то, мабыць, іх сённяшняя спроба на тым і скончана. Калі ж не, дык трэба як найхутчэй пераадолець гэтую праклятую мясціну.

Мінула яшчэ хвІліна, не было ні ракеты, ні стрэлаў, і Іваноўскі падумаў, што, пэўна, гэта недзе сядзіць высланы на ноч ракетчык. Тады лейтэнант крута завярнуў у кусты, ужо не па-пластунску, а на карачках дапоўз да нізкага берага рэчкі, над якой, умерзшы ў лёд, хіліліся крывыя чорныя вольхі. Тут ён памарудзіў, не адразу рашаючыся паткнуцца на лёд. Але іншага рабіць не выпадала, ён спаўз з купістага берага, лёд, на шчасце, не трэснуў, не ўгнуўся, хоць і быў яшчэ слабы пад роўным пластом пухнатага снегу. Лейтэнант таропка перапоўз цераз яго і збоч ад лазовага куста ўскарабкаўся на другі бераг. Тут хмызняку было меней, ён туліўся да самае рачулкі, а далей пачынаўся пагорак з вёскаю і нямецкім акопам пад пахілаю пунькай наводшыбе.

Сяржант Лукашоў не адставаў ад яго ні на крок, і калі ён спыніўся ў нерашучасці, той падпоўз поруч і шапнуў у твар:

– А давайце рэчкай…

– Ціх!..

Становішча ўскладнялася. На гэтым баку яны былі дужа блізка да немцаў, ды і прабірацца тут можна было

па дужа вузенькім краечку кустоўя ўздоўж рэчкі. Было надта спакусліва падацца на лёдавую роўнядзь рачулкі, але яна пятляла, як блытаная вяроўка, гэта колькі трэба выкруціць тых петляў? Зноў жа, а калі дзе дрэнна ўмерзла?

Яму здалося, што ўжо мінула шмат часу, што ён залішне доўга прабавіўся ў гэтым хмызняку і так недаравальна спазняецца ў самым пачатку. Аж скалануўшыся ад тае трывогі, ён азірнуўся, але ззаду, мабыць, ужо ўсе перабраліся на гэты бок і чакалі, каб рушыць далей. У змроку на доле быццам цямнелі са два твары, іншых, праўда, не было відаць, але ён пачаў засцярожліва грабціся далей.

На гэты раз ён прапоўз дужа мала – зноў з таго ж месца пырхнула ракета, затым кахнуў яе стрэл. Лейтэнант уціснуўся ў снег, з усяе сілы ўзіраючыся ў чорна-белую блытаніну галля на ярка асветленым мільготкім доле. Не, ракета пайшла ў ранейшым кірунку, па той бок поплаву, адкуль яны сюды прыпаўзлі. Значыць, іх усе ж не заўважылі. Калі ракета згасла, ён з палёгкай тузануў за раменьчык лыжы і сам на локцях і каленяхірвануўся праз снег наперад. Секунд некалькі ён не бачыў нічога перад сабой, толькі гроб, гроб снег і валок лыжы. І раптам зноў аслеп ад неверагодна яркага бляску, які лінуў з паднябесся – снег заіскрыўся, заззяў, блытаныя цені ад кустоўя крутануліся на адным месцы і, ярка адбіўшыся на снезе, замерлі. Замёр і ен, адчуваючы, што гэты халодны прастор вось-вось прарэжа чарга. Як заўжды ў хвіліну найбольшай небяспекі, думка яго зрэагавала з маланкавай хуткасцю, ён зразумеў, што гэта – ад пунькі, значыць, зусім побач. Ракета ўся без рэшты згарэла ў вышыні, і ён зноў прыплюшчыў вочы, каб хутчэй пазбыцца слепаты, і ляжаў не кратаючыся. Калі заўважылі, дык, мусіць, трэба падацца назад на рэчку, пад засцярогу яе беражка. А калі не… Тады трэба як мага хутчэй наперад, далей ад гэтага праклятага месца, дзе цябе падсвечваюць з двух бакоў.

Стрэлаў не было і ў гэты раз, і ён з дзёрзкаю рашучасцю рвануўся наперад, раптам адчуўшы ў сабе

прыліў рызыковай удачлівасці. Хутчэй, хутчэй!.. З нечаканым спрытам ён шыбаў па-над берагам, увесь закапаўшыся ў снег, які бязлітасна забіваў яго твар, рот, не даваў дыхаць і сляпіў вочы. Калі ж да зроку вярнулася ранейшая здольнасць бачыць у прыцемках, ён раптам адзначыў, што злева ад пунькі яго прыкрывае ўзмежачак вышынёй па калена, не болей, мусіць, на мяжы ніўкі і пожні. Гэта яго куды як узрадавала, цяпер не страшны сталі і ракеты – толькі б хутчэй!

Ён поўз доўга і таропка. Пад вопраткай на грудзях і спіне ўсё ўжо было мокрае ад снегу і сцюдзёнага поту, на сваіх ззаду ён не азіраўся, бо тое было бескарысна – усё роўна ён не мог падагнаць іх. Ён толькі спадзяваўся на ўладу свайго прыкладу, на сілу салдацкага правіла – раўняцца на камандзіра.

Калі ў небе зноў загарэлася ракета, ён сціх з занесенай наперад рукой і нізка па-над снегам азірнуўся: так і ёсць, байцы зноў расцягнуліся, зноў за сяржантам быў разрыў крокаў на дваццаць. Узмежачак, на бяду, тут скончыўся, цяпер іх нішто болей не прыкрывала ад таго перадавога акопа. Адно добра – пунька на пагорачку ўжо засталася ззаду, ужо і ракета ляцела ў іх тыл. Наперадзе ж раскінулася шырокая лугавіна з шэрагам рэдкага кустоўя па адным яе краі.

Ракета патухла, і на ягонай душы палягчэла – здаецца, самае цяжкае адолена. Гэта было так прыемна адчуць – кароценька і стрымана радасна, але не паспеў ён зноў выкінуць наперад сваю звязку лыж, як у той жа час вымушаны быў тыцнуцца галавой у снег. Зусім блізка ззаду недарэчна і неверагодна гулка бахнуў вінтовачны стрэл. Амаль жахнуўшыся, Іваноўскі ў наступнае імгненне порстка вертануўся на бок, рука звыкла схапілася за аўтамат, але ні ззаду, ні па баках ён не згледзеў ніякага руху. Усё наваколле нібы абмерла, адзін толькі стрэл – і болей ш гуку, і нідзе нікога паблізу. Праз момант, аднак, ярка засвяціла над хмызнякамі адразу ў двух месцах. Лейтэнант прасачыў за палётам ракет – яны, як і папярэднія, упалі ззаду, але тут жа ўзляцелі яшчэ дзве, абапал рачулкі. Пры іх

яркім святле густым імпэтным трэскатам загаманіў кулямёт ад пунькі, вогненныя яго пісягі сцебанулі па кустоўі ля рэчкі. Некалькі куль зрыкашэціла ад узмежка, за якім яны толькі нядаўна хаваліся, і агнянымі пырскамі разляцеліся ў бакі. Кулямёт быццам намацваў іх у начы, ды так блізка мацаў, што іх ратавала адно толькі цемра. Іваноўскі ляжаў і скрыгаў зубамі ад нямой роспачнай лютасці: так усё ішло добра – і на табе, некага ўбачылі. Ці ўчулі.

Мусіць, яны так праляжалі доўга, бо лейтэнант пачаў ужо ўздрыгваць ад сцюжы, мокрая бялізна ледзяным панцырам абліпала цела. Угары згарэла з дзесятак ракет, кулямёт ля пунькі пакрысе замоўк. І тады ззаду раз і другі яго пакратаў за бок Лукашоў. Іваноўскі павярнуўся на снезе тварам назад.

– Кудраўца паранілі.

– Як?

Сяржант замест адказу цепнуў плячыма і таксама павярнуўся назад, мусіць, чакаючы адтуль тлумачэння.

Было ад чаго вылаяцца, але лейтэнант толькі сударгава сцяў у рукавіцах па жменьцы снегу. Што і казаць – пачатак быў сапсаваны, а неўзабаве магло здарыцца і самае горшае: іх убачаць у полі. Тым не менш разбірацца, паўзці назад цяпер зусім не было калі, і ён загадаў першаму, каго згледзеў у змроку:

– Шалудзяк! Марш назад! Забраць параненага і назад!

Па твары байца ў паўзмроку слізганула штосьці разгублена-заклапочанае, але ён разгроб целам снег і знік у начы. Іваноўскі тут жа спахапіўся ад думкі, што за параненым лепш было б паслаць не яго, а каго-небудзь больш спрытнага, але вяртаць Шалудзяка ўжо не стаў. «Хай жыве», – з пачуццём нечаканага велікадушша падумаў ён. Не кожнаму выпадае такое, але гэты стары, напэўна, болей за іншых мае права, каб выжыць, – усё ж бацька, дома трое дзяцей, а гэта нешта ды значыць.

Немцы каля пунькі маўчалі, пэўна, так нічога і не ўбачыўшы; зрабілася ціха, толькі за лесам усё гурчэла, варочалася і стагнала далёкая гарматная калатнеча. Іваноўскага зноў ахапіў непакой за марна растрачаны час, які, не зважаючы ні на што, бег сваім чынам, і лейтэнант нават спалохаўся, што зусім спозніцца. Папраўдзе, ён не прадбачыў столькі нечаканасцяў у самым пачатку і цяпер падумаў нявесела: «А што яшчэ будзе!»

Іваноўскі рвануўся наперад, але не прапоўз і дзесяці крокаў, як зноў прыпаў да зямлі, ратуючыся ад патоку імклівых трас, што мільганулі наўкола. Распластаны на снезе, лейтэнант угледзеўся ў той бок, дзе ледзьве прыкметным бугорчыкам цямнела на снезе будыніна, і жвава памкнуўся назад пад ахову ўсё таго ж маленькага, ледзьве прыкметнага ўначы ўзмежка. Усё ж такі, напэўна, іх згледзелі. Угары з шыпеннем і трэскам шматалі неба ракеты, а кулямётныя трасы, агняна бліскаючы ў цемры, секлі, нізалі, узбівалі снег якраз на іхнім шляху з-за ўзмежка. У што б там ні стала трэба было выслізнуць з гэтае пасткі, але па ярка асветленым полі гэта было немагчыма.

Здаецца, яны папаліся як мае быць і надоўга. Добра яшчэ, што ім трапіўся гэты ўзмежачак, нібы пасланы Богам для іх паратунку, – ён хаваў іх ад кулямётнага агню з пагорка. Але колькі можна хавацца?..

Тым часам усе нерухома і моўчкі ляжалі, чакаючы яго рашэння і яго камандзірскага дзеяння. І ён надумаў адзіна магчымае: гранатамі закідаць кулямёт. Мабыць, лепш за ўсё падпаўзці да яго з боку фронту, ад рэчкі, і зрабіць гэта з найбольшым поспехам, вядома, мог толькі ён сам. Толькі аднаму, у крайнім выпадку, двум яшчэ можна падабрацца да яго незаўважанымі.

– Перадайце: старшыну – ка мне!

Па ланцужку перадалі яго каманду, і Дзюбін, хутка прыпоўзшы, моўчкі лёг побач.

– Во што. Трэба зняць кулямёт, – сказаў Іваноўскі і,

сустрэўшы ў адказ маўчанне, вытлумачыў: – Інакш не вылезем. У выпадку чаго вазьмі карту, павядзеш групу.

– Не гадзіцца так, – памаўчаўшы, сказаў Дзюбін. – Трэба другога каго.

– Каго другога? – сказаў лейтэнант. – Паспрабую сам.

Адхінуўшыся на бок, ён расшпіліў ватоўку, дастаў з-за пазухі пакамечаны аркуш карты, пасунуў бліжэй да старшыны свае лыжы. Кулямёт маўчаў, дагарала на снезе насцільна кінутая немцамі ракета, стала цёмна і ціха. Але ён ведаў, што варта толькі высунуцца з-за ўзмежка, як немцы зноў распачнуць свой тарарам; відаць, яны нешта ўсё ж бачаць.

– Лукашоў, за мной, – ціха гукнуў лейтэнант і не азірнуўся – ведаў, Лукашоў не адстане.

У суцэльнай цемры, якая неўзабаве агарнула іх, ён з аўтаматам у руцэ і трыма гранатамі ў кішэнях папоўз назад пад узмежкам. Трэба было спяшацца, інакш уся ягоная вылазка траціла свой сэнс. Гэта было не самае лепшае, можа, наадварот нават, але іншага выйсця са свайго становішча ён не знаходзіў. Іншым было хіба што вяртацца назад, што, зрэшты, таксама было няпроста. Ён злосна, роспачна лаяўся і паўтараў, грабучы снег: «Ну бі ж, гад! Бі! Шумі болей…»

Яму патрэбна было, каб кулямёт страляў. Калі кулямёт страляе, тады кулямётчык глухі і сляпы, тады б ужо лейтэнант як-небудзь падкраўся да яго. І кулямёт сапраўды хутка ўдарыў – адразу, як толькі засвяціла ракета. Але, на сваё здзіўленне, у першы момант Іваноўскі не ўбачыў ніводнай з ягоных трас. Кароткае недаўменне лейтэнанта, аднак, тут жа і знікла – кулямётныя чэргі кіравалі ў іх тыл, у бок поплаву і рэчкі, у тое месца, дзе яны нядаўна перапаўзалі яе ў кустоўі. На гэты раз немцы ўстрывожыліся надоўга і не на жарты. Над поплавам узгарэўся сапраўдны ракетны пажар, вакол стала відна, бы ўдзень, на лугавіну з пагорка несліся, скрыжоўваліся і разыходзіліся густыя веееры куль; некалькі кулямётаў з розных мясцін

здзічэла секлі кустоўе. Спярша Іваноўскі інстынктыўна ўціснуўся ў снег, няшмат бачачы з свае баразны і толькI напружана ўслухоўваючыся ў густы мігатлівы скрыгат угары. Але і не гледзячы, ён хутка сцяміў, што гэта не так сабе, што гэта ўсё – Шалудзяк. Значыцца, усё ж заўважылі, высвецілі і цяпер расстрэльваюць.

Сцяміўшы гэта, Іваноўскі рантам здрыгануўся ад радаснай і шчаслівай думкі: Шалудзяк браў агонь на сябе, трэба зараз жа гэта выкарыстаць. Лейтэнант тут жа развярнуўся ў снезе, на карачках прапоўз у галаву сваёй калоны, схапіў лыжы.

– За мной! – крыкнуў ён, ужо не асцерагаючыся, што ў гэтым грукаце яго ўчуюць немцы.

**2**

Апошнія метры да лесу яны не паўзлі, а прыпіуўшыся, знямогла беглі, пакуль адзін за адным не пападалі ў рэдзенькім чэзлым кустоўі. Распластаныя на снезе сутаргавай горкай задухай, хвіліну збянтэжана маўчалі, не ў стане сказаць ні слова. У кожнага ў такт з сэрцам білася адзіная цяпер думка – нібыта ўдалося, прайшлі, самае горшае засталося ззаду. Немцы з пагорка, здаецца, іх празявалі. Захопленыя стралянінай па поплаве, аслепленыя ззяннем ракет, яны, мабыць, не надта азіраліся па баках, пакуль не расстралялі ля ракі Шалудзяка з Кудраўцом, Дзякуй жа вам, дарагія байцы, расчулена думаў Іваноўскі, лежачы на снезе і ў гарачай задусе хапаючы ротам паветра. Першая плата за поспех была ўнесена, які цяпер будзе яго канчатковы вынік?

Яшчэ не зусім аддыхаўшыся, Іваноўскі прыўстаў і сеў на снезе. Рэдкія агнявыя бліскаўкі куль нізалі снежныя прыцемкі ўжо далекавата ззаду, насустрач ім несліся іншыя з сасонніку за поплавам – гэта ўступіў у бой батальён. Ля кустоўя ж было спакойна, перад імі ляжаў голы, не надта заснежаны схіл з клоччам быльнягу па межах. Іваноўскі дастаў гадзіыннік, была палова дзесятай.

– Хто страляў? – стрымана, з накіпелым гневам запытаў лейтэнант, успомніўшы злашчасны той стрэл ля ўзмежка.

Непадалёку сярод распластаных целаў у белым хтось заварушыўся і сеў на снезе. Па вастраку, што выпіраў пад капюшонам, камандзір пазнаў Дзюбіна – старшына быў у будзёнаўцы.

– Стрэліў Суднік.

– Я стрэліў, – вінавата і глуха пацвердзіў прастуджаны голас, і лейтэнант змоўк, сваім маўчаннем даючы зразумець, што хоча бачыць парушальніка перад сабой. Суднік расслаблена ўстаў на ногі.

– Чаму страляў?

Баец паварушыў у руках вінтоўкай.

– Ды во, з прадахраніцеля саскочыла.

Іваноўскі зірнуў на абкручаную бінтам зброю, і яго перасмыкнула ад злосці – у байца была СВТ, эфектная на выгляд дзесяцізарадка, складаная па канструкцыі і не вельмі надзейная ў баі. Проста бяда, як ён перад выхадам недагледзеў, хіба можна было з такой зброяй выпраўляцца ў тыл да немцаў?

– Чорт бы вас узяў! – не стрымаўшы гневу, з ціхаю злосцю вылаяўся лейтэнант. – Што ў вас за зброя?

– Вінтоўка.

– Якая вінтоўка?

– Самазарадная Токарава нумар эн-эм шэсцьсот дваццаць чатыры.

– Эн-эм! Вы горшай не маглі знайсці?

Відаць, толькі цяпер зразумеўшы свой промах, баец вінавата патупіўся. Лейтэнант амаль з нянавісцю пазіраў на яго прыціснутую цяжарам рэчмяшка

постаць, мокры, абвіслы на каленях халат. Увесь выгляд гэтае постаці выдаваў віну і пакору. Гэтая яго пакора, аднак, крыху прыцішала накіпелы камандзірскі гнеў, лейтэнант зразумеў, што дарма залішне караць чалавека за справу, аб якой ён не меў разумення. Тым не менш нелыа было і ігнараваць той факт, што Суднік ледзьве не загубіў усю групу, і лейтэнант цяпер проста не ведаў, што з ім рабіць.

– Вы разумееце, што вы нарабілі?

– Чорта ён разумее! – раптам, седзячы, злосна загаварыў Лукашоў. – Разгільдзяй ён! Нашто было браць такога!

Суднік па-ранейшаму стаяў моўчкі, нізка апусціўшы галаву.

– За такое дзела кокнуць цябе к чортавай матары! – пагрозліва прашаптаў лейтэнант. – Паняў?

Галава байца схілілася І яшчэ ніжэй, ён, відаць, абсалютна не ведаў, што сказаць у сваё апраўданне, і, гатовы прыняць кару, маўчаў. Але лейтэнант хутка адчуў, што нічога яму тут не зробіць: апроч як вылаяць гэтага недарэку ён нічога болей не мог.

– Ладна. Пасля мы з ім паталкуем, – напэўна, адчуўшы гэтую нерашучасць камандзіра, прымірэнча заўважыў Дзюбін.

– Я яшчэ разбяруся з табой! – шматзначна паабяцаў Іваноўскі і, павярнуўшыся, скамандаваў іншым: – На лыжы!

Усе разам заварушыліся, рыхтуючы лыжы, і хутка пасталі на іх – затрымлівацца тут не выпадала. Лейтэнант ухапіўся за палкі і азірнуўся, чакаючы гатоўнасці групы.

– Я б яго правучыў! Мне ён не папаўся, смаркач, – бурчэў паблізу сяржант Лукашоў.

– Ладна, усё! – гучным шэптам абарваў яго Іваноўскі. –

Гатовы? Суднік – за мной! Марш!

Лейтэнант рэзка ўзяў з месца, кіруючы ў прагаліну між хмызняку, аднак у пухнатым снезе лыжы слізгалі не дужа і рэзалі глыбокую каляіну, з якой тырчэлі толькі іх загнутыя дзюбкі. Голле чаплялася за маскхалат, здзірала з галавы капюшон. Мабыць, чвэрць гадзіны лейтэнант прадзіраўся цераз кустоўе, пакуль не вырваўся на ўзлесак. Тут таксама было па-начному ціха, толькі напорна дзьмуў вецер. Іваноўскі намацаў лыжамі цвярдзейшае і адштурхнуўся палкамі. Позірк яго быў скіраваны наперад, назад лейтэнант не азіраўся, ён чуў за сабой шоргат лыж і прывычнае пахакванне байцоў. Ягонае абурэнне Суднікам пакрысе пачало меншаць, уступаць месца іншым эмоцыям. Як-ніяк, усё ж найбольшая бяда іх мінавала, і Іваноўскі стаў прывыкаць да таго, што іх восем. Праўда, цалкам прымірыцца з гэтым было немагчыма, заўтра ж яму вельмі спатрэбяцца людзі, і Суднік заслугоўваў жорсткае кары. Але як яго пакараць? Расстраляць, вядома, было б занадта, лейтэнант меў арганічную агіду да такога звычайнага на вайне пакарання, калі і без таго гінулі тысячы, на гаўптвахту тут не пасадзіш. Значыць, трэба адкласці ўсё да вяртання. Да таго ж, увогуле, ім пашэнціла, магло быць горш. Калі разабрацца, дык яшчэ невядома, як бы ўсё сталася, каб Суднік не стрэліў, не паранілі Кудраўца і яны не адправілі з ім Шалудзяка, які незнарок падмануў сабой немцаў і выручыў усіх. Зусім магчыма, што да раніцы Ім не ўдалося б прарвацца з-за таго ўзмежка, а повІдну іх бы за паўгадзіны расстралялі ўсіх з мінамётаў. Ці шмат патрэбна для дзесяці чалавек? А так вось прарвалІся, і цяпер толькі б не наскочыць дзе ноччу на якія тылавыя часці.

Неўзабаве на снезе пачаўся невялікі спуск, лыжы пайшлі лягчэй, рукам стала вальней, і леЙтэнант азірнуўся. Суднік увішна ішоў следам, трошкі адарваўшыся, цягнуўся ў паўзмроку сяржант Лукашоў. Астатнія таксама нібыта падраўняліся, і ў ветраным начным полі чуўся роўны шоргат снегу пад лыжамі. Лейтэнант яшчэ павялічыў тэмп. Дарога была далёкая,

нават завельмі далёкая для адной ночы, і вельмі трэба было спяшацца. Тут ён яшчэ памятаў маршрут, вывучаны ўчора па карце, і ведаў, што неўзабаве зноў пойдзе поплаў усё ля той жа рачулкі, якой і трэба будзе трымацца.

Пасля кустоўя байцы ўвайшлі ў рытм, і група хутка рухалася ў шэрым начным паўзмроку. Хмарнае неба шчыльным дыванам атуліла зімовы прасцяг, у якім цьмяна шарэлі навокал размытыя плямы кустоў, дрэў, бадыльнягу і мноства яшчэ нечага, невыразнага і загадкавага. Ракеты на перадавой свяцілі далёка ззаду, адсюль відаць былі толькі іхнія мігатлівыя водсветы за пакатым узгоркам.

Паступова Іваноўскі пачаў спакайнець, набіраць раўнавагі і разважнасці. Праўда, увесь час не выходзіў з галавы Шалудзяк, так няладна з ім атрымалася – пашкадаваў, называецца. Напэўна, спатрэбіўся б заўтра, усё ж сапёр і пажылы чалавек, не які там хлапчук, як гэты Суднік. Мабыць, з сапёрамі яму не пашэнціла, хоць болей за іншых былі патрэбны менавіта сапёры. Але тут нічога не зробіш. У той час, як група ляжала ў святле ракет, здавалася, вярнуў бы назад палавіну, абы другая палавіна прарвалася. Лейтэнант з уласнага вопыту ведаў, што далёка не ўсё у жыцці атрымліваецца так, як трэба, тым больш на вайне. Каб дасягнуць мэты, часам трэба да апошняй магчымасці змагацца з магутнаю сілай абставін, іначай праваліш справу і прападзеш сам. Наогул вайна бязлітасная да кожнага, але сапраўды першым на фронце гіне баязлівец – менавіта той, хто болей за іншых даражыць жыццём. Зрэшты, даволі гіне і смелых. Вайна надзіва сляпая ў адносінах да людзей і далёка не па іхніх заслугах распараджаецца жыццямі. Як нідзе ў мірным жыцці, тут здрадлівы і зменлівы лёс чалавека, якому, каб выжыць, ні на хвіліну нельга выпускаць з рук тугіх лейцаў абставін, пры ўсякіх, самых немагчымых, умовах трэба старацца кіраваць імі.

Горыч ад першай і такой недарэчнай страты не пакідала Іваноўскага. Ненадоўга лейтэнант забываў пра

яе, заняты дарожнымі клопатамі, але яна ўсё вярталася шчымлівым, надта добра знаёмым на вайне болем. І колькі ён ні пераджыў яго за пяць месяцаў, гэты вярэдлівы ў сэрцы боль, і якім бы звыклым ён ні здаваўся часам, зусім прывыкнуць да яго было немагчыма. Колькі ўжо Іваноўскі страціў назаўжды за гэтыя месяцы вайны! Думалася, пара б ужо і прывыкнуць да саміх страт і скарыцца усведамленню іх непазбежнасці. Але як ні прывыкаў, не-не ды і находзіла такая роспач, што, думалася, лепш бы падставіў пад тую праклятую кулю сваю ўласную голаў, чым бачыць, як назаўжды апускаюць у магільную глыбіню блізкага табе чалавека.

А свайго лепшага сябра, разведчыка капітана Волаха, ён нават не паспеў закапаць...

Проста ў іх не знайшлося рыдлёўкі і якіх-небудзь пятнаццаці хвілін часу, а ад шашы ўжо імчаліся на матацыклах немцы. Адстрэльваючыся, яны з Паграбняком загарнулі цела капітана ў палатку і таропка закідалі яго перамешаным са снегам лісцем. Так і застаўся іх камандзір на ўзлеску таго далёкага смаленскага ўрочышча, дзе ледзьве не засталіся ўсе. А наступнага за ім, сяржанта Рукавіцына, нават не ўдалося вынесці з пагорка, на якім яго напаткала куля, і праз дзесяць хвілін яго там падабралі немцы.

Наогул Іваноўскаму шанцавала ў вайну на харошых людзей, але самым вялікім шанцаваннем, вядома, быў капітан Волах. Нейкім невыразным пачуццём лейтэнант зразумеў гэта адразу, як толькі ўбачыў яго на прысмужанай ранішнім туманам прасецы ў Бароўскіх лясах. Стоячы на каленях, капітан нешта вытрасаў з кішэняў у пакладзеную на мох фуражку, побач ляжала разгорнутая карта, а навокал сядзелі і ляжалі яго разведчыкі. Усе былі ў зялёных маскіровачных халатах з адкінутымі капюшонамі і ў пілотках, толькі ў аднаго капітана была фуражка, па якой лейтэнант адразу пазнаў у ім камандзіра і прывітаўся.

– Таварыш камандзір, дазвольце звярнуцца.

– Калі ласка, – проста і ўсмешліва, без ценю камандзірскай строгасці сказаў капітан. – Звяртайцеся, калі ёсць з чым. А то ў нас во адзін пыл.

Відаць, ён не супраць быў пажартаваць і, можа, нават пачаставаць іх махоркай, але махорка ў яго ўся скончылася, як скончылася яна І ў лейтэнанта Іваноўскага. Праўда, лейтэнанту цяпер было не да курыва, ён болей бы ўзрадаваўся сухару ці кавалку хлеба, бо два дні яны амаль нічога не елі. Пасля разгрому ў начным баі пад Крупцамі ён адбіўся ад палка, трапіў у акружэнне, выйшаўшы з якога з дванаццаццю байцамі блукаў па лясах у пошуках сваёй часці. Але нідзе ён не мог набрысці нават на рэшткі сваёй дывізіі, часам траплялі байцы з невядомых яму часцей, але ніхто з іх нічога толкам не ведаў, у прыфрантавой паласе ўсе пераблыталіся – і нашы, і немцы. Яшчэ праз дзень вакол засталіся адны толькі немцы, ён скрозь натыкаўся на іх саміх або на свежыя іх сляды і тыдзень кідаўся па пералесках у пошуках якога-ніякога выйсця. У яго не было карты, і зусім незразумелай была абстаноўка, сустрэчныя ў шляху чырвонаармейцы давалі самыя супярэчлівыя звесткі. Зразумела было адно – нашы адышлі далёка, а немцы пруць на Маскву. У некалькіх выпадковых сутычках ён страціў яшчэ трох чалавек; двое зніклі ўначы: можа, адбіліся дзе ў цемры і прысталі да іншых груп, а можа, і яшчэ горш. З ім засталіся чацвёра, яны забрылі ў нейкую лясную глушэчу, дзе ўжо не было ні немцаў, ні нашых. І вось гэтая выпадковая сустрэча з групай разведчыкаў на краі лясной прасекі.

Капітан усё ж нешта натрос з кішэняў і скруціў тоненькую скупую цыгарку. Астатнія моўчкі і, як здалося лейтэнанту, з затоеным сумам назіралі за сваім камандзірам.

– Як запальнічка, уцалела? – запытаў капітан, запіхваючы ў сінія галіфэ вывернутыя кішэні,

– Якая запальнічка? – здзівіўся Іваноўскі.

І раптам усё прыпомніў.

Сапраўды, месяц назад пад Касачовам, дзе яны стаялі тады ў абароне, неяк перад світаннем начальнік разведкі палка прывёў на батарэйны НП незнаёмага камандзіра ў фуражцы і з ордэнам Чырвонага Сцяга на габардзінавай гімнасцёрцы. Як трошкі развіднела, яны пачалі нешта разглядваць у стэрэатрубку на нямецкім баку, нешта адзначалі на карце. Пасля разам паснедалі. Капітан яшчэ пачаставаў Іваноўскага «Казбекам» і, прыкурваючы, звярнуў увагу на яго трафейную запальнічку ў форме будыйскага манаха. Запальнічка сапраўды была даволі забаўная: націснеш на спружынку – і ў манаха адскоквала палавінка чэрапа, з якога ўспыхваў далікатны агеньчык полымя.

Запальнічка была пры ім, Іваноўскі дастаў маленькую чорную фігурку манаха, вялікім пальцам ціскануў на спружынку. Але ў гэты раз агеньчык не паявіўся, мабыць, не было бензіну.

– Цікава, цікава, – сказаў капітан. – Шкада, курыва кот наплакаў.

– У нас таксама ні каліва, – сказаў Іваноўскі.

Іх твары ўраз пасур’ёзнелі, капітан нацягнуў на плечы сваю прадраную ў некалькіх месцах куртку. Адчуваннямі завалодала невясёлая франтавая будзённасць.

– Даўно бедствуеце? – запытаўся капітан.

– З семнаццатага. Як разбілі пад Касачовам.

– Што ж, пойдзем разам. Вось тут, на маёй карце, азначаны стык, сюды і паспрабуем сунуцца.

Яны прабіраліся яшчэ чацвёра сутак, але ніякага стыку ў нямецкай лініі фронту не знайшлі, як, зрэшты, не знайшлі і самога фронту. Стаяла глыбокая восень, лісце з дрэў усё абсыпалася, пасля сцюдзёных зацяжных дажджоў наступіла ранняя золкая сцюжа. Дарогі былі забіты абозамі, аўтамабілямі, фурманкамі перадавых і тылавых нямецкіх часцей. Байцы падбіліся ад

шматдзённай хадзьбы па бездаражы, схуднелі ад голаду. Некаторых пачалі дапякаць прастуда, кашаль. Лейтэнанта мучыла скуллё па ўсім целе. А пасля ў групе з’явіўся паранены ў нагу разведчык, які не мог ісці, і яны па чарзе неслі яго на звязаных з жэрдак і палаткі насілках. Па гэтай прычыне яны не маглі ісці хутка, але камандзір не хацеў пакідаць разведчыка. Гэта быў выдатны разведчык, светлавокі і светлавалосы атлет па прозвішчу Фіх, які лёгка размаўляў па-нямецку. Паранілі яго выпадкова, калі яны ўдзень заскочылі ў вёску, каб распытацца пра дарогу і разжыцца чаго-небудзь з ежы, і ўжо ў самым пачатку вуліцы наткнуліся на немцаў. Першага немца, які выйшаў з падворка, капІтан зваліў ударам нажа ў шыю. Гэта аказаўся афіцэр з сумкай, і Волах па старой звычцы разведчыка перш-наперш схапіўся за яго палявую сумку. Але следам за афіцэрам ішлі яшчэ двое, адзін з іх стрэліў з пісталета і трапіў Фіху ў сцягно. Добра, што Балаенка тут жа крамсануў чаргой, немец упаў, і яны ўсе кінуліся на гарод, падхапіўшы параненага, які пасля гэтага стрэлу не ступіў болей ніводнага па зямлі кроку. Напэўна, нямецкая куля пашкодзіла які-небудзь цэнтральны нерв, нага павісла, бы нежывая. Да таго ж неўзабаве паднялася тэмпература, мабыць, пачалося заражэнне. Бясконцыя пераходы прычынялі нясцерпныя мукі параненаму, павязка ўвесь час спаўзала, рана крывяніла. Фіх, сцяўшы зубы, трываў, усё болей хмурыўся і не хацеў размаўляць.

Аднойчы яны спыніліся адпачыць на нейкім зарослым маладым дубнячком прыгорку. Лісцяны лес ужо стаяў увесь голы і непрытульны, толькі пакручастыя дубкі шалясцелі на ветры сваёй надта пажухлай, але яшчэ па-летняму густою лістотай. Тут было трохі зацішней: дубняк надзейна хаваў іх ад чужых вачэй. Як толькі спынІлІся, разведчыкі пападалі на зямлю. З маўклівай адчужанасцю на схуднелым твары ляжаў на насілках Фіх. Есці не было чаго, курыць таксама. Два разведчыкі пайшлі шукаць якое жыллё, каб разжыцца на ежу і пакарміць параненага.

– Слухай, Фіх, – раптам сказаў капітан. – Ты не бойся. Мы цябе не пакінем. Мы цябе вынесем, і ўсё будзе добра. Галоўнае – не падай духам.

– Аддайце мой пісталет, – слабым голасам прамовіў Фіх.

Два дні запар ён патрабаваў свой пісталет, які, западозрыўшы кепскае, выняў у яго з кабуры Волах. Цяпер кожная размова з ім пачыналася і канчалася патрабаваннем Фіха вярнуць пісталет.

– Ну во, ты зноў за сваё! Аддам я твой пісталет. Але спярша трэба цябе данесці да сваіх.

– Аддайце мой пісталет! Нашто ўзялі? Для апраўдання сумлення? Плюнь, капітан...

Угаварыць яго было немагчыма, капітан, відаць, разумеў гэта і асабліва не ўгаворваў. Іхняе становішча не пакідала зашмат ілюзіі, ды яны і не мелі патрэбы ў ілюзіях. Безнадзейнасць Фіхавага стану была відавочнай як для самога Фіха, так і для ўсіх васьмярых у групе, у тым ліку і старога дружка Фіха сяржанта Рукавіцына, які ўсю дарогу даглядаў параненага, як толькі было магчыма. Бяда, аднак, заключалася ў тым, што магчымасці гэтыя былі надта малыя, а Фіх хутка згасаў, І Рукавіцын нічым не мог яму памагчы. З прыгнечаным выглядам ён сядзеў над таварышам і бруднай насоўкай выціраў яго бледны спатнелы лоб.

– Да-а, дзяла! – сказаў капітан. – Што ж нам з табой рабіць?

Пытанне было чыста рытарычнае, ніхто не мог і не спрабаваў на яго адказаць. Зрэшты, капітан і не чакаў адказу – проста ён разважаў услых. Аднак на гэты раз разважаць яму давялося нядоўга – вярнуліся два разведчыкі і паведамілі, што вёсак паблізу няма, а недалёкая адсюль леснічоўка стаіць пустая – нічым, што было б можна з’есці, пажывіцца там не ўдалося. Але, ідучы назад, разведчыкі ўбачылі, як па дарозе ў суседні лясок адна за адной ішлі гружаныя нямецкія машыны, якія хутка там разгружаліся і ўлегцы

вярталіся ранейшай дарогай. Відаць па ўсім, у лясок перабазіруецца які-небудзь вялікі нямецкі склад.

Вядома, яны разумелі, што склады могуць быць розныя: з фуражом, боепрьшасамі, палівам, рэчавай, інжынернай або нават хімічнай маёмасцю. Але могуць быць таксама і з прадуктамі. Напэўна, верагоднасць апошняга меркавання здалася згаладнелым байцам найбольшай, і капітан жвава ўскочыў на ногі.

– Ану, дзе? Далёка?

– Ды кіламетры за два адсюль.

Яны хутка зняліся з месца, мінулі дубнячок, пасля абышлі па краі равок, перайшлі макраватую лугавінку, зноў улезлі ў калючае густое кустоўе, на выхадзе з якога па камандзе Волаха ўсе разам сталі. Праз сучча алешніку было відаць, як па калдобістай, разбітай дарозе ў рэдкі сасновы лясок паўзлі сямітонныя «б’юсінгі», недзе там яны разгружаліся і хутка кацілі ўніз, мабыць, за новай партыяй грузу.

Капітан адразу ж сеў, дзе стаяў, дастаў з-за пазухі бінокль. Разведчыкі апусцілі насілкі з Фіхам.

– Ух ты, што там наварочана! Во гэта да! – здзівіўся капітан. – Дротам абносяць, так, так. А падыходы ўвогуле неблагія. Ось бы, калі сцямнее… На, зірні, – сказаў ён, перадаючы бінокль Іваноўскаму.

Лейтэнант адшукаў у голым суччы прагаліну, накіраваў у бок лесу бінокль. Выразна стала відаць, як там разгружаліся машыны. Працавалі, здаецца, палонныя, на невялікай адлегласці ад іх тырчэлі цёмныя постаці ў даўгіх шынялях, з вінтоўкамі ў руках. Пад высокімі хвоямі на ўзгорку выцягнуліся даўгія груваасткія рады зялёных і жоўтых скрынак. Некалькі раней уладкаваных штабялёў былі ўжо накрыты і абвязаны брызентам.

– Цікава, што? – разважаў капітан. – Але ўсё роўна. Зробім феерверк на ўсю Смаленшчыну. Рукавіцын, супрацьтанкавая граната ў цябе цэлая? Дабро! А тол ты

яшчэ не выкінуў, Паграбняк? Ракеты трэба падрыхтаваць таксама. Спатрэбяцца.

Ён тут жа, у алешніку, абвясціў свой імправізаваны план нападу на склад, размеркаваў абавязкі паміж васьмёркай змораных, галодных людзей. З параненым пакінуў спярша двух байцоў, а пасля аднаго Рукавіцына. Сваім намеснікам назначыў яго, Іваноўскага. Рашылі пачынаць, як толькі крыху сцямнее.

– Вясёленькая будзе ноч! – радаваўся капітан, тручы азяблыя рукі. – Закурыць бы цяпер, ды нечага...

## 3

Напэўна, лепш будзе ўзарваць. Пад дротам працягнуць зарад са шнурам, падкласці пад штабель. Вартавога заманіць у другі бок – як гэта зрабіць, Іваноўскі ведаў, некалі вучыў капітан Волах. Ёсць некалькі спосабаў. Вядома, лепш бы зусім зняць вартавога, але калі аб’ект вялікі, вартавых будзе некалькі, усіх не знімеш.

Так разважаючы, Іваноўскі няхутка спускаўся на лыжах з непрыкметнага ўначы пагорачка. У снегавой цемры наогул не разгледзець было, дзе пагорак, а дзе лагчынка, ён толькі адчуваў гэта па вазе лыж на нагах, якія то цяжэлі, і тады з’яўлялася патрэба памагчы сабе палкамі, то беглі па снезе ахвотней. Іваноўскі ўвесь час кіраваўся на поўдзень, час ад часу правяраючы кірунак па компасе. Справа ў туманнай імгле, то набліжаючыся да лыжні, то аддаляючыся ад яе, выгіналася ўсё тая ж рачулка, якую ён пазнаваў здаля па няроўным шнурку кустоўя на яе берагах. Злева да яе спускаліся схілы невысокіх пагоркаў, якія даводзілася перасякаць лыжнікам.

З’ехаўшы з чарговага схілу, Іваноўскі спыніўся. Лыжы затрашчэлі ў нейкіх сухіх сцяблінах, і лейтэнант пачаў азірацца па баках, каб абысці іх. Ззаду па адным пад’язджалі і спыняліся яго байцы.

– Ну як? – запытаўся ён гучным голасам.

Тут, здаецца, ужо ніхто не мог іх пачуць.

– Угрэліся, лейцінант, – цяжка дыхаючы, адказаў Лукашоў, белая пара валіла ад яго мажнай постаці.

Суднік ухапіў жменю снегу і, падпёршыся палкамі, пачаў яго есці. Неўзабаве пад’ехалі Хакімаў і Краснакуцкі; яшчэ нехта спускаўся па схіле.

– Дзюбін! – паклікаў лейтэнант.

– Ідзе быццам, – не адразу адгукнуўся голас з прыцемак, і ён падумаў, што калі замыкаючы тут, значыць, усе ў зборы, можна рушыць далей.

– Як бы перадыхнуць, таварыш камандзір. Прывал бы, га? – з ноткаю скаргі сказаў Краснакуцкі.

Іваноўскі выняў гадзіннік. Вялікая стрэлка набліжалася да дванаццаці, малая ўжо дасягнула гадзіны.

– Адставіць прывал, – сказаў лейтэнант. – Мы познімся.

– Ужо ўсе паджылкі дрыжаць.

– Уцягвайцеся. Пасля лягчэй будзе. Так, за мной – марш!

Ён баяўся адпачынкам расхаладзіць байцоў, па сабе ведаў, як гэта цяжка пасля прывалу зноў набіраць тэмп. Важна было вытрымаць пэўную хуткасць на працягу ўсёй ночы, можа, нават павялічыць яе, калі будзе трэба. Ён ведаў – хутка павінна паявіцца другое дыханне і тады ўсім стане лягчэй.

Але змора брала сваё, і лейтэнант усё часцей стаў заўважаць, што галава яго ўпарта хіліцца ўніз і перад вачыма пачынаецца аднастайнае мільганне лыжных наскоў. Аднойчы, з намаганнем адарваўшы позірк ад снегу, ён згледзеў наперадзе штосьаднастайна-шэрае, падобнае на высокую сцяну лесу. І на самай справе гэта быў лес – перапыніўшы іх шлях, трывожна і цягуча шумелі на ветры хвоі. Іваноўскі недаўменна здзівіўся – на карце ў тутэйшым месцы не значылася ніякага лесу,

тым больш хвойнага. Ён падумаў, што, можа, згубіў напрамак, і пачаў таропка арыентавацца па компасе. Але не, усё было правільна, напрамак ён трымаў той самы, дакладна сто дзевяноста градусаў, але чаму тады лес? І як з ім быць – прайсці наскрозь, не мяняючы маршруту, ці абысці? І з якога боку яго абыходзіць?

– Што, лейцінант, перакур? – запытаўся Лукашоў ззаду.

Чамусьці ен падышоў раней за Судніка, які адстаў так, што ледзьве ўгадваўся ў змроку. Гэта парушала ўстаноўлены ім парадак на маршы, і ў Іваноўскага вырвалася:

– А чаму вы тут?

– Дык во сапёр... Надакучыла на пятах сядзець.

Здаецца, лыжнікі пачалі расцягвацца, гэта ўжо нікуды не гадзілася, лейтэнант думаў, што па гатовай лыжні можна б ісці спрытней. Ён схаваў компас у рукаў і, засяроджана згадваючы, што рабіць з лесам, чакаў, пакуль падыдуць астатнія.

Хвіліны праз тры або нават пяць падышлі Хакімаў і Краснакуцкі, астатніх нідзе не было. Трацячы цярпенне, лейтэнант пачакаў яшчэ. Змораныя лыжнікі, ледзьве спыніўшыся, навальваліся грудзямі на канцы ўваткнутых у снег палак, так адпачывалі. Усе трудна, з натугай дыхалі і хапалі рукамі снег.

– Ці хутка, таварыш лейтэнант? – запалым голасам запытаўся Краснакуцкі. – Ведаеце, сілы ўжо не стае...

– Дзе астатнія? – замест адказу ўстрывожана запытаўся лейтэнант.

– Ды ідуць. Заяц, напэўна, адстаў. Ну і старшына там з ім нянькаецца.

– А Піваравў?

– Ды вунь ідзе нехта.

Са снегавой цемры, затканай на ветры пагусцелай крупой, выслізнула яшчэ адна постаць у белым. Гэта быў Піваварaў.

– Дзе астатнія?

– Не ведаю. Ззаду нікога быццам, – адказаў баец. – Я там з лыжаю правалэндаўся...

– Ладна. Пайшлі.

Лейтэнант не мог болей чакаць, падумаў, што старшыне не ў навіну такія справы, ён не павінен адстаць. Зноў жа на снезе выразна відаць добра ўезджаную лыжню, хай даганяе, і лейтэнант павярнуў управа, уздоўж баравога ўзлеску, у абход сасонніку. Лезці ў яго наўпрост ён не адважыўся, каб незнарок дзе-небудзь не натрапіць на роў ці якое ламачча, а то і проста не забрысці ў гушчар. Усё ж ш лыжах ноччу па лесе ісці не гадзілася.

Але ён не ведаў, як абысці яго, і брыў уздоўж бясконцай крывуліны ўзлеску, паўтараючы лыжамі ўсе яго абрысы. Ішлі куды асцярожней, чым у полі, пад хвоямі ў зарасніках падлеску ўвесь час нешта цямнела, здавалася, нейкія цені, постаці. Але, падышоўшы бліжэй, ён кожны раз пераконваўся, што гэта былі маладыя елкІ.

Між тым вецер мацнеў, цяпер ён амаль увесь час дзьмуў ім насустрач. Тонкая бязь маскхалата пузырылася на спіне, часам ляскала, нібы парус. Лейтэнант адчуў, што і ў яго прыкметна паменела спрыту, а з ім і ўпэўненасці ў тым, што ён ідзе правільна. У іншым ён не сумняваўся. Ён то рабіў энергічны рывок, то спакваля пераходзіў на ўмераны крок, напэўна, з большай чым трэба асцярогаю азіраючыся па баках. Час ад часу ён прыслухоўваўся да гукаў ззаду, стараючыся зразумець, ці не даганяюць іх Заяц з Дзюбіным.

Але Дзюбін усё не даганяў, а хвойнік нечакана скончыўся, яны нарэшце дасяглі заходняга краю лесу Далей сасновы ўзлесак паварочваў на поўдзень і,

закругляючыся, адступаў кудысь на паўднёвы ўсход. Гэтага толькі чакаў Іваноўскі. Ён нават уздыхнуў з палёгкай і, спыніўшыся, увагааў палкі ў снег: трэба было зарыентавацца з картай.

– У каго там... Піваварaў, у вас палатка?

– У мяне, таварыш лейтэнант.

– Дай сюды.

Не саступаючы з лыж, Іваноўскі прысеў на снезе. Піваварaў старанна накрыў яго плашч-палаткай – пасля мільготнае белізны снегу зрабілася надзвычай цёмна і ціха. Слабай плямкай святла з ліхтарыка лейтэнант павёў па скамечаным аркушы карты, і адразу яму стала ўсё зразумела.

Рака тут рабіла вялікі паварот направа, таму ён згубіў яе ў цемры і наткнуўся на лес. Але наўрад ці была такая патрэба агінаць усе яе павароткі, напэўна, разумней было ўзяць адразу на поўдзень і тым зрэзаць немалы крук. Праўда, без ракі будзе трудней арыентавацца ўначы, тым болей што карта мела свае недакладнасці. Хвойны лес, які яны абышлі, зусім не быў азначаны на ёй, тапографы нанеслі тут толькі некалькі дробных кружочкаў, якія азначалі кустоўе. Калісьці, можа, гэта і было кустоўе, а цяпер вунь разросся лес – на добрыя два кіламетры ўдоўжкі, – які ледзьве не ўвёў яго ў зман.

Зразумеўшы, дзе знаходзяцца, лейтэнант скінуў з сябе палатку.

– Старшыны няма?

– Няма яшчэ. Можа, пачакаем? – спытаўся Лукашоў.

З апошняй надзеяй Іваноўскі ўгледзеўся ў ноч, прыслухаўся, але ззаду нікога не было чуваць. Доўгая адсутнасць старшыны пачала не на жарт трывожыць, з'явіліся розныя благія меркаванні, але ён гааў іх, бо хацеў верыць, што Дзюбін дагоніць. Цяпер жа трэба было ісці далей, і патрэбны быў замыкаючы. Старшым у групе па званні пасля камандзіра быў сяржант

Лукашоў, і лейтэнант сказаў:

– Лукашоў, пойдзеш замыкаючым. І каб ніякіх адставак. Паняў?

– Панятна, – цвёрда адказаў сяржант і саступІў з лыжні, каб прапусціць наперад астатніх.

– Тады марш! Яшчэ пару рыўкоў – і сініца ў шапцы.

Тады таксама сініца ледзьве не апынулася ў шапцы.

Яшчэ не сцямнела, як на мокрую зямлю пачаў падаць мокры сняжок. Было ціха. Спярша ён ішоў рэдзенькі, пухнаты – прыгожыя сняжынкі раздумна кружыліся ў паветры, плаўна асядаючы долу. Пасля снег пагусцеў і на змярканні паваліў так густа, што за пяць крокаў нічога не было відаць. Разведчыкі цярпліва сядзелі ў кустоўі і чакалі. За некалькі гадзін усе дужа азяблі. Параненага Фіха накрылі мокрай палаткай, і ён ціха пад ёй стагнаў. Калі крышку сцямнела, Болах і сяржант Балаенка пайшлі паназіраць за складам: з кустоў ужо нямнога было відаць.

Праз якую чвэрць гадзіны ўзрушаны Балаенка вярнуўся і перадаў загад капітана: Фіха з Рукавіцыным пакінуць на месцы, а астатнім бегчы на ўзлесак. Яны ўскочылі і хутка прыбеглі да свайго камандзіра. Да склада адсюль было зусім блізка, але снегапад і вечаровае сутонне не давалі нічога згледзець. Ажыўлены капітан рашуча аб’явіў, што дзейнічаць пачнуць зараз жа, не чакаючы ночы, бо пільнасць нямецкіх вартавых яшчэ аслаблена няўлёглай мітуснёй разгрузкі. Ніхто не запярэчыў капітану, разведчыкі заўжды слухаліся першага яго слова і ўсё выконвалі моўчкі і дакладна. Іваноўскаму ж у гэтай дыверсіі ўсё было новае і незвычайнае, ва ўсім ён спадзяваўся на Волаха і стараўся як мага дакладней выконваць яго загады.

– Якраз дарэчы сняжок, – сказаў лейтэнант, апускаючыся ля камандзіра.

Той павярнуў незадаволены, заклапочаны твар.

– Не дужа дарэчы. Нас не відно, але і мы ні д’ябла не бачым. А база вялікая.

Цяжка было ўгадаць, як лепш, аднак снег не пераставаў, і капітан рашыў пачынаць. Чацвярых з трафейным МГ пад камандай Іваноўскага ён пакінуў на ўзлеску з задачай прыкрыць на выпадак адходу, а сам з двума разведчыкамі, забраўшы ўсе гранаты, накіраваўся да базы. Не было ніякага развітання, проста Іваноўскі правёў іх даўгаватым позіркам, счакаўшы, пакуль усе трое адзін за адным не зніклі ў густых, белых ад снегу прыцемках. Ціхенька зарадзіўшы кулямёт, лейтэнант пачаў чакаць на ўзлеску.

Нейкі час наперадзе было цёмна і ціха, марудна цягнуліся хвіліны самотнага, напружанага чакання. У думках Іваноўскі ішоў за капітанам, уяўляючы сабе, як той пераадолеў адкрыты ўчастак поля, набліжаўся да ўзлеску. Пасля ён павінен, напэўна, спыніцца, каб агледзецца. Але што гэта?..

З ветранай снегавой цемры раптам даляцеў нейкі дзіўны спалоханы крык, за ім следам наступны, і перш чым Іваноўскі паспеў што падумаць, бахнуў блізкі вінтовачны стрэл. Тут жа над вяршынямі сосен пырхнула ракета, яна не шмат асвяціла на белым, затканым завеяй прасцягу, але Іваноўскі сцяміў: задума капітана сарвалася.

Напэўна, трэба было прыкрываць адыход, можа, пераняць агонь на сябе, але ён не ведаў, дзе капітан і чаму той ніводным стрэлам не адказаў на агонь вартавых. Аднак калі ад дарогі ўздоўж ла ўзлеску секанулі трасіруючыя кулямётныя трасы, ён не стрываў і ўдарыў з МГ насустрач, – наўздагад у тое месца ў цемры, дзе яны ўзнікалі. Ён з нецярпеннем чакаў паяўлення Волаха і выпусціў толькі адну чаргу па нямецкім кулямётчыку. Наўрад ці яго чарга дасягнула мэты, але ў іх малавата было патронаў, усяго адна стужка, трэба было эканоміць. Увесь час лейтэнанту здавалася, што вось-вось тры знаёмыя постаці выскачаць з цемры, і тады ўсе яны кінуцца прэч ад гэтай праклятай базы. Але мінаў час, а з цемры ніхто не

выскокваў, і лейтэнант змушаны быў чакаць. Побач у снезе ляжаў яго баец Таўкачоў. Гукнуўшы да яго, Іваноўскі махнуў у бок базы, і той ускочыў і паслухмяна пабег у поле.

Ракеты над сасоынікам гарэлі не перастаючы, флангавыя трасы несліся кудысь у адно пэўнае месца – мабыць, нямецкі кулямётчык ведаў, куды цаляў. Іваноўскі з калена выпусціў другую чаргу наўздагад, і тады ўвесь гэты недалёкі ўзлесак сасонніку загрукатаў стрэламі, – мабыць, ахова заняла абарону і на поўным сур’ёзе адбівала напад. У такім выпадку трэба было хутка змывацца. Але капітана ўсё не было, і нядобрае прадчуванне сцяла Іваноўскаму горла.

Ён не адразу заўважыў, як нехта з’явіўся ў полі, у дрыготкім святле ракет праз завею наперадзе мільгануў хісткі цень. У той час як другі цень упаў, гэты імгненна вырас да гіганцкіх, на ўсё поле, памераў; абмінаючы яго, з двух бакоў на ўзлесак ляцелі кулямётныя трасы. У некалькі скачкоў Цень дасяг іхняга ўзлеску, і праз грукат страляніны Іваноўскі пачуў:

– Капітана забіла!

– Стой! – крыкнуў ён і ўскочыў. – Стой!

Гэта быў баец Фартучны, увогуле неблагі разведчык, каго, можа, болей за іншых любіў капітан Волах, але цяпер, ахоплены незразумелым спалохам, ён апантана ўцякаў з-пад агню, прынесеная ім страшная вестка, аднак, не дужа ўразіла лейтэнанта, той ужо адчуў, што сталася кепскае. Але што загінуў сам капітан Волах, гэтага ён не мог сабе ўявіць.

– Стой! Назад!

Ён падхапіў кулямёт з цяжкой, абвіслай да самага снегу стужкай і кінуўся ў поле. Выламваючы ногі на прысыпанай снегам раллі, хвіліну бег у той бок, адкуль паявіўся Фартучны. Не азіраючыся, ён ведаў, што Фартучны вернецца і пабяжыць за ім – інакш не магло быць. Ракеты свяцілі няспынна, Іваноўскі ўжо не

хаваўся ад іх святла і з ходу запусціў чаргой па сасонніку, каб прымусіць немцаў пасцерагчыся, залегчы. У гэты час Фартучны ўвішна абагнаў яго і знік за снегавой завесай наперадзе.

Іваноўскі падаўся было за байцом, як у ракетным святле над полем убачыў некалькі постацяў, якія беглі ад дарогі ўздоўж драцяной агароджы базы. Спалохаўшыся, што яны перахопяць Фартучнага, ён таропка выпусціў па іх апошнюю сваю чаргу, і калі апусцелы канец металічнай стужкі выскачыў у снег, кінуў непатрэбны цяпер яму кулямет і выхапіў з кабуры ТТ. Але ён ужо ўбачыў сваіх – двое разведчыкаў, прыгнуўшыся, за рукі і ногі валаклі камандзіра.

– Жывы? – запытаўся ён, падбегшы да іх.

– Дзе там! Забіты! – крыкнуў Фартучны. – Пракляты вартавы! Трэба ж...

Адстрэльваючыся, яны змянілі напрамак, доўга беглі ў кустоўі і толькі, калі адышліся кіламетры на два, у нейкім ляску перавялі дыханне. Капітан быў забіты ва ўпор, несці яго далей не мела сэнсу, да таго ж недзе паблізу трашчалі матацыклы – здаецца, немцы паслалі пагоню. Спяшаючыся, яны як-колечы разрыхлілі мокрую, з лісцем, зямлю, выграблі неглыбокую ямку і прысыпалі ў ёй камандзіра. Прапаў таксама і адзін з разведчыкаў, што пайшоў з Болахам, было невядома, ці ён забіты, ці, можа, адбіўся куды ў другі бок. Але чакаць яны не маглі, з кожнай хвілінай паблізу маглі паявіцца немцы, уцячы ад якіх з параненым Фіхам было б нялёгка.

Праклінаючы тую халерную базу і сваю няўдачу, Іваноўскі павёў маленькую групу на поўнач – далей ад сасонніку, над якім усё смылелі ўначы ракеты, і водсветы ад іх доўга суправаджалі байцоў. На душы ў лейтэнанта было пагана, то яго ўзвінчвала злосць, то апаноўвала роспач. Увесь час хацелася лаяцца. Але ён не асуджаў капітана – напэўна, сам на яго месцы зрабіў бы таксама. Было крыўдна да слёз, што недарэчны сляпы выпадак так здорава дапамог немцам. Не

наткнуўся б Волах на вартавога – напэўна, усё было б добра, яны б узарвалі базу і тады не спатрэбілася б і гэтая іх вылазка з яе непазбежнымі ахвярамі.

Значыць, трэба асцярожней. Трэба ў сто разоў асцярожней, прадбачлівей, тым больш яму, Іваноўскаму, які цяпер быў адказны не толькі перад самім сабой...

**4**

Мінуўшы лес, лейтэнант вывеў групу на раўнінны прырэчны прасцяг, і лыжнікі доўга зморана ішлі па прамой. Тут ужо не было ні пад’ёмаў, ні спускаў, лыжня ішла роўна па глыбокім снезе, Іваноўскі ўвесь час з прыкметным высілкам налягаў на палкі. Лыжы ў пульхным снезе правальваліся глыбей, чым трэба было для хуткай хады, і амаль не слізгалі. Увесь час пракладваючы лыжню, камандзір браў на сябе найбольную ў гэтым шляху нагрузку і недзе каля поўначы адчуў, што стаў выдыхацца. На ім ужо ўсе было мокрае, бялізна не высыхала ад поту, гарачае дыханне распірала грудзі, пачала дапякаць смага. Але ён не хацеў есці снег, ведаў: вада абернецца лішнім потам, а гэта толькі зменшыць вынослівасць і не надасць сілы, якой яму спатрэбіцца яшчэ многа.

Хутка бег час, а Дзюбін не даганяў групу, і лейтэнант усё ламаў галаву: што з ім здарылася? Але, мабыць, трэба перастаць пра яго і думаць – калі не дагнаў раней, дык цяпер не дагоніць: яны адмахалі палавіну шляху, калі не болын. У лейтэнанта кожны раз сціскалася сэрца ад думкі, што іх усе менела. Яшчэ не дайшлі да месца, а ўжо чацвярых не стала. Але ён не мог, проста не меў права траціць дарагі час на пошукі або чаканне.

Іваноўскі знарок як мага радзей пазіраў на гадзіннік, ён пачаў ужо баяцца няспыннае хады часу і ўсе свае сілы ўкладваў у бег, стараючыся не надта думаць пра іншае. Напэўна, па гэтай прычыне ён не адразу заўважыў, што значна пабольшаў вецер, у доле закруціла завея, здаецца, пачаў ісці снег. Некалькі моцных парываў

ветру так секанулі снежнай крупой па твары, што лейтэнант задыхнуўся. Вакол стала глуха і цёмна. І без таго вузкі начны прасцяг яшчэ павузеў, амаль знік у шэрым непагодным змроку. Начных плямаў навокал значна ўбавілася. А вецер і яшчэ ўдарыў снегам у твар, – здаецца-такі, пачалася завея. «Не ў час», – трывожна падумаў лейтэнант, мацней налягаючы на палкі. Лыжы яго ўжо зусім танулі ў снезе, выстаўляючы на паверхню толькі самыя кончыкі наскоў. Стараючыся вытрымаць напрамак, Іваноўскі цяпер амаль не пазіраў пад ногі, трэба было як мага далей бачыць у цемры, у гэтым быў галоўны яго абавязак. Іншыя пазіралі ў бакі, замыкаючы Лукашоў адказваў за бяспеку з тылу. Ведама, у гэтай цемры легка было налезці на немцаў, але болей за нечаканую сустрэчу з імі ён баяўся спазніцца. У завею ці ў добрае надвор’е, а да ранку яны павінны дабрацца да месца.

Але, мабыць, рака зноў павярнула ўбок, наперадзе зацьмела штосьці вялікае, няроўным бугром праступіла ў цемры. Завея ваўсю гуляла над полем, і праз яе немагчыма было ўбачыць, што гэта такое. Тым не менш гэта груvасткае было якраз на шляху групы, Іваноўскі зразумеў гэта адразу і прыпыніў крок. Ён цяпер часцей, чым дагэтуль, прыкладваўся да компаса, вывяраючы маршрут. Ззаду не адставаў Суднік, блізка трымаліся і астатнія.

Тое, што яшчэ здаля звярнула на сябе іх увагу, зблізку аказалася нейкай будынінай – ускраіннай сядзібай вёскі або якім хутарам. Было б вельмі дарэчы завітаць туды хоць бы для таго, каб напіцца, але Іваноўскі рашуча павярнуў у абход. Ён забабонна баяўся ўсяго, што магло пашкодзіць іх мэце і адабраць час.

Праз завейную непагадзь цяжка было ўгадаць, на якой адлегласці ад іх быў гэты хутар. Усяго нейкую хвіліну ён чарнеў збоку і ўжо гатовы быў знікнуць, як праз вецер аднекуль даляцеў крык. Лейтэнант не ўцяміў яшчэ, хто і нават на якой мове крычыць, як ад будыніны пачуўся выразны сабачы брэх. Іваноўскі моцна адпіхнуўся палкамі, робячы рашучы рывок у цемру, і ў той час

ветраную цішыню ночы разарвала прыглушаная завеяй чарга. Трасіруючыя светлякі куль у некалькіх месцах прашылі над галавой цемру, чыркнулі па снезе і панясліся прэч. Здрыгануўшыся ад нечаканасці, лейтэнант прыгнуўся і з усяе сілы рвануўся далей, наперад, у цемру. Аднекуль ззаду скрозь палосы завеі ўспыхнула святло, сняжынкі густа забялелі ў яго круглай пляме. Але гэта была не ракета – мабыць, недзе ўключылі фары. І зноў у паветры пранесліся агнявыя пасмы куль – густая доўгая чарга з шырокім рассейваннем прайшлася па полі. Лейтэнант азірнуўся на лыжнікаў – Суднік, як і заўсёды, трымаўся за ім ушчыльную, далей, нагнуўшыся, разгоніста ішлі астатнія. Далекаватае святло з фар усё ж прыкметна падсвечвала поле, вырываючы з шэрае цемры белыя сілуэты людзей; з хутара іх, мабыць, можна было заўважыць. Калі зусім блізка зноў заблісkалі трасы, ён нягучна крыкнуў: «Лажысь!», чамусьці больш за ўсё спалохаўшыся за ношу Судніка, і сам мякка апусціўся на бок. Але ён спазніўся. Лежачы на снезе, ён ужо адчуў, што паранены, нагу коратка абпякло вышэй калена, цёплая макрэдзь расплылася ў калашыне. Але моцнага болю ён не адчуваў; сцяўшы пашчэнкі, пакратаў нагой – быццам нічога, можна было трываць. Побач, цяжка дыхаючы, уціснуўся ў снег Суднік.

– Бутэлькі! Бутэлькі глядзі! – гучна шапнуў ён байцу, з незвычайнай выразнасцю ўяўляючы, што калі трапяць у бутэлькі, дык усе тут і загінуць.

Суднік сцягнуў з плячэй рэчмяшок, уціснуў у снег, прыкрыўшы сабой небяспечную для ўсіх ношу.

Як толькі апошнія трасы адляцелі ўдалеч, лейтэнант ускочыў на ногі і з радасцю адзначыў, што нага слухаецца. Прыгнуўшыся на лыжах, ён зноў ірвануў у ноч, – з усяе сілы Далей ад гэтага хутара, чэргаў і здрадніцкага брэху сабак. Добра, што парывы ветру са снегам усё ж хавалі яго нават У падсветленай начной прасторы, і ён праскочыў яшчэ метраў сто. Хутара ўжо зусім не было відаць, фары, палмігаўшы здаля, неяк прыцьмелі, але па-ранейшаму свяцілі ў іх бок. Новая

чарга прашыла змрок ззаду, але трасы яе паляцелі далёка ў поле.

Здаецца, яны выбраліся з самай небяспечнай зоны. Лейтэнант спахапіўся, што адарваўся ад сваіх, азірнуўся. Ззаду хтось нерашуча варушыўся ў змроку, але не даганяў, нагінаўся – мабыць, яны згубілі яго лыжню. Тады ён прытрымаў лыжы, прысеў, ціхенька гукнуў байца і павольней пайшоў у цемру, прэч ад гэтага хутара.

Хутка ён напаткаў нейкі хмызняк ці ўзлесак і стаў: трэба было сабраць байцоў. Нага балела мацней, але боль пакуль быў цярпімы, мабыць, куля толькі зачапіла мякаць. Хутар маўчаў. Зусім побач цямнеў голы, засыпаны снегам хмызняк, у якім там-сям чарнелі маладыя елкі – у выпадку чаго можна будзе схавацца. Чакаючы сваіх, Іваноўскі не пераставаў здзіўляцца пільнасці немцаў. Хаця, здаецца, выдаў яго сабака. Дурная жывёліна, хіба яна ведала, на каго брахала. Зрэшты, было б горш, калі б ён своечасова не павярнуў ад хутара ўбок. Усё ж яны яго абмінулі, хоць і не так далёка, каб іх не заўважылі. Ён адчуваў, што боль у назе ўсё мацнее, у калашыне было зусім мокра, намокла нават ануча ў боце, трэба было перавязацца. Але ён маўчаў і не кратаўся – чакаў, калі падыдуць астатнія.

Першым з прыцемак нечакана вынырнуў Суднік, пасля паявілася танклявая постаць Піваварава, трохі пазней, прыгінаючыся і размашыста працуючы палкамі, прымчаліся з завеі двое. Усе спыняліся ля камандзіра і насцярожана пазіралі назад. Парывісты вецер круціў у паветры снежнай крупой, абсыпаючы ёю лыжы, маскхалаты, твары байцоў.

– Каго яшчэ няма? – ціха запытаўся лейтэнант.

– Хакімава няма, – сказаў Лукашоў, не паварочваючыся.

Усе ўзіраліся ў бок злашчаснага хутара.

– Сволачы! І як яны ўчулі? Здаецца, так ціха ішлі! –

абураўся Краснакуцкі.

– Во яшчэ бяда – сабакі! Добра – нямецкія, а калі нашы, рускія?

– Пад немцам усе сабакі нямецкія. Тут яны нам не таварышы.

Лейтэнант ледзьве стаяў, аслабіўшы параненую нагу, і маўчаў. Ён усё болын змрачнеў, усведамляючы сваё становішча і перажываючы, што доўга няма Хакімава. Было зразумела, што гэтая затрымка дорага ім абыдзецца, але і пакінудь байца ён таксама не мог.

Пасля нядоўгае паўзы лейтэнант запытаў Лукашова:

– Дзе ён прапаў? Як ляжалі ці потым?

– Як ляжалі – быў. А пасля вот не ўгледзеў.

– Ідзі і шукай. Мы пачакаем.

Лукашоў пайшоў у завею, а лейтэнант пастаяў трохі і павярнуў у хмызняк за маладыя, абсыпаныя снегам елкі.

Тут круціла, нібы ў аэрадынамічнай трубе, – хмары снегу віхурай несліся ў паветры, з усіх бакоў дзьмуў вецер. Захінуўшыся за яліну, Іваноўскі рассмыкнуў матузкі маскхалата, расшпіліў штаны. Сцюдзёныя рукі адразу адчулі згусцелую кроў; ён разадраў шархоткую паперу пакета і туга перавязаў нагу вышай калена. Было даволі балюча, але ён стрываў, прыцяў уздых і хутка апрануўся. Снегам старанна выцер рукі – ніхто не павінен заўважыць, што ён паранены, гэта цяпер не патрэбна. Тым больш што рана лёгкая, як-небудзь перацярпіць.

Горш будзе, калі не знойдуць Хакімава.

Чорт ведае, як недарэчна ўсё атрымалася, скрозь адны няўдачы. Прыпомнілася народная прыкмета, што справа з няўдалым пачаткам абяцае яшчэ горшы канец. У яго пачалося куды як няўдала. Што ж будзе ў канцы?

Асеўшы на снезе, байцы цярпліва чакалі, сціскаючы ў руках забінтаваныя ствалы зброі. Ён таксама пачакаў крыху, пасля выняў гадзіннік. Той спраўна, як ні ў чым не бывала, рабіў сваю справу, паказваючы палову другой. Мінула палавіна ночы. Нямала прайшлі і яны, але кіламетраў дваццаць усё ж засталося. Калі толькі ён не адхіліўся ад маршруту. Закруціўшыся пад гэтым абстрэлам, нІ пра які маршрут ён, вядома, не думаў, цяпер трэба было выпраўляць становішча.

Іваноўскі зарыентаваў компас. Візір, установлены на Дзвесце дзесяць градусаў, паказваў у хмызняк. У цемры завейнай ночы нічога не было відаць, і ён падумаў, што, мабыць, прыйдзецца прадзірацца праз зараснікі. Інакш нядоўга зусім заблудзіцца. Або трапіць у лапы да немцаў.

– Ціха!

З цемры данёсся нечы слабы невыразны голас, Краснакуцкі падняўся на лыжы і, прыгнуўшыся, слізгануў у той бок. Хвіліну адтуль нічога не было чуваць, а пасля нешта мільганула ў цемры і заварушылася, белае і няўклюднае. Праз хвіліну Лукашоў з Краснакуцкім, сагнуўшыся, волакам прыцягнулі Хакімава і тут жа ўпалі каленямі ў снег.

Лукашоў дыхавічна сказаў:

– Во... ледзьве знайшоў... Палка адна ўваткнута была... Яго палка. Гляджу, тырчыць... А ён праз дзесяць крокаў... Ужо снегам замятаць стала...

– Што, жывы? – запытаўся лейтэнант.

– Жывы, але кепскі, У спіну яго ўдарыла. У жывот выйшла, здаецца.

– Так. Хутка перавязаць!

Ну во, і яшчэ адзін. Небарака Хакімаў! Такі старанны, рухавы, уважлівы хлопец. Ён з першай сустрэчы спадабаўся камандзіру: негаваркі, талковы. І што цяпер з ім рабіць?

– Я тут трохі абматаў. Па кухвайцы. Без памяці ён.

Пакуль двое поркаліся, перавязваючы параненага, Іваноўскі, расслабіўшы прастрэленую нагу, разгублена глядзеў у змрок. Вядома, Хакімава не пакінеш, прыйдзецца несці з сабой. Але як? І да якога часу? І што з ім рабіць заўтра? Усё было трудна, незразумела і кепска, але лейтэнант з усяе сілы стараўся ўтаіць ад іншых свой клопат. У той справе, дзеля якой яны ішлі, ён павінен ведаць усё, усё ўмець і знешне павінен заставацца ўвасабленнем абсалютнай упэўненасці.

– Так. Перавязалі? Рабіце звязку з лыж. Што, не ўмееце? Півавараў, давай палатку, – з трохі фальшывай бадзёрасцю закамандаваў лейтэнант. – Хутчэй, хутчэй!..

– Хіба так пацягнеш? – усумніўся Краснакуцкі.

– Пацягаеш, Знімай з вінтоўкі рэмень. Давай хто яшчэ свой. З яго таксама ўсе рэмні знiміце. Забярыце патроны. Усе, усе. І гранаты таксама. Суднік, забяры гранаты. Цяпер бярыцеся ўдвох. Адзін за рэмень. Так. Вы, Півавараў, страхуйце ззаду. Смялей, смялей, не бойцеся.

Як-колечы ўклаўшы на лыжную звязку параненага, яны павалаклі яго ў хмызняк. Атрымалася не вельмі каб зграбна – груваcтка і нязручна, лыжы раз’язджаліся на снезе, а цела параненага ўвесь час перавальвалася з боку на бок. Ззаду цягнулася глыбокая баразна ў снезе. Невядома, колькі так можна было працягнуць.

Але іншага выйсця ў іх не было. Адсюль да сваіх не адправіш, пакінуць таксама не было дзе. Вядома, цяпер ім прыйдзецца патузацца. Цяпер ужо наўрад ці яны паспеюць да ранку. Яны нерашуча прабіраліся цераз хмызняк. Часта спыняліся, папраўлялі лыжы, ледзьве ўтрымліваючы на іх Хакімава. Цяшуў Краснакуцкі; Півавараў, сагнуўшыся, папіхаў і падтрымліваў. Лукашоў, ідучы ззаду, часам памагаў, пакрыкваючы на абодвух.

На шчасце, хмызняк не завёў іх у лес, як таго

асцерагаўся Іваноўскі, і праз якіх паўгадзіны яны зноў апынуліся ў полі. Вецер тут і яшчэ памацнеў, у доле гуляла мяцеліца. Наскрозь перасыпаныя снегам, яны выбраліся на чыстае і спыніліся, каб саўладаць з дыханнем.

– Дык што ж рабіць, лейцінант? – заклапочана выпрастаўся Лукашоў. – Так мы яго і будзем цягнуць?

– А што рабіць? Што вы прапануеце? – з відавочным незадаволеннем спытаўся лейтэнант.

– Можа б, пакінулі дзе? Калі ў вёсцы якой? Ці хоць бы ў якой пуньцы?

– Не, не пакінем, – цвёрда сказаў Іваноўскі. – І хопіць пра гэта.

– Што ж, хопіць, дык хопіць, – раптам згадзіўся Лукашоў. – Толькі ці далёка так пройдзем?

– Трэба хутчэй, – ухапіўся лейтэнант. – З усяе сілы хутчэй! Панятна?

Не азірнуўшыся і прыкметна асядаючы на правую нагу, ён пайшоў у цемру. За ім падаліся на лыжах астатнія.

Усе зморана, паныла маўчалі.

**5**

Ранейшы тэмп гэтай шалёнай гонкі быў канчаткова страчаны, каторую гадзіну яны валакліся ў завеі, як сонныя мухі, і лейтэнант клапаціўся толькі пра тое, каб не згубіць напрамку. Раз за разам ён спыняўся, трэба было зарыентаваць компас і пачакаць валакушу з Хакімавым. Краснакуцкі і Піваварaў выбіваліся з сілы, ды і сам ён хістаўся ад знямогі, у галаве п’яна круцілася ад ветру, важка адцягвала плечы зброя, усё болыц балела нага. Але ён па-ранейшаму ішоў наперадзе, і, надзіва, ад яго ні на крок не адставаў Суднік. Баец быў нагружаны звыш меры: апроч сваіх бутэлек з КС, нёс яшчэ дзве кілаграмовыя гранаты Хакімава, яго

вінтоўку, якую яны не кінулі, і яго рэчмяшок.

У цемры ім неяк трапіўся завеяны снегам стажок, згледзеўшы які, лейтэнант збочыў з прамой і праз хвіліну знясілена ткнуўся плячом у прысыпанае снегам, але па-ранейшаму поўнае летняга водару сена. Ногі яго на лыжах неяк слізка паехалі ўбок, і ён мякка споўз целам у затрэсеную сенам гурбіну. Некалькі секунд ціха ляжаў у салодкай знямозе, закрыўшы вочы і адчуваючы, як усё пад ім закружылася ў нейкім сонным бяздумным карагодзе. Спалохаўшыся, што засынае, ён вялізным намаганнем волі прымусіў сябе падняцца. Не, здаецца, ніхто не заўважыў гэтае яго хвіліннай слабасці, ад якой ён сумеўся ў тую хвіліну болей чым ад чаго-небудзь Іншага. Тым часам падышоў да стажка Суднік, прыцягнулі палатачную валакушу з Хакімавым. Апошыі, таксама знямогла, выпаўз са змроку Лукашоў. Усе моўчкі пападалі пад стажком.

– Многа яшчэ? – натужліва выдыхнуў замыкаючы.

– Нямнога, нямнога, – з ненатуральнай бадзёрасцю адказаў лейтэнант. – Але трэба налегчы. Там шаша, яе мы павінны перайсці да світання. Удзень нічога не выйдзе.

– Так, усё ясна, – сказаў Лукашоў. – Тады патопалі,

– Ну, трэба ісці, – згадзіўся лейтэнант, аднак не знаходзячы ў сабе сілы адразу адарвацца ад мяккага боку стажка.

– Ну, узялі саначкі. Раз, два! – закамандаваў Лукашоў, і лейтэнант не першы ўжо раз адзначыў у думках, што гэты сяржант усё болей упэўнена стаў камандаваць у групе.

Ён і ў дарозе ўсё пакрыкваў на астатніх, падганяў, указваў. Заняты сваім, Іваноўскі дагэтуль проста не думаў, добра гэта ці не. Зрэшты, у якасці замыкаючага сяржант задавальняў яго цалкам. Замыкаючы з яго быў выдатны, у такога напэўна ніхто не адстане.

– Так, устаць. Устаць! – нягучна, са звыклай настойлівасцю камандаваў Лукашоў, які сам ужо стаў на лыжы і гатовы быў рушыць у шлях.

З відавочным намаганнем падняўся Краснакуцкі, закінуў за плечы раменную лямку ад валакушы. Адзін Півавараў застаўся сядзець, прыхінуўшыся бокам да сена, і не кратаўся.

– Ну а ты што? Асобнага запрашэння чакаеш? Півавараў

Півавараў слаба паварушыўся і не ўстаў.

– Што гэта з вамі? – запытаўся лейтэнант.

– Я не магу, – з дзіўнай у іх становішчы адкрытасцю сказаў баец.

– Як гэта – не магу?

– Не магу. Пакіньце мяне...

– Вось гэта нумар! – здзівіўся Іваноўскі. – Ты што, жартуеш?

– Дурыць ён, а не жартуе! – зазлаваў Лукашоў і прыкрыкнуў: – Ану, устаць!

Тонкі слабасільны Півавараў, мабыць, не разлічваў на такую дарогу і ўжо дайшоў да мяжы ў сваіх і без таго не дужа вялікіх магчымасцях. Наўрад ці ад яго можна было чаго дабіцца, але і пакідаць яго пад гэтым стажком таксама было немагчыма.

– Ану, уставайце! – строга скамандаваў Іваноўскі. – Сяржант Лукашоў, падніміце байца!

Ён не мог болей нічога, апроч як ва ўсёй строгасці выкарыстаць сваю ўладу – толькі яна магла тут падзейшчаць. Лейтэнант, вядома, разумеў усю бессардэчнасць свайго далёка не таварыскага патрабавання, разумеў, што гэты ўвогуле паслухмяны і старанны баец заслугоўваў лепшага з ім абыходжання. Але цяпер Іваноўскі перакрэсліў у сабе ўсякую

сяброўскую сардэчнасць, пакінуўшы адну толькі халодную камандзірскую патрабавальнасць.

Лукашову, відаць, не трэба было загадваць двойчы, ён ступіў да байца і вырваў са снегу палку.

– Чуў? Устаць!

Півавараў расслаблена заварушыўся, пачаў уставаць, нібы аб чымсь разважаючы і ледзьве перамагаючы ў сабе знямогу. І Лукашоў ускіпеў:

– Канчай прыдурвацца! Устаць!

Дужым рыўком за каўнер сяржант паспрабаваў паставіць байца на ногі, але Півавараў толькі заваліўся на спіну, ускінуўшы нагу з лыжай. Лукашоў ірвануў яшчэ – баец шэрым бяссільным комам скурчыўся ў паднятай ім снежнай віхуры.

Не адолеўшы ў сабе дзіўнага, не ў лад з ягоным жаданнем пачуцця, лейтэнант рэзка перакінуў на разварот здаровую з лыжай нагу.

– Адставіць, Лукашоў!

– Што там адставіць! Нянькацца з ім... бач, прыкідваецца!

– Так, ціха! Ён не прыкідваецца. Півавараў, ану... Пару глыткоў.

Ён зняў з дзягі пляшку, усю дарогу ашчаджаную ім на пасля, на заўтрашні дзень, які, мяркуючы па ўсім, прыйдзецца праседзець у снезе, ды на дарогу назад, якая, зусім магчыма, будзе цяжэй, чым гэта. Нават напэўна будзе. Прынамсі, іх цяпер не праследавалі, іх проста яшчэ не бачылі, ноч і завея надзейна хавалі іх след. А што будзе заўтра? Можа, так здарыцца, што заўтра яны будуць з зайздрасцю ўспамінаць гэтую ўвогуле ціхую ноч. Але як бы там ні было сёння, а калі яны не дойдуць да месца, дык проста не атрымаюць магчымасці на гэта іх заўтра.

Піваварaў некалькі разоў глытнуў з пляшкі, пасядзеў яшчэ, нібыта ў роздуме, і аслабела, хістка падняўся.

– Во і добра. Давай сюды вінтоўку. Давай, давай! А рэчмяшок возьме Лукашоў. Вазьміце, сяржант, у яго рэчмяшок. Зусім мала асталося. Самая дробязь. Затое давідна зашыемся ў ельнік, разведаем, выгледзім і вечарам такі тарарам зробім! На ўсю Смаленшчыну. Толькі б Хакімава дацягнуць. Як ён там, дыхае?

– Дыхае, таварыш лейтэнант, – сказаў Краснакуцкі, беручыся за сваю раменную лямку– А можа 6, пакінуць, га, таварыш лейтэнант? Закапалі б у стажок...

– Не! – цвёрда сказаў Іваноўскі. – Не выйдзе. А раптам немцы? Тады што? Нам жыць, а яму прападаць? Што тады генерал скажа? Памятаеце, ён нам наказваў: трымайцеся адзін за аднаго, болей вам не будзе за каго трымацца.

– Яно-то так, – уздыхнуў Краснакуцкі. – Ды каб недарма цягнулі...

Гэта праўда, падумаў Іваноўскі, магчыма, і дарма. Зусім можа быць, што іх намаганні ў адносінах да Хакімава акажуцца марнымі. Хутчэй за ўсё так і будзе. Столькі часу баец у непрытомнасці, ды яшчэ гэтая калатнеча, сцюжа, – закачанее, і ўсё. Верагоднасць такога канца была надта вялікай. Але бяда ў тым, што фізічныя здольнасці параненага, мусіць, кепска дапасоўваліся да сілы байцоў, якія могуць выдыхнуцца раней, і тады ўсім будзе кепска. Іваноўскі, не прызнаючыся нават сабе, пачынаў невыразна адчуваць, што Хакімаў паволі, але, напэўна, воляю франтавога лёсу ператвараецца з харошага байца і таварыша ў міжвольнага іх мучыцеля, калі не болып. Ніхто пра тое яшчэ не сказаў ніводнага слова, але відавочна ўсе яны пачалі адчуваць нешта падобнае ў адносінах да гэтага бедалагі.

Навучаны горкім уласным вопытам, лейтэнант выдатна разумеў, якая гэта бяда – паранены ў групе. І справа тут не толькі ў страце яшчэ аднаго патрэбнага байца. Гэта раненне нязносным фізічным грузам клалася на ўсіх і

ставіла пад пагрозу выкананне баявой задачы. Цяпер яны, безумоўна, спозняцца, не здолеюць у цемры перайсці шашу, застануцца ў снезе на полі, дзе на іх проста могуць наткнуцца немцы. Але як ні перажываў Іваноўскі ад усведамлення такой бязрадаснай перспектывы, ён не мог дапусціць і думкі, каб пакінуць параненага. Абавязак камандзіра і чалавека ўладарна дыктаваў яму, што лёс гэтага небаракі, пакуль ён жывы, не можа быць выдзелены з іх агульнага лёсу. Кожны з іх павінен зрабіць для яго ўсё, што зрабіў бы для самога сябе. Гэтае правіла было законам для разведчыкаў Волаха, такім яно застанецца і ў групе Іваноўскага.

Як і ўсе ў групе, яе камандзір амаль выбіўся з сілы за гэтую надзвычай цяжкую ноч. З натугай пераадольваючы не моцны, але несціханы боль, ён ледзьве варушыў параненан нагой. Тым не менш, утаіўшы ад астатніх сваё раненне, ён заставаўся ў вачах байцоў роўны з усімі ў сваіх фізічных магчымасцях, і гэта без скідкі накладвала на яго роўныя з іншымі абавязкі. З нейкага часу ён пачаў адчуваць у сабе некаторую няёмкасць за тое, што, вымушаючы іншых на звышчалавечыя намаганні, сам ішоў улегцы, узяўшы ў якасці дадатковай нагрузкі толькі вінтоўку Піваварава. Ён не мог многага, але абавязак таварыскасці патрабаваў сумленна падзяліць з астатнімі ўсе іх дарожныя нагрузкі.

Яны абышлі хвойны ўзлесак і зноў рухаліся ўздоўж рэчышча, якое здавалася Іваноўскаму адносна бяспечным участкам шляху. На карце тут значыліся толькі лугі, хмызнякі і балоты, вёсак паблізу не было, і сустрэча з немцамі меркавалася найменш верагоднай. Дзве перамеценыя снегам дарогі яны перайшлі ўдала, нікога на іх не сустрэўшы. Цяпер заставалася апошняя – вялікая і, вядома, па-тылавому ажыўленая шаша, перайсці якую можна толькі ўначы. Але да шашы было яшчэ кіламетраў пяць – сем, і лейтэнант, хістаючыся ад знямогі, пачакаў Краснакуцкага.

– Ну як?

– Ды во, хутка выцягнуся. Далі б глыкнуць, ці што?

Лейтэнант даў яму пляшку, той зрабіў некалькі зацяжных глыткоў.

– Ну, лепш?

– Нібыта. Хутка зашабашым?

– Хутка, хутка. Давайце памаіу. Удвох пацягнем.

– Ну якое ўдвох! Толькі тузацца будзем. Ужо сам як-небудзь... Быццам буран сціхае?

Лейтэнант азірнуўся і, на здзіўленне сваё, убачыў, што завея сапраўды амаль сціхла. Чорнае неба прыўзнялося, аддзялілася ад зямлі, унізе ляжала надзіва спакойнае белае поле, нібыта прыпухлае ад сакавітай начной белізны. Па баках зноў паявілася шэрая блытаніна хмызняку з рэдкімі плямамі маладых елачак. Мабыць, набліжаўся ранак. Ацяжэлай рукой лейтэнант дастаў з кішэні гадзіннік – было чвэрць на сёмую.

– Ого! Яшчэ адзін рывок – і канец. Прывал да самага вечара.

Новы непакой на нядоўгі час надаў сілы, і лейтэнант энергічна заслізгаў лыжамі. З’явілася новая прыкрасць ад таго, што так не ў час сціхла завея, якая цяпер была б куды як дарэчы. Без завеі перайсці шашу будзе трудней, тым больш калі яны спозняцца. Здаецца, ім не хопіць якой гадзіны цёмнага часу, і гэтая гадзіна можа вырашыць усё. Генерал у кароткім наказе перад выхадам настойліва раіў максімальна выкарыстаць цемнату – толькі ноч абяцала ім нейкую надзею на поспех, удзень, згледзеўшы іх, немцы, вядома, пастараюцца знішчыць усіх да апошняга. Што гэта іменна так, лейтэнант выдатна разумеў без доказаў, і ўсё ж ён быў удзячны генералу за яго клопат і добрую параду, у якой адчувалася нешта зусім не генеральскае, а болей бацькоўскае ў адносінах да ўсіх і да лейтэнаыта таксама. Вядома, яны разумелі, што на іх ускладвалася і што з гэтай ночы рабіліся поўнымі ўладарамі ўласнага лёсу, бо ў трудную хвіліну дапамагчы ім не зможа ніхто – ні генерал, ні сам Бог. Але ўсю дарогу ў гэтай

шалёнай ночы лейтэнант нёс у сабе ціхенькую іскрынку ўдзячнасці генералу за яго зусім не генеральскае стаўленне да іхняга лёсу. Гэтая іскрынка грэла яго, вяла і таіла ў сабе маленькую жаданую надзею на поспех.

А ўсяго тры дні назад, аціраючыся пры штабе пасля выхаду з нямецкага тылу, Іваноўскі болей за ўсё баяўся трапіць на вочы менавіта гэтаму прыдзірліваму, строгаму і ўладарнаму генералу – начальніку штаба. Ды і не толькі ён – многія ў ціхай лясной вёсцы, дзе размясціўся штаб, з таропкай баязлівасцю праходзілі міма яго высокага, з блакітнымі аканіцамі, дома. Генерал быў бязлітасна строгі да ўсіх сваіх падначаленых, а тут, вядома, усе, апроч хіба самога камандуючага, былі ў яго прамым падначаленні. Аднаму Богу было вядома, за што ён мог кожную хвіліну прыдрацца: генерал не даравaў, калі кагось заставаў без справы, спаганяў за парушэнне формы адзення і маскіроўкі, лаяў тых, хто, на яго думку, недастаткова хутка выконваў загады, – ці мала за што можа прыдрацца да падначаленага строгі начальнік у арміі? Неяк міжвольна Іваноўскі зрабіўся сведкам, як генерал лаяў аднаго палкоўніка за адсутнасць нейкіх дадзеных на ўчастку левага фланга і як пасля гэтага палкоўнік, у сваю чаргу, разносіў камандзіра разведкі, дзве разведгрупы якога не вярталіся з-за лініі фронту, хоць мінулі ўсе тэрміны іх вяртання.

Іваноўскі тут быў выпадковым, чужым чалавекам. За час сваёй не надта вялікай армейскай службы яму не даводзілася бываць нідзе вышэй штаба дывізіі, і цяпер ёя з цікавасцю назіраў жыццё гэтай тылавой установы. Разы два, зрэшты, у вёсцы паднімаўся перапалох, калі наляталі «юнкерсы», скінутыя імі бомбы, аднак, не ўчынілі асаблівай шкоды, апроч таго, што разбурылі пусты хляўчук ды забілі на вуліцы асядланую гнядую жаробку. У астатнім усё тут ішло мірна і роўна, хіба што часам па аддзелах пачынаў свой абход начальнік штаба, і тады ўсе палкоўнікі, капітаны і ўвішныя пісары ненадоўга перажывалі трывогу. Але неўзабаве, каму зрабіўшы вымову, а на каго проста накрычаўшы,

генерал знікаў, і зноў у вёсцы ўсё ішло, як заўсёды.

Пасля пераходу лініі фронту лейтэнант Іваноўскі паявіўся тут з двума ўцалелымі разведчыкамі, бо пасля смерці капітана Волаха палічыў сваім абавязкам далажыць аб усім, што здарылася за два тыдні іх блукання па нямецкіх тылах. Але заклапочаныя сваімі справамі штабныя начальнікі аднесліся да яго без асаблівай увагі, і гэта яго пакрыўдзіла. Надта свежым быў у яго памяці боль нядаўніх страт, смерць Волаха, усе іх неймаверныя перажыванні там, у нямецкім тыле, каб ён так проста мог прымірыцца з гэтай няўвагай. Ён прыйшоў у хату разведаддзела да бялявага маладога палкоўніка і з ходу пачаў выкладаць яму сутнасць справы, але той доўга і невідушча глядзеў на яго, яўна думаючы пра нешта іншае. Пасля палкоўнік абарваў ягоны расказ і загадаў усё падаць у пісьмовай форме. Нібы між іншым, ён запытаўся, ці прайшоў лейтэнант праверку ў Дольцаве, дзе знаходзіўся зборны армейскі пункт. Іваноўскі пакрыўдзіўся. Ён сказаў бяляваму, з прыгожа ўкладзенымі валасамі палкоўніку, што ў Дольцава ён паспее, а вось да нямецкага склада боепрыпасаў можна спазніцца і тады ўсе іх намаганні і ўсе страты, у тым ліку і смерць выдатнага армейскага разведчыка капітана Волаха, могуць аказацца дарэмнымі.

– Як дарэмнымі? – здаецца, упершыню нешта сцяміў палкоўнік і адарваў аловак ад паперы, па якой старанна лінеіў нейкую складаную, з мноствам графаў табліцу.

– Вельмі проста, – адказаў лейтэнант. – Загінулі без карысці. Ні за панюх табакі.

– Во як! – сказаў палкоўнік і ўстаў, абцягваючы гімнасцёрку і крута выгінаючы зайздросна развітыя мускульныя грудзі. – Вы з якой, сказалі, дывізіі?

Іваноўскі назваў дывізію і полк.

– Гэта якой жа арміі? Гэта нават не нашага фронту. Так не пойдзе, пішыце аб’ясненне.

Нічога не зробіш, давялося ўзяцца за гэта «аб’ясненне». Ён пісаў яго двое сутак, хаваючыся ад прыдзірлівага генерала, які якраз прыехаў з перадавой і, як звычайна, пасля нядоўгай адсутнасці наводзіў у штабе парадак. Іваноўскі часова прытуліўся ў штабным АХО, з пісарам якога напярэдадні выпіў пляшку шнапсу, і той велікадушна падзяліў з «нічыйным» лейтэнантам свой ложак у паўразбуранай пустой хаціне. Праўда, у дадатак да пляшкі давялося адарыць гасціннагга пісара трафейным люстраным компасам і назаўсёды расстацца з прыгожай запальнічкай-манахам. Але за два дні ён склаў падрабязную справаздачу памерам у два школьныя сшыткі ў клетачку.

Калі ён прынёс сваю працу, бялявы палкоўнік, відаць, быў не ў настроі. Размашыстым дакладным рухам, не зірнуўшы, ён перакінуў ягоныя сшыткі нахуседні стол, за якім сядзеў над паперамі лысы брываcты маёр.

– Кавалёў, займіцеся. Што ён там сачыніў – мне чытаць няма часу.

Але Кавалёў таксама па нейкай прычыне не мог прачытаць гэта адразу, і лейтэнанту нічога больш не заставалася, як пайсці і чакаць у сваёй хаціне. Ён ужо ўскінуў да пілоткі руку, каб павярнуцца і выйсці, як дзверы ў хату шырока расчыніліся і на парозе, згінаючы галаву, паявіўся той самы, каго ён болей за іншых баяўся сустрэць. Камандзіры за сваімі сталамі ўскочылі, а Іваноўскі толькі павярнуўся ды так і застыў з паднесенай да пілоткі рукой.

Напэўна, яго нехуцавы, нязвыклы тут выгляд – у пісаравай ватоўцы, без знакаў адрознення на ёй і ў заношанай суконнай пілотцы, калі ўсе камандзіры штаба хадзілі ў аўчынкавых шапках, – здаўся незвычайным і спыніў на сабе востры позірк генерала.

– Хто такі? – тонам, які не абяцаў нічога прыемнага, запытаўся ён, звяртаючыся да палкоўніка.

– Лейтэнант Іваноўскі, камандзір узвода такога-та палка, такой-та дывізіі, – з натужнай ліхасцю чужым

голасам адрапартаваў лейтэнант.

– Якой, якой дывізіі?

Іваноўскі цвёрда паўтарыў нумар сваёй дывізіі.

– Што вы тут робіце?

– Ён з акружэння, – сказаў палкоўнік, стоячы перад генералам і ўсёй сваёй імпазантнай постаццю выказваючы належную павагу, але з адценнем нейкай фамільярнай вольнасці.

Іваноўскі ж акамянела застыў навыцяжку, упершыню ў жыцці размаўляючы з такім высокім начальствам.

– Акружэнец? Чаму тут?

– Я тут з поваду нямецкай базы боепрыпасаў, таварыш генерал.

– Новая справа! – сказаў генерал, стоячы напаўабарота да лейтэнанта. Погляд яго прыдзірлівых вачэй не сыходзіў з напружанай постаці Іваноўскага. – Што за база? Дзе? Адкуль вам пра яе вядома? Вы разабраліся, палкоўнік?

– Разбіраюся, таварыш генерал, – зусім інакшым тонам, чым размаўляў дагэтуль, сказаў палкоўнік.

Аднак гэты яго тон чалавека, які гаворыць не зусім тое, што было ў сапраўднасці, вымусіў лейтэнанта на новую ў адносінах да яго дзёрзкасць.

– Палкоўнік не хоча разбірацца, таварыш генерал, – выпаліў Іваноўскі. Генерал кінуў востры запытальны позірк у бок лейтэнанта, пасля – у бок палкоўніка. І лейтэнант, адчуўшы, што тут можа нешта раз і назаўсёды рашыцца, дадаў: – Артылерыйская армейская база за шэсцьдзесят кіламетраў адсюль. Некалькі эшалонаў боепрыпасаў, ахова невялікая, навокал драцяная загарадзь у адзін кол. Можна ўзарваць.

– Во як! Вы ўжо і разведалі? – сказаў генерал і

павярнуўся да яго ўсім тулавам у расшпіленым паўшубку, з-пад белых бартоў якога бліснула белая эмаль ордэнаў.

Голас яго ўжо адтайваў, лейтэнант з радасцю адзначыў гэта і тут жа рашыўся сказаць усё напрамую.

– Проста можна ўзарваць. Або спаліць. І наступаючыя на Маскву нямецкія войскі застануцца без боепрыпасаў.

Ён выпаліў гэта і зараз жа пашкадаваў аб сваёй паспешнасці, якая адразу і прыкметна прытушыла ўзнікшую да яго цікавасць начальніка штаба. Генерал штось буркнуў у каўнер паўшубка і сеў ля стала на лаўку. Астатнія асталіся стаяць на ранейшых месцах.

– Кажаш, проста? Пых – і нямецкія войскі без снарадаў? Так, ці што?

– Не зусім так, таварыш генерал, – паспрабаваў выправіць свой промах Іваноўскі. – Мы ўжо спрабавалі, але...

– Ужо і спрабавалі? Паспелі? Ну і што ж?

– Дваіх страцілі. У тым ліку капітана Волаха.

– Вось так, лейтэнант... як цябе? Іваноўскі. З наскоку не возьйеш, з галавой трэба. Але ён маладзец, – сказаў генерал, звяртаючыся да палкоўніка. – Калі так, пашліце яго з групай. Дайце чалавек дзесяць. Займіцеся гэтым. І не марудзьце. .

– Ён без праверкі, таварыш генерал, – ціха ўставіў палкоўнік.

Гееерал незадаволена саўгануў бровамі.

– Ерунда! Яго ўжб праверылі. Немцы праверылі. А гэта будзе другой праверкай. Я скажу Клюзіну – трэба ж урэшце давяраць сваім людзям. – І, павярнуўшы галаву да нечакана ўзрадаванага лейтэнанта, сказаў падабрэлым голасам: – Рыхтуйце групу, лейтэнант. Во з ім. Паслязаўтра дaложыце аб гатоўнасці. Ясна?

– Ёсць! – не сказаў, а па-дзіцячы, у захапленні выкрыкнуў Іваноўскі і, ліха казырнуўшы, зачыніў за сабой дзверы.

Назаўтра яму пашанцавала менш. Палкоўнік, да якога ён зноў прыйшоў раніцай, адправіў яго да нейкага маёра Каламійца, лейтэнант чакаў гэтага маёра паўдня, і, калі ўрэшце дачакаўся і перадаў загад палкоўніка, той амаль знішчыў яго першай жа фразай:

– А дзе я вазьму людзей? У мяне нікога няма. Застаўся адзін ездавы.

Адчуўшы, што зноў усё рушыцца, Іваноўскі не стаў больш нічога ні высвятляць, ні даказваць, а, поўны новай рашучасці, шпаркім крокам накіраваўся да высокага дома з прыгожымі аканіцамі. Вядома, яго туды не пусцілі, ён распачаў недарэчную спрэчку з няўмольным вартавым ля ганка і проста ўжо быў у роспачы, калі дзверы ў хату нечакана расчыніліся і на парозе з’явіўся сам генерал. Начальнік штаба не адразу пазнаў учарашняга лейтэнанта, і таму спатрэбілася зноў назваць сябе і дрыгнуўшым голасам паведаміць, што з арганізацыяй групы нічога не выходзіць.

Генерал гнеўна зыркнуў на яго вачыма, быццам у гэтай няўдачы быў вінаваты сам Іваноўскі.

– Як не выходзіць?

– Няма людзей, таварыш генерал. Палкоўнік паслаў...

– Зіманькова ка мне! – кінуў ён камусьці, хто стаяў у яго за спіной, і той хуценька шмыгнуў у сенцы, куды, ні слова больш не сказаўшы, вярнуўся і генерал.

Іваноўскі застаўся ля ганка адзін на адзін з вартавым, які з маўклівай злосцю пазіраў на яго. «А ўсё ж не пройдзеш!» – было напісана на ягонай фізіяноміі. Але лейтэнант ужо і не рваўся ў гэтую прасторную хату. Ён пакорліва прачакаў хвілін дваццаць, пакуль на ганку зноў не з’явіўся старшы лейтэнант у паўшубку, з маўзерам цераз плячо.

– Ідзіце да капітана Зімянькова і атрымайце людзей. Заўтра ў трынаццаць ноль-ноль генерал чакае з дакладам аб гатоўнасці групы.

– Ёсць! – сказаў Іваноўскі.

Ён не запытаўся нават, хто гэты капітан Зімянькоў і дзе шукаць яго, – давялося пытацца пра тое ў канаводаў на вуліцы. І сапраўды, пад вечар у яго ўжо быў на руках спіс з васьмі байцоў і аднаго старшыны; дзесятым у гэтым спісе значыўся ён сам.

І лейтэнант пачаў рыхтавацца.

Апроч людзей, трэба было атрымаць боепрыпасы, бутэлькі КС, узрыўчатку, два метры бікфордава шнура. Чацвёра байцоў былі ў абтрэпаных шынях без ватовак, трэба было іх пераабмундзіраваць. Хтось доўга не хацеў выдаваць маскхалаты (на накладной не было подпісу старшага начальніка), за лыжамі ён ездзіў у тылавую, за пятнаццаць кіламетраў, вёску. Апошнюю ноч перад выхадам ледзьве прыдрамнуў пару гадзін, паеў толькі раз за дзень, выстаяў на трох інструктажах, але ў трынаццаць усё ж прывёў групу ў двор высокага, з прыгожымі аканіцамі дома. На гэты раз яго адразу ж прапусцілі ў пакой, і ён з трапяткім гонарам далажыў аб гатоўнасці выканаць баявы загад.

Генерал скончыў тэлефонную размову і паклаў трубку. Як быў у футравым на гімнасцёрцы жылеце, моўчкі выйшаў у двор, дзе, пастроеныя па камандзе «смірна», чакалі дзевяць байцоў з Дзюбіным на чале. Генерал моўчкі абышоў гэты строй, агледзеў усіх, і на яго немаладым, у зморшчынах, з запалымі шчокамі твары ўпершыню за ўвесь час свайго прабывання ў штабе Іваноўскі не знайшоў і следу начальніцкай строгасці. Цяпер гэта быў проста зморшчаны твар абцяжаранага шматлікімі турботамі, зморанага, даўно не маладога ўжо чалавека:

– Сынкі! – сказаў генерал, і штосьці ў душы лейтэнанта жаласна ўздрыгнула. – Вы ведаеце, куды ідзяце? Ведаеце, што будзе цяжка? Але, трэба. Бачыце: мяце, –

паказаў ён у нізка аселае хмарнае неба, з якога падаў лёгкі сняжок. – Авіяцыя на прыколе. На вас уся надзея...

Ён і яшчэ гаварыў, раячы, як трэба паводзіць сябе ў трудную хвіліну ў тыле ворага, дзе ўжо ніхто, апроч хіба таварыша, табе не паможа. Але ён мог бы і не рабіць гэтага – лейтэнант ужо меў некаторы вопыт баявых дзеянняў у нямецкім тыле, накоплены за час яго двухтыднёвых блуканняў па смаленскіх лясах. А вось яго зусім не начальніцкі, амаль што сяброўскі тон і яго ўвага да іх поўных невядомасці лёсаў кранулі лейтэнанта, які з гэтай хвіліны гатовы быў на ўсё, абы толькі выканаць баявую задачу. Нават смерць у гэты час не здавалася яму чымсьці жахлівым – ён гатовы быў рызыкаваць жыццём, калі гэта спатрэбіцца для Радзімы.

Напэўна, так адчуваў сябе не адзін ён, а і астатнія ў гэтым кароценькім страі на двары, поўныя маўклівай увагі і рашучасці. І калі Івановскі, аддаўшы чэсць, павярнуў групу на выхад, у ягонай душы гучалі фанфары. Ён ведаў, што выканае ўсё, на што пасланы, іншага не павінна, а таму і не магло быць...

## 6

Як лейтэнант ні падганяў байцоў на апошніх кіламетрах шляху, усё ж світанак застаў іх у голым, беласнежным пасля начной мяцеліцы полі, непадалёк ад шашы.

Карыстаючыся апошнім прыцемкам, Івановскі прайшоў яшчэ кіламетр. З усё большай рызыкай ён набліжаўся да ледзьве прыкметнай здаля ніткі дарогі, як раптам убачыў на ёй машыны. Лейтэнант ледзь не крыкнуў ад прыкрасці – не хапіла якіх пятнаццаці хвілін, каб праскочыць на той бок шашы! Для суцяшэння сябе ён спярша падумаў, што машыны неўзабаве пройдуць, і яны сапраўды хутка схаваліся ўдалечыні, але следам за імі паявіўся нейкі марудлівы конны абоз, у абгон яго з-за пагорка выскачылі дзве чорныя прыземістыя легкавушкі. Стала відавочна: пачынаўся дзень і болынаў рух, псрайсці шашу незаўважанымі з іх

валакушай, мабыць, не было чаго і думаць.

Тады Іваноўскі, не набліжаючыся да шашы, але і не аддаляючыся ад яе, крута ўзяў убок, на недалёкі пагорак з рэдзенькай грыўкай кустоўя. Сховішча там, мяркуючы па ўсім, было нікудышняе, але і чакаць у лагчыне паблізу ад шашы таксама не выпадала – хутка віднела, і кожную хвіліну іх маглі згледзець немцы.

З апошняе сілы лыжнікі ўскараскаліся на пагорак, ледзьве не вываліслі з валакушы параненага, і лейтэнант, перасільваючы звыклы боль у назе, зморана пасунуўся да недалёкага ўжо хмызняку. Аднак на паўшляху да яго перад Іваноўскім вырас са снегу нейкі даволі высокі вал, які роўна перараразаў пагорак і збягаў да шашы. Спярша лейтэнант здзівіўся, а пасля ўсё зразумеў і ўзрадавана замахаў рукою таварышам, якія ледзьве брылі за ім, – маўляў, давайце хутчэй.

Гэта быў напаўзамецены снегам супрацьтанкавы роў, адно з тых шматкіламетровых палявых умацаванняў, якія з пачатку вайны ва ўсіх кірунках парэзалі тутэйшыя землі. Цяпер роў трапіўся ім вельмі дарэчы на гэтым адкрытым пагорку, і лейтэнант наўскос ціха з’ехаў на яго шырокае, перамеценае снегавою хрыбцінай дно. Тут было зацішна І даволі глыбока, вецер з аднаго боку намёў прыгожы фігурны застрэшак, які ўтварыў некаторае сховішча зверху. Напэўна, нейкі нядоўгі час тут можна было адседзецца.

Адзін за адным яны ўваліліся ў гэтае сховішча і тут жа пападалі на мяккія выгібы гурбаў. Ён таксама ўпаў – як упаяўся задам у шчыльна спрасаваны завеяй снег – і, горача дыхаючы, доўга невідушча глядзеў, як снегавым пылам курыцца на ветры грабеньчык застрэшка. Іваноўскі не ведаў, як яму быць далей, дзе і як перабрацца цераз злашчасную гэту шашу, не ўяўляў сабе, што рабіць з параненым. Ён толькі адчуваў, што з мінулай ночы ўсе пайшло не так, як ён на гэта разлічваў, усё выходзіла горш, а можа стацца, што скончыцца і зусім кепска. Але ён не мог дапусціць, каб пасля стольківх пакут і намаганняў усё скончылася няўдачай, ён адчуваў, што павінен да апошняй

магчымасці супрацьстаяць абставінам так, як бы ён супрацьстаяў немцам. Не падвялі б сілы, а рашучасці ў яго хопіць. Хвілін дваццаць яны ляжалі ў рове, не сказаўшы ніводнага слова, і ён не мог знайсці ў сабе сілы, каб загаварыць і назначыць назіральніка. Ён толькі ў думках паўтараў сабе, што зараз, зараз трэба кагосьці назваць. Хоць усе яны былі дарэшты знясілены, але адзін нехта павінен быў ахвяраваць адпачынкам і вылезці наверх, на вецер і сцюжу, каб не даць ворагу засцігнуць знянацку астатніх.

– Трэба паназіраць, – нарэшце соына вымавіў Іваноўскі і перачакаў нямое маўчанне лыжнікаў. – Суднік, вы.

Суднік прываліўся спіной да снежнай сцяны, трымаючы на каленях набіты пілавіннем рэчмяшок са сваім далікатным грузам. Было падобна на тое, што ён спаў. Галава яго ў мокрым капюшоне была звешана долу, вочы прыкрыты.

– Суднік! – зноў гукнуў лейтэнант.

– Зараз, зараз...

Яшчэ трохі счакаўшы, баец рыўком выпраміўся, сеў раўней. Пасля абапёрся на рукі, устаў і, рэзка хіснуўшыся, ледзьве не паваліўся зноў.

– Ціха! Бутэлькі! – спалохаўся лейтэнант, і гэты спалох разам вывеў яго са стану неадчэпнай санлівасці.

Пакінуўшы лыжы ўнізе, Суднік узлез на высокі крутаваты бруствер трошкі збоч ад байцоў і залег за ім – белым пластам на свежым снезе.

– Як там? Ідуць?

– Ідуць. І канца не відно.

Ну, вядома, яны будуць ісці, не чакаць жа ім, калі ён пярэйдзе на той бок шашы, каб знішчыць іх базу. У іх свае мэты і свае задачы, напэўна, супрацьлеглыя ягоным задачам, і ён падумаў: добра яшчэ, што паблізу няма іх стаянак, інакш бы ён нядоўга праседзеў у гэтым

сховішчы.

Напэўна, мінула каля гадзіны, і Іваноўскі прахапіўся ад сцюжы – разгарачанае цела пачаў прабіраць мароз. Усе, апроч Судніка на брустверы, нерухома ляжалі, бы нежывыя, і ён, падумаўшы, што так лёгка можна памерзнуць, крыкнуў:

– Не спаць! Ану, сесці ўсім!

Сёй-той заварушыўся, Лукашоў сеў, мутным ад знямогі поглядам абвёў снежнае сховішча. Піваварaў не крануўся нават са зручнага снегавога месца – ён спаў. І тады лейтэнант рашыў, што, мабыць, трэба ўсё ж даць некалькі хвілін паспаць, іначай іх проста не скранеш з месца. Можа, за трыццаць – сорак хвілін не замерзнуць. Праўда, у такім выпадку сам ён заснуць ужо не меў права. .

Немалым намаганнем, выкліканым блізкай, навіслай над імі небяспекай, Іваноўскі адагнаў ад сябе цягучую дрымоту і ўстаў. Яго даўно непакоіў Хакімаў, але толькі цяпер з’явілася магчымасць агледзець байца, і лейтэнант, хістаючыся, падышоў да параненага. Як ён і баяўся, байцу было кепска. Мабыць, усё яшчэ непрытомны, ён нерухома ляжаў на лыжах, туга загорнуты ў абсыпаную снегам палатку, праз цесную адтуліну ў якой праглядваў яго белы, з сінім адценнем твар. Ад частага кароткага дыхання краі адтуліны густа заінелі, і дробныя сняжынкі, абсыпаючыся з іх, адразу ж раставалі на мокрых шчоках Хакімава – ён быў у гарачцы. Схіліўшыся над байцом, лейтэнант ціхенька паклікаў яго, але той ніяк не рэагаваў на ягоны голас, толькі часта, напружана дыхаў.

Некалькі хвілін ён сядзеў над параненым і сумняваўся ў правільнасці свайго рашэння, якое асуджала Хакімава на гэты пакутны шлях. Можа, сапраўды лепш было пакінуць яго ў якім-небудзь стажку пачакаць, калі вернецца група. Дле тады з параненым трэба было б пакінуць і яшчэ кагосьці, а на гэта лейтэнант згадзіцца не мог: і без таго з дзесяці чалавек іх засталося ўсяго пяцёра. І перад гэтымі пяццю ўсё ўскладнялася іх

галоўная баявая задача, дзеля якой яны хоць і са спазненнем даклыпалі сюды. Цяпер трэба было перайсці шашу, але як гэта зрабіць на вачах у немцаў, лейтэнант проста не мог даўмецца.

Думка аб гэтай шашы не выходзіла ў яго з галавы, і ён хутка ўстаў. Хакімаву ён нічым не мог памагчы, а пра задачу ен проста не мог не думаць. Ён уваткнуў у гурбіну лыжы і, хістка ступаючы ў снезе, палез на бруствер да Судніка.

Тут было ветрана і халадней, чым у рове, затое адкрываўся шырокі кругагляд на поле з абодвума канцамі шашы, сярэдзіна якой хавалася за вяршыняй пагорка. Там жа знікаў і роў. Па той бок шашы, месцамі блізка падступаючы да дарогі, шырока разбегліся хмызнякі і пералескі, а трошкі ўбаку ад прырэчнай лагчыны цямнсў знаёмы хвойны лясок, які так вераломна сустрэў іх аднойчы.

Лейтэнант выняў з запазухі карту, зарыентаваўся. База наўмысля не была пазначана на яго карце, але ен і без таго цвёрда памятаў яе месца на паўночным мыску невялікага надрэчнага лесу. Цяпер, знайшоўшы на карце гэты пагорак, лейтэнант убачЫў, што базу і яго раздзяляла ўсяго якіх паўтара кіламетра, не болыл. Зноў стала да болю крыўдна: так гэта было блізка – і так нёдаступна. Праз гэтую праклятую шашу ён мусіў марнаваць увесь дзень – цэлы дзень пакутаваць ад няпэўнасці і сцюжы.

Разам з Суднікам Іваноўскі пачаў назіраць за шашой, на якой на працягу нядоўгага часу выпадалі невялікія перапынкі ў руху. Ішлі ў асноўным грузавыя – крытыя і з адкрытымі кузавамі машыны самых розных марак, відаць, сабраныя з усіх краін Еўропы. Большасць іх імчалася на ўсход, да Масквы. І раптам лейтэнант падумаў, што калі і не ўсім і не з параненым, то, напэўна, хоць бы з адным-двума варта паспрабаваць, скарыстаўшы роў, псрабрацца цераз шашу. Ва ўсякім выпадку за дзень ён бы там нешта выгледзеў, разведаў, склаў бы план дзеяння, а як сцямнела, перавёў бы на той бок і ўсю групу.

Гэтая думка адразу надала яму бадзёрасці і выклікала дадатковыя сілы для дзеяння. Ён споўз з бруствера, нягучна, але энергічна гукнуў лыжнікам:

– Пад’ём! Паскакаць, пагрэцца ўсім! Ну!

Краснакуцкі, Лукашоў адразу падняліся, ляскаючы сябе па сцёгнах, замахалі рукамі. Лукашоў расштурхаў асалавелага са сну Піваварава.

– Грэцца, грэцца! Смялей! – настойваў лейтэнант і тут жа прыпомніў найлепшую для пад’ёму каманду: – Ану, снедаць! Лукашоў, даставайце кансервы! Усім па два сухары.

Лукашоў, санліва ўздрыгваючы, дастаў з сумкі некалькі сухароў і банку рыбных кансерваў. Лейтэнант са скрыпам распароў нажом яе бляшанае дно, і яны нажамі і лыжкамі ўзяліся выскрэбваць мёрзлыя кавалкі рыбы.

– Ну як, Піваварчык, наспаўся? – штучна ўзбадзёраным тонам запытаўся лейтэнант.

– Ды так, кімарнуў трохі.

– Што ж ты прыстаў быў, га?

– Прытаміўся, таварыш лейтэнант, – проста адказаў баец.

– А я думаў, ты мацачок, – з лёгкай жартоўнасцю заўважыў лейтэнант. – А ты вунь які!

– Падбіўся я.

Ён не апраўдваўся і не ныў, выгляд ягоны цяпер, пасля кароткага адпачынку, быў сарамліва-вінаваты, смуглявыя шчокі са сну гарэлі амаль дзіцячаю чырванню.

– Падбіўся! – зласліва перадражніў яго Лукашоў. – Што гэта табе – у мамкі? Тут... таго – адставака горш, чым забіты.

– Забіты што, забітаму сілы не трэба. А тут во – пухіры на руках ад вяроўкі, – паказаў Краснакуцкі свае распухлыя, чырвоныя далоні – яму, вядома, хапіла за мінулую ноч.

Але каму не хапіла! І яшчэ невядома, што ўсіх чакае наперадзе.

– А то вунь сачкі! – ранейшым раздражнёным тонам пранягваў Лукашоў. – Не то змыліся, не то заблудзіліся. А тут за іх аддувайся.

Ён меў на ўвазе Дзюбіна з Зайцам, аб якіх таксама ні на хвіліну не забываўся лейтэнант. З забітым усё было зразумела, вельмі трудна, але ўсё ж зразумела было з Хакімавым – старшына ж з Зайцам зніклі ў начным шляху, быццам

праваліліся скрозь зямлю, – ціха, бясследна і загадкава.

– Добра яшчэ, калі проста. А то як бы не гэта самае, – бурчэў Лукашоў, строга і заклапочана пазіраючы ўздоўж рова, і лейтэнант зразумеў, на што намякаў сяржант.

Але таго, што ён меў на ўвазе, не павінна быць. Іваноўскі не хацеў дапускаць і намёку на думку, што старшына Дзюбін быў здольны на здраду. І тым не менш ён быў поўны няпэўнасці – як ні думаў, не мог зразумець, куды прапалі гэтыя двое з яго і без таго невялічкай групы.

– Яшчэ немцаў следам прывядуць, – прастадушна азваўся Краснакуцкі. – А што – лыжня пад носам, гані, недзе дагоніш.

– Усё можа быць, – змрочна пагадзіўся Лукашоў.

– Хопіць вам, – умяшаўся Іваноўскі. – Старшына не такі. Не той чалавек.

Лукашоў жаваў сухар і ўсё ўзіраўся ў канец рова.

– Чалавек, дапусцім, не той, а ўсё можа быць. У нас у

сто дзевятым таксама такі бравы капітан быў, усе абарону ладзіў. А наладзіў, аказалася, не ў той бок. Немцы паявіліся, першым і падняў рукі.

– Ну, гэта вы кіньце, – рашуча абарваў яго Іваноўскі. – Дзюбін не капітан, гэта точна. І пасля трэба болын, Лукашоў, людзям верыць. Вам жа во верыць.

– Дык то я...

– Чаму вы думаеце, што Дзюбін горшы за вас?

– Бо я тут, а яго няма.

Сапраўды, логіка яго разважанняў была неабвержнай, запярэчыць яму было цяжка. На самай справе, ён жа вось не адстаў, хоць і быў замыкаючым, і яшчэ не даў адстаць Піваварову, які цяпер сядзеў побач і хутка аблізваў лыжку. Увогуле Лукашоў меў рацыю, але Іваноўскі чамусь не хацеў асуджаць Дзюбіна, хоць і апраўдваць яго таксама не было як.

Кансервы яны хутка даелі, пасядзеўшы ў гурбіне, дагрызлі сухары. Іваноўскі схаваў лыжку ў кішэню.

– Сяржант Лукашоў, – іншым тонам сказаў лейтэнант. – Заставайцеся старшым. Я пайду. Трэба трохі разведаць. Усім быць тут. Можна адпачываць. Назіранне кругавое. Хутка вярнуся. Што не ясна?

– Ясна, – з гатоўнасцю адказаў Лукашоў.

– І каб усё ў норме. Глядзіце Хакімава.

– Усё будзе зроблена, лейцінант. Дагледзім.

– Так. Піваварчык, за мной!

– Я? – здзівіўся Піваравў, але, памарудзіўшы, пачаў таропка ўставаць.

– Бярыце лыжы, астатняе. І патопалі. Лукашоў, падмяніце Судніка. Нябось закачанеў там.

Па глыбокім снезе, які месцамі даходзіў да пояса, яны

пайшлі да шашы. Лыжы неслі ў руках. Роў час ад часу рабіў невялікія завароты, выходзячы з-за якіх, лейтэнант засцярожліва пазіраў наперад. Але ў рове і паблізу, здаецца, не было нікога, рабрыстыя снегавыя гурбы на дне ляжалі някратаныя. Нарэшце стаў чуваць глухі вуркат дызеляў, павеяла ледзьве прыкметным на сцюжы дымком бензіну – яны падышлі да шашы. Іваноўскі высунуўся з-за голага глiністага выступу ля павароту і тут жа адскочыў назад. Зусім блізка, у канцы шырокага разрэзу рова, мільгануў аўтамабільны кузаў, накрыты надутым на ветры брызентам, пасля яшчэ і яшчэ. Ішла доўгая калона, у некаторых адкрытых машынах каля кабін відаць былI настырчаныя постаці немцаў у зялёных шынялях. Мяркуючы па іх выглядзе, Ім здорава-такі дапёк рускі мароз, і седакі не дужа аглядваліся па баках. Лейтэнант махнуў рукой прыціхламу ззаду Піваварава і па краі гурбіны ўзлез на адкос.

Вядома, ён быў далёкі ад таго, каб спадзявацца на хуткую ўдачу, на зручны для пераходу момант, але ўсё ж такога ўпартага нешанцунку ён не чакаў. Моцна замёрзшы на ветры, ён ледзьве датрываў, пакуль прагрукаталі на дарозе машыны. Здавалася, паблізу нікога больш не было. Але толькі ён высунуўся з-за ўмерзлых на брустверы камякоў, як зноў убачыў непадалёк немцаў. Іх было трое, гэта былі сувязісты. У той час, як адзін, узлезшы на слуп, корпаўся там з правадамі, двое іншых з апаратамі сядзелі на ўзбочыне дарогі – відаць, ладзілі сувязь. З-за іх спін тырчалі ствалы вIнтовак, на зямлI ляжалі скруткI правадоў і нейкія інструменты. Праўда, занятыя сваёй справай, немцы не звярталі на іншае ўвагі, але, ведама, не так, каб не заўважыць двух рускіх, калі тыя пад іх носам надумаюць перабягаць шашу.

Значыцца, зноў трэба было чакаць.

І лейтэнант паныла ляжаў на мёрзлых, прысыпаных снегам лыжах і не адрываў вачэй ад шашы. Было вельмі студзёна, мерзлі ногі, параненае сцягно балела ўсё больш, і гэты боль усё часцей звяртаў на сябе яго ўвагу.

Рух машын на шашы ўжо некалькі разоў то аднаўляўся з найбольшаю шчыльнасцю, то заціхаў трохі, і тады паяўляўся разрыў на кіламетр ці больш. Разы два выпадаў больш-менш зручны момант, каб перабегчы на той бок, але немцы ўсё яшчэ корпаліся ў сваёй сувязі. Лейтэнант тры разы даставаў важкі кубік танкавага гадзінніка, які апошні раз паказаў палову адзінаццатай. Сувязісты не ішлі. Мінула якіх паўгадзіны, пакуль той, што сядзеў на слупе, нарэшце злез на зямлю, і лейтэнант падумаў, што, можа, цяпер яны пойдуць. Але немец валюхаста перайшоў да наступнага слупа і, начапіўшы на боты свае сярпы-кошкі, зноў палез угору. Утрох яны там аб чымсь размаўлялі, але вецер адносіў іхнія галасы ўбок, і лейтэнант не мог нічога ўчуць.

Так цягнулася бясконца доўга. Іваноўскі пачаў ужо азірацца, шукаючы дзе якое болей зручнае месца, як раптам убачыў, што каля двух немцаў на ўзбочыне паявіўся і трэці. Адкуль ён узяўся тут, было невядома, напэўна, заслонены ад яго пагоркам, сядзеў дзе-небудзь непадалёк ад дарогі. Лейтэнант адчуў на сабе лёгкія дрыжыкі ад таго, што так блізка быў да бяды. Калі б ён наважыўся перабегчы шашу, дык напэўна налез бы на гэтага не бачанага ім немца. Між тым немец прысеў над апаратам, аб чымсь перагаварыў з астатнімі і махнуў рукой таму, што сядзеў на слупе, і той пачаў нетаропка злазіць. Пакуль ён злазіў, гэтыя трое ўсталі, разабралі свае сумкі і скрынкі і паЙшлі ўздоўж па дарозе.

На гэты раз яны спыніліся значна далей ад рова, на слуп ніхто ўжо з іх не палез, і лейтэнант зірнуў у процілеглы канец шашы – цяпер, мабыць, трэба было рашыцца.

Ён жвава споўз па адхоне на дно рова, павярэдзіўшы набалелае сваё сцягно. Піваварaў ускочыў з наседжанага ў снезе месца, Іваноўскі моўчкі кіўнуў яму, і яны, прыціскаючыся да крутога боку адхону, хутка пайшлІ па рове ўніз. Тут іх ужо лёгка маглі заўважыць з дарогі, лейтэнант упаў за снегавую хрыбціну, уціснуўся ў снег; побач спрытна закапаўся ў

снег Піваварaў. Апухлы ад сцюжы і бяссонніцы хлапечы твар байца знерухомеў у найбольшай увазе, час ад часу лейтэнант перахопліваў яго ўстрывожаныя запытальныя позіркі. Лежачы на дне рова, баец нічога не бачыў і ва ўсім спадзяваўся на камандзіра, які прымаў цяпер рашэнні, што так многа значылі для абодвух.

Але адсюль ужо і сам лейтэнант нічога не мог убачыць і змушаны быў спадзявацца на слых, якім старанна перабіраў усе разрозненыя зменлівыя гукі, што даляталі з дарогі. Ведама, гэта быў не самы надзейны спосаб з усіх магчымых для пераходу, але іншага ў яго не засталося. Дачакаўшыся, калі вуркотны гул дызеляў на шашы трохі аслабне, і не злавіўшы паблізу якіх новых гукаў, Іваноўскі сказаў сабе: «Давай!» – і ўскочыў на ногі.

Праз некалькі скачкоў па глыбокім снезе ён дасяг прыдарожнага канца рова, выглянуў з яго – на шашы сапраўды было пуста, хаця на дальні пагорак ён проста не паспеў глянуць. Ён з шалёным імпэтам выскачыў на наезджанае палатно шашы і размашыста саскочыў з яго ў снег на дно наступнага адрэзка рова. Бегучы, ён з задавальненнем учуў за сабой стомленае дыханне Піваварава і з усяе сілы кінуўся да ўжо недалёкага павароту рова. Праз некалькі крокаў, аднак, зноў пачуў напружанае завыванне матораў і ўнутрана сцяўся, чакаючы крыкаў або, можа, стрэлаў. Але ўсё ж ён паспеў схавацца за паваротам. Піваварaў схаваўся трохі пазней, Іваноўскі, азірнуўшыся, згледзеў, што машыны паявіліся на секунду пасля таго, як баец упаў за паваротам. Машыны прамчаліся, не збаўляючы хуткасці, і ён упершыню за ранак уздыхнуў з палёгкай:

– Фу, чорт!

Абодва хвіліну аддыхваліся, пасля Іваноўскі прыўстаў на каленях і агледзеўся. Здаецца, паблізу быў нейкі хмызняк – рэдзенькае яго вяршалле месцамі тырчэла з-за высокага бруствера, і лейтэнант з байцом расслаблена пайшлі па рове. Далекавата ўжо адышоўшыся ад шашы, яны спрабавалі вылезці ў поле,

і, на здзіўленне камандзіра, Піваварaву гэта ўдалося хутчэй; лейтэнант жа з першай спробы дабраўся толькі да сярэдзіны адхону і, паслізнуўшыся на круцізне, споўз да самага нізу. Зноў вельмі забалела сцягно. На гэты раз ён не захацеў душыць у сабе стогн, і Піваварaў азірнуўся на брустверы, кінуўшы ў яго бок востры, недаўменны позірк.

– Нічога. Усё ў парадку.

Іваноўскі сабраўся з духам, пераадолеў боль, баец падаў камандзіру лыжную палку, з яе дапамогай той нарэшце пераваліўся цераз бруствер.

– Так. Цяпер на лыжы.

Тут, напэўна, ужо можна было ісці каля рова, ад дарогі прыкрываў бруствер і няблага хаваў хмызняк. Справа і воддаль шарэла вяршалле хвойнічка, дзе іх сёння чакала ўдача або няшчасце, слава або, можа, смерць – іх лес.

**7**

Пакуль яны прадзіраліся на лыжах у кустоўі, Іваноўскі адчуў прыступ нейкага непрыемнага, амаль неадольнага ў сабе неспакою.

Было зусім невядома, чаму гэты неспакой менавіта цяпер так настойліва даняў лейтэнанта. Урэшце, усё складвалася больш-менш удала: яны перайшлі шашу, здаецца, іх не заўважылі, зусім ужо блізка была мэта іх труднага шматкіламетровага начнога шляху. Хаця і з непаладкамі, але набліжаўся фінал, пэўна, цяпер яны маглі ўжо што-небудзь зрабіць. Праўда, сілы іх зменшыліся – частку страцілі пры пераходзе лініі фронту, двое зніклі ўначы, трое засталіся па той бок шашы, і тут іх было толькі двое. Двое, вядома, не дзесяць. Але наўрад ці гэтая акалічнасць была прычынай яго невыразнага і такога неадольнага цяпер неспакою.

Чым бліжэй яны падыходзілі да хвойнічка, тым усё

нецярплівей рабілася на душы ў лейтэнанта. Нецярпенне нарэшце ахапіла яго так моцна, што ён не мог дазволіць сабе спыніцца, каб паправіць на сцягне павязку, – здаецца, пачала крывяніць рана. Зрэшты, ён даўно ўжо стараўся не заўважаць свае раны, да яе збольшага прыцерпеўся за ноч, Цяпер ён нават не дужа азіраўся па баках – ён упарта імкнуўся да хвойніку, быццам там чакала яго самая вялікая ў яго жыцці ўзнагарода. Півавараў, мокры ад поту, які ён перастаў ужо выціраць з твару рукавом маскхалата, стараўся не адстаць, і яны задыхана, хуткім крокам шыбавалі ўскрайкам кустоўя. Ужо зусім добра развіднела, дзьмуў нямоцны марозны вецер, неба, завалочанае хмарамі, нізка навісла над шэрым, непраглядным, затуманеным марознай смугой прасторам.

Іваноўскі першы ўзабраўся на вяршыню пагорка і праз голае сучча алешніку паглядзеў уніз. Перад ім была лагчына з нешырокім языком хмызняку, у якім лейтэнант ледзьве пазнаў той алешнічак, дзе яны з Волахам чакалі ночы. Але замест гушчару, што тады прытуліў семярых, цяпер сіратліва чарнелі на снезе тонкія дубчыкі, у якіх магло схавацца хіба некалькі птушак, Затое на пагорачку за лагчынай па-ранейшаму таямніча зелянеў хвойнік, абнесены рэдкімі слупкамі нямецкай загарадзі, ля якой ім тады так не пашэнціла з Волахам, але павінна, не можа не пашанцаваць цяпер...

Убачыўшы знаёмую загарадзь, лейтэнант памалу пачаў спакайнець – галоўнае, усё ж ён дапяў да яе. Астатняе ўжо залежала ад яго ўмельства, знаходлівасці, ад іх смеласці. Дзеянне розных пабочных прычын тут ужо зводзілася да самага магчымага мінімуму.

Захінуты хмызняком, лейтэнант пастаяў хвіліну ці дзве, трохі адпачыў і памалу пачаў пазбывацца свайго нецярплівага неспакою. Ён стараўся ўпэўніць сябе, што ўсё як-небудзь абыдзецца. Праўда, канчаткова супакоіцца яму не ўдалося, нешта ўсё ж не пераставала яго прыгнятаць, трывожыць і без таго натрывожаныя за ноч пачуцці. Півавараў, ні пра што не пытаючыся, відаць, без слоў разумеў становішча і чакаў, калі яны

пойдуць далей. Іваноўскі ж усё не мог адарваць позірку ад хвойнага ўзлоску, быццам спадзеючыся там што ўбачыць. Але на адлегласці больш кіламетра нічога не было відаць, апроч рэдкіх маладых сасонак ды некалькіх слупоў загарадзі. Зрэшты, яно і зразумела, мабыць, немцы паспелі замаскіраваць аб’ект. Яны таксама ўмелі маскіравацца – розныя там сеткі, зялёныя маскі, снег. Вось толькі здзіўляла, куды прапала дарога, на якой разведчыкі Волаха ўбачылі нямецкія грузавікі, што вазілі боепрыпасы. Яна ішла якраз па касагоры да лесу, і цяпер там на снезе не відаць было і следу. «Можа, яе замяло ўночы?» – падумаў лейтэнант. Але хоць які знак павінен быў захавацца нават і пасля завеі. А можа, дарогу праклалі ў іншым, не бачным адсюль месцы! Зрэшты, дарога цяпер яму была непатрэбна, пакарыстацца ёю, відаць, ім не прыйдзецца. Куды важней было знайсці зручныя подступы да гэтага хвойнічка, каб уночы як мага бліжэй падпаўзці да агароджы. Відаць, адкрыты напольны бок для гэтага мала гадзіўся, трэба было пашукаць якія падыходы з захаду.

– Піваварaў, айда! Ціха толькі...

Ухіляючыся ад мерзлага суччa, якое ўвесь час чаплялася за іх капюшоны, яны пайшлі хмызняком унІз, у абход поля. Іваноўскі зноў увесь насцярожыўся, усё ў ім так сцялася, як не сціскалася за ўсю шалёную мінулую ноч. Але наўкола стаяла цішыня, ім ніхто не спаткаўся, і гэта супакойвала. У каторы ўжо раз лейтэнант браўся прыкідваць, як лепш перабрацца за загарадзь – цяпер гэта было, мабыць, самае важнае і самае цяжкое ў ягонай задачы. Вядома, калі штабялі блізка ля дроту, дык можна будзе закідаць іх гранатамі і бутэлькамі з КС, хаця наўрад ці яны будуць размешчаны на такой адлегласці, каб іх можна было дастаць гранатай. Тады прыйдзецца лезці праз дрот. Лепш за ўсё, мабыць, зрабіць гэта аднаму, а астатнім прыкрыць на які выпадак і забяспечыць адход. Хай нават прыняўшы нядоўгі бой з вартавым, – на іх баку раптоўнасць, а хвіліны часу ім, мабыць, хапіла б, каб зрабіць усе, што трэба зрабіць. Горш вось, калі там –

сабакі.

Але нават калі і сабакі, аднаму або двум прыйдзецца лезці праз дрот – астатнія павінны будуць падманіць сабак і прыняць на сябе агонь вартавых – іншага не заставалася. Галоўнае – паспець за якія секунды запаліць і ўзарваць як мага больш штабялёў. Астатняе зробяць дэтануючыя выбухі, і ўсё давершыць агонь.

Па хмызняку яны перасеклі лагчыну, краем узлеску абышлі адкрыты ўчастак поля. Паблізу нікога нідзе не было. Ішлі асцярожна, цяпер ужо нетаропка. Часам лейтэнант спыняўся і прыслухоўваўся: наўкола стаяла ветраная зімовая цішыня. Аднойчы вецер прынёс у лагчыну далёкі маторны гул, але, услухаўшыся, Іваноўскі зразумеў, што гэта з шашы. Хвойнік надзіва нема, амаль мёртва маўчаў.

Праз якіх паўгадзіны на іх шляху нечакана паявіўся равок. Крывулісты і голы, з завеянымі снегам бакамі, ён быў відаць на ўсю даўжыню, і лейтэнант не адразу зразумеў, што гэта той самы равок, адкуль Волах выйшаў у завею да загарадзі. Значыць, трэба было зайсці яшчэ далей, па кустоўі абагнуць базу на кіламетр глыбей. Ужо там напэўна можна будзе падысці да яе бліжэй і разгледзець больш падрабязна.

Ён азірнуўся на Піваварава, расчырванелы твар якога напалову закрыты быў мокрым абвіслым капюшонам; хлопец з усяе сілы перабіраў палкамі, іх лыжы па-ранейшаму глыбока правальваліся ў рыхлым снезе. Пераадольваючы ў сабе моцнае нецярпенне ад таго, што хутка бліжэла мэта, Іваноўскі моўчкі даў знак байцу пачакаць, а сам абышоў роў і спыніўся за шырокім разгалістым кустом ляшчынніку.

Голыя, са знятай карой слупы агароджаны былі зусім ужо блізка. Высокія, у рост чалавека, калі не больш, яны прыкметна вылучаліся на снежна-зеленаватым фоне маладых хвоек. Але, дзіўная справа, – за імі ўсё яшчэ нічога не было відаць. Як ён ні напружваў зрок, нідзе не мог згледзець знаёмых штабялёў з жоўтых і зялёных скрынак, якія так выразна стаялі ў яго ў вачах

з таго самага моманту, як ён убачыў іх у бінокль. Не было таксама відаць і брызентаў. Гэтая акалічнасць зноў нядобрым прадчуваннем занепакоіла лейтэнанта, і ён махнуў Півавараву – маўляў, сядзь, замры. Той зразумеў сігнал і прысеў на лыжы, а лейтэнант пасля нядоўгага вагання выйшаў з кустоўя.

Напэўна, ён зрабіў неразумна, як камандзіру групы яму не трэба было так рызыкаваць сабой, але Іваноўскі не мог ужо стрымацца. Нядобрае прадчуванне зноў ахапіла яго, штось засела ў горле, ён праглынуў крыўдны камяк і, не адрываючы позірку ад блізкага ўжо ўзлеску, хутка і наўпрост пайшоў на яго.

Цяпер іх раздзяляла ўсяго якіх-небудзь тры сотні метраў, і ўжо ў самым пачатку гэтага шляху лейтэнант зразумеў, што дроту на слупах не было. Дрот, які некалі густа аплятаў базу, цяпер быў зняты, і адсутнасць яго самай вялікай трывогай, амаль спалохам адазвалася ў пачуццях Іваноўскага. Ужо нічога не асцерагаючыся і не звяртаючы ўвагі на тое, што яго маглі лёгка заўважыць у адкрытым полі, ён у некалькі рыўкоў дасягнуў крайніх сасёнак і спыніўся, уражаны, амаль знішчаны тым, што ўбачыў.

База знікла.

У хвойніку на пагорку не было ні вартавых, ні сабак, ні штабялёў з жоўта-зялёных скрынак – пад нагамі роўна ляжаў някратаны снег ды на ўзлеску цягнуўся рад белых слупоў, што адзіна напаміналі цяпер пра базу – іншых яе прыкмет тут не засталося. Дрот быў акуратна зняты са слупоў і адвезены кудысь, мабыць, у іншае, болей патрэбнае месца.

Недаўменне ў свядомасці лейтэнанта хутка мянялася на збянтэжанасць, амаль разгубленасць, ён пастаяў на чыстым, свежым пасля начной мяцеліцы снезе, пасля пайшоў на лыжах да супрацьлеглага боку, туды, дзе некалі быў выезд. Але і тут нічога не засталося, толькі ў гушчары маладога сасонніку пад снегам угадвалася некалькі апусцелых ям-капаніраў ды на краі ўзлеску каля слупоў высілася куча прысыпаных снегам жэрдак,

напэўна, былых падкладак з-пад штабялёў. Болей ад базы тут не было нічога. Дарога, адсутнасць якой здзівіла лейтэнанта, белаю пустой паласой ляжала пад снегам – па ёй даўно ўжо не ездзілі.

Зусім і раптам знясілеўшы, Іваноўскі прыхінуўся плячом да шархоткага боку хвоі, уражаны пустэчай і закінутасцю гэтага цяпер нікому ўжо не патрэбнага хвойніку. Базу перамясцілі. Гэта было відавочна, але ён усё не мог у тое паверыць. У яго збянтэжанай свядомасці засела і не хацела знікаць упартая, неадчэпная думка, што гэта прывід, памылка, недарэчнае злое непаразуменне і што патрэбна толькі невялікае намаганне, каб усё гэта знікла. Інакшага ён не мог уявіць сабе, таму што ён не ў стане быў прымірыцца з тым, што і на гэты раз яго спасцігла няўдача, што вялізныя намаганні групы патрачаны ўпустую, што дарма яны смяртэльна рызыкавалі і гублялі людзей, ушчэнт знясілелі самі. Яны спазніліся. Ён не адразу паверыў у гэта, але, пастаяўшы пад хвояй і аддыхаўшыся, усё ж зразумеў, што ніякага прывіду не было. Была жорсткая, злая рэальнасць, яшчэ адна вялізная бяда з усіх бедаў, якія выпалі за гэтую вайну на яго злашчасную долю.

Ледзьве адарваўшы плячо ад хвоі, ён стаў на лыжы і адштурхнуўся палкамі. Лыжы крыху паехалі па шархоткім снезе і спыніліся. Ён не ведаў, што рабіць далей, упершыню за некалькі дзён адпала неабходнасць спяшацца, і ён абапёрся на палкі. На хвойнай галінцы паблізу з’явілася вяртлявая сарока, якая ўвесь час злосна стракатала на яго; пырхнула над галавой і з кароткім піскам знікла ў голлі сінічка. Іваноўскі стаяў зусім абыякавы да натуральнага жыцця лесу і не заўважаў нічога. Нейкае здранцвенне скавала яго аслабелыя мышцы, ён ні пра што не думаў, ён толькі глядзеў у пустэчу падлеску, адчуваючы ў сабе такую знямогу, што адолець яе, здавалася, не было ніякай магчымасці.

Так прадаўжалася нямала часу, але хвойнік па-ранейшаму заставаўся пусты і непатрэбны, і лейтэнант

нарэшце вымушаны быў схамянуцца: усё ж яго чакалі байцы. Перш за ўсё – Піваварaў. Іваноўскі азірнуўся – баец цярпліва сядзеў за ровам, там, дзе ен і пакінуў яго, і лейтэнант махнуў рукой – давай, маўляў, сюды.

Пакуль Піваварaў ішоў па ягоным следзе да хвойніку, Іваноўскі адшпіліў рамяні лыж і сышоў на снег. Напэўна, тут можна было не баяцца, у пустым сасонніку не было нікога. Ён зморана прысеў на невысокі, абсыпаны снегам пянёк, выцягнуў убок нагу. Трэба было рашыць, што рабіць далей. А галоўнае – сцяміць, як гэтую няўдачу растлумачыць байцам. Ён не мог пазбавіцца ад прыкрага адчування нейкай сваёй віны, нібыта ён выдумаў усю гэтую гісторыю з базай і кагось ашукаў. Хоць, калі разабрацца, дык болей за іншых ашуканы быў ён сам.

Хаця, разважыўшы, рабілася ясна, што тут не было ашуканства, а была вайна з яе тысячамі хітрасцяў, тонкасцяў, выпадковасцяў, з усёй рознанакіраванасцю яе фактараў.

Піваварaў ціха падышоў па яго лыжні і моўчкі спыніўся насупраць. Баец няўцямна азіраў хвойнік, зрэдку кідаў на лейтэнанта недаўменныя позіркі. Нарэшце ён здагадаўся аб нечым.

– А што... Хіба тут была?

– Вот іменна – была.

– Халеры! Вывезлі, ці што?

– Вывезлі, канечне! – Іваноўскі ўскочыў са свайго пянька. – Пакінулі нас у дурнях!

На здзіўленне лейтэнанта, Піваварaў вельмі стрымана адрэагаваў на яго запальчывыя, поўныя гневу словы.

– Відаць, спазніліся.

– Ну. Больш за два тыдні мінула. Было калі.

– А цяпер як жа? Прыйдзецца шукаць.

– Што шукаць?

– Ну, базу. Загад жа...

Вядома, базы не было, але загад знішчыць яе заставаўся. Ці даўно лейтэнант сам дабіваўся ў штабе гэтага загаду, які нарэшце і атрымаў на сваю галаву. «Што ж, цяпер давай выконвай загад, лейтэнаыт Іваноўскі, шукай сваю базу», – злосна падумаў пра сябе лейтэнант. Аднак тон, з якім Півавараў упамянуў пра загад, усё ж спадабаўся лейтэнанту, і ў душы ён нават узрадаваўся. У выпадку чаго, напэўна, байцам доўга тлумачыць не прыйдзецца – калі гэта зразумеў Півавараў, дык, пэўна, зразумеюць і астатнія.

Бяда, якая спярша так прыдушыла лейтэнанта, памалу пачала меншаць, хоць, вядома, ён не мог не разумець, што клопату і яшчэ прыбавілася. Відаць па ўсім, базу перамясцілі на ўсход, бліжэй да лініі фронту – там яе і трэба будзе шукаць. Калі ісці ўздоўж шашы, аглядаючы кожны лясок, – магчыма, і Ўдасца на яе наткнуцца. Але тут ён успомніў пра тых, за дарогай, пра небараку Хакімава і падумаў, што, пэўна, шукаць яе не прыйдзецца. Налэўна, гэта запатрабуе вялікага часу, болей прыпасаў, чым тыя, што мелі яны. Зноў жа, ці доўга пройдзеш з Хакімавым? Ды і ці лёгка адшукаць у гушчары лясоў старанна замаскіраваны аб’ект, які цяпер стаў для іх іголкаю ў стозе сена? Зрэшты, зусім можа быць, што базы і наогул ужо няма – развезлі па частках і расстралялі ў баях усё, да апошняй міны.

Тады што ж – вяртацца з цэлай узрыўчаткай, з поўным запасам гранат? Зноў цягнуць на сабе чортавы бутэлькі з КС і дрыжэць, каб які-небудзь фрыц, запусціўшы па дурноце чаргу, не пацэліў у іх куляй? І гэта, страціўшы палову групы! З цяжкалараненым у валакушы. І, нарэшце, у агідным становішчы поўнага няўдачніка з’явіцца перад генералам? Што генерал скажа яму?

– Да-а...

Іваноўскі чарпануў жменю снегу, пажаваў і плюнуў. Як заўжды, пасля бяссоннае ночы ў роце доўга трымаўся

агідны металічны прысмак. Чамусьці трохі хіліла на ваніты. І нават быццам бралі дрыжыкі. Хоць дрыжыкі, магчыма, бралі ад стомы і страты крыві.

– У цябе бінт ёсць? – запытаўся лейтэнант у Піваварава.

Той зняў рукавіцу і пачаў мацаць кішэні, а лейтэнант падняўся з пянька.

– Давай памажы во, – сказаў ён, расшпІльваючы штаны. Ён падумаў, што цяпер ужо няма ніякага сэнсу ўтойваць недарэчнае сваё раненне.

– Што, параніла?

– Ды зачапіла ноччу. Во чорт, усё сочыцца...

Не дзіва, што Піваварaў спалохаўся – белыя споднікі лейтэнанта і яго ватныя штаны былі густа запэцканы падсохлай ужо крывей. Са знешняга боку сцягна з невялікай ранкі хутка споўз да калена цёмна-буры струменьчык крыві.

– Давай. Абматай. Ды мацней каб.

– Доктара трэба.

– Які там доктар. Вось ты і будзеш доктарам.

Было відаць, што Піваварaў устрывожыўся раненнем камандзіра болыл, чым знікненнем базы. Прысеўшы побач, баец не надта ўмела абкруціў бінтамі сцягно і туга звязаў канцы сабачым вузлом.

– Не спаўзла каб.

– Ладна. Пакуль патрымаецца.

Скрываўлены бінт Іваноўскі кінуў на снег, падцягнуў штаны, завязаў матуз запэцканых маскіровачных шараварaў. Піваварaў прывязаў лыжы. Мяркуючы па ягоным спакойным выглядзе, няўдача з базай ніяк не адбілася на яго роўным настроі, і лейтэнант у душы пазайздросціў ягонай вытрымцы. Зрэшты, ён проста

баец, а байцу што – з байца дшат не возьмеш.

– Што вось цяпер хлопцам сказаць? – заклапочана сказаў камандзір, адчуўшы жаданне параіцца, каб хоць крыху развеяць сваю маркоту.

– А так і сказаць. Што ж такога, – проста адказаў Півавараў.

– Што немцы нас ашукалі?

– Ну а што! Ашукалі, дык ашукалі!..

– Відаць, твая праўда, – падумаўшы, рашыў лейтэнант. – Трэба так і зрабіць. Толькі куды вось далей?

– А вы на карту паглядзіце, – прастадушна параіў баец.

– Якую карту?

Святая прастата, Півавараў, мабыць, думаў, што на ваеннай карце ўсё абазначана. Таксама, бывала, вясковыя цёткі, убачыўшы, як камандзір разгортвае карту, здзіўляліся, калі ён пытаўся, як называецца гэтая вёска або колькі кіламетраў да горада. Так і гэты яго Півавараў.

Зрэшты, лейтэнант нерваваўся і, здаецца, пачынаў злавацца – балела патрывожаная рана, і надта прыкра было на душы – ён усё яшчэ не меў пэўнага ўяўлення, што рабіць далей. Невідушчым поглядам ён хвіліну азіраў пакатае, з далёкім кустоўем поле, пакуль думка пра пакінутых за дарогай байцоў не змусіла яго дзейнічаць. Тады ён адштурхнуўся палкамі і хутка пайшоў па ранейшым сваім следзе ўніз.

## 8

Пакуль прабіраліся па знаёмым шляху ў кустоўі, Іваноўскі, трохі ўжо прызвычаіўшыся да сваёй няўдачы, спрабаваў разабрацца ў пачуццях і рашыць, як быць далей. Ведама, знікненне базы рабіла непатрэбнай усю ягоную вылазку, і было крыўдна да слёз за дарэмныя

намаганні. Вельмі шкода было забітых, паміраючага Хакімава, але цяпер яго ўсё болей пачало дапякаць пытанне: як гэтую няўдачу растлумачыць у штабе? Надта ўжо ўрэзаліся ў памяць лейтэнанта іх зусім не ваенныя праводзіны, сардэчная генералава прамова ў двары дома з прыгожымі аканіцамі... «Сынкі!..» Вось табе і сынкі! Нікудыкі, маруды і разгільдзяі. Пакуль збіраліся, пакуль блудзілі ўначы, пакуль спалі ў рове, база бясследна прапала.

Агіднае становішча, болей нічога не скажаш, думаў Іваноўскі і ўвесь час моршчыўся, як ад зубнога болю. Ён ужо не ўхіляўся ад калючага голля хмызняку – ішоў наўпрост, ледзь толькі прыгнуўшыся, і думаў, што лепш бы генерал вылаяў яго ў самым пачатку ды адправіў на праверку ў Дольцава, чым слухаць той яго злашчасны даклад пра базу. А ўжо калі было прынята такое рашэнне, дык хай бы лепш начштаба строга загадаў яму адносна гэтае базы або нават пагразіў трыбуналам на выпадак невыканання загаду, чым так вось: «Сынкі, на вас уся надзея!» Што яму рабіць цяпер з гэтай генеральскай надзеяй? Куды ён з ёй? Гэтая бязрадасная думка варушыла, трывожыла яго свядомасць, не давала прымірыцца з няўдачай і вымушала на нейкае дзеянне. Але што можна было зрабіць?

Перайсці шашу зноў аказалася няпроста: яшчэ зводдаль стаў бачны суцэльны паток войска. Ішла, напэўна, нейкая пяхотная часць – калоны варожых салдатаў, брычкі, фурманкі, зрэдку траплялiся конныя; у другім радзе раўлі машыны і цягачы з гарматамі на прычэпе. Густы гэты паток няспынна імкнуў на ўсход, да Масквы, і ў лейтэнанта ў нядобрым прадчуванні сціснула сэрца – зноў! Зноў, відаць, наступаюць, магчыма, прарвалі фронт. Бедная сталіца, як будзе ёй выстаяць супраць такой сілы? Але, пэўна, знойдзецца і ў яе сіла, прынамсі, павінна знайсціся. Іначай навошта тады столькі крыві, столькі заўчасна аддадзеных за яе жыццяў, столькі людскіх пакут і намаганняў – ёсць жа ў гэтым сэнс. Павінен быць.

Вось толькі ў яго сэнсу атрымалася дужа нямнога – хоць за гэтую ноч яны адмахалі шэсцьдзесят кіламетраў, але база ад таго не стала бліжэй, чым учора. Можа, яшчэ і далей, бо ўчора ў яго была поўная сілы група, нерастрачаная рашучасць, а што засталося сёння? Нават у яго самога, што ні кажы, а паменела сілы, а галоўнае – разам з базай знікла ранейшая яснасць мэты: ён проста не ведаў цяпер, што рабіць і куды падацца.

Зрэшты, спярша трэба было дайсці да сваіх байцоў.

І яны з Піваваравым, падхапіўшы ў рукі лыжы, зноў сунуліся ўсё ў той жа супрацьтанкавы роў. Ісці далей да шашы было небяспечна, яны затаіліся за чарговым земляным паваротам, зрэдку выглядваючы з-за яго на адкрыты ўчастак дарогі. Часта выглядваць не было сэнсу – калона войска цягнулася там без канца і пачатку, – перайсці ў такі час не было чаго і думаць. Значыць, зноў трэба было чакаць. І лейтэнант пачаў пакорна бавіць на сцюжы свой час, у поўным бяздзеянні, за паўкіламетра ад немцаў. Цяпер, аднак, нядаўняга нецярпення ўжо не было, ён гатовы быў сядзець тут да ночы, усё роўна ўдзень тут не было куды сунуцца. Да таго ж ён яшчэ не прыняў ніякага рашэння і не ведаў, куды накіравацца далей – шукаць базу або, можа, вярнуцца да сваіх за лінію фронту. З Піваваравым ён амаль не размаўляў – размова перашкодзіла б слухаць, а слых цяпер быў для іх адзіным сродкам бяспекі ў гэтым бясконцым снегавым супрацьтанкавым рове. Іваноўскі час ад часу даставаў з кішэні танкавы свой гадзіннік, які толькі і ведаў, што сведчыць, як хутка і няспынна ідзе час. Набліжалася халодная зімовая ноч. Нягледзячы на сцюжу, вельмі хацелася спаць. Напэўна, толькі цяпер Іваноўскі адчуў, як прытаміўся за гэты начны пераход. Вялікае напружанне апошніх некалькіх дзён цяпер пастуепова спадала, нервы расслабляліся, непрыкметна для сябе ён нават заснуў, прыхінуўшыся спіной да марознага снегавога адхону. І раптам прахапіўся ад ціхага Голасу Піваварава:

– ...а, таварыш лейтэнант! Праходзяць, здаецца.

– Што? Праходзяць?

Неяк прымасціўшыся на адхоне, баец назіраў за дарогай, голас яго прагучаў з надзеяй, і лейтэнант таксама ўзлез на адхон. Шаша сапраўды ачышчалася ад войска – апошнія фурманкі марудна адпаўзалі на ўсход. Напэўна, пакуль не позна, трэба было бегчы да сваіх на пагорак.

Яны падхапілі лыжы і трушком пабеглі па дне рова, ступаючы ў глыбокія, яшчэ не замеценыя снегам свае сляды. Ім зноў пашанцавала, яны ў самы час выбраліся на ўезджаную пустую дарогу і, перабегшы яе, зноў схаваліся ў рове. Пакуль беглі, добра ўгрэліся, у Іваноўскага спацела спіна, а ў Півававарава зноў густа заплыў потам твар, па скронях і шчоках цяклі буйныя, нібы стэарынавыя, кроплі. Цяжка дыхаючы, баец сціраў іх рукавом маскхалата, але нідзе не адстаў, не замарудзіў, і Іваноўскі ўпершыню, мабыць, адчуў сяброўскае пачуццё да яго. Слабаваты гэты баец стараўся з усяе сілы, і было б несправядліва не ацаніць гэтага.

На пагорку за першым паваротам рова Іваноўскі прыцішыў крок і некалькі разоў з палёгкаю выдыхнуў гарачаю парай. Здаецца, зноў перайшлі. Аднекуль зводдаль зноў даляцеў вуркат дызеляў, але гэта яго не палохала. Яго думкі ўжо беглі наперад, туды, дзе іх чакалі байцы, і першай трывогай лейтэнанта было: як там Хакімаў? Вядома, неразумна было б чакаць, што той ачнецца і ўстане на ногі, але ўсе ж… А раптам ён памёр? Чамусьці падумалася аб тым без спалоху, нават без жалю, хутчэй наадварот – з надзеяй. Як бы ўсё аказалася прасцей, калі б гэты Хакімаў памёр, як бы ён дапамог групе. Але, мабыць, гэта не залежала ад ягонай волі і іхняй патрэбы.

Дзесь зусім блізка ў рове былі яго байцы, і лейтэнант прыслухаўся – здалося, ён злавіў знаёмы разважлівы голас, і гэта яго здзівіла. Лейтэнант прыспешана выйшаў з-за пavароткі і тварам у твар сутыкнуўся з Дзюбіным. Мабыць, пачуўшы ягоныя крокі, старшына павярнуўся і з напружанаю ўвагай на бурым, нібы

апечаным, твары зірнуў у вочы Іваноўскаму. Непадалёк сядзелі на снезе Лукашоў, Краснакуцкі, Суднік, і каля валакушы з Хакімавым самотна згорбіўся Заяц.

Усе павярнуліся да камандзіра, але ніхто не сказаў ні слова, і лейтэнант таксама моўчкі, не зірнуўшы ні на каго, падышоў да валакушы.

– Як Хакімаў?

– Ды ўсе так жа. Без памяці, – сказаў Лукашоў.

– Вады давалі?

– Як жа вады? У жывот...

Мабыць, так, у жывот. Калі ў жывот, дык вады нельга. Але што ж тады можна? Глядзець, як ён пакутуе, і самім пакутаваць з ім разам?

Лейтэнант угледзеўся ў збялелы твар Хакімава з пакутлівым выразам разнятых пасмяглых вуснаў – баец ледзь чутна стагнаў, заплюшчыўшы вочы, і немагчыма было зразумець, чуў ён што або не.

– Трэба б яго паўшубкам укрыць, – сказаў здаля Дзюбін.

Яму быццам з нейкаю злосцю адказаў Лукашоў:

– Паўшубак! Дзе тут возьмеш паўшубак!

– Тады прападзе.

– Даўно прыйшоў? – ые паварочваючыся ад Хакімава, запытаўся Іваноўскі.

– Гадзіну назад, – сказаў Дзюбін і кінуў у бок Зайца: – Во праз яго. Лыжу зламаў...

– Якім чынам?

– Ды як лес аб’язджалі, – сказаў Заяц. – На нейкую купіну налез, хрась – і гатова. Не вінаваты я...

Напэўна, іншым разам было б дарэчы як след вылаяць

гэтага Зайца, які ўжо двойчы падвёў групу, але цяпер Іваноўскі змоўчаў. Тое, што Дзюбін дагнаў астатніх, трохі парадавала яго, хоць радасць гэтая, ведама, азмрочвалася цяпер агульнаю іх няўдачаю. Лейтэнант знарок стараўся маўчаць, не заводзіць аб тым размову, ён проста баяўся таго моманту, калі выявіцца, што шалены іх крос быў марны. Але доўга маўчаць яму не давялося, хоць яго змрочны выгляд ніяк не падахвочваў да размовы, і гэта бачылі ўсе. Тым не менш пытанне пра базу, відаць, непакоіла лыжнікаў, а побач у рове сядзеў прастадушны малады Піваварaў, да якога цяпер і скіраваліся погляды астатніх. Першы не вытрымаў Лукашоў.

– Ну што там? Шмат немцаў? – ціха запытаўся ён за плячамі ў лейтэнанта.

– А няма немцаў. І склада таксама няма, – проста адказаў Піваварaў.

– Як няма?

Лейтэнант унутрана сцяўся, нахмурыў бровы. Ён не бачыў, але амаль фізічна адчуваў, як трывожна замерлі за яго спіной лыжнікі, і, доўга не вытрымаўшы, сам падняўся на ногі.

– Як, лейцінант? Гэта – на самай справе? – павярнуўся да яго Лукашоў.

Усе астатнія з вялікім здзіўленнем, амаль са спалохам глядзелі на камандзіра.

– Базы няма. Напэўыа, перабазіравалася ў іншае месца.

Зрабілася ціха, ніхто не сказаў ні слова, толькі Краснакуцкі праз зубы цыркнуў на снег. Заяц недаўменна глядзеў проста ў твар Іваноўскаму.

– Называецца, гарадзілі гарод. Плялі лапці, – прабурчэў Лукашоў.

– Што зробіш, – уздыхнуў Краснакуцкі. – На вайне ўсё бывае.

– А можа, яе там і не было? Можа, яна дзе ў другім месцы? – змрочна засумняваўся Лукашоў, па-ранейшаму звяртаючыся да лейтэнанта.

– Там была, – проста адказаў яму Піваварaў, – Слупы во стаяць. Без дроту толькі.

Лейтэнант адышоўся ад валакушы, кінуў позірк на Судніка, які з насыпу напружана пазіраў у роў. Камандзір стараўся не бачыць Лукашова, але ён і без таго адчуваў, як нядобрая, злая сіла распірала сяржанта і той гатовы быў пачаць сварку.

– А што, і слядоў ніякіх няма? – са спакойнай дзелавітасцю запытаўся Дзюбін.

– Нічога няма, – адказаў Іваноўскі.

– Што ж атрымліваецца... Як жа так? – не сунімаўся Лукашоў. – Нехта вінаваты, значыць.

Лейтэнант рэзка павярнуўся да яго.

– Гэта ў чым вінаваты?

– А ў тым, што за так укалывалі. Ды і людзей паклалі...

– Дык вы што прапануеце? – асадзіў яго лейтэнант рэзкім пытаннем.

Ён не мог пачынаць з ім спрэчку, бо ведаў, што ў гэтым іх напружанні недалёка да сваркі, да таго ж ён не мог не адчуваць, што ў значнай ступені сяржант меў рацыю. Але навошта было цяпер шмат гаварыць пра тое, ад чаго і так было кепска кожнаму? Зноў жа, у такіх выпадках у арміі не было прынята адкрыта выказваць сваё незадавальненне, тым больш абурэнне – падобнае заўжды каралася з найбольшай строгасцю.

Тым не менш Лукашоў загарачыўся, вочы яго заблішчалі, азызлы, з натапыранай шчэццю твар стаў злосны і нядобры.

– Што мне прапаноўваць? Я кажу...

– Лепш памаўчыце!

Сяржант Лукашоў змоўк і адышоўся ўбок, а лейтэнант зноў сеў на снег. Размова была не з самых прыемных, але нешта, што дапякала яго з самага ранку, разам апала, неяк само па сабе ўсё вырашылася, хоць, можа, і не самым найлепшым чынам. Больіі да яго не звярталіся, напэўна, бачылі, што цяпер ён ведае не болей за іншых. Байцы моўчкі чакалі новай каманды або рашэння, як быць далей, і ён, зразумеўшы гэта, дастаў з запазухі карту. Ён спрабаваў усё ж нешта знайсці на ёй, штось рашыць для сябе, спрабаваў зразумець, куды з найбольшай верагоднасцю магла перамясціцца гэта праклятая база. Але колькі ён ні ўзіраўся ў карту, тая не адказала ні на адно з ягоных пытанняў, чырвоная лінія шашы хутка знікала за яе краем, суседняга ж аркуша ў яго не было. І тут, і, напэўна, далей зручных для склада месцаў было мноства: у лясках, хмызняку, раўках. Дзе іх шукаць?

Ён так сядзеў доўга і маўчаў, не прыбіраючы з каленяў раскладзенай карты, па якой снежнай крупой шархацеў вецер. Ён ужо нічога не разглядваў на ёй – проста ён пазбягаў непатрэбных цяпер размоў з байцамі, іх запытальных позіркаў. Ён адчуваў, што неадкладна трэба нешта рашыць і, як толькі сцямнее, трэба адсюль ісці. Толькі куды?

– Падмяніце Судніка. Нябось закалеў на ветры, – ні да каго не звяртаючыся, сказаў лейтэнант, калі адчуў, што нядобрая маўклівасць у групе надта задоўжылася. – Заяц!

Заяц адразу ж устаў і пачаў узлазіць на бруствер, а Суднік, абсыпаючы снег, задам з’ехаў у роў. Паднятае ім снежнае воблака абдало Дзюбіна, які заварушыўся і стаў на ногі.

– Дык што ж далей, камандзір? – запытаўся ён.

– Што такое? – зрабіў выгляд, быццам не зразумеў, Іваноўскі, хоць ён выдатна разумеў, што непакоіць старшыну.

– Куды далей пойдзем?

– Вы пойдзеце назад, – проста рашыў камандзір.

– Як? Я адзін?

– Вы і астатнія. Паспрабуйце ўратаваць Хакімава.

– А вы?

– Я? Я паспрабую знайсці базу.

– Адзін?

Гэтае пытанне старшыны Іваноўскі пакінуў без хуткага адказу. Ён не ведаў, пойдзе адзін ці яшчэ з кім, але што трэба працягваць пошукі – гэта ён зразумеў дакладна.

– Не, не адзін. Пойдзе яшчэ нехта.

– На самай справе. А можа, я, лейтэнант? – сказаў Дзюбін, нібы выпрабоўваючы сваю рашучасць.

Але лейтэнант маўчаў.

Іваноўскі напружана дадумваў тое, чаго не дадумаў раней. Вядома, выйсце для яго магчыма толькі такое, ён не мог рызыкаваць усімі, ягоныя людзі зрабілі ўсё, што павінны былі зрабіць, і не іхняя віна, што мэта аказалася недасягнутай. Далей пачынаўся асобны рахунак яго камандзірскага гонару, амаль асабісты яго паядынак з нямецкай хітрасцю, і байцы да гэтага адзінаборства не мелі адносін. З гэтага часу ён пачне дзейнічаць на свой страх і ўласную рызыку, астатнія павінны вярнуцца за лінію фронту.

Лейтэнант узняў вочы ад карты і зірнуў на Дзюбіна. Парэзаны заўчаснымі зморшчынамі, цёмны ад сцюжы твар старшыны быў спакойны, погляд з-пад маленькага казырка чырваназорнай будзёнаўкі спакойна, без патрабавальнасці чакаў чагосьці і нібыта гаварыў цяпер: возьмеш – добра, а не возьмеш – таксама напрошвацца не стану. І лейтэнанту амаль захацелася ўзяць з сабой старшыну, напэўна лепшага напарніка тут знайсці было

немагчыма. Але тады старшым над групай ён павінен назначыць Лукашова, а ён чамусьці не хацеў гэтага. Лукашова ён трохі ўведаў ужо ў гэтай дарозе, і ў душы камандзіра з’явілася ўстойлівая непрыязь да яго.

Значыць, з групай павінен застацца Дзюбін.

Іх вельмі мала вярталася назад, і ім быў давераны трудны Хакімаў, іх новы шлях наўрад ці будзе лягчэйшы за іх дарогу сюды, а лейтэнанту вельмі хацелася, каб яны па магчымасці шчасліва дабраліся да сваіх. У гэтым сэнсе разумней за ўсё было даверыцца вопытнаму, ураўнаважанаму старшыне Дзюбіну.

– Не, старшына, – сказаў лейтэнант пасля працяглае паўзы. – Павядзіцё групу. Са мной застанецца... Півавараў.

Усе з некаторым здзіўленнем павярнулі галовы ў бок прылёгшага на баку Піваварава, які пры гэтых словах камандзіра быццам засаромеўся і сеў раўней.

– Так, Півавараў?

– Ну, – проста адказаў той, зачырванеўшыся і міргнуўшы белымі вейкамі.

– Ну і лады, – сказаў лейтэнант, задаволены тым, што ўсё так хутка ўладзілася.

(Пасля ён не адзін раз будзе пытацца ў сябе: чаму яго такі важны выбар нечакана для самога, амаль бессвядома выпаў на гэтага маладога байца? Чаму б у памочнікі сабе не ўзяць сапёра Судніка або рослага, дужага Краснакуцкага? Няўжо бяскрыўдная пакорлівасць слабасільнага вясковага хлопчыка толькі і вызначыла яго рашэнне? Або тут зрабіў сваю справу іх сумесны сённяшні пераход цераз шашу, дзе яны ўдвух перажылі небяспеку і першае для абодвух расчараванне?)

Тым не менш выбар быў зроблены, Півавараў неяк ураз падабраўся, пасур’ёзнеў і ціха сядзеў у патаптанай ботамі снегавой гурбе.

– Што ж, вашае права, – сказаў ДзюбІн. – Дык як там перадаць, у штабе?

– Я напішу, – падумаўшы, сказаў Івгноўскі.

Паперы, аднак, у яго не знайшлося, быў толькі трафейны аловак, давялося старшыне выдраць лісток са свайго замусоленага блакнота, на якім лейтэнант, нядоўга падумаўшы, напісаў: «Аб’екта на месцы не аказалася. Група панесла страты, адпраўляю яе назад. Сам з байцом прадаўжаю пошукі. Праз двое сутак вярнуся. Іваноўскі. 29.11.41 г.».

– Вось. Перадайце начальніку штаба.

– Гэта самае, гранаты возьмеце?

– Ага. Гранату і пару бутэлек. Півавараў, вазьміце ў Судніка бутэлькі з КС. Гранату дайце сюды.

Старшына зняў з пояса супрацьтанкавую гранату, якую лейтэнант тут жа падвязаў кавалкам бінта да дзягі.

– І харчамі б запасціся трэба.

– Харчамі таксама. Дайце сухароў. Кансерваў пару бляшанак. Самі ж, напэўна, у АХЧ снедаць будзеце...

– Дай божа, каб у АХЧ, – з надзеяй уздыхнуў Краснакуцкі.

– Толькі глядзіце пры пераходзе. Як бы зноў не напароліся. Не шкадуйце жыватоў, галовы цалейшыя будуць.

– Гэта так, – ціха пагадзіўся Дзюбін.

– Ну, здаецца, цямнее, можаце рушыць. А мы тут яшчэ пасядзім. Як там на шашы, Заяц?

– Нейкая з фарамі коціць. Адна ці болей – добра не відаць.

Старшына завязаў рэчмяшок, Півавараў складваў у свой сухары і дзве вялікія, загорнутыя ў анучу бутэлькі з КС.

Лукашоў і Краснакуцкі, не чакаючы каманды, падступіліся да абсыпанага снегавым пылам Хакімава.

– Глядзіце Хакімава, – сказаў лейтэнант Дзюбіну. – Можа, яшчэ дажыве да ранку.

– Пра што гаварыць!

– Тады ўсё. Топайце!

– Што ж, шчасліва, лейтэнант, – павярнуўся Дзюбін і тут жа закамандаваў байцам: – Ану, узялі! За лыжы, за лыжы бярыце! Паднімайце вышэй! Вышэй, яшчэ вышэй! Во так...

Яны паднялі Хакімава і як-колечы выбраліся з рова. З насыпу Дзюбін яшчэ азірнуўся – развітанне атрымалася таропкае, невыразнае, і Іваноўскі махнуў рукой.

– Шчасліва!

Калі яны схаваліся ў полі і апошні за насыпам знік высокі капюшон старшыны, Іваноўскі сеў на снег. Ён адчуў асаблівае задавальненне ад таго, што Дзюбін не прапаў, дагнаў групу і цяпер з тымі, хто вяртаўся, будзе талковы і чалавечны камандзір, які павінен іх вывесці да сваіх. А яны тут неяк абыдуцца ўдвух з Піваваравым, які ўсё яшчэ стаяў у рове, пазіраючы цераз край высокага насыпу. Каб неяк зменшыць няёмкасць, выкліканую гэтым расстаннем, лейтэнант сказаў з неўласцівай яму жартоўнасцю:

– Сядай, Піваварчык. Скора і мы патопаем. Цябе як завуць?

– Пётра.

– Пецька, значыць. А мяне Ігар. Ну што ж, можа, нам яшчэ пашанцуе. Як думаеш?

– Можа, і пашанцуе, – няпэўна сказаў Піваварaў, тручы ложа вінтоўкі, і ўздыхнуў – ціхенька і парывіста.

– Ладна. Няма чаго ныць – яшчэ не ўсё страчана. Яшчэ

мы з імі схопімся. Хоць нас двое, але і гэта – сіла. А цяпер пакуль ёсць час, давай падрубаем, менш несці прыйдзецца, – сказаў Іваноўскі і пачаў развязваць свой рэчмяшок.

**9**

Праз якія паўгадзіны, калі добра ўцямнела, яны выбраліся са свайго снежнага сховішча. Абодва скалелі, надта азяблі ногі, хацелася адразу прыпусціць на лыжах, каб як сагрэцца. Але перш трэба было агледзецца. Уночы рух на піашы паменшаў, ішлі адзіночныя машыны, некаторыя слаба свяцілі падфарнікамі. Навокал было ціха і пуста, снежную далячынь з хмызняком зацягнула вечаровай імглой, хмарнае неба без зор нізка навісла над цьмяным начным прасторам. Іваноўскі рашыў ісці на ўсход уздоўж шашы, далёка не адхіляючыся ад яе, каб бачыць увесь на ёй рух. Ён думаў, што як і той раз, увосень, базу павінны выдаць машыны.

Яны хутка спусціліся са свайго пагорка, па рыхлым снезе перайшлі лагчыну. Дваццаці хвілін хапіла на тое, каб добра ўгрэцца і нават замарыцца. Што ні кажы, а напамінала аб сабе мінулая ноч. Да таго ж, у адрозненне ад учарашняга, Іваноўскі адразу адчуў пры хадзе болын моцны боль у хворай назе, міжвольна ён ступаў ёю асцярожней, болей налягаючы на здаровую. Праўда, ён стараўся прывыкнуць да гэтага свайго болю, думаў, як-небудзь абыдзецца, разыдзецца, авось рана яму не пашкодзіць. Але, падняўшыся на чарговы пагорак, лейтэнант адчуў, што трэба адпачыць. Тады ён трохі расслабіў нагу, цяжар цела перанёс на здаровую і, каб Піваварaў, які падыходзіў следам, не заўважыў нічога, зрабіў выгляд, што аглядаецца, хоць аглядацца не было чаго. Шаша была побач, яна ляжала пустая; наперадзе не шмат было ўгледзець, моцны ўсходні вецер пругка дзьмуў у твар, ад яго слязіліся вочы.

– Ну як, Піваварчык? – знарок жартаўлівым голасам запытаўся лейтэнант.

– Нічога.

– Угрэўся?

– Упарыўся нават.

– Ну, давай далей.

Азіраючыся па баках, яны прайшлі яшчэ, мабыць, з гадзіну, зводдаль абышлі край якогась ляска, хвойнік, нейкія будынкі ля дарогі – пасля ўчарашняга абстрэлу з хутара Іваноўскі стараўся трымацца ад будынін далей. Шаша амаль скрозь ішла прама, без паваротаў, гэта аблягчала арыенціроўку, і лейтэнант толькі зрэдку пазіраў на компас – правяраў напрамак.

Настрой яго быццам нават палепшыўся. Півавараў ішоў па пятах, не адстаючы ні на крок, і лейтэнант, спыніўшыся, запытаўся з некаторай жвавасцю ў голасе:

– Піваварчык, што ты ў жыцці бачыў?

-Я?

– Ну, ты. У жыцці, кажу, што ты бачыў?

Півавараў пацiснуў плячамі.

– Нічога.

– Кніжак хоць ты пачытаў?

– Кніжак пачытаў, – не адразу, нібы ўспамінаючы, адказаў баец. – Усяго Жуль Верна, Копан Дойла, Вальтэра Скота, Марка Твэна...

– А Гайдара?

– І Гайдара. Яшчэ Дзюма, усё, што дастаў, прачытаў.

– Ого! – здзівіўся лейтэнант і нават з некаторай павагай паглядзеў на Піваварава. – І калі ты паспеў столькі?

– А я захварэў у шостым класе і паўгода не вучыўся. Ну і чытаў. Усё перачытаў, што ў бібліятэцы было. Мне з

бібліятэкі насілі.

Так, мабыць, гэта цудоўна – прахварэць паўгода і прачытаць усю бібліятэку. Колькі ён марыў захварэць у дзяцінстве ды і ў вучылішчы, але болей трох дзён яму хварэць не ўдавалася. Здароўе яго заўжды было добрае, і чытаў ён нямнога, хоць цікавыя кнігі выклікалі ў яго трапяткую да хвалявання радасць, і кніжак, лепшых чым творы Гайдара, яму ў сваім жыцці чытаць не давялося. І то ў дзяцінстве. Пасля стала не да літаратуры – пайшлі кніжкі іншага зместу.

Наўкола па-ранейшаму было ціха, увогуле спакойна, як бывае спакойна толькі далёка ад перадавой. Іваноўскі ішоў цяпер без учарашняй паспешлівасці, замінаў прыкметны цяжар у нагах і боль раны, які прыкметна запавольваў ягоныя рухі. Праўда, пакуль боль гэты можна было трываць, і, каб не надта засяроджвацца на ім, лейтэнант стараўся скіраваць сваю ўвагу на іншае, нават староннее. У думках ён цяпер быў ля ягоных байцоў, якія пад камандай Дзюбіна вярталіся да сваіх. Напэўна, ужо ідуць ля ракі, поплавам. Добра, калі не занесла лыжню, яна дапаможа зарыентавацца. Зрэшты, Дзюбін, напэўна, і без таго запомніў дарогу, а ў выпадку чаго дапаможа карта. Карта на вайне – каштоўнасць, шкада толькі, што не заўжды хапае гэтых вось карт.

Увесь час не выходзіў з галавы Хакімаў. Вядома, напакутуюцца з ім не дай бог, асабліва пры пераходзе лініі фронту. Цяпер з ім не ўскочыш, не рванеш на лыжах, трэба ўсё паўзком, па-пластунску. Але хоць бы прайшлі. Праўда, Дзюбін, напэўна, сумее, павінен прайсці. Дзюбін і растлумачыць начальніку штаба іх няўдачу, неяк апраўдаецца за групу і за яе камандзіра. Хаця пры чым камандзір? Хто мог падумаць, што за якіх два тыдні так многа зменіцца і немцы вывезуць базу?

Сябе Іваноўскі не адчуваў вінаватым ні ў чым, – здаецца, ён зрабіў усё, што было магчыма. Тым не менш нейкі паганы чарвячок вінаватасці варушыўся ў ягонай душы, быццам лейтэнант усё ж недагледзеў чаго і ў выніку не апраўдаў Даверу. Менавіта гэты неапраўданы давер трывожыў яго болей за ўсё. Цяпер лейтэнант аж

скаланаўся ад думкі, што з усёй гэтай задумы можа раптам нічога не выйсці.

Івaноўскі выдатна ведаў, як можна адным нейкім учынкам спляжыць усю сваю рэпутацыю. Аднойчы з ім было такое, што, падвёўшы чалавека, ён так і не змог вярнуць яго добрыя да сябе адносіны.

Незадоўга перад тым Ігару споўнілася чатырнаццаць гадоў, і ён пяты год жыў у Кублічах – невялікім ціхім мястэчку ля самай польскай граніцы, дзе ў пагранкамендатуры служыў ветэрынарам бацька. Забаў у мястэчку было нямнога. Ігар хадзіў у школу, сябраваў з хлопцамі, а ў вольны час прападаў на каменданцкай стайні. Коні былі, можа, самым вялікім захапленнем яго дзяцінства. Колькі ён перачысціў іх, перакупаў, колькі паездзіў конна – у сядле і без сёдлаў! Гады тры запар ен не заўважаў нічога вакол, апроч коней; кожны дзень пасля ўрокаў бег на стайню і вяртаўся з яе толькі на ноч, каб назаўтра да прыходу дзяжурнага зноў быць там. Пагранічнікі жартавалі часам, што Ігар – нязменны днявальны на іхняй канюшні, і ён бы з задавальненнем згадзіўся штодзень дняваліць, калі б не ўрокі ў школе.

На стайні заўжды было мноства цікавага, пачынаючы ад кармлення і вадапою, чысткі скрабком і шчоткай і канчаючы ўрачыстым рытуалам вывадкі з пастраеннем, мітуснёй чырвонаармейцаў, прыдзірлівай строгасцю начальства, якое насоўкамі правярала чысціню конскіх бакоў. Было штось бязмерна захапляючае ў коннай яздзе, занятках па вальтыжыроўцы, але асабліва захапляла яго рубка лазы на пляцы за стайняй, калі ўздоўж рада стаякоў з лазовымі прутамі галопам скакалі кавалерысты, направа і налева секучы канцы гэтых прутоў. А чаго варта была джыгітоўка самага ліхога конніка ў атрадзе славутага лейтэнанта Хакасава!

Але вывадку, рубку, джыгітоўку ён назіраў збоку, сам не прымаючы ў іх удзелу – яго яшчэ не пускалі ў строй і нават ні разу не дазволілі сесці з шашкай на каня. Іншая справа – купанне. На мурожным беражку возера, ля пясчанай водмелі стаяла старая, пагрызеная

конавязь, і амаль кожны спякотны поўдзень да яе прыводзілі потных, змораных коней. Тут ужо Ігар адводзіў душу, плёскаўся да таго часу, пакуль апошні конь не выходзіў з возера.

Звычайна ён прыязджаў на Мілцы – маладой рыжай кабыле з танканогім брыкастым жарэбчыкам. Мілка была замацавана за камандзірам аддзялення сяржантам Міцяевым, з якім у Ігара склаліся зусім асаблівыя, можа, нават незвычайныя між хлапчуком і дарослым адносіны. Гэты Міцяеў хоць і служыў тэрміновую, але, у адрозненне ад іншых дваццацігадовых байцоў-пагранічнікаў, здаваўся Ігару амаль старым, з парэзаным маршчынамі тварам, цяжкою хадой і нязграбнай марудлівасцю пажылога вясковага дзядзькі. Родам Міцяеў быў аднекуль з Сібіры, дома ў яго засталіся дарослыя дочкі, і ён даўным-даўно павінен быў бы прызвацца ды і адслужыць сваю службу, калі б не нейкая блытаніна ў яго дакументах, дзе значылася, што Міцяеву ўсяго толькі дваццаць гадоў. Як гэта сталася, не мог растлумачыць і сам Міцяеў, які толькі лаяў нейкага п’янага дзяка ў царкве, з ласкі якога яму давялося служыць разам з тымі, хто мог быць яму зяцем.

Коні для Міцяева не былі ў навіну, напэўна, за свой век ён перавадзіў іх нямала і таму ахвотна давяраў сваю Мілку ўвішнаму сыну ветэрынара. Ігар карміў яе, чысціў, мыў і выгульваў, у той час як Міцяеў вучыў ды пахвальваў, а то і проста адпачываў, смокчучы сваю цыгарку ў курылцы. Здаралася, што ён нават заступаўся за свайго памочніка перад ягоным бацькам, калі той ушчуваў сына за доўгую адсутнасць дома, што, вядома, не магло не адбівацца на ўроках. Адносіны ў яго з Міцяевым увогуле склаліся такія, што лепшых не пажадаеш, і стары Іваноўскі не раз казаў, што гэты сібірак, напэўна, заменіць хлопцу і бацьку. Ігар не пярэчыў, ён лічыў, што Міцяеў і на самай справе лепшы за бацьку, які не жыў з маці, любіў часцяком выпіць і зусім не песціў увагай свайго самапаса-сына.

Аднойчы звычайныя турботы з коньмі былі парушаны

невялікай падзеяй – на возера прывезлі лодку. Прывёз яе на параконнай фурманцы старшына Белуш, які тут жа апрабаваў яе на вадзе і аб’явіў, што лодка належыць самому каменданту – капітану Зарубіну і што ніхто не павінен дакрануцца да яе пальцам. Каб гарантаваць гэтую яе недатыкальнасць, Белуш прыладзіў ланцуг і прымкнуў лодку да стаяка конавязі. Лодка амаль усё лета праляжала на прывязі, Зарубін ёю не карыстаўся, і местачковыя хлапчукі згаралі ад такога зразумелага жадання паплаваць на ёй па возеры.

Неяк раз надвячоркам, калі коні былі ўжо выкупаны і стаялі на прывязі, а днявальныя пайшлі ў камендатуру вячэраць, Ігар узяў сваю вуду і пайшоў на пратоку лавіць акунёў. Клявала, аднак, кепска, і ён ужо сабраўся перайсці на іншае месца, як з алешніку вылезлі Колька Бароўскі і Яша Фінкель, школьныя яго сябры. Пасля нядоўгай размовы яны далі зразумець, што есць магчымасць «стырыць» камендантаву лодку і сплаваць на ёй да другога берага, дзе сінеў вялікі хваёвы лес і дзе ніхто з іх яшчэ не быў. Ігару гэта задумка здалася надта зваблівай: каго з местачковых хлопцаў не захапляў той бераг, дабрацца да якога было дужа цяжка – перад ім ляжала топкае, з праваллем балота ў вусці пратокі, у якой, казалі, жыве вадзянік. Было звабліва завалодаць лодкай, але на конавязі заставаўся дзяжурным Міцяеў, які адказваў за гэтую лодку перад самім капітанам Зарубіным. Праўда, гэтую прычыну тут жа адвёў Колька, сказаўшы, што Міцяеў мірна спіць пад кустом на папоне, а што датычыць замка, дык ён тут жа паказаў Ігару вялікі ключ ад бацькавага хлява з дрывамі, які замыкаўся такім жа замком, як і лодка Зарубіна. Ігару нічога болей не заставалася, як узяць гэты ключ і спакойна адамкнуць замок лодкі.

Вёслаў у іх, аднак, не было, яны знайшлі доўгую яловую жэрдку і звалаклі лодку на водмель. Спярша адпіхваліся жардзінай, пасля пачалі грэбці рукамі, лодка выплыла на сярэдзіну, і тут аказалася, што яна дужа рассохлася на беразе і праз яе барты ручаямі ліецца вада. Выліваць ваду не было чым, яны спрабавалі выплёскваць яе

рукамі, але лодка ўсё больш асядала кармой у ваду, і неўзабаве хлопцам давялося спешна пакінуць судна. Насёрбаўшыся цёплай вады, яны неяк дабраліся да берага. Лодка ж спакойна сабе затанула.

Міцяеў ля конавязі спаў так моцна, што нічога не ўчуў, а хлопцы высушыліся на пагорачку і да вечара ўжо былі дома. Назаўтра, ведама, пачаліся пошукі прапажы, аказалася, што хтось бачыў паблізу ад купальні местачковага распусніка Цёмкіна, на якога тут жа і склалі пратакол. Спрабавалі дапрасіць таксама і Ігара, які з раніцы быў ля коней, але дзяжурны Міцяеў не мог нават уявіць свайго памагатага ў ролі злодзея і паручыўся ў яго невіноўнасці. І калі праз дзень Ігар усё ж прызнаўся Міцяеву ў сваёй віне, той спярша не паверыў. Давялося паказаць месца на возеры, дзе неглыбока на ілістым дне затанула лодка, якую хутка паднялі і прыцягнулі на бераг. Убачыўшы яе, Міцяеў толькі плюнуў у пясок і адышоўся ўбок, нават не зірнуўшы на свайго памочніка. Іх двухгадовае сяброўства на тым і скончылася. Да самай дэмабілізацыі Міцяеў не сказаў хлопцу ніводнага слова, быццам не заўважаў яго, не адказваў на яго прывітанне, пры сустрэчы праходзіў міма, нават не пазіраючы ў яго бок. Ігар не крыўдаваў, ён ведаў: гэтая пагарда была ім заслужана.

На іхнім шляху неўзабаве аказаўся рэдзенькі малады хвойнік – пасадка, яны хутка прайшлі яго між роўных радоў падросту, і раптам абодва спыніліся. На самым узлеску, пэўна, была дарога, па якой цяпер некуды ўбок марудна, віхляючы на выбоінах, паўзлі ў цемры машыны. Спачатку Іваноўскаму здалося, што ён зблытаў напрамак і выйшаў да той самай шашы. Але хутка ён зразумеў, што гэта зусім не шаша, а, напэўна, якая паваротка з яе ўбок. Але чаму на гэтай паваротцы машыны?

Стаіўшыся, ён нядоўга пастаяў на ўзлеску. Машыны паўзлі зусім блізка, пярэдняя ішла з уключанымі фарамі, віхляючы па калдобінах крытым высокім кузавам. Тры іншыя машыны, што ішлі следам, былі

таксама высокія і крытыя, – што яны везлі, немагчыма было зразумець. Але той факт, што машыны з’язджалі ўбок з галоўнай магістралі, наводзіў лейтэнанта на некаторыя прыемныя думкі. Болей не пад’язджаючы да гэтай дарогі, ён павярнуў на ўзлеску ўслед за машынамі.

Цяпер ён ішоў вельмі марудна, часта спыняўся і слухаў. Далёкі нутраны гул дызеляў нейкі час яшчэ быў чуваць, пасля, заглушаны павевам ветру, неяк адразу сціх. Іваноўскі паправіў на сабе дзягу з цяжкой гранатай, азірнуўся на Піваварава. Той быў побач; прыціхлы ў прадчуванні небяспекі, ён ледзьве спраўляўся са сваім дыханнем.

– Ану, паглядзім, што там. Ты адстань трошкі...

Піварараў кіўнуў, таўхануў локцем вінтоўку, рэмень ад якой наўкось перарэзаў яго белыя ў маскхалаце, вузкія грудзі. Ведама, трохі слабаваты аказаўся яго памочнік, але тут і дужы напэўна не вытрываў бы. Зашорхаўшы па снезе лыжамі, Іваноўскі пайшоў па ўзлеску.

Хвойнічак хутка скончыўся, наперадзе быў ручай або рэчка з кустоўем па берагах, Іваноўскі з прыкметнай натугай зморанага чалавека перабраўся цераз яе і яшчэ прайшоў полем. Нечакана для сябе ён убачыў дарогу – дзве глыбока прарэзаныя ў снезе аўтамабільныя каляіны. Каб не пераходзіць яе і не згубіць у цемры, ён вярнуўся назад і на некаторай адлегласці пайшоў полем.

Вёска паявілася нечакана хутка – без адзінага гуку, без бляску святла, з шэрага паўзмроку перад ім раптам вышікла страха хлеўчука, за ёю другая, і лейтэнант тут жа ў думках вылаяў сябе за неасцярожнасць – ад вёскі трэба было трымацца далей. Толькі ён наважыў павярнуць у поле, як перад ягоным позіркам за вуглом хлеўчука мільгануў характэрны абрыс гусенічнага ўсюдыхода. Тут жа было і яшчэ нешта, незразумела груваасткае ў паўзмроку. Тонкая патарчака ад яго высілася ў небе, і, паўзіраўшыся крыху, лейтэнант зразумеў, што гэта антэна. Вядома, у вёсцы не магло

быць ніякае базы, затое магло размясціцца на ноч якое тылавое ці маршавае падраздзяленне немцаў.

– Бачыў? – ціха запытаўся Іваноўскі ў напарніка.

– Ну.

– Што гэта, як думаеш?

Піваварaў толькі цепнуў плячом, ён не ведаў, што гэта, як не ведаў таго і лейтэнант, які цяпер звяртаўся да яго, як да роўнага. Калі б было ў яго пяць або дзесяць байцоў, Іваноўскі нізашто б не дазволіў сабе такога ў адносінах да іх панібрацтва, але цяпер для яго гэты Піваварaў быў больш чым баец. Ён быў першы яго памочнік, ягоны намеснік, галоўны яго дарадца – іншага тут узяць не было дзе.

Выкінуўшы ўбок лыжу, Іваноўскі развярнуўся ў поле, Піваварaў павярнуў таксама, яны крута ўзялі ў абход вёскі. Але, крыху прайшоўшы па снежным полі, лейтэнант спыніўся пры думцы: а раптам гэта які-небудзь буйны штаб немцаў? Штаб ім спатрэбіўся б нават болей, чым тая злашчасная база, якую немаведама дзе было шукаць уначы.

Хвіліну ён пастаяў на ветры ў роздуме, згадваў, што можна было зрабіць. Побач чакаў Піваварaў. Баец разумеў, мабыць, што камандзір рашаў штосьці важнае для абодвух, і чакаў гэтага рашэння са спакойнай салдацкай вытрымкай, А Іваноўскі думаў, што, ведама, лепей бы абысці гэта асінае гняздо, але, можа, спачатку варта было падкрасціся бліжэй, разведаць – авось надарыцца што-небудзь зручнае і ім пашанцуе болей, чым з той базай.

Пакуль яны стаялі так у нерашучасці, дзесьці ў вёсцы бліснула плямка святла, штось асвяціла на снезе і тут жа пагасла. Гэты выпадковы пробліск нічога не вытлумачыў ім, але паказаў у цемры напрамак, пэўнае месца. Мабыць, там была вуліца, і лейтэнант урэшце наважыўся падысці да яе бліжэй, каб зразумець, што там адбываецца.

– Так, Піваварчык, прыадстань. І паціхеньку – за мной!

Піваварaў згодна кіўнуў, Іваноўскі рашуча адштурхнуўся палкамі і пайшоў да вёскі.

Спярша на ягоным шляху паявіўся стары паламаны плот, праз дзірку ў якім ён выйшаў на гарод і ў начным паўзмроку наткнуўся на тонкія дрэўцы з кустоўем – падобна, на мяжы двух гародаў. Ён павярнуў крыху ўбок і пад прыкрыццём гэтых дрэўцаў пайшоў па неглыбокім снезе да цемнаватых сілуэтаў будынін. Вакол па-ранейшаму было ціха, халаднавата, парывамі дзьмуў вецер, у паветры коса несліся негустыя сняжынкі. Ніякіх пэўных гукаў сюды не далятала, але ўсё ж па якіхсьці невыразных прыкметах Іваноўскі ўгадваў прысутнасць у вёсцы чужых, якімі цяпер маглі быць толькі немцы. Адчуваючы, што вось-вось нешта для яго адкрыецца, ён асцярожна ішоў да будынкаў.

Зусім ужо блізка горбілася заснежаная страха хлява, ля якога крывабока тырчэў падскубаны з аднаго боку і падпёрты жардзём стажок. Дрэўцы межавай пасадкі тут разам канчаліся, крайняй у радзе была раскідзістая грушка з таўставатым, прыкметным сярод танканогага вішняку камлём. Убачыўшы яе зводдаль, Іваноўскі падумаў, што за гэтым грушавым камяльком, мабыць, трэба прысесці, перачакаць. Але ён яшчэ не дайшоў да грушкі, як зусім невядома адкуль ля стажка паявілася нейкая постаць у расшпіленай даўгаполай вопратцы, і ён, скалануўшыся, сцяміў: немец! Немец ад нечаканасці на секунду знерухомеў, пільна ўгледзеўся ў яго, але тут жа, мабыць, спакайнеючы, пракартавіў здаля:

– Es schien, ein Russe…[1]

Іваноўскі нічога не зразумеў і, мабыць, надта рэзка рвануў рукаятку аўтамата, які вісеў на яго грудзях. Затвор гучна шчоўкнуў у цішы, немец, зразумеўшы памылку, прыдушана крыкнуў і вёртка кінуўся па снезе ад стажка – наўскос, цераз гарод, да суседняга дома. На секунду разгубіўшыся, Іваноўскі прысеў і, здаецца, своечасова: тут жа ад будынін бухнуў адзіночны стрэл, куля гучна шчоўкнула ў намерзлым голлі кустоўя. Але

ён ужо быў напагатове і з калена коратка тыркнуў чаргой па шэрым вугле за парканам, пасля другой чаргой – ніжэй, па ўцекачу, які ўжо быў гатовы схавацца ў цень будыніны. Апошнія яго кулі былі, аднак, лішнія – немец адразу ткнуўся галавой у снег і застыў там; Іваноўскі тут жа выкінуў левую лыжу на разварот, схапіў адну палку. Другую, спяшаючыся, ен упусціў у снег і толькі нагнуўся за ёй, як у цемры двара зноў пыхнула чырвоным агнём, і ён ціха войкнуў ад глыбокага, вострага ўдару ў плечы. Адразу адчуў, што паранены, знячывелы шалёна рвануўся на лыжах з гэтага гарода, туды, дзе нецярпліва чакаў яго Піваварaў.

Прамарудзіўшы напачатку, немцы падарылі яму чвэрць хвіліны дарагога для яго часу. Ён ужо праскочыў палову межавых прысадаў, як яны толькі пачалі выбягаць з двароў на гарод. Хтось закрычаў там, камандна і строга, і чалавек пяць іх пусцілася за ім наўздагон. Ён добра іх бачыў, азірнуўшыся, і на секунду, відаць, разгубіўся, цямячы, спыніцца яму каб агнём з ППД збіць іх увішнасць, або хутчэй бегчы ў цемру. Але хутчэй у яго ўжо не выходзіла, ён хутка слабеў ад болю і ледзьве ўпраўляўся з лыжамі.

Ззаду некалькі разоў стрэлілі – часта і не дужа гучна, бадай, з пісталетаў, але ён усё ж адарваўся ад даганятых, цяпер трапіць у яго было цяжка. І ўсё ж адна куля ўдарыла кудысь пад ногі, ён, не азірнуўшыся, прыгнуўся ніжэй і з усіх, хутка слабеючых сіл стараўся прарвацца з гарода. Але вось і яшчэ адна куля працягнула віскліваю сваю струну над самай яго галавой, ён падхапіў аўтамат, каб выпусціць назад чаргу, як аднекуль спераду моцна і гучна бабахнула раз і другі. Ён зразумеў радасна, амаль паратоўча – гэта Піваварaў; стрэл свае трохлінейкі ён бы пазнаў дзе хочаш. Тым часам з паўзмроку амаль насустрач яму адзін за адным бліснулі тры частыя ўдары, кулі прайшлі зусім побач, але ен ужо нёс у сабе ўпэўненасць: свая куля яго не зачэпіць.

– Хутчэй, таварыш лейтэнант!

Іваноўскі ўпаў, трохі не дайшоўшы да плота, але не ад болю ў грудзях, які хутка авалодваў усёй яго правай паловай цела, а таму, што не хапіла дыхання. Ён задыхнуўся. Але ён ведаў, што Піварараў ужо дзесь побач і не пакіне яго.

Выплюнуўшы з рота снег, ён тут жа паспрабаваў падняцца, але ногі яго дзіўна пацяжэлі, да таго ж заміналі скрыжаваныя пры падзенні лыжы. Адна з іх зусім саскочыла з яго нагі, тады ён тузануў другой і таксама вызваліў яе з рамянёў. Ззаду і яшчэ хлопнула некалькі стрэлаў, але яго, здаецца, ужо не даганялі, іх затрымаў Піварараў, які і выбег да яго з прыцемак.

– Таварыш лейтэнант!..

– Ціха! Дай руку.

– Я ўлажыў там аднаго! Хай цяпер сунецца...

Здаецца, ён і не надта здзівіўся яго раненню, хутка памог падняцца, але байца, мабыць, займала іншае, і ён нават не спрабаваў таго ўтаіць. Падобна было, што ён і не здагадваўся, як проста цяпер іх маглі забіць тут абодвух.

Лейтэнант хацеў быў сабраць лыжы, але зноў у галаве ў яго закружылася, і ён ткнуўся плячом у мяккі марозны снег. Піварараў, напэўна, толькі цяпер зразумеў стан камандзіра і, скінуўшы са сваіх ног лыжы, кінуўся на дапамогу.

– Што вас, здорава, га? Таварыш лейтэнант!

– Нічога, нічога, – выціснуў з сябе Іваноўскі. – Памажы.

Трэба было як мага хутчэй адсюль уцякаць, з хвіліны на хвіліну іх маглі дагнаць немцы. Піварараў раптам прымоўк і, падтрымліваючы лейтэнанта, павёў яго кудысьці ў цемру, далей ад вёскі, у поле. ІваноўскI пакорна валокся па снезе, заплятаючыся нагамі, у галаве яго хмельна кружылася, здавалася, вось-вось пачнуцца ваніты. Два разы ён выплюнуў на снег штосьці цёмнае, не адразу сцяміўшы, што гэта кроў. «Добра

атрымаў!.. Добра атрымаў!..» – думаў ён амаль са зларадснасцю, як пра кагось іншага, не пра сябе.

Яны не азіраліся, і без таго было зразумела, што ззаду не ўціхаў вэрхал, раздаваліся крыкі. Праўда, стрэлаў ужо не было, але трывожлівыя галасы ззаду падганялі іх болей за стрэлы. Відаць, немцы высыпалі на ваколіцу або, можа, ішлі следам. У Іваноўскага ўжо ўсё было мокра ад поту і крыві, на баку праз бязь маскхалата праступіла вялікая цёмная пляма; ён загнана дыхаў, плюючы на снег крывянымі згусткамі. Некалькі разоў абодва яны падалі, але Півавараў тут жа ўскокваў, хапаў лейтэнанта пад пахі, і яны зноў хістка і няроўна валакліся ў шэрым марозным сутонні, пятляючы па зімовым, прадзьмутым усімі вятрамі полі.

Калі ўжо зусім знясілелі абодва, лейтэнант, неяк выплюнуўшы крывавую пену, прамычэў: «Стой!» – і ўпаў бокам на снег. Побач упаў Півавараў. Ужо нідзе не было нічога чуваць і не відаць нічога, нават не зразумець было, у якім баку вёска. Думалася, што яны апынуліся на краі свету, дзе няма ні сваіх, ні немцаў, і Півавараў, аддыхаўшыся, сеў на снезе.

– Зараз перавяжам, – сказаў ён, лапаючы па кішэнях у пошуках бінта. – Куды вас?

– У грудзі. Пад рукой во...

– Нічога, нічога! Зараз перавяжу. А я таму як даў, дык адразу... Другі, гляджу, драла... Цэлую абойму выпусціў!

Іваноўскі адкінуўся на спіну, зняў дзягу, расшпіліў ватоўку, Півавараў сцюдзёньшы рукамі абмацаў цела. Кроў, якая багата намачыла адзенне, пачала ўжо астываць і пякла на марозе, як лёд. Зрэшты, пёкся, магчыма, снег, якога набілася ўсюды, лейтэнант скаланаўся ад дрыжыкаў, але трываў моўчкі. Баец туга абкруціў яго грудзі двума ці трыма пакетамі, моцна завязаў канцы.

– Вельмі баліць?

– Ды ўжо ж, баліць, – раздражнёна адказаў Іваноўскі. – Усё, зашпілі дзягу.

Півавараў памог камандзіру зашпіліць на ватоўцы дзягу, абцягнуў падол маскхалата. Памалу лейтэнант пачаў грэцца, хоць цела яго па-ранейшаму білі дробныя нервовыя дрыжыкі.

– Не трэба было туды ісці, – сказаў баец, выціраючы аб штаны запэцканыя крывёй рукі.

– Што ж ты не сказаў раней?

– Дык я не ведаў, – пацiснуў адным плячом Півавараў.

– А я ведаў? – раздражнёна кінуў лейтэнант.

Ён разумеў, што робіцца злы і несправядлівы і што Півавараў тут ні пры чым, што ва ўсім ён вінаваты сам. Але менавіта ўсведамленне гэтай вінаватасці больш за ўсе і злавала Іваноўскага. Так, цяпер ён уліп, загубіў сябе і, мабыць, гэтага байца таксама, канчаткова правалiў важнае заданне з базай, нічога не дабіўся ў вёсцы. Але зрабіць інакш – абысці бокам базу, штаб, гэтую вёску і тым зберагчы сябе – ен не мог. На такой вайне гэта было б злачынствам.

– Дыскі давайце сюды. І аўтамат таксама. Я панясу, – ціха сказаў Півавараў, і Іваноўскі моўчкі згадзіўся – цяпер, вядома, ён многа несцІ не мог.

Сабраўшы ў сабе рэшту сілы, ён толькі павярнуўся, каб сесці на снег.

– Што ж, трэба ісці.

– Ага, давайце вунь туды. Як ішлі, – ажывіўся Півавараў. – Яй-богу, тут недзе павінна быць вёска.

– Вёска?

– Ну. У нейкую вёску трэба. Без немцаў каб.

Мабыць, так, падумаў Іваноўскі. Цяпер ім толькі і

застаецца прыбіцца ў якую-небудзь вёску, да сваіх людзей, болей няма куды дзецца. Ён проста не адразу зразумеў, як крута гэта яго раненне мяняла ўсе яго планы. Цяпер, мабыць, трэба болей клапаціцца пра тое, каб не трапіць да немцаў. Базы яму ўжо не бачыць...

## 10

Яны ўсё ішлі па калена ў снезе, без лыж – знясілена валакліся ў поцемках, трымаючыся адзін за аднаго, ад знямогі ледзьве не падаючы ў снег. Півавараў зусім выбіваўся з сілы, але не пакідаў лейтэнанта, правай рукой падтрымліваў яго, а ў левай цягнуў за рэмень аўтамат і вінтоўку ды на плячы яшчэ свой рэчмяшок, які ўвесь час спаўзаў долу. Іваноўскаму было дужа кепска, увесь час мутнела ўваччу, але, сцяўшы зубы, ён вымушаў сябе на апошнія намаганні і ішоў, ішоў, толькі б далей адысціся ад той праклятае вёскі.

Тым часам уначы паваліў снег, вакол забялела, затуманілася, мутнае неба зышлося з гэткім жа мутным долам, затканым мільготка-шэрай мітуснёй сняжынак. Немагчыма было падняць твар. Але вецер быў слабейшы, чым у мінулую ноч, зноў жа, здавалася, дзьмуў ім у спіну, і яны слепа брылі па полі, часам спыняючыся, каб перавесці дыханне. Плюючы крывёю, Іваноўскі з самотай адзначаў, як таялі яго сілы, і ўпарта ішоў, спадзеючыся на якое-небудзь прыстанішча, каб не прапасці тут, у гэтым завейным полі. Гінуць ён не хацеў, пакуль быў жывы, гатовы быў змагацца хоць усю ноч, суткі, хоць вечнасць, абы ўцалець, выжыць, дабрысці да сваіх.

Напэўна, Півавараў адчуваў тое ж, але нічога не гаварыў лейтэнанту, толькі як мог падтрымліваў яго, напружваючы рэшту сваёй таксама далёка не багатае сілы. Іншы раз лейтэнант, напэўна, здзівіўся б, адкуль яна яшчэ бралася ў гэтага хліпкага, заморанага з выгляду хлопца, але цяпер сам быў слабейшы за яго і цалкам залежаў ад яго хай сабе невялікіх магчымасцяў. І ён ведаў, што калі яны ўпадуць і не здолеюць устаць, то далей будуць паўзці, бо які-ніякі паратунак у іх –

наперадзе, ззаду ж іх пільнавала смерць.

У нейкай лагчыне з даволі глыбокім снегам яны нерашуча спыніліся раз і другі. Піваварaў, падтрымліваючы лейтэнанта, спрабаваў разгледзець штосьці наперадзе, што лейтэнант не адразу і заўважыў. Пасля, прыгледзеўшыся праз згусцелую ўначы завіруху, ён таксама ўбачыў невыразную цёмную пляму, памеры якой, як і адлегласць да яе, угадаць было немагчыма. Гэта мог быць і куст побач, і нейкая будыніна воддаль, і дрэва – елка ці сасна на ўзлеску. Тым не менш гэтая пляма насцярожыла абодвух, і, падумаўшы, Піваварaў апусціў Іваноўскага долу.

– Я схаджу, гляну...

Лейтэнант не адказаў, размаўляць было вельмі пакутліва, дыхаў ён з хрыпам, часта плюючы ў снег. Рукавом халата выцер мокрыя вусны, і на белай мокрай тканіне засталася цёмная пляма ад крыві.

«Вось, напэўна, і ўсё... Калі ўжо з рота ідзе кроў, дык, мабыць, нядоўга працягнеш», – нявесела падумаў ён, лежачы на снезе.

Галава хілілася долу, і перад вачыма скакалі вогненна-чырвоныя бліскаўкі. Але свядомасць яго па-ранейшаму была чыстая, і свядомасць гэтая вымушала змагацца за сябе і за гэтага вось байца, цяперашняга яго выратоўцу. Выратоўца, вядома, сам ледзьве стаяў на нагах, але дагэтуль лейтэнант не мог ні ў чым папракнуць яго – там, у вёсцы, і ў полі Піваварaў паводзіў сябе самым пахвальным чынам. Цяпер, адчуўшы нейкую перавагу перад камандзірам, ён прыкметна ажыў, стаў болей упэўнены ў сабе, увішны, і лейтэнант з радасцю падумаў, што ў выбары памочніка не памыліўся.

Некалькі хвілін ён самотна чакаў, паныла прыслухоўваючыся да нутранога клёкату ў прастрэленых грудзях. Побач ляжаў рэчмяшок Піваварава, і лейтэнант падумаў, што, мабыць, трэба ім разгрузіцца, выкінуць частку ношы. Цяпер ужо вялікі прыпас не патрэбны, будзе трэба асабістая зброя,

патроны, гранаты. Бутэлькі з КС, мабыць, трэба дзесьці пакінуць. Але, знясілеўшы, ён не мог нават развязаць рэчмяшок і толькі знямогла хіліўся галавой долу Ён не адразу заўважыў, як з мільготкіх прыцемак з’явіўся белы цень Піваварава, які ўзрадавана загаварыў здаля:

– Таварыш лейтэнант, лазня! Лазня там, разумееце, і нікога няма.

«Лазня – гэта добра», – падумаў Іваноўскі і моўчкі, з намаганнем пачаў уставаць на ногі. Півавараў падабраў рэчмяшок, ППД, памог устаць лейтэнанту, і яны зноў пабрылі да недалёкай, прытуманенай уначы будыніны.

Сапраўды, гэта была маленькая, зрубленая з яловых вяршалін вясковая лазня. Півавараў адкінуў нагой палку-падпору, і нізкія дзверы самі сабой расчыніліся. Увагнуўшы галаву і хапаючыся рукамі за сцены, Іваноўскі ўлез у яе цёмную, смярдзючую дымам цеснату, павёў па баках рукамі, намацаў гладкі шост, шархоткія сухія венікі на сцяне. Півавараў тым часам расчыніў яшчэ адны дзверы, і ў прылазніку моцна запахла дымам, попелам, бярозавай гніллю. Баец увайшоў туды і неўзабаве гукнуў лейтэнанта:

– Давайце сюды. Тут во лаўкі есць... Зараз састаўлю...

Іваноўскі ўчэпіста трымаўся за вушак, але пераступіў парог і, намацаўшы лаўкі, з хрыплым выдыхам выцягнуўся на іх, упёршыся нагамі ў сцяну.

– Зачыні дзверы.

– Зараз, зараз. Во тут і саломы крыху. Давайце – пад галаву.

Лейтэнант моўчкі прыўзняў галаву, даючы падкласці пад сябе ахапак саломы, і знясілена заплюшчыў вочы. Праз хвіліну ён ужо не мог зразумець, ці засынаў, ці, можа, траціў прытомнасць; агнянае ззянне ў вачах стала суцэльным, бясконца і пакутліва кружылася ў галаве, цягнула ванітаваць. Ён паспрабаваў павярнуцца на бок, але ўжо не адолеў свайго налітага знямоглым

цяжарам цела і, здаецца, сапраўды страціў прытомнасць...

Ачуньваў ён доўга і пакутліва, яго бралі дрыжыкі, вельмі хацелася піць, і ён доўга не мог разняць засмяглыя вусны і папрасіць вады. Ён толькі з натугай расплюшчыў вочы, калі адчуў нейкі рух побач, – з прылазніка паявіўся белы цень Піваварава з адкінутым на патыліцу капюшонам і яго аўтаматам у руках. У лазні было змрочна-шэра, але маленькае акенца ў сцяне свяцілася ўжо, як удзень, ясна прасвечвалі ўсе шчыліны ў прылазніку, і лейтэнант зразумеў, што настаў ранак. Піваварава, аднак, нешта яўна трывожыла, прыгнуўшыся, баец прыпаў да маленькага акенца, штось пільна выглядаючы там.

Іваноўскі паспрабаваў павярнуцца на бок, у грудзях яго захрыпела, працяжна, з прысвістам, і ён закашляўся. Адскочыўшы ад акенца, Піваварaў падаўся да камандзіра.

– Ну як вы, таварыш лейтэнант?

– Нічога, нічога...

Ён чакаў, што Піваварaў і яшчэ пра нешта спытаецца, але баец не запытаўся нічога, а неяк адразу прыціх і прыгнуўся ўсё ля таго ж акенца. Пасля ён сказаў прыглушаным шэптам:

– Вунь, немцы ў вёсцы.

– У якой вёсцы?

– У гэтай. Вунь крайняя хата за вярбінай... Немцы ходзяць.

– Далёка?

– Крокаў дзвесце, можа.

Калі за дзвесце крокаў немцы, якія яшчэ не знайшлі іх, дык можна лічыць, што ўвогуле ім пашанцавала ў гэтай лазні. Праўда, дагэтуль была ноч, але вось пачынаецца

дзень, і хто ведае, колькі яшчэ ім удасца праседзець тут незаўважанымі.

– Нічога. Не высоўвайся толькі.

– Дзверы я зачыніў, – кіўнуў Піваварaў у парог. – Рыдлёўкай падпёр.

– Добра. Вады тут няма?

– Ёсць, – ахвотна адазваўся Піваварaў. – Во ў дзежцы вада. Я ўжо піў. З лёдам толькі.

-Дай.

Піваварaў не дужа спрытна напаіў яго з нейкай бляшанкі, вада смярдзела венікам, да вуснаў прыліпала размоклае бярозавае лісце. Увогуле вада была агідная, быццам з лужыны, і гэтак жа агідна было ўнутры ў лейтэнанта – нешта распухла ў грудзях, ужо толькі з натугай можна было ўздыхнуць, адкашляцца ён не мог.

Калі напіўся, стала лягчэй, свядомасць яго быццам праяснілася, Іваноўскі агледзеўся навакол. Лазня была дужа маленькая, з нізкай закуранай столлю і чорнымі ад сажы сценамі. У куце каля дзвярэй чарнела куча камення на печцы, побач стаяла дзежка з вадой. На нізкім шастку над ім віселі нейкія забытыя транты. Ведама, у кожны момант і па першай патрэбе тут маглі паявіцца людзі, якія і знойдуць іх. І як ён не падумаў раней, што лазня не можа быць далёка ад вёскі і што ў гэтай вёсцы таксама могуць быць немцы.

– Што там відаць? – глуха запытаўся ён у Піваварава, які горбіўся ўжо ў прылазніку ля шчыліны ў дзвярах.

– Ды вунь са двара выйшлі... Двое. Закурваюць... Пайшлі некуды.

– Немцы?

– Ну.

– Нічога. Глядзі толькі. Так проста яны нас не возьмуць.

Ведама, ён разумеў невялікі кошт свайго галаслоўнага суцяшэння, але што ён мог болей? Ён ведаў толькі, што, калі прыйдуць немцы, прыйдзецца адбівацца, пакуль хопіць патронаў, а там... Але, можа, яшчэ і не прыйдуць. Можа, яны і зусім пойдуць з вёскі, можа, яны ў ёй толькі начуюць. Дзіўна, але ў яго адчуваннях цяпер з’явіліся нейкія новыя, дагэтуль амаль не знаёмыя яму адценні, нейкі ненатуральны ў гэтай блізі да немцаў спакой без ценю ягонае спешкі, яго нецярпення, якія дапякалі яму ў апошнія дні. Цяпер гэта ўсё знікла кудысьці, прапала, мабыць, разам з ягонаю сілай, страціўшы якую, ён траціў і свой заўсёдны душэўны напор. Цяпер ён стараўся як мага дакладней усё ўзважыць у свядомасці, выверыць розумам, каб паступіць напэўна, бо кожная памылка ў яго рашэнні магла аказацца апошняй. І першай яго выразна зразумелай неабходнасцю была гатоўнасць чакаць. Удзень, у снежным полі, на краі вескі нічога болей не заставалася, як толькі запасціся да ночы цярпеннем, каб з наступленнем цемры штосьці зрабіць для свайго паратунку.

Але чакаць таксама патрэбна была сіла, трэба было неяк утрымліваць у сабе хісткую сваю прытомнасць, немалым намаганнем волі захаваць вытрымку. Гэта таксама было нялёгка нават для чалавека здаровага, якім быў Піваварaў. У гэтае пастцы, паблізу ад немцаў не проста было саўладаць з нервамі, думаў лейтэнант, назіраючы, як кідаўся па лазні баец – то да акенца ў сцяне, то ў прылазнік са мноствам шчылін. Выглядаў ён амаль што спалоханы, і кожны раз, пазіраючы на байца, Іваноўскі думаў: ідуць! Але, мабыць, каб супакоіць камандзіра ды і сябе таксама, Піваварaў час ад часу прыгаворваў услых:

– Хтосьці на сцежку выйшаў... Да калодзежа быццам. Ага. Нейкая цётка з вядром...

І яшчэ праз хвіліну:

– О, о! Выходзяць. Не, сталі. Стаяць... Пайшлі кудысь.

– Куды пайшлі?

– А чорт іх ведае! Схаваліся за вуглом.

– Нічога, не хвалюйся. Сюды не прыйдуць.

Іваноўскі не стаў забіраць у яго свой аўтамат, падумаўшы, што ў выпадку чаго Піваварaў управіцца з ім спрытней за яго, у лейтэнанта ж засталася граната. Цяпер без гранаты яму немагчыма. Ён адвязаў яе ад дзягі і паклаў каля лаўкі. Побач стаяла прыслоненая да сцяны вінтоўка – усё было пад рукамі, заставалася цярпліва чакаць, спадзеючыся на ўдачу.

– Сунуцца – тут і застануцца, – сказаў Піваварaў, зазіраючы ў акенца. – Праўда, і мы...

Іваноўскі зразумеў, што не даказаў Піваварaў, і запытаўся нечакана:

– Жыць хочаш?

– Жыць? – амаль здзівіўся баец і ўздыхнуў. – Няблага б. Але...

У тым-то і справа, што але! Гэта але д’ябальскім праклёнам стала ўпоперак іх маладых жыццяў, уцячы ад яго было немагчыма. У той памятны дзень яно бязлітасна рассекла свет на дзве палавіны, на адной з якіх было жыццё з усімі яго несамавітымі, але такімі патрэбнымі чалавеку радасцямі, а на другой – заўчасная, агідная, праклятая смерць. З гэтага ўсё пачалося, і што б ні здаралася потым, у наступных яго выпрабаваннях – усё нязменна натыкалася на гэтае праклятае але. Каб неяк абысці яго, абхітрыць, перамагчы на сваім шляху і прадоўжыць жыццё, патрэбны былі неверагодныя намаганні, праца, пакуты... Вядома, каб выжыць, трэба было перамагчы, але перамагчы можна было толькі выжыўшы – у такое чортава кола загнала людзей вайна. Абараняючы сябе і краіну, трэба было забіць не аднаго, а шмат, і чым болей было забІта, тым болей надзейным было існаванне аднаго і ўсіх. Жыццё праз пагібель ворага – іншага выйсця на вайне, мабыць, не існавала.

Але як жа яму цяпер, калі немагчыма і забіць? Ён мог толькі забіць сябе. Як бы ён ні цешыў сябе ды і Піваварава, як бы ні пяўся да дзеяння, ён не мог не разумець тую простую Ісціну, што з прастрэленымі грудзьмі ён не ваяка.

Тады што ж – ціха памерці ў гэтай лазні?

Не, толькі не гэта! Гэта было жахліва, агідна, амаль подла ў адносінах да сябе, да гэтага байца, якога ён таксама асуджаў на пагібель, у адносінах да ўсіх сваіх. Пакуль жывы, ён гэтага сабе не дазволіць.

Ён нават спалохаўся ад гэтай недарэчнай думкі і прахапіўся з кароткага забыцця. Трэба было нешта прыдумаць, штосьці зрабіць, магчыма, зрабіць зараз жа, не трацячы ні адной хвіліны жыцця, бо пасля можа быць позна...

Кідаючыся ў ліхаманкавых думках, ён доўга, пакутліва перабіраў усе магчымыя варыянты для паратунку і не знаходзіў нічога. Тады зноў наступілі знямога, абыякавасць, гатоўнасць цярпліва чакаць да ночы.

«Праклятая вёска! – каторы ўжо раз паўтараў ён сабе. – Яна яго загубіла. І трэба было так недарэчна наткнуцца на гэтага фрыца, які падняў крык, улезці ў перастрэлку, атрымаць кулю ў грудзі... Але ўсё ж нешта там ёсць. Гэтая цемра і сцішанасць, несумненна, былі штучныя, падтрыманыя строгай дысцыплінай, немагчымай без цвёрдай улады вялікага начальства. Зноў жа антэны... Хутчэй за ўсё там размясціўся нейкі вялікі, можа, нават армейскі іх штаб, бо ў глыбокім тыле маленькага штаба не будзе. Як дарэчы было б нанесці па ім удар! Але як нанясеш? Самалёты цяпер не лятаюць, а настане добрае надвор’е – тады шукай яго, як гэтую распраклятую базу боепрыпасаў...»

Яму не шанцавала ў самым пачатку, а ў канцы тым болей. Калі б не гэта раненне, якое, па сутнасці, загубіла яго, ужо што-небудзь ён бы напэўна прыдумаў. Можна было б наладзіць засаду, узяць языка... А цяпер як возьмеш? Цяпер яго самога можна ўзяць замест

языка, хіба што карысці ад яго будзе нямнога. Зрэшты, пакуль ён жывы і ў яго ёсць граната, якой хопіць для абодвух і для гэтай вось лазні, – ягоім не ўзяць. Відаць, на гранату цяпер уся іх надзея.

Але ішоў час, а іх ніхто не трывожыў у гэтым цесным і цёмным сховішчы наводшыбе ад вёскі. Піваравараў цяпер болей стаяў за прасценкам, зрэдку каменціруючы тое, што ўдавалася згледзець праз шчыліну. Але вось ён сціх, мабыць, нічога асаблівага там не было відаць, і лейтэнант раптам запытаўся ціха:

– У цябе маці ёсць?

Мабыць, гэта было дзіўнае ў іх становішчы пытанне, і Піваравараў не зразумеў.

– Га? Што вы сказалі?

– Маці ў цябе ёсць?

– Ёсць, а як жа.

– І бацька?

– Не, бацькі няма.

– Што, памёр?

– Ды так, – няпэўна адказаў Піваравараў. – З маці жыў. Калі б яна ведала, як нам тут! Во было б страху!..

– Харошая мама?

– Ну, – проста пацвердзіў баец. – Я ж у яе адзін. Бывала, усё для мяне.

– Адкуль родам?

– Я? З-пад Пскова. Ёсць такі гарадок Порхаў, можа, чулі?

Там жыў. Мама ў школе настаўніцай рабіла.

– Кажаш, шкадавала?

– Ну. Яшчэ як! Проста смешна было. З хлопцамі калі падурэю – трагедыя. Сняданак не даем – трагедыя. А ўжо калі захварэю – ого! Усіх дактароў на ногі падніме, тыдзень лякарствамі карміць будзе. Смешна было... А цяпер – не смешна.

– Цяпер не смешна, – уздыхнуў лейтэнант.

– Мама золата. Я ў яе адзін, але ж і яна ў мяне таксама адна. У нас там і радні ніякай. Мама з Ленінграда сама. Да рэвалюцыі ў Піцеры жыла. Колькі мне пра Піцер расказвала! А я так ні разу і не з’ездзіў. Усё збіраўся, збіраўся. Цяпер пасля вайны хіба.

– Пэўна, пасля вайны.

– Я, ведаеце, я нічога. Я не надта: заб’юць, ну і што ж! Маці шкада...

Маці, вядома, шкада, моўчкі пагадзіўся Іваноўскі. Зрэшты, шкада і бацьку таксама. Нават такога, якім быў яго, ветэрынар Іваноўскі. Не вельмі каб добры і не надта разумны, аматар пагутарыць з мужыкамі і нават выпіць з выпадку, ён часам здаваўся занядбаным, патрапаным у жыцці няўдакам. Сапраўды, ва ўсіх былі жонкі, якія клапаціліся пра харчаванне, быт, сямейныя зручнасці, у рознай ступені, але нязменна паважалі сваіх мужоў-камандзіраў, а яны з бацькам, колькі памятаў Ігар, заўсёды жылі ў нейкіх каморках, кутках, на прыватных яўрэйскіх кватэрах, абедалі калі і чым давядзецца: кавалкам сала, міскай капусты, кансервамі, абходзіліся адной на двух алюмініевай лыжкай. Маці сваю Ігар не памятаў і амаль ніколі не пытаўся пра яе ў бацькі; ён ведаў: варта толькі пачаць пра яе размову, як бацька не ўтрымаецца ад слёз. З вобразам маці была звязана нейкая сямейная драма Іваноўскіх, і сын нават не ведаў, ці была яна дзе жывая, ці даўно, можа, памерла. Зрэшты, як высветлілася потым, бацька таксама пра гэта не ведаў.

Пра бацьку Іваноўскага знаёмыя гаварылі рознае, па-рознаму адносіўся да яго сын, але ўсё роўна гэта быў бацька, які па-свойму любіў адзінага свайго сына, жадаў

яму толькі добрага, радаваўся яго вайсковай будучыні. І вось дарадаваўся. Апошняе пісьмо ад яго Іваноўскі атрымаў у вучылішчы, перад выпускам, у пачатку чэрвеня; бацька тады быў пад Беластокам усё ў тым жа пагранатрадзе, Ігар жа атрымаў назначэнне ў Гродна, у распараджэнне армейскага аддзела кадраў, і думаў, што яны неўзабаве ўбачацца. Ён нават не адказаў бацьку на яго пісьмо, а пасля ўжо і адказваць не стала куды; дзе ён, жывы ці не – ніхто яму дакладна сказаць не мог, ды і запытацца не было ў каго. Відаць па ўсім, з бацькам у Іваноўскага ўсё назаўжды скончылася, надзеі на сустрэчу не засталося ніякай.

Таксама як і з яго Янінкай.

Дзіўна, але тое страшнае расстанне з дзяўчынай ён перажываў куды даўжэй і пакутней, чым, па ўсёй верагоднасці, навечную разлуку з бацькам. Праўда, пасля, у баях, у крывавай мітусні франтавых будняў, часта забываўся пра яе, каб зусім нечакана дзе-небудзь у часе начлегу, у ціхую хвіліну, перад самотнай невядомасцю бою раптам прыпомніць да пранізлівага болю ў сэрцы. Ён нікому не расказваў пра гэтае сваё першае і, напэўна, апошняе, зусім кароценькае каханне. Ведаў – у іншых было не лепш. Хто ў вайну не перажывае, не сохне, не пакутуе ад разлук з каханай, маці, жонкай або дзецьмі... Разлукі тамілі, пяклі, болем тачылі салдацкія сэрцы, і ніхто не мог нічога зрабіць, каб як палегчыць гэты іх боль.

...Здаецца, ён зноў забыўся – заснуў або проста заціх на пакугным рубяжы між жыццём і смерцю, і калі ачнуўся, лазня амаль патанула ў змроку. Ён ужо не глядзеў на гадзіннік, час для яго цяпер страціў свой пачатковы сэнс, адчуванне Іваноўскага быццам і яшчэ пагоршала. Ён дробна і часта дыхаў, ледзьве адольваючы дыхавіцу, ранішнія дрыжыкі змяніліся патлівай гарачкай. Ачнуўшыся, ён пашукаў вакол позіркам і ўбачыў Піваварава, які сядзеў на перакуленым драўляным вядзерцы ля акна і грыз сухар. Акно, мабыць, пацела ад яго дыхання, і баец рукавіцай усё цёр шыбы.

– Што там? – адкрыўшы і зноў закрываючы вочы,

запытаўся лейтэнант.

– Усё тое ж. Не ідуць, сволачы.

Не ідуць – значыць, у вёску не сунешся. Але куды ж, апроч вёскі, цяпер можна сунуцца? У полі будзе горай, чым у гэтай лазні, у полі яго даканае мароз. Але і ў лазні наўрад ці яны дачакаюцца чаго добрага.

Чорт, патрэбны былі лыжы, дарма ён кінуў іх у той вёсцы. Хаця там, пад агнём, было не да лыжаў – там трэба было ратаваць галовы. Але цяпер вось без лыжаў яны проста не маглі нікуды паткнуцца з гэтае лазні.

Зрэшты, яму ўжо ўсё роўна, лыжы яму не спатрэбяцца. Але Піваварову яны неабходны. Без лыжаў хлопцу ніяк не дабрацца да лініі фронту – на першым жа кіламетры дарогі яго схопяць немцы.

– Слухай, як думаеш, да той вёскі далёка?

– Якой вёскі?

– Ну той, учарашняй.

– Можа, кіламетры два.

Аказваецца, так блізка, а яму ноччу здавалася, што яны ўцяклі ад яе, можа, кіламетраў на пяць, не меней. Хаця мера адлегласці, часу, відаць, страціла для яго сапраўднае сваё значэнне, кожны метр шляху і кожная хвіліна жыцця неймаверна расцягваліся ягонай пакутай, скажаючы нармальнае чалавечае ўспрыманне іх. Напэўна, цяпер яму трэба будзе больш спадзявацца на Піваварава.

– А што трэба, таварыш лейтэнант? – запытаўся баец.

– Схадзіць па лыжы. Ноччу. Можа, не падабралі немцы.

Піваварову хвіліну маўчаў, нешта прыкідваючы, пасля з уздыхам сказаў:

– Што ж, я схаджу. Хай прыцямнее толькі.

– Ага. Трэба, ведаеш...

– Ну. Толькі вы... Як вы тут?..

– Як-небудзь. Я пачакаю.

Яшчэ не зусім змерклася, але Півавараў падняўся і пачаў збІрацца ў дарогу, Перш за ўсё ён сцягнуў з нагі кірзавы бот і пераматаў анучу. Пасля выняў з рэчмяшка два сухары, сунуў у кішэню штаноў, рэчмяшок пераставіў бліжэй да Іваноўскага.

– І гэта... я аўтамат вазьму – ладна?

– Вазьмі.

– З аўтаматам, ведаеце... Неяк больш смеласці.

Лейтэнант бачыў: баец не мог стрымаць радасці, займеўшы такую зброю, пра якую марыў кожны баец на фронце. Аўтаматы яшчэ толькі паступалі ў войска, пяхота амаль скрозь была ўзброена вінтоўкамі. Іваноўскі сам атрымаў гэты ППД напярэдадні выхаду, калі генерал, раздобрыўшыся, загадаў свайму канаводу перадаць аўтамат лейтэнанту. Вядома, у іхнім становішчы зброя вырашала многае, на спрадвечнае сіле зброі цяпер трымаліся мізэрныя іх магчымасці.

– А вінтоўка хай тут пабудзе.

Лейтэнант не пярэчыў, і Півавараў зняў з дзягі абодва брызентавыя падсумкі, лязгнуў абоймамі і паклаў іх на падлогу ля лаўкі.

– Вінтоўка харошая: бой у самую цэль. Старшына прыстрэльваў.

Іваноўскі рассеяна слухаў байца і думаў, што вінтоўка, некалькі абоймаў патронаў, супрацьтанкавая граната, дзве бутэлькі КС – напэўна, гэтага будзе даволі. Пашанцуе – ён пачакаецца Піваварава з лыжамі, і, можа, яны яшчэ нешта зробяць. А не, дык будзе з чым пастаяць за сябе да канца.

Півавараў пераматаў і другую анучу, падцягнуў дзягу і з яўным задавальненнем закінуў за плячо аўтамат. Здаецца, ён ужо быў гатовы выправіцца ў недалёкі, але хто ведае, наколькі бяспечны свой шлях.

– Каторая на вашых там? Пяць ужо? Ну, я за гадзінку ўпраўлюся. Тут недалёка...

За якую гадзіну ён управіцца, і яны зноў будуць разам. У хвіліну новага расстання Іваноўскі адчуў, як увогуле няблага яму было з гэтым ціхмяным, цягавітым хлопцам і як, напэўна, нялёгка будзе цяпер, у адзіноце, перажыць гадзіну. Раз’яднанасць значна аслабляла іх сілы. У дзеянне ўступала дзіўная, не зусім суладная з матэматыкай логіка, калі два падзеленыя напалам складалі менш за адзінку, у той час як у іншых выпадках дзве разам складзеныя адзінкі былі болей, чым два. Напэўна, такое не надта супадала і з нармальнай логікай і было магчыма толькі на гэтай вайне. Але што гэта менавіта так, лейтэнант вельмі добра вывучыў на ўласным вопыце.

Баец быў гатовы ісці, але чамусь марудзіў, напэўна, не хапала яшчэ нейкай драбніцы ў іх развітанні. Іваноўскі ведаў, у чым была гэта драбніца, і ён вагаўся. Паявілася апошняя магчымасць паткнуцца ў тую праклятую вёску і паспрабаваць што-колечы выведаць пра той штаб. Хоць бы ў агульных рысах, каб не з пустымі рукамі з’явіцца перад генералам і хоць бы ў малой ступені апраўдаць іх прыкрую няўдачу з базай. Але ён не мог не ведаць таксама, што самая малая неасцярожнасць Піваварава магла абярнуцца адразу трайною бядой, назаўсёды пахаваўшы іх і без таго нікчэмную магчымасць выканаць свой абавязак і жывымі вярнуцца да сваіх.

– Дык я пайду, таварыш лейтэнант, – рашыўся Півавараў і ступіў да парога.

Лейтэнант сказаў:

– Пагадзі. Ведаеш... Я не загадваю, глядзі сам. Але... Можа, як-небудзь... Што там, у вёсцы? Каб дазнацца як...

Ён змоўк, Піваварaў насцярожана чакаў, але, не дачакаўшыся болей нічога, сказаў проста:

– Добра. Я паспрабую.

Штось у Іваноўскім нязгодна запратэставала, амаль закрычала ў яго прастрэленых грудзях. Што значыць – паспрабую, ад спробы не шмат карысці, тут патрэбны вужачая хітрасць, упартасць, вытрымка, і то, апроч усяго, трэба яшчэ рызыкаваць жыццём. Але ён не мог гэтага растлумачыць байцу, штось перашкаджала яму гаварыць пра трагічныя, хоць і звычайныя на вайне рэчы, да таго ж ён ледзьве адужваў у сабе слабасць і боль. І ён толькі ўздыхнуў:

– Глядзі, асцярожна...

– Ды ладна. Вы не турбуйцеся. Я ціхенька...

– Добра. І нядоўга...

– Ну. Во тут вадзіцы вам, – баец зачарпнуў у дзежцы і паставіў ля яго бляшанку з вадой. – Калі піць захочаце...

Стомлены труднай размовай, Іваноўскі заплюшчыў вочы. Ён чуў, як Піваварaў выйшаў у прылазнік, не адразу, асцярожна адчыніў там дзверы і ціха прыстукнуў імі знадворку. Хвіліну яшчэ яму чутны былі за сцяной яго крокі, яны хутка аддаляліся, і з імі аддалялася нейкая надзея; здавалася, штосьці для іх канчалася, не пачаўшы новага. Ён стаў чакаць, упарта ўслухоўваўся ў кожны шолах ветру на даху, кожны аддалены гук у вёсцы, ад гэтай хвіліны ён жыў у трывожным, скупым свеце гукаў, часам прыглушаных уласным кашлем і глухім, надакучлівым хрыпам у грудзях.

Памалу слых яго стаў прытупляцца, вакол было ціха, і ягонай свядомасцю завалодалі думкі, якія дзівосна віліся ў часе і прасторы. Здаецца, ён пачынаў драмаць, і тады сярод ірэальнай бязглуздзіцы выплывала штосьці падобнае на быль ці яго мінулае, якое трывожыла і соладка гняло адначасна...

## 11

Да адпраўлення цягніка заставалася некалькі апошніх хвілін, а яна стаяла на платформе і плакала. Ніхто, відаць, яе тут не праводзіў і ніхто не чакаў, наогул народу ў гэты ранішні час на пероне было няшмат, і Іваноўскі, ступіўшы на прыступак ніжэй, жартоўна гукнуў дзяўчыну:

– Гэй, бялявая, навошта плакаць? Другога знойдзем.

Сказана гэта было з бяздумнаю дарожнай лёгкасцю ў адносінах між людзьмі, якія выпадкам спатkaліся і тут жа расстаюцца, каб ніколі больш не сустрэцца. Але дзяўчына ражком стракатай, завязанай на шыі касынкі выцерла вочы і кінула на яго вострый, кароценькі позірк. Тым часам цягнік даў гудок. Ззаду за Ігарам, трымаючыся за поручань, навісаў Коля Тамолка; абодва яны былі ў добрым, прыўзнятым настроі і, здавалася, усякае гора маглі перавесці на жарт.

– А то давай з намі. Да Беластока!

Дзяўчына машынальна папраўіла на тонкай шыі касынку, зноў акінула позіркам твары двух апранутых ва ўсё новае ваенных хлопцаў, і на яе вуснах ужо трапянулася лёгкая ўсмешка, якая і засведчыла змену ў яе настроі.

– А мне ў Гродна.

– Якое супадзенне! – жартоўна здзівіўся Іваноўскі. – Нам таксама. Паехалі разам!

Яна не прымусіла сябе ўпрошваць, падхапіла чамаданчык, які стаяў каля ног, і спрытна ўчапілася за поручань. Іваноўскі падтрымаў яе, Тамолка пастараўся, і некалькі збянтэжаная і ўзрадаваная такім паваротам справы новая пасажырка паднялася на пляцоўку вагона.

– Білет, білет, грамадзяначка! – тут жа патрэбаваў у яе мітуслівы дзядзька-праваднік, які з флажкамі ў руках

спяшаўся да выхаду.

– Ёсць, ёсць білет! Усё ў парадку! – тонам, які не пакідаў ценю сумнення, сказаў Іваноўскі, праціскаючыся паперадзе яе ў вагон.

Ён павёў дзяўчыну ў пятае ці шостае купэ, дзе яны атабарыліся з Тамолкам, сам нёс у руцэ яе чамаданчык, які здаўся яму надта лёгкі, хутчэй за ўсё пусты. Коля лез следам, і дзяўчына, прыціхшы, ішла паміж імі, кідаючы па баках ніякаватыя, трошкі збянтэжаныя позіркі.

– Во, калі ласка. Можаце займаць маю. Я ўзлезу наверх, – з гасціннай лёгкасцю прапанаваў Іваноўскі сваю ніжнюю полку і апусціў чамаданчык.

Яна паслухмяна прысела ля акна і не адразу, адолеўшы яўную збянтэжанасць, ціха сказала:

– А ў мяне білета няма.

– Што – не хапіла?

– Укралі...

– Як?

– Ноччу. У цягніку з Мінска.

Гэта было горш. Здаецца, яны бралі на сябе трохі празмерную адказнасць, парушаючы строгі парадак чыгункі, за што магло нагарэць абодвум. Але як было адступаць? Ігар зірнуў на Міколу і прачытаў на яго грубаватым, заўжды нахмураным твары рашучасць стаяць на сваім. Сапраўды як было цяпер дапусціць, каб пакрыўдзілі таго, хто гэтак прастадушна і даверліва пайшоў за імі?

– Нічога. З праваднікам дамовімся.

Але дамаўляцца мусілі не толькі з праваднікам, а яшчэ і з рэвізорам, і з брыгадзірам цягніка, і перагаворы гэтыя скончыліся тым, што на нейкай станцыі, дзе неўзабаве

спыніўся цягаік, Іваноўскі збегаў у вакзальную касу і ледзьве паспеў аформіць білет на ўжо занятае ёю месца. Білет быў да Гродна, і дзяўчына прыкметна павесялела, нават заўсміхалася. Яна аказалася разгаворлівай і ўвогуле прыемнай дзяўчынай і хутка не без гумару расказвала ім аб сваіх дарожных прыгодах. Аказалася, што яна жыве ў Гродна і ў Мінск ездзіла да сваякоў, якіх ніколі не бачыла, і тут такое няшчасце ў вагоне. У яе ўсё начыста выграблі з яе чамаданчыка, апроч таго, узялі плашчык, жакет і, ведама, усе грошы. Але вось яна ўратавана і цяпер вельмі ўдзячна абодвум за іх велікадушную дапамогу.

– Ды ну, пра што гаварыць! – адмахнуўся Іваноўскі і перавёў размову на іншае: – А вы даўно жывяце ў Гродна?

– Там і нарадзілася.

– Ого! Значыць, тутэйшая?

– Ну.

– А так добра гаворыце па-руску?

– А ў нас дома заўжды гаварылі па-руску. У мяне бацька рускі, і цётка, яго сястра, таксама руская. Толькі мама полька.

– А дзе вы вучыліся?

– У польскай гімназіі. Рускіх жа ў нас не было.

– А як вас завуць? – усё больш цікавіўся Ігар.

– Янінка. А вас – калі не вайсковая тайна? – амаль ужо какетліва ўсміхнулася яна.

– Мяне Ігар, а яго Мікалай.

– У мяне дзядзька, што ў Мінску, таксама Ігар. Ігар Пятровіч. А вы да нас служыць едзеце?

Тут ужо яны пераглянуліся, гэта сапраўды ў нейкай

меры адносілася да строгай вайсковай тайны, з лёгкасцю, аднак, разгаданай іх спадарожніцай. Але што тут было таіцца? Сапраўды, тыдзень назад, пасля сканчэння вучылішча, яны атрымалі назначэнне ў армію, штаб якой размяшчаўся ў гэтай яе Гродні.

– Падобна, што так, – няпэўна сказаў Івановскі. – А што гэты Гродна – нішто гарадок?

– Вельмі добры горад. Не пашкадуеце.

– Думаеш, нас у Гродна пакінуць? – з уласцівым для яго скептыцызмам сказаў Тамолка. – Запруць куды-небудзь у лясны гарнізон.

– О, дык у лесе ж цудоўна! У нас такія лясы! Дзіва! – поўная захаплення загаварыла Янінка.

Івановскі змоўчаў. Ягоныя адносіны да лесу, нават самага прыгожага, не супадалі з захапленнем гэтай дзяўчыны. Бывала, у вучылішчы, у шматмесячных летніх лагерах, лясы, палі, уся гэта аддаленасць ад пастаяннага месца жыхарства з яго хай сабе несамавітым, але наладжаным бытам так надакучвалі пад восень, што самая багатая прырода рабілася невыноснай – хацелася ў горад. Правільна кімсьці сказана, што ваенныя не заўважаюць прыроды, для іх болей важна надвор’е.

Тым не менш у наіўным захапленні Янінкі прысутнічала такая шчырасць, што Івановскі заўсміхаўся, гатовы ўжо палюбіць першы, што трапіцца, гродзенскі лес. І наогул нешта ў ёй усё больш яму падабалася, у гэтай жвавенькай, даволі мілавіднай, з какетліва рассыпанымі на лбе светлымі кудзеркамі дзяўчыне ў просценькай стракатай сукенцы. Яму ўжо было сорамна за той свой фрывольны жарт на вакзале ў Баранавічах, за нетактоўнасць іх прапановы, каторую выбачала хіба што іх пазнейшая дапамога ў яе здарэнні.

Цягнік з кароценькімі прыпынкамі на маленькіх станцыях ішоў усё далей на захад. За акном, нібы ў мінулае, адплывалі назад зялёныя чэрвеньскія палеткі,

пералескі, велічныя хвойныя бары, вёскі і скрозь – хутары, хутары. Іваноўскі ніколі не быў у гэтым баку Беларусі, меней як за два гады ўз'яднанай з яе ўсходняй часткай, і цяпер у ім нарадзілася шчырая цікаўнасць да ўсяго, што адносілася да гэтага не вядомага для яго і, напэўна, такога натуральнага для Янінкі жыцця.

На нейкай невялікай станцыі іхні вагон спыніўся якраз насупраць маленькага прывакзальнага рыначка, і Іваноўскі выскачыў на платформу, таропка накупляў у газету несамавітага сялянскага харчу – яек, гуркоў, вясковай каўбасы і нават міску гарачай, разварыстай маладой бульбы. Пасля яны елі ўсе разам, хлопцы клапатліва частавалі дзяўчыну, якая зусім ужо асвойталася ў іхняй кампаніі, ахвотна смяялася, жартавала, смачна ядучы гуркі з бульбай. Пасля абеду, мабыць, штось сцяміўшы ў адносінах да яе Ігара, Мікалай зважліва адышоўся і ўзлез на верхнюю полку паспаць. Яны ж засталіся ўдваіх – адно супраць аднаго, раздзеленыя маленькім вагонным столікам.

Яму было добра з ёй, хоць ён усё яшчэ не мог да канца асіліць у сабе нейкае спазнелае пачуццё ніякаватасці, быццам якую вінаватасць за свае намеры, хоць з самага пачатку ніякіх намераў у яго не было. Янінка ж, мяркуючы па ўсім, адчувала сябе зусім натуральна і вольна. Яна зняла свае маленькія, белыя, на коркавай падэшве басаножкі і, напяўшы на каленях караткаватую сукенку, па-хатняму проста ўладкавалася на цвёрдым сядзенні, увесь час з нейкай мілай хітрынкай заглядваючы яму ў вочы.

– А ў нас, ведаеце, Нёман, – казала яна, менавіта так, на беларускі лад вымаўляючы гэта слова, і Іваноўскі ўнутрана ўсміхнуўся, прыпамінаючы сваё недалёкае дзяцінства, школу, вядомую паэму Якуба Коласа і гэтую беларускую назву ніколі не бачанай ім ракі. – Адразу пад акном круты спуск, дзве вярбы і плыты ля самага берага. Я там купаюся з плытоў. Ранічкай выбегу, на рацэ яшчэ лёгкі туманок сцелецца, вада цёплая, як сырадой, нідзе нікога. Так накупаюся, што ўвесь дзень

радасна.

– А мне болей азёры падабаюцца. Асабліва лясныя. У ціхае надвор’е – прыгажосць, – сказаў Іваноўскі.

– Рэкі лепш, што вы! У азёрах вада балотам смярдзіць, а ў рэчцы заўсёды праточная, чыстая, бы сляза. Улетку на рацэ – рай. Ды што там! Вось прыедзем – пакажу. Спадабаецца.

Мабыць, сапраўды спадабаецца. Ен ужо быў упэўнены, што гэта штось незвычайнае: домік, дзве вярбы на абрыве, плыты ля берага, з якіх можна ныраць у глыбокі, імклівы Нёман. І ён ужо маляваў гэта ў сваім уяўленні, хоць з вопыту ведаў, што самае багатае ўяўленне ніколі не адпавядае сапраўднасці. У сапраўднасці ўсё інакш – горш або лепш, але менавіта інакш.

Янінка паводзіла сябе з ім лёгка і вольна, так, быццам яны даўно былі знаёмыя, а ён усё адчуваў нейкую невыразную скаванасць, якая не толькі не міналася з часам, але і яшчэ большала. Ігару пачынала здавацца, што, бесцырымонна гукнуўшы яе ў Баранавічах, ён выглядаў перад ёй як чалавек легкадумны, схільны да нікчэмных дарожных прыгод і што яна не магла не заўважыць гэтага. Хоць ніякага легкадумства ў тым не было, была простая дзіцячая гуллівасць, якая, можа, і не зусім дарэчы ў характары дваццацідвухгадовага выпускніка ваеннага вучылішча, нядаўна атэставанага на пасаду камандзіра ўзвода. Тады, на пероне, ён нават і не разгледзеў яе, толькі ўбачыў – разглядаў ён яе цяпер шырока раскрытымі, амаль здзіўленымі вачыма, якія, як ні стараўся, не мог адарваць ад яе прыгожага, усмешлівага твару.

Пад канец дня, пад’язджаючы да Гродна, ён ужо ведаў, што не расстанецца з ёю – яна ўсё больш зачароўвала яго сваёй юнай пекнасцю і вабіла чымсьці загадкавым і таямнічым, для чаго ён проста не знаходзіў назвы, але што адчуваў няспынна. Пра яе дарожнае здарэнне яны не гаварылі, здаецца, яна забылася пра яго і толькі аднойчы заклапочана варухнула броўкамі, калі

перастаўляла на паліцы свой чамаданчык.

– І нават бялілы забралі. Татку везла. У нас цяпер бяліл не дастаць.

– А што, бацька – маляр?

– Мастак, – проста сказала Янінка. – А з фарбамі цяпер кепска. Раней мы фарбы з Варшавы выпісвалі.

Нарэшце цягнік прыбыў на станцыю Гродна, і яны, трохі хвалюючыся, сышлі на перон. Янінка са сваім пустым чамаданчыкам у руках павяла іх да штаба арміі, які быў ёй па дарозе. Але ў штабе, апроч дзяжурнага, нікога больш не аказалася, трэба было чакаць да ранку. Пераначаваць можна было тут або ў гарнізоннай гасцініцы, лейтэнанты, аднак не сталі шукаць гасцініцу і прынеслі свае рэчы ў нейкі маленькі, падобны на капцёрку пакойчык з трыма салдацкімі ложкамі каля сцен. Тамолка адразу ж пачаў уладкоўвацца на тым, што стаяў у куце пад нішай, а Ігар, крыху выцершы з ботаў пыл, заспяшаўся на вуліцу, дзе на бліжэйшым рагу пад каштанам яго ўжо чакала Яніна. Яна шчыра ўзрадавалася яго паяўленню і яшчэ болей таму, што ен быў вольны да заўтра, і яны пайшлі па вечаровае вуліцы горада, усё ў якім было для яго незвычайна цікавае.

За тыя пару гадзін, якія яны з Мікалаем прабылі ў штабе, Янінка паспела прыбрацца і цяпер была ў цёмнай ладнай спаднічцы і светлай шаўковай кофтачцы з маленькім белым каўнерыкам каля тонкай шыі, на яе нагах цверда пастуквалі высокія абцасікі модных туфляў. Прыбраная, яна здавалася старэйшай за свае юныя гады і вышэйшаю ростам – амаль упоравень з яго плячом. Яны ўсё ішлі вуліцай, і яму было невыказна прыемна, што яе тут многія ведалі і паважна віталіся: мужчыны – пачціва дакранаючыся рукой да капелюша, а жанчыны – ветлівым кіўком галавы з добразычліваю ўсмешкай на лагодных тварах. Яна адказвала з падкрэсленай ветлівасцю, але і з нейкаю няўлоўнай годнасцю і стрымана, напаўголаса апавядала яму пра тое цікавае, што траплялася ім на вуліцы.

– Вось наша Раскоша, так яна раней называлася. Нічога асаблівага, але во царква, пабудаваная ў памяць забітых на руска-японскай вайне. Нізенькая, праўда, але вельмі акуратная цэркаўка. Я там хрысцілася. А далей, бачыце, такія смешныя домікі, вунь цэлы рад, з франтончыкамі накшталт петушыных грабеньчыкаў. Гэта дамы тэкстыльшчыкаў з Ліена. Ага, не здзіўляйцеся. У васемнаццатым стагоддзі Тызенгауз выпісаў з Ліёна ткачоў і пабудаваў для іх такія самыя домікі, як у Францыі. Во стаяць і дагэтуль. А то вунь дом польскай пісьменніцы Элізы Ажэшковай, яна тут жыла і памерла. Ведаеце, цікава пісала.

Гарадок яму сапраўды падабаўся сціплай, але абжытай утульнасцю сваіх брукаваных вулічак з вузенькімі, выкладзенымі пліткамі тратуарамі, якія былі дбайна аздоблены гладкімі каменнымі скосамі. На сценах многіх дамоў кучарава зелянеў вінаград, некаторыя з іх да трэціх паверхаў былі ўвіты яго ўчэпістаю лазой. Але болей за ўсё ён чакаў сустрэчы з расхваленым Янінкай Нёманам, які, як яна сказала, працякаў тут жа, дзелячы горад на дзве няроўныя часткі.

Каля гатычнай грамады касцёла вуліца павяртала ўбок, і яны ціха пайшлі ўздоўж гандлёвых радоў і гарадской ратушы. На рагу пад каштанамі нейкая жанчына гандлявала марожаным, і Янінка, якая ўвесь час ішла поруч, лёгенька дакранулася да яго локця.

– Ігар, можна мне папрасіць вас?..

– Калі ласка, – са шчырай гатоўнасцю выканаць самую яе неверагодную просьбу азваўся ён.

– Ведаеце, я даўно марыла... Ну гэта... Каб мяне хлопец пачаставаў марожаным.

– Ах, марожаным!..

ІвАноўскі амаль жахнуўся, падумаўшы, які ж ён вахлак, калі сам не здагадаўся аб гэтым! Але ён, здаецца, і не заўважыў гэтай прадаўшчыцы, так быў захоплены вуліцай, радам каштанаў за агароджай касцёла, яму

проста было няўцям, чаго магла пажадаць ягоная багіня.

– Прошэ, паненка! Дзенькую гжэчнэго пана, – падзякавала прадаўшчыца, калі ён адмовіўся ад некалькіх капсек рэшты.

– Дзенькуе, пані Вандзя, – у сваю чаргу цырымонна падзякавала Яніна, прымаючы з рук старой жанчыны вафельныя скрылёчкі з марожаным паміж імі.

У канцы кароценькай вуліцы над ліпамі засвяціўся такі шырокі прасцяг, які можа адкрыцца толькі з вельмі высокага ўзгорка, і яны хутка выйшлі на каменны мост цераз роў. Гэта быў уезд у старажытны, з паўразбуранымі сценамі замак, па другі бок ад якога ў глыбіні парку высіўся раскошны палац за фігурнай рашоткай агароджы.

– Замак караля Польшчы Баторыя, – урачыста аб’явіла Янінка. – А гэта Новы замак. А цяпер зірні вунь туды. Ба чыш?

Ён зірнуў цераз каменны, амаль у чалавечы рост парапет і ўнутрана ахнуў ад вышыні, на якой яны апынуліся. Далёка ўнізе па каменных прыступках лесвіцы рухаліся маленькія фігуркі людзей, якія расходзіліся па абодва бакі набярэжнай, што плаўна агінала бераг і дзесьці знікала пад густой навіссю дрэў.

– Ну, бачыш? Як табе падабаецца? – хінучыся да ягонага локця, пыталася Яныка.

Старажытныя, змураваныя з вялізных камянёў сцены замка, гэты цяжкі, аграмадны, перакінуты цераз каменную лесвіцу мост, вялізныя масівы зеляніны на пагорках, высачэзны, уладарны над горадам слуп гарадской каланчы паблізу, вядома, не маглі не спадабацца яму, і ён гатовы быў аглядаць усё гэта да вечара. А вось Нёман з такой вышыні ніяк не ўразіў яго – звычайная, сярэдняй велічыні, заціснутая высокімі берагамі, рака. Помніцца, азёрныя прасторы куды з болыпаю сілай кранал і яго пачуцці. Затое Янінка была ў

захапленні менавіта ад Нёмана і нязмоўчна шчабятала ля яго вуха:

– Паглядзі, паглядзі туды. Бачыш, якое цячэнне! Бачыш быстрак! Вунь там, пад вербамі, такія віры! Ого! Толькі сунься – закружыць, панясе, не выберашся.

Яны прайшлі трохі назад і па той самай гранітнай лесвіцы спусціліся да ракі. Не, усё ж рака была цудоўная, мабыць, з вышыні ён проста не ацаніў яе належным чынам. На яе правым беразе зелянела добраўпарадкаваная, абсаджаная дрэвамі набярэжная, справа высіліся вялізныя, пакрэсленыя сцежкамі адхоны з рэштаю крапасных сцен наверсе. Рака плаўным паваротам хавалася за недалёкімі абрывамі, на якіх высіліся суцэльныя шапкі вербаў, там жа канчаўся горад, і далей сінеў хвойны лес, за які садзілася сонца. Яны памалу ішлі ўздоўж Нёмана, і Янінка ўсё гаварыла і гаварыла штось не вельмі абавязковае ў гэтую хвіліну вечаровага хараства, а ён думаў, як усё ж дзіўна ўладкавана жыццё. Да сённяшняй раніцы ён і не падазраваў аб яе існаванні на гэтай зямлі выпадкам убачыў яе ў Баранавічах і звярнуўся з дурным, па сугнасці, жартам, з якім, напэўна, не павінен быў бы звяртацца выхаваны малады чалавек. А цяпер вось, прабыўшы з ёй дзень, ён не ведаў ужо, як быць далей – далейшае жыццё без яе проста траціла для яго ўсю сваю радасць.

Яны доўга ішлі так па беразе і, калі сонца зусім схавалася за зубчастаю сцяной лесу, павярнулі назад да горада. Слухаючы часты перастук яе абцасікаў побач, ён невыразна адчуваў, як штосьці ў ягоным жыцці дзівосна перайначваецца, набываючы невядомы, але вельмі дарагі яму сэнс. І ён быў рады таму, амаль шчаслівы. Побач ледзьве прыкметна струменіла бліскучая гладзь Нёмана, людныя ўдзень берагі нанач прыкметна пусцелі, стомленыя за дзень рыбакі адзін за адным складвалі свае вудзільны і ішлі ў горад. Між цемных узбярэжных камянёў ціха плёхалі дробныя хвалі і зыбка гойдаліся чорныя, поўныя смалістага паху чаўны. Аграмадныя вербы, навісшы над набярэжнай,

клалі на яе густы змрок, у якім адзін за адным знікалі прахожыя. У паветры чуўся саладкаваты пах дыму і даносілася прыціхлае вечаровае дыханне горада.

У густым летнім змроку цёплае ночы Янінка прыкметна пасмялела, напэўна, канчаткова адолеўшы тое, што раздзяляла іх удзень, і цяпер ішла зусім поруч, лёгенька дакранаючыся пальцамі да яго локця. Неяк неўпрыцям для яго яна перайшла на ты, і ён таксама некалькі разоў сказаў ёй ты, абаім стала надзіва проста, канчаткова знікла дзённая няёмкасць і незразумелая нацягнутасць, якая нядаўна

была між імі.

Як толькі яны ступілі пад вербы, у густы, вільготны змрок ночы, Янінка, нічога не кажучы, раптам кінулася лезці кудысь па травяністым схіле ўгору. Ён спыніўся ў нерашучасці, ашчаджаючы свае хромавыя выхадныя боты, але яна з цемры падбадзёрыла яго – давай, давай! – і сама хутка палезла між калючых кустоў, усё вышэй, на кручу. Ён не бачыў, што было наверсе, паўнеба там закрывала нешта, падобнае на раскідзістую крону дрэва, але ён адчуў у яе голасе змоўніцкі азарт таямніцы і таксама палез у зараснікі. Скінуўшы з ног туфлі, Янінка караскалася ўсё вышэй, зводдаль прыгаворваючы яму напаўголаса:

– Зараз ты нешта пабачыш. Зараз, зараз...

Праз якую хвіліну ён адолеў самае крутое месца і хоць абадраў да крыві руку, але ўзлез на край нешырокай, абнесенай рашоткай тэрасы, ад гладкіх камянёў якой яшчэ ішло прыемнае дзённае цяшю. Побач, закрыўшы палову неба, высілася магутнае старое дрэва і паднімалася стромкая сцяна нейкай будыніны. Вакол было ціха і цёмна, знізу, з-пад вербаў, ледзьве даносіўся ціхі плёск Нёмана, пахла вапнай ад сцен і кропам з недалёкіх, напэўна, гародаў.

– Ну, ты зразумеў? Ты зразумеў, што гэта такое?

– А што?

– Каложа – во што! Дванаццатае стагоддзе, ты зразумеў?

– Цяпер зразумеў, Але каб паглядзець...

– Пабачыш! – проста запэўніла Янінка. – Паспееш. А цяпер ідзі сюды...

Яна зноў матлянулася ў цемру, лёгенька пралезла праз негустую рашотку агароджы, нырнула ў пралом у сцяне, і яе светлая кофтачка зусім знікла ў змроку. Каб не згубІць яе, ён заспяшаўся следам, пакуль не апынуўся на невялікім глухім травяністым двары. Неба тут спрэс закрывалі дрэвы, было цёмна, і ў гэтай цемры ледзьве ўгадвалася шэрая сцяна побач. Прыслухоўваючыся да наваколля, замерла побач Янінка. Але вакол было ціха, бы ў склепе, і яна падкралася да нізенькіх дзвярэй у нішы. Там паклала ў доле туфлі і, пацягнуўшы да сябе дзверы, па-змоўніцку шапнула яму: «Лезь!» Ён ледзь прашчаміўся ў вузкую шчыліну, затым знутры таксама патрымаў дзверы, каб магла пралезці яна. Калі дзяўчына апынулася побач, дзверы самі сабой зачыніліся, і абаіх агарнула такая цемра, што ён зусім перастаў бачыць яе, і, каб не згубіць, лёгенька прытрымліваў яе за плечы. У насцярожанай цішыні ўверсе штось заварушылася, залапатала.

Янінка здрыганулася ў ягоных руках, але тут жа паспяшалася супакоіць яго:

– Не бойся: то галубы.

– Я не баюся, – шэптам адказаў Ігар, хоць яму было і цікава, і страшнавата адначасна.

– Гэта іканастас, гэта аналой. А тут вось...

Нячутна ступаючы ў цемры па каменнай шархоткай падлозе, яна падвяла яго да нейкай сцяны, дзе прымусіла сесці, затаіцца, а сама, прыўстаўшы, крыкнула:

– О-о!

– О-о! О-о! О-о! – адгукнулася ў розных месцах мноствам таямнічых галасоў, ад якіх яму зусім ужо стала страшна.

– О-о-о! – паўтарыла яна мацней.

– О-о-о-о! О-о-о-о!.. – пакацілася кудысьці далей, мабыць, пад нябачныя ў цемры скляпенні прытвораў, і нарэшце заглухла ўгары, напэўна, у званіцы.

– Галаснікі, зразумеў? – ціха шапнула Янінка.

– Якія галаснікі?

– Не ведаеш? Эх ты!.. Ідзі сюды... Во сюды, сюды...

Яна зноў павяла яго ў цемру, трымаючы за руку, як відушчы водзіць сляпога, дзесьці спынілася, лёгенька таўханула ў бок.

– Во, мацай. Ты ж вялікі, напэўна, дастанеш?

Ён пачаў мацаць цагляную сцяну, пакуль не наткнуўся рукамі на нейкія гладкія, адпаліраваныя дзіркі ў ёй, але зразумець нічога не мог, хоць ні пра што не пытаў ужо і не дзівіўся. Ён ужо прывык за сённяшні дзень да такога мноства загадак і ўражаныяў, што, каб разабрацца ў іх, напэўна, патрэбны быў час.

А часу якраз было мала, самая кароткая ноч у годзе хутка імкнулася насустрач дню, і калі яны выбраліся з царквы, над горадам ужо гаслі зоркі, і далёкі сонечны водсвет затрапятаў на ўсходнім ускрайку неба. Янінка таропка, не даючы Ігару апамятацца, гаварыла і гаварыла штосьці аб тым значымым і цікавым, што бачыла, ведала, чым абавязкова хацела падзяліцца з ім. Падхапіўшы ў рукі туфлі, яна ўжо лезла кудысь цераз калючыя зараснікі на абрыве, і ён ледзьве спраўляўся за ёю, ужо не клапоцячыся пра свае выхадныя боты, якім, напэўна, дасталося за гэтую ноч.

– Ідзі, ідзі сюды! Ну што ты такі непаваротлівы! Не бойся, не ўпадзеш. Я падтрымаю...

Яны пералезлі змрочны глыбокі роў і зноў выйшлі на бераг зусім яшчэ соннай, засланай лёгкім туманам ракі. Але Янінка пабегла і яшчэ ніжэй – па голых камянях да вады.

– Ідзі сюды. Пакуль татка спіць, я табе пакажу мой кветнік. Ужо зацвілі мацейкі. Пахнуць на досвітку – страх!

Слізгаючы на скураных падэшвах, ён спусціўся па каменным адхоне ўніз, да лодкі, у якую залезлі абое, і Янінка з адным вяслом у руках пачала разварочваць лодку ўздоўж па цячэнні.

– Так бліжэй будзе. А то па мосце пакуль абыдзеш...

– Якая ты, аднак! – сказаў ён, не стрымаўшы свайго захаплення.

– Якая? Нядобрая, га? Праўда, нядобрая?

– Цудоўная!

– Дзе там цудоўная! Во прачнецца татка, будзе гэтай цудоўнай!

Моцнае цячэнне на сярэдзіне панесла лодку ўніз, але яна неяк выграбла адзіным вяслом да берага, і хутка яны падплылі да нейкага дашчанага плота пад тоўстымі камлямі вербаў.

– Ану, хапайся. А то панясе...

Ён паспеў ухапіцца за слізкі, гнілаваты слупок у вадзе, яна выскачыла на бераг, і яны выцягнулі лодку на траву.

– Раніцай рыбакі адгоняць... А цяпер... Во гэтым завулачкам, а пасля каля саду пярэйдзем бульбу, і там, пад касцёлам на беразе, мой домік. Ты не вельмі стаміўся? – раптам клапатліва запыталася яна, заглядваючы яму ў вочы.

– Не, нічога.

Яны пайшлі ўскраінным, парослым вільготнаю муравой завулкам. Яна ўсё несла ў абедзвюх руках свае туфлі, на хадзе трошкі дакранаючыся да яго плячом, і ён праз тонкую тканіну кофтачкі адчуваў цяпло яе цела, чуў яе блізкае зморанае дыханне, незразумелы пах яе валасоў і думаў, як яму здорава пашанцавала сёння. Ён ужо быў удзячны сваёй нявыхаванасці, якая дазволіла яму той недарэчны жарт у Баранавічах, удзячны гэтаму гораду з яго старажытнасцю і гэтай ночы, такой не падобнай на мноства пражытых ім начэй.

– Янінка, – ціха паклікаў ён, набліжаючыся да яе ззаду, але яна толькі таропка набавіла кроку.

– Янінка...

– Во абыдзем гэтую хатку, пасля павернем на сцежачку,

перабяжым цераз сад...

– Янінка!

– Давай, давай, не адставай! А то хутка татка ўстане ды як спахопіцца...

Аброслаю дзядоўнікам сцежкай уздоўж плота яны ўзлезлі вышэй. Пачынала світаць. Побач у росным змроку садоў яшчэ драмала Занёманне. Добра ўтаптаная сцяжынка вывела іх на край бульбянога поля, скрозь усыпанага белымі зоркамі кветак. Дужа пахла маладым бульбоўнікам і свежай роснай зямлёй. Янінка таропка ішла наперадзе, і ён, шоргаючы ў бульбоўніку сваімі ботамі, ледзьве спраўляўся за ёй. Ужо зусім блізка на светлым ускрайку неба відаць былі стромкія купалы касцёла, за якім дзесьці ў цёплай рачной вадзе ціха плёскаліся яе плыты. Заставалася прайсці яшчэ, можа, сотню крокаў, якія аддзялялі іх ад касцельнай агароджы, як у начной цішыні яшчэ соннага горада з’явіўся нейкі чужы, незразумелы, настойлівы гул.

Янінка наперадзе адразу ж спынілася.

– Што гэта? Што гэта гудзе? Гэта самалёты?

Так, гэта набліжаліся ў небе самалёты, але ён проста не верыў, што так недарэчна і не ў час можа пачацца тое самае страшнае, што ўсе апошнія дні благім прадчуваннем жыло, мацнела, прыгнятала людзей. Хапаючыся за слабенькую надзею, што, можа, яны памыляюцца, ён душыў у сабе страх і чакаў.

Але памыліцца было немагчыма.

Спалоханая Янінка, быццам шукаючы абароны, кінулася да яго, і толькі ен паспеў яе абняць, як шэраг блізкіх магутных выбухаў кінуў іх на цвёрдае сцебле бульбоўніку. Ранні світанак асвятліўся серыяй вогненна-чорных бліскавак, тугія гарачыя хвалі ўдарылі ім у спіны, густа закідалі бульбоўнік зямлёй...

Як толькі мінуўся першы грымотны грукат, ён падхапіўся, Янінка таксама ўскочыла побач і з паблытанымі на гала-ве валасамі, у запэцканай кофтачцы невядома навошта старалася надзець на брудную нагу свой туфель. Аглушаны выбухамі, ён не адразу пачуў яе надзіва аслабелы голас, якім яна гукала яму:

– На мост бяжы! Хутчэй на мост! Там за касцёлам мост!..

Ну, ведама, яму трэба было на мост, у штаб, ён ужо разумеў, што здарылася, і іначай не мог.

Не азірнуўшыся болей, праз грымотныя ўдары выбухаў, падаючы і ўскокваючы, ён памчаўся на мост, несучы ў збянтэжанай свядомасці ледзьве ўхопленае зрокам аблічча дзяўчыны з чорным бліскучым туфлем у росным бульбоўніку...

## 12

Яго вырвалі з забыцця стрэлы, якія раптам даляцелі невядома адкуль. Здалося спярша, што гэта стралялі ў вёсцы, але калі, занепакоены, ён прыслухаўся, дык зразумеў, што даносіліся яны з іншага, процілеглага вёсцы боку – менавіта з таго боку, адкуль яны

прывалакліся ўночы і куды пайшоў Півавараў. Мярцвеючы ад благога прадчування, Іваноўскі перастаў дыхаць, услухаўся, але ніякага сумнення не заставалася – стралялі недзе за полем.

Напэўна, самыя першыя стрэлы ён прапусціў, не ўчуўшы, ён прахапіўся толькі, калі гулка ўдарыла вінтоўка і ў цішыні працягла пратрашчаў аўтамат. Ну вядома, гэта быў яго аўтамат – нямецкія стралялі інакш, гэта ён ведаў пэўна. Іваноўскі падхапіўся на локаць, але ў грудзях у яго штосьці сціснулася, ад болю заняло дыханне, ён закашляўся, выплюнуў згусцелы крывяны ком і зноў без сілы аблёгся на лаўку. Пакуль ён кашляў, здаецца, усё там скончылася, і колькі ен ні ўслухоўваўся потым, нічога ўжо больш не пачуў.

Ледзьве ўтаймоўваючы хваляванне, лейтэнант намацаў ля лаўкі гадзіннік – было сорак хвілін на восьмую, значыць, Півавараў адсутнічаў каля дзвюх з паловай гадзін. Калі да той вёскі толькі адзін кіламетр, няхай два, дык ён павінен быў бы ўжо вярнуцца. Але калі не вярнуўся – значыць... Значыць, ён прабраўся ў вёску, але, мабыць, няўдала, і яго спасціг той самы лёс, што і ўчора Іваноўскага. Лейтэнант зноў прыўзняўся на локці, услухаўся, паспрабаваў зазірнуць у трошкі яшчэ светлаватае акенца, але не дапяўся да яго і сеў на лаўцы. Яму было моташна, блага, вогненна-чырвоныя плямы плылі ў вачах. Рукой ён намацаў надзіва цяжкую вінтоўку. Але навошта цяпер была тая вінтоўка – у лазні яго пакуль ніхто не трывожыў, паблізу быццам не было нікога. Наўрад ці ён мог што зрабіць, каб аблегчыць лёс Півуварава, які яўна трапіў у бяду, але і нічога не рабіць ён таксама не мог. З вялізнай натугай, увесь час лапаючы па сценах рукамі, ён выйшаў у прылазнік і штурхнуў нагой дзверы.

Была зімовая ноч – як усе ночы ў лістападзе гэтага года – з ветрам, нізкім, захмараным небам, шэрым, завалочаным цемрай прасторам. Але снег ляжаў свежы і чысты, і ў ім выразна было відаць некалькі глыбокіх слядоў Піваварава, якія ішлі паўз сцяну лазні і паварочвалі за вугал.

Задыхаючыся ад налётаў парывістага ветру, Іваноўскі хвіліну счакаў, услухаўся ў глухую ціш ночы. Ні стрэлаў, ні крокаў, ні крыку – нічога не было больш чуваць. Тады, не зачыніўшы дзвярэй, ён апусціўся каля парога, прыхіліўся плячом да сцяны і сядзеў так гадзіну, а можа, і больш. Ён увесь быў ва ўладзе шчымлівага, хваравіта-напружанага чакання, выразна ўсведамляючы, што калі Піваварaў у бліжэйшыя хвіліны не прыйдзе, то ён не прыйдзе ніколі.

Але ён не прыйшоў ні ў бліжэйшыя хвіліны, ні ў наступныя затым гадзіны. Калі ўжо чакаць не стала цярпення, Іваноўскі, не ўстаючы, на кукішках дапяўся да кубіка свайго гадзінніčка за парогам – было без дзесяці хвілін дзесяць. Адсутнасць байца на працягу гэткага часу не абяцала нічога добрага.

«Нашто я паслаў яго? Нашто паслаў? – дакараў сябе лейтэнант. – Якія тут лыжы? Які штаб? Толькі загубіў яго ды і сябе таксама...»

Безумоўна, без Піваварава ён нічога ўжо не мог, але калі ён сам быў асуджаны на пагібель, дык трэба было падумаць, каб ратаваць хоць байца. А ён паслаў яго на такую справу, дзе на ўдачу прыпадае адзін шанец з тысячы. Немцы маглі зрабіць засаду, пасадзіць у полі сакрэты і напэўна ўзмацнілі ахову ў вёсцы – не так проста было пралезці да штаба. Калі гэта не ўдалося яму мінулаю ноччу, калі штабісты былі яшчэ не палоханыя, дык як магло ўдасца цяпер.

«Ну а што ж далей? Што?» – тысячны раз пытаўся ў сябе Іваноўскі, седзячы ля дзвярэй лазні.

Зрэшты, ён ужо ведаў што – ён толькі марудзіў, да апошняй магчымасці спадзеючыся, што Піваварaў, можа, яшчэ вернецца. Але калі стала ўжо відавочна, што чакаць далей марна, лейтэнант, хапаючыся за сцены, устаў на ногі.

Ён выпрабоўваў сябе, каб ведаць, на што яшчэ здольны або, можа, не здольны ўжо ні на што. Хаця і з цяжкасцю, але трымацца на нагах яму яшчэ ўдаецца,

асабліва калі мець пад рукамі нейкую апору. Цяпер апораю яму былі сцены, а ў полі ён будзе абапірацца на прыклад вінтоўкі. Ногі сяк-так падпарадкоўваліся яму, горш было з дыханнем і з галавой таксама. Але ён падумаў, што галава, можа, адыдзе ў полі, а з дыханнем ён ужо неяк справіцца. Калі не спяшацца, памаленьку, з частымі супынкамі, эканомна выдаткоўваючы сілу...

Яго намер цалкам завалодаў ім, і лейтэнант вярнуўся ў лазню, распіхаў у кішэні абоймы з падсумкаў. Рэчмяшок ён не асіліў падняць і пакінуў на лаўцы, затое ён узяў з сабою гранату. Далей ён ужо не мог заставацца тут ні хвіліны і, перабіраючы па сценах рукамі, выйшаў на двор.

Хістка, ледзьве не падаючы, але з упартай, цяжка зразумелай рашучасцю ён прайшоў крокаў дваццаць па глыбокіх слядах Піваварава і спыніўся. Вінтоўка аказалася куды больш цяжкой, чым яму здалося спачатку, але ён абапіраўся на яе, калі гатовы быў ужо ўпасці і асабліва калі спыняўся. Сам бы ён ужо не ўтрымаўся на дрыготкіх ад слабасці сваіх нагах. Аддыхаўшыся, нейкім дзіўным, загнаным позіркам паглядзеў назад. Там сіратліва цямнела на снезе іх лазня, дзе яны ўдачліва перабылі суткі і куды, мяркуючы па ўсім, ужо не вернуцца.

У другі раз ён не адолеў, напэўна, і дзесятка крокаў, як, пахіснуўшыся, спыніўся ад кашлю. Кашаль мог наклікаць самае горшае ў яго становішчы – глыбінным нутраным болем ён працінаў лейтэнанта да сляпучай цемры ў вачах. Але Піваварaў быццам някепска перавязаў яму грудзі, ад прысохлых да ран бінтоў хоць і было балюча, але яны не давалі спаўзці перавязцы, кроў з ран болей не ішла. Калі б толькі не гэта д’ябальская пякотка ўнутры...

Ён імкнуўся ісці як мага хутчэй, і цяпер паказчыкам ягонай хуткасці была лазня. Ледзьве стоячы на нагах, ён зрабіў ужо чатыры або пяць прыпынкаў, кожны раз азіраючыся, але лазня, бы знарок, усё чарнела і чарнела ў прыцемку, з вялікім нежаданнем аддаляючыся ў ноч. Мінула, напэўна, не менш за

гадзіну, перш чым шэры паўзмрок канчаткова праглынуў яе.

Навокал быў снег, вецер і поле – і тады ён зразумеў, што быццам бы дасягнуў сярэдзіны шляху, цяпер вярнуцца ён бы ўжо і не здолеў, на гэта ў яго проста не было сілы. Болей ён не азіраўся, ззаду ўжо нічога для яго не было, – усё добрае ці благое чакала яго наперадзе.

Потым ён два разы запар упаў, проста не ўтрымаўся на сваіх аслабелых нагах, уставаў не адразу – спярша аддыхваўся на снезе, трываючы боль у павярэджаных ранах. Другі раз яму не пашчасціла і яшчэ болей – упаў дужа нязручна, спіной; балявы ўдар быў такі моцны, што на нядоўгі час, здаецца, лейтэнант страціў прытомнасць. Пасля ён ачнуўся, але доўга ляжаў на снезе, увесь час адчуваючы пад сабой мулкі кругляк гранаты. Але ўсё ж ён намогся яшчэ, каб падняцца, сесці, пасля, хістаючыся, стаць на ногі і зрабіць некалькі першых, самых няўпэўненых крокаў.

Ён стараўся ні пра што не думаць, ён нават не вельмі глядзеў па баках, усё роўна там няшмат было відаць, затое ён не адрываў позірку ад снегу, на якім цягнуліся глыбокія сляды Піваварава. Яны ішлі ўсё ў адным напрамку; здаецца, баец даволі ўпэўнена памятаў іх шлях з учарашняй вёскі і хутка ішоў да яе. Іваноўскі цяпер болей за ўсё баяўся, каб не збіцца з гэтага следу.

А збіцца было няцяжка, асабліва калі падступала чарговая хваля знямогі і цямнела ўваччу. Але тады ён спыняўся, утыркаў у зямлю вінтоўку, падпіраў сябе яе драўляным прыкладам і чакаў, пакуль пройдзе немач. Апроч таго, яму надта дакучаў вецер – не даваў глядзець наперад, выціскаў з вачэй слёзы; часам яго моцныя парывы так штурхалі Іваноўскага, што той, хістаючыся, ледзьве не падаў долу. Але ён упарта супраціўляўся ветру, уласнай знямозе, болю. Ён разумеў, вядома, што наўрад ці спаткае тут Піваварава, хутчэй за ўсё ён ніколі больш не ўбачыць свайго байца, але ўсё роўна ён павінен быў прайсці той шлях, на які адправіў яго. Ён не мог пакінуць яго немаведама дзе і

ратаваць сябе. Безумоўна, ён надта многімі рызыкаваў на гэтай вайне, мабыць, многія па яго волі знайшлі сабе на ёй смерць. Але гэтая яго рызыка мела адрозненне ад усіх папярэдніх – яна была апошняй, і таму Іваноўскі павінен дайсці да канца. Калі ў гэтай д’ябальскай сутычцы са смерцю ён не збярог многіх, дык ён не бярог і сябе, і толькі гэта апраўдвала яго камандзірскае права распараджацца жыццямі іншых. Інакшага права на вайне ён не хацеў прызнаваць. У горшым выпадку, перш чым загінуць самому, ён павінен пераканацца, што дзе-небудзь у гэтым полі не сцякае крывёй яго Піваварчык.

І ён ішоў – хістка, расслаблена, раз за разам спыняючыся і абапіраючыся на цяжкую і доўгую вінтоўку Піваварава. Аднойчы, калі ад стомы падкасіліся ногі, сеў на снезе, доўга адпачываў. Але, каб падняцца потым, яму давялося патраціць столькі яго мізэрнай сілы, што болей ён не садзіўся і аддыхваўся, абапёршыся на прыклад вінтоўкі. Спыняўся ён цяпер праз кожныя чатыры або пяць крокаў. На болей у яго ўжо не хапала дыхання.

Яму зноў здалося, што ён прайшоў кіламетры два, не менш, і ён усумніўся ў правільнасці слоў Піваварава адносна адлегласці да гэтай вёскі. Цяжка было паверыць, што яна была за два-тры кіламетры ад іх лазні. Шкада, у гэты раз ён не ўзяў з сабою гадзінніка і не мог вызначыць часу. Але па нейкіх няўлоўных прыкметах яму здалося, што вёска недалёка, магчыма, ён быў ужо ля яе ваколіцы. Сляды Піваварава, аднак, усё цягнуліся і цягнуліся з прыцемак, здавалася, ім не будзе канца ў гэтым полі. Дзе цяпер мог быць сам баец, цяжка было ўгадаць, хоць Іваноўскі быў гатовы да самага горшага. Але магло стацца і так, што той, як і яны ўчора, уцёк ад пагоні і дзе-небудзь, паранены, ляжыць у полі.

Іваноўскі ледзьве не прайшоў паўз яго, бо сляды на снезе усё кудысьці вялі і наперадзе нічога не было відаць. Але раптам крыху ўбаку, у мутным цемрыве ночы сярод замеценага снегам быльнягу яго ўвагу

прыцягнуў да сябе нейкі невыразны рух. Спярша ён і не паглядзеў туды, толькі матлянуў позіркам, але тут жа спыніўся, угледзеўся, і штосьці ў ім роспачна здрыганулася ўнутры. Ціха, амаль бязгучна на ветры матлялася нешта, падобнае на шматок паперы, хоць адкуль тут магла ўзяцца папера? Ён збочыў са слядоў Піваварава і, не ў стане адарваць позірку ад недалёкай быльняговае грыўкі, заплятаючыся ў снезе нагамі, павалокся туды.

Яшчэ зводдаль і неяк раптам ён згледзеў белы невыразны бугорчык у тым быльнягу, характэрную лінію чалавечага цела, чорныя халявы ботаў у снезе. І ён спыніўся. У галаве яго мільганула дзіўнае недаўменне – хто мог ляжаць тут, у начным полі, на сцюжы? Лейтэнант проста не адважыўся звязаць у думках тое, што ўбачыў, з яго Піваваравым, напэўна, вельмі недарэчна было бачыць у гэткай позе байца, здавалася, гэта нехта другі, выпадковы, чужы тут чалавек.

Але ўсё ж гэта быў ён, яго апошні баец, яго Півавараў. Ён нерухома ляжаў у разадраным сваім маскхалаце, без шапкі, з абсыпанай снегам стрыжанай галавой, раскінутымі нагамі. Лейтэнант не адразу заўважыў, што снег вакол быў густа патаптаны мноствам чужых ног і ў ім дзе-нідзе чарнелі маленькія круглячкі аўтаматных гільзаў.

Давалокшыся да быльнягу, Іваноўскі выпусціў з рук вінтоўку і ўпаў побач з байцом. Замерзлымі чужымі пальцамі ён ашчаперыў яго галаву, прыўзняў, але, запарушаная снегам, яна даўно, мабыць, страціла ўсе адзнакі жыцця і была проста мёртвай галавой чалавека, пазбаўленага ўсякага падабенства з яго Піваваравым. Іваноўскі пачаў абмацваць ягонае цела – падраны маскхалат змерзся ў крыві, ватоўка таксама прымерзла да акрываўленага цела, напэўна, з блізкай адлегласці расстралянага аўтаматнай чаргой. Снег пад Піваваравым таксама пабраўся цвёрдымі, намерзлымі камякамі.

– Што яны з табою зрабілі! Што яны зрабілі! – шапталі

ягоныя вусны недаўменнае, марнае цяпер пытанне.

Але што яны зрабілі, і так было відавочна. Мабыць, насцігнуты імі, Півавараў быў расстраляны ва ўпор. Магчыма таксама, што яны расстралялі яго параненым, на снезе, у гэтым быльнягу, і цяпер з мноства дзірак у яго ватоўцы тырчэла светлае клочча ваты, Кішэні штаноў былі вывернуты, гімнасцёрка на грудзях расшпілена, худыя скрываўленыя грудзі засыпаны снегам. Аўтамата ні ля яго, ні паблізу нідзе не было – аўтамат, напэўна, забралі немцы.

Зразумеўшы, што ўсё ўжо скончана і нікуды болей ісці не трэба, Іваноўскі абвяў, знясілеў і моўчкі сядзеў, паклаўшы рукі на снег. Побач ляжала змерзлае цела байца. Незвычайная апустошанасць авалодала лейтэнантам, ніводнага жадання, ніводнае выразнай думкі не з’явілася ў яго галаве. Хіба толькі недзе на сподзе яго пачуццяў ціхенька тлеў нейкі забыты вугольчык гневу. Гэты вугольчык, аднак, з часам разгараўся ўсё болей. Але ён ужо не меў канкрэтнай накіраванасці супраць кагосьці – хутчэй за ўсё гэта дагарала яго чалавечая крыўда на такі яго няўдалы канец. Цяпер Іваноўскі ўжо ведаў пэўна, што не ўратуецца, не праб’ецца да фронту, што і ягоная смерць будзе на гэтым жа полі, паміж дзвюх невядомых вёсак, і ніхто не раскажа людзям ні пра яго пагібель, ні пра гэты нямецкі штаб. Штабу, вядома, ніхто зрабіць нічога не зможа, таму што нашы далёка, а мёртвыя не маюць ніякай магчымасці што-небудзь зрабіць. І яму нічога не заставалася болей, як сядзець і чакаць, калі мароз і раненне адбяруць у яго апошнія рэшткі жыцця. Чымсьці гэта было нават зманліва, бо вызваляла ад знясільваючай барацьбы з немцамі, болем, сабой. Каб скончыць усё найхутчэй, варта было выцягнуць чаку з супрацьтанкавай яго гранаты і адпусціць планку… Яе моцны выбух разарве на шматкі іхнія целы, размяце вакол снег, выры́е ў зямлі невялікую ямку-варонку, якая і стане іх навечнай магілай. Калі яго фінал задоўжыцца або акажацца нестрываны – відаць, так і прыйдзецца зрабіць. Іншага ўжо не заставалася. І няхай яму даруе Радзіма, людзі – не яго віна, што не выпала яму лепшай

долі і не абышло яго тое самае страшнае на вайне, пасля чаго нічога больш не бывае.

Напэўна, ен бы неўзабаве і адубеў на марозным ветры і назаўжды застаўся б каля свайго напарніка, калі б у хуткім часе да яго слыху не данесліся з ветранай цішыні дзіўныя гукі. Магчыма, слых быў самым вынослівым з ягоных пачуццяў і дзейнічаў да апошняй мяжы жыцця; менавіта слых болей за ўсё звязваў яго з навакольным светам. Спярша Іваноўскі падумаў, што яму здалося, але, услухаўшыся, ён адагнаў ад сябе ўсе сумненні – на самай справе дзесьці вурчэла машына. І ён успомніў, як недзе мінулай ноччу ў полі яны напаткалі дарогу, якая іх прывяла ў вёску. Але дзе яна магла быць цяпер, тая дарога, ён не меў уяўлення. Тым не менш дзесьці яна была – зусім непадалёк у начной шэрай цемры па ёй ішла машына. Лейтэнант прыўзняў галаў і доўга напружана слухаў натужны маторны гул, пакуль гэты гул зусім не прапаў удалечы.

Гэта нечаканая падзея растрывожыла ягоную амаль ужо супакоеную свядомасць, новае супярэчлівае жаданне нарадзілася ў яго душы. Ён перастаў думаць пра сваё няшчасце, увесь насцярожыўся, гнеўная яго роспач паступова ўвасобілася ў мэту – апошнюю мэту яго жыцця, якой ён не мог занядбаць. Эх, калі б гэта адбылося раней, калі ў яго было трохі болей сілы!..

Баючыся спазніцца, ён заварушыўся на снезе, падцягнуў пад сябе параненую нагу, неяк абапёрся на рукі. Спярша стаў на калена, а затым спрабаваў устаць на ногі. Але ён не здолеў утрымаць раўнавагі і ўпаў плячом у снег, глуха, працяжна завыў ад болю ў грудзях. Хвілін дзесяць ляжаў, сцяўшы зубы і баючыся глыбей уздыхнуць, пасля пачаў караскацца зноў. Пасля трэцяй спробы яму ўдалося, ён нарэшце падняў сябе на дрыготкія свае ногі, пахіснуўся, але ўсё ж не ўпаў. Ён забыўся ўзяць вінтоўку, якая ляжала воддаль, ля ног Піваварава, але цяпер у яго ўжо не было ўпэўненасці, што, нагнуўшыся за ёй, ён не ўпадзе зноў. Падумаўшы, ён так і не наважыўся нагнуцца, каб не ўпасці, а хутка, нібы з разбегу, пайшоў па снезе.

З усяе сілы ён імкнуўся захаваць раўнавагу і ўтрымацца на нагах, але яму ўвесь час перашкаджаў моцны вецер. Здаецца, той усё мацнеў і часам так штурхаў яго ў грудзі, што ўтрымацца на нагах было немагчыма. І ён зноў упаў, можа, крокаў праз трыццаць ад Піваварава, тут жа спрабаваў падняцца, але не змог. Трываючы моцны боль у грудзях, паляжаў, угаворваючы сябе не спяшацца, счакаць, болей эканомна выдаткоўваць свае слабыя сілы. Але жаданне хутчэй дайсці да дарогі так моцна завалодала ім, што розум ужо быў для яго кепскі дарадца – цяпер ім кіравала пачуццё, якое рабілася мацнейшым за довады розуму.

І ён зноў падняўся, спярша на карачкі, затым на калені, пасля слабым рыўком і вялізным намаганнем – на абедзве нагі. Самае цяжкое было ўтрымацца на іх менавіта ў момант самага першага кроку – потым набывала сілу інерцыя цела, і першыя некалькі крокаў даваліся адносна лёгка. Але наступныя зноў замаруджваліся, яго вяло з боку на бок, і нарэшце ён падаў, выцягнуўшы перад сабой задубелыя ад марозу рукі.

Яго вымушаныя прыпынкі пасля падзення рабіліся ўсё болей працяглыя, часам здавалася, што ён ужо і не паднімецца болын, у прыцьмелай свядомасці часам зусім абрывалася адчуванне часу, і ён раптам прахопліваўся ад здзіўлення: дзе ён? Але затое ён цвёрда ведаў, куды яму трэба, і ні разу не зблытаў напрамку, у паўсвядомасці выразна памятаючы апошнюю мэту свайго жыцця.

Але аднойчы ён дужа балюча ўпаў і тут жа зразумеў, што ўстаць болып не зможа. На гэтыя ўставанні пасля падзення трацілася шмат сілы, якой у яго заставалася ўсё менш і менш. Ён лёг на пякельна-марозным снезе і ляжаў доўга. Напэўна, занадта доўга для таго, каб калі-небудзь устаць. Але ў самы апошні момант ён раптам зразумеў, што замерзне, і гэта спалохала яго; замерзнуць ён ужо не мог дазволіць сабе. Тады ён проста папоўз, грабучы локцямі і каленямі мяккі, пухнаты снег.

Неўзабаве, аднак, аказалася, што паўзці не лягчэй, можа, нават трудней, чым шкандыбаць на нагах – лейтэнант дарэшты выдыхся і цяпер падаў ніц. Гэта была бясконцая сляпая барацьба са снегам, але яна ж і мела перавагу перад хадзьбой – не трэба было ўставаць на ногі, што ашчаджала рэшту яго зусім ужо малой сілы. І ён гроб, заміраў на снезе і зноў гроб, пакуль хапала паветра ў лёгкіх. Увесь яго шлях складаўся цяпер з гэтага раз’юшанага капання ў снезе і працяглых прамежкаў паўзабыцця. Але свядомасць усё ж не выключалася надоўга, яна жыла мэтай яго апошніх хвілін і ўладарна дыктавала сваю волю пакутнаму яго целу.

Грудзі яго раздзіраў кашаль, але ён не мог ні ўздыхнуць, ні адкашляцца – ён баяўся прыступу болю, якога ўжо, напэўна, не вытрываў бы. Тым не менш аднойчы кашаль так моцна скалануў яго, што ён, задыхнуўшыся, упаў галавой у снег. Калі ён неяк адкашляўся, дык адчуў на вуснах штось саланавата-цёплае. Ён сплюнуў і выразна ўбачыў на снезе кроў. Намерзлым рукавом маскхалата выцер падбародак, зноў сплюнуў, але кроў усё ішла. На снег з падбародка цёк цёмны няхуткі струменьчык. Зусім ужо знясілены лейтэнант ляжаў на баку, разгублена адчуваючы, як памалу пакідае яго жыццё.

Аднак паляжаўшы так, ён зноў спалохаўся набліжэння найгоршага, хоць і ведаў, што калі-небудзь гэта павінна здарыцца. Але цяпер яго болей займала пытанне: дзе тая дарога? Яму трэба было паспець дабрацца да яе раней, чым яго напаткае смерць. Уся яго барацьба на гэтым полі, па сутнасці, была змаганнем са смерцю – хто абгоніць каго. Мабыць, цяпер яна дагнала яго і ішла па пятах, чакаючы моманту, каб ударыць напэўна.

Але – не! Чорт з ёю, з крывёй, можа, уся не выцеча. Ён адчуваў: штосьці ў ім яшчэ заставалася – калі не сіла, дык, можа, рашучасць. Ён праляжаў паўгадзіны, жуючы і глытаючы снег, каб спыніць кроў, і як быццам спыніў яе. Ад сцюжы крывіла сківіцы, адзервянела ўсё ў роце, але саланаватасць на вуснах знікла. Тады ён памалу,

спыняючыся, папоўз далей, цягнучы поруч на поясе адзіную сваю гранату.

Калі са снегавога паўзмроку перад ім выніклі шызыя сілуэты бяроз, ён зразумеў, што гэта дарога і што ён нарэшце дапоўз да яе. Вялікае напружанне амаль усёй ночы раптам апала, у вачах яго памутнела, ён аблёг прастрэленымі грудзьмі на снег у пракапанай ім баразне і заціх, страціўшы прытомнасць...

## 13

Усё ж ён ачнуўся, зусім адубелы ад марозу, і хутка прыпомніў, дзе ён і што яму трэба. Яго апошняя мэта жыла ў ім, нават калі знікала прытомнасць; ён толькі не ведаў, колькі мінула часу і на што ён здольны яшчэ. У першую хвіліну ён нават спалохаўся, падумаўшы, што спазніўся: над дарогай ляжала цішыня, ніадкуль не далятала ні гуку. У полі мяло, вакол шархацеў вецер, лейтэнанта занесла снегам, рукі яго так змерзлі, што ён не мог паварушыць пальцамі. Але ён памятаў, што павінен успаўзці на дарогу, толькі там яго шлях мог быць скончаны.

Зноў пацягнулася бясконцая барацьба са снегам. Іваноўскі поўз марудна, упарта, па метру ў хвіліну, не больш. Ён ужо так аслабеў, што не мог прыўзняць сябе на локцях і сунуўся па снезе бокам, упіраючыся болей нагамі. Болю ў параненай назе ён чамусьці не чуў – напэўна, там штосьці адбалела. Затое ў грудзях у яго ўвесь час пякло і паліла, усё там ператварылася ў клубок нестрыванага разбухлага болю. Ён вельмі баяўся, каб зноў не пайшла з горла кроў – адчуваў, што ўсе тады для яго скончыцца, асцерагаўся глыбей уздыхнуць, не мог дазволіць сабе адкашляцца. Ён ашчаджаў прастрэленыя свае лёгкія, як нешта самае неабходнае, ад чаго цалкам залежалі апошнія гадзіны яго жыцця.

Фізічна ён быў дужа кепскі і ведаў гэта. Прытомнасць яго, нібы канатаходзец на дроце, увесь час балансіравала над непрытомнасцю, гатовая кожную

секунду сарвацца ў нябыт, і лейтэнант вялізным намаганнем волІ асільваў сваю немач. Траціць прытомнасць, калі ён прыпоўз да самай дарогі, было ўжо занадта.

Пэўна, усё ж ён бы саўладаў з сабой і цяжка, паволі, але ўспоўз бы на дарогу, калі б не канава. Канава здрадніцкай пасткай пралегла на ягоным шляху. Іваноўскі ледзь не задыхнуўся, трапіўшы ў яе засыпаную снегам глыбіню, і закашляўся. Адразу ж адчуў, што пачалося крывацячэнне, тугі і агідны згустак выслізнуў з яго рота, і цёплы струмень крыві хутка пацёк з падбародка па шыі на снег. Ніц ён ляжаў на краі канавы і думаў, што нічога больш недарэчнага нельга сабе і прыдумаць. Гэтак цяжка, звыш усялякіх магчымасцяў паўзці ноч да дарогі, каб памерці за два крокі ад яе. Заўтра паедуць немцы, і ён замест таго, каб спаткаць іх з гранатай у руках, будзе ляжаць перад імі нікчэмным замерзлым трупам.

Прытомнасць яго зноў пачала марнець, і тут ужо не магло памагчы ніякае яго намаганне. Погляд заслала змрокам, увесь свет звузеў у яго адчуваннях да маленечкай, светлаватай кропкі, якая вельмі хутка меншала. І вось гэтая кропка пагасла. Але ўсё ж і на гэты раз штосьці перамагло ў ім смерць, і яго спакутаванае цела вярнулася да жыцця. Без жаднага намагання з ягонага боку кропка зноў засвяцілася, і ён раптам зноў адчуў вакол снег, сцюжу і сябе ў ёй, поўнага немачы і болю. Ён адразу ж заварушыўся, затузаўся, стараючыся ў што б там ні стала вырвацца са снегавой пасткі-канавы, успаўзці на дарогу. Пакуль ён быў жывы, ён павінен быў заняць апошнюю сваю пазіцыю і там скончыць жыццё.

І ён усё ж выбраўся з гэтай канавы, бокам узваліў на дарожны край цела, прапоўз яшчэ крокі чатыры і аціх, ужо не маючы ніякае сілы. Але пад ім была каляя, ен добра адчуваў яе сваім целам, аб’ехаць яго было немагчыма. Тады ён коратка, сцішана ўздыхнуў і пачаў рыхтаваць гранату.

З гранатай, аднак, давялося папакутаваць доўга, можа,

яшчэ даўжэй, чым у канаве. Непаслухмяныя, памарожаныя пальцы яго, здаецца, зусім страцілі адчуванне, некалькі хвілін ён марна імкнуўся развязаць імі кавалак бінта, якім граната была прывязана да дзягі, але так і не здолеў яго развязаць. Пальцы слепа блукалі па сцягне, ён нават не мог намацаць імі канцы завязкі, і гэта было так неверагодна і так жахліва. Ён ледзь не заплакаў ад такой нечаканай здрады ўласных рук, але сапраўды, рукі першыя пачалі не слухацца яго. Тады ён локцем упёрся ў важкі кругляк гранаты і, сабраўшы ўсе сілы, якія яшчэ былі ў яго, даўлянуў ім на гранату ўніз, да сцягна. Штосьці там лопнула, і ен адчуў, што, адарваўшыся ад дзягі, граната ляжала ў снезе пад ім.

Але, відаць, ён надта многа патраціў на тое сілы і больш нічога не мог. Ён доўга ляжаў у каляіне, якую замятала віхурай, і думаў, што так яго, мабыць, і замяце снегам. Зрэшты, цяпер няхай замятае, спяшацца ўжо не было куды, ён дасягнуў сваёй мэты, – цяпер толькі б управіцца з гранатай. Няслушнымі, акалелымі рукамі ён усё ж намацаў яе металічную ручку, але чаку разагнуць не здолеў. Тады ён падсунуў гранату да падбародка і зубамі ўпіўся ў загнутыя канцы чакі.

Раней яму даволі было б кароткага руху двух пальцаў, каб разведзеныя гэтыя канцы выпрасталіся і іх можна было выцягнуць з рукаяткі. Цяпер жа як ён ні біўся, нічога з імі зрабіць не мог. Яны быццам прымерзлі там, нібы іх прыпаялі наглуха, і ён, выламваючы зубы і раздзіраючы дзясны, паўгадзіны грыз, круціў, выгінаў непадаткія канцы драціны. Напэўна, толькі пасля сотай спробы яму ўдалося захапіць абодва канцы зубамі і сціснуць іх у адно. Увесь час ён вельмі баяўся, што не паспее, што на дарозе з’явяцца немцы і ён ім нічога не зробіць. Немцы, аднак, не паявіліся, і калі граната была гатова да дзеяння, ён пачаў настойліва, цярпліва чакаць.

Але чакаць аказалася ці не самым цяжкім з усяго, што яму выпала ў гэтую ноч. Чуйным, абвостраным слыхам ён лавіў кожны гук у полі, ды апроч несціханага шуму ветру ніякіх гукаў вакол не было чуваць. Дарога, што

вымусіла яго на звышмагчымыя намаганні і да якой ён гэтак імкнуўся, ляжала пустая. Усё навокал сціхла, заснула, толькі снегавая крупа аднастайна шархацела па намерзлай тканіне яго халата, паволі замятаючы яго ў каляіне.

Ён усё ўслухоўваўся, але па-ранейшаму нічога не чуў, і тады з'явілася панылая думка, што, відаць па ўсім, да раніцы тут ніхто і не паедзе. Не такая гэта дарога, каб па ёй ездзілі ноччу, хіба што нехта выткнецца ранкам. Раніцай, напэўна, павінен хто-небудзь выехаць з гэтага штаба або паехаць туды; не можа ж штаб абысціся зусім без дарогі. Але колькі яшчэ заставалася да гэтага ранку – гадзіна ці пяць – ён не меў уяўлення. Ён вельмі шкадаваў цяпер, што пакінуў у лазні гадзіннік; напэўна, гэта было зусім непрадбачліва. Не ведаючы часу, ён проста не мог разлічыць свае сілы, каб дачакаць раніцы.

Здранцвелымі пальцамі сціскаючы рукаятку гранаты, ён ляжаў грудзьмі на дарозе і чакаў. Вачэй ён амаль не расплюшчваў, ён і без таго ведаў, што навакол шэры снегавы змрок і нічога болей. У насцярожанай начной цішыні быў побра чуваць кожны гук у свеце, але тых гукаў, якіх ён чакаў, нідзе не было чуваць.

Лежачы на адным месцы, ён хутка пачаў траціць цяпло і мёрз, выразна ўсведамляючы, што мароз і вецер, напэўна, расправяцца з ім хутчэй, чым гэта зробяць немцы. Ён усё болей адчуваў гэта кожнаю клетачкай свайго наскрозь прамерзлага цела, якое не магло ўжо і дрыжэць. Проста ён неадступна, паслядоўна, паволі замярзаў. І ніхто не мог ні памагчы яму, ні ўзбадзёрыць, ніхто не даведаецца нават, як ён скончыў жыццё. Пры гэтае думцы Іваноўскі адчуў страх, бадай што спалох. Ніколі яшчэ ён не быў у такой адзіноце, заўжды ў цяжкую хвіліну хто-небудзь быў побач, заўжды было на каго абаперціся, з кім перажыць найгоршае. Тут жа ён быў адзін, як загнаны, падстрэлеыы воўк у бясконцым марозным полі.

Вядома, ён быў асуджаны на пагібель і разумеў гэта з дастатковай у яго стане выразнасцю, хоць і не вельмі шкадаваў аб тым. Выратаваць яго нішто не магло, ён не

спадзяваўся на цуд, ведаў, што для такіх, з прастрэленымі грудзьмі, цуду на вайне не бывае. Ён ні на што не спадзяваўся, ён толькі хацеў памерці не марна. Толькі б не замерзнуць на гэтай дарозе, дачакацца світанку і першай машыны з немцамі. Здорава, калі б гэта быў генерал, ужо Іваноўскі ўзняў бы яго ў паветра разам з шыкоўным яго аўтамабілем. На горшы выпадак прыгадзіўся б таксама палкоўнік ці які-небудзь важны эсэсавец. Мяркуючы па ўсім, штаб у вёсцы вялікі, важных чыноў там хапае.

Але для таго трэба было дажыць да світання, выстаяць перад д’ябальскай сцюжай гэтай жахлівай ночы. Аказваецца, пераjжыць ноч было так цяжка, што ён стаў баяцца. Ён баяўся змерзнуць, баяўся заснуць або надоўга страціць прытомнасць, баяўся болю ў грудзях, які падпільноўваў кожны ягоны рух, баяўся мацней кашлянуць, каб не сцячы крывёй. На гэтай праклятай дарозе яго пільнавалі спрэс небяспекі, якія ён павінен быў перамагчы, абхітрыць, адужаць, каб датрываць да ранку.

Рук сваіх ён амаль ужо не адчуваў, але цяпер пачалі дранцвець ногі. Ён паспрабаваў паварушыць пальцамі ў боце, але гэта яму не ўдалося. Тады, каб неяк утрымаць цяпло, што хутка пакідала цела, ён пачаў стукаць змерзлымі ботамі аб дарогу. У начной цішыні ззаду пачуўся глухі, устрывожаны грукат, і ён перастаў. Ног ён не сагрэў нікольkі, але самому стала кепска, і ён, адчуўшы, што траціць прытомнасць, апошнім намаганнем сунуў пад сябе гранату Гранату цяпер ён вымушаны быў берагчы больш за жыццё. Без гранаты ўсё яго існаванне на гэтай дарозе адразу страчвала сэнс.

Пасля глыбокага правалу ў свядомасці, за якім наступіў доўгі прамежак лІпкай, бяссільнай знямогі, ён зноў адчуў пранізлівы люты холад і амаль жахнуўся. Здавалася, гэтай ночы не будзе канца і ніякія ягоныя хітрыкі пе дапамогуць яму датрываць да ранку. «Але як жа можа так быць? – ледзьве не крычаў у ім поўны пратэсту, амаль роспачны голас. – Няўжо ж так нічога і

не выйдзе?» Дзеля чаго ж тады выдаткавана столькі яго намаганняў і яго сілы? Няўжо ж усе яны прападуць марна? Але ж яны прадукт яго матэрыяльнага «я» і самі, напэўна, матэрыяльныя, як кожпая энергія, яны ж – знясіленае яго цела і пралітая ім кроў, чаму ж яны павінны ў гэтым матэрыяльным свеце прапасці без следу?Ператварыцца ў нішто?

Тым не менш ён амаль пэўна ведаў, што ўсё скончыцца кепска, і адначасна адмаўляўся разумець гэта. Ён хацеў верыць, што ўсё, зробленае ім у такіх пакутах, павінна недзе адбіцца, у чымсьці выявіцца. Няхай не сёння, не тут, не на гэтай дарозе – можа, у іншым месцы, праз нейкі няпэўны час. Але ж павінна яго пакутлівая смерць, як і тысячы іншых, не меней пакутлівых смерцяў, прывесці да нейкага выніку на гэтай вайне. Інакш як жа гінуць у пустой безнадзейнасці адносна сваёй патрэбы на гэтай зямлі і ў гэтай вайне? Ён жа для чагось нарадзіўся, жыў, столькі змагаўся, цярпеў, праліў сваю гарачую кроў і цяпер у пакутах аддаваў жыццё. Павінен жа ў гэтым быць нейкі, хай не дужа каб значны, але ўсё ж чалавечы сэнс.

І ён раптам паверыў, што будзе. Што абавязкова будзе, што ніякія з чалавечых пакутаў не пазбаўлены сэнсу на гэтым свеце, тым больш салдацкія пакуты і салдацкая кроў, пралітая за гэту непрытульную, мерзлую, але ж такую сваю зямлю. Ёсць у гэтым сэнс! І будзе вынік, іначай не можа, бо іначай не павінна быць.

Яму б толькі дажыць да світання.

Тым часам мароз дабіраўся ўжо да яго нутра, і лейтэнант адчуваў гэта. Краем прыцьмелай свядомасці ён сачыў за тым, як сцюжа марудна, але няўхільна авалодвала яго абяскроўленым целам, і лічыў кароткія хвіліны, якія яму яшчэ засталіся. Аднойчы, расплюшчыўшы вочы, ён раптам здзівіўся і з натугай расплюшчыў іх шырай. Над полем світала. Цемра, якая, здавалася, век шчыльным покрывам аблягала зямлю, трохі прыўзнялася над ёй, у полі стала прастарней, праяснелася неба, і ў ім выразна адбілася заінелае вяршалле бяроз. У прытуманеную ранкам далячынь

імкнула перамеценая завеяй дарога.

Ухапіўшы ўсё гэта адным позіркам, які тым не менш амаль знясіліў яго, лейтэнант хацеў апусціць галаву, як раптам штосьці ўбачыў. Здалося спярша, што гэта машына, але калі ён лепей угледзеўся, дык зразумеў, што гэта фурманка. Стомлены працяглай увагай, ён палажыў галаву на снег, адчуваючы ў сабе збянтэжанасць, страх і надзею адначасна. Бялізнае, як прысуд, пытанне паўстала перад ім: хто едзе ў фурманцы? Калі сяляне, калгаснікі, дык гэта быў цуд, у які ён нядаўна яшчэ не хацеў паверыць: да яго набліжаўся паратунак. Калі ж немцы... Не, ён ніяк не мог сцяміць, чаму ў гэты ранішні час з вёскі, у якой атабарыўся вялікі штаб, павінны паявіцца з фурманкаю немцы? Усё ў ім паўстала супраць такога недарэчнага меркавання, бо цэлую ноч ён чакаў чаго хочаш, але ўжо не абозную фурманку з паклажай, да якой яму не было ніякае справы.

Тым не менш гэта была фурманка, і яна памалу да яго набліжалася. Ужо сталі відаць і запрэжаныя ў яе коні – пара ўкормленых рыжаватых біцюгоў, якія, махаючы кароткімі хвастамі, лёгка, амаль без натугі цягнулі за сабой груваства накладзены саломай воз. На самым яго версе сядзелі два немцы, адзін з іх варушыў лейцамі, і абодва яны ціха між сабой размаўлялі.

Іваноўскі заціх у каляіне, зусім аглушаны тым, што ўбачыў, такога нешанцавання ён не мог і прадбачыць. Пасля стolькіх смерцяў, пакут і перажыванняў замест базы боепрыпасаў, замест генерала ў шыкоўным «опель-адмірале» і нават штабнога, з партфелем палкоўніка, яму наканавана ўзарваць двух нягеглых абознікаў з возам саломы.

Але, мабыць, іншага ўжо не будзе. Па крайняй меры, для яго нічога ўжо не будзе. Ён рабіў свой апошні ўзнос – для Радзімы, у імя свайго салдацкага абавязку. Іншыя, болей значныя ўзносы перападуць іншым. Будуць, напэўна, і вялізныя базы, і пыхлівыя прускія генералы, і ваўкаватыя эсэсаўцы. Яму ж выпалі абознікі. З імі ён і схопіцца ў сваім апошнім баі, зыход якога вырашаны

быў загадзя. Але ён павінен схапіцца – за сябе, за Піваварава, за забітых пры пераходзе перадавой Шалудзяка і Кудраўца. За капітана Волаха і яго разведчыкаў. Ды ці мала яшчэ за каго...

І ён зубамі выдраў з рукаяткі тугое колца чакі.

Фурманка паволі набліжалася, і, здаецца, з воза яго ўжо заўважылі. Немец з паднятым каўняром шыняля, што сядзеў да яго бокам, яшчэ гергетаў нешта, а другі, у насунутай на вушы пілотцы, што кіраваў коньмі, ужо выцягнуў шыю, углядаючыся ў дарогу. Іваноўскі сунуў пад жывот гранату і ляжаў, не крануўшыся. Ён ведаў, што здаля не дужа прыкметны ў сваім масхалаце, зноў жа, у каляіне яго трохі прымяло снегам. Стараючыся не варухнуцца і амаль зусім перастаўшы дыхаць, ён затаіўся, прыплюшчыў вочы; калі заўважылі, няхай падумаюць, што ён мёртвы, і пад’едуць бліжэй.

Але бліжэй яны не пад’ехалі, а крокаў за дваццаць спынілі сваіх біцюгоў і нешта закрычалі яму. Ён па-ранейшаму не варухнуўся і не азваўся, толькі неўпрыцям за імі сачыў прыплюшчапымі вачыма, амаль з пяшчотай адчуваючы пад сабой выратоўчы кругляк гранаты.

Не дачакаўшыся адказу, адзін з немцаў, што сядзеў на возе з паднятым каўняром шыняля, узяў карабін і задам споўз на дарогу. Другі застаўся на возе з лейцамі ў руках, і лейтэнант прамычэў ад прыкрасці. Атрымлівалася і яшчэ горш, чым ён думаў: да яго ішоў адзін. Іваноўскі ўнутрана сцяўся, у вачах яго пазмрачнела, дарогу і бярозы пры ёй чамусьці павяло ўбок. Але ён неяк утрымаўся ў прытомнасці і чакаў.

Немец тым часам лязгнуў затворам, штось крыкнуў і, матляючы поламі шыняля, пайшоў па дарозе. Карабін ён трымаў напагатове, прыкладам пад пахай. Іваноўскі патроху адпускаў пад сабой планку гранаты і моўчкі паўтараў, бы малітву: «Ну ідзі ж, ідзі...» Ён чакаў, увесь ператварыўшыся ў жывое ўвасабленне чакання, на іншае ён ужо быў не здольны. Ён не мог дакінуць да немца гранату, ён мог толькі ўзарваць яго разам з

сабой.

Аднак гэты абознік, відаць, быў не надта каб смелы і ішоў да яго так асцярожна, што, здавалася, кожную секунду мог павярнуць назад. І ўсё ж ён набліжаўся. Іваноўскі ўжо бачыў няголены, нейкі заспаны ягоны твар, заінелыя гузікі на шынялі. Далёка яшчэ не дайшоўшы да лейтэнанта, ён зноў штось гукнуў і спыніўся. У наступнае імгненне лейтэнант ледзь не закрычаў ад крыўды, убачыўшы, як немец узнімае да пляча карабін і пачынае цэліцца. Цэліўся ён няўмела, надта старанна, ствол карабіна доўга хадзіў з боку ў бок; напарнік яго ўсё гергетаў штось з воза, напэўна, даваў парады. Іваноўскі па-ранейшаму ляжаў нерухома, шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на свайго забойцу, і слёзы роспачы кацілiся па яго твары. Вось ён і дачакаўся світання і сустрэў на дарозе немцаў! Усё канчалася недарэчна, подла і бяздарна, як ні ў якім выпадку не павінна было канчацца. Што ж яму цяпер заставалася? Устаць? Крыкнуць? Падняць угору рукі? Або ціха і пакорна прыняць гэту апошнюю кулю ва ўпор, каб назаўсёды знікнуць з твару зямлі?

Вядома, ён знікне, цяпер яму засталося некалькі лічаных секунд, за якімі настане Вечны Вялікі Спакой. У ягоным становішчы гэта было нават зманліва, бо адразу вызваляла ад пакут. Але застануцца жыць іншыя. Яны перамогуць, ім аднаўляць гэту зялёную шчаслівую зямлю, дыхаць на поўныя грудзі. І кахаць. Але хто ведае, ці не залежыць шчаслівы іх лёс ад таго, як памрэ на гэтай дарозе дваццацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?

Не, ён не ўстаў, таму што ўстаць ён не мог, і не крыкнуў, хоць, напэўна, мог бы яшчэ крычаць. Ён толькі здрыгануўся, калі ў ранішняй чуйнай цішы грымнуў вінтовачны стрэл і яшчэ адна куля ўпілася ў яго акрываўленае цела. Яна ўдарыла яму ў плячо, напэўна, разбіла лапатку, але ўсё роўна ён не паварушыўся і не застагнаў нават. У апошняй натузе сцяў зубы і назаўжды ўжо заплюшчыў заінелыя вейкі. З апошняй трапяткою надзеяй ён слухаў набліжэнне чужых,

незнаёмых крокаў і думаў, што, магчыма, яшчэ і не ўсё страчана, можа, яшчэ і ўдасца. Якісьці самы мізэрны шанец у яго яшчэ заставаўся. Памалу, вельмі асцярожна, трываючы новы пякельны боль, ён паварочваўся на бок, каб вызваліць з-пад цела гранату. І ён вызваліў яе якраз у той момант, калі крокі на дарозе сціхлі недзе паблізу. Ён адчуў тады побач тугі пружыністы рывок планкі, і тут жа нечакана гулка ляснуў узрывальнік. Немец коратка крыкнуў, мабыць, кінуўся прэч. Івано̆ўскі паспеў яшчэ ўчуць два яго спалоханых крокі і болей нічога не ўчуў... Праз некалькі секунд, калі асеў перамешаны са снегам пыл, яго ўжо не было на гэтай дарозе, толькі невялікая вароыка курылася на ветры ў адной каляіне; вакол на размеценым снезе ляжалі мёрзлыя камякі зямлі, фурманка з растрэсенай навокал саломай абярнулася набок, ля яе, спрабуючы ўстаць на ногі, біўся ўкормлены рыжы біцюг, а за канавай ляжаў ніц адкінуты выбухам труп немца. Другога не было відаць...

## Воўчая зграя

### 1

У гаманлівым людскім патоку ён памалу ішоў, куды ішлі ўсе, – па пероне, уздоўж вакзала, праз металічныя веснічкі на прывакзальную плошчу. Але на плошчы натоўп пасажыраў рассыпаўся ў розных кірунках – да аўтобуса, у памяшканне вакзала, на стаянку таксі, у багажню, – і ён замарудзіў хаду. Ён не ведаў, куды трэба далей – пехатой па вуліцы ці да прыпынку аўтобуса. Ён паставіў на гарачы, у масляных плямах асфалып свой няновы, з металічнымі навугольнікамі чамаданчык і агледзеўся. Мусіць, трэба было спытаць. У кішэні яго ляжала добра-такі пацёртая паперка з адрасам, але адрас ён ведаў на памяць і цяпер прыглядаўся, у каго б запытацца.

Людзей было шмат, і ўсе беглі, ішлі, міналі яго з такім спехам, з такім клопатам па маладых і старых,

мужчынскіх і жаночых тварах, што ён доўга і нерашуча ўзіраўся ў іх, перш чым выбраў пажылога, мусіць, як сам, такіх жа гадоў, чалавека, які разгарнуў газету, адышоўшыся ад кіёска.

– Скажы... Скажыце, калі ласка, як на вуліну Касманаўтаў папасці? Пехатой ці, мбжа, аўтобусам?

Чалавек падняў ад газеты не дужа ветлівы твар і панад акулярамі строга паўзіраўся ў яго. Адказаў не адразу: можа, успамінаў вуліцу, а можа, прыглядаўся да незнаёмага, яўна не тутэйшага чалавека ў шэрым грубаватым гтіжаку і шэрай кашулі без гальштука, зашпіленай да каўняра на ўсе гузікі, хоць было цёпла, бадай, пават горача. Пад гэтым нядоўгім, але пільным позіркам ён адразу пашкадаваў, што не завязаў гальштук, які ў яго, можа, гадоў восем без патрэбы вісеў на цвіку ў шафе. Ды і жонка казала, што цяпер у горадзе ўсе ходзяць з гальштукамі, але ён проста не любіў ды і не ўмеў іх завязваць і паехаў так, як хадзіў дома ў святы: у шэрым, яшчэ ніштаватым гарнітуры і першы раз надзетай, хоць і даўно ўжо купленай, шэрай нейлонавай кашулі. На станцыі, аднак, зразумеў, што гарадскія апрапаліся інакш – ці ў лёгкія кашулі з кароткімі, да локцяў рукавамі, ці з прычыны выхаднога – у белыя кашулі з гальштукамі. Але невялікая бяда, думаў ён, не хапсгла яшчэ клопату многа дбаць пра сваё адзенне...

– Касманаўтаў, Касманаўтаў... – сказаў чалавек, прыпамінаючы, і азірнуўся. – Вунь сядайце на аўтобус. Сямёрку. Даедзеце да плошчы, там пяройдзеце на другі бок, дзе гастраном, і перасядзеце на адзінаццаты. Адзінаццатым праедзеце дзве астаноўкі, а там запытаеце. Там прайсці метпраў дзвесце.

– Дзякуй вялікае, – сказаў ён, хоць і не дужа запомніў увесь гэтпы не простпы для яго маршрутп, але ён не хацеў затпрымпіваць занягпага, відаць, чшавека, пгольні запыгпаўся яшмэ:

– Гэта далёка? Кіламетры два-тры?

– Ну якіх тры? Можа, паўтара якіх.

– Тады штпо ж ехаць? Я – пехатой, – узрадаваўся ён, што гэтая вуліца была не так і далёка, як яму здалося спачатку.

Ён нетаропка пайшоў па тратуары, стараючыся сваім чамаданчыкам меней замінаць людзям, якіх на гэтай вуліцы было даволі-такі многа. Зрэдку ішлі па адным, а болей па два-тры, а то і групамі – маладыя і старэйшыя, усе прыкметна спяшаліся, і, як ён неўзабаве заўважыў, усе насустрач яму, некуды ў бок вакзала'; з вакзала ж ішло зусім мала. Прыкмеціўшы гэтую асаблівасць, ён прыслухаўся да размоў поруч, але размовы былі адрывістыя і таропкія – бесклапотныя жарты, смех, не дужа яму зразумелыя рэплікі. Ля харчовага магазіна, які трапіўся па дарозе, народу было яшчэ больш – пераважна мужчын; ён зірнуў праз вялізную шыбу і здзівіўся – там аж гуў цэлы натоўп ля прылаўка. Усё гэта падобна было на нейкую падзею ці свята; карцела запытацца, але ўсё ішлі кампаніі, групкі занятых сабой і, пэўна, нечым узбуджаных людзей, і запытацца не было ў каго. Некаторыя ненадоўга спыняліся каля вялізнага стэнда з рэкламай, на якім яшчэ здалёку можна было прачытаць: «Ф у т б о л!» 27 чэрвеня на стадыёне «Дынама» сустрэча нейкіх каманд, і ён зразумеў, што неўзабаве, мусіць, – пачатак гэтай сустрзчы, таму такая беганіна на вуліцы.

Футболам ён мала цікавіўся, нават па тэлевізары не вельмі глядзеў яго, і не мог зразумець некаторых заядлых аматараў, якія дужа перажывалі за пэўную каманду, нібы там іграў іх сват, брат ці хоць бы добра знаёмы. Для яго ж не было розніцы, хто каго пераможа; сёння адны, заўтра другія – ці варта перажываць?

Але гараджане, мусіць, ставіліся да гэтага інакш, і па вуліцы проста цялска было прайсці – чым меней заставалася да пачатку матча, тым хутчэй імчаліся людзі, пераважна маладыя мужчыпы, сярод якіх, аднак, траплялія і жанчыны таксама. Паўнюткгя аўтобусы ледзьве паўзлі, у незачыненых дзвярах віселі людзі. Затое назад аўтобусы ішлі амаль што пустыя. Ён ажно

спыніўся на рагу, паўзіраўся ў гэтую праяву гарадскога побыту і падумаў, што, мабыць, трэба не забыцца расказаць пра ўсё дома, як вернецца ў вёску.

Пасля ён доўга і нетаропка ішоў па тратуары. Каб залішне не пытацца ў людзей, пазіраў на вуглы дамоў з рознымі назвамі вуліц, пакуль не ўбачыў на сігіяй шыльдачцы надрукаванае белым: «вул. Касманаўтаў». Але нумар дома быў іншы, ён прайшоў да наступнай будыніны і пераканаўся, што ісці трэба яшчэ далёка. І ён ішоў, спакваля назіраючы жыццё гэтага горада, у якім ніколі не быў і куды нават не думаў калі-небудзь прыехаць, каб не пісьмо пляменніка, што цяпер ляжала ў яго кішэні. Праўда, апроч адраса, пляменнік не паведамляў больш нічога, ён нават не дазнаўся, дзе і кім працуе той чалавек, якая ў яго сям'я... Ну але што мог даведацца хлапец-студэнт, які выпадкова натрапіў на знаёмае прозвішча ў газеце і атрымаў адрас у міліцыі. Вось цяпер ён сам пра ўсё і дазнаецца – дзеля гэтага і ехаў.

Найперш, вядома, яму дужа радасна, што таму ўдалося выжыць з вайны, і ён спадзяваўся, што далей жыццё да яго паставілася больш літасціва. Калі жыве ў такім доме, дык, мабыць, не апошні чалавек у горадзе, можа, нават які начальнік. Хоць, канечне, ён ведаў, што чалавек не вызначаецца толькі сваёй прафесіяй або пасадай, ёсць яшчэ характар, нораў, дабрата ці злосць – гледзячы што пераважае, тое і вызначае чалавечую годнасць. Цяпер гэта, можа, нават больш за іншае было для яго важна, як і для кожнага госця, які першы раз у жыцці, не званы і не чаканы, мае пераступіць незнаёмы парог. Але ён спадзяваўся на лепшае, бо сам быў спакойны і ўмеў паважаць другіх.

Прыглядаючыся да вялізных, пяці і дзесяціпавярховых будынкаў з белай сілікатнай цэглы, да мноства балконаў, застаўленых у каго чым – раскладушкамі, старымі крэсламі, столікамі, рознай хатняй непатрэбшчынай, аблытаных вяроўкамі, на якіх матлялася на ветры бялізна, – ён стараўся ўявіць сабе ягопую кватэру, вядома, з балконам, дзенебудзь на

высокім паверсе. На ягоную думку, чым кватэра вышай, тым лепш – болей сонца, чысцейшае паветра і, галоўнае, далёка відаць – калі не да краю, дык, пэўна, да палавіны горада. Гадоў шэсць назад ён ездзіў да жончынай сястры ў Харкаў і дужа ўпадабаў там пазіраць на вуліцу з балкона, хоць той і быў не так высока, усяго на трэцім паверсе.

Цікава яшчэ, як яго прымуць...

Ён, вядома, пастукае ў дзверы, не надта каб гучна, не кулаком, а лепш костачкай пальца, як наказвала жонка перад ад'ездсш, і адступіць крыху назад, каб не лезці адразу ў дзверы, калі тыя адчыняцца. Сваю кепку, вядома, ён зніме раней, можа, нават яшчэ ў пад'ездзе або на лесвіцы. Калі дзверы адчыняцца, ён найпершы запытае, ці тут жыве той, хто яму трэба. Добра, калі б адчыніў сам; мабыць, ён бы яго пазнаў, хоць мінула трыццаць гадоў – час, за які, можна сказаць, не было чалавека і стаў чалавек. Але ўсё роўна, мусіць, пазнаў бы. Ён памятаў яго бацьку, а сын павінен быць нечым падобны на бацьку. Калі ж адчыніць жонка або хто з дзяцей... Не, мабыць, дзеці яшчэ малыя...

Хаця, пэўна, могуць і дзеці, калі гадоў пяць-шэсць, чаму ж не адчыніць дзвярэй чалавеку? Тады ён запытае гаспадара і назаве сябе.

Тут, адчуваў ён, настане самае важнае і самае цяжкае. Па сабе ведаў, як гэта радасна і цяжка адначасна, калі так вось знянацку сустракаецца нехта знаёмы, даўні, забыты... І прыпамінанне, і здзіўленне, і нават крыху няёмкасці перад няўмолышю хадой часу, які не заўжды міласэрны да чалавека... Пасля яго, напэўна, папросяць зайсці, і ён пераступіць парог. Ну, вядома, кватэра ў іх харошая – розныя там паркеты, дываны, мяккія канапы, шкляныя дзверы – не горш, як і ў іншых у горадзе. У парозе ён пастравіць свій чамаданчык і зніме гамашы. Абавязкова трэба не забыцца скінуць гамашы, на гэта асабліва напірала жонка, калі праводзіла яго ў дарогу. А то, казала, дома ён прывык перціся ў кірзе ці гуме ад парога да стала адразу, як след не выцершы абутак на ганку. Значыць, найперш трэба зняць гамашы.

Шкарпэткі ў яго новыя, купленыя перад паездкай у сельмагу за рубель і шэсцьдзесят шэсць капеек, са шкарпэткамі канфузу не будзе.

Далей пачнецца размова. Вядома, размова будзе нялёгкая. Ён нават не мог сабе ўявіць, колькі ні думаў аб тым, як і з чаго яны пачпуць тую размову. Ну, але там будзе відаць. Мусіць, яго паклічуць за стол, і тады ён вернецца да свайго чамаданчыка, дзе ўсю дарогу ціхенька булькае вялікая бутэлька з маляўнічай замежнай наклейкай да самага корка і люісыць сякі-такі вясковы гасцінец. Хоць і ў горадзе цяпер не голад, але вясковая каўбаска, слоічак мёду і тры харошыя, сушаныя ляшчы, пэўна, прыйдуцца гаспадарам даспадобы.

Трохі задумаўшыся, ён, мусіць, прайшоў занадтпа, бо замест шостага дзесятка дамоў згледзеў на рагу лічбу «88» і зразумеў, што даў лішку. Занепакоіўшыся, вярнуўся, хуткім крокам праміпуў скверык, нейкі меншы будынак з агромністым надпісам: «Парыкмахерская» на цэлы паверх, зазірнуў на лічбу. Але тут было зноў «76» – куды ж падзеўся цэлы дзесятак дамоў? Ён збянтэжана ўзіраўся ў лічбу, не ведаючы, куды падацца, і тады ўчуў ветлівы дзіцячы галасок ззаду:

– Дзядзя, а які дом вы шукаеце?

Ён павярнуўся і ўбачыў на тратуары дзвюх маленькіх дзяўчынак – адна беленькая, гадоў васьмі, памахвала вакол сябе сеткай з трохкутным пакетам малака і ўсмешліва пазірала на яго. Другая, чорненькая і трошкі вышэйшая за сяброўку, у кароткіх, як у хлопчыка, штоніках, таксама ўзіралася ў яго і ела з паперкі марожанае.

– Мне семдзесят восьмы дом трэба. Не ведаеце, дзе ён?

– Семдзесят восьмы ведаем. А які корпус?

– Корпус?

Пра корпус ён чуў упершыгію, пра корпус ён зусім не падумаў, запомніўшы толькі нумар дома і нумар кватэры. Які яшчэ корпус?

Каб пераканацца, што не памыляецца, ён паставіў на тратуар цяжкаваты свой чамаданчык і дастаў з унутранай кішэні пінжака пацёрты канверт, у якім ляжала пісьмо пляменніка з адрасам. Сапраўды, пасля нумара дома была яшчэ літара «К» і лічба «3», а пасля ўжо значыўся нумар кватэры,

– Во, здаецца, тры. Корпус тры. Так, здаецца?.. Дзяўчынкі абедзве разам зірнулі ў яго паперку і пацвердзілі, што корпус сапраўды трэці, і сказалі, што ведаюць, дзе гэты дом.

– Там Нэлька злая жыве, за грыбам-пясочніцай, – сказала чарнявая з марожаным. – Мы вам пакажам.

З некаторай няёмкасцю ён скіраваў за дзяўчынкамі. Яны абышлі рог дома, за якін аказаўся вялізны падворак і далей яшчэ мноства такіх жа пяціпавярховых дамоў з зялёнымі пляцоўкамі, дарожкамі, радамі маладых, некалькі гадоў назад пасаджаных дрэўцаў. На лаўках каля пад'езда сядзелі старыя і жанчыны, скрозь гуляла, аюўдала, шумела гаманкая дзятва, дзесь між будынкаў бахаў валейбольны мяч, і па асфальце імчалі хлапчукі на веласіпедах. Дзяўчаткі ішлі поруч, і меншая, заглядваючы ў ягоны твар, запыталася:

– А чаму ў вас, дзядзя, адна рука?

Другая адразу ж перапыніла яе сцішаным голасам:

– Як ты не разумееш, Ірка? Дзядзеву руку на вайне адарвала. Праўда, дзядзя?

– Праўда, праўда. Здагадлівая ты, маладзец.

– А ў нашым двары жыве дзядзя Коля, дык ён на адной назе ходзіць. Другую ў яго немцы адарвалі. Ён на маленькай машыне ездзіць. Маленькая такая машынка, трошкі большая за матацыкл.

– А майго дзядулю фашысты на вайне забілі, – сумна ўздыхнуўшы, паведсшіла меншая.

– Яны хацелі знішчыць усгх, але нашы салдаты не далі. Праўда, дзядзя?

– Праўда, праўда, – сказаў ён, з прыемнасцю слухаючы іх мілы дзіцячы шчэбет аб тым, што яму было блізка і знаёма. Меншая трошкі абагнала яго і павярнулася, усё махаючы вакол сябе сеткай з пакетам.

– А ў вас, дзядзя, ёсць медалі? У майго дзядулі было шэсць медалёў. На картачцы бачыла.

– Шэсць – гэта добра, – сказаў ён, каб не адказваць на яе прамое пытанне. – Значыцца, герой твой дзядуля.

– А вы? Вы таксама герой? – усмешліва жмурачыся ад сонца маленькім цікаўным тварыкам, дапытвалася меншая.

– Я? Ды які я герой! Я не герой. Так...

– Вунь гэты дом, – паказала чарнявая цераз зялёны падворак з маладымі ліпкамі на такі ж, як і ўсе тут, пяціпавярховы дом з шэрай сілікатнай цэглы. – Трэці корпус.

– Ну дзякуй вам, дзяўчапгкі. Вялікае дзякуй! – сказаў ён, амаль што расчулены. Яны абедзве разам ахвотна праспявалі сваё «паясаласта» і пабеглі па дарожцы ўбок, а ён, раптам усхваляваўшыся, запаволіў крок. Значыць, ужо блізка! Чамусьці захацелася адсунуць на нейкі час далей і гэты дом, і сустрэчу з тым, пра каго ён думаў, успамінаў, не забываўся ўсе гэтыя трыццаць гадоў. Але ён сцяў у сабе зачаткі маладушных пачуццяў – калі прыехаў, дык трэба ісці, хоць бы зірнуць адным вокам, павітацца і ўпэўніцца, што жыве чалавек, які і для яго, калі разабрацца, азначае нямала.

Спярша ён падышоў да рога і зверыў нумар у паперцы з тым, што чырвонай фарбай быў намалёваны на шурпатай цэгле. Дзяўчаткі яго не ашукалі: сапраўЬы, на сцяне было выведзена з падцёкам К-3. Ён схаваў

пісьмо ў кішэню, старанна яе зашпіліў на гузік, узяў чамаданчык. Цяпер трэба было знайсці кватэру, што, мабыць, таксама не проста ў гэткай аграмадзіне на сто ці болей кватэр.

Не дужа рашуча, азіраючыся па баках, ён скіраваў да першага пад'езда; перад дзвярыма спыніўся, сагнаўшы шэрага ката, які лянотна разлёгся ў цяньку ля парога. Перш чым адчыніць дзверы, аглядзеў розныя надпісы на іх, аб'явы пра нумар паштовага індэкса, пра тое, што, ідучы з дому, трэба выключаць электрапрыборы, прачытаў надрукаваную на машынцы аб'яву. «У сераду 26 чэрвеня ў чырвоным кутку мае адбыцца агульны сход жыхароў, прысвечаны добраўпарадкаванню тпэрыторыі двара». Вышэй над уваходам быў прыбіты нумар пад'езда з нумарамі кватэр у ім – ад першай да 20-й. Значыць, патрэбнай яму кватэры тут не было, і ён прайшоў уздоўж дома, прамінуў другі пад'езд і завярнуў у трэці.

На лавачцы ля дзвярэй сядзелі дзве старыя, шшедзячы на гарачыню цёпла апранутыя бабулі, адна нават з валёнкамі на пагах; другая трымала ў руках кіёк. Яны вельмі ўважліва, амаль падазрона ўгледзеліся ў яго, прыпыніўшы сваю ціхую гаворку. Але ён не запытаўся нічога – ён ужо ведаў, дзе што трэба шукаць, і зірнуў на шыльдачку над дзвярыма. Кватэры ад 40-й да 60-й – значыць, патрэбная была тут.

Зноў адчуўшы, як варухнулася ў грудзях сэрца, адчыніў дзверы і ўвайшоў у пад'езд.

На першай пляцоўцы было чатыры кватэрных нумары – ад 40-га да 44-га, і ёп паволі скіраваў вышэй. Ля акна віселі соты паштовых скрынак, з якіх дзе-нідзе тырчалі газеты, ён прыгледзеўся да іх нумароў і ўзрадаваўся: пяцьдзесят другая была тут, на трэцім паверсе.

На другой пляцоўцы ён трохі адпачыў, з нязвыкласці ўзяла задышка, нібы прынёс вёдры вады з крыніцы. Да таго ж ён не мог пазбавіцца ад дзіўнай няёмкасці, якая ўвесь час даймала яго так, нібыта ён ішоў з якой просьбай ці быў вінаваты ў чымсьці. Ведама, як ні

думай, як ні ўгаворвай сябе, а сустрэча мела адбыцца нялёгкая. Напэўна, было б лепш наладзіць яе на некалькі гадоў раней, ды раней хіба ён ведаў, дзе яго шукаць? І так дзякуй пляменніку, – а то дзе і калі б ён яго адшукаў? Пяцьдзесят другая кватэра была крайняя злева, як і ва ўсіх, фарбаваныя шэрай маслянай фарбай дзверы, акуратны палавічок ля парога, нумарок наверсе. Ён паставіў ля ног чамаданчык, перадыхнуў і, не адразу перамогшы ў сабе нерашучасць, ціха пастукаў костачкай пальца. Пасля, счакаўшы, пастукаў зноў. Здалося, недзе пачулася гаворка, але, услухаўшыся, ён зразумеў, што гэта гучала радыё, і пастукаў яшчэ. На гэты ягоны стук, аднак, адчыныіся дзверы суседняй кватэры.

– А вы пазваніце,– сказала з парога жанчына, таропка выціраючы фартухом счырванелыя рукі. Пакуль ён няўцямна азіраў дзверы, як тут пазваніць, яна пераступіла парог і націснула на маленькую кнопку званка, непрыкметна прыладжаную да вушака збоку. Усярэдзіне раздаўся прарэзлівы трэск, але і пасля гэтага дзверы пяцьдзесят другой не адчыніліся.

– Значыць, няма, – сказала жанчына. – Зранку малая тут бегала, ды пешта цяпер не відаць. Значыць, пайшлі куды ў горад.

Ён збянтэжана прыхінуўся да лесвічнай парэнчы і не ведаў, што рабіць далей. Неяк ён не падумаў раней, што іх можа не аказацца дома, што яны некуды пойдуць або паедуць. Зрэшты, звычайная справа. Хіба ён сам увесь дзень сядзіць дома? Нават і цяпер, калі выйшаў на пенсію.

Але, мусіць, рабіць тут ужо не было чаго,– не чакаць жа т гэтай пляцоўцы,– і ён завярнуў да прыступак. Суседка перад тым, як зачыніць свае дзверы, крыкнула следам:

– Во, дык футбол жа сёння! Ці не на футболе яны?

Можа, і на футболе або яшчэ дзе. Ці мала куды можна пайсці ў горадзе ў пагодны выхадны дзень – у парк, кіно, рэстаран, тэатр, цікавых мясцгн тут хапае, не тое

што ў вёсцы. А ён спадзяваўся, дурань, што яны трыццаць гадоў сядзяць дома і чакаюць, калі ён прыедзе да іх у госці.

Ён пратупаў уніз шэсць крутаватых лесвічных маршаў і выйшаў з пад'езда. Бабулькі пры яго паяўленні адразу спынілі сваю гаворку і зноў з перабольшанай цікаўнасцю ўгледзеліся ў яго. Але ён ужо не адчуваў няёмкасці, спыніўся на краі дарожкі і хвіліну думаў, што рабіць далей. Мусіць, усё ж трэба было пачакаць. Ногі пасля доўгай хады прасілі адпачынку, хацелася прысесці, ён згледзеў у глыбіні двара пад сцяной нейкага цаглянага хлеўчука здатную лаўку ў цяні і павольнай хадой прытомлешга чалавека пайшоў да яе.

Найперш ён паставіў па лаўку свой чамадапчык, пасля сеў сам і выцягнуў штруджаныя ногі. Тут ён палаяў сябе за тое, што паслухаў жонку і надзеў новыя гамашы, – трэба было ехаць у старых, разношаных. Цяпер шблага было б зняць іх з ног, але, азірпуўшыся, ён пасаромеўся: вакол былі людзі. Непадалёк, ля гаража, такой жа, як гэта, цаглянай збудоўкі два мужчыны завіхаліся каля растрыбушанага, з паднятым капотам і парасчынянымі дзверцамі «Масквіча», гаманіла дзятва ў недалёкай пясочніцы пад драўляным грыбам-мухаморам. Адсюль яму добра відаць быў пад'езд з бабулямі, і ён пачаў назіраць за прахожымі – здавалася, што ён іх пазнае, як толькі яны паявяцца ля свайго пад'езда.

І ён наважыўся нікуды не ісці, чакаць тут. Сядзець было зручна і не горача ў засені, можна было ўволю паназіраць за жыццём у новым гарадскім квартале, які ён упершыню бачыў і ў якім яго шмат што цікавіла. Праўда, думкі яго ўсё вярталіся ў даўгіяе сваё мінулае, якое, мусіць, навек звязала яго з тым чалавекам. Памятаў ён усё так, нібы яно здарылася ўчора – тры дзесяткі гадоў нічога не прыглушылі ў ягонай учэпістай памяці, тым болей што тое было самае яркае і, можа, самае значнае ў ягоным жыцці. Многа разоў ён перадумваў, успамінаў, пераасэнсоўваў гэта міпулае, кожны раз ставячыся да яго па-новаму. Нешта з

перажытага выклікалаў ім ціхі сорам за свае, можа, не зусім здатныя на цяперашні розум учынкі, нешта здзіўляла, а нешта было яго гонарам, зместам яго сціплай вайсковай годнасці. Усё разам яно і складала ягоную чалавечую сутнасць, з якой ён і дажываў свой век.

**2**

Памятае, тады яму дужа хацелася спаць, але толькі ён задрамаў пад елкай, як нехта яго паклікаў, быццам нават знаёмы па голасе чалавек, і сон ад яго адкаснуўся, гатовы ўжо і прапасці зусім. Ды не прапаў. Сон быў такі неадольны і з такой сілай авалодаў зморанай за тры дні Леўчуковай істотай, што ён не прачнуўся. Праўда, да соннай яго свядомасці ўсё ж даходзіла неспакойная лясная рэальнасць: шастанне голля ў зарасніку, нечая гаворка зводдаль, нямоцная, хоць і недалёкая страляніна, якая, зрэшты, не сціхала тут з першага дня блакады. Але Ляўчук знарок ашукваў сябе, што не чуе нічога, і спаў, нізавошта на свеце не хочучы без пары прачынацца. Яму трэба было паспаць хоць пару гадзін; здаецца, ён першы раз у жыцці займеў такое права на сон, якога цяпер, апроч хіба немцаў, не маглі пазбавіць яго ні старшына, ні ротны, ні нават сам камандзір атрада. Ляўчук быў паранены.

Параніла яго надвячоркам на Доўгай градзе, неўзабаве пасля таго як рота адбіла чацвёртую за дзень атаку і карнікі, пасцягваўшы з балацявіны сваіх параненых і забітых, трохі ацішэлі. Мабыць, яны чакалі якога загаду, і іхняе начальства задумалася. Зрэшты, было ад чаго. Не новая гэта на вайне справа, калі камандзір войска, чатыры атакі якога не далі выніку, адчуе патрэбу падумаць, перш чым аддаць каманду на пятую. Ужо трохі напрактыкаваны ў гэтакіх справах Ляўчук таксама адчуў у сваім неглыбокім, перавітым карэннем акопчыку на грудку, што карнікі выдыхліся і для роты, мабыць, настаў які-ніякі перадых. Сцяміўшы гэта, Ляўчук апусціў увесь дзень не адніманы ад пляча прыклад свайго «дзегцяра» і дастаў з кішэні ўсохлы і абкрышаны кавалак хлеба, які памалу і зжаваў увесь, з

засцярогай аглядаючы перад сабой нешырокі лясны прасцяг з асакой, хмызняком ды невялічкай імшарынай-балацявінай. Наедак з таго кавалка быў невялікі, і ўсё ж Ляўчук трохі замарыў чарвяка, і тады, як заўжды ў такім выпадку, закарцела курыць. Як на бяду, махорка ў яго скончылася, і ён, прыслухаўшыся, гукнуў суседа, што непадалёк сядзеў у гэткім жа неглыбокім пясчаным акопчыку пад хваіной і ад якога ў ціхім вечаровым паветры, здаецца, ужо пацягнула духмяным дымком самасейкі.

– Кісель! Кінь «бычка»!

Кісель неўзабаве кінуў, аднак не дужа ўдала – хваёвы сучок з зашчэмленым у ім «бычком» упаў, не даляцеўшы да акопчыка, і Ляўчук не без некаторай асцярогі пацягнуўся за ім рукой. Аднак каб дастаць, рукі не хапала, і ён, вылезшы плячмі з акопа, напяўся больш, каб дастаць далей. Якраз у той час штосьці імпэтна шчоўкнула пад яго рукамі, у твар пырснула пяском, лісцем і сухой ігліцай, і ў той жа час бахнуў недалёкі стрэл за балотцам. Кінуўшы праклятын «бычок», Ляўчук тузануўся назад, у акопчык, не адразу адчуўшы, як замакрэла ў рукаве і на прадплеччы, і тады, здзівіўшыся, згледзеў у пінжаку на плячы невялічкую дзірку – ад кулі.

– Ах ты, халера!!

Гэта было недарэчна і дзіўна, каб яго параніла, ды яшчэ гэткім несур'ёзным, амаль што бязглуздым чынам. Але так, параніла і, мабыць, добра, бо хутка кроў палілася з рукава па пальцах і па рукаве пінжака праз дзірку. Рука паволі мярцвела, быццам адлежаная, у пальцах дробненька закалола, нібы іх апанавалі мурашкі. Сеўшы ў акопчыку і ўсё лаючыся, Ляўчук леваруч як-кольвечы абкруціў нясвежай паркалёвай анучкай, у якой быў загорнуты хлеб, сваё плячо і сцяў зубы. Толькі спакваля да ягонай свядомасці пачаў даходзіць невясёлы сэнс ягонага ранення, узяла злосць на сябе за неасцярогу, а найбольш на тых, за балацявінай. Трываючы боль, Ляўчук схапіўся за кулямёт, каб добрай чаргой сакануць па лазняку, з якога яго гэтак вераломна

падпільнавалі, ды толькі здушана войкнуў. Ад дотыку кулямётнага прыклада плячо яго пранізаў такі боль, што ён раптам і відавочна зразумеў: больш ён не кулямётчык. Тады, не высоўваючыся з акопа, ён зноў гукнуў Кісялю:

– Скажы ротнаму: раніла! Раніла мяне, чуеш? Добра, што ўжо вечарэла, сонца пасля бясконцага спякотнага дня спаўзло за кустоўе, балацявіна ахінулася рэдзенькай кісяёй туману, праз які няшмат што і згледзіш. Немцы так і не пачалі сваёй пятай атакі, і, як стала цямнець, на грудок да Леўчуковага акопчыка прыбег ротны Мяжэвіч.

– Што, параніла? – прылёгшы побач на ігліцу, запытаўся ён, углядаючыся ў туманістую балацявіну, з якой несла парахавым смуродам і холадам.

– Ды во, у плячо.

– У правае? Ну.

Ротны вылаяўся, услухаўся, нешта падумаў і тут жа сказаў:

– Ладна, што ж! Дуй да Пайкіна. Кулямёт аддай Кісялю.

– Каму? Тожа нашлі кулямётчыка!

Ляўчук у гэтым загадзе адчуў штосьці для сябе абразлівае – аддаць яго спраўны, дагледжаны ім кулямёт Кісялю, гэтаму вясковаму дзядзьку, які і з вінтоўкай толькі нядаўна асвойтаўся, азначала для Леўчука зраўняцца з ім і ў астатнім. Але тады каму ж аддаваць? Мусіць бы, з кулямётам няблага ўправіўся Галашэеў Віцька, ды Галашэева два дні назад забіла мінай, а з іншых каго ні вазьмі, такія былі кулямётчыкі, як з яго лётчык. Ім шкада было даверыць паляўнічую дубальтоўку, не тое што гэты выдатнага бою, прыстраляны ім кулямёт. Зрэшты, чорт з ім, разважыў Ляўчук, цяпер яму малы клопат – цяпер ён паранены.

Рашыўшы так, Ляўчук з падкрэсленай абыякавасцю аднёс кулямёт і бляшаную скрынку з дыскамі пад

суседнюю хвою да Кісялёвага акопчыка, а сам у нязвыклай легцы пабрыў углыб лесу да ручая, дзе быў нейкі тыл гэтага абложанага карнікамі ўрочышча і дзе размяшчаўся доктар Пайкін з Верхаўцом – іх атрадныя «памочнікі смерці», як кпліва называлі дактароў партызаны. Мабыць, яны трохі і мелі рацыю, бо казалі, што Пайкін да вайны быў зубным урачом у раёне, а Верхавец раней наўрад ці калі трымаў у руках бінт. Аднак у атрадзе лепшых дактароў не было, і гэтыя два і лячылі, і перавязвалі, і нават, здаралася, адразалі ногі ці рукі, як таму вунь Крыцкаму, да якога падпала гангрэна. І нічога, кажуць, жыве недзе на хутары ў схове, памалу здаравее. Хоць і з адной нагой.

Пры ручаі каля будана санчасці ўжо сядзела некалькі чалавек параненых, Ляўчук дачакаўся свае чаргі, і доктар упоцемку, збольшага абцёршы пякучым перакісам вадароду скрываўленае плячо, туга абкруціў яго бінтам.

– Сунь руку за пазуху і насі. Нічога страшнага. Праз тыдзень можаш кувалдай махаць.

Каму не вядома, што добрыя словы дактароў часам лечаць лепей за іхнія лякарствы? Ляўчук, здаецца, адразу адчуў, як зменшыўся боль у плячы, і падумаў, што ўранку зноў вернецца на Доўгую граду ў роту, а спярша паспіць. Найперш ён хацеў выспацца – цяпер ён займеў на гэта поўнае права.

Пасля нядоўгай трывогі ён, здаецца, зноў задрамаў пад елкай на яе мулкіх пакручастых каранях, як зноў адчуў недалёкі тупат ног, галасы, шоргат калёс у кустоўі, нейкую мітусню побач. Ён пазнаў голас Пайкіна, а таксама новага іх начальніка штаба і яшчэ нечы, знаёмы, але спрасоння не адгаданы ім канчаткова.

– Не пайду я. Не пайду нікуды...

Клава Шарохіна, атрадная іх радыстка! Яе звонкі мілагучны голас Ляўчук пазнаў бы за кіламетр сярод сотні другіх галасоў, а цяпер яна была побач, у дзесяці кроках ад ягонай елкі. Сон Леўчукоў амаль што

мінуўся, хоць ён і не мог яшчэ расплюшчыць вачэй, толькі павёў пад ватоўкай балючым плячом і зацяў дыханне.

– Як гэта – не пойдзеш? Як не пойдзеш? Што ж мы тут табе радзілку адкрыем? – злосна гуў знаёмы басок іх новага начальніка штаба, нядаўняга камроты-адзін. – Пайкін!

– Я тут, таварыш начштаба.

– Адпраўляйце! Зараз жа адпраўляйце разам з Ціханавым! Да Язмінак неяк дабяруцца, а там у Лескаўца перабудзе. У Першамайскай.

– Не пайду! - зноў пачулася з цемры роспачна-жаллівае ў сваёй бездапаможнасці пярэчанне Клавы.

– Зразумейце, Шарохіна, – з лагодаю ўмяшаўся ў гаворку Пайкін. – Вам нельга тут. Вы ж самі сказалі: пара.

– Ну і хай!

– Заб'юць жа к чортавай матары! – здаецца, не на жарт зазлаваў начштаба. – На прарыў жа ідзём, на пузе паўзці прыйдзецца! Ты гэта разумееш!

– Хай забіваюць!

– Хай забіваюць – вы чулі? Мы яе ратуем, а яна думае, каб немцы забілі!

Настала прыкрая паўза, чутно было, як ціхенька хліпала Клава, недзе зводдаль ездавы разы два сцебануў каня, прабурчаў: «Каб цябе, ваўкарэзіна...» Пэўна, тут некуды збіраліся, параязджалі, ці што, але Ляўчук усё яшчэ не прачынаўся, не гнаў ад сябе сну і нават не расплюшчыў вачэй - наадварот, затаіўся, перацяў дыханне і чакаў.

– Пайкін! – паспакайнелым тонам сказаў з цемры начштаба. – Садзіце на воз і адпраўляйце. З Леўчуком адпраўляйце – калі што, ён дагледзіць. Але дзе Ляўчук?

Ты ж казаў - тут?

– Тут быў. Я перавязваў.

«Ну, во табе і паспаў!» – амаль з роспаччу падумаў Ляўчук, але ўсё яшчэ не крятаўся, нібы спадзеючыся, што, можа, замест яго паклічуць іншага.

– Ляўчук! Га, Ляўчук! Грыбаед, дзе Ляўчук?

– Ды тут недзе спаў! Я бачыў, – па-здрадніцку прагучаў сіпаты голас ездавога санчасці Грыбаеда, і Ляўчук моўчкі сам сабе вылаяўся: ён бачыў! Хто яго прасіў бачыць?

– Шукайце Леўчука! – распарадзіўся начштаба. – Кладзіце на воз Ціханава. І цераз грэблю. Пакуль яшчэ гэную дзірку не заткнулі. Ляўчук! – напаследак злосна гукнуў начальнік штаба.

– Я! Ну што? – таксама са злосцю, якую ён цяпер не лічыў патрэбным таіць, адгукнуўся Ляўчук і, не спяшаючыся, вылез з-пад навіслага да самай зямлі галля елкі.

У змроку лесавой ночы ні д'ябла не было відаць, але па невыразных рухах навокал, сцішаных галасах сям і там, нейкай трывожнай начной ажыўленасці ён ужо зразумеў, што стойбішча знімалася з месца. З-пад елак выехалі вазы, возчыкі, тупаючы ў цемры, запрагалі коней, нехта варушыўся паблізу, і па шорхаце плашч-палаткі, па рослай постаці Ляўчук пазнаў начальніка штаба.

– Ляўчук! Топкую грэблю знаеш?

– Ну, знаю.

– Давай Ціханава адвязеш. А то прападзе хлопец. У Першамайскую брыгаду адвязеш. Цераз грэблю. Разведка вярнулася, кажуць, дзірка, можна праскочыць.

– Ну во яшчэ! – з адкрытай непрыязнасцю сказаў Ляўчук. – Чаго я ў Першамайскай не бачыў! Я ў роту

пайду.

– Якую роту! Якую роту, калі ты паранены? Пайкін, куды ён паранены?

– У плячо. Кулявое касацельнае.

Ну во, касацельнае! Так што давай на грэблю. Во павозка пад тваю каманду. І гэта... Клаву захопіш.

– Тожа ў Першамайскую? – насцярожыўся Ляўчук.

– Клаву? – начштаба асекся. Мусіць, ён не меў пэўнай думкі, куды лепш адправіць гэтую Клаву, і тады з цемры ціха азваўся Пайкін:

– Клаву лепш бы ў вёску якую... Да бабы... Да якой вопытнай бабы...

– Бабы, бабы! – незадаволена перадражніў яго Ляўчук і адвярнуўся, леваруч пасоўваючы на дзязе груваcткую нямецкую кабуру з парабелумам, якая намуляла сцягно. – Не хапала яшчэ...

Наконт Клавы ён ужо ведаў, у чым была прычына, здагадваўся, толькі і ў сне не бачыў гэтага сабе клопату – усе ідуць на прарыў, а яму адбівацца невядома куды, аж у Першамайскую брыгаду, ды яшчэ пры такой кампаніі: Грыбаед, Клава, гэты дахадзяга Ціханаў... Ляўчук, як толькі прыйшоў паранены з Доўгай грады, прыкмеціў яго – дэсантнік ціха ляжаў каля будана санчасці, накрыты нейкай радзюжкай, з-пад якой тырчала яго, як цюрбан, абматаная папяровым нямецкім бінтам галава. Вочы яго былі таксама завязаны, ён не кратаўся і, здаецца, не дыхаў нават, і Ляўчук з незразумелай асцярогай прайшоў міма, падумаўшы, што, мабыць, адфарсіў дэсантнічак. Ды і гэтая Клаўка... Быў час, калі Ляўчук палічыў бы за шчасце праехацца з ёй які кіламетр па лесе, але не цяпер.

Цяпер Клаўка яго не цікавіла.

Вось жа чортава гэтае раненне, колькі яно задало яму

клопату, і, мяркуючы па ўсім, колькі яшчэ наперадзе! Ці блізкі свет гэта Першамайская брыгада, паспрабуй дабрацца да яе праз фашыстоўскую асаду, мала што кажа разведка: дзіра! Яшчэ невядома, якая і куды там дзіра, – сам з сабой разважаў Ляўчук. Лепш бы ён не паяўляўся ў гэтай санчасці і не аддаваў Кісялю свой кулямёт.

Ляўчук наважыўся ўжо быў пасварыцца ды вярнуцца ў роту, мабыць бы, ротны не выгнаў, і ён бы зноў ваяваў нароўні з усімі, чым перціся невядома куды. Але калі Ляўчук памкнуўся сказаць аб тым, дык сказаць ужо не было каму. Начштаба пайшоў, толькі затрашчала ў хмыззі яго плашч-палатка, а Пайкін і яшчэ хутчэй знік у цемры. Побач адно пасцёбваў хвастом па аглоблях конь, ля якога, папраўляючы збрую, тупаў Грыбаед ды, хуценька шморгаючы носам, стаяла ля воза роспачная, адзінокая Клава. Мабыць, яна чакала цяпер ягонай каманды сядаць, і Ляўчук, не зважаючы ні на кога, вылаяўся:

– Падсуропілі, начальнікі! Ну ладна, трасцу вашай матары!

## 3

Яны паехалі лесам чорт ведае куды і як: фурманка часам ледзь не пераварочвалася на нейкіх то ямах, то вываратінах, голле бязлітасна драла, шкрабло, сцёбала па возе і па седаках. Ляўчук, угнуўшы галаў, каб не выдрала вочы, і асцерагаючы пад накінутай ватоўкай плячо, ужо згубіў адчуванне напрамку. Добра, што Грыбаед, здаецца, ведаў тутэйшыя мясціны і не пытаўся пра шлях, конь некуды тупаў, з немалой натугай цягнучы за сабой воз — думалася, што едуць правільна. Ляўчук, яшчэ не адмяклы ад свае злосці, не размаўляў ні з кім, толькі слухаў, як бахала навакол і больш за ўсё ззаду; часам дзесь нізка загаралася ракета, і яе зыркае святло дзівоснай мітуснёй праносілася па вяршаллі дрэў, падсвечваючы і без таго светлаватае летняе неба.

Неяк прадраўшыся праз глухую гушчэчу, яны ўрэшце

ўзбіліся на лесавую дарожку, фурманка пайшла, спакойней, і Ляўчук усеўся трошкі зручней — пасунуўся, каб не навальвацца на нерухомае сцягно дэсантніка. Можна было падумаць, што той у непрытомнасці або заснуў, і Ляўчук ціхенька пацягнуў за ствол яго аўтамат, які замінаў і яму і параненаму, ды, мусіць, і Клаве, што месцілася ззаду фурманкі. Але як толькі Ляўчук пацягнуў трохі мацней, Ціханаў раптам ачнуўся, залапаў побач рукой і сцяў аўтамат за шыйку прыклада.

— Не... Не чапай!..

«Во дзівак! — падумаў са здзіўленнем Ляўчук, зрабіўшы выгляд, што аўтамат яго зусім не цікавіць. — Што ён за яго так трымаецца?..»

Папраўдзе, дык Ляўчук нічога не меў супраць, каб прыбраць да рук гэты аўтамат, бо ў самога быў толькі парабелум з дзвюма пачачкамі патропаў у запасе ды ў Грыбаеда тырчаў за спіной карабін. Можа, яшчэ ў Клавы быў які браўнінг — увогуле дужа не шмат для таго, каб прабіцца за дваццаць пяць кіламетраў да Першамайскай брыгады, асабліва калі за грэбляю немцы, а, мабыць, яно так і ёсць. Не можа быць, каб, блакіраваўшы ўрочышча, яны пакінулі грэблю адкрытай. Мала што дакладвае разведка...

Падумаўшы так, Ляўчук крануў Грыбаеда за локаць.

— Стой!

Ездавы пацягнуў лейцы, конь адразу спыніўся, яны трывожна ўслухаліся. Навокал было ціха, сціхала, здаецца, і пад Дубраўлянамі, дзе ўвесь вечар і ўночы ўсё джагала-ахала страляніна. Чутно было толькі задышлівае дыханне каня ды ціхі пошум начнога ветру ў голлі.

— Далёка да грэблі?

— Ды блізка ўжо, — сказаў Грыбаед, не паварочваючы да яго галавы. — Выгарыну праедзем, а там саснячок і

грэбля.

— Туды не паедзем, — раптам рашыў Ляўчук.

— Во як! А куды ж?

— Давай куды ўбок.

— Як жа ўбок? — падумаўшы, нязгодна адказаў Грыбаед, — па-ранейшаму нерухома седзячы спіной да воза. — Там балота.

— Паедзем цераз балота.

Грыбаед трохі падумаў і з відавочнай неахвотай звярнуў з дарогі каня. Але па бездаражы конь зусім не хацеў ісці, тым больш праз хмызняк, і ездавы, нешта мармычучы сам сабе, злез з воза і ўзяў каня за аброць. Ляўчук таксама саскочыў на дол і, асцерагаючы правую руку, палез праз голле наперад.

Ён сам не ведаў чаму, але ўпарта не хацеў ехаць на грэблю, калі б нават у бяспецы тае дарогі яго пераконвала сем разведак — грэбля не магла быць не занятая немцамі — гэта ён адчуваў усёй сваёй скурай. Праўда, ён не ведаў і іншай дарогі, недзе тут павінна было пачацца балота, а як пралезці цераз яго з канём і фурманкай, ён не меў уяўлення і толькі казаў сабе: там будзе відаць. Ён ужо надта добра зведаў на вайне, што многае робіцца ясным у свой час, на месцы, што ўсякі самы разумны план — мала значыць: як ні намячай, як ні абмазгоўвам, немцы ці абставіны ўсё перайначаць. Трэба было дзейнічаць, зыходзячы з канкрэтнасці, а будзеш, як сляпы плота, трымацца нейкага плана, дык хутка апынешся ў «магілёўскай губерні» і яшчэ пацягнеш за сабой іншых.

Грыбаед, аднак, мусіць, разважаў інакш, і пакуль прадзіраліся праз гушчар, надта ўжо незадаволена бурчаў на каня, абзываючы яго то ваўкарэзінай, то злыднем, то тузаючы яго за аброць, то ляскаючы па баках пугаўём. Леўчуку ўжо пачала надакучваць гэтая яго зласлівасць, і ён збіраўся прыкрыкнуць на ездавога,

як хмызняк скончыўся, пачалася лугавіна, наўкола пасвятлела, паяснела неба над галавой. Над роснай травой нізка стаяў золкі туман, пахла водарасцямі і багнай — наперадзе было балота.

Фурманка спынілася, а Ляўчук пайшоў па высокай траве, пакуль пад ботамі не пачало чвякаць, услухаўся. Не, наперадзе было ціха, у тумане драмалі купкі алешніку, недзе зводдаль па-начному прыцішана скрыпеў драч, іншыя птахі яшчэ ўсе спалі. Ляўчук прайшоў далей, пад нагамі ўсё мякчэла, большаў імшарнік, часам нага правальвалася па костачку; у правым дзіравым боце ўжо стала мокра. Але ехаць тут было можна, конь, мусіць, прайшоў бы, а за ім прайшоў бы і воз.

— Эй, давай там! — ціха гукнуў ён у шэры туманны паўзмрок.

Ён падумаў, што Грыбаед рушыць за ім, але, прайшоўшы яшчэ якую хвіліну, не ўчуў за сабой фурманкі і раззлаваўся. Відаць, гэты ездавы зашмат браў на сябе, каб не слухаць старшага, якім тут усё ж быў Ляўчук. Трохі счакаўшы, ён мусіў вярнуцца і застаў фурманку там, дзе і пакінуў яе — ускрай балотца. Здаецца, Грыбаед і не думаў ехаць і, ссутуліўшыся ў сваім кароткім нямецкім мундзірчыку, стаяў ля каня.

— Ты што?

— А куды ж ехаць?

— У балота?

— Якое балота? Трымае.

— Тут дык трымае, а далей — багна. Ужо я ведаю... Ляўчук зазлаваў — ён ведае! Багна — значыць, трэба перабірацца цераз багну, не сядзець жа тут давідна — хіба гэты чалавек першы дзень на вайне?

Але ён ведаў, што Грыбаед не першы дзень на вайне, што ён, можа, болей за іншых навучаны гэтай вайной, і гэта крыху стрымлівала Леўчука ад злосці на ездавога.

Ён толькі здзівіўся, калі пачуў, што Грыбаед нешта бурчыць пра грэблю.

— Сказалі ж, праз грэблю трэба. Так жа сказалі. А то — балота...

Ляўчук змяніў свой начальніцкі нецярплівы тон на сцішана-з'едлівы.

— На грэблю, кажаш, ага? Цябе колькі разоў стралялі? Двойчы стралялі? Ну дык во — на грэблі застрэляць у трэці. У трэці ўжо добра застрэляць,— І зласліва дадаў: — Што табе, немцы дурні, так грэблю пакінуць?

Грыбаед уважліва выслухаў яго, з поцягам, цяжка ўздыхнуў.

— Ну дык што ж! Я не проці, ды толькі як?

— Рухай за мной!

Фурманка паволі і амаль без шуму пакацілася па траве, але неўзабаве конь пачаў прыпадаць то на пярэднюю, то на заднюю нагу, якія часам правальваліся надта глыбока, і, каб выцягнуць іх, трэба было ўперціся астатнімі, і тады правальваліся тыя. І ён увесь час так і тузаўся, стараючыся ўзбіцца на цвярдзейшае, толькі цвярдзейшага тут, мабыць, заставалася ўсё менш. Клава таксама злезла з воза і ішла ззаду. Грыбаед, часта спыняючыся, вёў каня за аброць дакладна па Леўчуковых слядах. Але нарэшце настаў час, калі і Ляўчук спыніўся — пачыналася багна, купкі асакі; над балоцістым прасцягам паўзло нізкае клочча туману, між якога люстрана паблісквалі вокны стаячай вады.

— Ну во, уехалі! — выдыхнуў Грыбаед і аціх побач з канём, ад якога патыхала потам і парай, а конскія бакі хадзілі хадуном. Заднія яго ногі ўжо да каленяў асядалі ў багне.

— Нічога, нічога! Ану пачакай, хай конь адпачне. Ляўчук кінуў на воз ватоўку і, хапаючыся левай рукой за чэзлыя лазовыя кусцікі, смела палез у балота, беручы ўбок, крыху наўскос — так яшчэ можна было

трымацца. Ён ужо не ашчаджаў ног, якія да каленяў былі мокрыя, у ботах хлюпала і чвякала, замінала параненая рука, і ён трымаў яе засунутай за пазуху. Ён здорава праваліўся — ледзь не да пояса, але неяк выкараскаўся пад кустоўе дробнага алешніку, тут, здаецца, стала цвярдзей, пад нагамі быў які-ніякі грунт. Трэба было памеркаваць, у якім напрамку падацца далей.

— Эй, давай сюды!

Фурманка запялёхкала, конь спуджана зачвякаў нагамі, адразу праваліўся па самае чэрава. Ляўчук азірнуўся, падумаў: вылезе. Але не. Конь тузаўся, біўся, а вылезці з багністай ямы не мог. Тады ён, чвякаючы ў гразі ботамі, вярнуўся і, пакуль Грыбаед за аброць тузаў каня, упёрся здаровым плячом у зад фурманкі, натужыўся, сам ужо намачыўся па грудзі, і фурманка неяк наперакос выпаўзла з багны. Ззаду моўчкі, падабраўшы над белымі каленямі спадніцу, вылазіла на сушэйшае Клава.

— Ой, госпадзі!

— Ось табе і госпадзі! — знарок зласліва папікнуў Ляўчук. — Закаляйся, спатрэбіцца.

Ён зноў рушыў наперад, але цяпер тут скрозь было мокра і дрыгвяніста, і ён доўга лез цераз дрыгву, змакрэлы па пояс, шукаючы здатны шлях далей. Аднак здатнага шляху ўжо не было, ён прайшоў наперад крокаў мо сто, а берага нідзе не знайшоў — усюды была дрыгва, асака, травяністае куп'ё і шырокія вокны твані, над якімі курэў туман. Тады ён вярнуўся да фурманкі і ўзяўся рукой за аглоблю.

— Ану, рушылі!

Грыбаед тузануў за аброць, конік даверліва ступіў раз і другі, высіліўся з усяе моцы, воз трохі скрануўся і стаў.

— Давай, давай!

Яны ўдвух не на жарт упрэгліся разам з канём, Ляўчук

цягнуў за аглоблю, Грыбаед з другога боку за аброць і за гуж, конік біўся, тузаўся, усё глыбей патанаючы ў чорную гразь, якую ён каламуціў вакол нагамі. Але ён стараўся. Ён смела ішоў, здавалася, у самую прорву, куды яго ні вёў ездавы, звышконскім намаганнем цягнуў за сабой фурманку, якая ўжо па скрынку засядала ў дрыгве. Ужо ўсе былі ля яе па пояс у вадзе, ушчэнт перапэцканыя тванню, па твары і па спіне Леўчука ліўся пот. Ззаду, як магла, папіхала фурманку Клава.

Здаецца, яны да ранку пракараскаліся на гэтай бездані, а канца балоту ўсё не было. І тады наспеў час, калі яны ўсе спыніліся і змоўклі. Грузнучы ўсё глыбей, яны трымаліся за аглоблі і фурманку, а бедны іх конь выцягнуў наперад галаву, каб як дыхаць; здавалася, каб не воз ззаду, дык ён бы паплыў па гэтай багне. Толькі куды было плыць?

Паганы чарвячок вінаватасці і сумнення заварушыўся ў душы Леўчука, які пашкадаваў ужо, што сунуўся ў гэта балота. Можа, сапраўды, лепш было б ехаць на грэблю — авось і праскочылі б. А цяпер ні ўзад ні ўперад, хоць ты чакай світання. Ці кідай тут воз і нясі на сабе гэтага дэсантніка. Добра яшчэ, што не скардзілася Клава, трывала ўсё моўчкі і ў меру сваіх сіл неяк яшчэ папіхала фурманку.

— Во ўлезлі, дык улезлі!

— Я ж казаў, ага, — ахвотна падхапіў Грыбаед. — Улезлі, як дурні якія, як вылезем цяпер?

— Можа, з кіламетр праехалі, — азвалася ззаду Клава. — О божа, я ўжо не магу...

— Трэба назад, — сказаў ездавы. — А то і каня ўтопім, і гэтага. Дый самі. Тут ёсць вокны — ого! Па галаву — і яшчэ застанецца.

Ляўчук разгублена выціраў рукавом лоб і маўчаў. Ён сам не ведаў, што цяпер рабіць, куды падацца: назад ці ўперад. Ды і сілы ўжо амаль не заставалася ні ў каня, ні

ў людзей, яны ўжо выматаліся як мае быць. Сапраўды, чым так выкладвацца, падумаў Ляўчук, лепш бы паспрабаваць паткнуцца на грэблю.

— Чакайце! — крыху аддыхаўшыся, сказаў ён. — Я пагляджу.

Ён зноў палез у багну, стараючыся як мага менш пялёскаць у ёй, і ў адным месцы так шугануў, мабыць, у акно, што ледзьве не схаваўся ў ім з галавой. Неяк усё ж выкараскаўся на купіну, але і купіна дрэнна трымала яго, усё ніжэй асядаючы пад ваду — на такой купіне не доўга ўседзіш. Тады ён рэзка павярнуў убок, як здавалася яму, не ўпоперак, а ўздоўж балота, бо ўжо думалася не пра тое, як хутчэй адолець яго, а хоць бы не ўтапіць каня і не ўтапіцца самому. Сапраўды, тут, мабыць, была самая глыбіня, вадзяныя прагаліны сталі шырэйшыя, менш стала травы, а кустоўе лазы і алешніку зусім знікла. Тут ужо ў самы раз была б лодка, а не конь з возам, і Ляўчук каторы ўжо раз вылаяў сябе за неасцярогу.

Як няздатна ўсё атрымалася, мусіць, трэба вяртацца...

З гэтай яшчэ канчаткова не аформленай думкай ён і павярнуў назад і як-кольвечы дабраўся да фурманкі, якая цярпліва замерла сярод багны з дзвюма апануранымі постацямі ў тумане. Яны цярпліва чакалі яго рашэння, яго слова аб тым, куды і як рухацца далей, бо неўзабаве павінен пачацца ранак, і тады ім на голым балоце не месца.

Але Ляўчук яшчэ не дайшоў да іх і нічога яшчэ не надумаў, як недзе ў недалёкай начы імклівым рэхам пакаціўся па лесе стрэл. Праз секунду яму адказаў другі, траскотна ўдарыла кулямётная чарга, глуха і важка кахнуў мінамёт, і міна, завішчэўшы ў самае высі неба, неўзабаве разарвалася ў лесе. І тут пачалося: закалацілася, задзігала, загрукацела — дзіва, адкуль што і ўзялося ў гэтай соннай туманнай ночы.

Яны ўсе знерухомелі, дзе стаялі, Ляўчук, разявіўшы рот, упіўся ў ноч слыхам і хацеў што-небудзь убачыць,

але праз туманісты змрок нічога не было відаць. І раптам злая здагадка амаль узрадавала яго:

— На грэблі, ага?

— На грэблі, — паныла пацвердзіў Грыбаед.

Яны зноў сціхлі, знерухомелі перад агромністасцю начной бяды, якая абрынулася на іншых, а вельмі проста магла б абрынуцца на іх чацвярых. Цяпер усіх дапякала адна толькі думка: хто каго? Але тут, мусіць, і думаць не было чаго — стралялі немцы. Страчылі з таго, іх боку. Зноў жа, і мінамёты, — мабыць, у іх атрадзе не было мінамётаў. Значыць, нехта ўсё ж не ўтрымаўся ад спакусы праскочыць па гаці, паспадзяваўшыся на разведку, і цяпер вось расплачваецца. Цяпер там незайздросна.

І Ляўчук, здрыгануўшыся ад золкасці ці ад усведамлення свае нечаканай удачы, раптам са злым папрокам накінуўся на сваіх памагатых:

— Ну во, вашай матары! А вы — назад! Ану давай упярод! З усяе сілы ўпярод! Раз-два, узялі!

Прыслухоўваючыся да страляніны, яны зноў узяліся папіхаць і цягнуць фурманку, сцябаць і крычаць на знясіленага мокрага коніка. Аднак сілы іх былі ўжо не тыя, што спачатку, і фурманку, відаць, засмактала як мае быць. Марна правалэндаўшыся з ёю хвілін дваццаць, Ляўчук разагнуўся. Страляніна на грэблі ўсё калаціла лясны абшар. Тады ён, крыху спачыўшы, зноў палез у туман, беручы то ўлева, то ўправа, шырока мацаючы ў багне нагамі. Добра, што боты ў яго былі скураныя, не кірзачы, набрыняўшы цяпер у вадзе, яны селі, шчыльна абляпілі ногі і не звальваліся — інакш бы ён хутка застаўся босы. Ён рашыў найперш знайсці які шлях на бераг, калі толькі сам дзе не шусне з галавой у прорву, а пасля ўжо тым шляхам вывесці за сабой фурманку. Цяпер ён не зважаў на глыбіню, усё роўна па плечы быў мокры, ён толькі хапаўся рукой за куп'ё і дзе ішоў, а дзе плыў, рассоўваючы грудзьмі густую цёплую твань. Слых ягоны пры гэтым увесь час лавіў гукі бою

на грэблі, якія то заціхалі, то ўсчыналіся зноў, і не зразумець было, хто там браў верх. Можа, збілі нашы нямецкі заслон, а можа, заслон дарэшты перастраляў партызан.

«Ну і дурні,— думаў Ляўчук. — Чаго было перці ўсім на ражон, лепш ужо так, па балоце. Калі толькі там, за балотам, таксама не заселі немцы...»

Надзіва цяпер яму ўжо не здавалася страшным балота, хутчэй наадварот: страшнае было на дарозе, на грэблі, а балота не першы ўжо раз укрывала яго, ратавала, цяпер ён проста любіў балота. Калі б толькі яно не было бяздоннае і, вядома, не дужа бяскрайняе.

Неяк неўпрыцям ён згледзеў над туманам вяршалле кустоў і зразумеў, што гэта бераг. І сапраўды, праз якіх дваццаць крокаў балота ўраз скончылася, за нешырокай асакаватай паласой былі кусты алешніку, перад якім ляжала сенажаць, з пракосамі свежай травы. Ён не стаў нават вылазіць на сухое, узрадавана павярнуў назад, у багну, да свае фурманкі. Гэты раз ён ледзьве не згубіў яе, прайшоў у тумане міма і толькі тады пачуў ззаду ціхае пялёхканне каня і вярнуўся. Клава сядзела на паўзатопленым возе, відаць, ратавала ад вады дэсантніка. Грыбаед плёхаўся каля каня, не даючы, каб таго зусім засмактала багна.

Яны маўкліва дачакаліся, калі ён падыдзе бліжэй.

— Во што! — сказаў Ляўчук, хапаючыся за аглоблю,— Трэба паасобку. Распрагай каня, перавязём Ціханава, пасля, можа, фурманку. Бераг тут, недалёка...

**4**

Пачынала світаць, калі ў белым, нібы малако, згусцелым тумане яны выбраліся ўрэшце з балота. Непрытомнага дэсантніка вывезлі конна, узваліўшы на мокрую конскую спіну, з бакоў яго падтрымлівалі Грыбаед і Клава, Ляўчук вёў каня. Ездавы, апроч таго, валок дугу і сядзёлку, якія ён не захацеў кінуць у

балоце, дзе застаўся затоплены іх воз. Але воз яны мелі надзею знайсці ў якой вёсцы, быў бы конь ды збруя.

На беразе ў іх ледзьве хапіла сілы, каб зняць з каня абвялае цела дэсантніка, якога паклалі ў пракосе на ахопак волкай ад туману травы, і самі пападалі тут жа. Ляўчук задраў ногі, выліў з левага бота гразь, з правага яна выцякала сама праз дзірку. Грыбаед улетку хадзіў па-сялянску босы, і цяпер з нагамі не меў вялікага клопату, а выняўшы з вінтоўкі затвор, прадзьмуваў забіты гразёю ствол. Побач ціхенька ляжала Клава, і над усімі, нізка звесіўшы галаву і дыхаючы запалымі бакамі, стаяў іх конь з мокрым хамутом на шыі.

— Ну во! А вы казалі! — з няпэўнай задаволенасцю выдыхнуў Ляўчук.

Ён адным вухам лавіў нячастыя ўжо стрэлы на грэблі, а другім прыслухоўваўся да навакольнай, паволі святлеўшай прасторы — цяпер якраз пачыналася самае небяспечнае, бо тут на кожным іх кроку маглі аказацца немцы.

Стрымана пазіраючы сюды-туды, каб быць гатовым да ўсякай нечаканкі, ён левай рукой дастаў з адмяклай скуранай кабуры свой парабелум, абцёр яго аб траву. Дзве кардонныя пачачкі з патронамі раскіслі ў вадзе, і ён выкінуў іх, ссыпаўшы патроны ў кішэню. Затым падабраў з зямлі аўтамат Ціханава. Дэсантнік, здаецца, усё быў без памяці і толькі мармытаў нешта, пакуль яны валэндаліся з ім на балоце. Шкада, што пры аўтамаце быў усяго адзін дыск, Ляўчук адняў яго, паважыў у руцэ — дыск, мусіць, быў поўны. Патрохі яны адпачывалі, вяртаючы рэшту страчаных сіл. Але адпачынак нёс свае клопаты: рабілася холадна. Мокрая вопратка сцюдзяніла цела, а сушыцца пакуль што не было як, мабыць, давядзецца чакаць, калі ўзнімецца сонца. Хоць неба над лесам зусім паяснела, але да ўсходу яшчэ заставалася з паўгадзіны. І тады на сырым травяністым доле заварушыўся паранены.

— Піць... Піць дайце...

— Што? Піць? Зараз, зараз, браток. Зараз мы цябе напоім, — спачувальна азваўся Ляўчук. — Грыбаед, ану схадзі паглядзі, мо ручай дзе.

Грыбаед уставіў у вінтоўку затвор і нетаропка завалюхаў у тумане берагам, а Ляўчук зірнуў на Клаву, якая ціхенька дрыжала на пожні. Зачатак нейкага жалю ўшчыкнуў яго адчуванне, і ён скінуў з мокрага пляча падмочаную сваю ватоўку.

— На, ахініся. А то...

Клава ахінулася і зноў лягла бокам на травяны пракос.

- Піць! — зноў патрабавальна прамовіў паранены і ўсхапіўся, нібы спалохаўся чагось, Клава, прыўстаўшы, прытрымала яго.

— Ціха, ціха! Зараз прынясе піць.

— Клава? — па голасе пазнаў дзяўчыну дэсантнік. — Клава, дзе мы?

— Ды тут, за балотам. Ляжы, ляжы...

— Мы прарваліся?

— Амаль што. Ты не бойся.

— Дзе доктар Пайкін?

— Пайкін?

— Нашто табе Пайкін? — сказаў Ляўчук. — Пайкіна няма тут.

Ціханаў памаўчаў і раптам, нібы штось западозрыўшы, спалохана залапаў вакол па пожні.

— Аўтамат! Дзе мой аўтамат?

— Тут твой аўтамат. Куды дзенецца, — сказаў Ляўчук. Але паранены патрабавальна працягнуў руку.

— Дай аўтамат!

— На, калі ласка. Што толькі ты з ім рабіць будзеш? Слепа прыгробшы да сябе аўтамат, дэсантнік супакоіўся, але гэты яго супакой быў напружаны, як перад новым рыўком. І сапраўды, неўзабаве без усякай сувязі з папярэднім Ціханаў сказаў:

— Я памру, ага?

— Чаго гэта ты памрэш? — знарок грубавата папракнуў яго Ляўчук. — Вынесем, жыць будзеш.

— Куды... Куды вы мяне несяце?

— У адно харошае месца.

Ціханаў памаўчаў, быццам памеркаваў аб чымсьці, і патрабавальна сказаў:

— Паклічце доктара!

— Каго?

— Доктара! Пайкіна паклічце. Ці вы аглухлі? Клава!

— Доктара няма тут. Ён недзе пайшоў, — знайшлася Клава і лагодна пагладзіла дэсантніка па рукаве.

Той прыкусіў засмяглыя вусны і сказаў запалым голасам:

— Як жа?.. Мне трэба ведаць. Сляпы я... Нашто я сляпы? Я не хачу жыць...

— Нічога, нічога, — сказаў Ляўчук. — Яшчэ будзеш бачыць. Пацярпі крыху.

— Мне трэба... Мне трэба ведаць...

Паранены заціх на паўслове, Ляўчук з Клавай пераглянуліся — во яшчэ клопату! І Клава ціха сказала:

— Не пашэнціла Ціханаву.

— Яшчэ як сказаць, — не згадзіўся Ляўчук. — Вайна не скончылася, яшчэ невядома, каму пашэнціла, каму не.

Неўзабаве Грыбаед прынёс у шапцы вады, але дэсантнік ляжаў нерухома і не азваўся на яго прапанову напіцца.

Ездавы нерашуча патаптаўся з шапкай у руках, з якой па пальцах лілася вада, потым выліў яе на траву.

— Кацялка няма? — запытаў Ляўчук. — Няма.

— Эх ты, дзед-Грыбаед! Не запаслівы ты.

— Я такі дзед, як ты ўнук. Мне сорак пяць гадоў усяго! — здаецца, пакрыўдзіўся ездавы.

— Табе? Сорак пяць?

— Ну.

— Глядзі! А я думаў, што шэсцьдзесят. Чаго ж ты такі стары?

— Таго, — крыўдліва ўхіліўся ад адказу Грыбаед.

— Ну ладна, — уздыхнуў Ляўчук. — Трэба б паглядзець, мо дзе вёска якая?

— Залоззе тут недзе, — стрымана, быццам усё крыўдуючы, адказаў ездавы. — Ну. Недзе Залоззе павінна быць. Не спалена яшчэ было.

— Тады пойдзем.

— А калі гэта самае... А калі там немцы? Мусіць жа, іх тут налезла, як тараканаў. Хай іх чорт дзярэ!

Калі там немцы, дык ісці, вядома, не выпадала, напэўна, лепш было б разведаць спярша аднаму, а астатнім пачакаць дзе ў кустах. А то ў выпадку чаго з іхняю ношай не надта спрытна будзе, каб выкруціцца. Толькі чакаць тут, ля гэтай макрэдзі, было пакутай, да таго ж на пакошы заварушылася Клава.

— Ляўчук, трэба ісці, — са стрыманай, але пільнай патрэбай сказала яна.

— Ну во, бачыш! Трэба, значыць, ісці.

Яны памалу, па адным паўставалі на ногі, узвалілі на каня параненага, які і цяпер не выпускаў з рук аўтамата. Трымаючы зброю, Ціханаў супакоена аблёгся грудзямі на слізкую, выпацканую тваннню конскую грыву і звесіў долу рудую, у бінтах галаву. Абапал прытрымліваючы яго, яны павялі каня па пракосе на край пожні, дзе, здаецца, пачыналася поле — кустоўе там меншала. Ззаду за канём, неяк квола і асцярожна ступаючы, ішла Клава.

Неўзабаве між чэзлых альховых кустоў і ляшчынніку яны выбіліся на адкрыты ўзлесак у нейкім лагу і павярнулі ўбок, па-над кусцікамі, каб не надта вылазіць на адкрытае месца. Згаладнелы конь раз за разам угінаў галаву і на хаду хапаў з-пад ног хамлакі травы, паранены тады ледзь не падаў з яго спіны, і яны як-кольвечы ўтрымлівалі яго. Грыбаед злосна піхаў каня кулаком у бок.

— Ціха ты, ваўкарэзіна. Не нажарэшся...

Ну нашто так? — пярэчыў Ляўчук. — Ён жа жывы, есці хоча.

Тым часам развіднела. Тут, зводдаль ад балота, туману ўжо амаль не было відаць далей; убаку, над лесам, барвовым пажарам запалаў край неба, вось-вось павінна было ўзысці сонца. У суцэльнай ранішняй засені намоклых людзей люта прабірала золкасць і калацілі дрыжыкі. У мокрай вопратцы ісці было дужа нязручна, чвякалі ногі ў раскіслых ботах. У Леўчука да таго ж балела плячо. Стараючыся як мага меней ім кратаць, ён левай рукой прытрымліваў пад паху дэсантніка, а сам усё шарыў позіркам па баках, чакаючы, калі пакажацца тое Залоззе.

Але, мяркуючы па ўсім, мясціна тут была лясная і даволі-такі дзікаватая, мусіць, да вёскі яшчэ было далёка. І яны памалу ішлі і ішлі, пасля апантанае балотнай ночы ледзьве перастаўляючы ногі і з натугай адганяючы ад сябе сон. Ляўчук, збыўшы з галавы той клопат з балотам, цяпер трохі паспакайнеў і ўсё думаў, як там абышлося на грэблі: ці прарваўся атрад, ці не?

Калі не, дык сёння будзе там ліха, гэтых карнікаў наперла тут процьма, а ў іх даўно ўжо было тугавата з патронамі, а гранат дык і зусім, мусіць, не засталося. Камандзір увогуле правільна рашыў прарывацца, толькі каго яны пусцілі на грэблю, ці не тылы з санчасцю, якія, канечне, там і паляглі. Паспадзяваліся на разведку, называецца.

Некалі Ляўчук таксама быў у разведцы і ведае цану некаторых яе дакладаў. Ідуць у разведку, і многае, калі не ўсё, наконт ворага — цёмная ноч, а начальства патрабуе яснасці, ну і, вядома, шмат што залежыць ад фантазіі той самай разведкі. І ён раптам успомніў, як ранняй вясной, таксама будучы разведчыкам, ездзіў у Кіраўскую брыгаду па першую ў атрадзг рацыю, якую спецыяльна для іх прыслалі з Масквы.

Тая навіна наконт рацыі, памятае, нарабіла нямала радаснага клопату ў іх атрадзе — жарты сказаць, яны будуць мець сувязь непасрэдна з самым галоўным партызанскім штабам у Маскве. Узварушаныя камандзіры нават правялі з гэтай нагоды мітынг, выступалі партызаны, камісар Ільяшэвіч, — абяцалі, кляліся. У няблізкі паход для сустрэчы радыстаў вылучылі трох лепшых разведчыкаў на чале з Леўчуком, які тады таксама быў лепшы, не тое што цяпер. Надвячоркам перад выездам камісар з начальнікам штаба доўга інструктавалі іх: як ехаць, што ўзяць, як сябе паводзіць з гасцямі, што казаць і чаго не трэба. Такога інструктажу Ляўчук не памятаў ні да таго, ні пасля — адпраўлялі, як на самае важнае заданне, і яны хваляваліся, як не хваляваліся нават тады, калі ішлі, пераапранутыя, у Шаблоўскі гарнізон дамаўляцца з паліцаямі наконт пераходу тых на бок партызан.

Якраз быў сакавік, канец зімы, пачыналася прадвесне, удзень добра раставала, але ноччу пад ранак дарогі былі як шкло, санкі беглі са звонам і шоргатам, а цокат капытоў па лядку быў чутны за тры кіламетры. За адну ноч яны адмахалі шэсцьдзесят кіламетраў і з'явіліся ў штабе Кіраўскай, дзе і сустрэлі сваіх радыстаў. Старшы

з двух быў сяржант Ляшчоў — немалады перахлябісты чалавек з нездаровым тварам і пракуранымі да жаўцізны зубамі, які ім не спадабаўся з першага разу: надта ўжо дэталёва пачаў высвятляць, дзе немцы, як яны паедуць, а ці добрыя сані, і ці ўкормлены коні, і ці ёсць чым укрыцца, бо ў яго боты і гонкія анучы. Яны тады дасталі для яго папону і ўхуталі яго ногі саломай у санях, і то ён усё мёрз і наракаў на сырасць, клімат і спецыфічныя партызанскія ўмовы, якія яму былі не па натуры. Затое радыстачка ўсіх зачаравала з першага позірку: такая яна была ладная ў сваім новенькім беленькім кажушку і ў маленькіх валёначках, якія міла рыпелі на ранішнім марозіку, вушы яе ладнай цыгейкавай шапкі былі какетліва падвязаны на патыліцы, на лоб высыпалася гуллівая грыўка, а на маленькіх руках ладна сядзелі футравыя рукавічкі з белым шнурочкам, закінутым за каўнер кажушка. Не ў прыклад сяржанту, ёй тут усё падабалася, і яна без канца смяялася і распытвала, поўная захаплення ад лесу, бярэзніку, дзятла на хвоі. А калі па дарозе ўбачыла вавёрку, якая разгоніста лятала ў голлі, дык аж спыніла сані і пабегла за ёй па снезе, пакуль не прамачыла валёнкі. Яе смяшлівыя шчокі з ямачкамі падзіцячы расчырванеліся, а з прыгожых вачэй струменіла такая гарэзная вясёласць, што Ляўчук проста праглынуў язык і забыўся на ўвесь учарашні інструктаж. Ён пакутна перабіраў у галаве і не знаходзіў ніводнае здатнай фразы, якую было б дарэчы сказаць пры гэтай дзяўчыне. Іншыя таксама анямелі, аглушаныя яе дзявочай прывабнасцю, і толькі смылелі самасадам у возе, пакуль ехалі пушчай. Урэшце яна не магла не заўважыць гэтай іх ненатуральнай зацятасці і, яўна прытвараючыся, што не разумее, у чым тут прычына, спытала:

— Мальчики, ну что же вы молчите? Вроде не русские...

Тут яна, між іншым, трапіла ў кропку. З іх трох рускага

не было нікога, — быў украінец Зялёнка і два беларусы, Ляўчук і Мяжэвіч. І гэты Зялёнка, які, апроч як на сваёй роднай мове, не мог ні слова сказаць на іншай,

чамусь пажартаваў недарэчы:

— А мы — немцы!

І трэба ж было тады Леўчуку ў тон Зялёнку выкінуць свой яшчэ болей недарэчны жарт, аб якім і цяпер успамінаць прыкра, але хто ведаў, што так станецца? Седзячы ззаду ў санях, ён пры тых словах Зялёнкі расхінуў на сабе кажух, пад якім з зімы дзеля цяпла насіў суконны, з нейкімі галунамі і нашыўкамі нямецкі мундзір і гойкнуў:

— Хэндэ хох!

Не паспелі яны што сцяміць, як іх новы радыст кулём кульнуўся з саней і зашыўся ў градку маладога ельнічку за канавай. Збянтэжаны Зялёнка прытрымаў каня, яны моўчкі, нічога не разумеючы, прыўсталі ў возе і ўтаропіліся ў ельнік, адкуль, нацэлены на іх, ужо тырчаў варанёны ствол ППШ.

— Стой! Ни с места! — прагучэў адтуль здранцвелы голас напалоханага чалавека, які ў такім стане мог зрабіць немаведама што. І ў тое ж імгненне яны здзіўлена схамянуліся ад выбуху нястрымнага і залівістага па сваёй весялосці смеху. Радыстка залівалася хвіліну, не менш, аж паваліласся на салому на дне саней, і шапка з яе галавы ўпала на снег на дарозе, рассыпаўшы па каўняры кажушка цэлае бярэма светлых, ашчадна пастрыжаных валасоў.

— Ой, не могу!.. Ой, кончаюсь!..

Ужо заўсміхаўшыся, яны адначасова з засцярогай паглядвалі за канаву ў ельнічак, адкуль не адразу, з асцярогай у кожным руху вылез радыст і, не апускаючы аўтамата, стаў на дарозе, быццам не ведаючы, што рабіць, як рэагаваць на ўсё гэта і найперш на здзеклівы смех ягонай напарніцы.

Насмяяўшыся ўволю, яна падняла з дарогі шапку, акуратна падабрала ў яе бялявыя свае валасы.

— Ладно, Лещев хватит! Посмешили партизан...

Ляшчоў тады памалу апусціў аўтамат, падышоў і бокам сеў у самым задзе саней, быццам усё яшчэ не верачы, што ён дарма напалохаўся сам і дарма напалохаў астатніх. Усе няёмка маўчалі, толькі радыстка доўга не магла аддыхацца ад свайго гарэзнага смеху. А на другі дзень яна плакала.

Нейкі атрад на іхняй дарозе ўвязаўся ў бой з паліцаямі, і яны мусілі аб'язджаць гэтае небяспечнае месца, прыпазніліся і заначавалі ў знаёмай вёсцы ў сувязнога. Дзядзька хораша прыняў іх, напаліў у хаце і разаслаў на падлозе саламяны куль, на які яны і паваліліся спаць. Радыстка ж папрасілася на печ, маўляў, ніколі ў жыцці не спала на печы, дзе ўсё ёй было так незвычайна, цікава і нова. Яна доўга дапытвалася ў гаспадыні, як і што там награваецца, куды ідзе дым, якія і для чаго зёлкі тырчаць пад бэлькай і што ў мяшэчках у запечку. Перад тым як укласціся спаць, размеркавалі гадзіны варты ў двары, хоць дзядзька і ўзяўся сам ахоўваць іх у сваім доме, ды Ляўчук не хацеў спадзявацца на аднаго дзядзьку. Каб нікому не было крыўдна, ён, як гэта рабілі ў разведцы, кінуў жэрабя — кожны выцягнуў з яго шапкі паперку з напісанымі на ёй гадзінамі варты. Усім па пары гадзін за ноч — такое работы. Яна таксама захацела стаяць нароўні з усімі і выцягнула паперку чацвёртае змены ад трох да пяці — самы нязручны і санлівы час ночы. Ляўчук прапанаваў памяняцца, ён стаяў да трох, але яна нізашто не згадзілася, яна хацела нароўні з усімі выконваць свае партызанскія абавязкі. Ляўчук не надта настойваў, ён зважаў ёй ва ўсім і ноччу, адстаяўшы сваё, накалелы ад марозу зайшоў у хату. На чалесніку цьмела застаўленая засланкай газнічка, храплі на саломе хлопцы, ён ціхенька пратупаў на ўмерзлых падэшвах у запечча і паклікаў яе. Яна не азвалася, а інакш пабудзіць яе ён не мог, ён проста не адважваўся дакрануцца сваёй рукой да яе вастранькага ў гімнасцёрцы пляча якое вытыркалася з-пад коўдры. Паклікаў яшчэ раз, але яна так соладка спала, што трэці раз ён клікаць не стаў, пагрэў у чалесніку рукі і выйшаў. Ён адстаяў і яшчэ дзве гадзіны — за яе, а пасля ўжо разбудзіў хлопцаў, і яны пачалі збірацца ў дарогу.

Во тады яна і расплакалася.

Плакала яна ад крыўды на сябе, што гэтак бязбожна праспала сваю першую ў жыцці баявую службу, што яны так недарэчна пашкадавалі яе. Рэшту дарогі яна была прыгнечаная і маўклівая, і Ляўчук лаяў сябе за нерашучасць, недарэчную сваю зважлівасць, але ж ён хацеў толькі як лепш — ён мераў на свой партызанскі аршын, хто ж ведаў, што ў гэтай масквічкі свае, іншыя, чым у яго, меркі.

**5**

Хмызняк па ўзлеску паварочваў убок, нават трохі кудысь назад, наперадзе ляжаў бульбяны палетак, а Залоззя нідзе не было відаць. Яны ненадоўга спынілі каня, агледзеліся, але вёска, калі яна дзе і была, дык толькі наперадзе. У доле з-пад ног беглі кудысь свежыя, мабыць, на днях абганяныя, баразёнкі з фіялетавымі зорачкамі кветак на сакаўным лісці, і яны ўвайшлі ў бульбу. Шырэйшай баразной павялі каня, самі пайшлі поруч.

Бульбоўнік быў невысокі і не дужа замінаў хадзе. Зводдаль цягнуўся шнурок нейкіх дрэўцаў і кусцікаў, далей зноў быў лог, і за ім цямнеў хвойны лес, а дзе была тая вёска — не ўгадаць.

Яны ішлі моўчкі, колькі разоў папраўлялі на кані Ціханава, які збіваўся на адзін бок. Паранены ціха стагнаў, скрыгаў зубамі, а рукамі ўчэпіста трымаўся за прыладжаны да хамута аўтамат.

— Доўга яшчэ? — выціснуў ён праз зубы.

— Што — доўга? — не зразумеў Ляўчук.

— Мучыцца мне доўга яшчэ?

— Нядоўга, нядоўга! Патрывай трохі.

— Дзе немцы?

— Ды няма немцаў. Што ты баішся?

— Я не баюся. Я не хачу дарма мучыцца.

У словах дэсантніка гучаў яўны надрыў і пакута, увогуле зразумелыя ў ягоным стане, і Ляўчук не стаў яго пераконваць у лепшым — ён адчуваў нейкую яго праўду і нават ягонае права наракаць на іх. Ён ужо нагледзеўся на розных параненых і ведаў, што цяжкія, яны нібы дзеці — і капрызлівыя, і крыўдлівыя, і што з імі трэба па-добраму, з лагодай. Праўда, часам трэба і са строгасцю. Строгасць разумелі ўсе, хоць і не кожны раз яе дазваляла сумленне, некаторых проста было шкада.

Мабыць, яны недалёка яшчэ адышліся па той бульбе ад узлеску, як ззаду раптам устрывожана крыкнула Клава:

— Ляўчук! Ляўчук, глянь!..

Ляўчук азірнуўся на яе — дзяўчына прысядала ў баразне і, утуліўшы галаў, пазірала ўбок. Ён таксама зірнуў туды — у рэдзенькіх кусціках праз які кіламетр ад іх стаяла некалькі крытых брызентам машын і між іх сноўдалі нейкія постаці ў казыркастых шапках. Вядома, то былі немцы. Ён толькі зірнуў туды, і нешта з паныласцю абарвалася ў яго грудзях ад жахлівай думкі — папаліся! Папаліся-такі добра, сярод поля, з канём. Цяпер што?..

Тым часам Грыбаед ужо выцягнуўся ў баразне, няблага прыкрыты бульбоўнікам, і Ляўчук тузануў на сябе цяжкае цела дэсантніка. Аднаруч ён не ўтрымаў яго, і яны разам рухнулі ў бульбоўнік поруч з канём. Ціханаў заенчыў, застагнаў, але неяк адразу сціх, а конь, апынуўшыся без апекі, спыніўся і, павярнуўшы галаву, няўцямна пазіраў удалеч.

— Во ўлезлі, дык улезлі! Гэта табе не балота, — прабурчаў у баразне Грыбаед. Побач курчыўся Ціханаў, Ляўчук памкнуўся быў да каня, каб сцягнуць з яго хамута аўтамат, але аўтамата там ужо не было, мабыць, яго, падаючы, садраў дэсантнік. Тады Ляўчук асцярожна выглянуў з бульбоўніку: машыны стаялі

сабе, трохі прыкрытыя кустамі; з адной, пэўна, хтось вылез, нягучна бразнулі дзверцы. Мусіць, там пралягала дарога, і немцы спыніліся па якой часовай патрэбе. Здаецца, яны іх яшчэ не заўважылі.

А можа, яны хутка паедуць?

Партызаны паляжалі з хвіліну ў росным ад начы бульбоўніку, над лесам ужо ўзышло сонца і шырока развесіла над полем свае ранішнія зыркія промні. Мусіць, гэтыя промні трохі сляпілі немцаў, а то б на такой адлегласці яны ўгледзелі іх на полі.

Так прайшло трохі часу, а яны ўсё ляжалі, невядома чаго чакаючы і на што спадзеючыся. Ціханаў паводзіў сябе спакойна, не кратаўся і маўчаў, хоць, як здалося Ляўчуку, чуў усё, што тут з імі здарылася. Ляўчук раз-пораз зіркаў паверх бульбы адным вокам і раптам убачыў, як нехта там, на дарозе, стаў тварам да поля і глядзіць у іх бок. Мусіць, тое ж заўважыў і Грыбаед, бо хутка ён злым бурчаннем стаў адганяць каня:

— Пайшоў! Пайшоў прэч! Прэч ты, халера!..

Ну, было пэўна: немцы згледзелі адзінокага каня з хамутом на шыі, і, мусіць, гэта іх зацікавіла. Неўзабаве да першага падышоў другі — высокі перахлябісты немец з вядром у руках, нядоўга яны пагаварылі аб чымсьці, углядаючыся ў іх бок. І Ляўчук зразумеў пэўна, што іх немцы яшчэ не бачаць, — бачаць толькі каня.

А раптам яны прыйдуць па яго?

Гэтая думка не на жарт спалохала Леўчука, і ён таксама зашыпеў, зацыкаў на іх беднага, яшчэ не абсохлага з ночы коніка:

— Гэць! Гэць адсюль! Ану пшоў! Пшоў!

Бедная жывёліна пастаяла, паазіралася ў адзін бок, у другі і без жаднай увагі да незразумелых сцішаных вокрыкаў пачала мірна скубці бульбоўнік. Ляўчук ледзь не завыў ад прыкрасці, ад свае бездапаможнасці, але ён не мог устаць, каб адагнаць каня. Ён не мог нават як

след замахнуцца на яго.

— Грыбаед! Грыбаед! Адгані! Хутчэй адгані!

— Пайшоў, халера! Прэч! Прэч! — гучным шэптам сіліўся ў баразне Грыбаед, ды марна — конь павярнуўся ўпоперак барознаў і скуб вяршак бульбоўніку.

— Каб ты здох! Каб цябе ваўкі з'елі!..

Каб ён цяпер здох, для іх, мусіць, было б гэта шчасцем, але ён здыхаць не збіраўся, а збіраўся папасвіцца тут, хоць і з хамутом на шыі. І яны апанурыліся, сцяліся і толькі зрэдку засцярожліва пазіралі з бульбоўніку.

— Што, немцы далёка? — раптам прахапіўся паранены і ўскінуў рудую, у бінтах галаву.

— Ціха! Ляжы ты! — прыкрыкнуў на яго Ляўчук.

— Немцы далёка?

— Ціха! Якое далёка... Вунь, на дарозе...

— Сюды ідуць?

— Ды не яшчэ! Ты ляжы...

— Якое не, — прасіпеў у іх бок Грыбаед, які, зірнуўшы, тут жа тыцнуўся ў баразну. — Ідуць ужо.

Ляўчук толькі на якую долю секунды выткнуўся з бульбоўніку, але тае долі было дастаткова, каб згледзець, як два немцы, нетаропка ступаючы цераз барозны, кіравалі да іх. Што да іх, у тым не было сумнення, напрамак іхняй хады Ляўчук вызначыў пэўна. Але конь, скубучы бульбоўнік, ужо адышоўся ад іх, можа, крокаў на дзесяць, мусіць бы, неўзабаве ён адышоўся і далей. Шчаслівая гэта думка маленькай надзеяй бліснула ў Леўчуковай свядомасці, толькі яна і была іх спадзяваннем — іншага тут не выпадала.

— Дзе немцы? — зноў усхапіўся Ціханаў.

— Ціха! Замры!

— Дзе немцы? Ідуць?

— Ідуць! Ціх...

— Браць ідуць? Не, мяне ўжо не возьмуць, гады!.. Апошнія яго словы, якія ён амаль выкрыкнуў, прадчуваннем новай бяды скаланулі Леўчука; праз каліўе той усім целам ірвануўся да параненага, як раптам амаль з-пад яго рук па бульбоўніку джыганула грымотная чарга.

Перастаючы адчуваць сябе, Ляўчук ірвануў за аўтамат, думаючы ў запале, што гэта дэсантнік пальнуў у немцаў, як убачыў размятляны скрываўлены бінт на апалай у баразне яго галаве, з якой між бульбоўніку па жвіры плыла кроў. Тады ён зразумеў усё і ўскочыў, моцна тузануўшы аўтамат з-пад цела нябожчыка, абарваў раменную почапку і з калена даў кароценькую чаргу па тых двух, якія спярша прыпыніліся, а пасля кінуліся назад, да дарогі. Побач гулка бахнуў вінтовачны стрэл Грыбаеда, Ляўчук крыкнуў: «Бяжым!» — і яны, прыгнуўшыся, што было сілы пабеглі па разоры назад да ўзлеску.

Ляўчук на бягу злосна лаяўся; такога ад Ціханава ён не чакаў. Ён хутка дагнаў Клаву, якая, спатыкаючыся, няўклюдна бегла таксама да ўзлеску. Бегучы, яны не зводзілі позірку з машын на дарозе, куды ўжо дабеглі тыя два немцы і адкуль прагучала некалькі стрэлаў з вінтовак — некалькі куль з тугім звонам прайшло над іх галовамі. Але ад дарогі да іх было ўсё ж далёка, і яшчэ праз хвіліну, падбягаючы да ўзлеску, Ляўчук акрыяў духам — ён зразумеў, што яны ўцякуць. Побач ужо быў хмызняк — у хмызняку далёкія стрэлы для іх не страшныя.

Перш чым схавацца за крайнімі кустамі, Ляўчук азірнуўся — некалькі немцаў стаяла каля машын і пазірала на ўцекачоў. Але яны не стралялі — мусіць, было ўжо далёка. Ззаду пасярод бульбы сіратліва стаяў, памахваючы хвастом, іх конь з хамутом на шыі. Ціханава адсюль не было відаць,

— Ну і балда! Ну і зуй! — не мог супакоіцца Ляўчук. — Столькі мучыліся з ім. А ён...

Яны неўзабаве зашыліся ў кустах і то ішлі, то беглі, стараючыся як мага далей адысціся ад таго небяспечнага месца. Грыбаед дагнаў Леўчука і трымаўся блізка ад яго, насцярожана азіраючыся па баках і назад. Кусты тут былі не густыя, з бярэзнікам і маладымі елачкамі, гусцейшыя месцы Ляўчук спрактыкавана абмінаў стараной. Яны б маглі бегчы і хутчэй, калі б не Клава, якая адставала, і Ляўчук час ад часу мусіў спыняцца, чакаць яе. Яна, бачна было, з немалым намаганнем даганяла іх, запавольвала крок і, каб не ўпасці, хапалася адной ці абедзвюма рукамі за галіны дрэў. Ёй было кепска, Ляўчук бачыў гэта, але тут ім спыняцца не выпадала, трэба было як мага адысціся далей, і ён упарта імкнуўся наперад.

Праз нейкі час яны выбраліся з кустоў на луг з рэдкімі купкамі лазняку на някошаным травяністым прасцягу. Ляўчук тут дазволіў сабе спыніцца, каб аддыхацца і пачакаць Клаву. Немцы іх, здаецца, не даганялі, але ўнутры ў ім усё трэслася ад таго недарэчнага здарэння, і ён думаў, што яны цудам выбавіліся з бяды. І ўсё праз Ціханава, які забіў сябе, на што, вядома, меў поўнае права, але тым ледзьве не загубіў астатніх. Пільна азіраючы лугавіну, каб зноў дзе не напароцца на немцаў, ён чамусьці не ў лад са сваім настроем раптам падумаў, што, а можа, ён уратаваў іх? Сапраўды, калі б ён не стрэліў і здаля не напалохаў немцаў, тыя, вядома, падышлі б бліжэй і, мабыць, напароліся б на іх у бульбе. А ў такой сутычцы яшчэ невядома, каму б пашчасціла выскачыць жывым, вельмі проста маглі пагінуць усе.

Вось табе і «балда»...

Ляўчук ад гэтай думкі ажно збянтэжыўся, разгубіўся і ўжо не ведаў, як аднесціся да Ціханава і яго ўчынку. Было падобна на тое, што дэсантнік сапраўды ўратаваў іх. Вызваліў ад сябе — гэта пэўна. Ужо за адно гэта трэба дзякаваць яму — як бы яны ўцяклі без каня з параненым? Вайна ўжо дала Леўчуку некалькі самых пераканаўчых урокаў, ён многа ўведаў на ёй і лічыў,

што болей яго здзівіць немагчыма. А вось, выходзіць, здзіўляла. Мабыць, яе неспадзяванкам не было канца, і наўрад ці хопіць жыцця, каб як след разабрацца ў яе дзівосах.

Вось хоць бы і Клава.

З пакутніцкім выразам на нездаровым твары — з рудымі плямамі каля рота і на лбе — яна дагнала мужчын і цяжка ўпала каленямі ў траву.

— Не магу... Не магу я...

— Ну во яшчэ! — грубавата азваўся Ляўчук. — Што ж тады? Прайшлі які кіламетр...

— Ды ўжо кіламетры два, — паправіў Грыбаед.

— Дык што ж — два! Для іх гэта дзве хвіліны. Бачылі машыны?

Яму не запярэчылі, і ўсе ўтраіх замоўклі.

Клава, седзячы ў ранейшай позе, абапіралася рукамі аб травяны дол і дыхала, дыхала, утаймоўваючы стому, гатовая вось-вось расплакацца, а яны ўдвух стаялі каля яе і не ведалі, што рабіць. Грыбаед моўчкі і нахмурана пазіраў з-пад свае шапкі-кучомкі, нешта тоячы ў сваіх пачуццях да яе — можа, шкадаванне, а можа, папрок за ўсё, што з ёй здарылася. Ляўчук жа ўпарта думаў, што тут ім заставацца нельга. Тут не месца, тут іх занадта проста могуць насцігнуць немцы.

— Так, давай уставай! Луг пяройдзем, вунь там саснячок, там зашыемся.

Клава запаволіла дыханне, сцялася, відаць, зрабіла над сабой намаганне і ўстала.

Яны даволі марудна і не адразу адолелі луг, пералезлі цераз аброслы асакой і аерам ручай. Праз рэдкі сасоннік узабраліся на пагорак, і Клава зноў знямогла ўпала на сухі верасовы дол. Мужчыны абодва спыніліся, Ляўчук скінуў з галавы прапацелую кепку, ён ужо

ўгрэўся, ужо з неба няблага прыгравала сонца, дзень збіраўся быць спякотны і ціхі. Дзень гэты трэба было пераажыць, што ў іхнім становішчы было не меней, чым пераажыць вечнасць. Асабліва з такой спадарожніцай.

— Ах, халера! — сказаў Ляўчук і ўважлівей паглядзеў на Грыбаеда. Той, сіпла і стомлена дыхаючы, цярпліва стаяў у сваім вузкаплечым мундзірчыку, аздобленым мноствам кішэняў і гузікаў. — Хоць бы дзе баба якая. Які лагер сямейны, ці што? Як на грэх...

— Каня трэба і фурманку. Без каня як?.. — з роздумам сказаў Грыбаед.

— Была фурманка. І конь. Праваранілі, балбесы!.. Во што! Дуй-ка ты, дзед, шукай вёску. Можа, дзе ёсць недалёка. Без немцаў каб.

Грыбаед не стаў цягнуць доўга, зірнуў напаследак на Клаву і нячутным крокам пайшоў з пагорка ўніз. Хутка яго затуліў сасоннік.

— І не баўся, чуеш? — гукнуў наўздагон Ляўчук. Клава сцішылася на траве, а Ляўчук угледзеўся з пагорка. За сасняком, здаеццэ, ляжала неўзаранае поле, за якім зноў усчынаўся лес — і нідзе ніякіх прыкмет жылля. Стаяла ранішняя ціша, толькі ў хваёвым голлі варушыліся дробныя птахі, стрэлаў або людскіх галасоў нідзе не было чутна. Ляўчук, прыглядаючыся да сасняку, паўкругам абышоў па пагорку, паслухаў — быццам нідзе нікога. Тады ён вярнуўся да Клавы і, усё ўслухоўваючыся ў наваколле, сеў ля яе, сцягнуў боты і раскідаў на траве анучы. Усё на ім было мокрае, і Ляўчук пачаў сушыцца.

Клава ляжала на баку і вялікімі, поўнымі самоты вачамі пазірала ў хвойнік.

— Нарабіла я вам клопату. Ты ўжо выбачай, Ляўчук.

— Што выбачаць? Пасля вайны паквітаемся.

— Ох, як дажыць да таго пасля? Не дажыву я.

— Ты павінна дажыць. Ён не дажыў, а ты павінна. Трэба пастарацца.

— Ці ж я не стараюся?..

Яна нечакана заплакала, ціха і жаласна, а ён сядзеў побач, працягнуўшы да сонца счырванелыя ступні, і маўчаў. Ён не суцяшаў яе, бо не ўмеў суцяшаць нікога, да таго ж ён лічыў, што ў тым, што з ёй здарылася, Клава была вінавата сама.

**6**

Ціхенька хліпаючы, Клава плакала доўга, і Ляўчук не стрываў.

— Нічога, — сказаў ён, дабрэючы. — Як-небудзь. Ты пацярпі.

— Ой, я ўжо так цярплю, але ж... Сам знаеш.

— Галоўнае — дзе б да якога жытла прыбіцца. Ды ні чорта няма. Усё папалена.

— А калі дзе не спалена, дык жа немцы, — сказала Клава з набалелаю роспаччу. Відаць, яна пра адно гэта толькі і думала ўсю дарогу.

— Немцы, ага, — згадзіўся Ляўчук.

Ён стараўся паводзіць сябе стрымана і з выгляду нават абыякава да яе, а ўнутры ўсё абураўся і лаяўся — гэткага павароту справы ён не чакаў. Яшчэ ўчора ён сядзеў на Доўгай градзе і думаў толькі пра тое, адаб'юць новую атаку карнікаў ці не, а калі не, дык куды тады бегчы. І раптам гэта недарэчнае раненне, якое ўсё ў ім крута перайначыла, наваліла на яго новыя абавязкі з тым Ціханавым, ды і з гэтай Клавай: што яму рабіць, калі раптам ёй прыпячэ? Ён пачаў нават баяцца, каб гэтага не здарылася тут жа, і скоса ўсё пазіраў на дзяўчыну, не перастаючы прыслухоўвацца да наваколля і паглядваць уніз — нецярпліва чакаць Грыбаеда. Але Клава, паляжаўшы трохі і, мабыць, спачыўшы, села

раўней на ватоўцы, па-ранейшаму абапіраючыся на дол рукамі. Яе шытыя на заказ зграбныя скураныя боты з белымі, высцебанымі ў траве галоўкамі былі мокрыя, спаднічка таксама змакрэла знізу, і Ляўчук сказаў:

— Здзень боты. Хай сохнуць.

— Ды ну...

— Здзень, здзень! — і, убачыўшы, што ёй нязручна згінацца, падняўся .— Ану, давай!

Аднаруч ён сцягнуў з яе ног адзін, а затым і другі бот, Клава трохі сумелася, але, відаць, адчула палёгку, паспакайнела і падняла на яго спакутаваны позірк.

— У цябе як плячо? Можа, перавязаць?

— Дыярунда. Не трэба.

Ён ужо прыцярпеўся да свае раны і нават шкадаваў, што пайшоў у санчасць, лепш бы застаўся ў роце, можа, і прабіўся б з усімі за грэблю і цяпер быў бы адсюль далёка. Прынамсі, не ведаў бы клопату, які цяпер тлуміў яго галаву.

— Ну і Ціханаў, не чакаў ад яго такога. Не ведаю нават, што і думаць, — сказаў ён, усеўшыся ў доле непадалёк ад Клавы.

— Спалохаўся ён. А можа...

— Спалохаўся, факт! Але што мы рабілі б, каб не спалохаўся?

— А можа, ён з-за нас? — сказала Клава.

— А хто ведае! Хіба цяпер зразумееш? Чужая душа — пацёмкі.

— А ўсё ж відаць. Добрага чалавека здалёку відаць.

— Няўжо? А дрэнныя — яны што ж, думаеш, не маскіруюцца? Пад добрых? Як вунь той гад! Ужо такі сімпацяга быў...

— Ты пра каго?

— Усё пра таго ж!

— Што цяпер гаварыць? — пасля нядоўгага роздуму сказала Клава. — Пасля мы ўсе разумныя.

— Вот іменна — пасля. І разумныя, і строгія. А напачатку такія добранькія. Вушы развесілі, а ён — нож у спіну.

— Платонаў і тады гаварыў: ёсць падазрэнне. Але ж доказаў не было.

— Доказаў чакаў! Ну і дачакаўся...

Яны памаўчалі, Ляўчук, адкінуўшыся на локаць, кусаў травіну, увесь час азіраючы сасоннік. І Клава, нешта асіліўшы ў сабе, сказала:

— Канечне, наконт Платонава мы цяпер можам меркаваць па-рознаму. Асуджаць яго. Але як жа яму было? Я памятаю, ён гаварыў мне: нешта нячыста, але як дазнацца? Для гэтага час патрэбен.

— Трэба было шпокнуць абодвух, — з лёгкасцю зазначыў Ляўчук. — А што? Раз сумненне, дык і абодвух. Каб без сумнення. Як кажуць, бабка надвае варажыла: можа, чэсны, а можа, і агент.

— Не, так нельга, — ціха сказала Клава. — Вы ўсе ачарсцвелі на гэтай вайне. Яно зразумела, але гэта кепска. Платонаў быў не такі. Ён добры быў, чалавечны... Можа, таму і ў нас з ім усё так выйшла. Ён другога чалавека адчуваў, як самога сябе.

— Во-во-во! — падхапіў Ляўчук і сеў роўна. — Добры! А праз яго добрасць яшчэ невядома, як табе быць. Ды і нам во...

— Што ж, можа быць кепска. І ўсё роўна ён харошы. А дабрата не можа быць кепскай...

— Што ты кажаш! — злосна здзівіўся Ляўчук і ўстаў. —

Не можа? Вот глядзі. Я буду добры і хуценька цябе здам куды ў вёску. Якая бліжэй. Ты ж хочаш, каб скарэй куды прыбіцца. Праўда? Каб табе сцішыцца. Вось я цябе і прыстрою. А немцы і схопяць. Дык не, я не добры, я цябе тузаю, во цягну, а ты праклінаеш мяне, праўда? І ўсё ж я мо куды зацягну, дзе спакайней. Дзе ты родзіш па-людску. І прыгледзець дзе будзе каму!

Ён сказаў гэта адным духам, можа, занадта запальчыва, і яна змоўчала, не адказала. Але Леўчуку не трэба было ні яе згоды, ні яе пярэчання, ён быў цвёрда ўпэўнены ў сваёй праўдзе. Ён даўно выяваў і ведаў, што на вайне іншае праўды і не бывае. Нейкая там добрасць — не для вайны. Можа, часам яна і няблага, нават дарэчы, але не тады, калі цябе кожную хвіліну пільнуе куля.

Клава заціхла, думаючы свае нялёгкія думы, а ён босы адышоўся па калючай траве на пагорак, паглядзеў цераз негусты сасоннік уніз, на лугавіну. Здаецца, у тым баку не было ні дарог, ні вёсак, не чутна было ніякага гуку і ніякага знаку прысутнасці ворага, мусіць, яны няблага зашыліся ў лясную глушэчу. Калі б толькі дзе жытло. Ім цяпер патрэбна была якая сядзіба, хутар, якая леснічоўка з людзьмі — без такой дапамогі Клава не магла абысціся. Незалежна ад таго, якія б яны ні былі з ёй добрыя.

Ляўчук ціха прайшоў па пагорку між негустых маладых сасонак, паслухаў і, асцярожна ступаючы, вярнуўся да Клавы. Яна ляжала з заплюшчанымі вачамі, і ён, трошкі здзівіўшыся, успомніў, што яна ўсё яшчэ апраўдвае Платонава, які давёў яе да такога лёсу. Ён ужо мёртвы, а ўсё яшчэ нешта для яе значыць — во як бывае, калі не на жарт пакахаць чалавека.

Ляўчук прысеў трохі вышэй ад яе, падцягнуў да сябе бліжэй аўтамат. Вельмі хацелася легчы, выпрастаць цела, але ён баяўся незнарок заснуць і не клаўся. Супакоіўшыся, ён пачаў думаць пра іх становішча, пра небараку Ціханава, пра тое, як там блукае недзе яго Грыбаед. І, вядома, пра Клаву.

Наконт Платонава яна, відаць, мела рацыю, той

сапраўды быў чалавек надзіва ўраўнаважаны, добразычлівы і не па-вайсковаму спакойны. Ляўчук ведаў яго яшчэ з даваеннага часу, калі яны разам служылі ў Гродні, — Ляўчук камандзірам аддзялення сувязі, а капітан Платонаў — ПНШ палка па разведцы. Пасля разгрому палка і акружэння Ляўчук перабыў першую зіму ў бацькі, а вясной, калі іх група злучылася з групай Ударцава, ён там сустрэў Платонава. І дзіўная рэч: баі, разгром, лясное, поўнае яўных і тайных небяспек жыццё не змяніла характару капітана, па-ранейшаму ён заставаўся такі ж спакойны, добразычлівы, аднолькавы з усімі — начальнікамі і падначаленымі, ніколі не пароў гарачкі, заўжды стараўся зрабіць абдумана, цвяроза і па справядлівасці. Такі ж ён быў і ў той невясёлай гісторыі з двума палоннымі, якія ў канцы мая раптам з'явіліся ў іх атрадзе.

Прыбеглі яны са станцыі, дзе перагружалі дрэва з вузкакалейкі на шырокую каляіну і дзе заўжды працавала каманда ваеннапалонных. У атрад іх прывяла Зойка, атрадная сувязная з пуцейскай казармы, казала, найперш яны прыбіліся да яе і напрамілы бог прасілі звязаць іх з партызанамі. І Зойка звязала. У атрадзе і да іх было нямала нядаўніх ваеннапалонных ды акружэнцаў, і таму з'яўленне яшчэ двух новых не выклікала ні вялікай увагі, ні тым болей здзіўлення. Здзіўленне і нават невялікі сполах пачаўся пазней, калі з імі пачалі гаворку ў асобым аддзеле.

Першага паклікалі туды Шаўцова, высокага схуднелага чалавека ў ватоўцы, які, па яго словах, да арміі працаваў інжынерам у Кемераве, трапіў у палон пад Беластокам і, як ён сказаў, год шукаў моманту вырвацца з палону і знайсці партызан. Цяпер ён быў дужа рады, што гэты выпадак надарыўся, і прасіў даць яму зброю, каб біць тых, хто прычыніў яму столькі пакут і ганьбы.

Усё было проста, звычайна, Шаўцова залічылі ў другую роту і адправілі за ручай у ротны будан.

Другога паклікалі крыху пазней, пад вечар, бо

начальнік асобага аддзела Зяновіч павінен быў некуды ехаць, і канавод ужо чакаў яго з асядланым канём ля зямлянкі. Вярнуўся Зяновіч толькі пад вечар, калі партызаны ішлі па вячэру на кухню, і тады знайшоў ля сваёй зямлянкі Шаўцовага напарніка па прозвішчы Кудраўцаў, які, аказваецца, спецыяльна чакаў яго тут з гадзіну.

Гэты Кудраўцаў быў даволі яшчэ малады, ладны дзяцюк з надзіва прывабнай і адкрытай усмешкай на прыгожым, добра паголеным твары, ён усё расказаў пра сябе: як ваяваў, як падбілі ягоны танк і як сябры вывалаклі яго з полымя, паказаў нават след на лапатцы ад цяжкога ранення, пасля якога, непрытомны, апынуўся ў палоне. Сам ён быў ленінградзен, да арміі працаваў на славутым заводзе, любіць радзіму і ненавідзіць немцаў, гатовы ваяваць з імі на любой пасадзе, хоць сам, між іншым, радыст вышэйшай кваліфікацыі. І яшчэ ён мае заявіць па сакрэту, што ягонага напарніка Шаўцова незадоўга да іх уцёкаў некалькі разоў выклікаў шэф СД, здаецца, вербаваў у агенты, хаця, магчыма, што ён, Кудраўцаў, і памыляецца, бо на іх гаворцы, вядома, не быў. Зяновіч знарок спакойна сказаў, што яму гэта вядома, хоць усё гэта ён чуў тады першы раз. Ён адпусціў Кудраўцава, а сам тут жа паслаў дзяжурнага па Шаўцова.

Шаўцова прывялі не так хутка, аказваецца, той ужо спаў, і калі пачуў пра ягоную вярбоўку ў СД, вельмі здзівіўся. Ці зрабіў выгляд, што здзіўляецца. Ён адмаўляў, што яго хоць бы раз выклікаў шэф СД, казаў, што ён нічога не чуў пра вярбоўку і не браў на сябе ніякіх абавязацельстваў перад немцамі. Пра Кудраўцава ж ён нічога кепскага сказаць не мог — разам працавалі, разам гібелі ў бараку, выбраўшы момант, уцяклі, калі іх паслалі пераносіць старыя падмосткі да новай эстакады.

Зяновіч далажыў аб тым камандзіру, камісару, начальніку штаба. Тыя, параіўшыся, рашылі абшукаць Шаўцова, і калі хлопцы распаролі паясніцу ягоных штаноў, знайшлі там нейкую паркалёвую анучку з

лічбамі, напісанымі вадастойкаю фарбай. Што гэта такое — Шаўцоў вытлумачыць не мог, але ўсе зразумелі, што гэта нямецкі шыфр. Такія штучкі партызанам ужо былі вядомы, і Шаўцова на другі дзень расстралялі ў рове.

А Кудраўцаў з таго часу стаў вядомы ўсім партызанам. Сапраўды, выратаваў атрад ад нямецкага агента, бо няцяжка было сабе ўявіць, што сталася б з атрадам, калі б у ім застаўся гэты Шаўцоў. Ды і наогул новы партызан надзіва сімпатычны хлопец, выдатны стралок, майстра па гадзінніках і ў дадатак да ўсяго яшчэ іграў на гармоніку. Гармонік, праўда, быў у іх надта старэнькі, з прадраным мехам, клавішы ў яго ўвесь час западалі, галасы дашчэнту расстроены ў няўмелых руках, але ўсё роўна Кудраўцаў іграў на ім так добра, што можна было заслухацца. Калі надараўся які вольны час, ён сядаў на пянёк каля будана першай роты і пачынаў паціху наігрываць «страданне» або «Синенький скромный платочек», адразу ж каля яго пачыналі збірацца хлопцы, усе слухалі ды пазіралі, як спрытна бегаюць па клавішах ягоныя пальцы, а сам гарманіст люба ўсміхаецца, мусіць, таксама радуючыся з свае майстэрскай ігры.

Неяк спакваля, не адразу, да будана першай роты пачала прыходзіць і Клава.

Прыходзіла яна адна, трошкі сарамліва і з нейкаю нават затоенай бояззю спынялася каля бярозак збоч ад гаманкой купкі хлопцаў з гарманістам, але тыя адразу заўважалі яе і клікалі, нават цягнулі бліжэй да ўсіх. Кудраўцаў нейкай асаблівай жвавасцю адгукаўся на яе прыход і граў, усміхаючыся ўжо толькі ёй адной. Яна, мусіць, заўважала тое, бянтэжылася, але стаяла, слухала, лёгка і ветліва адбіваючыся ад празмернай увагі некаторых хлопцаў-назолаў. Зрэшты, асабліва да яе ўжо не набіваліся, у атрадзе ўжо ведалі пра яе адносіны з начштаба Платонавым. Ляўчук у такі час звычайна быў там жа ці дзесьці паблізу за якой дробязнай справай, але ён заўжды прыкмячаў яе паяўленне каля гарманіста, і ніводзін яе крок, погляд,

усмешка не заставаліся ім не заўважаныя. І тады ён нешта прыкмеціў у адносінах да яе Кудраўцава, і гэта яго насцярожыла.

Ляўчук сам пэўна не ведаў, кахаў Клаву ці не, можа, проста яна па-дзявочы падабалася яму, але ён не зрабіў ні адной спробы зблізіцца з ёю, бо не хацеў пераходзіць дарогу Платонаву. Яшчэ тады, як ён прывёз яе з Кіраўскай, ён з першага позірку між новай радысткай і іхнім начштаба зразумеў, што так у іх не абыдзецца — дужа ўжо яны былі здатныя адно для аднаго: абое ладныя, прыгожыя і маладыя. І ён адступіўся ад яе, але толькі дзеля аднаго Платонава, і болей адступацца не меў намеру ні для каго іншага. Нават калі б ён быў, як анёл, прыгожы і граў на аргане, а не такім пабітым гармоніку. І Ляўчук ціха, але ўпарта, з усёй маладой сілай узненавідзеў гэтага наваяўленага партызана, усеагульнага любімца і сімпацягу Кудраўцава. Аднойчы ён нават наважыўся пагаварыць пра яго з Платонавым і ўжо быў спыніў яго ў часе сустрэчы на сцежцы, ды раптам капітана паклікалі ў штабную зямлянку, і Ляўчук, хвіліну счакаўшы, пайшоў па сваёй справе.

І шкада, што не пагутарыў. Хто ведае, можа б, яго не дужа пэўная гутарка не дапусціла вялікай бяды, якая неўзабаве здарылася ў атрадзе.

Неяк у Клавы пачаліся нелады з рацыяй, аднойчы яна нават прапусціла сеанс сувязі, бо не магла даць рады свайму «севярку». Ляшчова ў той час у атрадзе ўжо не было — адкамандзіравалі ў групу Цеслюка, і ніхто ёй памагчы не мог. І тады ў штабе ўспомнілі пра Кудраўцава. Ён ахвотна ўзяўся за дапамогу, нешта зрабіў там, і рацыя сапраўды пачала працаваць. Толькі ён сказаў, што яна так нядоўга пратрымаецца, што трэба змяніць нейкую зубчатку. Але дзе было ўзяць у лесе тую зубчатку? І Кудраўцаў, падумаўшы, сказаў, што гэту штуковіну можна дастаць на станцыі, ён ведае чалавека, але той чалавек можа даверыцца толькі яму, і нікому болей. Платонаў падумаў, параіўся з Клавай, і яны рашылі, што трэба паспрабаваць. Толькі паслаць Кудраўцава трэба не аднаго, а з групай, і камандзірам

групы прызначылі Леўчука. Ляўчук не адзін раз хадзіў на тую станцыю, у яго там былі знаёмыя, і ён асаблівай увагі не надаў гэтаму заданню — былі куды болей важныя і трудныя, і то як-небудзь усё абыходзілася.

На станцыю Ляўчук павінен быў пайсці ў нядзелю, а ў суботу, вяртаючыся з Клясцоў, яны, трое разведчыкаў, завіталі па дарозе на хутар да знаёмага чалавека, які добра пачаставаў іх. І калі пасля прыходу ў атрад ён далажыў камандзіру аб выкананні задання, той тут жа распарадзіўся адправіцца Леўчуку ў яму каля каравульнай зямлянкі, дзе ў іх была гаўптвахта. Ляўчук закіпеў, нагаварыў камандзіру чорт ведае чаго, але ўрэшце быў змушаны здаць аўтамат і пад канвоем камандзіравага ардынарца адправіцца да яміны, куды ён са злосцю кінуў сваю ватоўку, а пасля скочыў сам і адразу ўлёгся спаць.

Ён думаў, што ўранку яго выпусцяць, але не выпусцілі ні ўранку, ні ўвечары, ён праседзеў у яме да панядзелка, аж покуль у атрадзе не разнеслася чутка, што на станцыі, трапіўшы ў засаду, загінуў іхні начштаба Платонаў.

Учуўшы такое, Ляўчук не мог болей сядзець. Не зважаючы на вокрык варты, выскачыў з ямы і кінуўся да штабной зямлянкі, ля якой ужо білася на траве Клава і лютаваў камандзір атрада. Другія камандзіры хадзілі з апушчанымі галовамі і толькі моўчкі ўздыхалі.

Як і прадчуваў Ляўчук, у той неспадзяванай гібелі начштаба была і яго, Леўчукова, віна. З прычыны ягонай адсутнасці камандаваць групай узяўся сам начштаба Платонаў, які вечарам у нядзелю з Кудраўцавым і трыма партызанамі адправіўся на станцыю. Два з тых пяці сядзелі цяпер у камандзіра і расказвалі, як усё здарылася.

Спярша ўсё ішло добра і не наводзіла ні на якія падазрэнні. На змярканні яны дабраліся да станцыйных гародаў і зашыліся ў лапіку выбуялых за лета канопляў. Як змерклася яшчэ болей, Кудраўцаў вузенькім завулачкам пайшоў да свайго дзядзькі, астатнія

засталіся чакаць. Але чакаць давялося доўга, думалі, нешта не выходзіць у Кудраўцава з дзядзькам, і, трацячы цярпенне, Платонаў палез у цемры з канопляў паглядзець, што робіцца паблізу. Але не паспеў ён падлезці пад плот, як хлопцы пачулі яго сцішаны крык, грымнулі стрэлы. Усе рванулі цераз каноплі на той бок гарода, але і там наскочылі на гітлераўцаў, якія ўдарылі па мяжы з аўтамата. Зразумеўшы, што трапілі ў засаду, хлопцы кінуліся ў розныя бакі і, ужо бегучы, пачулі голас Кудраўцава, які крычаў: «Таго, таго лавіце, у кубанцы!»

У кубанцы ў іх быў Платонаў.

Пасля стала вядома, што начштаба з прастрэленымі грудзямі пацягнулі на допыт, але ён быў непрытомны і на другі дзень сканаў. Кудраўцаў пасля таго недзе знік са станцыі. Пэўна, ягоныя гаспадары перакінулі яго ў іншае месца, дзе таксама шанавалі добрую ігру на гармоніку.

Клава рвала на сабе валасы, Ляўчук скрыгатаў зубамі. Праз два дні яго перавялі з узвода разведкі ў трэцюю роту радавым кулямётчыкам.

**7**

Грыбаед вярнуўся гадзіны праз тры, не меней. Ляўчук ужо перасунуўся з сонца ў засень, бо зрабілася горача, анучы яго ўсохлі, як лубяныя, боты таксама падсохлі збольшага, і ён усцягнуў іх на ногі. Клаву штосьці пачалі біць дрыжыкі, ён яе ўкрыў ватоўкай і ўгаворваў супакоіцца, нават заснуць — ён думаў, што ў сне з ёй не пачнецца тое. Ды і яго самога ўсё апаноўвала дрымота — пасля бяссоннае ночы было б самы раз задрамаць. Але драмаць было нельга. Каб разагнаць сон, ён рашыў чым-небудзь заняцца — адняў дыск ад аўтамата, зняў вечка. Дыск быў амаль поўны, Ляўчук палічыў патроны, іх аказалася сорак тры — на чатыры добрых чаргі. І ён зноў упарадкаваў аўтамат, прыладзіў адарваную почапку і пачаў нецярпліва выглядваць Грыбаеда. Ён чакаў яго з таго боку, куды той пайшоў, але стары

нечакана вылез з гусцейшага хвойніку, які быў у яго за плячамі, і пачаў атрасаць ад ігліцы шапку.

— Ну што? — не стрываў Ляўчук, які нічога пэўнага не ўбачыў на яго твары.

Падышоўшы бліжэй, Грыбаед моўчкі паклаў у доле вінтоўку, стомлена сеў і зняў з галавы шапку, адкрыўшы белы, зусім не загарэлы, зморшчаны лоб. Апошні раз ён галіўся, мабыць, на мінулым тыдні, і ўвесь яго твар густа зарос буравата-шызаю шчэццю.

— Ды як сказаць? Вёска ёсць адна, ды папаленая.

— Што радасці — папаленая! — зазлаваў Ляўчук. — Нам з людзьмі трэба.

— Папаленая, ага, — безуважна да яго злосці, казаў Грыбаед. — Гуменца і ўцалела ўсяго. З краю. Думаў, пустое, аж гляджу, баба поркаецца каля жыта.

— Баба?

— Баба, ага.

— Гаварыў з ёю?

— Ды я не гаварыў. Я згледзеў і назад. Спяшаўся ж.

— Ага, ну добра, — падхапіў Ляўчук. — Тады давай, Клава. Уставай. Гэта далёка?

— Ды не дужа. Во за саснячком роў, ручай гэты. За тым расцяробам... Жыта там, — пачаў прыпамінаць Грыбаед.

— Ну колькі? Кіламетр, два, тры?

— Можа, два, ага. Або тры.

— Пайшлі!

Клава з натугай паднялася, хіснулася, ледзьве ўстояўшы на нагах. Пасля цяжка ўстаў Грыбаед. Ён, пэўне, падбіўся і быў з выгляду дужа з모раны, мабыць, яму не шкодзіла б адпачыць, ды Ляўчук спяшаўся

прыбіцца да якой пэўнасці, да людзей. Усё ж у ім жыла, і чым далей, тым мацнела, трывога за Клаву.

Яны знарок нетаропка, каб не пакідаць ззаду радыстку, сышлі з хваёвага пагорка, абышлі равок, за якім узбіліся на лесавую дарожку. Перш чым пайсці па ёй, Ляўчук паглядзеў направа, налева, прыглядзеўся да слядоў. Але сляды тут былі старыя — замытыя дажджом каляіны, нясвежыя знакі капытоў і колаў, мусіць, ездзілі тут даўно. Тым не менш ён перасунуў на плячы аўтамат, каб той быў пад рукой, ствалом наперад, і ішоў, азіраючы кожную паваротку наперадзе.

— Ды нікога няма тут, чаго глядзець, — заўважыўшы неспакой Леўчука, сказаў Грыбаед. — Я ж ішоў.

— Глядзі, які смелы: ішоў! — зласнавата азваўся Ляўчук. — А калі немцы?

— А чорт з імі! Мусі, такі ўжо лёс, куды дзенешся?

— Ну гэта, ведаеш... Гэта ты так сабе можаш думаць. А нам жыць трэба. Праўда, Клава?

Клыпаючы ззаду, Клава не адказала. Відаць, ёй было не да жартаў, яна ўжо ледзьве трывала, кусаючы засмяглыя вусны. Ляўчук непакоіўся — хоць бы дайсці да гэтага разведанага Грыбаедам жытла, а то калі развязе дзеўку ў лесе, што тады рабіць з ёй? Пакорлівыя словы Грыбаеда наконт свайго лёсу не спадабаліся Леўчуку, які наогул быў супраць усякай пакоры, тым больш у вайну. Хоць ён і не мог не разумець гэтага старога, якому даволі-такі дасталося ў жыцці.

— А я, ведаеш, дык і жыць не дужа хачу. Можна сказаць, і саўсім не хачу, — шкандыбаючы босымі нагамі па зляжалым пяску, казаў Грыбаед. — Навошта мне тая жызня, калі маіх нікога няма? Ні бабы, ні дзетак. Вайна скончыцца, а што я? Каму патрэбны?

— Дзівак ты! — сказаў Ляўчук. — Вайна скончыцца, у пачоце будзеш. Ты ж во які заслужоны: з першай вясны

ў партызанах ходзіш.

— З першай, ага.

— Ордзен заробіш, чалавекам будзеш. Хаця для ордзена, канечне, не пры фурманцы трэба быць.

— Эт, нашто мне той ордзен! Мне б Валодзьку майго! Усіх бы аддаў — і дачок, і бабу. Абы Валодзьку аднаго...

— Валодзьку тады забілі? — запытаўся Ляўчук.

— Анягож! На маіх, лічы што, руках. Разрыўная, у бок. І кішачкі вылезлі. Такія тоненькія, як птушыныя. Збіраў, хапаў, ды што! Разрыўная.

— Жах, жах! — крутнуў галавою Ляўчук.

Жахаў у гэтую вайну хапала, але Грыбаедава гісторыя была асабліва жахлівая. Невядома, ці на тое былі якія прычыны, ці, можа, проста надарыўся кепскі выпадак, — сапраўды, такі ўжо лёс, — але перажыў стары столькі, што не пажадаеш ворагу. І часткова праз сваю дабрату, як думаў Ляўчук, які ўжо штоколечы чуў у атрадзе пра гора гэтага чалавека.

Грыбаед жыў з вялікай сям'ёй на Выселках — так звалася вёска, што стаяла ў баку ад вялікіх дарог, ля самае пушчы. Грыбаедава сядзіба была ад вёскі наводшыбе ля самых кустоў. Фронт у тое першае ваеннае лета перайшоў цераз гэтыя мясціны хутка. Людзі яшчэ займаліся тым, чым займаліся сотні гадоў раней, і ў той дзень капалі ў полі бульбу. Капаў яе і Калістрат Грыбаед з жонкай і старой маці, ім памагалі дзеці — старэйшыя Галя і Валодзька; меншыя, Шура і Манечка, грэліся каля цяпельца на ўзмежжы — пяклі бульбу. Заставалася выбраць баразён з пяць на шнурку, як, разагнуўшыся, Грыбаед убачыў на краі алешнічку чалавека, які моўчкі махаў да яго рукой — клікаў падысці.

Грыбаед кінуў бульбіну ў кошык, азірнуўся на жонку, якая засяроджана корпалася ў зямлі і нічога не бачыла, і, нетаропка стаўляючы ногі ў раллі, пайшоў да ўзлеску.

Стуліўшыся за маладой хвойкай, незнаёмец чакаў. Гэта аказаўся аброслы бародкай, яшчэ не стары чалавек у вайсковым бушлаце з нямецкім аўтаматам у руках. Ён распытаў пра немцаў, паліцыю і папрасіў Грыбаеда памагчы — непадалёк адсюль, за балотцам, засталіся яго таварышы, два з іх параненыя і самі ісці не могуць, ім трэба недзе затуліцца да часу. Грыбаед усё зразумеў і, нічога не сказаўшы чалавеку, вярнуўся ў поле, запрог кабылку і паехаў дарожкай у алешнік, дзе да яго падсеў той вайсковец з нямецкім аўтаматам у руках.

Яны ад'ехалі недалёка, вайсковец паказаў мясціну ў гушчары пры дарозе, дзе чакалі яго таварышы. Было іх трое — двое цяжка параненых, якія самі ісці не маглі, і маладзенькі кірпаносы баец з бялявым пушком на шчоках, якога клікалі Венькам. Яны ўладкавалі параненых у фурманку і, як сцямнела, прывезлі іх на сядзібу да Грыбаеда.

Тры тыдні параненыя — палкоўнік-танкіст і палітрук — ляжалі ў яго хаце, бабы, як умелі, даглядалі іх, аднойчы Грыбаед прывозіў з мястэчка знаёмага фельчара, добра заплаціў яму, і фельчар пакінуў нейкае лякарства, якое наказаў прыкладваць да ранаў. Ад таго лякарства раны няблага гаіліся, хоць і не так хутка, як таго хацелі параненыя, што з гэтай прычыны дужа перажывалі ў самоце. Іх здаровыя таварышы, Церахаў з Венем, часта адлучаліся і па некалькі дзён не былі ў хаце. Яны нічога не гаварылі гаспадару, але ён ведаў — шукалі партызан.

Усё ішло больш-менш няблага, спакваля палкоўнік пачаў уставаць з ложка і патроху хадзіць па хаце, палітрук пакуль што толькі спрабаваў садзіцца ў ложку, як аднойчы на Выселках з'явіліся паліцаі.

Праўда, Грыбаед сваім часам паспеў іх згледзець, параненых як-колечы закідалі рыззём у запеччы, і калі два паліцаі зайшлі ў хату, дык чужых тут яны не ўбачылі. Каб не даць ім асабліва разглядвацца, Грыбаед сунуў ім бутэльку самагону, а жонка дастала з кубёлка кус сала, і задаволеныя бобікі пабеглі хутчэй пахмяляцца. Першая небяспека такім чынам абмінула іх бокам. У той жа час некаторым у іхняй вёсцы

пашчасціла менш: ад'язджаючы ў мястэчка, паліцаі павялі з сабой трох незнаёмых, знойдзеных на Выселках, іхніх гаспадароў таксама... Увечары, калі дадому вярнуліся Церахаў з Венем, яны нядоўга параіліся і рашылі перасяляцца ў лес.

За алешнічкам збоч ад Грыбаедавай сядзібы выкапалі зямлянку, добра ўкрылі яе мохам ды лапнікам і так замаскавалі, што праз дзесяць крокаў нельга было здагадацца, дзе тут зямлянка. Усярэдзіне паставілі скляпаную з бляхі грубку, добра напалілі яе і неяк поначы пад кастрычніцкае свята перавезлі туды параненых. Але ж, вядома, выседзець там безвылазна было немагчыма, трэба быў харч, вопратка, і па начах вайскоўцы прыходзілі да Грыбаеда, ды і ён нярэдка наведваўся да іх. Пакуль не выпадаў снег, усё было незаўважна, але затым, пасля першых снегападаў, пачалі заставацца сляды, чым далей, тым больш; стала нават прыкметна сцежачка ад сядзібы ў алешнік. Як Грыбаед ні таіўся ад паліцыі і суседзяў і наогул ад староннята вока, нядобрыя людзі, мусіць, усё ж нешта згледзелі і даказалі немцам.

Яго выратаваў выпадак ці, можа, ягоны лёс, як лічыў сам Грыбаед. Іншым пашэнціла меней.

Сталася так, што незадоўга да новага года кончыліся дровы, якіх цяпер трэба было ўдвая больш, бо ў зямлянцы палілі падоўгу і часта — было ўсё ж холадна, асабліва параненым. Але добрых дроў паблізу ад Выселак даўно не было, вяскоўцы ездзілі за дзесяць кіламетраў у пушчу. Неяк раненька на дасвецці Грыбаед пабудзіў Валодзьку, запрог у сані кабылку, і яны паехалі да знаёмай дзялянкі, дзе некалькі год ляжалі нарыхтаваныя, ды не вывезеныя ў Данбас штабялі рудстойкі. Дзялянка была няблізка, але Грыбаед меркаваў да ночы ўправіцца і адным заездам поцемку падкінуць дроў і ў зямлянку. Тым болей што з раніцы церушыў сняжок, значыць, след ягоны засыпле.

Здарылася, аднак, нечаканае. Калі яны з гружанымі санямі пераязджалі Крывы ручай, зламаліся два капылы ў санях, бёрны аселі канцамі ў снег, кабылка,

як ні тузалася, не магла выкараскацца на ўзгорак. Мусілі выгружаць сані і вывозіць дровы з раўка за тры разы, таму добра-такі прыпазніліся і толькі апоўначы пад'язджалі да Выселак. Грыбаед ішоў поруч з кабылкай, прытомлены Валодзька сядзеў на дровах; недаснаўшы ўранку, хлопчык драмаў, і бацька ўсё азіраўся, каб той сонны не зваліўся пад полаз. Ім заставалася, можа, кіламетры два да зямлянкі, як Грыбаед учуў стрэлы.

Стрэлаў было не шмат — некалькі разоў бахнулі вінтоўкі, аднойчы пратрашчаў і змоўк аўтамат. Здаецца, таксама данёсся і крык, — ці, можа, так ім здалося, — і ўсё сціхла. Устрывожаны нядобрым прадчуваннем, Грыбаед скіраваў сані з дарогі пад ельнік і, пакінушы з імі Валодзьку, пашыбаваў наўпрасткі цераз лес да зямлянкі. Ён блізка не падыходзіў да яе, але і здалёку ў начных прыцемках згледзеў, што там сталася кепскае. Дзверы ў зямлянцы былі выбіты, на снезе валяліся сеннікі і сякія-такія транты, якія былі ў параненых, снег навакол быў затаптаны чужымі слядамі. Мабыць, тут жа адбылася і перастрэлка, некалькі гільзаў, падабраных Грыбаедам са снегу, свежа смярдзелі порахам.

Грыбаед подбегам па цаліку, наўпрасткі цераз ручай, кінуўся да свае сядзібы, але здалёку яшчэ ўчуў, як там распараджаліся карнікі. Даносіўся чыйсьці зычны камандзірскі голас, жончын плач, незнаёмыя галасы. Яны там грамілі яго сядзібу, як пасля аказалася, забіралі сям'ю і выгружалі маёмасць.

Грыбаед пратуляўся пад кустамі да таго часу, пакуль не ўбачыў, як трое саней паехала на гасцінец да мястэчка. Тады ён памкнуўся да абрабаванага свайго падворка, але здалёку яшчэ згледзеў сіратлівую хаціну з насцеж расчыненымі дзвярыма і зразумеў, што ўсё загінула. Магчыма таксама, што пакінулі якую засаду для яго, і патыкацца туды ён не наважыўся.

Ён вярнуўся да напалоханага Валодзькі, сказаў, што цяпер яны засталіся ўдвух, паскідаў дровы з саней і скіраваў у самую глуш пушчы. Там яны зрабілі пад елкай будан, у якім пракалаціліся на сцюжы два дні і

дзве ночы, даелі апошні кавалак хлеба, што бралі з сабой у дровы. Пачалі галадаць. Яшчэ праз два дні голад і невядомасць адносна сям'і зноў пагналі Грыбаеда да свайго сельбішча. Засады тут ужо не было, Грыбаед пахадзіў па выстуджанай, дзіўна маўклівай хаце, падабраў што-колечы з вопраткі, вядро, набраў бульбы ў яме — другога чаго тут не засталося. Гэтыя сякія-такія рэшткі яго маёмасці, а таксама бульба і ратавалі іх на першым часе ў пушчы, не даючы замерзнуць і памерці з голаду. Пакрысе яны абладзілі сякую-такую зямляначку ў гушчары, змайстравалі печку, якая хоць і страшэнна дыміла, але давала трохі цяпла. Так бацька з сынам наважыліся дажыць да вясны і, можа, і дажылі б як-небудзь, калі б не іх маладая жарэбная кабылка, якой таксама патрэбна было есці. Сена ў пушчы зімой не было, затое яно было ў яго пуні, і Грыбаед, шкадуючы жывёліну, разы два з'ездзіў у Выселкі. Усё абышлося добра, яго ніхто не сустрэў, а знайсці было немагчыма, бо час Грыбаед выбіраў пад завею, каб не заставалася следу.

Аднойчы з ім разам паехаць за сенам напрасіўся Валодзька. Хлопчык за час іх ляснога жыцця прыкметна занудзіўся без людзей у маўклівай самоце, перастаў усміхацца, відаць было, сumаваў па сястрычках і маці. Спярша Грыбаед не вельмі глядзеў на тое, а пасля ўжо стаў і баяцца, каб з хлопчыкам не сталася кепскае — дужа не па ўзросце стрэла яго такая бяда. І калі сын пачаў прасіцца ў гэты недалёкі начны шлях, Грыбаед, зацяўшы сэрца, згадзіўся.

Папраўдзе, ён яго браць не хацеў, нешта ў ім шчымела благім прадчуваннем, але ён не саўладаў са сваім жалем да адзінага свайго дзіцяці і не прагнаў яго ў зямлянку, калі той пачаў масціцца ў перадку саней.

Ноч была ветраная і непагодная, дужа шумелі хвоі ў пушчы, у доле гуляла завея, кабылка амаль увесь час ішла крокам, адварочваючы галаву ад ветру. Яны да поўначы пераехалі лес, завярнулі на трошкі прыкметную ў цаліку дарожку да Выселак. Ужо блізка быў іхні падворак, ужо Грыбаед пачаў узірацца праз

ветраны змрок, каб што згледзець на ім. Абнадзеена думалася чалавеку: а раптам блісне знаёмы агеньчык у акне, і ён знойдзе там сваіх дачушак і жонку, якіх раптам выпусцілі, бо за што ж іх трымаць? Калі ўжо каго і трымаць, дык яго аднаго.

Але не суджана было Грыбаеду ўбачыць нікога са сваіх. Не ведаў ён, што жонку яшчэ ў першыя дні закатавалі, а дзяцей некуды вывезлі, што старая маці яго, не стрываўшы бяды, сканала ў жандарскім склепе, а ў ягоным двары ўжо трэці дзень запар сядзела засада.

Нічога не ведаючы гэтага, Калістрат Грыбаед рупна паганяў кабылку, і яны пад'язджалі ўсё бліжэй да свае бяды. Ужо стала відаць у прыцемках крывая вярба ля варот, студня з асверам, разламаны чужымі коньмі паркан ля хлеўка. І тады кабылка яго чамусь сама стала, ускінула голаў і ціхенька трывожна храпнула. Ён ужо ведаў гэты яе чыста сабачы, не конскі, нораў і пацягнуў лейцы. З усяе сілы ён узіраўся ў цьмяны падворак, але нічога не заўважаў там. Толькі штосьці ўсё ж там было, — яшчэ нябачнае, але напэўна страшнае. Валодзька, які таксама не на жарт устрывожыўся, пачаў ціха казаць яму: «Тата, не едзь! Не едзь, тата!..»

І ён пачаў заварочваць кабылку.

Але не паспела тая выбрацца з снегу на дарогу і вывернуць з сабой аглоблі, як з падворка прагучаў злы крык «Стой!». Ён з сілай выцяў кабылку пугай, адначасна грымнуў вінтовачны стрэл. Валодзька адразу тыцнуўся ў сані і нешта праякатаў благім голасам, а ён, не зважаючы на той яго крык, стаў у санях на калені і пачаў пугаўём гнаць кабылку. Кабылка, нібы чуючы людскую бяду, ірванула галопам, яны мігам праскочылі адкрыты кавалак дарогі і пад частыя стрэлы ззаду ўляцелі ў лес. Толькі праехаўшы па лесавай дарозе з кіламетр, Грыбаед прыпыніў сані і схапіў за плечы Валодзьку.

Валодзька ляжаў на баку і абедзвюма рукамі заціскаў на жываце полы армячка. Бацька адарваў яго

здранцвелыя рукі, расхінуў армячок і жахнуўся. З акрываўленай раны, нібы жывыя, палезлі, хутка пахнучы ў ягоных руках, тоненькія дзіцячыя кішкі. Ціхенька якочучы, хлопчык машынальна падбіраў іх пад скрываўленую зрэбную сарочку і плакаў ад болю і бяды, якой ужо не было рады...

Ён прывёз яго ў зямлянку яшчэ жывога, Валодзька нешта гаварыў яшчэ, клікаў маму, пасля сціх і ляжаў да ранку маўклівы, толькі чуць патузваючы рукой ці нагой. Якраз на світанні ён зусім сціх...

## 8

Вузкай лесавой дарожкай яны перайшлі край бору, мінулі стары, зарослы дробным маладняком расцяроб і павярнулі ўлева. Неўзабаве Грыбаед вывеў іх на край жытняга поля. Падзеленыя нізенькімі, нядбайна абаранымі межамі, некалькі нівак буяла някепскім жытцом, між даспяваўшых каліў якога ззялі густыя россыпы васількоў, белыя галоўкі рамонкаў. Грыбаед узышоў на шырэйшую між ніваў мяжу, і яны пайшлі па ёй, шморгаючы нагамі ў шорсткай межавой траве.

Ляўчук чакаў убачыць якія будынкі ці, можа, коміны на саламяных стрэхах — звыклыя адзнакі вёскі, — але ён толькі пазнаў яе колішнія тут сляды — некалькі высокіх дрэў, што воддаль стаялі за жытам. Вёскі не было. Падышоўшы бліжэй, яны ўбачылі за ўрослымі ў пустазелле платамі абкураныя рэшткі печаў, дзе-нідзе недагарэлыя, абвугленыя вуглы, раскочанае бярвенне ў зарослых травой падворках. Ад многіх будынкаў засталося толькі каменне падмуркаў. Шмат якія дрэвы паблізу ад пажарышчаў стаялі ссохлыя, з чорным, без лісця галлём. Высокая ліпа па-над калодзежам недарэчна зелянела адным сваім бокам — другі быў спалены і далёка тапырыў счарнелыя галіны. На затаптаных гародах валяліся пабітыя дзежкі, палкі, збуцвелыя шэрыя транты. Мабыць, вёску спалілі вясной, калі яшчэ не засявалі гародаў, азіміна расла ў полі сама, а ярыны не было нідзе. Поле каля гародаў ляжала аблогам, на ім густа разросся асот і пырнік.

— Куды гэта ты нас прывёў? — спыніўся Ляўчук. — Дзе тваё жытло?

— Чакай, чакай! Хадзі сюды!

Грыбаед цягавіта скіраваў кудысь ускрай вёскі, яны перайшлі неглыбокі раўчук ля кустоўя, вылезшы з якога, адразу ўбачылі маленькае, у два будынкі гуменца на пагорачку каля алешніку.

— Ну во! Бачылі? Там яна нешта збірала. Ці зёлкі якія, ці што.

— Так, ціха. Пабудзьце тут, — адхінуў старога Ляўчук, а сам хутка пайшоў да гумна.

З алешнічку выбягала, некалі мабыць, гразкая, а цяпер няблага ўсохлая дарожка, якая, трохі не дайшоўшы да гумна, паварочвала ў бок былой вёскі. Свежых слядоў на ёй не было, але гэтая дарожка не спадабалася Леўчуку, і ён, перш чым перайсці яе, ажно спыніўся, агледзеўся. З дзвюх будынін гумна бліжэй да дарогі стаяла паветка з рэштаю жытняй саломы ў адным канцы. Далей быў стары скасабочаны ток з прадранай страхой, у дзірках якой, бы рабрыны на худобе, тырчалі латы. Ляўчук зводдаль абышоў крушню на рагу тока, зараснік густога малінніку пры сцяне і апынуўся з таго боку, дзе былі дзверы. Дзверы былі прычынены, і паблізу нікога не было відаць. Толькі на вяршаліне яблыні-дзічкі, што расла ўскрай жыта, ціха пагойдваўся стары вялікі крумкач, які, схіліўшы галаў, насцярожана пазіраў на яго. Ляўчук махнуў рукой, але крумкач нават не цепнуў вокам, і толькі калі Ляўчук ірвануў з пляча аўтамат, той лена ўзмахнуў крыллем і нехаця паляцеў у бок вёскі.

Нідзе нікога не ўбачыўшы, Ляўчук ціхенька прыадчыніў адну палавінку дзвярэй. У таку стаяў прыцемак, пахла гнілой саломай і пылам; праз дзверы над яго галавой адна за адной з ціхім піскам прашмыгнулі дзве ластаўкі, мабыць, у падстрэшшы былі іхнія гнёзды. Ляўчук шырэй адчыніў дзверы і пераступіў падваротню.

Не, мусіць, Грыбаед не памыліўся, калі казаў пра жанчыну — сапраўды, у гэтым таку жылі.

Збоч ад дзвярэй, пад сцяной, на зляжалым ахапку саломы была разаслана старэнькая коўдра, ляжалі нейкія лахманы ля сцяны, тут жа стаяла кадка з вадой і над ёй на сцяне вісеў кажушок. Ляўчук агледзеў чыста падмецены земляны дол, на краі якога роўна стаялі скураныя атопкі — абрэзкі ад зношаных ботаў. Цёмныя сцены скрозь свіціліся шчылінамі паміж бярвення. Злева ад увахода былі яшчэ адны нізенькія дзверы, мабыць, у асець; там жа, коса прыхінутыя да сцяны, стаялі драбіны.

Ляўчук пастаяў, разважыў і ціха падаў свой голас:

— Гэй! Ёсць хто жывы?

Ніхто яму не азваўся, мабыць, у таку не было нікога. Але рана ці позна хтось павінен жа сюды завітаць, калі тут жыве, падумаў Ляўчук і выйшаў на панадворак. Грыбаед з Клавай напружана пазіралі на яго з кустоў.

— Давай сюды! — махнуў ён здаровай рукой.

Калі тыя падышлі бліжэй, ён шырай расхінуў дзверы — заходзьце! — і Клава падбітым крокам, хапаючыся за дзверы, першая ўвайшла ў ток. Спярша яна боязна агледзела гэты змрочны чалавечы прытулак, а пасля, згледзеўшы коўдру, падалася да яе і знясілена, амаль роспачна апусцілася на салому.

— Ну во! Адсюль ужо нікуды не пойдзем, — сказаў Ляўчук. — Але дзе ж гаспадыня?

Грыбаед, не заходзячы ў ток, абышоў яго аброслыя маліннікам і крапівой вуглы, пастаяў, паўзіраўся сюды-туды. Не, мусіць, і паблізу не было нікога. Было ціха. Адно пад свежымі павевамі ранішняга ветру шапацела недалёкая яблыня ды з ціхім пошумам матляла каласамі жыта.

А Ляўчук тым часам, агледзеўшы куткі гэтай будыніны, ступіў на драбіны, зазірнуў на асець. Ён думаў, што,

можа, тутэйшыя жыхары дзе пахаваліся. Але і на асеці было пуста, на земляной прысыпцы ляжала не кратаная чалавечай нагой труха і ластаўчын памёт. З маленькага шэрага гняздзечка пад кроквай выглядвалі цікаўныя галоўкі птушанят, чуўся іх устрывожаны піск. Безуважны, аднак, да яго Ляўчук саступіў на дол і адчыніў нізкія дзверцы ў асець. У невялічкім пракураным закутку таксама нікога не было. Маленькае, затканае павуціннем акенца кідала трохі святла на закурэлую печку-каменку, ад якой ішоў затхлы прарэзліва-дымны дух.

— Ладна, што ж, пачакаем. Ты як: патрываеш, Клава? — звярнуўся ён да радысткі, але тая не азвалася. — Каб во — паесці чаго!

Паесці было б вельмі дарэчы. У іхніх жыватах даўно ўжо было пуста, але яны не мелі нават кавалка хлеба, а іхняя кухня засталася немаведама дзе, і аб харчы цяпер трэба было клапаціцца самім. Трохі, аднак, дзівячыся адсутнасці гаспадароў гэтай будыніны, Ляўчук выйшаў на панадворак, зноў абышоў жытло, паўзіраўся ў недалёкі алешнік. Але, мусіць, гаспадары сышлі кудысьці далёка, прынамсі, паблізу не было нікога. Тады Ляўчук памалу пайшоў паўз жыта да гэтага алешнічку, затым па-над ім выйшаў на дарогу, пастаяў, каб упэўніцца, што навокал усё спакойна, і паглядзеў у алешнік.

Алешнік быў невялічкі, за ім аказалася шырокая лесавая прагаліна ці, можа, край поля, далей цямнеў ельнік. Тут жа зелянеў шнурок бульбы каля ячменю. Бульба, відаць па ўсім, была ніштаватая, можа, нават які ранні гатунак, з рослым бульбоўнікам; на крайніх барознах ляжала ўсохлае каліўе — значыць, бульбу ўжо падкопвалі. Падумаўшы, што няблага будзе яе наварыць, ён хуткім крокам скіраваў назад — трэба было знайсці які кош ці вядро.

— Эй, дзед! Давай пасудзіну. Бульба... — гукнуў ён у расчыненыя дзверы тока. Аднак Грыбаед не азваўся, ён сцішана сядзеў на кукішках ля Клавы — прыкрытая стракатым дыванком, тая нешта выгіналася на саломе, і

ў Леўчука раптоўна ўпала ўсярэдзіне — няўжо пачынаецца? Ён ціха пераступіў парог, але Грыбаед, учуўшы яго, замахаў рукой, і ён моўчкі выйшаў. Здаецца, дзеўцы прыспічыла, а ніякае бабы тут не аказалася. Хіба што Грыбаед?

Ён пастаяў ля дзвярэй, паслухаў, ці не скажа яшчэ што стары, але той маўчаў. Тады Ляўчук успомніў, што, здаецца, у такіх выпадках патрэбна рыхтаваць цёплую ваду, значыць, трэба раскласці агонь. Ён кінуўся сюды-туды і знайшоў пад павеццю некалькі сухіх палак, якія патрушчыў абцасам, і тут жа, на падворку, няспрытна ўпраўляючыся левай рукой, расклаў цяпельца. Горш было з пасудзінай для вады, але, пашукаўшы, ён знайшоў у маліннiку дзіравы стары казанок, трэскай забіў дзірку ў яго прашараваным дне і збегаў у ручай па ваду. Увесь час ён прыслухоўваўся да гукаў адтуль, з тока, і хоць амаль нічога не чуў, сам туды не заходзіў. Ён узяўся шчыраваць каля агню, які ладна разгарэўся на ветры, і вада ў казанку памалу пачала грэцца.

— Во добра, — раптам сказаў Грыбаед, які выскачыў з тока. — Здагадлівы.

— Ну як там? — запытаў Ляўчук.

— Нічога. Усё добра.

— А ты таго... Што-небудзь кумекаеш?

— Ды ўжо ж, што-небудзь, — ухіліўся ад адказу Грыбаед, схапіў нейкія транты, што сушыліся на прыхінутай да сцяны баране, і зноў знік у таку.

Тым лепш, падумаў Ляўчук, з Грыбаедам, можа, яшчэ як абыдзецца, горш, калі б ён застаўся сам-насам з Клавай. Цяпер ён не ведаў, што там рабілася, але яго ўвага да тока напружылася, ён мімаволі пачаў хвалявацца — а раптам што-небудзь выйдзе не так?

Але, мусіць, усё выйшла, як і належыць у такіх выпадках, неўзабаве Грыбаед неяк спяшліва зноў выбег з тока і зашмальцаваным крысом свайго мундзіра

выхапіў з агню казанок.

— Што, ужо?

— Ужо, ужо...

Ляўчук падзівіўся трохі: ён чакаў, ці не пачуецца спярша дзіцячы плач або хаця б стогн мацеры, а тут ні плачу, ні стогну, і гэтая старая «бабка» кажа, што ўжо.

— Зараз, зараз! — гучнейшым голасам, мусіць, да яго, сказаў Грыбаед з тока. — Зараз!

Ляўчук стаў за дзвярыма і хваляваўся, як бацька, якому ўжо хвалявацца не прыйдзецца. Гэты абавязак перапаў ім, ягоным таварышам па вайне, і цяпер шмат што ў адносінах Леўчука да Клавы вызначалася ранейшымі яго адносінамі да Платонава. Ва ўсякім разе, Ляўчук адчуваў сябе абавязаным не столькі дзеля самой Клавы, колькі дзеля памяці яе каханага.

— Ды хто там? — нецярпліва гукнуў Ляўчук. — Хлопец ці дзеўка?

— Мужык! — нейкім незнаёмым, палагаднелым голасам сказаў Грыбаед. — Харошы дзяцюк. Ідзі сюды!

З нечаканай, проста неверагоднай для яго цікаўнасцю Ляўчук увайшоў у ток і зірнуў на невялічкі пакуначак з парашутнага шоўку ў руках Грыбаеда. Побач у прыцемках чужой саламянай пасцелі амаль са страхам у спакутаваных вачах на іх пазірала Клава.

— Во глядзі! Акурат Платонаў...

— Маленькі зморшчаны тварык, заплюшчаныя вочкі — відаць, што жывая істота — і нічога болей.

Але каб падбадзёрыць маці і зрабіць прыемнае яе «бабцы», Ляўчук сказаў:

— Нішто, нішто...

— Во цяпер нас зноў трое мужыкоў, — другім голасам

сказаў Грыбаед. — Чым толькі карміцца будзем?

Ляўчук схамянуўся. Ён, які дагэтуль адчуваў тут сябе амаль што лішнім, зразумеў свой абавязак, схапіў казанок і выскачыў з тока. Пралезшы праз гушчар алешніку, ён левай рукой пачаў выдзіраць бульбоўнік, за карэннем якога дзе-нідзе цягнуліся з зямлі невялічкія, па галубіным яйку, бульбіны. Ён асабліва не ашчаджаў ні барознаў, ні каліўя, якое рваў і кідаў, разграбаў рукою зямлю і выбіраў буйнейшыя бульбіны. Яго поўніла нейкае новае, яшчэ не зведанае ці забытае ім пачуццё далучэння да звычайнага людскога жыцця, якому няма ніякае справы да іх вайны, і яго адносіны да Клавы цяпер увачавідкі мяняліся з нядбайна-прыдзірлівых да шаноўных. Цяпер яна была для яго не тая гарэзная Клаўка, якую ён некалі прывёз у атрад, і не партызанская дзеўка, якая нагуляла дзіцёнка хоць бы і з іхнім паважаным начальнікам, а найперш — проста жанчына-маці, дагледзець якую было іх абавязкам. А ён прадчуваў, колькі яшчэ дастанецца ёй у гэтым яе неспадзяваным лясным мацярынстве, і хацеў хоць напачатку зменшыць усё тое нялёгкае, што наканаваў ёй яе партызанскі лёс. Як ні дзіўна, але менавіта цяпер ён упершыню за шмат год адчуў сябе не байцом-партызанам, не разведчыкам ці кулямётчыкам, а найперш чалавекам, гэта было нова і надзвычай прыемна. Так, нібы не было ўжо і вайны.

Уздзеўшы за спіну аўтамат, ён пачаў завіхацца з бульбай — перамыў яе ў ручаі, набраў вады ў казанок, зноў раздзьмуў вогнішча і прыладзіў да яго казанок.

— У мяне солі ёсць трохі, — сказаў Грыбаед, калі, выйшаўшы з тока, убачыў на вогнішчы бульбу.

— Ды ну! Можа, у цябе і хлеб ёсць? — іранічна перапытаў Ляўчук.

— Не, хлеба няма. А пасаліць трохі будзе.

Ён укленчыў ля агню, дастаў з нагруднай кішэні фрэнча чырвоную анучку, разгарнуў яе, затым яшчэ разгарнуў паперку і двума пальцамі ўзяў крышачку солі.

— Болей бяры! Што гэта твая шчопаць! — сказаў Ляўчук.

Грыбаед узяў трошкі болей, але, памеркаваўшы, адсыпаў і трыма пальцамі кінуў некалькі драбкоў солі ў казанок.

— Ашчаджаць трэба. Дзе яе возьмеш пасля...

— Ну як там Клаўка? — запытаў Ляўчук.

— Заснула. Хай паспіць — ёй цяпер трэба.

— А малы?

— І малы спіць. Цыцку пассаў і спіць. А што яму?..

— Ну добра. Сядзь, пасядзі тут.

— Не, я ўжо ў засень. А то горача. Баюся, галаву напячэ.

Сапраўды, на падворку стала гарачавата, сонца ўзнімалася ўсё вышэй і прыпякала; не верылася нават, што нядаўна яшчэ ім было так пакутна ад холаду. Але што спёка ці холад — галоўнае, яны адкараскаліся ад немцаў, зашыліся ў лесавую глушэчу, дзе не было нікога — ні партызан, ні немцаў, на вогнішчы ў казанку даварвалася свежая бульбачка, абяцаючы згаладнелым які-ніякі наедак. Найбольшая бяда іх мінала, і каб не той небарака Ціханаў, дык Ляўчук, мабыць, быў бы задаволены сваім сённяшнім лёсам.

Праўда, яго трохі насцярожвала, што няма гаспадароў гэтага неадмысловага жытла, усё ж ім патрэбны быў нехта гаспадар ці найлепш гаспадыня, — якія б узялі на сябе далейшы клопат пра Клаву. Да таго ж трэба было пра што-кольвечы распытаць іх, а можа, і разжыцца фурманкай, калі яны не маглі зберагчы свае.

Але гэта быў клопат наогул, можна нават сказаць, на пасля, галоўная ж турбота з Клавай, здаецца, уладзілася, мабыць, уладзяцца як-небудзь і астатнія.

Бульба кіпела, і каб даведацца, ці зварылася яна, Ляўчук усё поркаў у казанок праціркай ад Ціханавага аўтамата, якую выняў з прыклада. Праціpка, аднак, лезла туга, трэба было яшчэ варыць, і ён падкладваў у агонь, што знаходзіў паблізу абломкі струхлелых палак, дошку, паламаў тонкую жардзіну з плота. Грыбаед неяк стомлена сядзеў на баране пад страхой і заклапочана пазіраў на агонь.

— Ну што невясёлы, дзед? — запытаў Ляўчук. — Усё ж добра.

— Добра, ды не ўсё,— уздыхнуў Грыбаед.

— Ну, а што? Ціханаў?

— А хоць бы і Ціханаў. Малады яшчэ... Хіба жыць не хацеў?

— Жыць усім хочацца. Ды не ўсім выходзіць.

— Во пра тое і думаю. А тут малое...

Малое, канечне, не ў час, нават вельмі не ў час, падумаў Ляўчук. Калі б хоць на які тыдзень раней, калі не было гэтай блакады, а цяпер сапраўды, як яна будзе з малым у чужых людзей, якіх немаведама дзе знайсці ў гэтым зруйнаваным, папаленым краі.

— Відаць, трэба яшчэ каго пашукаць, — сказаў Ляўчук. — А то чорт яго знае — нешта няма нікога.

Грыбаед сядзеў моўчкі і засяроджана глядзеў у агонь, і Ляўчук, у якога ўжо падцягнула жывот, махнуў здаровай рукой:

— Ладна. Спярша паямо бульбачкі, а там відаць будзе.

**9**

...Ён прасядзеў у двары гадзіну, не менш, сонца схавалася за дахам суседняга дома, і двор патануў у шырокім, гектара на паўтара, цені. Да Леўчука ніхто не

падыходзіў і не трывожыў яго на зручнай дошчачцы-лаўцы, двор жыў сваім звыклым для яго жыццём — дзеці забаўляліся кожны сваім, дарослыя спяшаліся па справах ці займаліся кватэрнай гаспадаркай — зводдаль ад парога трэслі палавікі, падмяталі дарожкі; насупраць ля плота выбівалі цяжкія стракатыя дываны, і магутнае баханне выбівалак аддавалася гулкім далёкім рэхам. Бабулькі пасядзелі яшчэ крыху без сонца і пайшлі ў свае кватэры, а мужчыны ля недалёкага гаража ўсё калупаліся ў чэраве разабранага імі «Масквіча». Там жа круцілася некалькі цікаўных хлапчукоў.

Ляўчук добра ўжо вывучыў гэты двор, усе яго куты і закуткі. Увогуле тут яму падабалася — чыста, дагледжана, толькі залішне шмат гаманы, людзей — як на кірмашы ў свята. Праўда, на ўсё, мусіць, патрэбна прывычка. Ён жа за жыццё прывык да вясковае цішыні, якая рэдка калі парушаецца гаманой, а болей галасамі жывёлы, курэй, далёкім тарахценнем трактара ў полі. Тут жа гамана, і грукат, і тарахценне — усё разам.

Перабіраючы ў памяці рознае з таго, што тады з ім здарылася, Ляўчук усё не мог пазбавіцца ад думкі-пытання — хто ён цяпер? І які ён? Часам Ляўчук увачавідкі бачыў яго высокую постаць са спакойным неспяшлівым поглядам разумных вачэй, добразычлівай усмешкай да кожнага, знаёмага ці не, гатовым павітацца і загаварыць, калі трэба. Ён не любіў нахмураных і маўклівых людзей, хоць сам не дужа быў гаваркі, ну але гэта сам. Ён жа павінен быць ва ўсіх адносінах лепшы. Магчыма, ён інжынер, спецыяліст па машынах ці розных механізмах, якіх цяпер процьма ўсюды. Можа, нават сам робіць машыны, аўтамабілі, напрыклад. Аўтамабілі Ляўчук паважаў здаўна, некалі нават марыў стаць шафёрам, калі б не рука. Але з адною рукой не дужа кім станеш. Гады тры назад у іхні калгас прыязджалі з горада інжынер і тры тэхнікі, ладзілі на ферме кармакухню, ён тады трохі пагутарыў з імі — спадабаліся дужа, і Ляўчук нават падумаў: можа, і ён таксама спецыяліст высокага класа. Увогуле было прыемна.

А можа, ён доктар у якой вялікай бальніцы, робіць аперацыі і лечыць людзей? Ляўчук ведаў, як гэта важна — умела лячыць людзей, бо сам пасля вайны часта наведваўся ў бальніцы, быў нават у санаторыі інвалідаў вайны ў Крыме. Там жа ў яго адбыўся прыкры канфлікт з доктаркай, якая яго зняважыла. Зрэшты, можа, гэта была і не зняверага, а толькі непаразуменне, але тады ён падумаў, што калі б на яе месцы быў доктар-мужчына, дык ніякай сваркі і не адбылося б. І ён некалькі разоў пасля нават сасніў, што яго лечыць ён, хоць і не пазнае, і Ляўчук не мог яму расказаць пра сябе, бо ці ён паверыць? Сапраўды, адна толькі ягоная памяць, якія яшчэ ў яго доказы?

Вядома, ён мог стаць кім хочаш — нават і ў галаву не адразу прыйдзе, кім ён можа быць у гэтым жыцці, калі ўдаўся, здатны на розум, вучоны. Вучоны — дык гэта ўжо пэўна. Скончыў інстытут і яшчэ нешта, можа, нават кандыдат, ці як яны там называюцца, тыя вучоныя. Адна дзеўка з іх вёскі выйшла ў горадзе замуж за дужа вучонага, улетку разам прыязджалі да маці, і яна інакш не называла яго як мой кандыдат. А маці, ведама, трохі цемнаватая жанчына, усё пераблытала і разы два назвала яго дэпутатам. Але не пакрыўдзіўся.

Напэўна, яшчэ ён гаспадарлівы, любіць лічыць капейку і ўжо, вядома, не надта захапляецца чаркай — гэта такая брыдота цяпер сярод маладзейшых. Праўда, Ляўчук і сам некалі меў такі грэх, але ўжо даўно выпівае толькі ў свята ці з якой нагоды, калі, напрыклад, прыедуць госці. Ну, але сваё жыццё — не яму ў прыклад, ён павінен быць лепшы.

Яшчэ ён не лаецца — ні ў якім разе. Не тое каб зусім не казаў калі грубага слова, але ўжо не так, як некаторыя з цяперашніх — што ні два словы, то мацюкі. Такіх Ляўчук не паважаў нікольк, хоць бы яны былі вунь якія вучоныя ці нават начальнікі. Гэта ў вайну, сярод крыві, голаду, смерцяў, сварыліся і лаяліся, а цяпер завошта? Чаго цяпер не хапае ў жыцці?

Але кім бы ён ні быў па прафесіі ці пасадзе, найперш павінен быць чалавекам. Ляўчук не ўкладваў у гэта

паняцце якога складанага ці філасофскага сэнсу, гэта ў яго фармулявалася проста: каб быў добры, разумны і ўдачлівы, але не за кошт другіх. Ён дужа ўжо шмат нагледзеўся ў жыцці на розных спрытнюгаў, якія ладзілі свой дабрабыт за кошт іншых і былі разумныя з выгодай для сябе, з найбольшай для сябе карысцю. Такіх Ляўчук ненавідзеў, як можна было ненавідзець на вайне тых, хто спрабаваў выжыць цаною гібелі іншых. Сам ён ніколі нідзе не схітрыў, нікога не ашукаў з карысцю для сябе, гэта яму было агідна, і ён ненавідзеў тыя малыя ці вялікія хітрасці ў іншых.

Зрэшты, усё гэта былі яго мары, думкі, передуманыя ім за трыццаць гадоў — роўна палавіну свайго жыцця. На справе ж, ён ведаў, усё можа аказацца не так. Але ён не хацеў, каб аказалася не так, — ён прагнуў, каб было так, як павінна быць, як бы ён хацеў, каб было з яго сынам, якога не даў яму бог. Замест сына нарадзіліся тры падобныя на маці дачкі з усімі мацярынскімі звычкамі, характарам, аздобай. Ад бацькі ж у іх нічога. Тут, канечне, не сын, але столькі з ім звязана! Усё, што з Леўчуком сталася далей да канца вайны, хоць таксама было не лягчэй, але ўжо не тое. Тады ж ён выклаўся ўвесь, можа, нават пераўзышоў сябе, і на другі такі раз у яго проста не хапіла б пораху...

## 10

Яшчэ раз парнуўшы ў казанок праціркай, Ляўчук адчуў, што тая далезла да дна, і сказаў Грыбаеду адцадзіць — самому гэта было нязручна. Грыбаед прыкрыў казанок крысом шарсцянога, некалі шыкоўнага, з кантамі, мундзіра і перакуліў над травой. Вады там аказалася зусім мала, ён пачакаў, пакуль яна не выцеча ўся да кроплі, затым паставіў казанок на агонь.

— Хай падсохне.

— Што там сохнуць? Нясі ў ток, будзем есці! Грыбаед зноў узяў між полаў казанок, з якога валіла гарачая пара, Ляўчук расчыніў яму дзверы, Клава, якая, мабыць, задрамала і ляжала, прыгарнуўшы да сябе

беленькі шаўковы скрутак з малым, спахапілася і слаба, як здалося Леўчуку, усміхнулася яму аднымі вуснамі.

— Давай есці будзем! Во бульбачка свежая, мабыць, свежай не ела сёлета?

Яна памкнулася ўстаць, і Ляўчук падкамячыў ёй пад плечы болей саломы, заклаў ад сцяны кажушок. Клава ўладкавалася, усё не выпускаючы з рук малога, папраўіла валасы на лбе.

— Спіць? — запытаў Грыбаед, стаўляючы каля яе казанок.

— Спіць. Нешта ўсё спіць і спіць, — сказала яна з нейкаю нават трывогай.

— Нічога. Хай спіць. Будзе, значыць, як бацька, спакойны.

— Дзякуй вам, дзядзька, — пакорліва сказала Клава.

— Няма за што. Канечне, якая баба, можа б, лепей управілася.

— А і ты няблага, — сказаў Ляўчук, сядаючы побач. — Ні крыку, ні плачу.

— Гэта не я. Што я? Гэта яна во...

Яны ўдвух, апякаючы пальцы, пачалі цягаць з казанка гарачыя бульбіны, а Клава сядзела, адхінуўшыся да сцяны з малым пад рукою. Ляўчук паглядзеў на яе.

— Ну еш. Чаго ты?

— Там у сумцы лыжка была, — прабачліва сказала яна, і ён, зразумеўшы, дастаў знад галавы пляскатую нямецкую сумку Клавы з небагатай яе маёмасцю.

— Лыжка во, на!

— І пляшачка там, дастань ужо. Дзеля такога выпадку.

— Пляшка! Ого! Го-го! — узрадаваўся Ляўчук і

сапраўды выцягнуў з сумкі белую алюмініевую пляшку, у якой штосьці ціхенька плёскалася. — Самагонка?

— Спірту трохі. Трымала во...

— Ой, ты малайчына! — пранікліва сказаў Ляўчук. — Дай табе бог здароўя, малому тожа. Грыбаед, дык як — цмыганём?

— Ды ўжо ж, калі такое дзела, — ніякавата паморшчыўся Грыбаед, і вочы яго неяк мякка і па-добраму засвяціліся ў пярэстым ад шчылін прыцемку тока.

Яны ахвотна і з некаторай нават урачыстасцю выпілі разведзенага ў пляшцы спірту: спярша Ляўчук — глытнуў, хукнуў, зрабіў невялікую паўзу і ўкусіў бульбіну. Пляшку ў яго пераняў Грыбаед. Гэты спярша паморшчыўся, выпіў нешта з глыток, паморшчыўся болей — усімі зашчаціненымі зморшчынамі свайго абвялага, да часу састарэлага твару.

— А хай на яго! Ужо самагонка лепей!

— Зраўняў. То ж чысты, фабрычны. А то самагонка.

— Дык што, што фабрычны? Кажу, прыемней, мякчэй быдта.

— А ты вып'еш? — Ляўчук падняў вочы на Клаву.

— Ай, нельга ж мне, мусіць, — сумелася дзяўчына.

— А чаму? — сказаў Грыбаед. — І выпі. Бывала, мая як карміла, дык калі і вып'е. У свята. Рабёнак тады спіць добра.

— Ну я трошачкі толькі.

Яна паднесла пляшку да вуснаў і трошачкі глытнула, бы паспытала, і Ляўчук крэкнуў ад задавальнення — ён ужо чужую асалоду гатовы быў перажываць, як уласную.

- Ну во і добра. Цяпер есці будзем. Бульбачка хоць не абіраная, а смачная. Праўда?

— Смачная бульба, ага. Я дык, здаецца, ніколі такой яе ела.

— Як грыбы! Каб толькі солі больш, а, Грыбаед? — з намёкам сказаў да старога Ляўчук, але той пакруціў галавой:

— Не, не дам. Саўсім трохі асталося. Яшчэ трэба будзе.

— Не знаў я, не знаў. Скупы ты!

— Ну і што, што скупы? Каб жа яе болей было! А так... На раз языком лізнуць.

Клава з'ела некалькі бульбін і аблеглася плячмі на кажушок.

— Ой, як у галаве закружылася, — сказала яна.

— Гэта нічога. Гэта пройдзе, — супакоіў Ляўчук. — У мяне ў самога аркестр іграе. Так весела.

Грыбаед непрыязна паглядзеў на яго. Зморшчыны на твары ездавога прарэзаліся глыбей, нешта характэрнае і крыўдлівае ўзнікла ў выразе яго спакутаваных, звычайна пакорлівых вачэй.

— Чаго весяліцца? Яшчэ сонца вунь дзе.

— Ну і што?

— А то. Да вечара яшчэ вунь колькі.

Ляўчук еў бульбу, мусіць, з куды большай ахвотай, чым астатнія. Канечне, ён замарыўся, згаладаўся і цяпер захмялеў трохі, але ўсё роўна невядома чаму адчуваў сябе ўпэўненым і дужым. Ён сам ведаў, што здарыцца можа ўсякае, але ў яго быў аўтамат, адна дужая, непараненая рука, зрэшты, другой ён таксама налаўчыўся праз боль трохі памагаць здаровай. Ён перабываў ужо за вайну, мабыць, у дзесятках самых

неверагодных пераплётаў, з усіх пакуль што выбіраўся жывы і цяпер проста не ўяўляў, каб з ім сталася штосьці кепскае. Самым кепскім, вядома, было б загінуць, але пагібель яго не надта палохала, ён ужо меў час звыкнуцца з ёю і, калі не прывыкнуць, дык уведаць ва ўсіх падрабязнасцях, якая яна бывае.

Іншыя паводзілі сябе трохі інакш.

На Грыбаеда ўсё неяк прыкметней пачаў находзіць цяжкі мужчынскі одум, быццам ён успамінаў пра што, і, жуючы бульбіну, раптам перастаў варушыць сківіцамі і нерухомеў. Клава ўсё паспявала рабіць адначасна: і ела, і ўвесь час з нейкай нервовасцю даглядала свайго малога, і разам з тым нібы ўслухоўвалася ў штосьці, што чула толькі яна адна. Ляўчук ужо неаднойчы заўважыў гэта і, даядаючы бульбіну, сказаў:

— Што? Што ты ўсё вушамі стрыжэш?

— Я? Здаецца, чуваць нешта. Бы галасы...

Яны ўсе ўслухаліся, Ляўчук не пачуў нічога і, каб канчаткова ўпэўніцца ў тым, узяў за шыйку аўтамат і выйшаў з тока.

Час, мабыць, набліжаўся пад поўдзень, на гумне здорава паліла сонца, трохі шумела яблыня і жыта пад ветрам, і нідзе не было нікога. Над разамлелым ад спёкі краем ляжала дрымотная ціша. Ляўчук абышоў гуменца і вярнуўся ў ток.

— Здаецца табе, Клаўка. Нідзе нікога.

— Можа, і здаецца, — сказала, спакайнеючы, Клава. — Гэта ў мяне бывае. Я малая была такая трусіха. Баялася адна дома застацца. А ўвечары — нізашто. Жылі ў Маскве на Салянай, дом стары, мышэй было процьма. Бацька часта ў раз'ездах, а маці калі запозніцца, дык я заб'юся ў куток за буфет і плачу. Мышэй баялася.

— Мышэй? — здзівіўся Грыбаед.

— Мышэй, ага.

— Мышэй чаго ж баяцца! Хіба яны ўкусяць?

— Мышы — не ваўкі. Ваўкі — во. Ваўкоў і я баяўся. Напалохалі некалі, — сказаў Ляўчук і выцягнуўся на цвёрдым земляным доле. — Цяпер бы кімарнуць гадзінку. Як думаеш. Грыбаед?

— Як знаеш. Ты — старшы.

Грыбаед без вялікай ахвоты даядаў з казана бульбу/

Ляўчук пазяхнуў раз і другі, мяркуючы, як бы зрабіць так, каб Грыбаед папільнаваў, а ён сапраўды трохі заснуў. Спаць хацелася страшэнна, асабліва цяпер, калі ён збольшага спатоліў голад ды яшчэ глынуў спірту. Але ён нічога яшчэ не паспеў сказаць Грыбаеду, як раптам Клава хліпнула і зайшлася ў сутаргавым, нейкім унутрана-неадольным плачы, і Ляўчук падхапіўся з долу.

— Што такое? Ты чаго? Ну чаго ты? Усё ж добра, Клава!

Яна ўсё хліпала, затуліўшы далонямі твар, Ляўчук не разумеў, што здарылася, і спрабаваў яе супакоіць. А Грыбаед сядзеў на сваім месцы, падцяўшы пад сябе босыя ногі, і журботна пазіраў на абаіх.

— Ну ладна. Чаго ты? — сказаў ён Леўчуку. — Ну і што! Хай паплача. У кожнага нешта ёсць, каб паплакаць. У яе во сваё. Хай!

Ляўчук сеў, і Клава сапраўды разы два хліпнула і рукавом гімнасцёркі выцерла вочы.

— Прабачце. Не ўтрымалася. Болей не буду.

— Ты кінь так жартаваць,— сур'ёзна сказаў Ляўчук. — А то знаеш... І мы заравём, на цябе гледзячы.

Вусны яе зноў скрывіліся, здавалася, яна зноў не ўтрымае ў сабе нейкую крыўду, і Грыбаед паспяшаўся запэўніць:

— Нічога, усё добра. Галоўнае — дзіцёнак ёсць. Ладны

такі. Вырасце. Вайна праклятая скончыцца, усё наладзіцца. У маладых усё хутка наладжваецца. Старому ўжо тупік, а ў маладых усё ўперадзе. Не трэба ўбівацца. Каму цяпер лёгка? Мне, думаеш, лёгка? Каб мне вашае гора...

— Да, — памаўчаўшы, сказаў Ляўчук. — Давайце пра што весялейшае... От магу расказаць, як я перад вайной ледзь не ажаніўся...

Але Грыбаед, захоплены сваім, не адгукнуўся на гарэзную Леўчукову прапанову і ўсё сядзеў, нявесела пазіраючы перад сабой.

— Век сабе не дарую: ну нашто я яго тады ў Выселкі ўзяў? Чаму я яго не пабіў, чаму ў зямлянцы не кінуў?

— Ты гэта пра каго? Пра сына?

— Ну. Пра Валодзьку. Век сабе не дарую...

— А я вот сабе не дарую — бацькі не паслухаў,— ураз ажывіўся Ляўчук і сеў роўна. — Гэта ж я ў сорак першым дамоў прыбег,— добра, недалёка бегчы было ад Кобрына да Старобіна. Пад Старобінам вёска мая, Курачкі называецца. Як немцы растрыбушылі полк, ну, апынуліся дзе хто: хто ў шталагу, хто на ўсход падаўся, хто ў лес. А я да бацькі дамоў. Прыбег, вайсковае з сябе скінуў, цывільнае апрануў, памагаю бацьку, жыву. Бацька кажа: лепей хавайся, а я — дзе там! Герой! Каго я буду баяцца?

Немцы няблізка, адзін паліцай на вёску — Казлюк такі ў нас быў — здыхля, недаробак, ходзіць з павязкай, драгунка на плячы. Дык што я буду яго баяцца? У мяне ў самога СВТ у варыўні пад страхой, калі што, я яго ўраз шпокну. І праўда, ён мяне не чапаў, пабойваўся. Але пад вясну такіх, як я, завуць у раён на рэгістрацыю. Некаторыя пайшлі, пабаяліся — і цю-цю! Забралі. Раз так, я за СВТ і ў лес. Во тады Казлюк і асмялеў. Прыехаў з бандай ды за бацьку. «Дзе сын?» — «Не знаю». — «Ах, не знаеш, то мы знаем!» І забралі бацьку. І цю-цю бацька. Праз мяне, героя. Дужа смелага. А каб

прыхаваўся... Дык дзе ж мне бацьку паслухаць! Ён жа на печы сядзеў, а я паваяваў ужо...

Малы пачаў нешта незадаволена варушыцца пад рукамі ў маці, затузаўся ў сваім шаўковым скрутачку, падаў ціхенькі плаксівы голас. Клава ўзяла яго — дужа беражна і няўмела, ціхенька прыгаворваючы нешта ласкавае, і Грыбаед панятліва сказаў:

— Ага, давай, давай. Бач, есці хоча. Ну, а ты адвярніся, чаго не бачыў?

Ляўчук адвярнуўся, Клава прытуліла дзіця да грудзей, трохі прыхінулася радзюжкай.

— А і добра! Ей-богу, добра, — сказаў Ляўчук, зноў выцягваючыся на таку. — Не было б вайны, была б у мяне жонка. Меў адну на прыкмеце, Ганькай звалі. Ды дзе там — ні Ганькі, ні жонкі. Вайна!

— Божа! — з праніклівай набалеласцю сказала Клава. — Хіба гэта я думала, што такая вайна. Я ж сама пайшла, сама напрасілася. Браць не хацелі, ледзь не па блату ў радыёшколу ўладкоўвалася. Думала... А тут! Божа, колькі тут гора, колькі крыві ды смерці! Як толькі тут людзі трываюць, каторыя месныя! Ну мужчыны — яшчэ панятна. А то жанчыны, дзяўчаты, дзеці! Іх, бедных, за што — б'юць, сабакамі цкуюць, паляць? Ды яшчэ з такой лютасцю, такой нянавісцю!

— Во таму і б'юць, — сказаў Грыбаед, усё ўставіўшыся позіркам кудысь перад сабой. — Бо без абароны! Партызанаў не дужа паб'еш — здачы даць могуць. А тут прыедуць, абкружаць, пагоняць усіх у клуб ці ў абору, нібы дакументы праверыць. Усе знаюць, што не дакументы, а ідуць. Спадзяюцца. Ужо і запруць дзе, а ўсё спадзяюцца: а раптам пужаюць? І ўжо страляць пачнуць — усё спадзяюцца: а можа, не ўсіх? Так да самай смерці ўсё спадзяюцца на лепшае. Каб яно спрахла, тое спадзяванне!

— Ну няхай б'юць немцы... А каторыя нашы! Свае! Як жа ў іх рукі паднімаюцца?

— Паднімуцца! — сказаў Ляўчук і сеў роўна. — Калі ўжо на такое пайшлі, форму надзелі, вінтоўкі ўзялі, дык мусяць, што ні скажуць. Не адмовішся.

— Але як жа пайшлі на такое? — не магла зразумець Клава.

— Крыўда адолела на Саветы. Пакрыўдзіліся і падаліся да немцаў. А тыя спярша добранькія — я, я, паспачувалі ды вінтоўкі ў рукі. І загад: давай — пуф, пуф! Усё з маленькага пачынаецца.

— Добра яшчэ, калі пад прымусам, — разважна сказаў Грыбаед,— Яно і відаць, калі па прымусу. Быў вунь у Зарудзічах выпадак, як палілі — адзін немец згледзеў пад печчу падлетка ды прыкладам яго, прыкладам, запіхаў у самы кут — сядзі! І гэны ўцалеў. Усіх пабілі, папалілі, а гэны ўцалеў. Немёц уратаваў. А каторыя, як звяры. Ад крыві, як ад самагонкі, шалеюць. Чым болей льюць, тым болей хочацца.

— Божа мой, божа! — сказала Клава. — Дагэтуль во ўсё сама за сябе баялася, а цяпер удвая мне баяцца нада! За яго во! Такі маленькі!.. Залацінанка ты мая горкая, няшчасненькі ты мой дзіцёначак, як жа мне ўберагчы цябе? Чаго ж гэта доля наша такая?..

Ляўчук з прыкрасцю ўскочыў на ногі — ён не выносіў скаргаў, тым болей жаночых, да якіх проста не прывык у жыцці.

— Ладна табе плакацца! Выняньчым як-небудзь! Трэба во толькі добрае месца знайсці. Відаць, тут нікога не дачакаешся.

— Дык яе ж рана яшчэ чапаць. Ляжаць ёй трэба,— зазначыў Грыбаед.

— Хай ляжыць. І ты з ёй пабудзеш. А я пайду. Трэба дзе людзей пашукаць. Недзе ж яны павінны быць. Не ўсіх жа перабілі. Мо засталося трохі.

- У Круглянку трэба падысці. Цэлая была вёска. Гэта адсюль кіламетраў дзесяць.

— Што ж, можна і ў Круглянку. У мяне там дзядзька знаёмы быў. На май разам паліцыю ганялі.

— Або ў Шыпшынавічы. Але Шыпшынавічы невядома ці ўцалелі. Пры лесе стаяць.

— Пры лесе наўрад... Дай кацялок, па ваду схаджу. Нешта піць хочацца.

Грыбаед працягнуў руку за казанком, каб падаць яго Леўчуку, як Клава зноў здрыганулася і застыла, прыслухоўваючыся.

— Што? — не зразумеў Ляўчук.

— Чуеце? Чуеце?..

— Ды што?.. — хацеў быў прыкрыкнуць на яе Ляўчук і сам схамянуўся: у ветранай паўдзённай цішы знадворку данёсся ціхенькі галасок губнога гармоніка. Ляўчук моўчкі схапіў аўтамат і сігануў да дзвярэй.

**11**

Дзверы ён толькі прыадчыніў на ступню і тут жа прыкрыў іх зноў — у вузкую шчыліну паміж палавінак і без таго было добра відаць, як па дарозе са спаленай вёскі каціліся дзве фурманкі з чорнымі седакамі ў іх. У руках і за плячыма гэтых седакоў у чорных пілотках тырчалі вінтоўкі, чуліся гоман, смех і ціхае пілікание губнога гармоніка. Ляўчук роспачна-злосна вылаяўся.

— Што, што там? — спалохана пачала дабівацца Клава. — Немцы, ага? Немцы?

— Немцы! — сказаў Ляўчук і раптам адскочыў ад дзвярэй. — Грыбаед — у той кут! Ты накрыйся! — сігануў ён да Клавы і тузануў з-пад яе галавы кажушок. — І ляжы! Ціха толькі. Яны міма едуць, — сам не надта верачы ў тое, што гаварыў, спрабаваў ён супакоіць сяброў.

Грыбаед падаўся ў кут, знайшоў там шырэйшую

шчыліну і стаў пазіраць на дарогу. Ляўчук прыпаў да шчыліны каля дзвярэй і не адрываў позірку ад дзвюх фурманак, якія шпарка кацілі да ручая, пераехалі яго і, уз'язджаючы на пагорак, пайшлі павольпей. Ён палічыў седакоў — на пярэдняй фурманцы іх было чатыры і трое на задняй. Галоўнае цяпер было ў тым, спыняцца яны ля гумна ці паедуць далей?

Не, яны не паехалі далей — па гэты бок ручая фурманкі спыніліся. Нехта там штосьці гукнуў, мабыць, панямецку, нехта саскочыў на дарогу, і вось ужо ўсе пасаскоквалі з фурманак. У Леўчука нядобра зашчымела сэрца — адчуў, мусіць: з гэтага ліха ім проста не выкараскацца.

— Грыбаед, чакай! Ціха!

Але і без яго вокрыку ў таку было ціха. Клава, замест таго каб захінуцца, паднялася на каленях у саломе і, горнучы да сябе малога, напружана ўзіралася ў Леўчука. Грыбаед скурчыўся ля свае шчыліны.

«Што яны, што яны будуць рабіць?» — нема перажываў Ляўчук неадчэпнае гэта пытанне, сочачы, як яны пабралі зброю, яшчэ нешта, распіхалі па кішэнях патроны і, пакінуўшы фурманкі на дарозе, рушылі па сцежачцы да іх гумна. Амаль з самага пачатку яны раздзяліліся на дзве чарады — адна скіравала сюды, на падворак, дзе былі дзверы тока, другая, меншая, пачала абыходзіць гумно з глухога ад алешнічку боку. Усё было б проста і нават банальна, калі б яны не паводзілі сябе неяк дужа спакойна — нетаропка, без усякае асцярогі, адкрыта ішлі па сцежцы. Менавіта гэтая іх неасцярога разам з няпэўнасцю іх намеру і давалі Леўчуку надзею — а вось не па іх? Можа, яны ідуць далей і пройдуць міма? Ахоплены насцярожанай увагай, ён сцяўся ля шчыліны, паставіў на баявы ўзвод аўтамат і вялікім пальцам памацаў пераводчык, каб упэўніцца, што той стаіць на аўтаматычнай стральбе.

Чацвёра па сцежцы адзін за адным хутка падыходзілі к току. Іх бы так зручна было зрэзаць трапнай чаргой, але тая самая няпэўнасць іхняга намеру ўсё не давала

Леўчуку рашучасці. А вось пройдуць далей — можа, да мяжы ў жыце, па сваіх нейкіх справах, бо адкуль ім вядома, што ў гэтым гуменцы сядзяць партызаны?

— Ляўчук, што? Што? Дзе яны? — роспачным шэптам дамагалася ззаду Клава, але ён толькі варухнуў галавой.

- Ціха!

На нейкі час яны схаваліся за рогам тока, Ляўчук прыціснуўся лбом да шурпатага бока бервяна і не мог згледзець нічога. Але праз дзесяць секунд яны з'явіліся ўжо ля самай сцяны за малліннікам. Наперадзе ішоў рослы дзяцюк у суконным мундзіры з віслай ад цяжкіх падсумкаў папругай на жываце, з нямецкай вінтоўкай у адной руцэ. У другой ён трымаў цыгарку і, прыпыніўшыся, часта зацмыгаў з-пад пальцаў перад тым, як кінуць свой недакурак.

Ён ужо быў на сярэдзіне іх падворка, але і тады яшчэ ў Леўчука тлела слабенькая надзея, што, можа, пройдзе сабе далей. Ляўчук напружана сачыў праз шчыліну за яго тварам, зыркія вочкі на якім спярша слізганулі ўздоўж сцяны тока, трохі зачапіліся на рагу, мусіць, за густы край малінніку і раптам спыніліся ў доле на іх цяпельцы, ад некалькіх галавешак якога яшчэ ішоў слабы, ледзьве прыкметны дымок. Ляўчук нема вылаяў сябе за неасцярогу, але было позна. Паліцай ступіў да дзвярэй, і тыя ціхенька рыпнулі.

Ляўчук крутнуўся спінай да сцяны і ўскінуў аўтамат, аднак не стрэліў, усё яшчэ не ў стане расстацца з апошнімі імгненнямі свае надзеі, — ведаў: знадворку не вельмі ўбачыш у цемнаватым памяшканні тока. Але не паспеў яшчэ паліцай расчыніць дзверы, як каля сцяны насупраць мігнулася постаць Клавы, і ў напружанай цішы грымнуў адзін, другі, трэці стрэл. Паліцай выпусціў з рук вінтоўку і сам раптам нібы пераламаўся — упаў ці кульнуўся кудысь за маліннік. Ляўчук праз дошкі дзвярэй пстрыкнуў кароценькай чаргой наўздагон і, адчуваючы, што зараз стрэляць і ў іх, выцягся на земляным доле. Перад ім, забіўшыся пад

сцяну за саломай, нервова калацілася з пісталетам у руцэ Клава.

— Лажысь! Лажысь! — паспеў крыкнуць ён два разы, як першая куля знадворку імпэтна пранізала сцяну, адшчапіўшы ад бервяна тоўсты аскалёпак сухога дрэва. З двух бакоў тока часта забухалі стрэлы, кулі з глухім важкім стукам у некалькіх месцах прадзіравілі струхлелае бярвенне сцен, парахнёй і пылам асыпаючы цвёрды гліняны дол.

Нядоўга паляжаўшы ля дзвярэй, Ляўчук паўзком кінуўся да сцяны насупраць, зірнуў праз нізкую шчыліну. Вінтоўкі бахалі, часам не зразумееш адкуль, ва ўсіх напрамках ціўкалі кулі, але каменны падмурачак няблага прыкрываў іх у доле. Праўда, маліннік, які рос тут знадворку, месцамі густа пазахінаў шчыліны, і Ляўчук баяўся, каб тыя злыдні не падышлі блізка. Зблізку яны маглі б уварвацца праз дзверы, закідаць іх гранатамі ці расстраляць з аўтаматаў ва ўпор. У што б там ні стала іх трэба было трымаць як мага далей ад тока. Здалёк хай страляюць. Цяпер, калі ўсчаўся бой, для Леўчука ўсё стала проста і звычайна, тут ужо ніякай няпэўнасці не было, бо не было дурной дзіцячай надзеі на авось. Ён разумеў, што папаліся яны як мае быць, і ўсё ў ім сцялася, сышлося на адным — не дацца!

Ён кідаўся ў доле ад сцяны да сцяны, заглядваючы ў шчыліны, але, мусіць, немцы пападалі таксама, і пакуль у кутку не пачаў бахаць з вінтоўкі Грыбаед, Ляўчук не мог згледзець, куды яны падзеліся. Але раз Грыбаед страляў, значыць, ён нешта бачыў з таго, свайго боку. Клава ляжала пад сцяной і, усё горнучы да грудзей малога, не зводзіла позірку з дзвярэй. Ляўчук толькі адзін раз зірнуў у яе роспачна акругленыя вочы і падумаў, што ёй не пашэнціла канчаткова. Папаліся яны ўсе добра, але ёй будзе горш за ўсіх. Ён хацеў неяк падбадзёрыць яе, толькі не знайшоў для гэтага слоў, а мацюгнуўся ў душы і кінуўся ў асець. Той канец тока не быў прыкрыты нікім, — мусіць, яго трэба было прыкрыць самому.

У прасмярдзелай дымам і сажаю асеці было цямней,

чым у таку, а найгорш — не свіцілася ніводная шчыліна, апроч слепаватага вузкага акенца ў сцяне. Ён сунуў у шкло аўтаматам і зараз жа пляснуўся на ўсланы жэрдкамі дол — адначасна непадалёк ляснуў стрэл, і ў сцяну наўскос ад акна хлёстка цюкнула куля, чорны бок бервяна засвяціўся белаю плямкай. «Значыць, ужо пад абстрэлам і гэты бок тока, значыць, у жыта таксама не выскачыш», — сумна падумаў Ляўчук.

Паляжаўшы трохі, ён асцярожна падняўся да акенца і збоку зірнуў у напрамку да алешніку. Над краем жытняй нівы чарнелі па грудзі дзве постаці — яны пільнавалі яго ад асеці. І ён, не высоўваючы аўтамата, даў наўскос праз акно кароценькую чаргу ў іх бок — хай ведаюць, што і тут ёсць каму стрэліць. Хай не спадзяюцца! Потым, прыгнуўшыся, ён выскачыў цераз высокі парог у ток і ўпаў пад сцяной ля Грыбаеда, які ўсё пільна ўзіраўся праз шчыліну. Клава ляжала за саломай, старанна прыкрываючы сабой беленькі скрутак з малым. Бахнуў адзіночны стрэл, ціўкнула пад бэлькай куля, а затым страляніна вакол чамусьці спынілася.

— Грыбаед, патронаў багата?

Грыбаед павярнуўся на бок, не адрываючы позірку ад шчыліны, абмацаў кішэні мундзіра, выцягнуў некалькі абоймаў.

— Во чатыры абоймы.

— І ўсё? Ну.

— У цябе, Клава?

— Было восем штук.

— Тры стрэліла, засталося пяць. Да-а... Паваюеш тут! Становішча ўвогуле было жахлівае, калі не зусім безнадзейнае, іх абклалі з усіх бакоў і трымалі пад неаслабным абстрэлам. Канечне, патронаў у тых хапала, а тут проста смешна было думаць, каб доўга адбівацца гэтымі пяццю дзесяткамі. Але тады што ж?

Трэба было на штось спадзявацца ці на што наважыцца, толькі Ляўчук не мог нічога прыдумаць. Паляжаўшы, ён трохі аддыхаўся і пасунуў пераводчык агню на адзіночныя стрэлы. Цяпер ён рашыў страляць толькі прыцэльна і па адным патроне.

— Што ж нам рабіць, Ляўчук? Божа мой, што ж нам рабіць? — з ціхай роспаччу лямантавала Клава.

— Ціха! Ляжы! Глядзі на дзверы. Ты глядзі на дзверы. Калі хто, бі прама ў лабаціну! — загадаў ён і паглядзеў на гэтыя чортавы дзверы — вялікія, з тонкіх негаблёваных дошак, якія адчыняліся ў той бок, а адсюль іх нельга было ні зашчапіць, ні падперці. Варта тым злыдням кінуць гранату, і яны застануцца зусім без дзвярэй, тады ўрывайся і расстрэльвай усіх на месцы.

Нейкі час пастаяла цішыня без стрэлаў, мабыць, там раіліся, што рабіць, і вось аднекуль знадворку, мусіць з-за паветкі, пачуўся прыглушаны сценамі голас:

— Гэй, ты, Кудлаты! Ці не пара здавацца?

Ляўчук здрыгануўся. Кудлатым яго адзін час клікалі хлопцы ў разведцы, і цяпер гэты голас здаўся яму да таго знаёмы, што ён ажно здзівіўся: хто б гэта мог быць?

— Гэй! Чуеш? Пара здавацца, пакуль не падсмажылі. Ці ты ўжо там загінаешся?

— Гэта ж той, — павярнуўся тварам да яго Грыбаед, — што са станцыі прыбег.

— Кудраўцаў? Ну.

Мабыць, Ляўчук надта здзівіўся б, калі б не быў так уражаны гэтай навіной. Ён адчуў, як яго напаўняе неадольнае жаданне зараз жа выскачыць з тока і ўсадзіць у здрадніка ўсё, што яшчэ заставалася ў яго аўтамаце. Хай тады забіваюць і яго самога. Але ён неякператрываў свой гнеў і не выскачыў, а на каленях падаўся да Грыбаеда і прыпаў да ягонай шчыліны.

— Вунь за паветкай. За саломай вунь вытыркаецца.

— Ану дай!

Ён узяў у старога расхлябаную яго драгунку, ямчэй пасунуўся ля сцяны. У шчыліну не лез толькі тонкі ствол з мушкай, хоць Ляўчук і так і гэтак соўваў яе праз сцяну. Добра, што шчыліну знадворку прыкрываў маліннік, праз які зблізку ім было сёе-тое відаць, а знадворку праз зараснікі наўрад ці можна было што згледзець. Ляўчук неяк усё ж злаўчыўся і ўзяў на мушку тое месца на рагу паветкі, дзе за саломай ляжаў Кудраўцаў, і стаў чакаць. Калі той крыху заварушыўся і верх чорнай пілоткі вытыркся з-за саломы, Ляўчук заціяў дыханне і стрэліў. Затым хуценька стрэліў яшчэ ў тое ж самае месца і пачакаў.

Але чакаць давялося нядоўга, з-за паветкі, нібы нічога і не здарылася, зноў раздаўся зычны, знаёмы голас:

— Дастраляешся, Кудлаты! Павесім за пашчэнку! На слупе здыхаць будзеш!

— А хо-хо ты не хочаш? — крыкнуў Ляўчук, не ўтрымаўшыся.

— Кінь дурыць, крэцін! Высылай з хлява радыстку і паднімай рукі. Жыць будзеш!

— Я і так жыць буду, падлюга! А вот ты ў вяроўцы здохнеш, прадажнік!

— Тады пяняй на сябе! — данеслася з-за сцяны. — Ану, хлопцы, — агонь!

Гэты раз яны далі такога агню, якога Ляўчук не чуў ужо даўнавата. Гахала за паветкай, з дарогі, з-пад алешніку, лясное рэха вакол множыла стрэлы, і здавалася, цэлы ўзвод лупіць па іх з чатырох бакоў. Кулі са злым ціўканнем і ляскам дзяўблі і секлі спарахнелае дрэва сцен, на галовы ляцелі трэскі, парахня, высахлы мох з пазоў. Саламянае ашмоцце густа ўсыпала дол, і пыл слупамі стаяў у падстрэшшы. Мусіць бы, іх перабілі ўжо ўсіх, калі б не падмурачак. Прыкрыты знадворку

маліннікам, ён па-ранейшаму ратаваў іх ад куль. Праўда, цяпер падняць з-за яго галаву, каб зірнуць у шчыліну, было немагчыма, і ўсё ж зірнуць было трэба. Ляўчук ведаў, што гэты агонь не так сабе, што, мабыць, пад яго прыкрыццём гэтыя ваўкі кінуцца да будыніны. І ён, лежачы пад сцяной, чуйна сачыў за стралянінай — пільнаваў момант, калі трэба ўдарыць насустрач.

Ён быў ужо спрактыкаваны ў баях партызан і не так ведаў, як унутрана адчуў, што яны блізка. Тады ён, ускінуўшыся з аўтаматам, стрэліў праз шчыліну ў адзін бок, у другі; побач некалькі разоў грымнуў з вінтоўкі Грыбаед. Падаючы ніцма, ён паспеў згледзець праз сухія сцяблы малінніку, як там нехта таксама гэцнуўся на зямлю, нехта, прыгнуўшыся, шаснуў у бок за паветку. Мусіць, паміраць у гэтым гумне ім таксама не дужа хацелася. З алешніку яшчэ бухалі, але ад дарогі замоўклі. Падобна было на тое, што ён зноў выйграў нейкую сабе перадышку, магчымасць падумаць, што рабіць далей. Але тут яго скалануў новы непакой за той канец тока, дзе была асець, і ён, сам не ведаючы чаму, кінуўся па драбінах угору.

Асець была маленькая, па земляной засыпцы ён сігануў да прадранага саламянага шчытка і ўпаў на жывот. Потым падпоўз да бліжэйшай дзіркі, зірнуў зверху на жыта і зларадна ўсміхнуўся. Адсюль добра было відаць, як двое ў чорных пілотках з расхрыстанымі каўнярамі мундзіраў краліся па жыце да тока. Адчуўшы кароценькую задаволенасць у душы, ён асцярожна ўзвёў затвор. Тыя, сагнуўшыся, каб не вытыркацца з жыта, не бачылі яго на асеці, і ён, старанна прыцэліўшыся ў пярэдняга, ляснуў адзіночным стрэлам. Паліцай недарэчна, бы здзіўлены, выпрастаўся ва ўвесь рост, закінуўшы ў неба галаву, павярнуўся на запятках і рухнуў плячамі ў жыта. Пакуль ён лавіў на мушку другога, той шалёна пусціўся па жыце ў алешнік. Ляўчук таропка стрэліў наўздагон без усякай надзеі трапіць і тут жа пашкадаваў выпушчанага марна патрона.

Двух стрэлаў было даволі, каб яго тут засеклі, і як

толькі першая куля цюкнула недзе з-пад столі, сыпануўшы на яго пяском, ён скаціўся па драбінах на ток. Ён раптам адчуў удзячнасць да гэтай прасторнай будыніны, якая, можа, болей чым іншым, менавіта сваім прасторам і ратавала іх.

Хай страляюць, падумаў Ляўчук, ток вялікі, не так лёгка ў каго тут трапіць.

Ён лёг ля той самай сцяны, да якой увесь час гарнулася Клава, і ў вузенькую шчылінку паміж бёрнаў стараўся згледзець, куды дзеўся яго недабітак. Але, здаецца, з таго боку цяпер не было нікога ці, можа, добра схаваўся ў алешніку. Ад паветкі яшчэ разы два ляснулі стрэлы, затым неяк усё прыціхла.

— Гэй, ты, жывы яшчэ? — глухавата даляцеў усё той жа голас Кудраўцава. — Хопіць пулькамі кідацца! Давай радыстачку і каціся к чортавай матары! Чуеш?

У пакутнай цішы, якая настала ў гумне пасля стралянiны, гэтыя словы за сцяной прагучалі надзвычай выразна і пагрозліва. Ляўчук маўчаў, і тыя таксама замоўклі — мусіць, чакалі адказу. Было незразумела, чаму Кудраўцаў усё напірае на радыстку і адкуль яму вядома, што яна тут. Але ж, мусіць, вядома. І Ляўчук сцяміў, што менавіта затым яны і прыехалі на гэтае гумно. А ён, балда, усё спадзяваўся на нешта, на славуты авось, — трэба было адразу сячы іх чэргамі, можа б, менш засталося. А так што цяпер зробіш? Клава ж, у другі раз учуўшы гэтае патрабаванне, паклала на салому малога і заплакала,

— Ой божачка-божа!.. Ой, што нам рабіць?..

Рабіць сапраўды было немаведама што, але ж і не здавацца гэтым зладзюгам.

І Ляўчук, лежачы за падмурачкам, зычна закрычаў у шчыліну:

— Эй, ты! Ідзі вазьмі радыстачку! Ну! Ідзі вазьмі!..

І, ускінуўшы аўтамат, пулянуў туды праз сцяну — усяго

адзін раз, болей ён не мог дазволіць сабе, але і гэтага разу для іх, мусіць, было даволі.

— Ну, падла! — пракрычаў зводдаль Кудраўцаў. — Дзяржыся! Зараз ты засквірчыш, як вяпрук у саломе!..

## 12

То быў намер, а не пустая пагроза — Ляўчук зразумеў гэта адразу. Вядома, ім спакусліва было б спаліць іх усіх разам з будынкам, але спярша, мусіць, трэба было да яго падысці. І ён рашыў нізашто не падпускаць іх да тока, адбівацца да апошняга. На гэты выпадак у яго заставаўся парабелум са жменяй патронаў, пара абоймаў была ў Грыбаеда і пяць штук у Клавы ,— можа, як і дацягнуць да вечара. Ім дужа патрэбны быў вечар, цемра, можа б, у цемры яны ўратаваліся. Але сонца — халера на яго — вісела даволі высока, да ночы трэба было дажыць. Да ночы ім было доўга, як да канца вайны.

— Грыбаед, глядзі! Будзе падпаўзаць — бі!

Ён прыкінуў у памяці, што двух, напэўна, яны падстрэлілі, а можа, нават і трох. Цяпер па стрэлах цяжка было палічыць, колькі тых яшчэ засталося, але, мабыць, не больш пяці. Двое былі за паветкай, двое ў алешніку і, мабыць, адзін у жыце. Другі ўжо не паднімецца. Пастараўшыся, можна яшчэ падстрэліць двух, і калі не прыйдзе падмога, дык іх сілы зробяцца роўныя. Тады яны яшчэ паглядзяць, хто — каго.

Ляўчук стаў сачыць за тым бокам, ад лесу, які цяпер здаваўся яму найбольш небяспечны. Ён думаў, што хтось з іх папаўзе да тока з агнём, каб падпаліць яго. Ці, можа, раней запаляць паветку? Праўда, ён не ведаў, з якога боку дзьмуў вецер і куды панясе агонь. Але ён быў як ніколі пільны і наважыўся не прапусціць падпальшчыка.

Таму, калі з-за паветкі грымнуў новы стрэл і куля, струнка мільгануўшы ў падстрэшшы, прасекла навылет

страху, ён падумаў, што гэта трасірная. Следам грымнула і яшчэ раз, ніякай трасы не было відаць, і ён рашыў, што гэта звычайная. І толькі калі грымнула трэці раз, ён зразумеў, што яны ўдумалі, і ад гневу ў яго памутнела ўваччу.

Яны пачалі абстрэл запальнымі.

Клава ляжала на баку пад сцяной, затуляючы целам малога, у куце ля сваёй зручнай шчыліны скурчыўся Грыбаед — яны яшчэ не разумелі нічога, і ён нічога ім не сказаў. Ён чакаў, калі загарыцца страха, і супраць гэтага быў бяссільны. Ён нават не мог бы дастаць да таго агню, каб патушыць яго. Ды і чым было тут тушыць?

Доўга чакаць яму не давялося — пасля чатырох-пяці стрэлаў у таку засмярдзела дымам. Клава першая крутанулася пад сцяной, зірнула ўгору і глуха крыкнула, нібы прастагнала ад болю:

— Ляўчук, Ляўчук!

— Ціха! Ціха! Чакай!

Але што чакаць, ён не ведаў і сам, першыя хвіліны ён збянтэжыўся, нават разгубіўся, і толькі глядзеў, як з гэтага канца тока, над іх галавой, займалася агнём страха і ў ток усё болей наганяла дыму.

У саломе спярша прагарэла невялікая дзірка, пасля агонь ад яе хутка папоўз угору і ў бакі, затрашчаў, засквірчаў, жаручы салому і паплеціны; праз дым пасыпалася саламяная гара і вуголле. Хутка Грыбаед мусіў падацца з свайго кутка бліжэй да дзвярэй, Клава, падхапіўшы малога, таксама паўзла да дзвярэй. Увогуле яшчэ можна было трываць, калі б не дым, які ветрам гнала ў ток, і Ляўчук уяўляў сабе, што тут будзе праз некалькі хвілін, калі зоймецца ўся страха.

— Клава, — у асець! — гукнуў ён радыстцы. — Быстра!! Клаву не трэба было ўгаворваць, яна перабралася цераз парог асеці, і ён бразнуў дзвярыма — зачыніў яе там.

Удвух з Грыбаедам яму стала лягчэй і больш проста, не трэба было стрымліваць свае нервы, бачачы пакуты гэтага дзяўча з малым. Пакуль у іх не стралялі, удвух яны маглі тут нешта прыдумаць, напрамую, па-мужчынску згаварыцца, што рабіць, бо жаночая бездапаможнасць абцяжарвала іх рашэнне.

— Ну, прападаць? — запытаў Грыбаед, павярнуўшы да яго змарнелы твар са счырванелымі ад дыму вачыма.?

— Хай яны прападуць! А мы яшчэ паваюем. Мусіць, перагарэўшы ў звязках, у ток бухнула крайняя кроква, абдаўшы іх роем іскраў і дробнага вуголля; Грыбаед тузануў пад сябе босыя, абпечаныя ногі, Ляўчук ботам адпіхнуў галавешку.

— Ну во, зараз згарым, — аднак спакойна сказаў Грыбаед і закашляўся.

«Так, мусіць, згарым», — падумаў Ляўчук.

Але перш чым згарэць, трэба было нешта зрабіць, хоць бы паспрабаваць зрабіць, а калі ўжо не выйдзе, дык што ж — тады ўжо гарэць.

— Грыбаед! — крыкнуў ён, таксама закашляўшыся. — Грыбаед, ану дзверы! Варухні дзверы!

Грыбаед працягнуў руку і скрыпнуў палавінкай дзвярэй, тая крыху прыадчынілася, і адразу з-за паветкі трэснулі два стрэлы. Дзве кулі выбілі па вялікай дзірцы ў тонкіх дошках дзвярэй.

— Ах, халера на іх!..

Аднак іншага выйсця ў іх не было, трэба было прарвацца з гэтага пекла, а прарвацца можна было толькі праз дзверы. Ужо палаў увесь канец тока. Уверсе гуло і трашчала. Салома і паплецiны там прагарэлі, цяпер смылелі астатнія дзве пары кроквaў, па якіх вогненнымі вужакамі бегалі, выкручваліся траскучыя языкі полымя. Дол густа засыпала попелам, гарай і агнявым ашмоццем саломы. Грыбаед хутаўся ў паласатую абгарэлую посцілку. Ляўчук спахапіўся, што

гарацць ззаду штаны, і, пацёршыся па зямлі, ледзьве затушыў іх. Рабілася ўсё больш горача; у доле таксама ўсё скрозь дымела, дым драў горла, і слёзы, не перастаючы, ліліся па тварах, часам зусім не даючы глядзець. Толькі каля прыадчыненых дзвярэй яшчэ можна было крыху ўхапіць паветра.

У асеці таксама, мусіць, было не лепш, хоць земляная прысыпка на столі пакуль што ратавала яе ад агню, але полымя на страсе дабіралася ўжо і да асеці. Праз некалькі хвілін дзверы з яе рэзка адчыніліся і, зайшоўшыся ў кашлі, на парог павалілася Клава.

— Я не магу... Не магу болей! Ляўчук! Я пайду да іх! Каб вам... Ратуйце малога!..?

— Маўчы! — прыкрыкнуў на яе Ляўчук.— Я табе пайду! Ану паўзі сюды...

Яна падпаўзла, усё кашляючы, і ён пасунуўся ад дзвярэй, даючы ёй месца побач з сабой ля парога. Адна палавінка дзвярэй была трохі прыадчынена, у яе задзьмуваў вецер і круціў дым, які валіў — не зразумець куды — ці ў ток, ці з тока. Ляўчук пацягнуўся і аўтаматам папіхнуў яе далей — дзверы расчыніліся шырай. Зноў трахнуў стрэл, другі, адна куля ўдарыла ля самай клямкі і расшчапіла дзвярную раму; другая прайшла, мабыць, міма. Тады ён крыкнуў Грыбаеду «Трымай!», каб дзверы не зачыніліся, а сам крутануўся да Клавы.

— Давай! Чуеш! Давай хутка паўзком за маліннік! Яна падняла на яго заліты слязьмі твар і, прытуліўшы да сябе малога, глядзела на Леўчука, баючыся ці, можа, не разумеючы, чаго ён хоча. Але часу ў іх заставалася ўсё менш, ужо зырка гарэла палавіна тока, полымя асядала ніжэй і ў тым канцы ўжо жэрла верхнія вянцы зруба, было так горача, што здавалася, яны вось-вось загарацца самі. І Ляўчук, спалохаўшыся, што спозніцца, папхнуў яе да дзвярэй, яна пакорліва паднялася на кукішкі і бокам вывалілася за прыкрытую палавіну ў маліннік. Ён чакаў стрэлу, але стрэл замарудзіў, мусіць, яе схаваў дым з дзвярэй, і тыя, ад паветкі, яе не адразу

заўважылі.

— Грыбаед, бі! Па іх бі! — крыкнуў Ляўчук, а сам, рызыкуючы згарэць ці задыхнуцца ў дыме, кінуўся па драбінах на асець. Яму трэба было прыкрыць яе агнём зверху, не даць застрэліць каля пажару ці злавіць у жыце, куды яна павінна была падацца. Выразна ён сам не ведаў, як памагчы ёй, не ведаў нават, колькі ў яго было патронаў у дыску, але ён узляцеў пад самы агонь на асець, да дзіркі ў шчытку.

Жыта вакол густа засцілаў дым, пасвяжэлы вецер гнаў яго клубамі ў поле; задыхаючыся, Ляўчук слізгануў па ім позіркам і не ўбачыў нікога. Магчыма, яны застрэлілі яе ў малінніку ці яна ўжо адбеглася далей або схавалася ў жыце. Сапраўды, дзве цёмныя постаці з-пад алешніку таропка стралялі кудысь праз дым, і ён, ухапіўшы ротам паветра, хуценька скіраваў на іх аўтамат. Ён выпусціў па іх з полымя і дыму ўсё, што яшчэ заставалася ў дыску, затым зноў схапіў гарачага паветра, якое апякло яго грудзі, і адчуў, што задыхаецца. У вачах у яго пацямнела, ён спалохаўся, што страціць прытомнасць, і, трохі затрымаўшыся левай рукой, рынуўся праз дзірку ў маліннік.

Ён моцна ўдарыўся сцягном аб камень, але зараз жа ўскочыў, адчуўшы, як аднекуль з-пад рук рыкашэтам пырснула куля, яна не зачапіла яго, і ён двума скачкамі, прыгнуўшыся, шыбануў у жыта. Тут яго адразу накрыла воблакам дыму, ён зноў задыхнуўся і, заблытаўшыся ў калівах, упаў, затым ускочыў, пабег, — ён з усяе сілы імкнуў ад агню, ад тока, дзе ляскалі стрэлы і, мусіць, беглі ўжо немцы. Пачалі біць і збоку — засланыя дымам каласы перад ім прашыла нізкая агніста-зеленаватая траса з алешніку, і ён кінуўся ў другі бок, далей у поле, бо шлях у алешнік быў ужо адрэзаны! Дыму, аднак, станавілася менш, ён гарачым туманам распаўзаўся над жытам, і Ляўчук, прыгнуўшыся, з усіх сіл шыбаваў і шыбаваў у ім, часам падаў, ускокваў і бег зноў. Ззаду па ім усё стралялі, нават штосьці крычалі, але ён не слухаў, ён хацеў адбегчыся як мага далей. Яму трэба было ў лес, хоць бы

ў той самы алешнічак, бо ён разумеў, што ў полі паратунку яму не будзе.

І ён пачаў забіраць убок, перабег адну, другую мяжу, увесь час прыгінаючыся і памагаючы сабе рукамі. На боль у правым плячы ён даўно не зважаў, ён толькі сціскаў сківіцы, калі рабілася асабліва балюча, кепку сваю ён недзе згубіў, пот заліваў лоб, шчокі і разам з дымам выядаў вочы. Пасля страляць у яго бок неяк перасталі, і ён рашыў, што ўратаваўся. Толькі трэба было ў алешнічак.

Па зараслай рамонкамі мяжы ён выскачыў з жыта і зараз жа задам падаўся назад. Ды было, мусіць, позна. Па нешырокім травяным узмежку між жытам і лесам напярэймы яму беглі двое. Угледзеўшы яго, адзін штосьці крыкнуў, паказваючы другому, той адразу ж укленчыў, і праз секунду першая куля ўдарыла яму пад ногі. Прыгнуўшыся, Ляўчук кінуўся назад праз жыта, пашыбаваў упоперак нівы, аж пакуль тая не скончылася, і выскачыў на забалочаную лугавіну з някошанай асакаватай травой. Гэта яго надта ўстрывожыла: тут, на лугавіне, месца яму не было, тут яго проста маглі падстрэліць. Ды і сілы ў яго ўжо не засталося, сэрца гулкім грукатам поўніла грудзі, лёгкім не хапала паветра. Тады ён спыніўся, дастаў з кабуры свой парабелум і гучна лязгнуў затворам, даслаўшы першы патрон у патроннік. Неўзабаве паказаліся яго даганятыя; выглянуўшы над жытам, ён згледзеў іхнія пілоткі і стрэліў два разы запар. Пілоткі зніклі, ён выглянуў зноў і, калі першая вытыркнулася з жыта, стрэліў яшчэ раз. Пасля з пісталетам у руцэ знясіленым подбегам патрухаў краем пожні наўскос ад жыта, бліжэй да алешніку.

Бегучы, аднак, ён адчуў, што не паспее, што неўзабаве выскачаць з жыта тыя. І ён стараўся з усяе моцы, толькі моцы тае ў яго амаль не засталося. Ён з паныласцю заўважаў, што ўсё болей выбіваецца з сілы, крок яго робіцца вялы, ногі падкошваюцца, і ён не можа сабе даць рады. Ён азірнуўся, калі ззаду зноў бахнуў стрэл, і куля дзесь вельмі блізка прайшла ля яго. Але і тады ён

не паскорыў бегу, наадварот, амаль перайшоў на крок. Яго даганяты спыніўся на ўскрайку жыта, стрэліў з рукі, пасля перазарадзіў вінтоўку і ўкленчыў, упёршы локаць у калена. Так, вядома, цэліцца стала ямчэй, і можна было ўдарыць напэўна. Але ўсё роўна Ляўчук не пабег. Апроч таго, што не было сілы, нешта ў ім надарвалася ў гэтай бясконцай барацьбе за жыццё, ён толькі ў думках сказаў таму: «Бі, сабака!» і хісткім крокам пашкандыбаў да алешніку.

Яму ўжо заставалася зусім недалёка, каб затуліцца ў кустах, як даганяты зноў стрэліў. Куля імпэтна прарэзала ў дзірване з-пад яго ног касую чорную адмеціну, выбіўшы прэч траву, і зрыкашэціла ў неба. «Давай, давай!» — сказаў ён сабе і, не азіраючыся, брыў далей. Ён выразна адчуваў, што куля ў любое імгненне можа навылёт пранізаць яго цела, але што ён яшчэ мог зрабіць?

Трэці стрэл ён пачуў на імгненне пасля, як куля секанула яго па крысе пінжака і некалькі патронаў з кішэні сыпанула ў траву. Ён спалохана схапіўся рукой за кішэню, мусіць, патроны цяпер яму былі даражэй за жыццё, і хуценька кінуўся падбіраць іх з травы. Пасля, трымаючыся рукой за кішэню, адчуў, што парадкам адышоўся ад жыта, шанец атрымаць кулю цяпер паменшаў, і ён патроху зусім перастаў прыслухоўвацца да таго, як бахала ззаду вінтоўка.

Ён прадраўся праз гушчар алешніку і ўзышоў на хваёвы грудок: тут пачынаўся лес. Здаецца, за ім не гналіся, але ён усё ішоў і ішоў, пакуль не набрыў на бор-беламошнік і, спаткнуўшыся аб корань, не ўпаў на сухі мяккі мох. Не ў стане падняцца, з тупой асалодай перакаціўся на спіну, зірнуў у неба і на здзіўленне сваё адзначыў, што дзень канчаўся, неба вечарэла, у лесе пад хвоямі распаўзаліся прыцемкі...

**Ваўкі**

**13**

...Ляўчук узяў чамаданчык і памалу пайшоў на паверх пазвапіць. Думалася: можа, ён іх прагледзеў і яны даўно ўжо дома. Вядома, у твар не ведаў, хоць і адчуваў нейкім сваім нутраным адчуваннем, што калі б згледзеў здаля, дык, здаецца, пазнаў бы.

Але на яго тры званкі зноў ніхто не адгукнуўся, кватэра глуха маўчала. Гэты раз суседка не пацікавілася ім, і Ляўчук зноў сышоў уніз на падворак. Бавячы час, ён абышоў вакол двара і вярнуўся на сваю лаўку пад мураванай сцяной. Трэба было чакаць. Не ехаць жа без дай прычыны назад, калі ўжо прыехаў за дзвесце кіламетраў, хоць, можа, і ніхто яго тут не чакаў. Але гэтая сустрэча патрэбна была для яго самога, як нейкае апраўданне яго ваенных пакут. Ён не мог забыцца на іх, калі б і хацеў нават, бо такое не забываецца. Як тая ноч, у якую яму пашэнціла меней. А можа, менавіта таму і пашэнціла, бо за ягонае жыццё заплаціў у другі, і гэтая неаддзячаная плата трыццаць гадоў ляжала на яго сумленні. Цяжка было жыць з ёй, але што зробіш? Пражытага не перайначыш...

На Каляды ў сорак трэцім яны рвалі «жалезку».

Спачатку ўсё ішло добра, чацвёра іх пад камандай былога сяржанта Колабава за ноч дабраліся з пушчы да Сёлетнева, невялікай вёскі пад лесам, ад якой да чыгункі было два кіламетры, пераднявалі ў свайго чалавека і, як сцямнела, пайшлі «паляваць». Ахова іх правароніла, яны хутка падклалі міну і праз хвілін дваццаць грымнулі цяжка нагружаны эшалон, што ішоў у бок фронту. Збянтэжаныя немцы ачухаліся не адразу і позна адкрылі агонь, падрыўнікі кружным шляхам вярнуліся ў вёску, выпілі, добра пад'елі і заваліліся спаць на салому. Але ў іх была адна міна-запаска, якую грэх было несці назад, у пушчу, і наступнаю ноччу яны, даўшы добрага круку, падышлі да чыгункі з другога, ляснога боку. Думалі, тут немцы іх не чакаюць і ўсё ўдасца не горш, чым учора. Але на лініі яны заўважылі патрулёў і прытаіліся ў завале ля насыпу. Трэба было чакаць. Гадзіны тры запар мусілі мерзнуць на ніштаватым калядным марозіку, пакуль дачакаліся, калі

патрулі пайшлі ў бункер грэцца, і тады паставілі міну. На чыгунцы ўвогуле было спакойна, перад тым прайшоў цягнік з боку фронту, неўзабаве павінен быў з'явіцца другі — на фронт. І тады Колабаву здалося, што, спяшаючыся, яны не дужа замаскавалі міну пад рэйкай, патрулі пры абходзе могуць прыкмеціць сляды іх работы і падняць трывогу. Леўчуку дужа не хацелася другі раз лезці цераз заснежаны завал да насыпу, ён нібы адчуваў, што гэта дабром не скончыцца. Але Колабава адгаварыць ад чаго-небудзь, што ён уваб'е сабе ў галаву, было немагчыма. Праўда, камандзір мог паслаць туды каго аднаго — Леўчука, Філіпава ці Крука, але ён не паслаў нікога — ён палез сам.

Лезці цераз бязладна наваленыя ўздоўж лініі сукаватыя дрэвы — бярозы і хвоі — было нялёгка, пакуль ён адолеў гэты завал, мінула, мабыць, нямала часу, і нешта на чыгунцы змянілася. Можа, раней часу пачалі свой абход патрулі, а можа, якое начальства з праверкай выйшла на лінію. Ім з завалу не дужа было відаць, што там здарылася, толькі раптам прагучаў крык, чарга трасірных куль сцебанула па насыпе і з віскам пранеслася па-над завалам. Пасля ўдарыў кулямёт з бункера. Каб неяк ратаваць таварыша, яны з-за паваленага дрэва некалькі разоў стрэлілі туды з вінтовак, але кулямёт сыпануў па завале такой густою чаргой, што яны сунулі галовы пад камель дрэва і ляжалі так хвілін пяць, не рызыкуючы паварушыцца. І менавіта ў такі час Ляўчук пачуў зводдаль слабы крык Колабава і зразумеў, што з ім сталася ліха.

Кулямёт аж захліпаўся, вогненнымі струменямі куль абсыпаючы ўвесь завал, страчылі патрулі з-за насыпу, а Ляўчук цераз вываравціны і суччa кінуўся па той бок, да лініі. Згубіўшы рукавіцы і разадраўшы рукаў ватоўкі, ён выбраўся ўрэшце з завалу і адразу наткнуўся на Колабава, які ў акрываўленым маскхалаце ляжаў каля сукаватай рагаціны-хвоі; перабрацца цераз яе ў камандзіра ўжо не было сілы. Ляўчук моўчкі ўхапіў яго пад пахі, абпоўз вывараціну, пад шквалам агню пераваліў яго цераз другую, коса паваленую хваіну. Колабаў маўчаў, толькі стагнаў, сцяўшы зубы, з адной

калашыны яго маскхалата лілася на снег чорная кроў. Макрэючы на марозе ад поту, Ляўчук хвілін праз пятнаццаць усё ж адолеў гэты завал, выпаўз на яго лясны бок і не знайшоў хлопцаў. Ён падумаў, што, можа, яны адбегліся далей у лес, пад агнём з бункера ўзваліў на сябе Колабава і, сагнуўшыся да самай зямлі, хутка пасігаў між дрэў — далей ад гэтага агнянага пекла, якое грымела, гуло, клекатала, здавалася, на дзесятак кіламетраў вакол.

Ён думаў, што Філіпаў з Крукам усё ж недзе блізка і пярэймуць яго, але ён брыў у сасонніку з паўгадзіны, а іх нідзе не было. Здорава ўходаўшыся, упаў на снег і не хутка падняўся. Страляніна ззаду быццам сціхала, хоць кулямёт яшчэ і трашчаў, але тут, у лесе, яго вогненных чэргаў ужо не было відаць, і гэта давала надзеі. Колабаў усё маўчаў, толькі часам скрыгаў зубамі, і Ляўчук падумаў, што, мабыць, камандзіру папала здорава. Аддыхаўшыся, ён спрабаваў перавязаць яго і расшпіліў штаны, але ўсё там было заліта загусцелай крывёй, і ён нават спалохаўся. Ён зняў з сябе тонкую сваю папружку, два разы абматаў ёй параненае сцягно Колабава, каб хоць спыніць кроў. Затым, прыслухоўваючыся да наваколля, доўга нёс камандзіра цераз маўклівы насцярожаны лес, але хлопцаў нідзе не сустрэў. Спярша ён злаваўся, надумаўшы, што яны ўцяклі, але так далёка ўцякаць, мабыць, не было патрэбы. Значыць… Значыць, хлопцы засталіся ў тым завале, можа быць, назаўжды. Пад такім агнём гэта было проста.

Мабыць, апоўначы ён выбраўся з лесу. Хвойнік скончыўся, пачаліся нейкія хмызнякі, драбналессе, стала зусім ціха. У бязмесячным небе раямі мітусіліся зоркі, ціснуў добры мароз. Ляўчук даўно адчуваў яго найперш сваімі рукамі, якімі ён увесь час трымаў на сабе Колабава — рукі мерзлі так, што здавалася, адмярзаюць зусім. Целу і нагам у валёнках было горача, нутро аж гарэла ад стомы. Пара валіла з рота, а рукі зайшліся так, што ён ледзьве трываў. З Колабавым яны не размаўлялі, мусіць, той быў непрытомны або проста не мог гаварыць.

Невядома, на колькі кіламетраў яны адышліся ад чыгункі і колькі мінула часу, толькі Ляўчук усё пільней пачаў узірацца ў мясцовасць і не пазнаваў яе. Ён проста не ведаў, куды трэба было ісці, бо на шляху сюды не дужа што прыкмячаў, тады іх вёў Крук, які цяпер прапаў невядома дзе. Тым часам вялікі лес скончыўся, пачаўся хмызняк, нейкія пералескі, можа, нават умерзлае балота, і нічога не было відаць. Добра яшчэ, што снег быў неглыбокі і асабліва не замінаў хадзе.

З цягам часу прыпынкі рабіліся ўсё часцейшыя, змора брала сваё, рукі адмярзалі, і ён нічога не мог з гэтым зрабіць, ён выбіваўся з сілы. Да слёз у вачах ён глядзеў-узіраўся ў зімовыя прыцемкі, думаў, можа, дзе трапіцца вёска, толькі яна магла ўратаваць іх абодвух. Праўда, надзеі на тое было не шмат — мясцовасць навокал была дзікаватая, у такой не хутка натрапіш на вёску, тым больш у цемры. І ён каторы ўжо раз, стаўшы на калені, узвальваў на сябе страшэнна пацяжэлае цела Колабава і ішоў некуды ў ноч праз хмызняк і чэзлыя кусты — у той бок, дзе, здавалася яму, была пушча.

Ён заўважыў іх у часе аднаго прыпынку, як толькі паклаў на снег Колабава і рукавом разадранага маскхалата выцер спатнелы лоб. Спярша здалося ў марозных прыцемках, што гэта чалавек, які таксама выпнуўся ў рэдкалессі з-за якога кусціка і прылёг. Але, угледзеўшыся, Ляўчук зразумеў — воўк! Той стаяў на снезе ў паўсотні крокаў адсюль і насцярожана ўзіраўся ў двух знямоглых у белым людзей — нібы чагосьці чакаў. Ляўчук не адчуў ад таго вялікага страху — падумаеш, воўк! У іх была вінтоўка ды аўтамат Колабава, што ім які згаладнелы воўк? Ляўчук нават крыху падняўся, сеў раўней і разы два махнуў у той бок — маўляў, прэч, дурань!

Але воўк толькі стрыгнуў вушамі і крыху павёў мордай, калі аднекуль ля яго з'явіўся яшчэ адзін, а затым два гэткіх жа, як і першы, перахлябістых, насцярожаных, да нечага гатовых драпежнікаў. Ляўчук адчуў, як раптоўна схаладнела ў яго разагрэтым ад стомы нутры: чатыры ваўкі ў ягоным становішчы — гэта ўжо не жарты.

Падумаўшы, што ваўкі, мабыць, кінуцца на іх, Ляўчук узяўся за аўтамат, які вісеў у яго на грудзях, адубелымі пальцамі намацаў рукаятку затвора. Аднак ваўкі, здаецца, не выказвалі ніякага намеру кідацца, яны стаялі між чэзлых кусцікаў — тры наперадзе і адзін трошкі ззаду — і чакалі чагось. Чаго толькі?

Ягоная трывога, мабыць, перадалася і Колабаву, той прыўзняўся за ягонай спіной і таксама ўгледзеўся ў начны аснежаны прыцемак.

— Сволачы! Яшчэ не хапала...

Не зводзячы з іх вачэй, Ляўчук падняўся на ногі, зрабіў некалькі крокаў да кусцікаў. Ваўкі без асаблівага страху таксама адышліся на некалькі крокаў. Што было з імі рабіць?

Вярнуўшыся да Колабава, Ляўчук узваліў яго на спіну і пайшоў. Ідучы, яму было цяжка сачыць за імі з прыгнутаю галавой, ён ледзьве бачыў пад ногі, але адчуваў, што ваўкі не адсталі. Яны ішлі поруч, паралельным напрамкам і чагось усё пільнавалі. Мусіць, трэба было б сакануць па іх аўтаматнай чаргой, тады, можа, адсталі б. А можа, наадварот — не варта чапаць іх, яны ж пакуль што не чапаюць. Можа, яны так пройдуць нядоўга ды і скіруюць куды сваім шляхам. Навошта ім людзі?

Але ў гэтых драпежнікаў, відаць, былі ўсё ж нейкія свае намеры наконт гэтых двух ушчэнт знямоглых, ледзьве жывых людзей, і яны не адставалі. Тым часам кусты канчаліся, наперадзе забялела вялізная разлога поля, Ляўчук з надзеяй падумаў, што, можа, там будзе якая вёска і гэтыя стварэнні адстануць. На краі поля ён паволі апусціўся каленямі ў снег, затым лёг на бок, зваліў з сябе Колабава і не адразу падняў галаву, каб глянуць, куды ж скіравалі ваўкі. Але ваўкі былі тут, яны прыкметна асмялелі і падышлі яшчэ бліжэй. Рослы пярэдні воўк, з адным трохі карацейшым за другое вухам, наблізіўся да іх, можа, крокаў на сорак і стаяў, чагось упарта чакаючы. Два стаялі трохі далей, а чацвёртага чамусьці не было відаць, і Ляўчук здзівіўся:

куды ж ён прапаў? Але доўга дзівіцца яму не давялося — азірнуўшыся, ён убачыў, як, абыходзячы гушчарок, дзе снег быў глыбейшы, па другі бок ад іх шыбаваў яшчэ адзін вывадак.

На чыстым, прытуманеным удалечы снезе былі добра відаць чатыры звяры, якія борздзенька абыходзілі іх з таго боку.

Леўчуку стала моташна. Ужо з пэўным намерам ён зняў цераз голаў почапку аўтамата, каб урэшце адагнаць гэтую зграю. Але толькі ён пацягнуў затвор, як побач слаба заварушыўся Колабаў.

— Пастой, ты што?

— А што? Глядзі, іх ужо сямёра.

— Дзе мы — ты бачыш? — цяжка прахрыпеў Колабаў, і Ляўчук угледзеўся ў прыцемак, стараючыся згадаць, куды яны выйшлі. Сапраўды, лес яны ўвесь перайшлі, наперадзе ў полі нешта шарэла, але не хмызняк і не быльнік — як, прыгледзеўшыся, здагадаўся Ляўчук, то быў напалову засыпаны снегам трыснёг, і за ім цьмела роўная белая аблога. У баку ад гэтай аблогі, мабыць, падымаўся пагорак, але там, пад цёмным і зорным небам, нічога не было відаць.

— Зароўскае возера, — пасля паўзы сказаў Колабаў і аблёгся на снег.

— Зароўскае?

Ляўчук нямала здзівіўся — куды ж яны трапілі? Але, мусіць, так. Тая чысцюткая снегавая разлога за трыснягом, якую ён палічыў полем, аказалася возерам. Возера, вядома, для іх — не вялікі страх, мабыць, яно ўмерзла. Страх быў у іншым, і гэта стрымала Леўчука ад таго, каб пусціць чаргу ў ваўкоў. На тым доўгім пагорку, што ледзь угадваўся ў цемры, ведаў Ляўчук, раскінулася немалая вёска Зароўе, якую яны заўжды абыходзілі як мага далей, бо там быў нямецкі гарнізон з дзотамі, траншэямі, бункерамі, кругласутачнай вартай і

патрулямі. Страляць тут, пад носам у гарнізона, было б самагубствам. Асабліва ў іхнім становішчы.

Ну але што ж тады рабіць з гэтай зграяй?

Ваўкі, мусіць, таксама адчулі, што іх тэрыторыя хутка скончыцца і пачнецца тая, дзе яны не гаспадары. І яны пачалі смялець. Яны абышлі людзей з абодвух бакоў і пасталі на снезе, чакаючы, што ж тыя будуць рабіць далей.

Наперад, аднак, можна было ісці.

Каб скарыстаць гэтую адзіную пакуль што магчымасць, Ляўчук перакінуў цераз галаву почапку аўтамата, напяўся, напружыўся, узваліў на сябе Колабава. На тым месцы, дзе ляжаў паранены, засталася цёмная пляма крыві, і ён падумаў, што, мабыць, гэтая кроў падахвочвае ваўкоў, абяцаючы ім спажыву. Але ўжо чорта! Калі гэта Зароўе, дык трэба хутчэй перайсці цераз возера, а там, здаецца, была яшчэ нейкая вёска, можа, у ёй няма немцаў, значыць, ёсць добрыя людзі, яны памогуць.

Ён не дайшоў да трыснягу, можа, якіх дзесяць крокаў, як адна ягоная нага нечакана шаснула ўглыб снегу, ён ірвануўся ўбок і праваліўся абедзвюма. Адразу ж адчуў, што трапіў у ваду, мусіць, тут была якая крыніца ці яшчэ няўмерзлае балота. Разварушыўшы снегавую кашу, Ляўчук неяк выграбся на цвярдзейшае, ужо ведаючы, што па калені мокры, у валёнках ужо сцюдзёна захлюпала вада. Ад прыкрасці ён вылаяўся, калі згадаў, як перад выхадам на гэта заданне спецыяльна памяняўся з Башлыком абуткам — аддаў яму свае спраўныя боты, а ўзяў гэтыя валёнкі. Не паспеў ён цяпер адысціся ад гэтай праваліны, як адчуў, што мароз сталёвымі абцугамі ашчапервае ягоныя ступні — як было ісці далей?

З Колабавым на спіне ён ледзьве давалокся да азёрнага берага, пралез трыснёг, яшчэ разы два праваліўся, але не так глыбока, як першы раз, і не да самай вады. Зрэшты, цяпер, мабыць, было ўсё роўна, можна было

ісці і па вадзе — да каленяў яго ногі былі ўшчэнт мокрыя і мерзлі. Асабліва нясцерпна стала на лёдзе, з якога вецер месцамі паздзімаў снег, Ляўчук застукаў цвёрдымі валёнкамі, паслізнуўся, ледзьве не ўпаў. Ён прайшоў нямнога, але адчуў, што павінен спыніцца, інакш упадзе разам з Колабавым. Тады ён асцярожна апусціўся каленямі на прысыпаны снегам лёд і асцярожна паклаў побач Колабава.

Нейкі час ваўкі яшчэ беглі ленаю рыссю следам за важаком з адтапыраным вухам; але спыніўся важак — і спыніліся ўсе астатнія. Яны чакалі, і Ляўчук раптам страціў цярпенне. Ад усіх гэтых бед, што сёння адна за адной сыпаліся на яго галаву, цяжка было стрымацца, ён гучна і злосна вылаяўся, даўшы выйсце сваёй роспачы. Страляць было нельга, бегчы таксама — няўжо ім прыйдзецца загінуць на гэтым праклятым возеры ў паўкіламетры ад гарнізона, поўнага немцаў і паліцыі?

Мусіць, ваўкі адчулі бездапаможнасць людзей і зрабіліся больш смелыя і нават нахабныя. Пакуль Ляўчук з Колабавым нерухома ляжалі на лёдзе, яны абышлі іх паўколам і закрылі дарогу наперад. З гэтага іх паўкола заставаўся толькі выхад назад, зноў у лес, дзе ў ваўчыным парадку быў разрыў крокаў на дваццаць. Тры іншыя бакі яны занялі, шырока разышоўшыся па лёдзе, і, не падыходзячы, аднак, бліжэй, насцярожана пазіралі на людзей.

— Сашка, ты бачыш? Ты зірні, што робіцца! — узбуджана сказаў Ляўчук да знямоглага Колабава, і той на момант прыўзняў галаву.

— Ладна, ты ідзі, — сказаў ён.

— Як? Яны ж цябе тут...

— Ідзі. Дай аўтамат і ідзі.

— А калі яны... На мяне?

— Не. Я ж застануся... Ты прыгані каня. «Сапраўды!» —

мільганула ў галаве ў Леўчука. Гэта было выйсце. Ён паспрабуе вырвацца з гэтага кола, дабяжыць да вёскі, прыгоніць каня. І прывядзе людзей. Калі толькі Колабаў дажыве да таго часу. І калі ваўкі выпусцяць яго, Леўчука. І калі ён у вёсцы не налезе на немцаў. І калі немцы раней часу не налезуць на Колабава... Надта ўжо шмат назбіралася гэтых «калі», але іншага ў іх не заставалася.

Ляўчук з натугай падняўся на ногі, якія яшчэ слухаліся яго, схапіў вінтоўку і памарожанымі рукамі ледзьве ўправіўся з тугаватым затворам, пакуль даслаў патрон у патроннік. Глытаючы даўкі камяк у горле, ён кінуўся да самай сярэдзіны воўчай зграі, добра разумеючы, што яны могуць не выпусціць яго і разарваць на кавалкі. Вінтоўкай ён мог абараняцца толькі як палкай, страляць з яе ён не мог: першы стрэл, мусіць, стаў бы для абодвух пагібеллю. І так яшчэ добра, калі немцы з Зароўя не згледзелі іх. Мусіць, выручалі самаробныя маскхалаты, спецыяльна надзетыя імі на гэта заданне.

Ад усяго перажытага Ляўчук перастаў адчуваць сябе і без усякага страху, адчайна шыбануў на зграю. Ён бачыў перад сабой толькі бліжэйшага ваўка, які падцяў пруткі хвост і ўзіраўся ў яго, мусіць, не чакаючы такой смеласці ад знямоглага чалавека. Але Ляўчук кіраваў прама на яго, зараджаную на ўсякі выпадак вінтоўку трымаў у руках нібы палку, гатовы выцяць ёю ваўка, калі той не саступіць з ягонай дарогі. І воўк саступіў. Ашчэрыўся, прысеў на пярэднія лапы, нібы перад скачком, але, зразумеўшы, пэўна, рашучасць чалавека, не скочыў і не пабег, а незадаволена адышоўся ўбок, да суседа. Ляўчук, не збаўляючы кроку і нават не азірнуўшыся, толькі косячы вокам, прашыбаваў яшчэ дзесяць крокаў і выйшаў з іх кола.

Яны за ім не пагналіся і нават не збіраліся рабіць гэта — яны таропка замкнулі за ім сваё кола і падаліся да сярэдзіны. Ляўчук, які кінуўся быў подбегам, на секунду спыніўся — адсюль яму ўжо кепска быў відаць Колабаў у яго маскіровачным убранні, затое ён добра бачыў ваўкоў. Яны патрохі сціскалі кола, і з ім

сціскалася Леўчукова сэрца. Страціўшы над сабою ўладу, ён праз хвіліну кінуўся назад да Колабава, затым, зразумеўшы, што так не паможа яму, з усёй сілы пабег па возеры.

Ён бег, баючыся азірнуцца; паслізнуўшыся на абмерзлых валёнках, упаў, балюча выцягнуўся сцягном, ускочыў, тады азірнуўся — некалькі невыразных плямак ледзьве шарэлі ў працьмелай далечы. Ні крыку, ні стрэлаў яшчэ не было, і ён кінуўся яшчэ хутчэй. Бегучы, аднак, пачаў адчуваць, што не паспее, што ваўкі, мабыць, управяцца з Колабавым хутчэй, чым ён дабяжыць да вёскі, якая была чорт ведае дзе.

Усё ж ён бег, зноў абліваючыся потам, да гарачай задухі ў грудзях, штораз азіраўся і слухаў. Ён чакаў стрэлаў, можа, ваўчынага выцця і напружана глядзеў наперад — калі ж тая вёска? Ногі на бягу адубелі — ці сагрэліся, ці, можа, ужо змерзлі, ён перастаў адчуваць іх і думаў, што трэба як найхутчэй расцерці іх снегам і пераабуцца, інакш прападуць ногі. А без ног прападзе і сам.

Калі начную цішу ззаду разарвала грымотная чарга, ён стаў, нібы ўкопаны, і перастаў дыхаць. Здалося: гэта не вытрымаў Колабаў. Але праз хвілю ўдарыла яшчэ і яшчэ — над возерам далёка пакацілася чулае начное рэха. Нешта дужа ўжо гучна, падумаў Ляўчук, мусіць, аўтамат так гучна страляць не можа. Нібы пацвярджаючы яго здагадку, зараз жа забахалі вінтоўкі, пачуліся крыкі, і ён зусім разгубіўся.

Ён адчуваў, што сталася горш, чым калі б на Колабава напалі ваўкі; мабыць, ваўкі ўжо тут ні пры чым, гэта немцы. Але адкуль яны? Ці, можа, на слых паляць па возеры, ці ўжо згледзелі Колабава? Адчуваючы, аднак, што той гіне, Ляўчук сарваўся з месца і што было сілы пабег назад.

Пакуль ён знямогла трухаў у сваіх абмерзлых валёнках, на возеры яшчэ стралялі, чуліся крыкі, і ён не ведаў, што зробіць, калі прыбяжыць туды. Але ўсё роўна ён бег. У яго была спраўная вінтоўка і сотня патронаў у

сумцы, было дзве «лімонкі» ў кішэнях, абы толькі Колабаў быў жывы. Толькі б застаць жывога! Праўда, неяк падазрона не было чуваць яго аўтамата: страляў кулямёт, вінтоўкі, аўтамат жа ўпарта маўчаў. Гэта кепскім прадчуваннем душыла Леўчука, і ўсё роўна ён бег, мусіць, насустрач сваёй пагібелі, бо шанцы адбіць Колабава былі ў яго мізэрныя.

А можа, ён паспее да яго раней, чым прыбягуць немцы?

Гэтая думка прымусіла яго бегчы шпарчэй і надала трохі сілы, тым болей што страляніна сціхла, разы два ён пачуў крыкі дзесьці ля вёскі і падумаў, што, можа, гэта немцы спускаюцца з гары да возера, калі б яны толькі яшчэ спускаліся, дык ён, мусіць, паспеў бы...

Ляўчук, аднак, памыліўся — яны не спускаліся, яны ўжо падымаліся ад возера, дзе заместа ваўкоў учынілі ваўчыную расправу.

Ён зразумеў гэта, калі ўбачыў непадалёк той самы трыснёг, ля якога праваліўся ў ваду і ля якога пакінуў Колабава. Пазнаў і тое месца на снезе. Яно было цяпер вытаптана мноствам людскіх і ваўчыных слядоў, сярод якіх цямнелі плямы крыві. Ваўкоў нідзе не было, Колабава таксама. Вецер памалу здзьмуваў са снегу клочча цёмнай поўсці — мусіць, перапала і ваўкам. На секунду Леўчуку стала шкода гэтых спаважных, нерашучых і, мусіць, згаладнелых істот, якіх ён нядаўна яшчэ ненавідзеў. Шырокі след-баразна ў снезе, прарэзаны целам Колабава, вёў у той бок, дзе была вёска і адкуль яшчэ даляталі прыглушаныя далечынёй галасы, смех, злосная лаянка.

Ледзьве стрымліваючыся, каб не заплакаць, Ляўчук пастаяў яшчэ, патаптаўся на снезе і подбегам пусціўся па возеры.

Трэба было ратаваць ногі.

**14**

Праз некалькі хвілін ён ачнуўся, нібы і не спаў, сеў —

ява яго працягвалася і найперш дайшла да ягонай свядомасці грукатам стрэлаў дзесьці далёка, можа, на той самай грэблі. Абапіраючыся рукой на імшарнік, ён пасядзеў, паслухаў, не адразу расплюшчыўшы вочы, а калі і расплюшчыў, дык усё роўна нічога не ўбачыў — была ноч.

Галава яго была цяжкая і тупая, нібы з пахмелля, дужа хацелася зноў упасці на дол і ляжаць. Але ён прыслухаўся да страляніны і вызначыў, што яна грымела трохі ў баку ад таго месца, дзе была іх грэбля, падобна, у Крукоўскім урочышчы. Значыць, дайшла чарга ўступаць у бой і першамайцам, дабраліся і да іх карнікі.

Тое, што здарылася за дзень, гарачым тлумам плыло ў яго памяці, але, мабыць, трэба быў час, каб прыгадаць усе перажытыя ім падрабязнасці і разабрацца ў іх. Найперш для яго было пэўна, што ён уратаваўся — не згарэў і вывернуўся ад кулі, уцёк у лес і цяпер мог пайсці куды хочаш. Толькі радасці ад таго ён не адчуваў ніякай, у свядомасці яго жыло, заглушаючы сабой усе іншыя пачуцці, адчуванне вялікай бяды, ад якой не было паратунку. Як ведала-адчувала ягонае сэрца, калі мінулаю ноччу ен не хацеў ісці на гэта заданне, што не будзе тут яму ўдачы. Але тады яго непакоіла іншае, а таго, што здарылася, ён не мог прадбачыць. Сапраўды, ён жа выпраўляўся ў ціхую і бяспечную зону Першамайскай брыгады, а не на прарыў, не ў самае пекла блакады. Але, мусіць, вялікая бяда менавіта там і падпільноўвае чалавека, дзе ён яе меней за ўсё чакае.

Ляўчук сеў раўней і прыслухаўся. Паблізу было ціха, як можа быць ціха толькі пагоднаю ноччу ў бязлюдным лесе. Праўда, да чуйнага яго слыху з усіх бакоў даляталі ўсякія невыразныя гукі і шолахі, але за шмат месяцаў партызанскай вайны ён добра ўжо звыкся з лесам і ведаў, што ноччу слых ловіць залішне многа, а большая частка лесавых гукаў толькі здаецца. Калі дзе ёсць сапраўды падазронае, дык услухоўвацца ў яго не трэба, — яно адразу заявіць само пра сябе. Свежыя пошумы ветру ў вяршаллі, падзенне перасохлай галінкі,

соннае лапаценне крылаў птушынай драбноты ў галлі — другіх гукаў паблізу не чулася. І ён, ачухаўшыся спакваля ад свае санлявай дурноты, хвіліну паслухаў далёкую страляніну і рашыў, што трэба прабірацца ў Першамайскую. Мусіць, толькі ноччу і можна туды дабрацца, удзень ён зноў налезе на карнікаў.

Хіснуўшыся, ён падняўся на ногі, пасунуў з жывата на бок парабелум. Навярэджанае ў сне плячо балела куды больш, чым учора: можа, трэба было паправіць павязку, але ён рашыў, што зробіць гэта заўтра, калі развіднее. У лесе было зусім цёмна, каб не налезці на што, ён выцягнуў наперад руку і ўгнуў галаву. Праўда, лес тут быў рэдкі і голы, хвоі стаялі амаль без падлеску. Ён трохі памятаў дарогу, па якой бег сюды гадзіну ці дзве назад, — трэба было зноў выйсці да балацявіны, павярнуць ля ўзлесся. Далей ён не дужа ведаў, якая будзе мясцовасць, але спадзяваўся, што, арыентуючыся на стрэлы і зоркі, не дужа заблудзіць. Абы толькі не наскочыць на немцаў.

Ён доўга брыў у лясной цемры, нібы сляпы, выцягнуўшы руку і навобмацак мінаючы дрэвы, чуйна мацаючы нагамі дол з безліччу пнёў, патарчакаў, зараснікаў, жорсткіх, нібы драцяных, сцяблоў папараці. Найперш яму трэба было выйсці з лесу, думалася, што край яго недзе тут, блізка, потым ён пайшоў бы і шпарчэй. Часам ён прыслухоўваўся да страляніны, якая то большала, то чамусь глухла, а болей быў заняты хадой, і з галавы яго не выходзіў ток. Ён нічога не ведаў — ні пра тое, што сталася з Клавай, ні пра лёс Грыбаеда. Зрэшты, Грыбаед хутчэй за ўсё там і застаўся, бо ці ён мог выскачыць у тыя дзверы? А куды падзелася Клава? Як выпаўзла з тока, дык нібы праз зямлю праваліласа — нідзе ён яе так і не згледзеў.

Неяк схамянуўшыся, ён заўважыў, што ідзе не на гукі стрэлаў, а па сваім учарашнім шляху, што страляніна даўно ўжо засталася для яго злева. Але ён не стаў паварочваць, — ён толькі цяпер зразумеў, што яму трэба менавіта туды, да гумна. Ён не мог адсюль нікуды болей пайсці, не завітаўшы на гумно.

Выразна зразумеўшы гэта, ён адчуў у сабе нецярплівасць, аж нешта затрымцела ўнутры, няўрымсліва і жаласна, і ён перастаў зважаць на кусты і патарчакі ў доле, а пашыбаваў, як толькі мог, каб не ўпасці, туды, дзе, на яго думку, павінен быў быць страшны іх ток. Ён аж калаціўся ўвесь ад узрушэння, нанова востра перажываючы ўчарашняе. Тое, што яшчэ гадзіну назад было для яго ўдачай, цяпер здалося бядой, ён ужо думаў, што не павінен быў пакідаць Грыбаеда і Клаву, мусіць, трэба было зрабіць неяк інакш. Праўда, ні тады, ні цяпер ён не ведаў як; здавалася, ён ратаваў яе, Грыбаеда, сябе таксама. Спазнелае адчуванне памылкі мацнела ў ім; пэўна, ён зрабіў нешта не так, бо наўрад ці каму ўдалося выскачыць з таго пекла, у якім ён сам ледзьве не лёг касцьмі. Менавіта таму яму зноў трэба было на гумно, нібыта ўсё тое можна было яшчэ перайначыць, зрабіць лепш. Ён разумеў, вядома, што цяпер ужо нічога не зробіш, усё, што можна было зрабіць, напэўна, зрабілі немцы. Але ўсё роўна яго цягнула туды, як злачынцу цягне на месца злачынства.

Ён вылез з кустоўя недзе непадалёк ад таго месца, дзе надвячоркам увайшоў у яго. Адразу стала відней, над ахутанай змрокам летняй зямлёй ляжала святлявае неба з рэдкімі зоркамі расцярушанай палосай зорнага чумацкага шляху. У лузе верашчалі конікі, і наперадзе шарэла, мабыць, тое самае жыта, у якім ён ледзь не знайшоў свой канец. Недзе тут, паблізу, павінна туліцца і гумно.

На нейкі час ён спыніўся, перастаў дыхаць і ўслухаўся. Але, мусіць, немцы паехалі, зрабіўшы сваю, як заўжды, страшную справу, наўрад ці яны засталіся чакаць яго тут. Усё ж, каб быць гатовым да ўсякай нагоды, ён ціха дастаў з кабуры парабелум і, паклаўшы вялікі палец на засцерагальнік, пайшоў каля ўзлеску.

Ён чакаў убачыць агонь (не магло быць, каб гумно так хутка згарэла датла), але наперадзе быў толькі затуманены палявы паўзмрок, і колькі ён ні ўглядаўся, нічога нідзе згледзець не мог. Тады ён падумаў: няўжо

так далёка адбегся ўчора па жыце? А можа, ён цяпер выйшаў не туды і наогул ішоў не ў тым кірунку? Але ж там была дарога, якой ён яшчэ не пераходзіў? Значыць, гумно і вёска ўсё ж недзе наперадзе.

Разважыўшы так, ён пайшоў болей упэўнена, усё ўглядаючыся наперад; знянацку шаснуў у нейкую яміну і ледзьве не ўпаў, а калі выкараскаўся з яе, дык з-за нейкага бухматага куста ўбачыў слабенькае бліскание агню. Здалося, гэта далекавата, бо агеньчык, амаль не свецячы, толькі дробна чырванеў над жытам, і ён прыціх, нават прысеў ля куста. Не, здаецца, нідзе не было нікога, конікі ўсё стракаталі сабе ў траве і ў жыце, ды за лесам бахала і гуло ад страляніны. Але страляніна была далёка і не шмат шкодзіла навакольнай цішыні ночы.

Паціхеньку, кароткімі пераходамі, ён пачаў красціся да пагарэлішча. Крокаў дзесяць — пятнаццаць пройдзе і стоіцца, прысядзе, азірне ўскраек неба: ці не маячыць хто на светлаватым начным небасхіле. Але ўсё, мабыць, тут было ціха, і ён, выткнуўшыся з-за жыта, неяк нечакана апынуўся ля тых самых агнёў.

Ён не адразу пазнаў перад сабой учарашні ток — абгарэлы, без страхі, напалову ніжэйшы, бо верхнія вянцы згарэлі зусім, засталося толькі ніжняе абгарэлае бярвенне, на якім дзе-нідзе смылеў жар, мусіць, дыміла, бо дым і горкі смурод атручвалі паветра наўкол. Калі ён выйшаў з-за хаты, дык убачыў у цемры бліжэйшы канец з асеццю, у якім было болей жару і дыму, а нават дзе-нідзе трапяталі на ветры невялічкія каснічкі полымя, якія трохі асвятлялі жытнюю ніву і чорнае абпаленае лісце яблыні. Але да гумна ён выйшаў з боку алешніку, трэба было зайсці па той бок і зазірнуць праз дзверы, дзе ён учора пакінуў Грыбаеда і адкуль выскачыла Клава.

Ад дарогі ён не пайшоў, ён пабойваўся дарогі, а паціху ўлез у жыта і пайшоў па самым яго краёчку, каб не нарабіць шуму, высока паднімаючы ногі. Тут да тока аказалася далей, чым яму здавалася ўчора, калі ён пазіраў праз шчыліну, і ён прыпыніўся, прысеў,

паслухаў. Пасля ўстаў і, стараючыся не дужа шастаць ботамі ў жыце, воддаль абышоў асець. Ён чакаў дзе-небудзь убачыць Клаву; мусіць бы, ён заўважыў яе ў гэтым падсветленым доле, але тут яе не было. Зрэшты, наўрад ці яна і магла быць, падумаў ён, мусіць, яны забралі яе жывую ці мёртвую і павезлі ў мястэчка. Ды і Грыбаеда таксама. Але ён хацеў сваімі вачамі ўпэўніцца, што іх тут няма, і тады ўжо ісці ў Першамайскую.

Ад яблыні стаў відаць увесь той падворак, дзе ён варыў бульбу, нават прыкметна была чорная плямка вогнішча на шэрай траве. Насупраць былі дзверы-вароты ў ток. Адна абгарэлая, густа падзёўбаная кулямі палавіна іх коса вісела на ніжняй завесіне, другая, адарваная, валялася ў доле. І раптам ён згледзеў там штось падобнае на чалавечае цела і не стрымаўся. Стараючыся не грукаць ботамі, ён падбег да дзвярэй, прысеў — ад бярвення і папялішча патыхала смярдзючым жарам, але ўжо можна было трываць, не тое што ўчора. Ляўчук бокам працягнуў левую руку, лапнуў раз, другі і, натрапіўшы на штось мокрае і ліпкае, тузануў руку назад. Адварочваючыся ад гарачыні, ён, аднак, намацаў касмылявы твар Грыбаеда, яго абгарэлую вопратку і ўстаў. Смурод пагарэлішча і чадны дым ад галавешак усё ж забівалі дыханне. Перадыхнуўшы трохі, ён зноў сагнуўся, памацаў паблізу рукой, шукаючы Грыбаедаву вінтоўку, але намацаў толькі ягоную шапку-кучомку.

З гэтай шапкай у руках ён адступіў на крок у падворак і спыніўся, усё ўзіраючыся ў абгарэлыя рэшткі чалавека, якога ведаў даўно і які цяпер, пасля свае смерці, выклікаў у ім нешта спачувальнае і жаласлівае. Шапка была пашыта з кавалка старой аўчыны, без завязак на вушах. Грыбаед насіў яе ўсё лета — баяўся, каб сонца не напякло галаву, яму гэта было шкодна. Бядак, надта турбаваўся за сваю аднойчы ўжо прастрэленую галаву, баяўся нават перагрэць яе на сонцы. Ляўчук успомніў цяпер пра той жахлівы расстрэл Грыбаеда і пра яго ўваскрасенне на Чарналескіх выжарынах, дзе яны ў тую ноч разам з санітарам Верхаўцом грэліся каля

вогнішча. Гаваркі Верхавец расказаў, што днём хлопцы прывезлі з Выселак расстралянага немцамі Грыбаеда, які немаведама як апынуўся ля сваёй апусцелай сядзібы і трапіў у лапы жандараў. Невядома, ці яны пільнавалі яго, ці, можа, засталі выпадкам, але яны спалілі нарэшце Грыбаедаву сядзібу, а яго самога старшы жандар паставіў ля вярбы і з пісталета стрэліў у патыліцу. Ноччу на яго наткнуліся хлопцы з разведкі і, пазнаўшы старога, прывезлі ў атрад. Доктар Пайкін спрабаваў нешта зрабіць, але, мусіць, нічога ўжо зрабіць было нельга. Верхавец выцягнуў яго з будана і паклаў пад хваіну на салому, каб заўтра разам з яшчэ адным забітым пахаваць на грудку. Седзячы ля вогнішча ў тую ноч, яны пабедавалі крыху над жорсткім нават для вайны лёсам старога і перавялі гаворку на іншае. Яны не азірнуліся нават, калі ззаду да іх нехта падышоў і моўчкі пачаў месціцца каля цяпельца, паціраючы рукі і нягучна кажучы кібы між іншым:

«Пагрэюся ў вас. А то скалеў, халера...»

Учуўшы знаёмы голас, Верхавец ледзь не падскочыў ад здзіўлення, павярнуўся і толькі прамовіў:

«Грыбаед, ты што?..»

«Ды скалеў, кажу. Ватоўку нехта забраў...»

Яны абодва ўтрапёна ўставіліся на Грыбаеда, які, безуважны да іх спалоху, спакойна грэў сабе выстаўленыя да вогнішча рукі, ні слова не кажучы пра сваё дзівоснае вяртанне амаль з таго свету, і яны не адважыліся яму нагадаць пра тое. Уранку яго яшчэ раз агледзеў доктар, таксама здзівіўся; пару тыдняў Грыбаед паляжаў у санчасці, а затым застаўся ў ёй пры конях. Рана на галаве загаілася, асаблівага болю ён не адчуваў, толькі амаль зусім перастаў спаць і клапатліва аберагаў ад спёкі прастрэленую галаву.

Ды не ўбярог — мабыць, прастрэлілі і другі раз. Цяпер ужо канчаткова.

Разважыўшы так, Ляўчук падумаў, што, мусіць, трэба

выцягнуць яго абгарэлае цела з гэтага тока і пахаваць дзе ў лесе. Бо што ж ён будзе ляжаць так і смылець — мала яму было пакут пры жыцці?

Усё прыслухоўваючыся да сцішанага наваколля, ён сунуў пісталет у кабуру, зашпіліў яе і зноў ступіў да варотаў. Але толькі ён нагнуўся над Грыбаедам, як дзесь зводдаль шалёна забрахаў сабака і з боку ад вёскі пырхнула ўгору ракета. Захоплены знянацку, Ляўчук здрыгануўся, згорбіўся ў дзвярах, асветлены яе зыркім імклівым агнём, а затым адскочыў назад і схаваўся за яблыню. Ракета агняным шнуром у небе шыбанула ледзь не да самага гумна, трохі, аднак, не даляцеўшы да яго, ударылася аб зямлю, падскочыла і дагарала, ярка адбіўшы перад сабой нейкі чорны курганок ці зараснік, цень ад якога накрыў падворак. Як толькі сцямнела, Ляўчук падаўся назад у жыта, апанылы ад думкі, што яго заўважылі, і чакаў стрэлу ці другой ракеты. Аднак стрэлаў больш не было, а другая ракета з'явілася ў небе зусім з другога боку, ад дарогі і лесу — яна ярка заззяла ў вышыні над пагарэлым гумном і жытам, бязлітасна зырка асвяціўшы іх сваім ненатуральна яркім міготкім святлом. Але ён ужо быў да яе гатовы і жвава прысеў у жыце, тут яго не так проста было заўважыць. Ракет ён не баяўся — баяўся стрэлаў і яшчэ болей сабак. Той басавіты брэх у спаленай вёсцы быў яму дужа знаёмы і болей за ўсё іншае скрабянуў па яго пачуццях.

Калі і гэтая ракета згарэла, ён шыбануў праз жыта да алешнічку, ды раптам спыніўся, прысеў. Здалося, пачуўся голас, нават нібыта далёкі дзіцячы плач, і ён аціх, затрымаў дыханне, услухаўся. Ці не здані завяліся ў гэтым жыце, дзівячыся, падумаў ён, як зноў зусім выразна данёсся аднекуль ціхі, поўны жальбы плач зусім яшчэ малой істоты, і ён, жахнуўшыся, кінуўся далей у жыта.

Ён, мусіць, і ўцёк бы ў лес, калі б у той час амаль перад ягоным тварам не разанула цемру трасірная чарга. Блізкія разрывы куль у алешніку, нібы рэха, з абсалютнай дакладнасцю паўтарылі яе далёкі імклівы трэск, і ён зноў распластаўся на мулкіх грудах жытняе

нівы. Цяпер ён ужо ведаў пэўна, што яго заўважылі і што стралялі па ім з дарогі і ад вёскі; значыць, ратавацца трэба ўсё тым жа ўчарашнім шляхам у лес. Калі чарга сціхла, ён тут жа ўскочыў, але, перш чым пабегчы, завярнуў па жыце ўбок, трохі нават назад, прыпыніўся, услухаўся і ўбачыў непадалёк белую плямку ля самай зямлі. З нечаканай надзеяй ён кінуўся да гэтае плямкі, ужо пэўна ведаючы, што гэта, падхапіў цёплы жывы камячок на рукі і, прытуліўшы да грудзей, аббег трохі шырэйшае кола па жыце, Гэта было і дзіўна, і зусім недарэчна: ён думаў, што дзесь тут павінна ляжаць і Клава, забітая ці жывая. Але Клавы не было. Адчуваючы тлумнае замяшанне ў галаве, Ляўчук пабег упоперак нівы да алешніку. — Ух, гады! Ух, гады! — роспачна казаў ён сабе, слухаючы, як недзе паблізу гаўкалі, скавыталі сабакі. Але ўжо побач быў лес, і ён разам з малым на руках неўзабаве ўбег у алешнік. У той самы момант ззаду стрэлілі новай ракетай, і па алешніку прайшла доўгая чарга. Яркае святло, перамешанае з дзівоснай блытанінай ценяў, рынулася на яго ззаду, некалькі трас блізка прашылі начны хмызняк, абдаўшы яго трэскам разрыўных куль і абабітым галлём. Ён упаў на адно калена, жахнуўшыся, што так не ўцячэ, што бегчы па лесе з малым немагчыма. Але па полі ён не ўцячэ тым болей, там яго дастануць першай чаргой. І ён пабрыў у цемры навобмацак, левым плячом рассоўваючы голле, захінуўшы крысом пінжака малога, які трохі неяк аціх і толькі перабіраў ножкамі ў мокрай пялёнцы.

## 15

Першы нясмелы ранак напаткаў яго ўскрай балота, у рэдкім куп'істым алешніку.

Пачынала віднець, далёкім нетутэйшым святлом займаўся шырокі ўскраек неба, навокал сталі відаць кусты і травяністы дол пад нагамі. Ляўчук зусім не ведаў, куды вёў яго лесавы шлях, але ўсё бег, ішоў, брыў па нейкіх альховых зарасніках і расцяробах; перайшоў мокры травяністы лужок і зноў зашыўся ў лісцвяны гушчар. У малады шчыльны ельнік ён не

палез, а абышоў яго збоку і ўсё слухаў, хоць і без таго было чутна — яго даганялі. Усю ноч ззаду то цішэй, то мацней пагрозліва брахалі сабакі. Мусіць, у цемры яны адсталі ад яго, але ягоны след яны не гублялі. Значыць, як мае быць возьмуцца даганяць уранку.

З нязвыклай асцярогай ён нёс за пазухай маленькае цёплае цельца і думаў: хоць бы дзе напаткаць вёску, хутар, жанчын ці наогул людзей і аддаць ім малога. Сам ён, як бы ні стараўся, не мог уратаваць гэта жыццё. Да таго ж ён адчуваў, што немцы ад яго не адвяжуцца. Учора іх было сем, з вінтоўкамі, уночы з'явіўся кулямёт, а таксама ракеты і сабакі — значыць, у гэтым кірунку яны задумваюць нешта сур'ёзнае і маюць для таго сілу. А ён, дурань, наважыўся тут прабівацца ў Першамайскую, знайшоў месца...

Ён хутка ішоў ускрайкам парослага алешнікам балота і не мог рашыць, абыходзіць яго вакол ці лезці ў багну. Без крайняй патрэбы лезці ў сцюдзёную ваду дужа не хацелася, думалася: недзе ж яно скончыцца ўрэшце, і ён яго абыдзе. Але, мяркуючы па ўсім, балота было немалое і цягнулася здалёку, ён брыў ля яго гадзіну, а яно не канчалася. Начная страляніна гучала цяпер дзесьці справа, але бахалі таксама і ззаду, і злева, — няйначай, баі ішлі ў розных кірунках. Ён жа трапіў у невядомы лясны закутак і брыў у той бок, куды гнала яго пагоня.

Малы за пазухай часам неспакойна тузаўся, выгінаўся, але, добра захутаны ў шаўковай пялёнцы, пакуль што маўчаў, і Ляўчук з вострым непакоем падумаў, што будзе, калі ён расплачацца? Мусіць, яго трэба было даўно пакарміць, і таму ён так непакоіцца. Хіба ён разумее, што калі ім не падвернецца які шчаслівы выпадак, дык вельмі хутка абое яны распластаюцца ў зарасніку, пасечаныя аўтаматнымі чэргамі ці разарваныя аўчаркамі. Калі толькі пашэнціць. А то яшчэ могуць схапіць, вывесці на шашу і павесіць пашчэнкамі на круку ізалятара, каб канаў доўга і пакутна, як некалі Трафім Дыла, сувязны іхняга атрада ў Чарнушчыцах. Ляўчук, аднак, спадзяваўся, што,

можа, раней, чым немцы дагоняць яго, ён наткнецца на добрых людзей ці вёску і спярша ўратуе малога. Самому яму было б лепш, сам бы ён асабліва не туляўся ад іх, а можа б, нават падпільнаваў гэтых гадаў і яшчэ памераўся б з імі сілай. Праўда, для таго патрэбны быў кулямёт ці хоць бы аўтамат, але і з пісталета ён страляў няблага, навучыўся ў разведцы. З малым жа ён не мог дазволіць сабе падобнай рызыкі, бо не быў упэўнены ва ўдачу, а дарма выпрабоўваць лёс не хацеў. І ён усё ішоў, бег, прадзіраўся праз зараснікі, пакуль не ўпёрся ў гэтае балота.

Падобна было на тое, што ён забрыў у такую глушэчу, дзе не было вёсак, і надзея напаткаць людзей пачала ў ім хутка гаснуць. Мабыць, трэба было спадзявацца толькі на самога сябе. Але ён дужа хацеў зберагчы малога, ён з нейкай невыразнай для сябе надзеяй ухапіўся за яго і нізашто не хацеў разлучацца. Сапраўды, усе, каго даручалі яму ў гэтай дарозе, адзін за адным пагінулі, застаўся толькі нікому не вядомы, нікім не бачаны і, мабыць, нікому не патрэбны безыменны малы. Але менавіта ці не з гэтай прычыны ён стаў патрэбны яму, бо нейкім чынам звязваў яго з усімі, каго не стала — Клавай, Грыбаедам, Ціханавым і нават Платонавым; ён даваў Леўчуку нейкае абгрунтаванне ягоных пакут, як і апраўданне ягоных памылак. У гэтай малечы заключаўся для яго нейкі, хоць і не асэнсаваны яшчэ ім, сэнс, якім ён не мог пагарджаць, пакуль яшчэ быў жывы і заставаўся чалавекам. Калі ён яго не ўратуе, тады навошта гэтая яго ашалелая барацьба за жыццё, якім ён не прывык даражыць занадта і даўно ведаў, што выжыць на вайне — раскоша.

— Нічога, нічога, браток, — сказаў ён услых да малога і сам не пазнаў свайго асіплага ад доўгага маўчання голасу. — Яшчэ мы пабачым...

Бачыць, аднак, пакуль што не было чаго, а паслухаць ужо было можна. Можа, гэта і добра, што сабакі выдавалі сябе здаля сваім пагрозлівым гончым брэхам, які асабліва памацнеў на світанні. Ляўчук,

прыслухоўваючыся, адзначыў іх набліжэнне і пашкадаваў, што ў ягоных кішэнях не засталося ні каліва табакі, якой можна было б зацерушыць свой след. Тады ён падумаў, што, мабыць, прыйдзецца лезці ў балота, іншага выйсця не будзе.

Тут быў цвёрды высакаваты бераг з бярэзнічкам, балота трохі адступала ўбок, ён прабег у ранейшым кірунку з паўсотню крокаў і крута завярнуў назад. Там, дзе асакаватая забалаць бліжэй падступала да берага, ён шырока сігануў убок і, стараючыся не дужа слядзіць у траве, палез да бухматага лазовага куста ў багне. Спярша было неглыбока, вада даходзіла не вышэй халяваў, але потым пабольшала, ён пашкадаваў, што не ўзяў палку, хоць як яму было ўпраўляцца з палкай? Аднак па характары балота, па тым, што ў ім сярод вадзяных вокнаў зелянелі купіны з кустамі лазы і алешніку, ён зразумеў, што яно не павінна быць дужа тваністым і, можа, яго не засмокча.

Прытрымліваючы малога за пазухай, ён асцярожна прабіраўся ад купіны да купіны, хапаючыся левай рукой за голле і паступова вязнучы ўсё глыбей. Ён не адышоўся яшчэ і ста крокаў ад берага, як ногі яго ўжо да каленяў патаналі ў гразі, хутка каламутная, з торфам і тванню жыжка падабралася да самых сцёгнаў, і ён думаў: хоць бы яна не стала глыбей, бо як тады ён будзе з гэтай сваёю ношай? Але балота і яшчэ глыбела, купіны радзелі, і між імі стаялі чыстыя, без зарасцяў, вокны чорнай вады, у якой плавала плясккатае лісце гарлачыкаў. Ляўчук ведаў, што гарлачыкі любяць глыбіню, і не соваўся туды, стараючыся лезці зводдаль ад іх, ля купін, дзе можна было ўхапіцца за мох і голле. Ён імкнуўся ісці хутчэй і асабліва не боўтаць нагамі, хоць усё роўна плёханне яго было чутна далёка, і ён разпораз спыняўся і слухаў. Аднойчы яму здалося, што ён чуе голас, нібыта вокрык, ён шырай расставіў у вадзе ногі і прыціх, болей, аднак, нічога не было чуваць. Памеркаваўшы, ён зразумеў, што вокрык даляцеў здаля і не мог адносіцца да яго. Значыць, яшчэ было трохі часу. Але пакуль ён прыслухоўваўся, ногі яго глыбей аселі ў багну, і ён з намаганнем павыдзіраў іх — спярша

адну, а потым другую. Пакуль выдзіраў, намачыў знізу пінжак і падумаў, што так хутка вымакне ўвесь, тады чым захіне малога?

Неяк дабраўшыся да замшаранай, аброслай аерам купіны, ён прыхінуўся да яе, асцярожна садраў з плячэй пінжак і абгарнуў ім малога. Той патузаўся, але не заплакаў і пакорліва сцішыўся ў цяпле яшчэ не астылай адзежыны.

— Ну во і добра! Ну і ляжы. Галоўнае — ляжы і маўчы. Можа, яшчэ мы як-небудзь...

Стоячы па сцёгны ў халоднай вадзе, ён услухоўваўся і выглядваў, куды падацца далей. Добра, каб надарылася дзе якая болей-меней сухая імшарына, які грудок ці востраў, дзе можна было б затаіцца ад сабак, пачакаць, перасядзець.

Але, мусіць, не надта тут адшукаеш імшарыну, балота ўсё глыбела, і ён прабіраўся па ім з усё большаю рызыкай шуснуць з галавой у прорву. Скрутак з малым ён паднімаў усё вышэй і стаданна намацваў дно, часам слізгаючы на глыбіні па блытаных каранях алешын і водарасцяў, часам ён траціў раўнавагу і ледзьве ўтрымліваўся над вадой, узнімаючы са дна каламутныя віры багны. Тым часам зусім развіднела, туману чамусьці тут не было, у высокім ранішнім небе стаяла некалькіх бухматых хмурынак, было ціха. І ў гэтай цішы да ягонага слыху данёсся раптам узмацнелы сабачы брэх.

Ён азірнуўся і зразумеў, што гэта ўжо тут, ля балота, і тады здзівіўся, як ён мала адышоўся ад берага. Каламуцячы багну, кінуўся да бліжэйшай купіны, з якой лезла ўгору раздвоеная крывая алешына з закарэлым камлём. Купінка была маленькая — і на бяду — у глыбокім месцы, ён добра вымак, пакуль дабрыў да яе, і нават падмачыў у руках пінжак. Да таго ж ён патраціў шмат часу, яны былі ўжо недзе паблізу і, хто ведае, ці не ўчулі яго. Каб быць гатовым да горшага, ён прыхінуў скрутак з малым пад альховы камель і, прытрымліваючы яго рукой, другой нарыхтаваў

пісталет. Вада тут даходзіла яму да грудзей, галаву няблага прыкрывала купіна, у самым нізе якой кусцілася маладая крушына. Ён затуліўся за яе і чакаў: калі палезуць з сабакамі, ён пвінен іх згледзець першы.

Толькі б не заплакаў малы.

Ён пачуў іх, і праўда, першы, яшчэ да таго, як згледзець: зашастала на беразе голле і прагучала нейкае слова, мусіць, каманда сабаку, — ён глыбей асеў у ваду і ўставіўся позіркам у незахінуты голлем ускраек берага. Ён перастаў дыхаць, вялікім пальцам ціхенька ссунуў засцерагальнік у парабелуме і тады ўбачыў іх у невялікім прамежку між кустоў і галля.

Першы на доўгай вочапцы з зарасніку выбег сабака. Руды, з пагрозліва настаўленымі вушамі, ён імкліва вёў па зямлі чуйным носам, зрэдку кідаючы хуткія позіркі наперад — ішоў па следзе. Ззаду ледзьве паспяваў праваднік у зялёным разведчыцкім маскхалаце і казыркастай палявой шапцы. За ім шыбаваў яшчэ адзін гэткі ж немец з сабакам. Яны прамчаліся далей, і тады на бераг з кустоў высыпала ўся іх зграя — дзесятак карнікаў у аднолькавых маскіровачных халатах, узброеных аўтаматамі, абвешаных сумкамі, біклагамі і біноклямі. Доўгай чарадой яны выцягнуліся па беразе і, асцярожліва пазіраючы па баках, скіравалі па ягоным следзе, гатовыя ў кожную секунду разрадзіць свае аўтаматы.

— Ох, гады! Ох, гады! — шаптаў ён здранцвелымі вуснамі, добра разумеючы, што ягоная справа дрэнь. Калі толькі яны не праскочаць далей з ягонага следу, то, мабыць, сядзець яму тут давядзецца нядоўга.

На нейкі час пасля ён перастаў іх бачыць за алешнікам, толькі чуў, як шастала голле, і думаў, што ў бліжэйшыя секунды, мабыць, усё для яго і вырашыцца. Пройдуць ці вернуцца? Але там неўзабаве разгублена заякатаў сабака, пачуўся строгі гаспадарскі вокрык, нейкая нягучная кароткая фраза, і ён зразумеў, што сабакі згубілі след. Ён яшчэ глыбей апусціўся ў ваду, па самыя ўжо плечы, і трохі пахінуўся ўбок, каб лепш прыхавацца

за купінай. Яшчэ ён азірнуўся назад — за вялікім прагалам чорнай вады стаяў куст лазняку, дзе, вядома, можна б схавацца лепш. Секунду ён адольваў у сабе рызыкоўнае жаданне кінуцца туды, пакуль была такая магчымасць, але стрымаўся — мусіць, цяпер ужо трэба было сядзець. Шкада, ён недалёка адышоўся ад берага, не хапіла часу: калі б ён раней наважыўся ўлезці ў балота, дык, можа б, яшчэ і выратаваўся.

Не, далей яны не пайшлі — яны вярталіся.

Ён зноў убачыў іх у тым жа парадку — адзін за адным немцы выбягалі з кустоў па ягоным следзе назад, і ён сцяўся, упіўся ў іх з-за крушынавага голля вачамі, з заміраннем сэрца чакаючы: а што, калі спыняцца? Калі спыняцца і сабака пакажа ў балота — тады ўсё. Тады, лічы, ён гатовы.

Здаецца, яны трошкі праскочылі далей ад яго павароткі, першы сабака дык пэўна праскочыў і з ім праваднік, астатнія яшчэ ішлі па беразе, і тады ён ясна ўбачыў у асацэ пры беразе свой след. Ну, так і ёсць, некалькі вельмі прыкметных на вадзе крокаў — прытаптаная асака і скаламучаная, яшчэ не адстоеная твань, — ах ты, бог мой, якая неасцярожнасць! І так блізка ад берага! Хоць бы яны не заўважылі, хоць бы прайшлі за сабакам! Дранцвеючы ад холаду і напружання, ён сачыў, як гэтае месца ля бярэзнічку прамінуў адзін, другі, трэці... Ужо заставалася чалавекі тры, і вось прабег і апошні — растаўсцелы карнік з азызлым, счырванелым тварам. Ляўчук дазволіў сабе ўздыхнуць глыбей — можа, і абыдзецца...

Ногі яго надта засмактала ў твань, і ён пасунуўся грудзямі на імшарыну, схіліўся над малым, які ўвесь час неспакойна варушыўся ў яго пінжаку, нібы хацеў скінуць яго з сябе і зірнуць, што робіцца на свеце. Ляўчук зазірнуў пад палу — тварык малога незадаволена зморшчыўся, і Ляўчук спалохаўся ад думкі, што малы зараз заплача. Каб як не дапусціць да гэтага, ён выдраў паблізу аерыну, адарваў ад яе мякчэйшую частку кораня і сунуў малому ў рот — смакчы! Той і сапраўды зацмокаў, прыціх, а Ляўчук

падумаў, што надоўга ці не, а, здаецца, ашукаў хлопца.

Затым ён услухаўся — немцы, чуваць было, гойсалі зводдаль, ён думаў, зноў вернуцца, але яны пакуль што не вярталіся, мабыць, яны стараліся знайсці яго след. Хвіліну чуваць быў іх гоман, ці то яны аб чымсь там спрачаліся, а можа, камандзір аддаваў новы загад. Даляцеў яго зычны голас-каманда, і хтосьці адгукнуўся на яе зусім блізка, ледзь не на самым беразе. Ляўчук зноў затаіўся, ён перастаў разумець, што яны ўздумалі, і зноў затрывожыўся.

Ён пачаў азірацца, шукаючы нейкае выйсце, і падумаў, ці не рызыкнуць усё ж перабрацца за той куст лазняку, а можа, і далей, пакуль іх няма паблізу і пакуль яны не знайшлі яго след. Але толькі ён падумаў аб гэтым, як убачыў насупраць немца: павесіўшы на шыю боты, той лез басанож у балота, здаецца, якраз па ягоным следзе. Другі з аўтаматам напагатове стаяў на беразе і, відаць, падбадзёрваў таварыша:

— Forwarts, dort ist es nicht tief![2]

— Hier ist eine Kluft[3],— незадаволена бурчаў босы, сунучы нагамі ў вадзе.

Ляўчук зноў вялікім пальцам правёў засцерагальнік і паклаў ствол пісталета на ніжнюю галінку алешыны. Ён рашыў падпусціць немца не далей як да акна з разбоўтаным покрывам раскі і стрэліць. Адсюль ужо ён не вылезе са сваімі ботамі; пасля той, з берага, мабыць, расстраляе яго. А можа, ён паспее зняць і таго...

Ну, во і ўсё... А столькі было страху і перажыванняў, калі ўсё канчаецца так проста, звычайна і амаль недарэчна...

Як заўжды ў хвіліны безнадзейнасці ад яго адлятаў страх, тым болей спалох, мозг яго пачынаў працаваць цвяроза і дакладна, рука рабілася дужай і цвёрдай. У такі момант ён не прамахнецца. Немец, аднак, не спяшаўся, лез асцярожна, высока перастаўляючы ў вадзе белыя худыя ногі з падкасанымі вышай калена

калошынамі. Калі ён нагінаўся, боты біліся галоўкамі па жываце, там жа боўтаўся аўтамат, які ён падтрымліваў правай рукой. Зрэдку толькі ён кідаў наперад кароткія позіркі з-пад казырка свае шапкі, а так усё глядзеў пад самыя ногі, шукаючы, куды лепей ступіць.

«Ну што ж, можа, так і лепей! Ідзі, ідзі, гад!»

І ён ішоў, несучы яму смерць і сабе, напэўна, таксама. Пагрузшы вышай каленяў у багне, ён падышоў да крушынавага кусціка, ухапіўся за галінку рукой і раптам, мабыць, паслізнуўся на дне — бокам шуснуў у ваду па грудзі. Спрабуючы падняцца, праваліўся яшчэ глыбей, збіў локцем шапку, якая паволі паплыла ад яго, хутка асядаючы пад ваду. Ускаламуціўшы вакол багну і ўжо не разбіраючы дарогі, кінуўся назад, на мяльчэйшае, і раззлавана загергетаў да таго, што стаяў на беразе і рагатаў, выкрыкваючы штосьці жартоўнае.

Мокры, аблеплены тванню немец выбраўся з балота і, усё нешта гергечучы там, знімаў з сябе кіцель, штаны і ўсё іншае, пакуль не застаўся голы. Удвух яны там доўга выкручвалі яго абмундзіроўку, з якой цурком лілася балотная вада. Ляўчук зусім адранцвеў ад холаду, яго пачынала біць ліхаманка, — ён не мог дачакацца, калі ж яны ўрэшце скончаць валэндацца і гэты апранецца. Вось ён ужо нацягнуў штаны, сятчастую блакітную майку, пачаў абувацца. Той, другі, даўганогі і, мабыць, маладзейшы, з ліхтарыкам на грудзях, штосьці гэйкнуў у хмызняк, яму адказаў здалёку другі голас, і Ляўчук пачуў, як на беразе лязгнуў затвор. Гэта яго зноў насцярожыла — што будзе?

Але гэты раз чакаць давялося нядоўга, воддаль затрашчала аўтаматная чарга, над балотам разгоніста, з віскам панесліся кулі. Ляўчук не зразумеў — куды гэта яны? Здаецца, апроч яго, тут не было нікога, але ж яго яны быццам не ўбачылі. Ды і стралялі не ў яго, а недзе ўбаку, куды пабеглі тыя, з сабакамі. А можа, там яшчэ хто, можа, там партызаны? Гэтыя два немцы таксама пабеглі на стрэлы; задні таропка, на бягу надзяваў кіцель, перахопліваючы з рукі ў руку аўтамат.

Ляўчук рашыў уцякаць далей у балота і толькі падхапіў на рукі малога, як зноў чарга адтуль распырскала паблізу ваду, дробная галінка з алешыны ўпала на яго плячо. Ён стаіўся, аблёгся на купіну, падабраў пад сябе малога. Але хутка ён зразумеў, што гэта выпадковыя кулі — білі ўсё ж наўгад. Тады ён зноў апусціўся па самыя плечы ў твань і праз крушынавае голле ўтаропіўся на край берага.

Неўзабаве яму стала відаць, што адбывалася — яны зноў выстраіліся на беразе воўчаю зграяй і, паволі ідучы ля балота, расстрэльвалі яго з аўтаматаў.

Трошкі ўжо абнадзеены, Ляўчук зноў апанурыўся — не адно, дык другое. Не ўзялі сабакамі, ацалеў ад немца, дык расстраляюць за купінай сляпою чаргой, і ён ціха апусціцца пад ваду, згіне ў твані. Не самая лепшая доля з усіх магчымых, вызначаных яму вайной. Добра, калі разам заб'юць малога, а раптам застанецца?..

Мабыць, растрывожаны стралянінай, малы зусім ужо занепакоіўся і пачаў ціхенька скуголіць у пінжаку. Ляўчук тужэй захінуў полы пінжака — што будзе, калі яны ўчуюць плач? Асабліва сабакі, якія адразу ж, як толькі пачалася страляніна, таксама падалі свае пагрозлівыя галасы і брахалі, скавыталі, аж захліпаліся, — мусіць, ірваліся ў балота. Але гэтае траскоцце дзесятка аўтаматаў, вядома, найперш аглушыла саміх стралкоў, і тыя пакуль што не маглі чуць далёкага слабенькага плачу малога.

Страціўшы ўсе надзеі, Ляўчук самотна глядзеў, як тонкія трасірныя струмені куль набліжаліся да яго купіны. Немцы не шкадавалі патронаў і расстрэльвалі кожную купіну, кожны бугорчык моху, кожны куст і кожнае дрэўца ў балоце. Тысячамі пырскаў кіпела, вірыла, перамешвалася з гразёй вада, ляцела ў паветра лісце, галлё, асака, паднятая з пырскамі вады зялёная раска. Абабітыя кулямі вольхі то тут, то там засвяціліся белымі плямамі на чорнай кары. Агонь быў такі, якога Ляўчук не чуў ужо даўно, хіба што на фронце, у сорак першым пад Кобрынам; уцалець у ім было, відаць, марнай надзеяй.

Ён скурчыўся за купінай, як можна глыбей асеў у ваду. Шкада, нельга было пад ваду схаваць малога, які ўвесь быў наверсе, трохі захінуты імшарынай. Мусіць, яму дастанецца першаму. Але тая чарга, што прыкончыць яго, не міне і самога Леўчука, так што аднолькава дастанецца абодвум.

— Ах, гады, гады!..

Усё на тым жа голым краёчку берага ён зноў убачыў таго самага даўганогага немца з ліхтарыкам на жываце, які, выйшаўшы з зарасніку, упёр адкідны прыклад аўтамата ў плячо і запусціў у балота чаргу. Дзесятак куль, сярод якіх былі і трасірныя, паднялі ў паветра мох з бліжэйшай ад берага купіны, затым паляцела альховае лісце з суседняй. Чарга няўхільна набліжалася да яго. Малы пад рукамі, нібы прадчуваючы хуткі канец, заплакаў мацней, але ў траскоцці і водгуллі чэргаў Ляўчук ужо сам не надта чуў гэты плач. Ён сачыў за кулямі, каб у час адзначыць для сябе апошняе сваё імгненне і датрываць да яго. Далей трываць ужо не давядзецца.

Тым часам на беразе іх стала ўжо трое. Пярэдні перабег далей, затое два іншых разам прыкладаліся да аўтаматаў, і струмень куляў са свістам пранёсся каля ягонай алешыны. Аднекуль зверху плюхнулася ў ваду збітае кулямі маленькае травяное гняздзечка; у паветры паплыў белы пух, і некалькі пер'яў асела на яго купіну. Ляўчук затуліў малога рукой, уціскаючы яго як мага ніжэй у мох, другой накіраваў пісталет на бераг. Ён збіраўся стрэліць у таго, што, змяніўшы магазін, прымерваўся для трэцяй чаргі. Праўда, для пісталетнага стрэлу было далекавата, ад напружання і дрыготкі яму было цяжка зладзіць з рукой. Усё ж ён прыцэліўся. Але нечакана новая думка з'явілася ў яго галаве, калі ён адчуў, што б'юць яны чамусь па-над купінай, быццам паверсе; іхнія чэргі ідуць па-над яго галавой і далей. Ён асцярожна азірнуўся і ўбачыў, як густа ляцела ў паветра лістота з лазовага куста, у які ён нядаўна яшчэ хацеў улезці. І тады ён сцяміў, што яны, пэўна, бачаць там найбольш падазронае месца і таму

так старанна абстрэльваюць яго.

Тады ў Леўчука зноў загарэлася надзея, ён шчыльней захінуў малога, сам аглушаны трэскатам і рэхам, што бушавалі з краю ў край над балотам, не чуючы яго плачу; ён толькі чуў, як малы тузаўся пад яго рукамі. Хоць бы не задыхнуўся, думаў Ляўчук, да болю сціскаючы пашчэнкі — было так холадна, што ён ледзьве трываў у гэтай ідыёцкай сваёй нерухомасці.

Страляніна, аднак, пасунулася ў левы бок, мусіць, тут ужо ўсё было як мае быць імі абстраляна. Наўкола ў асацэ валялася свежае альховае голле, у вадзе густа плавала лісце. Непадалёк, трымаючыся на валакенцы, вісела над вадой збітая куляй верхавіна бярозкі.

На гэтым краі балота стала цішэй, здаецца, яны сышлі далей, і ён наважыўся. Ён падхапіў скрутак з малым на плячо, прыціснуў яго левай рукой і з пісталетам у правай ціхенька, каб не дужа плюхаць у вадзе, пусціўся за той, расстраляны многімі чэргамі куст лазы. Мабыць, ужо другі раз расстрэльваць яго не будуць.

За лазняком было даволі ўсё ж схоўна, у вадзе скрозь было нацярушана лісця, плавала выбітае кулямі карэнне водарасцяў; водарасці і ашмоцце твані віселі на пасечаным голлі куста. І ён падумаў, што, мабыць, яшчэ не зусім адцуралася ад яго ўдача, калі ён да часу не паспеў дабрацца сюды. Тут бы ён, пэўна, і ляжаў цяпер, сцякаючы крывёй у багне...?

— Ціха, ціха, браток. Памаўчы трошкі, — сказаў ён малому, нядоўга адпачыў, агледзеўся і бокам-бокам, вязнучы па пояс у твані, дзе прыгінаючыся, а дзе ледзь не плывучы, падаўся далей у балота, думаючы, што калі яно не ўтопіць, дык, мусіць, уратуе яго.

**16**

Неўзабаве дрэвы і хмызняк скончыліся, з імі скончыліся праваліны вокны, стала больш травяністых зараснікаў, моху. Хоць месцамі было глыбока і ўсё зыбалася і плыло

пад нагамі, але ўжо пагрозы ўтапіцца, мусіць, не было. Стрэлы памалу аддаліліся ўправа, стрункае дзіганне куль гойсала там, над балотам, і напалоханае балотнае птаства разляталася ва ўсе бакі. Нават прывязлівыя да чалавека сарокі цяпер ляцелі над самым балотам прэч ад гэтага небяспечнага грукату.

Адной рукой прыхінуўшы да сябе малога, Ляўчук бег, скакаў, зыбаўся па замшэлай дрыгве, дзе спраўляўся перабегчы раней, чым імшарына ўтоне ў вадзе, а дзе і не паспяваў. І тады ён зноў каторы ўжо раз плёхаў па пояс у тарфяністай твані, кідаўся ў адзін бок, у другі, стараючыся выбрацца на цвярдзейшае. Мокрае яго адзенне агідна абліпала цела, пры кожным кроку плёхала з халяваў ботаў, але затое ад руху ён перастаў дрыжаць, нават сагрэўся. Ён толькі асцерагаўся, каб не ўтапіць у багне свой скрутак з маленькім у ім чалавечкам, а сябе ўжо аберагаць перастаў. Але балота ўсё ж канчалася, наперадзе на грудку шчыльненька зелянеў хвойнік — значыць, там пачынаўся бераг. Толькі хто і што чакае яго на тым хваёвым грудку?

Нарэшце ён адолеў балота і па мокрым, але ўжо не дрыгвяністым тарфяніку выбег на зарослы сіўцом і верасам пясчаны пагорак. Боты, цвіркаючы і чвякаючы, затупалі па сухім. Выгляд яго, мусіць, быў страшны — мала што мокры з галавы да пят, дык яшчэ ўвесь аблеплены тванню; на плечы і рукавы паначаплялася нейкай валакністай водарасці, раска і іншая зялёная драбяза напрыліпала да вопраткі. Але малога ў пінжаку ён, здаецца, намачыў не вельмі, і калі той усё неспакойна валтузіўся і плакаў, дык, мусіць, болей з голаду. Гэты яго плач і падганяў Леўчука. Стрэлаў, якія ўсё яшчэ патрэсквалі здаля, ён не надта баяўся, ён ужо вырваўся з-пад іх пагрозы, і цяпер яго гнаў новы клопат.

Ён бег. Хоць і нязручна было ў такім яго стане (мусіць, трэба б хоць выкруціць вопратку і пераабуцца), але ён ускарабкаўся на грудок, прадраўся праз хваёвы гушчар і раптам апынуўся на вузенькай, хоць і добра ўезджанай лясной дарожцы. Калі ёсць дарожка, дык павінна быць

недзе і вёска, з палёгкай падумаў Ляўчук. Абы толькі не напаткаць немцаў.

Ён не надта жвава пабег па ёй, усё чвякаючы левым ботам, і, мусіць, ад гэтага яго бегу малы патрохі прыціх, а пасля і зусім змоўк — заснуў ці проста загушкаўся на ягоных руках. Тады Ляўчук пайшоў цішэй, ён ужо сагрэўся і пачаў прыглядацца да лесу, каб дзе на хвіліну прысесці ды выціснуць вопратку. Мусіць, немцаў тут не было, а ісці давядзецца яшчэ немаведама колькі, так ён парэжа ногі ў мокрых, са збітымі анучамі ботах.

Толькі ён падумаў пра гэта, прыглядаючыся да зарасніку папараці, што высока буяла ля самай дарогі, як пачуў блізкія галасы і конскі тупат. Ён хуценька шаснуў з дарогі, але, мабыць, было позна, і тыя, што ехалі на конях, паспелі згледзець яго. Згорбіўшыся за кустом ядлоўцу, ён напружана чакаў, спадзеючыся, што, можа, яны праедуць, але яны не праехалі. Тупат на дарозе раптам сціх, і ледзь не над яго галавой пачулася пагрозлівае:

— Эй, ану вылазь!

Ляўчук злосна ў думках вылаяўся — на якіх гэта ён д'яблаў налез? Па голасе нібыта нашыя, але хто ведае — можа, і немцы або паліцаі. Не выпускаючы з рук малога, ён асцярожна выцягнуў з кабуры парабелум, ціха нахіліўся за кустом, каб выглянуць на дарогу, і нечакана ўбачыў іх зусім побач. Яны, мусіць, таксама ўбачылі яго — гэтыя трое конных, апранутых, праўда, папартызанску, хто ў што, якія глядзелі цяпер у папараць, скіраваўшы сюды аўтаматы — нашы, савецкія ППШ.

- Рукі ўгору!

Па ўсім відаць, што гэта былі партызаны, хоць поўнай упэўненасці ў тым у Леўчука не было. Ён нетаропка падняўся з зарасніку, пакінуўшы ў доле малога і хаваючы за сабой парабелум. Але гэтая яго нерашучасць відавочна не задаволіла коннікаў. Адзін з іх, што быў у старой гімнасцёрцы і ссунутай на патыліцу

чорнай кубанцы, рашуча павярнуў каня ў папараць.

- Кідай пістоль! Ну! І рукі ўгору!

— Ды ладна, — прымірэнча сказаў Ляўчук. — Свой! Чаго там...

— Гледзячы каму свой!

— Не, — сказаў Ляўчук. — Я павінен сам. Тут такая гісторыя... Сам я павінен. Гэта далёка?

— Гледзячы як. Дарогай — далекавата. А цераз ручай — дзесяць хвілін.

Яны выйшлі з папараці на дарожку. Коні нецярпліва круціліся пад седакамі, якім, відаць, карцела некуды ехаць, але і гэтага балотнага сустрэчнага, што аказаўся знаёмы іхняму таварышу, таксама нялоўка было пакідаць аднаго без дапамогі.

— Ну ладна! — урэшце рашыў той, у кубанцы, мабыць, ён быў старшы. — Кулеш, пакажы дарогу і даганяй. Ля борці мы пачакаем.

Вусаты Кулеш завярнуў каня, і Ляўчук таропка падаўся за ім па дарозе. Ен ішоў шпаркім крокам, згадваючы, у якую гэта брыгаду ён трапіў, хаця, напэўна, не ў Першамайскую. З Першамайскай гэты Кулеш зімой не мог быць на раз'ездзе — Першамайская тады дзейнічала недзе пад Мінскам і толькі вясной паявілася ў гэтым краі. Кулеш таксама акінуў Леўчука цікаўным выпрабавальным позіркам.

— Гэта не па табе немцы пулялі? У балоце?

— Па мне, ага. Ледзьве ўцёк.

— Глядзі ты. Там жа дрыгва о-ёй!

— Ды ўжо ж! Думаў, пухіры пушчу. А ты цяпер не ў Кіраўскім? — асцярожна пацікавіўся Ляўчук.

— У Кіраўскім, ну, — ахвотна адказаў Кулеш. —

Зашчамілі і нас, сволачы! Да ўчарашняга было ціха, а ўчора цісканулі. Чуеш, грыміць як? Адбіваемся.

Ляўчук ужо чуў, як грымела дзесьці ў тым напрамку, куды яны ехалі. Страляніна, праўда, была далекаватая, але густая, з раскоцістым лесавым водгуллем.

— Слухай, а гэта часам не твой? — кіўнуў Кулеш на ягоную ношу.

— Не, не мой,— сказаў Ляўчук. — Друга майго.

— Во як! Ну што ж, зразумела.

— Не паспеў нарадзіцца і ўжо сірата. Ні бацькі, ні маткі.

— Бывае,— уздыхнуў Кулеш. — Цяпер гэта проста. Ляўчук хуткім крокам сігаў поруч з рахманым Кулешавым конікам і паступова адыходзіў нутром ад усяго нядаўна ім перажытага. Мабыць, ён канчаткова ўжо ўратаваўся сам і ўратуе малога — гэта галоўнае, хоць ён быў занадта ўмораны, каб як мае быць парадавацца з гэтай прычыны. Цяпер, калі столькі жахлівага засталося па той бок балота, якое ўсё ж уратавала яго, ён адчуў толькі цягучую тупую знямогу і, амаль бегучы за канём, усё кідаў наперад нецярплівыя позіркі — ці не пакажацца нарэшце той лагер? Ужо далей лагера ён не пойдзе, спярша выспіцца, а пасля, можа, пакажацца якому доктару са сваёй ранай. Мокрая, не перавязаная як след, яна то тупа балела, то пачынала нясцерпна свярбець на яго плячы, — па ўсім відаць, нарывала — не хапала яшчэ якога заражэння, што тады будзе рабіць? Цяпер яго пачала непакоіць рана.

— Ужо недалёка, — сказаў Кулеш. — Пераедзем ручай, і — лагер.

Ляўчук стомлена ўздыхнуў і зірнуў на малога — той, пэўна, драмаў. Дарожка ішла ўніз, з хваёвага грудка па лужку да ляшчынніку над ручаём, і тады яны ўбачылі здаля, як на тым баку, быццам ім напярэймы, без усякага парадку бягуць людзі з вінтоўкамі. Адзін,

згледзеўшы іх, замахаў рукой, і Кулеш нацягнуў повад.

— Што такое?

На дарожку выбег смуглявы, з рашучымі жарсткаватымі вачамі чалавек у нямецкім мундзіры, з нямецкім аўтаматам у руцэ; на ягоных грудзях целяпаўся вялікі бінокль, і Ляўчук здагадаўся, што, мабыць, гэта нейкі камандзір кіраўцаў.

— Кулеш, стой! — крыкнуў камандзір і закінуў на плячо аўтамат. — Хто такі? — кальнуў ён Леўчука пагрозлівым позіркам.

— Гэта з «Геройскага», — адказаў за яго Кулеш. — Во малога ў сямейны лагер нясём.

— Якога малога? — абурана закрычаў камандзір. — Усе ў строй! Немцы прарваліся, чуеш, што робіцца?

З ляшчынніку на дарогу выскачыла чалавек дзесяць партызан. Усе былі захаканыя, мусіць, ад доўгага бегу і нерашуча спыняліся, прыслухоўваючыся да нечаканай сутычкі іх камандзіра са знаёмым Куляшом і незнаёмым партызанам з «Геройскага».

— Што ж, з рабёнкам — у строй? — здзівіўся Кулеш.

— Ладна, ты вязі рабёнка! — хутка рашыў камандзір. — А ты — у строй! Дзе вінтоўка?

— Няма, — сказаў Ляўчук. — Во пісталет.

— Становіся з пісталетам. За мной, марш!

Ляўчук секунду памарудзіў, хацеў сказаць, што паранены, але ўзбуджаныя твары камандзіра і яго байцоў пераканалі яго, што лепей паслухаць. Такія не дужа стануць упрошваць або разбірацца ў тваіх апраўданнях — такія звычайна, калі што не так, хапаюцца за пісталет. Ляўчук гэта ведаў.

І ён аддаў малога Куляшу, які не дужа спрытна, з асцярогаю падняў яго на сядло.

— Галоўнае, да цёткі якой. Каб карміла, — напомніў Ляўчук.

— Будзе зроблена. Ты не турбуйся.

Чарнявы з гарачымі вачамі ўзбег на грудок вышэй і азірнуўся. Ляўчук, аднак, стаяў, чамусьці спалохаўшыся, што Кулеш выпусціць малога, а той таўхануў стаптанымі абцасамі каня і раптам спыніўся.

— Гэй, а зваць яго як?

— Зваць? — здзівіўся Ляўчук. Сапраўды, можа, ён развітваўся з ім назаўжды, а імя яму так і не даў. Ды ці ён думаў дагэтуль пра імя? Ён нават не спадзяваўся, што яно калі-небудзь спатрэбіцца.

— Віктар! — крыкнуў ён, прыпомніўшы, што так звалі Платонава. — Віктар, скажы. А прозвішча Платонаў, Віктар Платонаў.

— Ясна.

Кулеш памчаў па дарожцы і хутка схаваўся за паваароткай, а Ляўчук зябка здрыгануўся ад свае мокрае вопраткі і стомлена пабег даганяць чарнявага. Ужо чутно было, як у тым кірунку бахнулі вінтоўкі, і першыя кулі струнка задзігалі ў ранішнім небе...

**17**

...Нейкі нядоўгі час ён пачаў пазіраць на балконы і не адразу, а неяк спакваля, здагадаўся, што трэці балкон над пад'ездам — іхні. Сапраўды, калі іх кватэра размяшчалася злева — значыць, вокнамі выходзіла ў двор, дзе быў гэты балкон з вузенькімі зашклёнымі дзвярыма, нейкімі кветкамі ў вазонах-карытцах, падвешаных да балясаў. Там жа былі відаць плеценае крэсла-столік, з даху звісаў канец тоўстага провада ад антэны. І тады нечакана для сябе ён убачыў там маладую жанчыну ў светлым халаціку, якая нячутна выйшла з пакоя, паліла са шклянога слоіка кветкі, зірнула ўніз і зноў нячутна знікла ў кватэры, пакінуўшы

расчыненымі балконныя дзверы.

Ляўчук сядзеў, не ў стане адразу ўсвядоміць сэнс гэтай падзеі, хоць ён і разумеў, што дачакаўся. Так, ён дачакаўся столькі гадоў чаканага свайго спаткання. ЁН — там! Краем вока Ляўчук заўважыў чвэрць гадзіны назад, як нейкая пара прайшла ў пад'езд, але ён убачыў толькі спіну мужчыны, невысокага, вастраплечага, з худымі локцямі, што тырчалі з кароткіх рукавоў тэніскі, і не надаў таму ўвагі. У ягоным уяўленні Платонаў быў іншы, і ён сядзеў яшчэ, усё прыглядаючыся да кожнага з рэдкіх тут, выпадковых прахожых. Ды, мусіць, настаў час уставаць. Жыццё рэдка песціць чалавека спраўджаннем ягоных мараў, жыццё мае звычку рабіць па-свойму. Але і чалавек любіць, каб было па ягоным, вось і ўзнікаюць тады нелады, якія часам кепска канчаюцца.

Пэўна, усё, пра што Ляўчук марыў гэтыя трыццаць гадоў — дзіцячая забаўка, не болей, мабыць, усё будзе інакш. Але ён павінен даведацца, ЯК? Надта шмат спрасавалася ў тым яго партызанскім выпадку, з якім яму дажываць жыццё. Тым болей што пасля ўдача зусім пакінула яго. У канцы блакады аднялі руку, і ён заняў Грыбаедава месца ля коней у санчасці. Жыў успамінамі, галоўным з якіх быў гэты ўратаваны ім ад воўчае зграі малы, што затым невядома куды падзеўся. Як Кулеш павёз яго па дарозе, так Ляўчук ні разу болей яго і не ўбачыў. Пытаўся ва ўсіх пры кожным выпадку, але ўсё марна. Каму было ведаць пра нейкае немаўля, калі прападалі сотні дужых, дарослых, вынослівых? Узнагародамі Леўчука таксама не шмат надзялілі: у час, калі ён ваяваў, было не да гэтага, а пасля ён ужо не ваяваў — быў абознік. Таму найбольшаю ўзнагародай для ягонага сумлення заставаўся гэты малы, цяперашні грамадзянін краіны Віктар Платонаў.

Паволі, перамагаючы нечаканую слабасць у нагах, Ляўчук устаў з свае лаўкі і пайшоў да пад'езда. Хваляванне ахапіла яго за ўсё разам: за тое даўно ім пражытае, за ягоную радасць і ягоныя страхі, за сваё, якое-ніякое, а ўжо пражытае жыццё, за сустрэчу, да

якой ён імкнуўся трыццаць гадоў.

Стрымліваючы ў сабе нейкую чуллівую, цёплую хвалю, ён паволі, з перадыхам, падняўся па лесвіцы на трэці паверх. Знаёмыя дзверы, як і раней, былі шчыльна зачынены, але цяпер ён пачуў за імі людзей і націснуў на кнопку званка. Ён чакаў, што нехта адчыніць, ды замест таго пачуў з глыбіні кватэры басавіты мужчынскі голас:

— Да, да! Заходзьце, там не зачынена.

І ён, забыўшыся зняць кепку, павярнуў ручку дзвярэй.

## Яго батальён

### 1

Траншэя была мелкаватая, пад пахі, не болей, сухая і пыльная. Каб не дужа вытыркацца з яе, Валошын звыкла аблягаўся грудзьмі на бруствер, расставіўшы ў бакі локці. Аднак доўга стаяць так, згорбіўшыся, пры ягонай высокай мажнай постаці было не надта каб зручна, мяняючы позу, камбат незнарок варухнуў локцем, і мёрзлы камяк зямлі з глухім стукам скаціўся ў траншэю. Адразу ж унізе пачуўся ціхі крыўдлівы віск, затым энергічны фыркат сабакі, з якім той страсае абсыпаную пылам поўсць, і побач на броўку мякка ляглі дзве шырокія кіпцюрыстыя лапы.

— Джым, ляжаць!

Не адрываючы ад вачэй бінокля, Валошын пакруціў пальцамі акуляры — спачатку ў адзін, затым у другі бок, але відаць было паранейшаму дрэнна. Голыя, вытаялыя з-пад снегу схілы вышыні з доўгай паласой ворыва, загінастая крывуляка траншэі на самым версе, некалькі свежых плямаў мінных разрываў і нават зараснік чэзлага хмызняку на балоце ўвачавідкі зацягвала змрокам блізкае ночы.

— Ну што ж: усё зразумела!

Камбат апусціў падвешаны на шыі бінокль і адкінуўся да задняй сценкі траншэі. Дзяжурны разведчык, што назіраў з суседняй ячэйкі, зябка павёў плячыма.

— Умацоўваецца, гад!

Так, праціўнік умацоўваўся, гэта было відавочна таксама, як і тое, што ўчора яны зрабілі памылку, не атакаваўшы з ходу тае вышыні. Тады яшчэ былі сякія-такія шансы яе ўзяць, але ўчора падвяла артылерыя. У батарэі з артпалка, што іх падтрымлівала, засталося ўсяго дзесятак снарадаў, якія патрэбны былі на самы крытычны выпадак, суседні батальён увязаўся ў зацяжны бой за саўгас «Піянер» па той бок рачулкі, і калі Валошын запытаў наконт гэтай малапрыкметнай, але, відаць, немалаважнай вышыні ў камандзіра палка, той проста не адказаў. Зрэшты, яно было і зразумела: наступленне выдыхалася, задачу сваю полк сяк-так выканаў, а надалей, мабыць, яшчэ не было пэўнага плана і ў дывізіі. І ўсё ж вышыню трэба было ўзяць. Праўда, для таго і ўчора аднаго, патрапанага ў трохтыднёвых баях батальёна было замала, але ўчора на яе голай вяршыне яшчэ не было траншэі, а галоўнае — правы фланговы схіл над балотам, здаецца, яшчэ не быў заняты немцамі. Занялі яны яго ўранку і ўвесь дзень, не зважаючы на кулямётны абстрэл, па ўсёй вышыні капалі. Да змяркання было відаць, як мільгае над брустверамі чорнае ашмоцце зямлі, а надвячоркам з саўгаса, чутна было, падышло некалькі грузавікоў, і нямецкія сапёры дацямна цягалі па траншэях бярвенне — абсталёўвалі бліндажы. Уночы, напэўна, замініруюць і подступы на схілах.

Наўкола хутка цямнела, чорны сакавіцкі прасцяг усё гусцей атуляла глухое цемрыва ночы, у якім невыразна шарэлі плямы нерасталага снегу — па раўчуках, пад узмежкам, на зарослым чэзлым кустоўем балоце. Было сцюдзёна. З усходу дзьмуў пругкі марозны вецер, з ім на пагорак НП далятаў пах дыму, які цяпер напомніў камбату пра ягоны прытулак-зямлянку, куды ён не заходзіў ад рання. Джым, нібы разумеючы намер

гаспадара, крокаў пяць прабег па траншэі і азірнуўся сур'ёзнымі, трошкі журботнымі вачмі.

— Так. Прыгуноў, назірайце. І слухайце таксама. Калі што — адразу дакладвайце.

— Ёсць, таварыш камбат.

— Толькі не здумайце курыць.

— Некурашчы я.

— Тым лепш. На вячэру падменяць.

Зашорхаўшы аб сцены траншэі злубянелай, накінутай паверх шыняля палаткай, Валошын хутка пайшоў уніз да зямлянкі, якая пад ноч уладарна вабіла адносным цяплом, спакоем, кацялком гарачага супу. Зрэшты, збудаваная за адну

ноч зямлянка была не надта каб самавітая — часовы палявы прытулак на дзень-два, замест бярвення крыты жардзём і саломай з тонкім слоем зямлі наверсе. Дзвярэй увогуле тут не было ніякіх, проста на ўваходзе вісела чыясь палатка, адхінуўшы якую, камбат адразу апынуўся ля галоўнае радасці гэтага жытла — змайстраванай з малочнага бітона, добра ўжо напаленай печкі.

— О, блажэнства! — не ўтрымаўся ён, выстаўляючы да цяпла азызлыя на сцюжы рукі.— Як у Сочы! Што ўсміхаецеся, Чарнаручанка? Вы былі ў Сочы?

— Не быў, таварыш камбат.

— То-та!

Немалады, марудлівы на рухі, таксама як і на словы, тэлефаніст Чарнаручанка, які, зашчаміўшы між вухам і плячом трубку, піхаў у печ суччо, аднак усё ўхмыляўся, відаць, маючы на ўвазе нешта вясёлае. Камбат машынальна перавёў позірк на іншых, хто быў у зямлянцы, але і тыя таксама па-змоўніцку ўсміхаліся: і ардынарац камбата Гутман, які, стоячы на каленях у

ватных штанах, сучыў доўгую нітку, і разведчык, што, адкінуўшыся на локаць, ляжаў на саломе і дыміў самакруткай. Адзін толькі начштаба лейтэнант Маркін у накінутым на плечы паўшубку засяроджана поркаўся ў сваіх паперах перад прыладжаным на скрынцы трафейным карбідным ліхтаром. Але Маркін увогуле ніколі не ўсміхаўся, не радаваўся; колькі яго ведаў камбат, ён заўжды быў такі — чужаваты да іншых, у самім сабе засяроджаны.

— Што здарылася?

Капітан сказаў гэта, трохі нават заінтрыгаваны ўсеагульнай маўклівасцю, і Чарнаручанка няўклюдна выпростаўся, пераступіў з нагі на нагу. Аднак першы азваўся Гутман:

— Сюрпрыз для вас, таварыш камбат.

Сюрпрызаў на фронце хапала, яны сыпаліся амаль кожны дзень, адзін не лепшы за іншыя, але цяпер Валошын згадваў, што гэты быў, мабыць, не самы найгоршы. Інакш бы яны так не ўсміхаліся.

— Што ж за сюрпрыз?

— Хай Чарнаручанка скажа. Ён лепш ведае.

Медзведзяваты і даўгарукі Чарнаручанка, ніякавата ўхмыляючыся, паглядзеў на Гутмана, затым на лейтэнанта Маркіна і не адважыўся пачаць першы. Маркін, аднак, коратка падахвоціў:

— Ну, гавары, гавары.

— Ордэн вам, таварыш камбат. Са штаба званілі.

Валошын, аднак, і сам пачаў здагадвацца і цяпер зразумеў усё разам. Нічога не кажучы, ён пераступіў цераз доўгія ногі разведчыка, скінуў з сябе плашч-палатку і сеў каля скрынкі начальніка штаба. Джым рупна і важна, з нейкай пачцівай асцярогай выхаванага пса апусціўся на заднія лапы побач.

Валошын маўчаў. На секунду мільганула радаснае і ў той жа час нейкае невядома чаму трохі няёмкае адчуванне — ордэн гэта няблага, але чаму толькі яму, а іншым? Між тым усё адбывалася, мусіць, як і павінна адбывацца на фронце — месяцы два таму паслалі паперы з прадстаўленнем яго да ордэна Чырвонага Сцяга, нейкі час ён нават чакаў яго, гэты ордэн. Але затым пачалося наступленне, цяжкія баі, і ён не надта ўжо і спадзяваўся, што тая ўзнагарода застане яго ў жыцці. І вось, выходзіць, застала, значыць, яшчэ давядзецца, калі пашчасціць, панасіць на грудзях і другі баявы ордэн. Што ж, увогуле ён быў рады, хоць знешне амаль нічым і не выказаў гэтае сваёй радасці.

— Так што віншуем, таварыш капітан,— сказаў Гутман. — Во тут я і абмыўку здабыў.

Ён выцягнуў аднекуль алюмініевую фляжку і весела страсянуў яе. У флязе булькнула і зазвінела, Валошын ніякавата паморшчыўся.

— Пакуль схавай, Лёва. Абмыўка — не праблема.

— Ага, не праблема! Ды я ледзьве ў старшыны другога батальёна выцыганіў. Самая праблема. Вунь лейтэнант увесь вечар на яе паглядвае.

— Глупства вы гародзіце, Гутман,— сур'ёзна, без ценю гумару, зазначыў Маркін.

— Вось лейтэнанту і аддай,— спакойна сказаў камбат.— А мне лепш анучы сухія пашукай.

— Ай-яй! Анучы — такая справа.

Ардынарац выцяг з-пад сцяны тутаваты рэчавы мяшок і спрытна развязаў яго.

— Во, сухенькія.

— Дзякуй.

— І знімайце шынель — гузік у пятліцу прышыю. А то ўжо трэці дзень абяцаеце.

— Толькі каб было аднолькава: на правай і на левай.

— Будзе акурат. Не сумнявайцеся.

Ён не сумняваўся — Гутман быў майстра на ўсе магчымыя і немагчымыя справы — усё ў яго выходзіла надзіва лёгка і адмыслова. Валошын прывычна расшпіліў камандзірскую дзягу з зоркай у меднай спражцы, скінуў з плячэй двайную партупею, кабур з ТТ, зняў камсастаўскі, некалі шыты на заказ, ужо абтрэпаны, у двух месцах пабіты асколкамі шынель. Гутман шырокім кравецкім жэстам раскінуў яго на каленях.

— І хто прыдумаў гэтыя гузікі ў пятліцы? Ні складу ні ладу.

— Цябе не запыталі, Гутман,— буркнуў Маркін.— Прыдумаў, значыць, так трэба было.

— А па мне дык лепш, як раней — кубары! Гэта штука!

Камбат з задавальненнем выцягнуў на саломе ногі і, няў-

важліва слухаючы размову падначаленых, дастаў з кішэні гадзіннік. Гэта быў трафей, узяты ў забітага нямецкага танкіста, з трыма стрэлкамі і надзіва дакладным ходам. Валошын паклаў гадзіннік на краі скрынкі, каб бачыць яго цыферблат, і пачаў згортваць цыгарку.

Першае ўзрушанне-няёмкасць міналіся, ён думаў, што трэба хутка званіць на палкавы КП, дакладваць абстаноўку. Як заўжды, гэтая хвіліна была да агіды непрыемная і нямала псавала настрой да яе і пасля. Колькі ўжо часу, як палком стаў камандаваць маёр Гунько, а камбат-тры Валошын усё не мог прывыкнуць да ягоных начальніцкіх манер, якія раздражнялі і крыўдзілі яго адначасна.

— З палка званілі?

Маркін адарваўся ад папер, разы два міргнуў — яго

твар з густаватаю шчэццю пры скупым святле карбідкі выглядаў амаль чорным.

— Званілі. Будзе папаўненне.

— Многа?

— Невядома. У дваццаць два ноль-ноль загадана выслаць прадстаўніка ад батальёна.

Лейтэнант зірнуў на гадзіннік, стрэлка якога набліжалася да васьмі. Камбат адхінуўся да сцяны зямлянкі і зацягнуўся самакруткаю. Сцяна яшчэ нікольі не ўгрэлася і нават праз аўчынную камізэльку моцна сцюдзяніла лапаткі.

— Пра вышыню шэсцьдзесят пяць не пыталіся?

— Не, не пыталіся. А што, усё капаюць?

— Дзоты будуюць. Як бы заўтра таго... Не прыйшлося браць.

— Ды ну! — усумніўся Маркін.— Семдзесят шэсць чалавек на давольстваі...

Гэтая названая Маркіным лічба непрыемна ўкалола свядомасць камбата — усяго семдзесят шэсць! Зусім нядаўна яшчэ было амаль на сотню чалавек больш, а цяпер вось засталося трэць батальёна. Колькі ж застанецца праз тыдзень? А праз месяц, да лета? Але ён толькі падумаў так, намаганнем волі прыцяў непрыемную думку і ўслых сказаў аб іншым:

— Праз дзень-два горш будзе. Умацуюцца. Лейтэнант кінуў беглы позірк у парог, прыслухаўся і ціха заўважыў:

— А можа, не дакладваць? Маўчаць, і мы змоўчым.

— Не, ужо дзякуй,— сказаў камбат.— Будзем дакладваць, як ёсць.

— Ну што ж! Можна і так.

Гутман прышываў гузік, Чарнаручанка гаспадарыў ля печы, разведчык, нацягнуўшы на галаву бушлат, сіліўся задрамаць перад дзяжурствам. Маркін з дапамогай алоўка і шомпала лінеіў у сшытку графы формы 2УР — для запісу папаўнення. Камбат глядзеў, як аднабока тлее папера на канцы яго самакруткі, і думаў, што вайна, на жаль ці на шчасце, не дае таго выбару, аб якім мяркуе лейтэнант Маркін. Гэта ў піўной можна разважаць, чым закусіць ракамі ці воблай або лепш салёным агурком на аматара, на вайне ж сярод усіх магчымасцей, якія дазваляе сітуацыя, часцей выпадае самая горшая, плата за якую — заўжды людское жыццё.

Трудна бывае на яе пагадзіцца, але і пошукі шляхоў у абход звычайна вядуць не толькі да агіднага канфлікту з сумленнем, але і здараецца, што кароткаю дарожкай у трыбунал. Камандзіра гэта датычыць куды ў большай меры, чымсьці байца, тут трэба быць вельмі строгім спярша ў адносінах да сябе, каб пасля патрабаваць таго ж ад падначаленых.

— Можна так, можна і гэтак! Га, таварыш Маркін? — раптам запытаў камбат.

Лейтэнант няўцямна міргнуў шырока раскрытымі вачмі.

— Што? Ды я нічога,— начштаба паціснуў плячмі,— Не мая справа. Вы камандзір батальёна, вам і дакладваць. Я прапанаваў проста.

— У кожным становішчы ёсць тры выхады,— зазначыў ад шытва Гутман.— Яшчэ Хаймовіч казаў...

— Памаўчыце, Гутман,— сур'ёзна сказаў Валошын.— Не майце такой звычкі.

— Вінават.

Камбат хвіліну змоўчаў, а пасля пацішэла запытаў, нібы між іншым:

— Вы, Маркін, у акружэнні доўга былі?

— Два месяцы васемнаццаць сутак. А што?

— Так проста. У сорак першым я таксама ўскочыў. Амаль на месяц...

— Ну дык вы ж з часцю выйшлі,— не ўтрымаўшыся, зноў уставіў Гутман.

Камбат паглядзеў у яго бок працяглым дакорлівым позіркам.

— Да, я з часцю,— сказаў ён пасля паўзы.— У гэтым мне пашанцавала. Хаця ад палка засталося сорак сем чалавек, але быў сцяг, быў сейф з партдакументамі. Гэта выручыла. Як выйшлі, разумеецца.

Маркін паклаў на скрынку аловак і шомпал, тузануў на плячо паўшубак. Вочы яго неспакойна бліснулі, ад нервовага ўзрушэння зардзеліся скулы.

— А у нас нічога не засталося. Ні сцяга, ні сейфа. Кучка байцоў, дзесятак камандзіраў. Палавіна параненыя. Кругом немцы. Камісар застрэліўся, камандзіра палка тыф даканаў. Сабралі нараду, рашылі: выхадзіць дробнымі групамі. Пайшлі, напароліся на немцаў. Тыдзень ганялі па лесе. Кару елі. Урэшце вырваліся дванаццаць чалавек. Глядзім, нешта дужа худыя тут франтавічкі. І курыць не маюць. Ядуць каніну. Слова за слова, аказваецца, дык і яны ж у акружэнні. Вось і трапілі з агню ды ў полымя. Яшчэ месяц прыпухалі.

— Гэта дзе?

— Пад Нелідавым, дзе ж. У дваццаць дзевятай арміі.

— Да, там невясёлыя былі справы. Якраз у канцы лета да нас прабіваліся. Забітага камандарма вынеслі, хавалі ў Калініне.

— Ну. Генерал-лейтэнант Багданаў. Геройскі мужык. А што ён мог зрабіць? У прарыў сам на кулямёты вёў і загінуў.

— Дваццаць дзевятай хапіла. Трыццаць дзевятай таксама.

— А трыццаць трэцяй? А коннікам Бялова ды Сакалова?

— Не шмат іх засталося,— пагадзіўся камбат.

— Няўдачнік я! — раптам проста сказаў Маркін, і Гутман з Чарнаручанкам насцярожана паднялі галовы, — Што перажыў, ворагу не пажадаю. У рэзерве сустракаю таварыша, разам выпускаліся. Два ордэны, шпала ў пятліцах. А я ўсё лейтэнант.

Камбат абапёрся на скрынку локцем і скоса паглядзеў на прыціхлых байцоў.

— Дарма вы так думаеце, Маркін. Да Берліна яшчэ даўгая дарожка.

— Ат! — махнуў рукой Маркін і зноў узяўся за шомпал. — Ці многа іх тут лінеіць? Ведаць бы хоць, колькі дадуць. А

то налінею ды залішне. Таварыш камбат,— узняў ён твар да Валошына.— З папаўнення трэба пісара падабраць. А то колькі можна?

— А вы вунь Гутмана абучылі б. Па сумясціцельству. Або Чарнаручанку.

Тэлефаніст з ніякаватай сарамлівасцю заварушыўся каля апарата, а Гутман амаль што пакрыўдзіўся.

— Ну, скажаце, таварыш камбат! Я работу люблю. А гэта...

Маркін павярнуў да яго амаль што гняўлівы твар.

— А гэта што — не работа? Вось пасядзі дзень над паперкамі, дык увесь свет з аўчынку пакажацца.

— Не люблю!

— Ну ведама ж, лепш па палях гойсаць. Трафейчыкі і так далей...

— Ладна, Гутман, канчай шытво. А то ўжо спіна акалела,— перапыніў іхнюю спрэчку камбат.

— А вы — мой кажушок.

— Не ўжо, дзякуй. У тваім кажушку, мабыць, таго... Дыверсанты бегаюць.

— Нямнога, таварыш камбат. Куды ж ад іх дзенешся? Ну вось і ўсё. Калі ласка.

— Давай, пабачым, які ты майстра.

Камбат узяў з ардынарцавых рук шынель і надзеў яго. Потым прывычнымі дакладнымі рухамі накінуў на плечы партупею, зашпіліў спражку, ссунуў на месца кабур.

— Ну што ж — дзякуй,— сказаў ён ардынарцу.— Чарнаручанка, выклікайце дзесятага «Волгі». Пагаворым з начальствам.

**2**

Пагаварыць з начальствам, аднак, не ўдалося.

Не паспеў тэлефаніст пакруціць ручку свайго жаўтаскурага амерыканскага апарата, як дзесь на паверхні з нарастаннем завыла, данеслася некалькі слабых «ках-ках-ках», і блізкія выбухі скаланулі зямлю. На салому і на печку са столі сыпанула жвірам, ліхтар на сцяне калыхнуўся, загойдаўшы гарбатыя цені. Маркін угнуў над паперамі галаву, Гутман схапіўся за аўтамат і паўшубак. Карбідны агеньчык у ліхтары яшчэ не супакоіўся, як заверашчала зноў і зноў ірванула. Ад серыі з не менш чым дзесяці выбухаў хадуном захадзіла зямлянка.

— Што за халера?!

Камбат сунуў за пазуху ўжо нарыхтаваную карту і адхінуў палатку на выхадзе. У начным цемрыве над пагоркам мільганулі туга напятыя агняныя ніці трас — адтуль, з вышыні, цераз іх галовы пад лес. Чэргі былі даўгія і, напэўна, буйнакаліберныя — «дуг-дуг-дуг» — данеслася з вышыні. Але кулямёт раптам змоўк, стала

ціха, у цёмным сцюдзёным небе дрымотна раіліся бліскучыя зоркі. Мяркуючы па ўсім, немцы штосьці падпільнавалі ў бліжнім тыле пад лесам. Гутман, стоячы ў траншэі, паспешліва падпярэзваў паўшубак, і камбат кіўнуў галавой.

— Ану, куляй! Туды і назад.

— Ёсць!

Ардынарац, абсыпаўшы зямлю, вылез з траншэі, яго боты пратупацелі ў цемры і сціхлі, а ён яшчэ пастаяў, услухоўваючыся ў невыразныя гукі навокал. Але паблізу зноў стала ціха, толькі недзе далёка за лесам слабым водбліскам пыхаў край неба ад далёкай артылерыйскай кананады.

— Гэта артылерысты — разявы! Заўжды яны па начах засвецяць,— са злой прыкрасцю зазначыў з зямлянкі Маркін.

Камбат не адказаў. Ззаду шорхнула палатка, шэрая пляма святла коса легла на бок траншэі, і з дзіркі паказалася галава Чарнаручанкі.

— Таварыш камбат! Дзесяты...

Ну вось, так і ведаў! Варта на хвіліну прамарудзіць з дакладам, як ён ужо выклікае сам. Камбат унутрана паморшчыўся, беручы з рукі тэлефаніста трубку, вялікім пальцам рашуча павярнуў клапан.

— Дваццаты «Бярозы» слухае.

— Пачаму не дакладваеце? Што там у вас за артпадрыхтоўка? Зноў не выконваеце правіл маскіроўкі?..

З першых жа слоў у трубцы было зразумела, што маёр ужо павячэраў і прыдбаў свой звычайны камандзірскі тон. Але каскад ягоных пытанняў, прызначаных ашаламіць, быў прывычны камбату, даўно ўжо не бянтэжыў і нават мала і злаваў. Што зробіш — Валошын ужо змірыўся з роляй нялюбага падначаленага, цярпеў,

калі-нікалі агрызаючыся. Праўда, было горш, што часам іхнія ўзаемаадносіны адбіваліся на батальёне, хоць тут ужо ён быў бяссільны што-небудзь змяніць. Камбат па магчымасці цярпліва выслухаў усё і не спяшаўся апраўдвацца — бавіў час, чакаючы, калі з'явіцца Гутман.

— Алё! Вы што маўчыце? Ці вы заснулі там? — ракатала ў трубцы. І тады камбат дазволіў сабе трошкі іроніі, на якую маёр Гунько звычайна рэагаваў у поўным сур'ёзе.

— Стараюся прывесці ў сістэму вашы пытанні.

— Што? Якая сістэма? Вы мне не мудрыце, вы адказвайце.

— На столькі пытанняў не адразу адкажаш.

— Дрэнны той камандзір, які не ўмее як след далажыць начальніку. Трэба на хаду хапаць. Начальства з паўслова разумець трэба.

— Дзякую.

— Што?

— Кажу, дзякую за параду. І дакладваю абстаноўку,— рашуча перабіў яго Валошын, каб разам скончыць апрыклыя настаўленні, якія пагражалі зацягнуцца на няпэўны час.— Праціўнік прадаўжае ўмацоўваць вышыню «Вялікую». Візуальна адзначаны земляныя работы з выкарыстаннем доўгатэрміновага пакрыцця — бярвення. Таксама прадаўжаецца...

— А вы перашкодзілі? Ці, можа, саізволілі спакойна глядзець, як фрыцы траншэі размячаюць?

— Траншэі, на жаль, яны растрасіравалі ўначы,— не зважаючы на маёраву з'едлівасць, спакойна дакладваў камбат.— Да ранку ўсё было выкапана ў поўны профіль. Кулямётны агонь быў малаэфектыўны з прычыны куленепрабівальнасці ўкрыццяў. Іншыя сродкі ўздзеяння адсутнічаюць. У Іванова «гуркоў» усяго дзесяць штук. Я ўжо аб тым вам дакладваў.

— Чуў. А хто ў вас дражніць немцаў? Што за расхлябанасць такая ў гаспадарцы? Мусіць, кастры паляць? Ці з бліндажоў іскры шугаюць снапамі. У вас гэта заведзена.

— У мяне гэта не заведзена. Вы блытаеце мяне з кімсьці другім...

Гэта была ўжо дзёрзкасць з боку падначаленага, маёр на некалькі секунд змоўк, а затым трохі інакшым, чым раней, тонам зазначыў:

— Вось што, капітан. Не табе папраўляць, калі і зблытаў. Малады яшчэ.

Але, здаецца, знікала трыванне і ў Валошына.

— Дык вось, папрашу не блытаць. Хоць і малады, але вашы знявагі слухаць не маю намеру. Да таго ж папрашу на «вы».

— Што?

— Папрашу называць на «вы».

Камбату вельмі хацелася шпурнуць у кут гэтую трубку і болей не браць яе, бо ўся размова была па сутнасці бязмозглымі прыдзіркамі, калі адзін бок дазваляў сабе ўсё, што хацеў, а другі павінен быў апраўдвацца, ды яшчэ прытрымліваючыся субардынацыі. Але варта было камбату перашагнуць цераз гэтае пачуццё падначаленасці і прыняць прапанаваны тон, як голас на тым канцы провада пацішэў, пракашляўся, і камандзір палка, здаецца, ужо і сам быў гатовы пакрыўдзіцца.

— Ужо і ў пузыр! Падумаеш, на «ты»! Назваў, бо маю права. Вы маладзейшы. А на старшых у арміі не крыўдзяцца. У старшых вучацца. Дарэчы, ледзь не забыў,— раптам змяніў тон Гунько,— Чырвонага Сцяга палучыш. Загад прыйшоў. Так што віншую.

«Успомніў!» — са злосцю падумаў Валошын і не адказаў на гэтае спазнелае і сапсаванае віншаванне. Незанятай рукой ён узяў з пальцаў тэлефаніста недакурак, зубамі

адарваў заслюнены канец. Аднак не паспеў ён зацягнуцца, як побач, коратка рыкнуўшы, ускочыў на ногі Джым. Блізка ў траншэі пачуўся тупат, шорхат палатак, чуваць было, нехта саскочыў з бруствера. Чарнаручанка кінуўся на выхад, але адразу адхіснуўся ўбок і прыціснуўся да сцяны зямлянкі.

— Куды тут?

— Прама, прама,— пачуўся здаля голас Гутмана.

— Асцярожна, прыступкі.

— Бачу.

У дол каля печкі ўдарыў пук святла ад ліхтарыка, які затым здрыгануўся пад нечымі нагамі, і, адхінуўшы палатку, у зямлянку ўваліўся грузны чалавек у цёплай, з каракулевым каўняром, бекешы.

Джым ля камбата зноў рыкнуў і рвануўся наперад, Валошын у апошняе імгненне ледзьве паспеў ухапіць яго за касматы загрывак. Сабака апантана ўзвіўся на заднія лапы перад чалавекам, які спалохана хіснуўся назад і раздражнёна вылаяўся.

— Што тут за псарня?

— Джым, ляжаць! — строга скамандаваў Валошын. Сабака неахвотна адступіў і стаў побач, а чалавек зрабіў крок да святла.

У дзверы тым часам лезлі і яшчэ, зямлянка зрабілася цеснай і сцюдзёнай, але Валошын упіўся вачмі ў гэтага першага, які выглядаў нечым усхваляваным і рукой трымаўся за галаву без шапкі. Спачатку камбату здалося, што ён адцірае азяблае вуха, але чалавек, нібы безуважны да ўсіх тут, у зямлянцы, адняўшы руку ад галавы, уважліва паглядзеў на далонь. На ёй была кроў. Тут жа да яго падступіўся другі ў паўшубку, з тонкай планшэткай на баку. Пры святле з ліхтара ён пачаў выціраць скрываўленую шчаку чалавека, на шырокім пагоне якога раптам цьмяна бліснула вялікая генеральская зорка.

Валошын стаяў збоку, разумеючы ўжо, што гэта начальства і што неадкладна трэба дакладваць. Але час для таго быў упушчаны, цяпер было нязручна падступіцца да яго, камбат прамарудзіў і з прыкрым адчуваннем няёмкасці зрабіў крок да генерала.

— Таварыш генерал...

— А цішэй нельга?

Генерал на паўабарота павярнуў да яго незадаволены, немалады ўжо твар з сіваватым пучком кароткіх вусоў пад носам. Секунду яны моўчкі стаялі так, адзін перад адным, абодва вялікія і плячыстыя.

— Чаго крычаць? Мы ж не на пляцу.

Валошын яшчэ памарудзіў, падумаўшы, што, мабыць, сказваецца блізкасць перадавой. Але ён усё ж скончыў даклад, хоць і цішай, і генерал, пераставіўшы на скрынцы ліхтар, сеў на яе, не адрываючы рукі ад скроні, на якой, відаць, крывяніла рана. Той, другі, у паўшубку, што выціраў яму шчаку, павярнуўся да Маркіна.

— Медпункт далёка?

— Праз чатырыста метраў. У аўражку.

— Пашліце за доктарам.

— Доктара няма. Ваенфельчар, таварыш маёр.

— Не мае значэння. Пашліце за фельчарам. Валошын кіўнуў ардынарцу.

— Гутман!

— Ёсць.

Ардынарац выскачыў у траншэю, і ў зямлянцы запанавала няёмкая працяглая цішыня. Начальства маўчала; зважліва ўтаропіўшыся ў яго, па абодва бакі замерлі Валошын і Маркін. У парозе ля печкі грэў рукі нейкі плячысты баец у бушлаце. Маёр пашукаў вачмі

месца, каб сесці, і ўбачыў Джыма, насцярожаныя вушы якога тырчэлі з ценю.

— Аўчарка?

— Аўчарка,— стрымана сказаў Валошын і крыху адступіў убок.

Генерал, грузна павярнуўшыся на скрынках, з цікавасцю паглядзеў на сабаку.

— О, звяруга! Як зваць?

— Джым, таварыш генерал.

Генерал стрымана паляпаў далонню па пале бекешы.

— Джым, Джым! Ка мне!

Але Джым толькі варухнуў вушамі і завурчаў нядобразычліва і пагрозліва.

— Не пойдзе,— сказаў Валошын.

— Ну гэта мы яшчэ паглядзім,— зазначыў генерал і зірнуў на камбата.— Даўно камандуеце батальёнам?

— Сем месяцаў, таварыш генерал.

— А раней чым камандавалі?

— Ротай у гэтым жа батальёне.

— Чакайце, як вы сказалі ваша прозвішча?

— Валошын.

— Гэта не ваша рота захапіла пераправу ў Клепіках?

— Мая, таварыш генерал.

Валошын чакаў, што генерал пахваліць або запытае пра гэты яго даўні, даволі вядомы ў дывізіі подзвіг, за які ён некалі атрымаў першы свой ордэн. Але генерал не пахваліў, а запытаў аб іншым:

— Дзе пярэдні край вашага батальёна?

— На паўднёва-заходніх схілах, уздоўж балота.

— Пакажыце на карце.

Валошын дастаў з-за пазухі пацёрты гармонік карты і разгарнуў яго перад генералам. Ён ужо здагадваўся, што было прычынай нядаўняй нямецкай страляніны, і думаў, што ў такім разе генералу яшчэ пашэнціла. Магло быць горш. Але навошта яму спатрэбілася так блізка пад'язджаць да перадавой — гэта пакуль што заставалася для камбата загадкай.

— Вось. Пярэдняя траншэя па прамежкавай гарызанталі над самым балотам.

Пры цьмяным святле ліхтара генерал стаў моўчкі разбірацца ў карце, адставіўшы яе наводдаль, як пры дальназоркасці. Да яго падсунуўся маёр, які трохі паўзіраўся і аб'явіў з упэўненасцю:

— Ну, я ж дакладваў. Іменна так: вышыня шэсцьдзесят пяць ноль.

— Гм... Да. Вышыня шэсцьдзесят пяць ноль. Дык што ж, выходзіць, яна — у праціўніка?

Генерал падняў на камбата цяжкі з яўным папрокам позірк.

— У праціўніка,— проста сказаў Валошын.

— Пачаму вы яе не ўзялі?

— Не было загадана, таварыш генерал.

— Ось як! — сказаў генерал з недаверам і пасля паўзы загадаў: — Выклічце сюды камандзіра палка. Валошын павярнуўся да тэлефаніста.

— Чарнаручанка, выклікайце «Волгу». Маёр тым часам дастаў з кішэні пачак «Казбеку», працяг яго генералу, які аднае рукой узяў папяросу і прыкурыў ад услужліва

паднесенай запальніцы. Пасля прыкурыў маёр. У зямлянцы расцёкся духмяны, чужы сярод звычайнага яе дымнага смуроду пах, і Валошын падумаў, што, здаецца, будзе скандал. Ён па-ранейшаму стаяў збоч ад генерала ў напружана-насцярожанай позе, у якой, аднак, адчувалася і пэўная незалежнасць чалавека, упэўненага ў сваёй сумленнасці. Хоць перспектыва, мяркуючы па ўсім, акрэслівалася для яго не дужа зайздросная.

Чарнаручанка сціпла перадаў на «Волгу» генералаў выклік, і яны ўсе зноў змоўклі, як пры нябожчыку. У гэтай насцярожанай цішыні прывычна зашорхала палатка, і з прыступкі лёгка саскочыла Вераценнікава, санітарны інструктар сёмай стралковай роты. За ёю ўлез Гутман. Валошын змрочна насупіў бровы і ціха сам сабе вылаяўся — Вераценнікава суткі назад павінна была адбыць з батальёна. Ён ужо атрымаў за яе вымову ад камандзіра палка, і цяпер вось напэўна давядзецца атрымаць і другую. Вераценнікава тым часам хуценька акінула позіркам незнаёмыя постаці ў зямлянцы і, ускінуўшы да шапкі руку, упэўнена ступіла да генерала.

— Таварыш генерал, малодшы сяржант Вераценнікава прыбыла аказаць першую дапамогу пры агнястрэльным раненні.

Мусіць, не кожны старшына роты змог бы далажыць так хлёстка і ўпэўнена, як гэта дзяўчына ў яўна шыракаватым для яе салдацкім шынялі. Насуплены генералаў твар увачавідкі праясніўся.

— Харашо, дачка. Паглядзі, што тут мне фрыцы нарабілі.

Вераценнікава, аднак, не кратаючыся з месца, зноў дзеў-

банула рукою ў край сваёй шапкі.

— І дазвольце звярнуцца па асабістаму пытанню, таварыш генерал.

Генерал здзіўлена прыўзняў галаву, але перш чым ён што-небудзь адказаў, Вераценнікава выпаліла:

— Загадайце камбату пакінуць мяне ў батальёне.

Прыкметна здзіўлены, генерал выслухаў яе, пасля спа-

дылба зірнуў на камбата. Валошын падцяў вусны, ледзьве стрымліваючы абурэнне на санінструктара за яе гэткую бесцырымонную нават для гэтай дзяўчыны выхадку.

— А што, ён вас адсюль праганяе? — холадна запытаў генерал.

— Праганяе ў тыл.

— Такі загад па палку,— вытлумачыў Валошын.— Санінструктар Вераценнікава камісавана як непрыгодная да страявой службы. А вы, таварыш малодшы сяржант, павінны ведаць, як у арміі звяртаюцца да старшых начальнікаў! — строга дадаў ён, звяртаючыся да падначаленай.

Вераценнікава, аднак, зусім безуважная да камбатавых слоў, па-ранейшаму трымаючы рукі па швах, чакала адказу. Генерал ледзьве прыкметна павёў плячом.

— Я не магу гэтага вырашыць. Звяртайцеся да вашага непасрэднага начальніка.

Дзяўчына крыўдліва прыкусіла губу і рэзкім, амаль дэманстратыўным рухам саўганула наперад санітарную сумку. Генерал павярнуўся параненым бокам да святла, Вераценнікава зірнула на яго скроню.

— Трэба абстрыгчы.

— Усяго? — здзівіўся генерал з ноткамі гумару ў голасе.

Вераценнікава, аднак, яго гумар пакінула без увагі.

— Вакол раны.

— Ну што ж, стрыжы. Калі маеш чым.

— Знойдзецца.

Яна выняла з сумкі нажніцы і даволі спрактыкавана абстрыгла сіваватыя ўжо валасы каля вуха. Генерал моршчыўся, але цярпліва чакаў. Затым дзяўчына дастала скрутак бінта, і яе маленькія рукі ў падкасаных рукавах шыняля пачалі спрытна снаваць складаную схему галаўной павязкі. Некалькі разоў абвіўшы бінтам галаву, яна прапусціла яго пад сківіцу. Генералу гэта раптам не спадабалася.

— Адсюль убяры. Шыя ў мяне здаровая.

— Так трэба,— сказала Вараценнікава.— Паводле настаўлення.

Генерал рэзка павярнуўся да яе ўсім сваім цяжкім тулавам.

— Якое настаўленне? Мне кіраваць войскам, а вы з мяне пудзіла робіце.

— Інакш павязка не будзе трымацца.

— Тады ты не ўмееш перавязваць!

— Умею. Не вас першага.

— Сумняваюся.

— Дык перавязвайце самі!

Кароткім дакладным рыўком яна раптам абарвала бінт, і не паспелі яшчэ прысутныя ў зямлянцы што-колечы зразумець, як шорхнула палатка і Вераценнікава знікла ў траншэі.

— Што за самавольства?! — сказаў генерал амаль разгублена.

Ля яго вуха віселі доўгі і кароткі незавязаныя канцы бінта. Генералаў маёр ускочыў з саломы і пагрозліва сігануў да выхаду.

— Таварыш сяржант! Ану, вярніцеся!

— Не вернецца,— ціха зазначыў у куце Гутман, і Валошын, які ледзьве стрымліваў у сабе прыкрасць, выразна паглядзеў на яго. Але маёр ужо звяртаўся да камандзіра батальёна:

— Як гэта не вернецца? Камбат!!!

Гэта быў загад, Валошын павінён быў нешта зрабіць, каб выканаць волю начальства, і хоць сам быў амаль упэўнены, што Вераценнікава не вернецца, рашуча накіраваўся з зямлянкі.

— Малодшы сяржант Вераценнікава!

Ноч ударыла ў вочы маўкліваю цемрай і сцюжай, вецер круціў над траншэяй дым з трубы. Валошын прыслухаўся: паблізу не чутно было ніводнага гуку.

— Вераценнікава!

Яна не азвалася, і ён, душачы ў сабе злосць, пастаяў яшчэ некалькі хвілін у глухой сцюдзёнай цемры. Гэта было чорт ведае што, не хапала яшчэ яму, камандзіру батальёна, бегаць за гэтым свавольным дзяўчом. Сорам, ды і толькі. Але харош і ротны — лейтэнант Самохін, якому ён учора асабіста загадаў адправіць сан-інструктара ў распараджэнне начсанслужбы дывізіі. Самохін тады сказаў «ёсць», а цяпер вось гэтае з'яўленне перад генералам...

## 3

Вярнуўшыся ў зямлянку, Валошын, знарок ні да каго не звяртаючыся, кінуў «не дагнаў», і генерал амаль абурэннем паглядзеў на яго. Камбат чакаў папрокаў, крыку і, мусіць, стрываў бы іх моўчкі, бо ведаў, што быў вінаваты, але там, дзе справа датычылася ваенных дзяўчат, ён адчуваў сябе бездапаможным. Уся яго выхаваная гадамі вайсковай службы логіка падначалення заходзіла ў тупік, калі ён сутыкаўся з самым банальным дзявочым капрызам. Зрэшты, як і многія камандзіры, Валошын лічыў, што армія і жанчына несумяшчальныя, што гэта проста

непаразуменне — жанчына на вайне.

Але, генерал на гэты раз толькі стомлена ўздыхнуў і змоўк, тоячы на суровым твары да пары стрыманы гнеў. Маёр як-колечы завязаў на ягонай галаве канцы бінта і сеў на саломе. Валошын стаў на ранейшае месца. Зноў настала няёмкая, скутая прысутнасцю начальства цішыня, якую, на шчасце, неўзабаве парушылі гукі наверсе. То быў конскі тупат, затым кароткі і гучнейшы, чым звычайна, вокрык вартавога на НП. Валошын з палёгкай уздыхнуў — прыехаў камандзір палка.

Маёр Гунько рашуча саскочыў у зямлянку, хуценька зыркнуўшы вачмі па постацях прысутных, лёгка вылучыў між іх генерала і коратка прадставіўся. Генерал, аднак, сядзеў як скамянелы, нядобра гледзячы ў парог, і Гунько пераступіў з нагі на нагу. Чуваць было, як зашуршала яго накінутая паверх шыняля плашч-палатка і тоненька звенькнула шпора на боце.

— Вы што, камандзір кавалерыйскага палка? — тонам, які не абяцаў дабра, запытаў генерал.

— Ніяк не! Стралковага, таварыш генерал.

— А на якога ж чорта тады ў вас шпоры?

Маёр збянтэжана варухнуўся ледзь-ледзь адным толькі плячом і зноў знерухомеў, не адрываючы позірку ад генерала. А той раптам энергічна ўскочыў са скрынак — шырокі цень ад яго накрыў палову зямлянкі.

— Вы б лепш парадак навялі ў палку! Менш бы дбалі пра свой кавалерыйскі выгляд!

Відаць, яшчэ мала што разумеючы, маёр стаяў «смірна» і яснымі нявіннымі вачмі глядзеў у раззлаваны твар генерала. Той пасля паўзы злосна зірнуў на байцоў, што стоўпіліся ля печкі.

— Ану, пакурыце там!

Гутман, Чарнаручанка, баец у бушлаце і разведчык

паслухмяна вылезлі ў траншэю. У зямлянцы стала прасторней — генерал адступіў убок, і агеньчык у ліхтары цьмяна асвятліў не малады ўжо, пакутна напружаны твар камандзіра палка.

— Якая ў вас пазіцыя? Дзе вы заселі? У балоце! А немцы на вышынях. Вы што думаеце, яны вам адтуль будуць букеты кідаць? Насовачкамі махаць?

— Я так не думаю, таварыш генерал,— запалым голасам уставіў Гунько.

Генерал з робленым прастадушшам здзівіўся:

— Ах, вы не думаеце? Вы ўжо зразумелі? А вы ведаеце, што ўсе пад'езды да вас прастрэльваюцца кулямётным агнём? Вось палюбуйцеся! — генерал ткнуў пальцам у свой абвязаны бінтам лоб,— Ледзь да архангела Гаўрыіла не адправілі. А «віліс» коламі ўгору ляжыць. Новы вы мне дасце?

— Вінават!

— Што?

— Вінават, таварыш генерал.

Валошын ледзь прыкметна ўсміхнуўся — ужо і вінават! У чым тут ягоная віна, цяжка было нават уявіць, не толькі ў ёй прызнацца. Хутчэй, мусіць, вінаваты генералаў шафёр, які, пэўна, не сумеў праехаць у цемры ды засвяціў фары, і ніхто болей. Але маёр Гунько, відаць, дапяты такой вымовай высокага начальства, гатовы быў прыняць на сваю галаву ўсе папрокі, абы якнебудзь змякчыць генеральскі гнеў. І, мабыць, ён меў рацыю, бо генерал неяк нечакана вычарпаў свой запал і падышоў да печкі, якая без догляду амаль што патухла. Няўмела адчыніўшы дзверцы, ён прысеў і пачаў грэбаць у доле рукой — збіраць суччо. У зямлянку патхнула дымам.

— І вось ён таксама вінават! — Генерал павярнуў галаву да Валошына.— Ён павінен быў узяць вышыню. А не сядзець у балоце.

— Так точна, таварыш генерал!

Гунько раптам нібы страпянуўся і хуценька павярнуўся да Валошына, пакутлівы выраз на ягоным твары стаў меншаць, саступаючы месца саманадзейна-патрабавальнаму. Валошын недаўменна паціснуў плячыма.

— Мне не было загадана яе браць.

Генерал устаў ад печкі, за хвораст услужліва ўзяўся ягоны маёр. У печцы загуло, затрашчала, усе яе разгарэлыя шчыліны ярка засвяціліся полымем.

— Во ён ужо другі раз апраўдвае сваю бяздзейнасць адсутнасцю загаду. Па плану камандуючага вышыня ў вашай паласе?

Генерал стаў перад камандзірам палка, які таропка схапіўся за сваю палявую сумку.

— Так точна. Для мяне ўключна.

Трохі паспешлівей, чым трэба было, ён дастаў з сумкі абмусолены аркуш карты, і яны абодва схіліліся над ёй пад ліхтаром. Валошын адчуваў, што тут нешта наблытана, але маўчаў, з пакорнай абыякавасцю чакаючы, што будзе далей. Раптам генерал вылаяўся.

— Дзе ж там уключна? На карце ж у вас выключна. Вы бачыце?

— Так точна — выключна,— з гатоўнасцю пацвердзіў Гунько.

— Дык што ж вы блытаеце? Ці вы не разумееце знака?

— Разумею, таварыш генерал.

— Разгільдзяі! Занадта пра сябе турбуецеся! — пасля паўзы злосна аб'явіў генерал і з пакутаю на твары прыклаў далонь да павязкі.

Валошын звузіў цёмныя вочы. Стрыманасць, якая не

пакідала яго за ўвесь час гэтае гутаркі, урэшце пачала здраджваць камбату.

— Спадзяюся, таварыш генерал, да мяне гэта не адносіцца?

Генерал зрабіў крок да парога і спыніўся.

— Адносіцца! Адносіцца і да вас! Вось мы разбяромся — будзеце заўтра браць вышыню штурмам! А то распалажыліся, печкі-лавачкі вам!..

Валошын моўчкі сам сабе вылаяўся: вось табе і на — дачакаліся! Ён адчуваў, што гэтыя генеральскія словы — не пустая пагроза, што вельмі нават магчыма — загадаюць і прыйдзецца штурмаваць, асабліва яшчэ, калі ў справу ўмяшаўся такі высокі начальнік. Але ж столькі патрачана часу! Там, мабыць, ужо пакапаны ўсе траншэі, пазакладзены мінныя палі, заняты ўсе пазіцыі, і цяпер — наступаць! Дзе ж вы былі на суткі-двое раней, таварыш разумны генерал? — думаў камандзір батальёна. Губляючы рэшткі свае вытрымкі, ён ступіў наперад і як мог спакайней сказаў:

— Мяркуючы па ўсім, вышыня шэсцьдзесят пяць ноль уключна для паласы суседняй арміі.

Генерал спыніўся, з вышыні свайго немалога росту ва ўпор уставіўся ў камбата звужанымі калючымі вачмі. Ягоны лоб пад высока надзетай папахай рэзка бялеў у прыцемку свежым бінтам. Валошын амаль з выклікам, не міргнуўшы, вытрымаў гэты позірк.

— Іш які разумны! Знае: суседняй арміі. А вось я наразаю яе вам... А то — суседняй! Вы знаеце, дзе суседняя армія? У чорта на кулічках суседняя армія. Жукаўку яшчэ не ўзяла.

— Тым больш — нельга вырывацца. Адкрыты фланг.

— Бачу, вы занадта граматны! За флангі непакоіцеся. А вы б болей за фронт дбалі! За фронт! За флангі паклапоцяцца каму трэба.

— Я непакоюся за батальён, якім камандую. А ў батальёне і так семдзесят шэсць чалавек на давольстве.

Генерал змоўчаў, засунуўшы рукі ў кішэні бекешы, пратупаў да печкі і назад да скрынак і спыніўся там, гледзячы ў агонь ліхтара. Маёр Гунько, не саступаючы са свайго месца пасярод зямлянкі, кожны раз рупна паварочваўся да яго тварам.

— Камандзір палка, вы папаўненне атрымлівалі?

— Так точна. Сёння ў канцы дня.

— Папоўніце ягоны батальён.

— Будзе зроблена.

— Мне трэба яшчэ камандзіры,— сказаў Валошын. Ягоная зважлівая пачцівасць перад генералам раптам уся знікла, выцесненая з пачуцця непакоем перад новай, нечаканай задачай, і цяпер камбат гатовы быў выкласці як мага болей патрэб свайго батальёна.— У мяне толькі адзін штатны камандзір роты. Не хапае дванаццаць камандзіраў узводаў, трох зампалітаў рот. У мяне самога няма намесніка па палітчасці — выбыў у шпіталь. А артпадтрымка? Батарэя сядзіць без снарадаў.

Наступіла маўчанне. Камандзір палка пакорна глядзеў на генерала, а ў таго ўсё ніжай на вочы асаджваліся яго калматыя бровы.

Недзе на паверхні зноў забухалі выбухі, але гэта было далей, чым папярэдні раз. Генерал насцярожана ўслухаўся і, калі выбухі парадзелі, павярнуўся да Гунько.

— Вы на кані?

— Так точна.

— З канаводам? Аднаго каня дасце мне. Паедзем у штаб.

Маёр Гунько раптам нібы скінуў з сябе ранейшую ску-

тасць школьніка перад строгім дырэктарам.

— Калі ласка, таварыш генерал. А ваш ад'ютант, калі ўгодна, можа пачакаць, я прышлю каня. Гэта хутка.

— Нашто чакаць? — сказаў маёр-ад'ютант.— Мы пешкі. Канавод правядзе.

— Можна і так,— згаворліва пагадзіўся Гунько, і ў Валошына неяк зусім не ў лад з ягоным настроем з'едліва мільганула ў галаве: «Якая ветлівасць».

Гэтую ветлую ўгодлівасць свайго начальніка камбат назіраў упершыню, нават не падазраючы, што ўладарны маёр можа быць здольны на такую пачцівасць. Адкрыць гэта ў знаёмым чалавеку ўвогуле было цікава, але цяпер Валошын, узрушаны ўсім, што яму рыхтавалася, грубавата запытаў Гунько:

— Дык мне што — рыхтавацца да атакі?

Камандзір палка наморшчыў лоб, павярнуўся да яго, затым да генерала. Генерал старанна нацягваў пальчаткі.

— Вось разбярэмся, і атрымаеце загад.

Валошын узяў са скрынкі гадзіннік.

— Ужо амаль дваццаць дзве гадзіны, таварыш генерал. У выпадку чаго калі ж мне рыхтаваць батальён?

Генерал ступіў да выхаду і, стаўшы да яго бокам, сказаў са здзекам:

— Іш занепакоіўся! Раней трэба было непакоіцца, таварыш камбат.

— Раней батальён меў іншую задачу.

— Наступаць — вось ваша задача,— павысіў голас генерал.— Запомніце раз назаўсёды. Пакуль вораг не выгнаны за межы нашай свяшчэннай зямлі —

наступаць! Не даваць яму спакою ні ўдзень ні ўначы. Забылі, чые гэта словы? Напомніць?

Валошын маўчаў. Супраць гэтых слоў у яго не было і не магло быць пярэчання, тут генерал яго проста прыпёр да сцяны. Гэта было куды як пакутна — стаяць так пад строгім начальніцкім поглядам, апусціўшы рукі па швах, і адчуваць, як генерал, смакуючы над ім перамогу, пагардліва свідруе яго злым бязлітасным позіркам. Так, ён перамог незгаворлівага камбата і з вышыні свае начальніцкай уладарнасці хвіліну парадаваўся ў душы. Затым выцяг руку да палаткі, каб выйсці, як раптам спыніўся, нешта прыпомніўшы.

— За адсутнасць дысцыпліны ў батальёне і гэтыя выбрыкі сан-інструктара аб'яўляю вымову, камбат. Вы чуеце?

— Ёсць! — сказаў Валошын і сцяў пашчэнкі.

— Вось так! Атрымаеце ў загадзе па арміі.

Сярод цішыні, якая настала ў зямлянцы, генерал яшчэ раз працяў уладарным позіркам камандзіра батальёна, і раптам нібы незнарок гэты яго позірк упаў на Джыма.

— А сабачку вашага мы забярэм. Для чаго ён вам? Крохалеў!

Палатка на выхадзе адхінулася, і ў зямлянку ўлез баец у бушлаце.

— Вазьміце пса.

Не вельмі рашуча баец зрабіў крок наперад і з працягнутай рукой засцярожліва схіліўся да Джыма. Але сабака пагрозліва настырчыўся і гыркнуў з такой лютасцю, што Крохалеў спалохана адхіснуўся

«Ага, чорта ён вам дасца! — зласліва падумаў Валошын. — Бярыце!»

Генерал, які ўжо памкнуўся было выходзіць, спыніўся.

— Што, не ідзе? Камбат, ану, дайце свайго чалавека. Валошын сціскаў сківіцы, амаль з роспаччу адчуваючы сваю бездапаможнасць. Генерал стаяў, але ў камбата не хапала рашучасці на такую ганебную ў дачыненні да сабакі здраду.

Паўза зацягвалася, генерал чакаў, і Гунько, роблена задрыжаўшы ад абурэння, ступіў да камбата.

— Вы чулі загад? Дзе вашы байцы? Ану там, у траншэі, жыва!..

У зямлянку ўваліўся Чарнаручанка і запытальна ўтаропіўся ў камандзіра палка. За ягонай спіной з-за палаткі выглядваў Гутман.

— Бярыце сабаку! Жыва!

Адчуваючы, што Джыма ўжо не ўратаваць, Валошын ледзяным голасам загадаў ардынарцу:

— Гутман, вазьміце Джыма.

— Куды? Гэта наш Джым. Куды яго браць?

— Спыніце размовы. Выконвайце загад.

Абяззброены няўмольнасцю камбата, ардынарац амаль збянтэжана паціснуў плячыма.

— Гм. Мне што? Я выканаю. Джым — ка мне!

Сабака даверліва падаўся да Гутмана, і той узяў яго за ашыйнік. Джым не супраціўляўся, толькі недаўменна-спакойнымі вачмі паглядзеў на камбата. Валошын адвёў позірк, каб не выдаць сваіх пачуццяў. Але што разумеў сабака?

— Вось так,— сказаў генерал.— Праводзіце да штаба, таварыш баец.

Ён уключыў ліхтарык, і ўсе яны адзін за адным вылезлі ў траншэю.

У зямлянцы стала пуста і холадна. Чарнаручанка ўзяўся

шураваць у печцы. Лейтэнант Маркін неяк нячутна вылез з кута і сеў на сваё месца ля скрынак.

Валошын вылаяўся і, ірвануўшы палатку, выйшаў у траншэю.

**4**

Чорт бы іх узяў, гэтыя патарчакі ды вывараціны, якіх у такой цемрадзі ні згледзець, ні абысці. Калі ўжо дзе і ёсць які корч, дык ноччу абавязкова налезеш на яго. Валошын устаў, пацёр збітае калена, услухаўся — не, здаецца, яго яшчэ не аклікалі, хоць недзе паблізу павінны пачынацца ячэйкі сёмае роты. Амаль вобмацкам ён прайшоў яшчэ, мабыць, з хвіліну. Боты хрустка ламалі леташні змерзлы быльнёг на ўзмежку, нейкае нябачнае калючае суччо ў доле чаплялася за халявы, полы шыняля, вецер надакучліва сцёбаў па твары незавязанымі матузамі шапкі. Наперадзе на краі небасхілу вялізным пакатым горбам чарнела злашчасная вышыня, лёс якой вырашаўся цяпер у штабе. У начным цемрыве яна здавалася зусім побач цераз балотца, што невыразна шарэла ў змроку старым брудным лёдам, і Валошын з затоенай цікаўнасцю ўгледзеўся ў яе зблізку.

Не, маскіраваліся яны адмыслова, не тое што ў сорак першым, калі амаль адкрыта хадзілі ў трусах на перадавой і гулялі ў валейбол на агнявых пазіцыях. Цяпер за ўсю ноч не пачуеш ніводнага гуку — стаіліся, закапаліся ў зямлю і робяць сваю справу ціха і тайна. Але колькі іх там, што гэта за часць, якая яе задача, дзе агнявыя сродкі? — усё гэта былі спрэс загадкі, не адгадаўшы якіх, цяжка было разлічваць на ўдачу ў заўтрашняй атацы. Асабліва з такімі сіламі. Семдзесят шэсць чалавек, па сутнасці няпоўная стралковая рота, без артпадтрымкі, без сапёраў, без танкаў на даволі ўжо ўмацаваную вышыню. Калі яшчэ і не арганізаваць як след, дык і вышыні не возьмеш і людзей пагубіш. Усіх, без астатку.

— Стой, хто ідзе? — нягучна пачулася ў цемры.

Валошын крыху павярнуўся на голас, не спяшаючыся,

аднак, з адказам. Наперадзе ў змрочным доле ясніўся глеісты пагорачак бруствера, за ім цямнела ямка акопчыка, у якой варухнулася нешта жывое. Баец болей не аклікаў — мабыць, яшчэ зводдаль па хадзе пазнаў камбата. Увогуле гэта быў непарадак, але Валошын не злаваў, ён прывык ужо, што яго ведалі ў батальёне і пазнавалі ўсюды пры першым жа гуку ягоных крокаў і першым слове яго каманды. Гэтак жа моўчкі камбат узышоў на бруствер.

Баец з паднятым каўняром шыняля і ў касцы зверху на шапцы зябка знерухомеў у акопчыку.

— Дзе камандзір роты?

— Далей, таварыш камбат. Там кусцікі ёсць, дык ён каля кусцікаў.

— Як немец?

— Маўчыць, таварыш камбат,— асіплым ад сцюжы голасам адказваў баец.

Валошын угледзеўся пільней — не, то быў незнаёмы, мусіць, нехта з пазнейшага папаўнення,— худзенькі азяблы хлопец з вострым падбародкам пад каскай. Старых стралкоў сёмай ён ведаў усіх яшчэ з таго часу, як сам камандаваў гэтаю ротай. Але засталося іх нямнога.

— Ваша як прозвішча?

— Маё? — ціха перапытаў баец.— Радавы Тарасікаў.

— Адкуль родам?

— Я? Саратаўскі,— адказаў ён і прыціх, мабыць, чакаючы новых у гэтым жа сэнсе пытанняў.

Валошына, аднак, цікавіла іншае:

— Машын там не чутна было? Не гудзелі?

— Машын? Не, не чуў. Звечара неяк рыдлёўкамі блізка бразгалі. Вунь там, ля равочка,— баец старанна паказаў у цемру,— Пэўна, дзот ладзяць.

Дзот, гэта вядома, без дзотаў яны не абыдуцца. Але куды горш, калі, збудаваўшы дзоты, яшчэ і замініруюць схілы. Тады заўтра не мінуць бяды, будзе нечакана, не дай бог. Валошын паўзіраўся па-над акопчыкам, паслухаў, але ноч была надта ўжо глухая і цёмная. З вышыні ад вечара, мабыць, не ўзляцела ніводнай ракеты, і адно гэта наводзіла на некаторыя падазрэнні.

— Ну што ж, Тарасікаў. Назірайце.

— Ёсць! — па-начному сцішана, з гатоўнасцю адказаў баец і ўжо іншым тонам, як да знаёмага, запытаў: — А дзе гэта Джым ваш, таварыш капітан? Не бяжыць нешта.

— Няма Джыма,— суха адказаў камбат і нетаропка пайшоў далей.

Джыма, вядома, ужо не вярнуць, калі трапіў да такога начальніка, дык назад не адбярэш. Увогуле для сабакі гэта, можа, і лепш, у генерала ягоны лёс, напэўна, будзе шчаслівейшы, чым на перадавой. І тым не менш шчымлівы жаль варухнуўся ў пачуццях камбата — столькі ў яго было звязана з гэтым сабакам!.. Але, глядзі ты, і баец — малады, а дапытлівы, ведае Джыма і нават цікавіцца ім. Валошын быў перакананы, што бачыць байца ўпершыню, а той, аказваецца, мала што пазнае камандзіра батальёна ў цемры, яшчэ і ведае ягонага сабаку. Хаця што ж, такая камандзірская роля — кожны крок перад сотняю пільных уважлівых вачэй, ад якіх не ўтоіш нічога.

Яго яшчэ аклікнулі з цемры — ля акапанага на брустверы «максіма», грэючыся, размахваў рукамі стары кулямётчык Дзянішчык, знаёмы яшчэ па летніх баях пад Кузьмінскам, калі зусім невялічкая група іх прабівалася з акружэння. Тады гэты даволі ўжо пажылы баец невядома адкуль прыбіўся да яго роты і так разам з батальёнам выйшаў з-за фронту. А на фарміроўцы

праз яго яшчэ была непрыемнасць — начальства пачало чапляцца, чаму не адправіў на праверку, чаму пакінуў у роце,— чалавек чужы, невядомы, ці мала што. Праверыўся Дзянішчык ужо пазней у баях, калі неяк выпадкам падмяніў параненага кулямётчыка, памог адбіць контратаку ды так і застаўся пры кулямёце. Зрэшты, кулямёт, здаецца, цяпер у яго ўжо другі — замест «максіма» танкастволы, сістэмы Гарунова.

— Ну як справы, Дзянішчык?

— А покі што слава Богу.

— Чаму Богу? Ты што — веруюшчы?

— Верушчы — не верушчы, а так кажуць. К слову падходзіць.

Баец зважна, але і з пэўнаю годнасцю перад начальствам перамінаўся з нагі на нагу ля кулямёта, уцяўшы голыя без рукавіц рукі ў караткаватыя рукавы целагрэйкі. Камбат прысеў ля акопа і зірнуў цераз бруствер.

— А як абстрэл? Мёртвай прасторы няма?

— Ды ну! Усё як на талерцы, таварыш камбат.

— А яны тут не засякуць вас? З вышыні ж таксама як на талерцы.

— Ну. Але мы, калі ціха, «Гаруна» сюды,— паказаў Дзянішчык у акоп, дзе пад бруствeрам чарнела абсталяваная для кулямёта ніша-сховішча, у якой цяпер ляжаў, пасапваючы, скурчаны ў тры пагібелі ягоны напарнік: — Абстрэл калі? А калі заварушка, тады на месца.

Камбат устаў з бруствера.

— Ну малайцы. Камандзір роты дзе?

— А вунь. Бліндажык там,— кіўнуў галавой Дзянішчык і зноў замахаў на месцы рукамі — грэўся.

Непадалёк пад узмежкам пачыналася мелкая недакапаная траншэйка, з якой чуліся далекаватыя, з-пад зямлі, галасы. Абсыпаючы берагі, камбат амаль бокам сунуўся ў ёй, пакуль не ўбачыў пад бруствeрам слабую светлую шчылінку акрай палаткі. Адхінуўшы залубянелую палу тае палаткі, ён дужа ўгнуўся і з натугай прашчаміў сваё вялікаватае цела ў бліндаж.

У бліндажы вячэралі. Цесна асеўшы палатку, чалавек пяць працавалі лыжкамі, між ног, абутых у боты, валёнкі і чаравікі, стаяла са тры кацялкі. У кутку ля ўвахода, прыўстаўшы на каленях, у адной гімнасцёрцы з медалём на грудзях складвала нешта ў рэчмяшок Вераценнікава. Яе зыркія вочы здзіўлена міргнулі з-пад русявае грыўкі, і ў тое імгненне дзяўчына локцем штурханула ў бок лейтэнанта Самохіна.

— Вадзька!

Самохін прыкметна трапятнуўся, згледзеў камбата, які ўжо амаль налез на нечую спіну ля ўвахода, і зрабіў спробу ўстаць для даклада.

— Таварыш капітан!.. Валошын ціха спыніў яго:

— Вячэрайце.

Нехта пасунуўся, даючы камбату месца, каб сесці, нехта перапоўз у другі кут. Над галовамі ўгары, заткнуты за жардзіны, патрэскваючы, дыміў азекерытавы канец тэлефоннага кабелю. Смярдзела гарэлым мазутам. Вераценнікава зноў зыркнула на камбата насцярожаным поглядам, і яе спрытныя рукі пачалі завязваць рэчмяшок.

— Можа, павячэраеце з намі, таварыш камбат,— сказаў Самохін.

Валошын не адказаў, і ў бліндажы замаўчалі, адчуўшы яго настрой,— пэўна, тут ужо ведалі, што нядаўна адбылося ў зямлянцы на батальённым КП. Адчуваючы іх пільную ўвагу да сябе, камбат палез у кішэню, дастаў дзюралевы, з няхітраю інкрустацыяй партсігар і пачаў

згортваць цыгарку.

Ён ведаў, яны чакалі разносу за тое здарэнне на КП, якое для яго скончылася другой па ліку вымовай, але цяпер ён не хацеў гаварыць аб тым, асабліва пры падначаленых. Старшына роты Грак і камандзір узвода сяржант Нагорны, што сядзелі ля другой ад камбата сцяны, пахавалі свае лыжкі за халявы ботаў. Самохін зашпіліў кручкі шыняля. Вераценнікава пачала надзяваць целагрэйку. Мяркуючы па ўсім, вячэра была сапсавана.

— Таварыш Самохін, колькі ў вас сёння ў страі? — зірнуўшы на камандзіра роты, запытаў Валошын.

— Дваццаць чатыры чалавекі. З санінструктарам.

— Санінструктара не лічыце.

Самохін сціх, чакаючы, што камбат скажа далей. Вало-

шын зацягнуўся махоркай, якая неяк дзіўна патрэсквала ў

цыгарцы, часам успыхваючы, нібы да яе быў падмешаны

порах. Байцы гэтую махорку празвалі «трасіруючай», што было асабліва відавочна на ветры.

— Выдзеліце мне двух чалавек. Талковых хлопцаў.

Самохін з прыкметнай палёгкай асеў на заднікі ботаў і

ціха выдыхнуў. Рухавы позірк яго цёмных вачэй на маладжавым, але ўпартым, з шырокім падбародкам твары матлянуўся ад камбата да сяржанта Нагорнага.

— Нагорны, дай двух чалавек.

— Адставіць! — роўна сказаў Валошын. Усе ў зямлянцы недаўменна паглядзелі на яго, аднак ён знарок не падаў ніякай увагі да гэтых позіркаў.— Мабыць, у таварыша Нагорнага ёсць воінскае званне?

Лейтэнант зразумеў усё з першага слова.

— Сяржант Нагорны, выдзеліць двух байцоў!

— Ёсць.

Каржакаваты плячысты крапак у расшпіленым паўшубку, Нагорны выцягнуў з-за спіны аўтамат і з шорхатам вышчаміўся ў траншэю.

— І яшчэ пашліце за камандзірамі восьмай і дзевятай. ДШК таксама.

Самохін толькі зірнуў на Грака, і той, зразумеўшы, хоць і нетаропка таксама вылез следам за Нагорным. У бліндажы, апроч камбата і ротнага, засталася адна Верацэннікава. Валошын вальней выцягнуў ногі.

— Дык колькі будзем ваду муціць, таварыш Самохін?

— Якую ваду?

— Калі будзе выкананы мой загад? Лейтэнант, перш чым адказаць, памаўчаў, кідаючы навокал хуткія нервовыя позіркі.

— Заўтра ўранку пойдзе.

— Нікуды я не пайду,— тут жа аб'явіла Верацэннікава.

— Вера! — з папрокам сказаў Самохін.

Дзяўчына падняла на яго раззлаваны твар.

— Ну што? Што Вера? Чаму вы мяне праганяеце? Як наступленне, дык патрэбна была, тады не адпраўлялі, а як ціха, абарона, дык прэч! Я год прабыла ў гэтым палку і нікуды з яго не пайду. Ясна?

Валошын стрымана пазіраў то на яе, счырванелую і гняўлівую, то на пакутліва нахмураны лоб ротнага. Камбат і асуджаў і абураўся — гэта было чорт ведае што,— слухаць такія сцэны на вайне за паўкіламетра ад нямецкай траншэі.

— Што ж вы тут і раджаць будзеце? — запытаў ён са знарочыстай грубаватасцю.

Вераценнікава страпянулася, хутка павярнулася да яго — на шчоках дзяўчыны бліснулі слёзы.

— Ну і буду! А вам-та якая справа?

— Вера! Што ты! — спахапіўся Самохін.

— Не ўжо, таварыш Вераценнікава. У маім батальёне роддома няма,— холадна зазначыў камбат.— Рана ці позна паедзеце ў тыл. Так што лепей зрабіць гэта ў час.

— Нікуды я ад Вадзькі не пайду,— сказала яна.

Аднак рашучасць яе, відаць, пахіснулася. Дзяўчына хліпнула і затуліла твар рукавом ватоўкі. Самохін падаўся да яе бліжэй.

— Вера! Ну што ты? Супакойся. Усё будзе добра.

Вера, аднак, не хацела супакойвацца, усё хліпала, зату-

ліўшы твар, і Самохін хвіліну разгублена ўлагоджваў яе.

«Чортаў бабнік,— думаў камбат, амаль з нянавісцю пазіраючы на свайго ротнага.— Хвацкі, відны дзяцюк, неблагі камандзір, ды во зблытаўся з гэтым дзяўчом. Цяпер, калі ўжо прыпёрла і далей не было як хаваць усё, знайшлі выхад — франтавую жаніцьбу. Якраз у пару!»

Адчуўшы на сваіх плячах рукі Самохіна, Вера пакрысе пачала супакойвацца, і Валошын сказаў, каб разам скончыць усю гэтую ўжо агорклую яму справу:

— Заўтра ўранку штурмуем вышыню. Мабыць, у сем пачнем. У шэсць трыццаць вы пакінеце батальён. Вера раптам перастала хліпаць і насцярожылася.

— Што? Каб я змылася за паўгадзіны да атакі? Не ўжо, дудкі! Хай мне генерал загадвае! Хай маршал! Хоць сам Бог! Нізашто!

— Ладна, Вера. Не гарачыся. Што ты як маленькая! — пачаў ротны.

Але яна перабіла яго:

— Ага, не гарачыся! Доўга ты без мяне ўцалееш? Дурань, ты ж на першай гадзіне галаву пакладзеш. За табой як за маленькім, глядзець трэба! — праз слёзы казала Вера.

Самохін пакутна паморшчыўся.

— Вось так! — зазначыў камбат, не жадаючы далей працягваць гэтую слязлівую гутарку.

Тым больш знадворку пачуліся крокі, у бліндаж ужо ўлазіў сяржант Нагорны, за ім ішчэ два байцы. Абодва амаль адначасна далажылі:

— Таварыш камбат, радавы Дрозд па вашаму загаду...

— Таварыш камбат, радавы Кабакоў...

Гэта таксама былі новыя байцы ў батальёне, не вядомыя яму з твару, хоць прозвішча Дразда ён памятаў з папер, якія падпісваў, перш чым паслаць у штаб палка для ўзнагароджання за зімовыя баі пад станцыяй Гуляеўка. Яшчэ ён успомніў, што гэтага Дразда некалі на партсходзе хваліў нябожчык палітрук сёмай Пятрэнка. Дрозд і сапраўды рабіў добрае ўражанне сваёй ладнаю дужай постаццю і даверлівым, трохі наіўным тварам, які выражаў цяпер увагу і гатоўнасць выканаць усё, што яму загадаюць. Кабакоў выглядаў горш — танклявы, надзьмуты і апрануты не дужа ахайна,— з-пад целагрэйкі тырчаў зялёны каўнер нямецкага кіцеля, нацягнутага для цяпла паверх гімнасцёркі.

— Стаяць тут няма як, таму сядайце і слухайце,— сказаў Валошын. Байцы зважліва апусціліся ў мігатлівы прыцемак пад сцяной.— Вам баявая задача. Вельмі важная. І зусім простая. Узяць нажы ці штыхі, а таксама паболей паперы — газет, кніжку якую мо растрыбушыць, ціхенька перайсці балота і з узмежка — па-пластунску ўгору да нямёцкай траншэі. Без

аніводнага гуку. Ля траншэі развярнуцца і такім жа манерам назад. Вось і ўсё. Зразумела?

Байцы шырокімі вачмі глядзелі на камбата.

— Не зразумела? Тлумачу. Прапаўзці і нажамі прамацаць зямлю. Калі дзе міна — не чапаць. Толькі на тое месца кавалак паперы і глыжом прыціснуць. Каб ветрам не здзьмула. І так далей. Цяпер ясна?

— Ясна,— не дужа ўпэўнена сказаў Дрозд.

Кабакоў шмыргануў носам, камбат уважліва паглядзеў на яго.

— Усё гэта зойме ў вас не больш дзвюх гадзін. Можа, так здарыцца, што на нейтралцы будуць немцы. Тады паслухайце, чым яны займаюцца. І назад. Я вас чакаю. Пытанні ёсць?

— Ясна,— трохі ўжо болей бадзёра, чым першы раз, сказаў Дрозд.

Кабакоў зноў шмыргануў носам і няпэўна закашляўся.

— Значыць, усё зразумела? — заключыў камбат.— Тады сяржант Нагорны праводзіць вас да лёду і пастравіць задачу на мясцовасці.

Байцы ўсталі з-пад сцяны, павярнуліся да выхаду, але Кабакоў, які быў першы, раптам спыніўся.

— Я гэта... таварыш камбат, кашляю.

— Да? І здорава?

— Як калі. Часам калі нойдзе...

Баец з перабольшаным стараннем пракашляўся.

Валошын зірнуў у яго вочы і ўбачыў там неадольную боязь — занадта знаёмае на вайне пачуццё, толькі згледзеўшы якое, усё станавілася простым да абурэння. Цяпер, аднак, камбат пастараўся быць стрыманым.

— Тады адставіць,— сказаў ён рашуча.— Вашу кандыдатуру адставіць. Замест вас пойдзе старшы сяржант Нагорны.

— Ёсць! — сказаў Нагорны і запытаў, счакаўшы: — Дазвольце выконваць?

— Выконвайце,— сказаў камбат.— Вернецеся — адразу ка мне.

Нагорны з Драздом вылезлі, напусціўшы сцюжы. Кабакоў паныла апусціў галаву.

— Баіцёся? — запытаў камбат, ва ўпор разглядваючы байца і як заўжды ў такіх выпадках чакаючы апраўдання і хлусні.

Але Кабакоў ціха пацвердзіў:

— Баюся.

І яшчэ ніжэй нагнуў галаву. Канец провада дагарэў да самае палкі, пачаў дымна хліпаць, Вера прыўстала на ногі і з запасам пацягнула яго з-пад столі.

— Лейтэнант Самохін, ён што — заўжды труса святкуе?

— Ды не быццам. Не замячалася.

— Даўно на фронце?

— Чатыры месяцы.

— Адкуль сам?

— З Пензенскай вобласці.

— Хто дома?

— Маці. І тры сястронкі.

— Старшыя?

— Меншыя. У школу ходзяць.

— А бацька?

— Няма. У сорак першым з-пад Кіева прыслаў адно пісьмо, і ўсё.

Стала ціха. Вераценнікава гаротна, перарывіста ўздыхнула. Знадворку пачулася страляніна — кулямётная чарга недзе на ўчастку суседзяў.

— Значыць, баішся? — з'едліва запытаў Самохін.— За сваю шкуру дрыжыш?

— Усе баяцца. Каму паміраць хочацца?

— Ах, вось як? Яшчэ філасофію разводзіш? Разгільдзяй, я табе пакажу зараз! Ану, знімай дзягу.

Ротны ўстаў і, угнуўшы галаў, рашуча ступіў да байца.

— Ціха, таварыш лейтэнант! — сказаў камбат.— Хай ідзе. Ідзіце на месца, Кабакоў.

Баец нязграбна вылез з бліндажа. Самохін нагой адкінуў парожні кацялок.

— Ну і дарма! Трэба было з Нагорным спецыяльна паслаць! Ад трусасці палячыць.

Камбат палез у кішэнь па закурку.

— Не варта, Самохін.

— А-а, таму, што прызнаўся, так? На гэта зважылі?

Лейтэнант пераставаў стрымліваць сябе, быў гатовы сар-

вацца, як таго патрабавала ў ім усё перажытае за сённяшні вечар. Але камбат разумеў гэта і не мог дазволіць такой вольнасці ротнаму, якога чакалі справы куды болей нервовыя і важныя.

— Так, зважыў,— спакойна сказаў ён.— Памятаеце талстоўскую прытчу: за разбіты кубак — дзякуй. Бо не схлусіў.

— Прытча! — сказаў Самохін, аднак спакайнеючы,— Яму прытча, а Дрозд што — камень? Да? Не баіцца? Вось шарахне — і ашмоцце адно застанецца. А гэты жыць будзе. Праўдзівец!

**5**

Першы з выкліканых камандзіраў прыбег малодшы лейтэнант Ярашчук — камандзір прыдадзенага батальёна ўзвода буйнакаліберных кулямётаў ДШК. Самы малодшы па званню ён быў самы стары сярод камандзіраў па ўзросту — гадоў пад сорак дзядзька, былы сельпоўскі работнік з Пензеншчыны, якому некалі перад звальненнем з тэрміновай службы прысвоілі званне малодшага лейтэнанта запасу. Далей гэтае званне на ягоных плячах не расло, што, аднак, мала непакоіла Ярашчука — чалавека прасцецкага, не надта пісьменнага і надта цывільнага. Ён упіхнуў у бліндаж сваё зусім не камандзірскага выгляду, шчуплае, як-колечы захінутае ў чырвонаармейскі шынелак цела і загаманіў хрыплаватым спрасоння голасам:

— Маразец, хай на яго, усё цісне. Не хапіла за зіму прамярзалаўкі...

Ярашчук, напэўна, не адразу заўважыў, што ў бліндажы ўсе маўчалі, мала ўспрымаючы бесклапотную добрасць яго настрою. Стоячы на каленях, ён ажыўлена пацёр азяблыя рукі, амаль з дзіцячым прастадушшам паглядваючы на прысутных. Камбат скупа кінуў:

— Сядайце, таварыш Ярашчук.

— Ну што ж, можна і сесці, калі не прагоніце. А я гэта ў акопчыку пад брызентам кімарнуў крыху. Ды замёрз, як шчанюк... Ці няма закурыць, лейтэнант? — звярнуўся ён да Самохіна.

Той дастаў з кішэні шчапоць махоркі і моўчкі працяг яе малодшаму лейтэнанту.

— А паперкі няма? Ну то знойдзем. Дзесь быў у мяне кавалачак...

Другім неўзабаве з'явіўся камандзір восьмай лейтэнант Муратаў. Ладна апярэзаны рамянямі, у акуратна прышытых роўненькіх пагонах на плячах, з планшэткай на баку і трафейным ліхтарыкам на гузіку, ён спрытна праслізнуў у бліндаж і, трохі ўгнуўшы голаў, прывычнай скорагаворкай з акцэнтам далажыў:

— Таварыш капітан, лейтэнант Муратаў па вашаму загаду прыбыў.

Камандзіра дзевятай давялося чакаць даўжэй. Валошын ужо хацеў другі раз пасылаць за ім, калі ў траншэі пачуліся крокі, кашаль і, урэшце, на праходзе зашорхала палатка. Кізевіч, вялікі і худы, у непадперазаным паўшубку з абвілымі без пагонаў плячамі нязграбна ўлез у бліндаж і, зрабіўшы лёгкі намёк-жэст рукою да шапкі, буркнуў замест дакладу як аб чымсь само па сабе вядомым:

— Старшы лейтэнант Кізевіч...

Камбат нерухома сядзеў, прысланіўшыся спіной да сцяны і адзначаючы позіркам уваход кожнага. Ён амаль не рэагаваў на некаторыя вольнасці дакладаў падначаленых, але, мусіць, яны нешта адчувалі ў яго знешняй стрыманасці і са сціплай зважлівасцю прыладжваліся ў доле, побач з Ярашчуком.

— Ну што ж,— сказаў Валошын і адхінуўся ад сцяны,— Здаецца, усе. Прашу далажыць аб колькасна-баявым стане

падраздзяленняў. Камандзір сёмай!

Самохін, які дагэтуль, трохі схіліўшыся набок, з заклапочаным выглядам на ладным бялявым твары сядзеў ля Веры, сеў раўней, падабраў ногі і ўзяў з долу саломіну.

— У мяне ў страі дваццаць чатыры чалавекі. З іх сярэдніх камандзіраў адзін. Сяржантаў два. Кулямётаў: РПД — два, «Гарунова» — адзін.

Хуценька прагаварыўшы гэта, ён змоўк, нібы

згадваючы, што яшчэ можна дадаць да сказанага. Камбат напомніў:

— Боепрыпасы?

— Боепрыпасы? На вінтоўку па шэсцьдзесят патронаў, РПД — па тры дыскі. У «Гарунова» дзве каробкі стужак. Праўда, сёння набівалі яшчэ. І ў запасе адзінаццаць цынак. Ось і ўсё.

— Гранаты?

— Гранат не лічыў. У старшыны няма. Толькі тыя, што на руках.

— Не больш чым па гранаце,— уставіў ад увахода старшына Грак.— Усяго штук пятнаццаць будзе.

— Не багата,— сказаў камбат. Паклаўшы на калені палявую сумку, ён расшпіліў яе і выцягнуў блакнот з алоўкам.

Самохін змоўк, пальцы яго ўсё круцілі ў руках саломіну.

Камбат варухнуў брывом і перавёў позірк на лейтэнанта Муратава.

— Камандзір восьмай.

Муратаў цепнуў плячыма, нібы распраўляючы іх пад рамянямі, і, увесь падабраўшыся, прыстаў на каленях.

— Восьмая рота імеется васемнадцаць байцоў, тры сяржант, адын камандыр роты. «Максім» адын, РПД адын. Патронаў мала. Чатыры абоймы на адын вінтоўка. Два лента адын «максім». Гранат мала — дэсят штук.

Кароценькі яго даклад быў скончаны скорагаворкай, і ўсе памаўчалі, назіраючы, як Валошын нешта памячае ў блакноце. Дымны смярдзючы паўзмрок на даваў згледзець за метр. Старшына Грак, уключыўшы ліхтарык, пасвяціў камбату ў блакнот.

— Дзякуй. Што ж, малавата, таварыш лейтэнант. І

людзей і боепрыпасаў. Берагчы трэба, Муратаў.

— Как можна берагчы, таварыш камбат? Я камандую: кароткімі чэргамі! Кароткімі чэргамі! Палучается многа кароткіх чэргаў — адна длінны чарга. Расход балшой.

Усе засмяяліся.

— Трышкін каптан,— сур'ёзна сказаў Самохін.— Як ні нацягвай — калі мала, дык будзе не хапаць.

Увогуле гэта было зразумела і без слоў, і тым не менш восьмая ў батальёне аказалася самай слабай. Часткова таму, што наступала ўвесь час у сярэдзіне батальёна і большую частку агню праціўніка брала на сябе. Але і камандзір — малады, гарачы, вельмі старанны лейтэнант Муратаў не дужа ўсё ж дбаў пра тое, каб зберагчы байцоў — у баі лез у самае пекла, падстаўляў сябе і роту пад самы агонь. Вось і засталіся васемнаццаць байцоў. А два тыдні назад, памятае камбат, было нешта каля васьмідзесяці.

Аднак пры ўсім тым Муратаў быў надзіва часталюбівы і крыўдлівы камандзір. Камбат заўжды папракаў яго асцярожна, намёкамі і цяпер сказаў:

— А я на васьмую спадзяваўся. Болей за іншых.

Муратаў адразу ўсё зразумеў, смуглявы чарнабровы яго

твар успыхнуў на скулах. Ён памкнуўся наперад, але тут жа асеў і змоўчаў.

— Вось так! — сказаў Валошын.— Старшы лейтэнант Кізевіч.

Кізевіч неяк напаўсур'ёзна паглядзеў у дымную столь і махнуў рукой.

— Ат, тое самае. Што дакладваць!

— А іменна?

— Ну што: трыццаць тры чалавекі. Два «максімы».

Слёзы, а не рота.

— Боепрыпасы?

— Боепрыпасы? — перапытаў Кізевіч і ўважліва паглядзеў у цёмны кут бліндажа, дзе нерухома сядзела Вера.— Мусіць, патронаў па пяцьдзесят будзе.

— А калі канкрэтна?

Камандзір дзевятай зноў паглядзеў у падстолле. Па ягоным худым твары з прытоенымі пад брывамі маленькімі вочкамі трымцеў адбітак нейкае пакутнае думкі.

— Канкрэтна — па шэсцьдзесят пяць штук.

— А да трафейнага «кольта»?

Ураз спыніўшы на камбату позірк, старшы лейтэнант недаўменна цепнуў вачмі.

— А што трафейны? Ён так.

— Як гэта так?

— На падводзе ляжыць. Што, я з яго страляць буду?

— Чаму вы? У вас ёсць для таго кулямётчык.

Кізевіч, відаць было па ўсім, ухіляўся ад адказу, і камбат,

гледзячы на яго ва ўпор, раздумна пастукаў алоўкам па сумцы. Як заўжды, хітры прыжымісты камандзір дзевятай стараўся абысці самыя непрыемныя для яго моманты, бо, відаць, ужо адчуваў, што яму пагражае. Камбат падумаў, што тут жа трэба выкрыць яго, аднак даклад быў не скончаны, яшчэ заставаўся Ярашчук, і пасля паўзы Валошын кіўнуў у задымлены змрочны кут.

— Камандзір узвода ДШК.

— Узвод ДШК пакуль што хліпае. Трое паранены, а так усе дома. Два разлікі, два кулямёты, адна фурманка, два

кані.

— І ўсё?

-Ну.

— А патроны?

— Ёсць пакуль. Пакуль хопіць,— лёгка запэўніў Ярашчук.

Валошын з некаторым недаверам паглядзеў на яго.

Мусіць, у словах малодшага лейтэнанта было нешта такое, што прымушала ўсумніцца, але ўзвод ДШК нядаўна ўвайшоў у батальён, Ярашчук быў «чужы» камандзір, падначалены яму толькі на час наступлення, і камбат, падумаўшы, не стаў да яго прыдзірацца.

Збольшага даклады былі скончаны, камбат падбіў у блакноце невялічкі рахунак, і баявыя магчымасці батальёна сталі яму зразумелыя да дробязей. Што і казаць, магчымасці гэтыя аказаліся дужа сціплыя. Грак выключыў ліхтарык. У бліндажы стала куды цямней. Провад аднастайна і смярдзюча дыміў у падстоллі.

— Таварышы камандзіры. Мяркуючы па ўсім, заўтра давядзецца браць вышыню. Загаду яшчэ няма, але, я думаю, будзе. Так што, не губляючы часу, давайце рыхтавацца да атакі.

Зрабілася зусім ціха. Так ціха, што было чутно, як у кішэні камбата цікае гадзіннік. Самохін шпурнуў у дол саломіну, якую ўсё ламаў у пальцах. Муратаў напружана ўгледзеўся ў камбата, Ярашчук згорбіўся, сцяўся і стаў зусім непрыкметным у змроку. Кізевіч са здзіўленым выглядам выцягнуў з каўняра паўшубка сваю доўгую кадыкастую шыю.

— Калі дывізіёны два папрацуюць, дык возьмем,— сказаў ён.

Камбату гэтыя словы не спадабаліся, і ён нахмурыўся.

— Наконт двух дывізіёнаў сумняваюся. Баюся, як бы не давялося абысціся адной батарэяй Іванова. Кізевіч здзіўлена чмыхнуў.

— Іванова? Ды яна ж без снарадаў. Уранку мой старшына хадзіў, кажа, сядзяць гаўбічнікі, а між станін па адной скрынцы. Хоць страляй, хоць палохай!

Валошын не перабіваў яго, выслухаў са стрыманай увагай старэйшага і спакойна зазначыў:

— Снарады падвязуць. А вы забяспечце людзей гранатамі. Спатрэбяцца. Старшына Грак?

Ля парога страпянулася цьмяная постаць Грака.

— Я вас слухаю.

— У вас была скрынка з КС. Раздзяліце яе паміж ротамі.

— Ёсць!

— А ў вас, старшы лейтэнант Кізевіч, трафейны «кольт», значыць, на возе?

— На возе. А што?

— Перадайце яго Муратаву. Ён знойдзе яму лепшае прымяненне.

Кізевіч пакутна напружыў свой вузкі са згорбленым носам твар.

— Гэта за якія заслугі?

— Так трэба.

— Трэба было свае берагчы. А то свае паразгрохалі, а цяпер на чужое зарыцца.

— Я ў вас нічога не прашу! — успыхнуў Муратаў.

— Ну і няма чаго тады гаварыць. А то ўсё «кольт», «кольт»!..

Валошын спакойна выслухаў кароткую спрэчку ротных, якая, дарэчы, не была навіной у батальёне. Гаспадарлівы Кізевіч болей за ўсё не любіў чымсьці дзяліцца з іншымі, хоць часам мусіў рабіць гэта, бо і ў яго былі слабасці, калі патрабавалася дапамога хоць бы таго ж лейтэнанта Муратава. Робячы выгляд, нібы ніякае спрэчкі тут не было, камбат дадаў роўным голасам:

— Патроны таксама. Сотні тры іх павінны ў вас быць. А каб Муратаў не шукаў у сябе кулямётчыка, то і яго перадайце. Сіпак, здаецца, ягонае прозвішча?

— Які Сіпак? Сіпак пяць дзён як у зямлі. Новы кулямётчык.

Валошын паўхвіліны маўчаў, пераборваючы ў сабе раптоўную тугу ад гэтае навіны — Сіпака ён ведаў даўно, яшчэ з фарміроўкі, і тут, аказваецца, яго ўжо няма. Зусім недарэчы прыпомнілася ягонае прозвішча — усё ж камбат павінен быў ведаць пра выбыцце кожнага з старых. Гэта было куды як непрыемна, але Валошын ніяк не выдаў свае хвіліннай збянтэжанасці і з ранейшай цвёрдасцю загадаў:

— Перадайце новага.

— Ну во! Яшчэ і новага! Што я — запасны полк, ці што? — шырока развёў рукамі Кізевіч.

Валошын ніяк не адрэагаваў і на гэта, змоўчаў, даючы тым зразумець, што пытанне вырашана беспаваротна. Кізевіч, аднак, раззлаваўся, відаць, не на жарт.

— Як толькі што, усё да дзевятай! «Кольт»! Можа, на «кольт» у мяне галоўны разлік. Я ўжо з яго ўсе арыенціры прастраляў. А цяпер палучаецца: аддай жану дзядзьку...

— Во і правільна. Каб не хітрыў,— коратка ўставіў Самохін.

— Ага. Ты не хітрыш? Чэсны такі!

— Не ў тым справа,— іншым тонам перабіў яго Самохін, — Што там «кольт»! Ты вось лепш запытай, якога ражна мы гэтую вышыню ўчора не ўзялі? Чаго валынілі? Пакуль немцы акапаюцца?

Кізевіч павярнуў да камбата незадаволены, надзьмуты твар. Іншыя, хто быў у бліндажы, таксама насцярожыліся, чакаючы адказу на тое, што, пэўна, найбольш займала іх. Валошын выдатна адчуваў гэта, сам насіў у сабе тое пытанне, але цяпер выказваць сваёй думкі не стаў, паспрабаваў прамаўчаць. Маўчанне камбата, аднак, не задаволіла ротных.

— Цяпер папоўзаеш сюды-туды,— сказаў Самохін.

— Вунь ужо два дзоты адгрохалі. Натанцуешся перад імі.

Аднак гэта было занадта. Такія размовы ўжо выходзілі

за рамкі дазволеных у адносінах да начальства, і Валошын цвёрда сказаў:

— Ну хопіць! Загад ёсць загад. Мы абавязаны яго выканаць. Асабістыя ж меркаванні можаце пакінуць пры сабе.

Яны ўсе прымоўклі, і ў гэтае цішыні камбат дастаў з кішэні гадзіннік. Было без чвэрці адзінаццаць.

— Так, усё! — сказаў ён.— Давайце рыхтавацца. Загад аддам дадаткова.

**6**

У траншэі на выхадзе з бліндажа Валошын сутыкнуўся з Гутманам. Запыханы ардынарац бег на камбата — у батальён прыбыло папаўненне.

— Многа?

— Дзевяноста два чалавекі.

Ого! Гэта было больш, чым сёння ў яго страі. Батальён

павялічваўся ўдвая, амаль удвая ўзрастала яго агнявая моц. І тым не менш камбат не ўзрадаваўся.

Яны прыйшлі ў канец траншэйкі, якая тут, паступова мялеючы, выходзіла на паверхню. Самохін спыніўся ззаду, і Валошын на развітанне сказаў:

— Прышліце старшыну за людзьмі. І перадайце таксама Муратаву з Кізевічам.

— Ёсць!

Камбат памкнуўся быў ісці, ды памарудзіў — у паўзмроку траншэі неяк вельмі сіратліва і сцішана стаяла постаць ротнага, цяпер нешматслоўнага і апануранага, і — адчуваў Валошын — наўрад ці толькі ад клопату за заўтрашнюю атаку. Але той яго бок перажыванняў быў надта асабісты і паводле вайсковай завядзёнкі чужому спачуванню не падлягаў.

— Вернуцца разведчыкі — адразу на капэ,— захоўваючы звычайную дзелавую цвёрдасць, загадаў камбат.

— Ясна.

Яны ўдвух з Гутманам хутка пайшлі па схіле ўгору. У полі па-ранейшаму было цёмна і марозна-ветрана. Вышыня змрочна таілася ў зорнае цемры. Валошын на секунду спыніўся, паслухаў — цяпер там недзе паўзлі яго разведчыкі, і кароценькі трывожны клопат звыкла варухнуўся ў свядомасці камбата. У тым, што ён паслаў іх, была маленькая хітрасць, свайго роду мясцовая рацыяналізацыя, на якія часта вымагала вайна і ад якіх, здаралася, залежала вельмі многа. Авось як-небудзь абыдзецца — не напоруцца, ён дужа спадзяваўся на іх.

Гутман у цемрыве, мабыць, ведаў які інакшы шлях на КП — без хмызняку і варонак, і ўпэўнена вёў камбата. Неўзабаве яны добра-такі аддаліліся ад рубяжа сёмае роты, уважлівая напружанасць зменшылася. Усё ж які там ні тыл за паўкіламетра ад ротнага ланцуга, а на душы рабілася спакайней. Валошын пачаў думаць аб іншым і толькі хацеў запытаць пра Джыма, як Гутман,

нібы прадчуваючы ягонае пытанне, сам азірнуўся.

— Усё кумекаюць там. У штабе. Наконт вышыні гэтай.

— Да? Ну і што?

— Ат! Паслухаў, дык дзіўна стала. Батальён, батарэя, узаемадзеянне! І нікому не ў знакі, што батальён гэты — адна рота.

— Ну? — стрымана перапытаў Валошын.— Чаму ж ты не далажыў ім?

Гутман ледзь прыкметна цепнуў плячыма.

— А што я? Маё дзела маленькае. Ён памаўчаў крыху, пасля на хаду павярнуўся да камбата і ямчэй паддаў на плячы аўтамат.

— Ведаеце, не з таго канца яны пачынаюць. Спярша трэба б саўгас узяць. Тады гэта немчура з вышыні сама дзёру дасць.

— Ты думаеш?

— А што ж, скажаце — не?

Не, камбат не мог сказаць «не». Наконт гэтага ардынарац у нейкай меры меў рацыю.

— Сабраць усе тры батальёны ды жарнуць па саўгасу. А то расцягнулі полк на чатыры кіламетры і тыркаюцца.

— Табе б начальнікам штаба быць. Палка ці, можа, дывізіі? — з прыхаванай іроніяй зазначыў Валошын.

Гутмана, аднак, гэта не зачапіла.

— А што ж! І быў бы. Канечне, я акадэміяў не канчаў, але галаву маю. Скажаце, гэтага мала?

Валошын адказаў не адразу, усур'ёз пярэчыць на такі аргумент было немагчыма.

— Увогуле ты правы, Гутман. Гэтага не мала. На жаль,

не заўжды галава рашае.

Ардынарац з прыкметным запалам памкнуўся было нешта сказаць яшчэ, але тут жа махнуў рукой.

— Ат, што гаварыць! — І ўжо іншым, паспакайнелым тонам паведаміў: — Прывязаў Джыма рэменем да стала. Сядзіць. Нікога да сябе не падпускае. Хай! Яшчэ паплачуць з ім.

У траншэі на КП было поўна людзей, яны моўчкі стаялі групамі, адвярнуўшыся ад ветру. Стаялі таксама ля ўвахода ў зямлянку, там-сям чуліся кароткія словы на незразумелай азіяцкай мове. Гутман лёгка саскочыў з бруствера, за ім скокнуў камбат. Яны праціснуліся каля абыякавых да іх, незнаёмых байцоў і пралезлі ў зямлянку.

Тут таксама было цесна і цёмна. Некалькі постацей у шынялях загароджвалі скупое святло ліхтара, пад якім горбіўся Маркін — перапісваў папаўненне. Убачыўшы камбата, ён узняў голаў і выразна цяжка ўздыхнуў.

— Што з палка? — запытаў Валошын.

— У шэсць трыццаць атака.

— Папаўненне патронамі забяспечана?

— Патроны-та ёсць,— неяк загадкава адказаў Маркін.— Толькі карысці з таго...

— А што такое?

— Што? — лейтэнант шматзначна кіўнуў на байцоў. Чалавек пяць іх у касках, нязграбна насунутых на зімовыя шапкі, нерухома стаяла перад ім з цярплівай пакорай на цёмных шырокіх тварах.— Па-руску ні бельмеса. Вось што.

Гэта было горш. Гэта было нават зусім кепска, калі ўлічыць, што планавалася на ранак і колькі часу заставалася да гэтага ранку. Валошын у задуменнае заклапочанасці паглядзеў на байцоў, і яму стала

самотна ад аднаго іх выгляду. Непрыношаныя камкаватыя шынялі, абвіслыя, з брызентавымі падсумкамі дзягі, змерзлыя рукі ў нязграбных каляных рукавіцах, якія неяк няўмела і бяссільна трымалі абшарпаныя ложы вінтовак. Гарбатыя ад рэчмяшкоў на спінах паставы. Па-руску яны сапраўды мала што разумелі — Маркін задаваў пытанне, адзін нізенькі, з прыпухлым тварам чырвонаармеец перакладаў, і чарговы ля скрынак баец паныла адказваў.

— Замучыўся зусім,— сказаў Маркін і амаль закрычаў са злосцю: — Месца нараджэння? Вобласць?

Камбат паныла назіраў за гэтаю сцэнай і думаў, што выпеставаны яго клопатам, выхаваны і зладжаны за доўгія тыдні трывог і пакут яго батальён канаў. Як ён ні стараўся, як ні супраціўляўся таму, усё болыпала ў ім невядомых і менела старых надзейных байцоў, а з імі па крупінках знікала яго камандзірская сіла і чалавечая ўпэўненасць. Гэта амаль што палохала, ён улавіў у сабе гэта непрывычнае адчуванне яшчэ там, у траншэі, калі прабіраўся сюды сярод іх — стомленых невядомасцю і благім прадчуваннем, падаўленых небяспечнаю блізасцю перадавой, абыякавых да ўсяго, што не «я» і што не несла небяспекі гэтаму «я».

Камбата ўсё болей ахоплівала пачуццё злой нецярплівасці, нейкая неспатоленая сіла вымагала на рэзкае слова, крык, нейкі рашучы ўчынак, у якім бы знайшло выйсце гэтае яго затрудненне. Але такі ўчынак — ведаў ён — быў немагчымы, трэба было сцяўшы зубы, нетаропка і няўхільна рабіць сваю справу.

— Многа яшчэ пісаць?

— Заканчваю,— сказаў Маркін. Валошын рэзка павярнуўся да ардынарца.

— Таварыш Гутман! Пастройце папаўненне.

— Ёсць. Папаўненне, выхадзі строіцца! — старшынскім голасам скамандаваў Гутман.

Прыглушаны тупат наверсе яшчэ не скончыўся, як ён рашуча выйшаў з зямлянкі і скочыў на бруствер. Гутман таропка скамандаваў «смірна», камбат зышоў з падмёрзлых глыжоў бруствера. Ззаду над вышынёй якраз узляцела ракета, аслабленае адлегласцю яе святло трапяткім водблескам замільгала па тварах людзей, якія страхавіта-засцярожліва заварушыліся, аднак не пакідаючы месца ў страі. Усе паглядзелі на вышыню, затым — на яго, мабыць, чакаючы каманды «лажысь» ці дазволу разбегчыся. Аднак ён не падаў нават «вольна», а выйшаў перад сярэдзінай строю і стаў.

Ракета дагарэла, мігатлівы паўзмрок саступіў месца яшчэ больш пагусцелай цемры.

— Хто разумее па-руску?

— Я панімай.

— Я тожа.

— Адзін чалавек — ка мне.

Нехта выйшаў са строю і спыніўся ў трох кроках перад камандзірам батальёна.

— Станьце побач і перакладайце. Хворыя ёсць?

— Ёсць.

— Я хворы,— адказалі са строю. Тады ён скамандаваў:

— Хворыя, пяць крокаў наперад. Шагам марш!

Перакладчык павярнуўся тварам да строю і не дужа ўпэў-

нена пераклаў. Валошын адзначыў, што слоў у яго чамусьці атрымалася больш, чым у ягонай камандзе. У гэты час ззаду зноў узляцела ракета. Камбат, знерухомеўшы, услухаўся: ці не пачуюцца стрэлы? Калі пачнецца страляніна, тады будзе кепска. Тады наўрад ці атрымае ён звесткі ад тых двух разведчыкаў. Але,

здаецца, абышлося і гэты раз — ракета дагарэла і стрэлаў не было. І калі зноў над начной прасторай самкнулася цемра, ён пачуў, як сям-там са строю выйшла некалькі чалавек. Выходзілі нерашуча, адны раней, другія пазней. Усе няўпэўнена спыняліся перад строем, насцярожана пазіраючы на камандзіра батальёна.

— Хто не абучаны — тры крокі шагам марш!

Памарудзіўшы, яшчэ выйшла шэсць чалавек. Сталі, ад-

нак, амаль што ўпоплеч з тымі, што выйшлі на пяць крокаў. Валошын адзначыў гэтую недакладнасць, аднак папраўляць не стаў — цяпер гэта не мела значэння.

— Хто вельмі баіцца — таксама!

Перакладчык не скамандаваў, а хутчэй растлумачыў каманду, і камбат амаль сцяўся нутром, чакаючы яе выканання. Але цяпер парадзелы строй стаяў нерухома — мусіць, усе баякі ўжо скарысталі сваю магчымасць у ліку папярэдніх.

— Так. Вось гэтым, што выйшлі,— направа! — скамандаваў Валошын.— Таварыш Гутман, адвесці групу назад у штаб.

— Назад? — здзівіўся Гутман. Але тут жа паспешна скамандаваў: — За мной шагам марш!

Калі яны, па адным пераскочыўшы траншэю, зніклі ў цемры, Валошын падышоў да строю бліжэй. Пашчэрбленыя дзве шарэнгі з напружанаю ўвагай глядзелі на яго.

— А з вамі будзем ваяваць. Перакладзіце. Заўтра мы пойдзем у бой. Усе разам. Нехта загіне. Калі будзеце дружныя і напорыстыя, загіне менш. Замарудзіце пад агнём — загіне больш. Запомніце закон пехацінца: дабегчы да немца і забіць яго. Не ўдасца забіць яго — ён заб'е вас. Усё вельмі проста. На вайне ўсё проста.

Пакуль перакладчык тлумачыў гэта, Валошын прайшоў

сюды-туды перад строем, пазіраючы на вышыню. Ракет болей не было, стрэлаў таксама. Толькі недзе збоч ад ляска і далёка ўсё пыхала і таўкло зямлю, мусіць, гэта выроўнівалася суседняя армія. Хацелася верыць, што ўсё як-небудзь абыдзецца і пасланцы вернуцца. Цяпер ён ні за што не хацеў губляць нават двух старых байцоў — цана ім за гэтую ноч падвоілася.

Некалькі чалавек, абмінуўшы траншэю КП, падышло да строю і спынілася непадалёк ад камбата. У пярэднім ён пазнаў старшыну сёмай Грака — гэта ўжо прыбылі за папаўненнем.

— Так, усё. Пытанні ёсць?

Пытанняў не было. Ён самкнуў строй, які аказаўся прыкметна карацейшы, чым упачатку, і рукой пачаў аддзяляць чацвёркі.

— Восемь, дзевяць, дзесяць... Направа! Старшына Грак, атрымлівайце.

Старшына адвёў сваіх крыху ўбок, а ён палічыў астатніх. Іх было мала. Восьмай як самай слабай трэба было б даць болей, але нешта ўтрымала яго ад такога намеру. Рэшткі строю ён падзяліў напалам.

— Восьмая і дзевятая — па васемнаццаць чалавек.

— Усяго толькі? — здзівіўся сяржант з восьмай.

— Толькі ўсяго. Затое без браку.

Людзей павялі ў роты, а ён скочыў у траншэю і ледзьве не сутыкнуўся з Маркіным. У накінутым на плечы паўшубку, лейтэнант адразу павярнуў назад. Валошына гэта трохі здзівіла — чаму ён стаяў тут?

Яны вярнуліся ў амаль што пустую зямлянку. Печка тут ужо не гарэла, пастаянны яе даглядчык Чарнаручанка, прывязаўшы да вуха трубку, зябка корчыўся ў куце на саломе. Маркін кінуў на скрынкі скручаны ў трубку сшытак.

— Думаеце, яны сапраўды хворыя? — нешта тоячы ў сабе, запытаў начштаба.

— Зусім не думаю.

— Дык як жа гэта іх за здорава жывеш — шагам марш у тыл?

Тон начальніка штаба быў буркатлівы, амаль сварлівы. Валошын, аднак, не дужа на тое зважаючы, дастаў з кішэні гадзіннік і падышоў да ліхтара. Абедзве зеленавата-фосфарныя стрэлкі яго набліжаліся да дванаццаці.

— Спадзяюся, Маркін, вы мяне за ідыёта не лічыце?

— Ну што вы! Я так проста. Сказаў...

— Хто-хто, а вы-та павінны разумець: мішэні на полі бою нам не патрэбны.

Ён паклаў гадзіннік на край стала і сам сеў побач. Маркін з нейкім незразумелым запалам выпаліў:

— А гэтыя, што асталіся, не мішэні?

— Тое будзе залежаць ад нас.

— Ад нас! Ось паглядзім, як яны заўтра паднімуцца. Ці не прыйдзецца абцасам у зад штурхаць.

— Вельмі нават магчыма. Заўтра, магчыма, і не паднімуцца. Прыйдзецца паднімаць. А праз тыдзень паднімуцца. Праз месяц ужо ўзнагароджваць будзем.

Маркін надзеў у рукавы паушубак.

— Калі будзе каго,— цішэй зазначыў ён і дастаў з кішэні сшытак,— Баявое распараджэнне з палка. На атаку.

Камбат узяў сшытак, напалову спісаны знаёмым пісарскім почыркам. Дастаў з сумкі карту. Маркін пасядзеў і, пазяхнуўшы, адкінуўся ў кут на салому.

Наверсе зрабілася ціха-ціха...

## 7

Баявое распараджэнне не шмат дадавала да таго, што было і без яго вядома. Валошын хутка прабег вачмі дзве старонкі рукапіснага тэксту, даўжэй затрымаўся на карце. Спакваля яму стала зразумела, што абхватны манеўр, які прадпісваў камандзір палка, наўрад ці атрымаецца. Для абхвату такой вышыні, як гэта, спатрэбіўся б не адзін батальён і не адна артбатарэя, якая прызначана яго падтрымліваць. Зноў жа суседні за балотам пагорак! На выгляд — гэта была малапрыкметная сярод хмызняку гарбінка, ледзьве азначаная на карце дзвюма гарызанталямі, да таго ж знаходзілася яна далёка за флангам, на суседнім, невядома чыім участку. Але ў выпадку іменна гэтага абхватнага манеўра гарбінка апыналася амаль што ў тыле баявога парадку батальёна, і гэта ўжо насцярожвала. А раптам там — немцы?

Невясёлыя думкі камбата перапыніў рэзкі ўнутраны трэск тэлефона. Чарнаручанка з ахрыплай паспешлівасцю прабуркаў свае пазыўныя і зняў з галавы трубку.

— Вас, таварыш камбат.

У шораху і трэску памех буяў злы нервовы голас камандзіра палка.

— Зноў у вас тое самае! Зноў фокусы, сюрпрызы! Калі гэта скончыцца, Валошын?

— Што вы маеце на ўвазе?

— Чаму вярнулі «карандашоў»? Вы што — не атрымалі загад на «сабантуй»?

— Атрымаў, таварыш дзесяты,— знарок спакойна адказаў камбат.

— Дык у чым жа справа?

— Я вярнуў хворых.

— Што? Хворых? — Гунько знарочыста зарагатаў злым здзеклівым смехам.— Хто табе сказаў, што яны хворыя? Ці не яны самі?

— Ну вядома. У мяне ж доктара няма.

— Слухай, ты... вы там нармальны ці не? Калі вы будзеце такі легкаверны, дык у вас заўтра ў хазяйстве нікога не застанецца.

— Застануцца, таварыш дзесяты. А тыя, што на санчасць глядзяць, мне не патрэбны.

— Як гэта — не патрэбны? Вы разумееце, што вы гаворыце? З кім вы тады будзеце выконваць баявую задачу? Вы прасілі папаўненне. Я вам даў максімум. За кошт іншых, можна сказаць. А вы адмаўляецеся. Я проста не ведаю, як гэта разумець?

Валошын самотна ўздыхнуў, яму зноў станавілася сумна і агоркла ад гэтай бязглуздае спрэчкі.

— Таварыш дзесяты! Вось і аддайце іх тым, каго вы абдзялілі. Мне хопіць.

— Хопіць?

— Да, хопіць.

У трубцы змоўкла, пасля зноў загучала, але ўжо ў новым, болей пагрозлівым тоне.

— Майце на ўвазе, Валошын, я вам заўтра гэта прыпомню. Запросіце падмогі — шыш атрымаеце.

— Не сумняваюся.

— Што?

— Кажу, не сумняваюся. Толькі прасіць не буду.

— Не будзеце?

— Не, не буду.

Трубка змоўкла, і ён ужо хацеў аддаць яе Чарнаручанку, як там зноў паявіўся голас. Голас быў бадзёры, амаль што вясёлы, камбат не адразу пазнаў яго.

— Алё, Валошын. Дык як вы сустрэлі «карандашыкі»?

— Звычайна. Хлебам і соллю,— напаўжартоўна адказаў камбат.

Тут ён не дужа выбіраў выразы — то гаварыў намеснік камандзіра палка па палітчасці маёр Міненка. Адносіны з ім у камбата былі даволі дэмакратычныя.

— Хлеб добрая рэч, але не забывайце і пра харч духоўны.

— Ну, а як жа. Вядома.

— Дык вось што. Трэба пагутарыць з людзьмі. Расказаць пра становішча на франтах. Пра перамогу пад Сталінградам, баявыя поспехі часці. Ды і наогул... Вы ведаеце пра што.

— Вы думаеце, я — палітрук?

— А гэта няважна. Інстытут ваенкомаў адменены. Так што...

— Тым не менш вы-та засталіся. Вось бы і расказалі пра становішча на франтах.

— Ну гэта ты кінь, Валошын,— незадаволена забурчаў бас у трубцы.— Што мне рабіць, я і без цябе ведаю.

Валошын уздыхнуў на поўныя грудзі.

— Таварыш дванаццаты! Няўжо вы думаеце, што ў мяне перад заўтрашнім «сабантуем» няма другіх спраў, як толькі расказваць пра становішча на франтах. Я перад сваім носам яшчэ не разабраўся ў становішчы.

Ён змоўк, у трубцы таксама змоўкла. Пасля Міненка, мабыць, падумаўшы, пагадзіўся:

— Ну добра! Я падашлю лейтэнанта Круглова. Ён правядзе бяседы, а вы ўжо забяспечце людзей.

— Заўтра?

— Чаму заўтра? Сёння.

Гэта ўжо было больш чым занадта. Людзям і без таго заставаўся кароценькі хвосцік ночы, за які дай бог прыплюшчыць вочы на холадзе. А тут — бяседы. І Валошын амаль са злосцю закрычаў у трубку:

— Ну што вы гаворыце, таварыш дванаццаты! Людзі прыбылі з марша. Дашчэнту змораныя. Заўтра... Вы ведаеце, што будзе заўтра. Трэба ім адпачыць ці не? У канцы канцоў...

Нампаліта гэты камбатаў выпад, аднак, мала збянтэжыў. Відаць, ён быў маёру не ў навіну, і той меў на яго даўно гатовы адказ.

— Ну, ну, ну... Так не пойдзе. Мы не можам ні на хвіліну спыняць палітмасавае работы. Мы павінны яе праводзіць у любых умовах. Так патрабуе Вярхоўны Галоўнакамандуючы. Вы разумееце?

Другі раз за сённяшні дзень яму напаміналі патрабаванні Вярхоўнага. Валошын кінуў на скураны футарал трубку і ў злое роспачы прываліўся плячмі да сцюдзёнае сцяны зямлянкі. Ад ягонага крыку на саломе заварушыўся і ўстаў разведчык, падцяўшы ногі, сеў каля скрынак лейтэнант Маркін... Ён прышле лейтэнанта Круглова! Прыслаць Круглова, вядома, няхітрая справа, безадмоўны камсорг і так толькі ўчора пайшоў з ягонага батальёна ў суседні. А вось самога Міненку тут не бачылі, мабыць, ад першага дня наступлення.

А зрэшты, так яно, можа, і лепш. Хай прыходзіць Круглоў, з ім можна будзе дамовіцца і як-небудзь даць ротам магчымасць хоць на пераменку адпачыць перад атакай. Інакш заўтра ад іх не шмат будзе толку. Гэта ён ведаў пэўна.

Разведчык спрасоння пачухаўся, паскрэбся пад пахамі, зняў бот, пачаў перакручваць анучы. Чарнаручанка з маўкліва-незадаволеным выглядам прадзімаў трубку. Маркін запытальна пазіраў на камбата.

— Што ён?

Валошын узяў з долу карту, на якой яшчэ шмат было нявырашана і недадумана з заўтрашняе задачы, і, не паднімаючы позірку на свайго начальніка штаба, сказаў:

— Таварыш Маркін. Адпраўляйцеся ў дзевятую і арганізуйце разведку вышыні «Малой».

Маркін крыху памарудзіў, пасля падперазаўся па паўшубку трафейным рэменем з кірзавым кабурам на баку і моўчкі выйшаў з зямлянкі.

Камбат падумаў, што, бадай, загадаў занадта афіцыйна, гняўлівы лейтэнант мог пакрыўдзіцца. Але цяпер у яго не было

ніякае ахвоты да пачцівасці — злавала начальства, злавалі немцы, злавала няпэўнасць у абстаноўцы. А тут яшчэ ніякае весткі ад разведчыкаў з вышыні. Пара ўжо была б ім вяртацца і дакладваць, ды вось — ні слыху ні дыху.

На гадзінніку пачыналася другая гадзіна ночы.

Тады ён рашуча ўстаў з саломы, тужэй падцягнуў спражку. Трывожнае нецярпенне ўсё ўзмацнялася. У такія хвіліны нясцерпна было заставацца сам-насам, цягнула да людзей, батальёна, і Валошын адхінуў палатку.

— Прыйдзе Гутман, хай застаецца тут.

— Ёсць, таварыш камбат,— згодна адказаў Чарнаручанка.

На НП у бакавой ячэйцы стрымана варушылася цьмя-

ная, ахінутая палаткай постаць — баец зважліва павярнуўся бокам да камбата, звыкла чакаючы ягоных пытанняў. Валошын спыніўся, услухаўся: ноч была ціхая, якая рэдка здараецца на фронце,— прынамсі, паблізу нідзе не стралялі. Недзе збоч чутны былі галасы: але наўрад ці на ягоным участку, мусіць, у бліжнім тыле, у суседзяў.

— Ну што, Прыгуноў?

— Так нічога. Пастралялі трохі ды сціхлі.

— Даўно?

— З паўгадзіны назад. Кулямёт патыркаў-патыркаў і змоўк.

— Ракет не кідалі?

— Дзве ўсяго. Вартавыя, мабыць.

Можа, вартавыя-дзяжурныя, а можа, і баявое ахраненне,— калі засеклі разведчыкаў, тады справа горш. А можа, яны ўжо вярнуліся, ды Самохін марудзіць з дакладам, хоць такое на яго не падобна.

— А там за балотам, з тае высоткі, нічога не было чутна? — запытаў ён у Прыгунова. Той пакруціў галавой.

— Не, нічога, таварыш камбат.

Валошын памаўчаў, услухоўваючыся, і разведчык пачаў абмахвацца, ляпаючы сябе рукавіцамі па лапатках — грэўся.

— Колькі часу, таварыш камбат? Гадзін дванаццаць ёсць?

— Палова другой.

— Ну, праз паўгадзіны падменяць. Пакімарыць крыху да ранку. А раніцай наступлення не чакаецца? — ціха, без асаблівай цікаўнасці запытаў разведчык.

Валошын унутрана паморшчыўся ад непрыемнага цяпер пытання.

— Чакаецца, Прыгуноў. Раніцай атака.

— Да? — не надта нават уражаны, хутчэй з абвыклай пакорай перапытаў Прыгуноў.— Тады горш справа.

Заўтра будзе горш, гэта пэўна, але гаварыць аб тым Валошыну не хацелася — турбавала мноства пытанняў, немалаважных для таго заўтра, і сярод іх цяпер самым пільным быў вынік разведкі нейтралкі і таго бугра за балотам. Мусіць, трэба б даверыцца Маркіну; калі ўжо загадаў, дык не блага было б пачакаць выканання загаду. Але чакаць не хапала трывання. Пастаяўшы яшчэ крыху, Валошын ускочыў каленам на край бруствера і вылез з траншэі.

**8**

Камбат ціха ішоў па касагоры ўніз. Па-ранейшаму было цёмна, напорысты паўночны вецер шапацеў у быльнягу і рэдкім, па ўзмежках, кустоўі. Валошын засцярожліва пазіраў па баках, гатовы да якой неспадзяванкі: усё ж ён быў тут адзін, а ці мала што магло падпільнаваць аднаго на перадавой уначы. Нядоўга было трапіць і ў рукі да немцаў, якія, мусіць, таксама не ўсе цяпер спяць — арганізуюць і абарону, і ахраненне, і пошук разведчыкаў. Зусім не дзіва, калі выйдзеш з КП, а ў роту не прыйдзеш. Куды падзеўся — ніхто і ведаць не будзе.

Мусіць, найгоршае на вайне — гэта недарэчна загінуць.

У дадзеным выпадку палохае нават не сама смерць, а тое, як яе вытлумачаць людзі. Мабыць, знойдуцца і такія, што скажуць: перайшоў да немцаў, як гэта здарылася ўвосень з колішнім іх камандзірам палка Буланавым і ягоным начштаба Алексюком. На змярканні прыехалі конна на КП другога батальёна, пагутарылі, закурылі і выправіліся ў трэці, да якога было кіламетры два логам праз кусцікі. Аднак у трэці яны так і не прыехалі. Прапалі назаўжды, нібы

жартуючы між дзвюма зацяжкамі, быццам іх і не было на зямлі. Пасля хадзілі розныя чуткі-здагадкі, кожная з якіх (апроч хіба самай недарэчнай — наконт здачы ў палон) была верагоднай. І ўсё ж найбольш пэўным здавалася меркаванне, што абодва камандзіры трапілі языкамі да нямецкіх разведчыкаў.

Так, трапіць у бяду было справай няхітрай, нават дужа простай. Хоць бы і цяпер вось, калі ён брыў у цемры зусім адзін, без ардынарца і нават без Джыма. Вядома, з Джымам было б куды спакайней — Джым у такіх выпадках быў незаменны сваёю сабачаю чуйнасцю і амаль не сабачай адданасцю.

Гэты сабака трапіў да яго паўгода таму, у канцы лета пад Селіжаравам, дзе рэшта іхняй разбітай арміі прабівалася з акружэння. Прарыў, пачаты ўдарнай групоўкай, па незразумелай прычыне затрымліваўся, немцы паспелі закрыць прабіты ёю праход, іх мінамётны агонь крышыў стогадовыя хвоі на ўзлеску, дзе разгарнуліся зводныя батальёны другога эшалона, пачаў гарэць лес, і дым усё болей ахутваў падлесак. Калі ўзнялося сонца, асколкам міны, якая выбухнула ў галлі, Валошына параніла ў галаву, і ён, неяк перавязаўшы яе, ляжаў пад хвояй, чакаючы сігналу «наперад». У поўдзень, спакутаваны ад духаты, смагі і болю, пайшоў у глыб лесу пашукаць вады і неўзабаве набрыў на зарослы ляшчыннікам равок з ледзьве жывым у траве ручайком, дзе і ўбачыў гэтага, невядома адкуль прыбрыўшага сюды, сабаку. Збочыўшы худы зад і шырока расставіўшы пярэднія лапы, Джым сядзеў над ручаём і з пакутным адчаем у вачах пазіраў на чалавека. Валошын напіўся сам, набраў цёплай вады ў трафейную пляшку і, спакойна падышоўшы да сабакі, асцярожна пагладзіў яго. Сабака нават не ўхінуўся ад яго рукі, і Валошын убачыў, што задняя яго лапа перабіта асколкам. У кішэні ў капітана была рэштка бінта, якім той асцярожна перабінтаваў пералом, затым, выламаўшы з ляшчыны дзве тонкія палачкі, наклаў іх замест шын на лапу і зноў туга абматаў бінтам. Сабака асцярожна пераступіў раз і другі і з раптам ажывелым выглядам пабрыў за чалавекам.

Ён не адставаў ад капітана да вечара. У часе ашалелага начнога прарыву ў грымоцці выбухаў і мільгаценні трас ненадоўга прапаў, але калі ранкам рэшта групоўкі прарвалася цераз нямецкія пазіцыі, Валошын, на сваё здзіўленне, убачыў побач і гэтага кульгавага сабаку, які затым упарта не хацеў разлучацца са сваім выратоўцам. Валошын накарміў яго ля першай жа палявой кухні, дзе першы раз за некалькі дзён паеў сам, перавязаў лапу ў санчасці, дзе перавязвалі і яго, і павёў у тыл на пункт збору і фарміроўкі. Лапа ў сабакі зраслася надзіва хутка, і ён ні на крок не адставаў ад свайго выратоўцы. Часам у іх абодвух здараліся непрыемнасці з начальствам, але неяк усё абыходзілася во да сённяшняй ночы.

Узрушаны многім з таго, што адбывалася сёння ў зямлянцы, занепакоены лёсам батальёна і заўтрашняй атакай, Валошын спярша неяк не дужа і адчуў страту Джыма. Аднак з цягам часу жаль па сабаку ўвачавідкі рос у ім, даходзячы часам да роспачы. Як ні дзіўна, а Джым быў для яго чымсь глыбока асабістым, амаль інтымным, нечым з таго, што начыста вытручвала ў чалавеку вайна і што можна было хіба адчуць і амаль немагчыма сфармуляваць словамі… На жаль, ён не мог пярэчыць генералу, для якога гэты сабака з'явіўся сёння, безумоўна, прадметам хвіліннага захаплення, уладарнага капрызу начальніка — не болей.

Восьмая размяшчалася ўнізе пад касагорам, раскінуўшы па ўзмежку радок адзіночных ячэек. Сярод іх ліпела і цесненькая, прыкрытая плашч-палаткай зямлянка камандзіра роты, у якой размяшчаўся Муратаў і грэліся па чарзе байцы. Асцярожна ступаючы, камбат паціху падышоў з тылу да ледзьве прыкметнага бугарка, з-пад якога сцішана даносіліся галасы. Ён чакаў знайсці тут Маркіна і Муратава, але замест іх у зямлянцы аказалася некалькі байцоў, ледзьве асветленых кволым агеньчыкам трафейнае плошкі. Двое, што сядзелі бліжэй да святла, накінуўшы на голыя плечы шынялі, уважліва абшуквалі на каленях вывернутыя споднія кашулі. Камбат з намаганнем прасунуў галаву ў вузенькую шчыліну ля палаткі —

байцы сарамліва сумеліся, захінаючы вопратку.

— Што — грызуны заелі?

— Кусаюцца, халера на іх.

— Дзе камандзір роты?

— Пайшоў. З начальнікам штаба,— адказаў бліжэйшы да выхаду баец, нацягваючы палу шыняля на белае худое плячо.

Валошын захінуў палаткай уваход і ўстаў. Значыць, Маркін ужо распачаў дзейнічаць. Увогуле начальнік штаба чалавек стаpанны, даручыўшы яму што-небудзь, можна быць упэўненым, што валыніць не будзе. Праўда, дзейнасць яго звычайна прасціралася строга ў межах загаду. Калі ж здаралася, што трэба нешта ўзяць на сваю адказнасць (тым болей рызыку) або праявіць ініцыятыву, таксама, як правіла, звязаную з рызыкай, тут ужо ад Маркіна не варта чакаць многага — будзе роўна столькі, колькі адмерана распараджэннем начальства.

Зрэшты, Маркіна можна было зразумець: не кожны на вайне, трапіўшы ў такія свалачныя выкруты лёсу, як ягоны начштаба, здолеў захаваць душэўную нязломнасць. Камбат ужо ведаў з жыцця і з свае камандзірскае практыкі, што людзі ёсць людзі і патрабаваць ад іх таго, на што яны менш за ўсё здольны, недарэчна па меншай меры. Мусіць, трэба прымаць іх такімі, як іх стварыла жыццё, скарыстоўваючы для справы тыя з іх дзелавых якасцей, якія толькі і можна выкарыстаць.

Стоячы ў выкапаным праходзе, Валошын прыслухаўся, знізу ўгору агледзеўся па баках — непадалёк, здаецца, хтосьці маячыў на ледзь-ледзь светлаватым фоне. Той, мусіць, пазнаў камбата і азваўся сіплым прастуджаным голасам:

— Яны там, ля сяржанта. Камроты там і начальнік штаба.

Камбат паціху пайшоў уздоўж ланцуга ад аднае адзіноч-

най ячэйкі да наступнай. Амаль ва ўсіх іх варушыліся байцы, дзе-колечы іх было па двое — сышліся пакурыць ды пагрэцца. Бадай ніводзін не спаў — зрэшты, мудрона было заснуць на такой халадэчы. Аднак гэта звечара. Камбат ведаў: пад ранак нават і тут іх адолее сон, наколькі хопіць трывання, пачнуць драмаць, змагаючыся са сцюжай. Зусім без сну чалавеку нельга, нават і тады, калі ён на вайне і сядзіць у ста кроках ад немцаў.

Урэшце ля пятай ці шостай ячэйкі ён пачуў стрыманую размову, якая, як толькі яго заўважылі ў цемры, адразу прыціхла. У доле ля бруствера цямнела некалькі постацей — ён падышоў бліжай і спыніўся.

— Ну што, лейтэнант Маркін?

Маркін таропка ўстаў, падняўся таксама Муратаў і яшчэ нехта з байцоў восьмай.

— Паслалі, таварыш камбат. Траіх. Праз гадзіну-паўтары павінны вярнуцца.

— Так. А з сёмай не чуваць нічога?

— Не, не чуваць.

— Пашліце байца да лейтэнанта Самохіна. Хай перадасць: я чакаю вынікаў разведкі.

— Ёсць!

Муратаў крута павярнуўся і некуды пабег, Валошыну гэта не спадабалася: куды ён бегае? Ці ў яго няма ардынарца або хоць сувязнога, каб паслаць некага выклікаць. Аднак той факт, што сам ён прыйшоў сюды адзін, устрымаў яго ад папроку ротнаму. Маркін, быццам чагось чакаючы, стаяў насупраць.

— Вы адпраўляйцеся на КП,— сказаў яму Валошын.— Калі што — я буду тут.

Начштаба зрабіў крок убок, але перш чым пайсці, растлумачыў, нібыта баючыся, каб камбат што-небудзь зразумеў не так:

— Тых я добра праінструктаваў. У роце назначылі слухачоў назіральнікаў. Так што ўсё павінна быць у парадку.

— Добра.

Маркін няспешна, неяк быццам апанураны чымсь, патупаў ад акопчыка на пагорак і хутка знік у цемры. Не паварочваючыся ў той бок, камбат нейкі час яшчэ чуў ягоныя крокі ў мерзлым доле, адзін раз нават моцна дзёўбнула штось,— мабыць, Маркін спатыкнуўся, затым усё сціхла. Маркін ніколі асабліва не злаваў яго, ніколі не аспрэчваў яго распараджэнняў, спраўна выконваў усе патрабаванні з палка, але заставацца дзе-небудзь удвух з ім Валошыну часам было амаль непрыемна. Чымсь начальнік штаба выклікаў да сябе нейкую неўсвядомленую насцярожанасць, недаўменнасць, было такое ўражанне, нібы чакаў што ад камбата, але што — той не мог зразумець. Праўда, Валошын мала думаў над тым, але прыцьмелая непрыемнасць, што ішла ад лейтэнанта, стала амаль звыклай у яго пачуццях да Маркіна, хоць Валошын яшчэ нічым не выказаў яё.

Затуліўшыся ад ветру, камбат ціха стаяў ля бруствера, агорнуты ноччу, сцюжай і цішынёй. У дваццаці кроках наперадзе скупа бялеў у хмыззі лёд — шэрыя, аплаўленыя, з умерзлай травой плахі паміж куп'я, за якім на голым крутаватым схіле, прытаіўшыся, рабілі сваю справу немцы. І, дзіўная справа, тут, дзе было куды бліжэй да іх, чым ад яго КП, камбату адчувалася куды як спакайней, тут знікала адзінота, заступала адчуванне туташнасці з уласцівай яму ўтульнай надзейнасцю, якую магчыма адчуць толькі дома. Так, ягоны батальён здаўна і звыкла быў яму домам, ягонай крэпасцю і аховай — іншага для сябе прытулку на вайне ён не ведаў.

Калі вярнуўся Муратаў, ён ціха стаяў ля ягонага акопчыка, і лейтэнант, мусіць, падумаўшы, што камбат

нешта слухае, сціпла спыніўся побач. Валошын сапраўды ўслухоўваўся, чакаючы якога сігналу з-пад змрочных гарбоў за балотам, але адтуль не далятала ні гуку, адно толькі на балоце шастаў голым кустоўем вецер. Разведчыкі нібы прапалі — ці то яшчэ дабіраліся да нямецкай пазіцыі, ці, можа, ляжалі дзе каля яе.

Валошын няспешна пайшоў па-над ланцугом у напрамку да роты Кізевіча, Муратаў са зважлівай маўклівасцю скіраваў следам.

— Як вы размеркавалі папаўненне? — напаўголаса запытаў камбат.

— Усіх у адын узвод.

— Усіх? А камандзір узвода?

— Сам буду камандыр узвода. Буду под рукой дэржаць.

Сам — гэта ўжо стыль Муратава. Не любіць чакаць, пе-

ракладваць на іншых. Зрэшты, цяпер, мабыць, не было на каго і перакласці: з узводных сярэдніх камандзіраў ніводнага, сяржантаў на роту два чалавекі, можа, так будзе і лепш, калі сам.

Недзе павінен быў пачацца ланцуг дзевятай, разрыву ў яе з восьмай амаль не было. Ля акопчыка сядзелі і стаялі, павылазіўшы на паверхню, байцы, некаторыя капалі, відаць, каб не мерзнуць дарма. Камбата з камандзірам роты пазнавалі здаля, па размове — мусіць, тут былі стараслужачыя.

— Ну і які настрой у новенькіх?

— А, какой настрой! Прысталі, спаць хацят. Акапывацца не хацят.

— Акапацца трэба.

— Я сказал: одын ячэйка на два чалавек.

— Во як?

Вядома, гэта было няправільна. Двум чалавекам у адной ячэйцы можна хіба што хавацца ад артабстрэлу, але не самім весці агонь. Трэба б акапацца як мае быць — кожнаму па ячэйцы ў рост, калі б толькі быў час. А так, вядома, ноч пракалупаюцца ў зямлі, а заўтра ў баі будуць як сонныя мухі,— што тады з іх возьмеш?

Муратаў засяроджана маўчаў, нібы пакрыўджаны, хоць крыўдзіцца, здаецца, не было за што. Валошын гэта адчуў, пачакаў крыху і запытаў:

— А ў вас як настрой?

— А што настрой! Плахой настрой,— проста сказаў лейтэнант.

— Гэта чаму?

— Часы сталі.

— Якія часы?

— Мой часы. Взял і стал. Паслушал — стаіт. Завёл — стаіт.

— Ну і што? — падумаўшы, запытаў камбат.

— Так, нічего,— скупа адказаў ротны.

— Значыць, барахло часы. Кіраўскія?

— Нямецкія.

— Ну нямецкія — штампоўка. Гэта не часы, а дрэнь. Мае вось не спыняюцца.

Ён дастаў з кішэні важкаваты круглячок трафейнага швейцарскага гадзінніка, звыкла адчуваючы пад рукой жвавае металічнае цоканне яго механізма. На цыферблаце, які заззяў у цемры зялёнымі іскрынкамі, было без малага дзве гадзіны ночы.

— Мой барахло,— пагадзіўся Муратаў.— У Рубцова взял. Артподготовка был, Рубцов пасмотрел: стоят. Говорит, на, Муратов, мне уже не понадобятся. В атаке пуля

попал под каску.

Сэнс гэтых звычайна сказаных слоў непрыемна-пра чувальным дотыкам слізгануў па адчуваннях. Валошын унутрана сцяўся, але тут жа валявым намаганнем перасіліў сябе і амаль бадзёра зазначыў:

— Глупства. Простое супадзенне — не болей.

Сам сабе ён падумаў, што колькі ўжо загінула ў батальёне і з гадзіннікамі, якія не спыняліся, і без гадзіннікаў наогул, і з дрэнным прадчуваннем, і з самым лепшым. Аднак ён не паспеў колькі-небудзь пераканаўча супакоіць ротнага, калі непадалёк ля светлае плямы свежанакапанай зямлі заварушылася знаёмая сутулаватая постаць у паўшубку. Гэта быў камандзір дзевятай Кізевіч. Той таксама пазнаў камбата і, павярнуўшыся да яго, прычакаў.

— Ці не ў пяць ужо атака? — запытаў ён хрыплавата-іранічным басам.

— Атака ў свой час,— суха сказаў камбат, прыпыняючыся,— Як вы забяспечылі фланг?

— Фланг? — перапытаў Кізевіч і пераступіў ля бруствера.

Можна было падумаць, што ён толькі цяпер успомніў пра гэтае ліха — фланг, які быў для яго роты адкрыты ва ўвесь белы свет, і не ведаў, як бы яму адказаць.

— Ну так, фланг,— пацвердзіў Валошын і цярпліва счакаў паўхвіліны, звыклы да медзведзяватай нетаропкасці і камроты-9.

— Павярнуў два ўзводы, і капаюць.

— А папаўненне?

— І папаўненне капае. А што ж яму — спаць?

— Папаўненню дайце адпачыць. Хай старыя папрацуюць.

Кізевіч змоўчаў, і Валошын падумаў, што ўвогуле, калі мець на ўвазе заўтрашнюю задачу, дык капаць адсечную пазіцыю на фланзе, можа, і не было патрэбы. Але хай. Можа так здарыцца, што спатрэбіцца і адсечная, тым болей што і Кізевіч таксама пра тое вось не забыўся.

— Вазьміце для ўзмацнення ўзвод ДШК.

— Гэта всягда пажаласта,— дабрадушна азваўся Кізевіч.

— І глядзіце мне фланг. Атака само сабой. А фланг — ваша асобая задача.

— Будзе забяспечана,— усё з той жа іранічнай лёгкасцю запэўніў Кізевіч.

Штосьці западозрыўшы ў паводзінах камроты, Валошын зрабіў крок наперад і ледзьве не ўпрытык стаў перад ім. Кізевіч, блажэнна ўсміхаючыся ў цемры, нават не саступіў убок.

— Зноў? — са сцішанай злосцю запытаў камбат.

— Наркомаўскія. Дальбог, не болей.

— Здаецца, вы ў мяне дастукаецеся,— пасля паўзы ціха зазначыў Валошын.

Кізевіч паспрабаваў пакрыўдзіцца.

— Ну, скажаце тоже. Што я — маленькі? На сцюжы толькі, абы для сугрэўкі.

Гэтае тлумачэнне ён чуў ужо не першы раз, як ні ўпершыню папярэджваў Кізевіча, які ўвогуле быў не благі камроты, каб вось не гэтая трошкі празмерная схільнасць да «наркомаўскіх».

Нехта ў цемры кідаў цераз бруствер зямлю, разы два яе ацяробкі абсыпалі боты камбата. Ззаду стаяў, чагось чакаючы, маўклівы лейтэнант Муратаў, і насупраць лена перамінаўся з нагі на нагу відавочна задаволены

сваім хмельнаватым адчуваннем Кізевіч. Валошына амаль раздражняла гэтая яго задаволеная саманадзейнасць — столькі невядомага чакала батальён заўтра на ранку, а гэты, глядзі, якая лагоднасць!

— Вось што,— сказаў ён, падумаўшы.— Вазьміце адзін ДШК. Другі пойдзе ў роту Самохіна. Кізевіч адразу знерухомеў.

— Ну, гэта ўжо... Таварыш капітан: у мяне ж фланг. Самі казалі...

— Вось адным кулямётам і забяспечыце фланг,— незгаворліва адрэзаў камбат і павярнуўся да тылавога пагорка.— Дзе Ярашчук? Здаецца, недзе тут быў...

**9**

Кулямётны ўзвод Ярашчука размяшчаўся недзе ў старых варонках між дзевятай і лесам, але цяпер, у глухім цемрыве ночы, камбат скалясіў уздоўж і ўпоперак амаль увесь схіл пагорка, і марна: Ярашчук нібы скрозь зямлю праваліўся. Валошын ужо гатовы быў напалохацца: ці не здарылася што з прыдадзеным яму ўзводам, як успомніў, што непадалёк ад Ярашчука быў невялічкі хамлак алешніку на ўзмежку, які цяпер таксама недзе прапаў уначы. Значыць, ён заблудзіўся. Памеркаваўшы, камбат узяў вышай, пад лес, улез у нейкае хмыззё, паабдзіраў рукі і твар, пакуль выбраўся з яго, перайшоў у раўку падталы язык хрупасткага на марозе, шызага ў цемры снегу і, рызыкуючы павывіхваць у костачках ногі, са сляпой таропкасцю перайшоў клін змерзлай раллі. І тады ён пачуў ціхі голас убаку, неўзабаве яго аклікнулі, і ён ужо падумаў, што знайшоў прапажу, як аклікнулі зноў:

— Стой! Хто ідзе?

— Свае.

— Пропуск?

— Баёк.

— Стой!

— У чым справа?

— Пропуск?

Што за ліха, падумаў камбат, здаецца, зайшоў не туды, ці не на ўчастак суседняга батальёна, дзе, ведама, на сёння быў іншы пропуск. Ён спыніўся, з непрыемнасцю адчуваючы ў цемры настаўлены на яго аўтамат чалавека ў плашч-палатцы, які неўзабаве крыкнуў у цемру:

— Таварыш сяржант Мацяйчук!

— Што такое?

Камбат ледзьве не вылаяўся з прыкрасці, гэта была батарэя Іванова. Ён пазнаў голас ягонага ардынарца, які ўжо выбіраўся аднекуль у цемры, мабыць, з зямлянкі.

— Хто такі?

— Гэта я, Мацяйчук

— А, таварыш капітан? Праходзьце,— пазнаў яго Мацяйчук, які ў адной гімнасцёрцы падышоў да камбата, данёсшы да яго пах дыму і яшчэ нечага прыемна-харчовага.

Вартавы з маўклівай незадаволенасцю ўзяў аўтамат на плячо.

— Капітан тут?

— Тут. Праходзьце.

Ён праціснуўся праз вузкі праход у зямлянку, у якой было цёпла да гарачыні і ля ўвахода на зямлі імклівым полымем сіпела пад кафейнікам паяльная лямпа. Насупраць на засланых лапнікам нарах з нейкаю кніжкай у руках ляжаў камандзір батарэі Іваноў. У зямлянцы пахла бензінавым чадам і кавай. Маленькая

акумулятарная лямпачка з-пад столі няблага асвятляла гэта ўтульнае жытло.

— Прывет, бог вайны!

— Салют, салют, царыца палёў!

Камбаты абмяняліся жартоўнымі прывітаннямі, і Іваноў сказаў:

— Якраз у пару, будзем каву піць.

— Ты ўсё яшчэ каву п'еш? Зайздрошчу, зайздрошчу,— Валошын, угнуўшы голаў, прымасціўся ля ног камандзіра батарэі — А я свой узвод ДШК згубіў. Хадзіў, хадзіў...

— Ды ён тут, перад намі. Праз якіх сто метраў,— сказаў ад лямпы Мацяйчук.— Магу паказаць.

— Ладна, трошкі пагрэюся ў вас,— сказаў Валошын, пацірaючы азяблыя рукі,— Дык як настрой, бог вайны?

— Адпаведна абставінам. Адпаведна абставінам, дружа.

З капітанам Івановым яны былі знаёмыя яшчэ да вайны,

калі камандзірамі ўзводаў служылі ў адным гарнізоне і разам удзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы. Пасля сустрэліся ў акружэнні і адносна шчасліва перажылі яго, хоць камбат Іваноў і выйшаў тады з чатырма байцамі без ніводнай гарматы. З першага дня наступлення гаўбічная батарэя Іванова, выдзеленая з артпалка падтрымліваць батальён Валошына, і, як толькі выпадала магчымасць, Валошын не прамінаў выпадку сустрэцца са старым сябрам, абмеркаваць абстаноўку, увязаць сякія-такія элементы ўзаемадзеяння, а то і проста пагаварыць як з роўным, чаго ён не мог дазволіць сабе ў батальёне, дзе для ўсіх быў начальнікам, або ў палку, дзе, наадварот, для яго былі ўсе начальствам.

— Што чытаеш? — зазірнуў Валошын на вокладку кніжкі,— А, Ясенін!

— Ясенін, ага. Уяві сабе, хлопцы ў немца ўзялі. У забітага. Навошта яму быў Ясенін — зразумець не магу.

— Можа, па-руску чытаў?

— Можа... Гэта, братка ты мой, паэт. Паэзія, музыка, пачуццё! Шкада, да вайны я яго і не прачытаў як след.

— Да вайны яго не чыталі. Пра яго затое чыталі: кулацкі паэт і так далей.

— Гэта ў нечых вачах — кулацкі. А на мой погляд самы што ні на ёсць чалавечы. Во, паслухай: «Ты жива еще, моя старушка? Жив и я. Привет тебе, привет! Пусть струится над твоей избушкой...»

— «Тот вечерний несказанный свет»,— скончыў Валошын.— Гэта я ведаю.

— Або во яшчэ. Гэта ўжо пра нас: «Струилися запахи сладко, и в мыслях был пьяный туман... Теперь бы с красивой солдаткой завесть хорошо бы роман...» Ну як, таварыш капітан?

— У самы акурат,— сказаў Валошын.— Толькі рамана і не хапае. Чуў, у шэсць трыццаць атака?

Іваноў з прытоеным уздыхам адклаў кніжку, і добрае ажыўленне ўраз знікла з яго бялявага твару.

— Чуў, як жа. Толькі што званіла маё начальства. Папярэджвала.

Ён спусціў з нараў ногі і пачаў нацягваць на трафейныя ваўняныя шкарпэткі хромавыя боты. Ардынарац прыглушыў фыркат лямпы і паставіў на зямлю кафейнік.

— А як са снарадамі? — запытаў Валошын.

— Амаль ніяк. Распарадзіліся пазычыць у суседзяў. Паслаў хлопцаў, павінны прывезці штук сорак. Значыць, усяго будзе па дваццаць на гаўбіцу.

— Так, для маральнай падтрымкі,— нявесела зазначыў Валошын.

— Для маральнай, ага. Зноў жа, я не магу расстраляць усе за адзін раз. Мне ж трэба і на выпадак чаго. Для самаабароны.

— Само сабой...

Тым часам Мацяйчук наліў з кафейніка дзве эмаліраваныя кварты, адставіў у кут трыногу, Іваноў замест стала пасунуў на нарах квадратную дошку планшэта ў чахле, на якую паставіў каву. Пасля ардынарац выцягнуў з рэчмяшка некалькі рудых абкрышаных сухароў.

— Давай кейфанём,— з гасціннасцю запрасіў Іваноў.— Знаеш, люблю маленькія прыемнасці, якія можна сабе дазволіць.

— Ды ўжо ж, толькі і суцяшэння. А ў нас і гэтага няма. Пяхота! Не тое што вы — арыстакраты вайны: пярына, кава, ППЖ яшчэ. Поўны камфорт!

— ППЖ не трымаем, сам ведаеш. А іншае чаму не мець? Была б цяга.

— І цягі хапае. Аўтамашыны, трактары. А ў мяне вунь сем кляч на батальён. Перш чым якую засядлаць, трэба падумаць, куды паклажу дзяваць.

— Затое ў цябе Джым! — выпаліў Іваноў.

— Быў. Няма ўжо Джыма.

— Што? Падстрэлілі?

— Генерал забраў. Папаўся на вочы.

— Э, сам вінаваты! Дзівак! Хіба можна такога пса генералам паказваць? Прасіў, мне не аддаў. Ну і во...

Кава была агняна-гарачая і патыхала бензінным чадам. Валошын з'еў пару сухароў, угрэўся, яму тут па-хатняму

стала добра і сцішана са старым субяседнікам. Калі б толькі не заўтрашні клопат, які цяжкім каменем ляжаў на душы, ні на хвіліну не даючы пра яго забыцца.

— Яшчэ наліць? — запытаў Іваноў.— Мацяйчук!

— Не, дзякуй. Я, знаеш, болей чай люблю. Слухай, а ў цябе траншэя прыстрэлена?

— Рэпер ёсць,— сказаў Іваноў.— За гэта можаш не баяцца. Дакладнасць гарантуецца.

— Знаеш, не бахай зашмат упачатку. Упачатку я ўжо як-небудзь і без таго. Мне пасля трэба. Там, на гары. Як зачэпімся.

— З дарагой бы душой. Але ж начальства запатрабуе. Яму ж, сам ведаеш, галоўнае, у пачатку каб грукату болей. Каб залп быў.

— Залп, да. А мне не залп трэба. Мне б хоць па пары снарадаў на кулямёт. Яны ж, ведаеш, маюць звычай з таго свету вяртацца. Здаецца, ты яго ўжо разбіў, два пападанні было, а ён праз пяць хвілін зноў страляе.

— Замяняемасць нумароў, што ж ты хочаш! — казаў Іваноў, беручыся за другую кварту кавы.— Агнявая падрыхтоўка.

— Падрыхтовачка яшчэ тая, гэта я ведаю. Пад Звонавам мае ўзялі ў палон іхняга снайпера. Два крыжы на кіцелі, можаш уявіць, колькі настраляў нашага брата. І ўсяго месячныя курсы скончыў. Пытаюся, як вучыліся? Проста, кажа. Кожны дзень шэсць гадзін агнявой падрыхтоўкі на палігоне. Во практыка! А ў нас?

— А ў нас чорт ведае чаго толькі няма ў праграмах. Вунь артылерыстаў вучаць. І ПХЗ, і абавязкова страявая. Быццам на фронце — парады.

— Нягожа хваліць ворага, але так,— пагадзіўся Валошын.

Ён ужо ведаў у характары Іванова ягоную рысу да са-

макрытычнасці ў адносінах ці артылерыі, ці нашых парадкаў, ці нават самога сябе і прывык да яе. Яна не калола іх вайсковага гонару і толькі сведчыла пра назіральнасць сябра і яго смеласць, ні на кога не зважаючы, выказаць праўду. Валошын жа так выказацца мог толькі ў крайнім выпадку.

— А чаму — нягожа? Наконт вайны яны майстры. Нічога не скажаш.

— Так,— без асаблівай ахвоты пагадзіўся Валошын.— Асабліва што датычыць пяхоты. Вунь колькі ў нас было да вайны статутаў па тактыцы, і ўсе насмарку. Цяпер у пажарным парадку напісалі новыя: і БУП-1, і БУП-2. І ўсё на аснове, якую яны нам навязалі ў вайне.

— Так, так. Хаця гэта ў вас, у царыцы палёў. У нас, у артылерыі, амаль усё па-ранейшаму. Па-даваеннаму.

— У вас што — у вас матэматыка. Функцыі ўглоў адны і тыя ж, у нас і ў немцаў.

— Калі б яшчэ да гэтай матэматыкі болей снарадаў,— уздыхнуў Іваноў.— А то ну што за работа — на кожны стрэл дазвол у камандзіра дывізіёна прасіць! І так ужо ашчаджаеш, як скупы рыцар. Над кожным снарадам трасешся.

— Гэта так. Ну што ж, дружа, добра ў цябе, але трэба ісці. Паслаў разведчыкаў — чакаю выніку. Хоць бы касагор не замініравалі. А то заўтра будзе нечаканка.

Валошын угледзеўся ў свой швейцарскі гадзіннік — было два трыццаць.

— Не дай бог — міны,— сказаў Іваноў — Ведаю.

— Пад агнём паспрабуй тады, размініруй.

— «Шпрынгены» гэтыя — чорт бы іх узяў. У мяне ж во камандзір узвода ўпраўлення на міне падарваўся. Цяпер узводам Мацяйчук камандуе.

Валошын устаў, зашчапіў на кручок каўнер шыняля.

Томік вершаў Ясеніна з заламанай старонкай ляжаў на лапніку, і ён раптам згроб яго вялікай рукой.

— Знаеш, ты ўсё роўна спаць будзеш, а мне не да сну. Хоць, можа, душу адвяду,— прабачліва сказаў ён. Іваноў паморшчыўся, але не запярэчыў.

— Толькі з умовай: вярнуць. А то тут у мяне чарга...

Яны абодва выйшлі з зямлянкі на сцюжу ветранай ночы,

моўчкі паглядзелі ўніз на вышыню, якой цяпер зусім не было відаць. Навокал ляжала санлявае наваколле, поўнае далёкіх і блізкіх няўцямных гукаў, ветру і сцюжы, зводдаль цямнела насцярожаная постаць вартавога.

— Ну што ж, дзякуй за каву, за гутарку,— сказаў Валошын і з ціхенькай журбой паціснуў цёплую руку сябра.— Заўтра іншая гутарка будзе.

— Заўтра іншая,— пагадзіўся Іваноў.— Ну як-небудзь. Жадаю поспеху. А зрэшты, што жадаць, разам жа будзем.

**10**

З НП Іванова ён пайшоў да свайго ланцуга, мяркуючы неўзабаве наткнуцца на кулямёты Ярашчука. Але гэты Ярашчук, мусіць, быў сёння няўлоўны. Камбат прайшоў па схіле да нізу, да самага балота, і нідзе не знайшоў кулямёты. Ён зноў прамінуў іх і зразумеў гэта, калі згледзеў у цемры адзіночныя ячэйкі нейкае з сваіх рот, далей чарнела ў ночы хмыззё, між якога шарэлі плямы балотнага лёду. Яго ніхто не аклікнуў, але ён сам пачуў сцішаны ўначы голас Муратава і здагадаўся, што гэта вярнуліся разведчыкі, якіх пасылаў Маркін.

— Трэба далажыць на КП. Дзе старшына? Ідзіце на КП.

— Не трэба на КП,— сказаў Валошын, падыходзячы да некалькіх цёмных постацей.— Усе вярнуліся?

— Усе, таварыш камбат,— ціха азваўся Муратаў.— На фланговым пагорку нашы.

Валошын падышоў бліжай, трое байцоў у шапках з адтапыранымі вушамі насцярожана стаялі з вінтоўкамі ля нагі.

— Былі на вышыні? — запытаў ён.

— Не, таварыш камбат. Да вышыні не далезлі, дрыгва там. І так во па калена,— сказаў адзін з байцоў і, расхінуўшы полы шыняля, паказаў цёмныя, мусіць, мокрыя, сцёгны.— Але мы чулі.

— Што вы чулі?

— Нашыя там. Капаюць акоп. Чулі, лаюцца, і ўсё такое. Па-нашаму, па-руску.

Валошын прымоўк. Тое, што там нашы, а не немцы, было няблага, але такі метад разведкі гэтых разведчыкаў — на слых — яўна не задавольваў яго. Мусіць, заўважыўшы недавер камбата да вынікаў свае работы, усё той жа баец з жывасцю расказаў:

— Улезлі ў кусты, сядзім, чуем, яны там зямлю дзяўбуць. Хацелі ўжо вылезці па вадзе, ды чуем, па-нашаму размаўляюць: «Валодзя, куды ты, кажа, падсумкі дзяваў?» — «На шынялі, кажа, мае і твае». Ну, ведама ж, нашы,— з упэўненасцю скончыў баец.

— Калі нашы, тады трэба ўстанавіць з імі сувязь,— сказаў камбат.— Дамовіцца пра ўзаемадзеянне на заўтра. Паклічце мне лейтэнанта Кізевіча.

— Ёсць!

Баец пабег у кірунку да дзевятай роты, а Валошын задуменна паўзіраўся ў той бок, за балотца. Ведама, у цемры ён нічога не ўбачыў, але ён ведаў, што пагорак там быў маленькі, сілу на ім вялікую не размесціш, хіба які ўзвод мог бы там акапацца і памагчы батальёну агнём па вышыні «Вялікай». Толькі хто яго мог заняць — няўжо падышоў авангард суседняй арміі? Гэта было б

здорава.

Чакаючы Кізевіча, Валошын прысеў на цвёрдыя камякі бруствера адзіночнай ячэйкі, некалькі байцоў, што стаялі каля яго, пачалі стукаць ціхенька, але настойліва чаравікамі — грэць ногі.

— Што там, сапраўды нельга прайсці? — запытаў камбат.

— Вада там, таварыш капітан. Не ўмерзла. Мы пайшлі — праваліліся, насілу вылезлі.

— А як жа тыя прайшлі?

— А хто знае? Можа, дзе і ёсць праход. А ўночы як знойдзеш?

«Так, так,— думаў камбат.— Наўрад ці іх там многа. Можа, сакрэт ад суседзяў? Але ўсё роўна трэба звязацца. Трэба кагось паслаць».

Калі валюхастым крокам падышоў з цемры Кізевіч, Валошын сказаў:

— У вас ёсць талковы сяржант?

— Гэта навошта?

— Устанавіць сувязь з вышынёй «Малой». За балотцам.

— Што ўстанаўліваць! — цепнуў плячом Кізевіч — Там нікога няма.

— Як няма? Во людзі прыйшлі, чулі — галасы. Нашых, рускіх.

— Што яны маглі чуць? Я да вечара туды глядзеў — ніводнай жывой душы. Можа, яны ў цемры не на той бугор вылезлі? Можа, правей узялі, там праўда нехта поўзаў увечары.

Камбат памаўчаў, не ведаючы, што рашыць. Упэўнены тон камандзіра роты яго бянтэжыў, але і хлопцы таксама былі ўпэўнены, што ішлі правільна.

— Мы ж прама ішлі. Цераз кусты. Пад самы бугор. Але ж там вада, не ўмерзла. Балота.

— Вось іменна балота. Залезеш — не вылезеш,— сказаў Кізевіч і адвярнуўся.

— Тым не менш пашліце сяржанта з байцом. Хай дакладна ўстановіць: хто і колькі.

— Сяржанта! У мяне іх зашмат?

— Самахвалаў у вас ёсць? Яго і пашліце.

Кізевіч пастаяў моўчкі і пайшоў у ноч, несучы незадаволенасць новым загадам. Валошыну гэта не дужа спадабалася, але камандзір дзевятай меў асобны характар і рабіў так не першы ўжо раз. Да таго ж ён гадоў на пяць быў старэйшы за Валошына, і гэтая акалічнасць трохі стрымлівала камбата ў падобных сітуацыях.

Валошын коратка развітаўся з маўклівым, заклапочаным сёння Муратавым і пайшоў у роту Самохіна — важна было дазнацца наконт мінаў на той, галоўнай іх, вышыні. Хоць ён і разумеў, што ўночы сілай двух байцоў не шмат чаго разведаеш на даволі шырокім умерзлым схіле, але ўсё ж. Па крайняй меры, хоць адна знойдзеная там міна дала б камандзіру батальёна знак, што вышыня замініравана і што без яе размініравання нельга пачынаць атакі. Горш, калі яны там нічога не знойдуць і ён заўтра налезе з батальёнам на міннае поле.

На гэты раз камбат лёгка знайшоў у цемры па-над балотцам маленькі бліндаж Самохіна, ля якога яго, аднак, сустрэў старшына Грак. Ён сказаў, што лейтэнант прылёг адпачыць і пакінуў яго, Грака, дачакацца разведчыкаў з вышыні, якія ўсё яшчэ не вярнуліся. Камбат хвіліну маўкліва пастаяў разам са старшыной, паслухаў, але на вышыні па-ранейшаму было глуха і цёмна, ніводзін гук адтуль не далятаў супраць ветру, і Валошын рашыў вярнуцца на свой КП.

— Прыйдуць разведчыкі,— адразу ка мне.

— Ёсць, таварыш камбат!

Справа з разведкай нечакана затрымлівалася на абодвух напрамках, і гэта не магло не турбаваць камбата. Асабліва непакоіла вышыня — нешта дужа доўга не было сяржанта, хоць бы ён там дзе не наткнуўся на баявое ахраненне немцаў, думаў Валошын. Ідучы ў цемры на свой пагорак з НП, ён некалькі разоў спыняўся і ўслухоўваўся. Аднойчы яму здалося, што ён чуе нейкі голас, які даляцеў з вышыні. Але, мусіць, гэта быў голас немцаў, бо калі б яны заўважылі яго разведчыкаў, дык напэўна пачалася б страляніна — без стралянiны ўжо не абышлося б. Але пакуль было ціха, і можна было спадзявацца на ўдачу разведкі.

На НП у траншэі дзяжурыў ужо не Прыгуноў, а Ціток, ён таксама пазнаў камбата і не аклікнуў яго, а толькі паціху затупацеў ботамі, даючы тым знак, што не спіць, назірае і грэецца.

— Ну як — усё ціха? — запытаў Валошын.

— Ціха, таварыш камбат. Толькі машыны гурчаць.

— Дзе гурчаць?

— Ды там, на гарбу гэтым.

— На гарбу і будуць гурчаць. Умацоўваюцца.

Ён прайшоў па траншэі і падняў край палаткі на ўваходзе ў сваё жытла. Цяпер тут было не шмат цяплей, чым знадворку, печка-бітон, мусіць, ужо не гарэла. На яго ўваход у куце ля тэлефоннага апарата заварушыўся, пачаў дзьмухаць у трубку заспаны, з паднятым каўняром Чарнаручанка, побач пад паўшубкам спаў, выцягнуўшы ногі, Гутман, а ля ягонага боку сцяўся намерзлы за сваё дзяжурства Прыгуноў. Ад скрынак падняў санлявы твар Маркін.

— Ну што там, вярнуліся разведчыкі?

Валошын зморана ўладкаваўся на сваім месцы па другі бок скрынак, расшпіліў кручкі каўняра і аслабіў дзягу. Зморанае яго цела, нацёртае вопраткай і рамянямі, прагнула расслабнуцца, выпрастаць ногі, толькі выпрастаць тут не было дзе.

— 3 палка званілі? — замест адказу запытаў Валошын у Маркіна.

— Гунько абзываўся два разы. Загадаў адразу ж пазваніць, як прыйдзеце.

— Сну на яго няма,— прабурчаў камбат і пацягнуўся да Чарнаручанкі за трубкай.

Тэлефаніст на тым канцы провада, мусіць, драмаў і хоць адразу адказаў на пазыўны, але нешта няўцямна змоўчаў затым; Валошын пачакаў і паўтарыў выклік. Гунько таксама спаў і не адразу ўзяў трубку. Нарэшце прыглушаны адлегласцю пачуўся яго незадаволены голас.

— Да, слухаю.

— Дваццаць першы «Арла» слухае,— сказаў Валошын і змоўк.

— А, Валошын! Ну як абстаноўка? Як падрыхтаваўся? Усё гатова?

— Што гатова? — сказаў Валошын, не тоячы свае прыкрасці ад гэтага звычайнага ў такіх выпадках пытання.— Быў у Іванова — «агурчыкаў» кот наплакаў. Якая ж падтрымка будзе?

— Будзе, будзе падтрымка. Гэта не ваш клопат. Аб гэтым паклапоцяцца каму трэба.

— Гэта мне трэба,— стрымана запярэчыў камбат.— Я атакую, а не хто іншы. Таму і клапачуся.

— Во, ВЫ атакуеце, вы сябе і рыхтуйце. Сваю гаспадарку рыхтуйце. У вас усё гатова?

— Яшчэ не вярнуліся разведчыкі. А на вышыні «Малой» яшчэ невядома хто — нашы ці немцы.

— Гэта на якой? За балотам? А там нікога няма. Тая вышыня незанятая.

— А калі ўсё ж занятая?

— Ды ну глупства, Валошын! Вам усё чэрці здаюцца. Учора мае разведчыкі вярнуліся — там пуста.

Валошын гаротна ўздыхнуў — учора! За ноч той пагорак можна тры разы заняць і тры здаць, а маёр усё будзе спасылацца на ўчарашнія звесткі «яго» разведчыкаў.

— Таварыш дзесяты, я прашу дазвол перанесці тэрмін «сабантуя» на гадзіну раней,— ухіляючыся ад бескарыснай спрэчкі, сказаў ён.

Камандзір палка, мяркуючы па яго паўзе, не зразумеў ці нават здзівіўся.

— Гэта чаму?

— Ну раней, разумееце? Пакуль не развіднела. У прыцемку.

Маёр зноў памаўчаў, пэўна падумаў і адмовіў.

— Не, нельга. Дзейнічайце па плану. План, разумееш, зацверджан... Наверсе. Так што... па плану.

Валошын скрыгануў сківіцамі, але змоўчаў, і паколькі Гунько таксама няпэўна маўчаў, адпусціў клапан трубкі, якую і паклаў упоперак на тэлефон. Маркін, відаць, прагнаўшы свой сон, запытальна паглядзеў на камбата.

— План! Гляджу, заўтра будзе цыганіны праз гэты ідыёцкі план,— не стрымаўся Валошын і вылаяўся.

— Калі ўжо план, дык кропка,— усё зразумеўшы, уздыхнуў Маркін.— Цяпер Гунько ад яго ні на крок, ведаю.

— Калі б хоць план, а то... У шэсць трыццаць атака. Чаму ў шэсць трыццаць? Толькі развідняе.— Што не зроблена за ноч, ужо не даробіш — некалі. І людзі не адпачнуць як след. У шэсць трэба ўжо сняданкам накарміць. Ні даразведаць, ні агледзецца... Але ж ім трэба да паўдня аб выкананні далажыць. Каб іх поспехі ў сутачную зводку ўключыць. Таму і гэтая спешка.

Валошын не мог стрымаць абурэння, хоць праз хвіліну і пашкадаваў аб тым. Наракаць на паводзіны камандзіра палка ды яшчэ ў прысутнасці падначаленых было не ў яго правілах, хутчэй наадварот. Але і стрымацца ў гэты раз было цяжкавата — столькі ўжо назбіралася на ягонай душы за гэтую ноч труднага і нервовага.

— Ладна,— сказаў ён больш сам сабе, чым іншым.— Вы адпачывайце, Маркін. Да чатырох ноль-ноль. У чатыры я вас падніму, сам пару гадзін драману.

— Ага, я засну,— пагадзіўся Маркін, але ўсё сядзеў, пазіраючы ў адну кропку на светлай дошцы скрынкі.

— І, гэта, дайце мне вашай брытвы,— папрасіў камбат.— Пагаліцца хачу.

Маркін дастаў з палявой сумкі акуратна загорнутую ў кавалак газеты брытву, мыльніцу і круглае, трэснутае пасярэдзіне люстэрка. Камбат пачаў рыхтаваць мыла, а начштаба расслаблена сядзеў, няпэўна пазіраючы на яго падрыхтоўку.

— Дык я лягу,— паўзапытальна сказаў ён нарэшце, і Валошын пацвердзіў:

— Ага, кладзіцеся. Да чатырох.

Маркін адкінуўся на салому і вельмі хутка сціх, нібыта прытаіўся за скрынкамі. З глыбокім шумным дыханнем спаў на спіне Гутман, далёка выцягнуўшы ногі ў пацёртых са збітымі абцасамі кірзачах. У куце над скураным футаралам свайго апарата, часта прахопліваючыся, драмаў Чарнаручанка, часам выклікаў «Волгу» і прадзімаў трубку. У печцы агняным

водсветам дагарала рэшта вуголля, і слабыя водблескі ад іх ляжалі на цёмных жэрдках у столі.

Камбат сцягнуў з плеч шынель, падкасаў каўнер гімнасцёркі. Галіўся ён зусім не таму, што заўтра чакаў яго цяжкі бой, у якім магло здарыцца найгоршае з усяго, што здаралася з байцом на вайне. Проста ён адчуваў на шчоках шчаціннe і ведаў, што заўтра часу ў яго не будзе. Цяпер жа настала самая ціхая часіна ночы, калі, апроч немцаў, наўрад ці яго хто патрывожыць, і ён супакоена расслабіўся на саломе, застаючыся ў гэтай цішы сам-насам са сваімі клопатамі.

Націраючы мыльнай вадой абсіверaны падбародак, ён у каторы ўжо раз думаў, уздыхаючы, якой па-звярынаму труднай выдалася гэта вайна. Ці калі была яшчэ такая ў гісторыі? Ваенная ўдача на поўдні дала ўздыхнуць з палёгкай, Сталінград абнадзейваў, напэўна, цяпер там весялей. Але тут, у гэтых лясах і балотах, на гэтых пагорках і прасёлках, ля разбураных вайной вёсак па-ранейшаму жахліва цяжка. Па-ранейшаму вораг б'ецца да апошняй магчымасці, упарта абараняючы кожную вышыню ў полі і кожны будынак у вёсцы. Каб яго адолець, колькі патрэбна сілы і ўмельства, і калі чагосьці бракуе, увесь цяжар барацьбы кладзецца на шматпакутную матухну-пяхоту, якой трэба плаціць за ўсё сваёй уласнай крывёю. І часта тыя, хто плоціць па гэтым крывавым рахунку, не могуць сабе і ўявіць, што ў іх бедах можа быць хто вінаваты, што дзесьці не хапіла часу, не ўправіўся транспарт. Ад колькіх прычын залежыць, каб іхняя кроў аказалася меншай і не так катастрафічна таялі іхнія жыцці.

Гунько рабіў адпаведнае ўражанне сваёй пунктуальнасцю, умеў ліха далажыць начальству і з усёй строгасцю спагнаць з падначаленых. Да таго ж ніхто ў палку з такім форсам не насіў ваенную форму, як яго камандзір, заўсёды апрануты ў форменны шынелак з мноствам рамянёў, планшэтак, абуты ў начышчаныя хромавыя боты пры шпорах. Выгляд яго быў бездакорны. А як ён паводзіць сябе з падначаленымі, як дзейнічае ў баі, гэта начальству не

відаць, на полі бою яно з ім не сутыкаецца. Затое гэта вядома ім, камандзірам яго батальёнаў. Просячы перанесці атаку на раней, Валошын напэўна ведаў, што камандзір палка не згодзіцца, бо цэлая сістэма мерапрыемстваў у плане прывязана менавіта да вызначанага тэрміну, які цяпер кампалка сваёй уладай змяніць не мог. Для таго яму давялося б званіць камандзіру дывізіі, дабівацца, каб той нешта перайначыў, даў новыя каманды, нешта адмяніў і нешта ўвёў новае. Але ў такім выпадку камдыву трэба было б пераглядаць нейкія ранейшыя свае рашэнні, вяртацца да таго, што ён ужо палічыў скончаным і да чаго, напэўна, не меў жадання вяртацца, тым болей што яго, безумоўна, чакала нямала іншых, не меней важных і яшчэ не вырашаных спраў. А шкада. Гадзін у шэсць або нават у палове шостай у перадсвітальным прыцемку батальён, мабыць, змог бы без стрэлу, паціху адолець балота і зачапіцца за схіл, да траншэі на гары засталося б менш, тады, можа б, і ўварваліся ў яе, хоць бы і пад агнём. Але тады рабілася непатрэбнай артпадрыхтоўка, яе трэба было б адмяніць, а хто гэта дазволіць? Каму разбірацца, што замест сапраўднай артпадрыхтоўкі будзе адно яе падабенства, якое не шмат дапаможа батальёну сваімі сарака снарадамі, выпушчанымі за дзесяць хвілін на світанні, калі ўсе немцы будуць сядзець у абсталяваных за два дні бліндажах і ў траншэі застануцца адны назіральнікі.

**11**

Звыкла і нявесела разважаючы і адначасна ўслухоўваючыся ў шорхат ветру наверсе, камбат пагаліўся, агледзеў у люстэрка свой падкаўнерык, падумаў, што не шкодзіла б падшыць новы, але падкаўнерык падшываць не стаў. Ён на ўсе гузікі зашпіліў гімнасцёрку, надзеў шынель, пацёрты, прастрэлены, папэцканы ў зямлі, але звыклы і яшчэ нават чымсь франтаваты яго шынелак, які ён пашыў на заказ у час фарміроўкі ў Свярдлоўску. Рэмень і партупея дасталіся яму з поля бою ад колішняга ягонага намесніка старшага лейтэнанта Сарокіна,

забітага ў студзені пры разведцы боем,— свой, даваенны, прапаў пасля яго цяжкога ранення пад Ржэвам. Але і гэты яшчэ быў някепскі — пашкрэбаны, але каляны, з камсастаўскай палявой спражкай, дзвюма партупеямі і нават свістком у маленькім футаральчыку на левым партупейным рэмені. Камбат пасунуў на дзязе і расшпіліў пацёртую і абшкрэбаную ў траншэях кабуру, з якой выцяг свой пісталет ТТ выпуску 1939 года з ладнай пластмасавай рукаяткай. Пасля ўжо пластмасавыя не выпускалі — рукаяткі рабілі з дрэва. У абодвух яго магазінах было па сем штук патронаў — восьмы ён звычайна дасылаў у патроннік, каб аслабіць спружыну. Пісталет гэты быў для яго тым, чым можа быць на вайне толькі найлепшы сябар, які не раз дасведчыў камбату сваю нямую адданасць. Апошні выпадак усё яшчэ выклікаў у Валошына лёгкія дрыжыкі пры ўспаміне аб тым, як гэта здарылася і чым магло скончыцца. Неяк тыдзень назад у часе ашалелай сутычкі ў нямецкай траншэі Валошына збіў з ног дужы малады эсэсавец, у руцэ каторага бліснуў перад яго вачмі нож. Падаючы, камбат паспеў стрэліць, на якую долю секунды раней, чым той апусціў руку, і эсэсаўскі нож па самую рукаятку ўвайшоў у зямлю ў якіх-небудзь двух сантыметрах ад яго пляча.

Пісталет страляў безадмоўна, за дваццаць крокаў

Валошын лёгка адбіваў рыльца пастаўленай на пянёк бутэлькі, збіваў па заказу любую галінку з дрэва. Кожны раз, разбіраючы яго перад чысткай, ён са шкадаваннем думаў, што некалі ім прыйдзецца расстацца, і хацеў, каб пасля той дастаўся харошаму чалавеку. Шкадаваць не будзе.

Асцярожна ссунуўшы з рукаяткі затвор, Валошын не надта чыстай насоўкай старанна выцер яго пазы, выняў спружыну. Трэба было б прачысціць і ствол, у якім за некалькі дзён пасля апошняй стральбы, мабыць, нарасло каросты, але ў яго не было шчолачы. Ён нерашуча паўзіраўся ў соннага Гутмана, пазгадваў, куды той мог запіхнуць рэчмяшок з іх салдацкай маёмасцю, як раптам пачуў чыесь крокі. Яны гулка

аддаваліся ў падмерзлай зямлі і яўна набліжаліся да іх зямлянкі. «Разведчыкі!» — з раптоўным ажыўленнем падумаў камбат, але ў траншэі крокі прыціхлі, ад няўмелых рук незнаёма зашамацела палатка, і ў зямлянку прасунуўся расчырванелы на ветры маладжавы твар.

— Дазвольце, таварыш капітан?

— Калі ласка,— сказаў Валошын, адчуўшы лёгкае расчараванне ад таго, што замест доўгачаканых разведчыкаў прыйшоў камсорг палка лейтэнант Круглоў.

Зрэшты, камсорг быў неблагі афіцэр і таварыскі хлопец, і расчараванне камбата неўзабаве знікла.

— Што, маёр Міненка паслаў? — збіраючы пісталет, запытаў Валошын.

— Ну. У вас жа намячаецца заўтра,— проста сказаў Круглоў, знімаючы з рук рукавіцы.— А што гэта печка затухла? Дроў няма? Ну тожа, гаспадары мне — у лесе жывуць, а дроў не маюць.

Перш чым камбат з Чарнаручанкам паспелі што-небудзь сказаць, камсорг прыўзняў край палаткі і знік у траншэі. Пачуўся яго прыглушаны голас на НП да вартавога, крокі, пасля зноў усё змоўкла.

— Шабутны камсорг,— сонным голасам прамовіў Чарнаручанка, не то з пахвалой, не то з асуджэннем маладога лейтэнанта, якому па сваім узросце гадзіўся ў бацькі.

«Жвавы, ага»,— падумаў Валошын. Круглова ён ведаў даўно, яшчэ з таго часу, як сам камандаваў ротай, а гэты лейтэнант быў камандзірам узвода ў палкавой роце аўтаматчыкаў. Спрытны быў аўтаматчык, нічога не скажаш. Зрэшты, стаўшы камсоргам палка, лейтэнант, здаецца, не пераменіўся.

Не мінула і чвэрці гадзіны, як зноў пачуліся крокі, моцны шоргат у траншэі, Чарнаручанка расхінуў

палатку, і Круглоў кінуў ля печкі настылае бярэма галля.

— Во, хоць пагрэю вас. А то памерзнеце.

Ён пачаў з хрустам ламаць, мабыць, не надта сухое галлё, запіхваць яго ў вузкія дзверцы печкі. Чарнаручанка памагаў, неўзабаве ў зямлянку дзьмухнула дымам, але ў печцы памалу пачало разгарацца. Камсорг спіхнуў на патыліцу шапку і, стаўшы на калені, адкінуўся ад печкі.

— Люблю агонь!

— Хто не любіць,— скупа сказаў Валошын з ранейшай заклапочанасцю ў настроі.— Што там у палку чутно?

— А што ў палку? Я ж у другім батальёне, у Паршына, быў. Раптам званок, Міненка: «Шагам марш к Валошыну, заўтра «сабантуй».

— «Сабантуй», ага. Загадана ўзяць вышыню.

— Возьмем, калі загадана,— лёгка пагадзіўся камсорг.

— Гляджу, ты аптыміст.

— А што ж! Што яшчэ камсоргу застаецца? Задор, упэўненасць і аптымізм.

— Няблага. А Паршын што? Адседжвацца будзе?

— Дзе там! На саўгас наступае. Папаўненне атрымаў.

— Папаўненне і я атрымаў. Паўсотню чалавек.

— Ого! Так многа!

— Усе новенькія. Неабстрэляныя. Ім бы з тыдзень у абароне пасядзець. Звыкнуцца з фронтам.

— Не выходзіць у абароне.

— Да таго ж па-руску амаль ніхто не разумее.

— Гэта горш. Добра, я трохі разумею. Перакладчыкам буду.

— А ты адкуль разумееш?

— У Сярэдняй Азіі жыў. Самарканд, Бухара, Чарджоў.

— Ясна. Тады дзякуй маёру Міненку. Сапраўды, можа, паможаш дамовіцца.

Валошын сабраў пісталет, упіхнуў яго ў скураную кабуру, выцер насоўкай рукі. Круглоў сядзеў перад топкай і ўсё з хрустам ламаў галлё, піхаў яго ў дымную печку. Камбат чакаў, што камсорг, напэўна, праінструктаваны нампалітам, загаворыць аб палітмасавай рабоце, але той, быццам ухіляючыся ад гэтай тэмы, гаварыў аб іншым.

— А як жа з палітзабеспячэннем? — асцярожна запытаў Валошын.— Мітынгу праводзіць не будзем?

— А нашто? Я і так пагутару. Я ім пісьмо пачытаю. Пісьмо класнае атрымаў. Ад дзяўчат са Свярдлоўска.— Ад знаёмых?

— Дзе там! Пішуць на імя камсамольскага сакратара часці. Не пісьмо — цэлая паэма. Хочаце пачытаць?

Ён ухапіўся за сваю набітую паперамі кірзавую сумку, але Валошын сказаў:

— Нашто? Не мне ж адрасавана.

— Дык з маёй жа згоды. Я во байцам усё чытаю — слухаюць, не адарваць. І сардэчна, і патрыятычна. Хоць у газеце друкуй.

— Вось і пачытай у ротах.

— Абавязкова. Во як яны пішуць, паслухайце,— сказаў ён, таропка разгортваючы пакамечаны трохкутнічак.— «Ад імя і па даручэнню ўсіх нашых дзяўчат, здраствуйце, дарагія і любімыя воіны-героі, маладыя і трошкі старэйшыя, мы любім вас, і ганарымся вамі, і

чакаем вас удзень і ўначы, верна аберагаючы нашу любоў і нашу дзявочую пяшчоту...» Ну і так далей.

— Добра пішуць,— сказаў Валошын. Круглоў схаваў пісьмо і зашпіліў сумку.

— Ну што, колькі там настукала? — зірнуў ён на скрынку, дзе ляжаў на краі гадзіннік Валошына.— Ого! Ужо тры. Пайду ў роту.

— У якую пойдзеш?

— Якая пад вышынёй? Самохіна?

— Самохіна,— сказаў, падумаўшы, камбат.— Але я параіў бы сходзіць у восьмую. Лейтэнант Муратаў там захандрыў нешта.

— Гэта чаму?

— Ды так. Глупства. Але трэба было б падбадзёрыць.

— Добра. Пайду да Муратава. Стары знаёмы ўсё ж. Разам у полк прыйшлі. А пасля і да Самохіна заскочу.

— Што ж, давай!

— Галоўнае, пісьмо пачытаць. Ведаеце, як натхняе?

— Пабачым, як ты іх натхніш заўтра.

— У найлепшым выглядзе. Толькі вось часу ў абрэз. Ну што ж, ранічкай пабачымся.

— Абавязкова.

Круглоў пайшоў, і ў зямлянцы зноў стала ціха. Прыслухоўваючыся да ягоных крокаў у траншэі, Валошын успомніў пра вышыню і падумаў, што прыйдзецца, напэўна, зноў вылазіць з зямлянкі і ісці да Самохіна — ён проста губляў надзею дачакацца на КП прапаўшых недзе разведчыкаў. Але зморанае цела марудзіла, так добра было сядзець у цяпле і спакоі, трывожна ўсведамляючы, што канчаюцца апошнія гадзіны ночы, а заўтра ўсё будзе не так.

Хаця, можа, і абыдзецца. Яны возьмуць вышыню, закапаюцца: настане якая-ніякая перадышка, можа, давядзецца адпачыць у абароне...

Але во чаго захацелася, спахапіўся камбат, злавіўшы сябе на гэтых расслабленых, амаль крамольных на фронце думках. Палова Расіі стогне пад немцам, ільецца кроў напалам са слязьмі, людзі чакаюць не дачакаюцца, калі Чырвоная Армія адужае ворага, а ён пра што марыць — стаць у абарону, адпачыць, адаспацца. Але што рабіць — менавіта так. Сэрцам і розумам адчуваеш адно, а цела, кожная часцінка тваёй цёплай плоці прагнуць іншага. У іх свае, куды больш сціплыя патрабаванні, без задавальнення якіх, аднак,— нікуды. Вельмі недасканалы, слабы чалавек, але іншага вось няма. Каб дасягнуць вялікае мэты, трэба лічыцца з маленечкімі патрэбамі гэтых недасканалых і слабых людзей, лёсамі і целамі якіх вымашчаны увесь даўгі шлях да вялікай жаданай Перамогі.

І Круглоў мае рацыю, ідучы да іх не з лекцыяй аб становішчы на франтах і не з тлумачэннем чарговага загаду Вярхоўнага, а з просценькім, сардэчным і наіўным пісьмом самотных у абезмужчынеўшым тыле дзяўчат. Мабыць, сапраўды, такое пісьмо болей і глыбей кране ачарсцвелыя душы тых, каму адрасавана, і напэўна больш дабрадзейна паўплывае на іх свядомасць, чым казённыя словы вайсковага загаду, які ставіць даўно знаёмыя задачы. Калі б гэтыя задачы было так проста выканаць, як іх паставіць... А вось пісьмо, гэты ціхі голас дзяўчачай лагоды, які за тысячы вёрст прыляцеў у прамерзлы франтавы змрок,— што можа быць святлей і бліжай для згаладнелага, намерзлага, спакутаванага ў доўгім расстанні з блізкімі чалавека на фронце?

Але камбат не хацеў чытаць гэтыя, можа, самыя лепшыя з усіх, калі-небудзь напісаных ад імя і па даручэнню радкі. Ён аддаваў перавагу радкам, якія не пакажаш другому, не прачытаеш на сходзе.

Ён іх чытаў у рэдкія хвіліны спакою, адзін на адзін з сабой.

«Дарагі мой Валошык, мой срэбны праменьчык закатнага сонейка, які так коратка і светла блiснуў у маім жыцці, дзе ты?

Дзе ты, зямная і нябесная мая радасць, мой рослы дубок, зялёная траўка палянкі, мёдам прапахлы лужок, цёплая жывая хваля, гулліва забегшая на мае далоні?

Адгукніся ж, скажы хоць слова — кажу я з пяшчотай, а сэрца маё трапеча ў разгубленасці ўсё з тым жа анямелым пытаннем — дзе ты?

Дзе ты, Валошык, у той час, калі я заміраю ў журбе і роспачы; дзе ты, калі на сэрцы ў мяне трошкі святлее; дзе, калі мне зусім не хочацца жыць і калі жыццё раптам зробіцца такім слаўным?

Дзе ты?

Ці, можа, ты назаўжды выкінуў з сэрца тую, каторая з такой самааддананай радасцю кінула сябе да тваіх моцных ног, каторая аднойчы і на ўсё жыццё пакахала цябе болей за сваю родную маці, каторая не можа жыць без цябе,— твайго непаўторнага ў свеце позірку, ціхага ласкавага слова, дотыку тваёй вялікай, цёплай і надзіва пяшчотнай далоні...

Ці, можа, ты спаткаў на вайне другую, нечакана асляпіўшую цябе зіхоткай сваёй прыгажосцю, чароўнай няўяўнасцю свайго кахання. Тую золатавалосую незямную Прынцэсу, перад якой я — няшчасная, адрынутая табой Золушка.

Ці ты не чуеш і ніколі не пачуеш мяне, бо даўно ўжо ляжыш у сырой анямелай магіле з варожаю куляй у тваіх шырокіх грудзях, да якіх так любіла прыпасці галавой і я.

Валошык мой, дзе ты?

Я хачу быць з табой, нават калі ты назаўжды выкінуў мяне з твайго вялікага і гулкага сэрца, усё роўна я буду нячутна, бы цень, хадзіць за табой. І калі ты са сваёй залатавалосай Прынцэсай, я буду чакаць цябе, і ты

вернешся. А калі ты даўно супакоіўся ад усяго ў глыбокай брацкай магіле, то і я хачу ляжаць побач. Вазьмі мяне хоць у магілу да сябе, я не магу без цябе.

Толькі не маўчы, адгукніся. Мінула бясконцых пяць месяцаў нясцерпнага твайго маўчання. Я кожны дзень выходжу на наш ляшчынавы ўзлесачак і крычу, крычу — сонцу, аблокам, пахаладзеламу восеньскаму небу, крычу на ўсход і на захад:

— Валошык, дзе ты?»

Недарэчны, страшны і дзікі франтавы лёс!

Ён перажыў трохмесячнае акружэнне, тыф, дзесяткі разгромных баёў, цяжкое раненне ў грудзі і ўсё ж выкараскаўся з учэпістых лапаў смерці. Але калі ён атрымаў гэта пісьмо, яе ў жывых ужо не было.

Яна была забіта адзінай кулямётнай чаргой з выпадкова пралятаўшага «юнкерса» на залітай сонечным святлом паляначцы медсанбата, куды вынесла развесіць памытыя свае апраткі...

**12**

Мабыць, ён задрамаў, прыгрэўшыся ў сваім кутку, і раптам прахапіўся ад спалоху з ясным усведамленнем таго, што здарылася ліха. Пакінуты на скрынцы гадзіннік паказваў чвэрць пятай, ён сунуў яго ў кішэню і выскачыў з зямлянкі, збянтэжаны тым, што адбывалася знадворку.

Яшчэ было цёмна, але начная ціша знікла без рэшты, узарваная гулам і абвальным агняным трэскатам; па ўсім паднябессі, ззяючы, навыперадкі несліся адна цераз другую дзесяткі агняных трас, над вышынёй раз за разам узляталі ўгору ракеты, дрыготкім сіняватым святлом заліваючы схіл ля балота. Там жа, чутна было, грымнула некалькі гранатных выбухаў, і над балотам, батальённым ланцугом і ўзгоркам густа несліся, імкліва рассыпаючыся ў мільготкім цемрыве неба, агняныя паскі трас.

Хутка падавіўшы ў сабе сонны спалох, камбат зразумеў, што, нягледзячы на грукат і густое мільгаценне вакол, бой ішоў у немцаў, яго роты маўчалі. Хутчэй за ўсё, як ён таго і баяўся, гэта за балотам трапілі ў бяду разведчыкі.

Ён кінуў Маркіну, які спалохана выскачыў следам: «Дакладвай у полк», а сам гукнуў Гутмана і пусціўся па траншэі ў поле.

Спатыкаючыся на глыжах і ямінах, ён бег у дрыготка-падсветленай цемры насустрач гэтаму грому ўніз, да ланцуга сёмай роты і думаў, што цяпер прыйдзецца выручаць разведчыкаў, калі толькі яшчэ можна іх выручыць. Калі абодва яны не распласталіся на схіле. Вядома, пры гэтым зноў не мінуць непрыемнай размовы з Гунько, але што рабіць? Яму не прывыкаць да гэтых размоў.

Гутман, таропка зашпільваючы паўшубак, моўчкі бег следам, заклапочана пазіраючы на вышыню, аднойчы ўпаў, вылаяўся і, прыгнуўшыся, дагнаў камбата.

— Ашалелі яны там, ці што?

Валошын не адказаў. Ён таксама не адрываў позірку ад вышыні, яе залітага мільготкім святлом схілу, на якім, аднак, адсюль нічога не было відаць, і ён думаў, што, мабыць, разведчыкі ўліплі як трэба, напэўна, ім ужо не паможаш. Трошкі прыцішыўшы свой бег, ён вопытным позіркам пачаў прыкмячаць усе выбліскі кулямётных трас, якія ён умеў вылучаць сярод мноства іншых аўтаматных стрэлаў і з паныласцю разумеў, што іх многа. Столькі ён не чакаў. Ён налічыў іх не менш шасці, хаця, вядома, гэта была толькі частка старанна арганізаванай сістэмы кулямётнага агню, усёй цяпер яны не раскрыюць.

Сёмая была ўжо на нагах, ніхто не спаў, байцы, вытыркаючыся з цёмных акопчыкаў, трывожна глядзелі на ашалелую ад агню вышыню, чакалі, што будзе далей. Ён прыняў убок, прыгінаючыся, дабег да знаёмай прыбліндажнай траншэйкі, у якой стаяла некалькі

чалавек і чуўся нервовы голас Самохіна:

— Не лезь, не лезь, не высоўвайся! Жыць надаела?

Валошын саскочыў у траншэю, нехта пасунуўся, даючы

месца камбату, следам улез Гутман, і Самохін паведаміў заклапочана:

— Бачыце, што робіцца? Пэўна, Нагорны...

— Яшчэ не вярнуўся?

— Ды не.

— Зараз жа дзесяць чалавек цераз балота на выручку. Зараз жа!

— Ёсць! — кінуў камандзір роты.— Гамзюк! Гамзюк, бяры першы ўзвод і — уніз!

Падсветлены ракетнымі водбліскамі, Гамзюк выскачыў з траншэйкі, прыгнуўшыся, пабег уздоўж ланцуга, і блізкая агняная чарга ледзьве не збіла яму галаву — тоўстай зіхатлівай вяроўкай пранеслася над байцом. Калі яна згасла, стала відаць, як некалькі чалавек нерашуча выбраліся з сваіх акопчыкаў і ўпалі ў цемры, напэўна, не адважваючыся бегчы кудысь без каманды.

Яны марудзілі, пара кулямётаў з вышыні слепа страчыла па кустоўі ў балоце, трасірныя светлякі рыкашэтаў з шаршнёвым гудам разляталіся ў бакі. Нарэшце Гамзюк сабраў усіх і толькі памкнуўся бегчы ў балота, як у траншэйцы нехта сказаў:

— А во гляньце! То не Нагорны?

Усе павярнулі галовы ў той бок, куды паказваў баец, сапраўды, у змроку кустоўя быў прыкметны нейкі няпэўны рух. Мабыць, гэта заўважылі ўжо і байцы Гамзюка, хтось там, прыгнуўшыся, пабег у той бок. Праз хвіліну некалькі байцоў павярнулі назад, на ўзмежак, адна цесненькая групка іх скіравала да траншэйкі ротнага.

— Што такое, Гамзюк? — не стрываўшы, здаля гукнуў да байцоў Самохін.

— Ды во раніла.

— Каго раніла?

Яны падышлі да бруствера і асцярожна паклалі ў доле нерухомае цела, хтось узяўся расшпільваць на ім шынелак, а на бруствер, пазнаўшы камандзіра, цяжка апусціўся Нагорны.

— Нагорны? Што здарылася? — трывожна запытаўся Самохін.

— Зараз, зараз, таварыш лейтэнант...

Толькі цяпер усе заўважылі, што Нагорны зусім выбіўся з сілы, ледзьве дыхаючы, ён расхінуў шынелак, скінуў на зямлю шапку і доўга яшчэ не мог вымавіць слова.

— Зараз... Значыць, так... Ранілі во яго... Дразда.

— Дзе ранілі? — запытаў камбат.

— Там, ля траншэі. Мы дапаўзлі... А як пабеглі... Спярша паўзлі, а там гэта... Спіраль!

— Якая спіраль? — здзівіўся камандзір роты.

— Ну гэта... Бруно.

— Ніякай спіралі там не было. Учора я ўвесь дзень глядзеў.

— Учора не было. Нацягнулі... Ну мы і ўперліся. Ні туды ні сюды. Я ўзяў, пацяг...

— Нашто? Нашто ты цягнуў, галава і два вухі! — узлаваўся лейтэнант.

— Дык, а Дразда як жа? Яго ж там раніла,— кіўнуў ён на байца, які супакоена ляжаў на зямлі, і камбат паморшчыўся ў цемры, калі ўбачыў, што там ужо поркаецца маленькая фігурка Веры.— Туды, як паўзлі,

не было, пасля нацягнулі...

— А, яны вас там загарадзілі? Во сволачы! — вылаяўся камандзір роты.

— Ну. Я ж кажу...

Камбат не спыняў і не перапытваў, ён чакаў, даючы Нагорнаму паведаміць пра ўсё, што там здарылася. Факт з'яўлення спіралі Бруно не аблягчаў становішча, хутчэй наадварот. Але важней усё ж было даведацца аб мінах.

— Мы, значыцца, да самай траншэі дапаўзлі, чуем, яны гергечуць... Ды раптам ззаду як зашарудзіць нешта, ды так дужа...

— Як гэта — зашарудзіць? — не зразумеў камбат.

— Ну глядзім, а яны спіраль на калах расцягваюць. І зацягнулі нас, як карасёў у сажалцы. Ну тут яго і параніла.

— А міны? — не стрываў Самохін.

— Што? Дык мін там няма. Мы не знайшлі. Ды і тыя, з дротам, хадзілі так смела.

Валошын унутрана ціха ўздыхнуў, трывожная напружанасць, якая ахапіла яго з самага пачатку гэтага перапалоху, патрохі аслабла. Самае горшае з яго апасенняў, здаецца, не спраўдзілася, мін не было, і разведчыкі, хоць і з адным параненым, вярнуліся ў роту. Было б горш, калі б яны, жывыя ці мёртвыя, засталіся за дротам. Але гэта спіраль Бруно! Яшчэ яе ім не хапала, як бы ў ёй не засесці ўранку.

— Што, дужа ранены? — ціха запытаў ён байцоў, якія корпаліся над параненым.

— Не відаць. Тут усё ў крыві,— сказаў адзін з іх.

Вера маўчала.

— Гранатай яго,— пачынаючы спакайнець, сказаў Нагорны.— Гэты гад, фрыц, пачуў і — гранатай. Якраз каля яго разарвалася. Асколкамі.

— Маладзец, што не кінуў,— сказаў капітан і ўпершыню з непрыязню падумаў пра Кабакова, замест якога на брустверы ляжаў цяпер гэты Дрозд.

Атрымалася куды як нядобра — той сваёй непрыкрытай бояззю выйграў сабе жыццё. А гэты? Невядома яшчэ, ці выжыве.

— Такі тарарам усчалі,— сказаў Самохін пра немцаў.

— Нібы ашалелі. Думаў, таксама спякуся, але... Ледзьве выцягнуў.

— Хутка перавязвайце — і ў тыл. Старшына Грак!

— Я, таварыш камбат!

— Займіцеся асабіста. Параненага хутка ў санроту!

— Ёсць!

Страляніна ўсё ж памалу сціхала, пастрэльвалі два кулямёты з флангаў, астатнія быццам бы змоўклі. Толькі ракеты з кароткімі прамежкамі цемры ўсё свяцілі над схілам, напэўна, немцы баяліся новай спробы разведчыкаў і старанна асвятлялі балота. Цяпер было зразумела, чаму яны не свяцілі ў першай палове ночы — абносіліся гэтай праклятай спіраллю Бруно. Вядома, калі прамарудзіць яшчэ пару дзён, дык на схіле паявіцца не адна спіраль, будзе і міннае поле, і дрот у тры калы, а можа, і яшчэ што.

Сапраўды, генерал сказаў правільна: трэба спяшацца.

Усё б выпадала няблага, калі б мелася свая мінрота, а ў Іванова было болей снарадаў, і ён бы мог як трэба падтрымаць пяхоту. У часе атакі ды і пасля, на вышыні. Цяпер было зразумела, што немцы ўсталёўваліся грунтоўна і надоўга, што так проста вышыні яны не аддадуць, будуць біцца за яе ўсур'ёз. Відаць, для чагось

яна ім спатрэбілася, гэтая вышыня.

У траншэйку прыбег малодшы лейтэнант Ярашчук, убачыўшы тут камбата, бокам прашчаміўся да яго ў сваім драным, абшкрэбаным паўшубачку.

— Куды гэта вы прапалі, Ярашчук? — з папрокам сказаў камбат.— Надоечы ўсё поле аблазіў, так і не знайшоў.

— А я тут. Вунь, праз чатырыста метраў якіх. Хацеў секануць давеча... А што? Яны вунь як лупяць, а нам усё маўчаць?

— Не варта,— сказаў камбат. — Паберажыце патроны.

Спатрэбяцца.

— Патроны ёсць пакуль што.

— Лепш вось што, Ярашчук. Пад раніцу падцягніце кулямёты бліжэй. Пачнецца атака, будзеце падтрымліваць. Агнём цераз балота. Во тады і пакажаце ўмельства.

— Ёсць! Я зараз. Я ўжо тут і пазіцыю наглядзеў.

— Во давайце,— скончыў з ім размову камбат, і Ярашчук пабег у цемру да свайго ўзвода ДШК.

— Ах, гады, сапсавалі ўсю ноч,— зябка здрыгануўся на ветры Самохін.

У траншэю каля бліндажа неяк крадком ад камбата саскочыла і знікла Вера. Параненага ўжо перавязалі, і старшына Грак з двума байцамі панеслі яго ў тыл.

— Добры баец быў,— са шкадаваннем сказаў Самохін і пагразіў кудысьці ў ноч: — Ну, а таму хрэну я пакажу! Будзе ведаць, як за чужыя спіны хавацца! Сачок чортаў!

Камбат ведаў, каго ён меў на ўвазе, але прамаўчаў. Нялёгка разабрацца ў такіх рэчах, яшчэ цяжэй прадугледзець усе іхнія вынікі. У душы ён таксама быў

злосны на Кабакова, але ўсё ж паказваць яму нешта не меў жадання. Яшчэ невядома, што ў хуткім часе чакае самога Кабакова. Як бы ягоны лёс не аказаўся горшы.

— Ну што ж,— сказаў камбат. — Хутка ўжо ранак. Карміце байцоў і... Ваша, Самохін, паласа адгэтуль і прама па схіле. Восьмая трошкі прыме ўправа. Напраўляючым пусціце ўзвод Нагорнага, яму дарога знаёмая. Зрэшты, загад яшчэ аддам.

— Ясна, таварыш капітан. Як там артылерыі — не падкінулі?

— Не, не падкінулі, Самохін. Снарадаў трохі далі. Па дваццаць штук на гармату.

— Толькі па дваццаць? Малавата.

— Што зробіш? Уся надзея на ўзвод ДШК. Калі Ярашчук не падвядзе.

— Не павінен. Ён хвацкі младшой.

— Ён хвацкі, ага. Але...

Валошын не стаў тлумачыць свае, яшчэ яму самому не дужа зразумелыя сумненні — як ні старайся, перад боем усё не прадугледзіш, штосьці ўсё роўна вылезе, нечаканае і часцей за ўсё непрыемнае, такое, што прымушае заўжды быць гатовым да горшага.

Азіраючыся на вышыню, ён пайшоў у роту Кізевіча. Галоўны клопат ночы нарэшце зваліўся з ягоных плеч, без мін управіцца будзе лягчэй ва ўсіх адносінах. Але па-ранейшаму незразумела было з вышынёй «Малой» — хто там? Ці, можа, сапраўды нашы, і ён дарма сумняваецца, ганяе людзей і пора гарачку.

Як і належыць дысцыплінаванаму ардынарцу, Гутман увесь час ішоў ззаду, як раптам трохі падбег і параўняўся з камбатам.

— Цяпер Самохін пакажа кузькіну маць гэтаму Кабакову. Праз яго ж Дразда пакалечылі.

— Праз яго, ага,— пацвердзіў камбат.

— Я б яго, гэтую гніду!.. Ух, ненавіджу баяк!

— Да? Сам ніколі не баяўся?

— Я? Баяўся, чаму? Але каб за іншых хавацца!.. Не, гэтага за мной не было.

— Ведаеш, Гутман, уся справа ў тым, што людзі ў жыцці розныя, рознымі прыходзяць на фронт. А тут раптам да ўсіх аднолькавыя патрабаванні, і, вядома, не ўсе ім адпавядаюць. Трэба час, каб прыцерліся, а часу няма. Вось і атрымліваецца... Неадпаведнасць.

— Ага! Каму дык якраз. А другім праз гэных... Не, так я не згодны.

— Ведама, гінуць праз іншых — непарадак. Але даводзіцца. На вайне ўсё даводзіцца.

— Не, я так не хачу. Мне так не цікава. Так нават страшна.

— А як жа ты хочаш?

— Я? Каб з музыкай. Каб помнілі, гады! У мяне надта да іх злосці многа. Адной радні было ў Кіеве чалавек трыццаць. Мне іх шмат трэба ўгробіць. Можа, адпусціце мяне ў роту, а, таварыш капітан?

Камбат прамаўчаў. Гэтая просьба прагучала для яго некалькі нечаканна, і камбат хоць і адчуваў яе логіку, але не хацеў адразу рашаць. Ардынарац з Гутмана быў неблагі, старанны і недурны, і хоць цяпер ён бы прыгадзіўся на пасаду ўзводнага ў любой роце, але за якіх пару гадзін да атакі Валошын адпускаць яго не хацеў. У баі надзейны ардынарац значыў не менш, чым начальнік штаба.

— Пра гэта пасля,— сказаў ён, падумаўшы.— Вось возьмем вышыню, пасля.

Гутман ціхенька ўздыхнуў:

— Яшчэ як возьмем.

— Сумняваешся?

— Ды я нічога. Чаго мне сумнявацца? Яны ўжо набліжаліся да фланга дзевятай, як ззаду пачуўся глухі стукат ног, і капітан спыніўся.

— Таварыш камбат!

— Я. Што такое?

У цемры да іх падбег разведчык Прыгуноў.

— Таварыш камбат! Камандзір палка да тэлефона заве.

Робячы выгляд, што прыслухоўваецца да ўжо амаль су-

пакоенай вышыні, Валошын паўхвіліны счакаў, перамагаючы звыклае адчуванне прыкрасці — гэты няўрочны выклік камандзіра палка не абяцаў нічога, апроч непрыемнасці. Але дзецца не было куды, ад начальства не схаваешся, і ён распарадзіўся:

— Гутман, ідзіце да Кізевіча і даведайцеся, як з разведкай бугра. Я буду чакаць вынікаў разведкі.

## 13

На КП ніхто ўжо не спаў, разведчыкаў не было ніводнага, Чарнаручанка з пакрыўджаным выглядам прадзімаў трубку, правяраў сувязь і, як толькі ў зямлянку ўлез камандзір батальёна, паведаміў яму ўстрывожаным голасам:

— Камандзір палка там лаюцца...

— Панятнае дзела, будзе лаяцца,— спакойна сказаў Валошын і, не павярнуўшыся да тэлефаніста, запытаўся ў Маркіна, які праматваў на назе анучу.— Як са сняданкам? Узнавалі?

— Сняданак гатовы. Прыгуноў ужо пайшоў...

— Прыгуноў паспее. А ротам паведамілі?

— Роты ўжо ведаюць.

— Трэба як найхутчэй накарміць роты. Ідзіце і прасачыце, каб усё ў тэмпе. Без цяганіны.

Як заўжды, Маркін моўчкі падняўся і выйшаў, а камандзір батальёна апусціўся каля тэлефона.

— Выклікайце дзесятага.

Пакуль Чарнаручанка круціў ручку, Валошын амаль з нянавісцю пазіраў на гэты жаўтаскуры апарат, з якога на ягоную галаву сыпалася палавіна ўсіх непрыемнасцей, якія толькі магчымы на фронце. Часам ён нават прагнуў, каб гэтая сувязь з камандзірам палка парвалася хоць бы на пару гадзін, ён бы ўздыхнуў вальней. Але часцей выходзіла так, што рвалася яна ўмомант, які найменш для таго гадзіўся, калі ён сапраўды пазарэз меў у ёй патрэбу, а ў іншы час працавала ўвогуле спраўна, і камандзір палка ў кожны пажаданы для сябе момант мог выклікаць яго для даклада, дачы ўказанняў, а часцей за ўсё для разносу.

— Што там зноў у вас? Зноў светамаскіроўка? — незадаволена пачаў Гунько, калі ён далажыў пра сябе.

— Не, не светамаскіроўка. На нейтралцы засціглі разведчыкаў.

— Чыіх разведчыкаў?

— Маіх, вядома.

— Ну і што?

— Адзін паранены.

— Хоць не пакінулі яго там? Немцам, кажу, не пакінулі? — У голасе камандзіра палка прагучэла трывога.

— Не, не пакінулі. Вынеслі і ўжо адправілі ў тыл.

— Так,— Маёр памаўчаў.— Калі будзеце дакладваць аб

гатоўнасці?

— Калі падрыхтуюся. Падраздзяленні яшчэ толькі пачынаюць сняданак.

— Давай, давай, шавяліся, Валошын! У цябе задача — нумар адзін. Найбольшай важнасці. Яе трэба выканаць у што б там ні было.

— Ясна, што трэба выканаць.

— Не, не ясна, а абавязкова. Разумееш? Кроў з носу, а вышыню ўзяць.

— А як падтрымка?

— Будзе, будзе падтрымка. Рота Злобіна будзе цалкам задзейнічана на вас.

— Гэта добра. Як прыдадзеная?

— Не. Будзе падтрымліваць. Са сваіх опэ.

Гэта была мінрота другога батальёна, у якой таксама не густа з мінамі, і ўся яна складалася з трох васьмідзесяцідвух-міліметровых мінамётаў. Але і то была радасць. Напэўна, адчуўшы задавальненне камбата, камандзір палка рашыў падмацаваць яго і паведаміў:

— І гэта — для кантролю і дапамогі табе паднімаю штаб. Хутка да цябе прыйдуць камандзіры...

Валошын крыва ўсміхнуўся і хмыкнуў у тэлефонную трубку:

— Во, то дапамога! Мне стваль патрэбны. Артылерыя з боепрыпасамі.

— Будзе, будзе. Я тут увязваю. Усе неабходныя распараджэнні ўжо аддадзены.

— Да-а,— самотна ўздыхнуў Валошын.— Распараджэнняў, вядома, хопіць...

— Падкінем «семачак». Лукашык ужо адправіўся. Павёз, што там у яго наскраблося...

— Таварыш дзесяты! — ажыўлена перапыніў яго камандзір батальёна.— А ўсё ж як з атакай? Дазволілі б на паўгадзіны раней? Ці на паўгадзіны пазней?

— Не, будзеце выконваць, як прызначана. Артбатарэя адкрывае агонь роўна ў шэсць трыццаць.

Валошын паморшчыўся. Ён так і ведаў, што гэтая яго просьба застанецца марнай, але вось не стрымаўся. І дарма. Здаецца, гэта была апошняя іх размова ў спакоі, наступныя ў гарачцы бою ўжо будуць іншыя — на высокіх нотах, з нервамі і матам. Гунько з пачаткам бою адразу мяняўся, і тады ў чымсь упрасіць яго ці пераканаць было немагчыма. Пераконвала яго толькі начальства, з якім ён заўжды заставаўся надзіва абыходлівым і пакладзістым.

Пакуль камандзір батальёна размаўляў па тэлефоне, прынеслі сняданак — Валошын пачуў, як за яго плячыма ажывіўся заўжды апатычны Чарнаручанка,— з задавальненнем пачаў завіхацца каля кацялкоў і боханаў мерзлага хлеба. Камбат паклаў на апарат трубку.

— Вось, таварыш камбат, снедайце.

Тэлефаніст паставіў на скрынку плоскі алюмініевы кацялок, абліты крупнікам, на знятае вечка зважліва паклаў пайку хлеба. Прыгуноў на саломе развязваў рэчмяшок.

— Тут во доппаёк вам, таварыш капітан. Старшына перадаў. Што тут? А, во сала...

Ён асцярожна выцягнуў з рэчмяшка нешта загорнутае ў падраную газету, паклаў на скрынку.

— Вось, вам і лейтэнанту.

Валошын зразумеў: гэта быў доппаёк за сакавік — месячная камандзірская дабаўка да салдацкай

франтавой нормы, заўжды нечаканая і нават дзіўнаватая сваёй нязвыклай далікатнасцю ў выглядзе рыбных кансерваў, масла, пячэння. Зрэшты, масла і пячэнне цяпер былі заменены салам, што, аднак, таксама няблага.

Пазіраючы, як разведчык старанна выцярушвае з рэч, мяшка рэшту пакрышанага пячэння, Валошын паспытаў абламаны кавалачак і з нядбайнай шчодрасцю пасунуў на край увесь пакамечаны, сыраваты кулёк.

— Частуйцеся, Чарнаручанка!

— Ды ну...

— Ешце, ешце. Пакуль Гутмана няма.

— Гэта вам,— сарамліва адмовіўся Чарнаручанка.— Мы во,— пашано...

— Гутман прыйдзе, прыбярэ,— сказаў Прыгуноў, і разам з Чарнаручанкам узяўся за свой кацялок з крупнікам.— І лейтэнанту тут. Усё разам.

«Не хочуць — хай прыбярэ Гутман»,— падумаў камбат, ён жа есці гэта пячэнне проста саромеўся, гледзячы, як адсоўваліся ад яго байцы. Тым не менш, як і ўсе, ён таксама быў галодны і, адчуваючы, як катастрафічна хутка міналі хвіліны ціхага часу, думаў, што неўзабаве стане не да яды. Ён таропка высербаў свае паўкацялка ледзь цёплага пшоннага крупніку з хлебам і засунуў у палявую сумку складную алюмініевую лыжку.

У гэты час зазумерыў тэлефон.

— Пачынаецца!

Сапраўды, пачыналася. Званіў ПНШ-2, патрабаваў звесткі аб разведцы абедзвюх вышынь, і Валошын груба сказаў яму, што сам яшчэ не атрымаў гэтых звестак. З ПНШ ён адвёў душу, выказаўшы яму ўсё, што думаў пра арганізацыю ягонай службы ў часці. Капітан пакрыўдзіўся, яны паспрачаліся, але толькі ён паклаў

трубку, як зазваніў начальнік артылерыі. Гэтаму трэба было ўвязаць некаторыя моманты артпадрыхтоўкі мінроты Злобіна з дзеяннямі яго батальёна. Начальніка артылерыі Валошын увогуле паважаў, гэта быў талковы кадравы капітан, з якім яны выдатна дамаўляліся на тактычных вучэннях пад Свярдлоўскам, але цяпер Валошын зрэзаў яго пытаннем:

— Колькі?

— Што — колькі?

— Колькі «дыняў» на мяне адпушчана? Бэка? Два?

— Ого, захацеў! — развесяліўся капітан.— Бэка! Па дваццаць «дынек» на ствол.

— Зразумеў. Што і ўвязваць! Якое тут можа быць узаемадзеянне?

— Тым больш трэба ўзаемадзейнічаць,— сказаў начарт. — Калі «дынек» навалам, тады сапраўды... Тады еш ад пуза і яшчэ застанецца. А тут кожная «дынька» на ўліку, разумееш?

— Вось што, капітан,— сказаў Валошын.— Я папрашу толькі аднаго: каб не ўсе адразу. Каб — на пасля. Спярша ўжо я сам як-небудзь. Зразумеў ты мяне?

— Я зразумеў,— уздыхнуў у трубку начарт.— Ды нада мной ці зразумеюць?

«Над табой наўрад ці зразумеюць»,— падумаў Валошын, пачуўшы, як у траншэі затупалі крокі і хтось, ціха размаўляючы там, затузаў палатку. Па бесклапотным смеху і ўрыўках размовы камбат зразумеў, што гэта ішлі работнікі штаба, пасланыя да яго для кантролю і дапамогі. І сапраўды, у цесную зямлянку неўзабаве ўціснуліся тры мажныя камандзірскія постаці ў паўшубках, са счырванелымі ад марознага ветру тварамі, заклапочаныя і ў той жа час поўныя важнасці ўскладзеных на іх абавязкаў.

— Прывітанне, камбат,— фамільярна падаў яму руку

першы, хто ўвайшоў,— капітан Хілько, начхімслужбы палка, чалавек падкрэслена просты ў сваіх адносінах з камандзірамі і падначаленымі.

— Мы думалі, камбат яшчэ спіць,— сказаў другі, тонкі, з чарнявым нервовым тварам, палкавы інжынер, прозвішча якога Валошын не памятаў, бо ў полк той прыбыў нядаўна.— Гэта нас паднялі ні свет ні зара.

— Да, вас дарма паднялі,— сказаў камбат, з міжвольным незадавальненнем ад гэтай навязанай яму фамільярнасці. Увогуле ён быў не супраць фамільярнасці, але цяпер адчуваў, што за ёй стаяла жаданне гэтых людзей глыбей улезці ў сутнасць яго і без таго маларадасных спраў, і ён не мог не супраціўляцца гэтаму.

— Як гэта дарма? — прастадушна здзівіўся трэці — таўставаты, з жывоцікам чалавек, якога Валошын бачыў упершыню і цяпер не без некаторай асцярогі прыглядаўся да яго маёрскіх пагонаў.— Як гэта дарма? Хіба атака адмяняецца?

— Атака не адмяняецца,— сказаў Валошын.— Атака ў шэсць трыццаць.

— Во-во! Палкоўнік менавіта так і арыенціраваў. Камандзір дывізіі,— удакладніў маёр, каго ён меў на ўвазе, і камбат падумаў, што, мяркуючы па ўсім, гэта — прадстаўнік штаба дывізіі.— Значыць, значыць...— гаварыў ён, азяблымі рукамі спрабуючы дастаць з кішэні гадзіннік.

Валошын апярэдзіў яго, выняў свой і сказаў:

— Значыць, засталося паўтары гадзіны.

— Правільна. Таму не будзем марнаваць час, у мяне сем пунктаў.

— Сем пунктаў чаго? — не зразумеў камбат.

— Сем вызначаных пунктаў праверкі. Пункт першы: наяўнасць конскага саставу?

— Восем коней,— не адразу, з некаторым здзіўленнем сказаў камбат.— Пяць мерынаў і дзве кабылы. Было яшчэ жарабя, ды недзе згубілася.

— Так, так,— заспяшаўся маёр, няўмела і таропка расшпільваючы сваю палявую сумку — яму трэба было запісаць.— А які стан вупражы?

— Здавальняючы.

— Ветэрынарная забяспечанасць? — задаў наступнае пытанне маёр, паспешліва рыхтуючы блакнот для запісу нізка нахіляючыся.

— Мабыць, вы нешта зблыталі,— са з'едлівым спакоем сказаў камбат, пачынаючы ўжо здагадвацца, што перад ім ветэрынар са штаба дывізіі.— У мяне, таварыш маёр, атака. А не вывадка конскага саставу.

— То есць як? — акругліў вочы маёр.— А конскі састаў?..

— Вельмі проста. Знайшлі час, чым цікавіцца! У мяне да атакі палавіна гатоўнасці.

— Палавіна гатоўнасці? — з яшчэ большым здзіўленнем перапытаў маёр.— Але ж праз паўтары гадзіны...

— Ужо праз гадзіну дваццаць...

— Я здзіўлены і збянтэжаны,— прабурчаў маёр, нахіліўшыся да ліхтара, каб запісаць нешта.

— Да, час ідзе,— пацвердзіў інжынер.— Я толькі хацеў паглядзець схему інжынерных збудаванняў батальёна. Атака атакай, але не грэх дбаць і пра абарону.

— Гэта ў начальніка штаба,— суха сказаў камбат.

— А дзе начштаба?

— У ротах.

— Добра. Я пачакаю.

— Ага, вы пачакайце,— раптам спахапіўся камбат, адчуўшы, што паявілася магчымасць адчапіцца ад гэтых правяральшчыкаў. Але адчапіцца ад іх можна было толькі пайшоўшы ў баявыя парадкі рот — туды ўжо яны наўрад ці сунуцца.— Чарнаручанка!

— Я! — падняў галаву тэлефаніст.

— Бярыце катушку, апарат і за мной шагам марш!

— Гэта як? — здзівіўся інжынер.

— Я адпраўляюся ў роты.

— Але ж тут ваш КП.

— Тут КП. Тут будзе ад'ютант батальёна. Вось з ім займіцеся. Ён у курсе ўсяго.

Чарнаручанка папярэдзіў тэлефаніста на другім канцы провада і пачаў таропка выдзіраць з куткоў калочкі, якімі мацаваўся кабель, Прыгуноў згрэб рэчмяшкі, узваліў на плячо запасную катушку, і камбат, не чакаючы іх, ірвануў палатку над выхадам.

Ён ужо быў спакойны. Яго нядоўгая злосць хутка ўлягалася, гэта было яшчэ не самае горшае — «кантроль і дапамога» таксама мелі свае слабыя месцы, і з імі можна было змагацца. У роты наўрад ці яны сунуцца, застануцца ў зямлянцы, тым больш што ён аддаваў ім Маркіна. Маркіну, вядома, дастанецца. Але камбат не адчуваў падставы, каб каяцца — ён сапраўды не меў ні хвіліны часу на гэтыя размовы,— уся яго істота, кожны нерв і кожная думка ў галаве былі захоплены будучым боем.

Ён выбег з траншэі і пайшоў па быльнягу ўніз. Злева, недзе ля пасёлка саўгаса, відаць, таксама падняўся перапалох — свяцілі ракеты, і трасіруючыя чэргі агнянымі раямі мільгалі над чорнай зямлёй па краі зорнага неба. Там, напэўна, таксама працавалі разведчыкі — сёння другі батальён трошкі пазней за трэці таксама пачынаў сваё наступленне, якое не прынесла яму поспеху ўчора. Безумоўна, узяўшы гэтую

праклятую вышыню, Валошын вельмі памог бы другому, зрэшты, таксама, як і другі памог бы яму, калі б захапіў саўгас. Але з іх аслабленымі сіламі захапіць што-небудзь было не так проста, думаў камбат, мабыць, крыві сёння пральецца нямала. Ці застанецца хоць што-небудзь ад яго батальёна?

А што, калі правесці манеўр, не прадугледжаны ні камандзірам палка, ні статутам, і яшчэ да пачатку артпадрыхтоўкі і да світання паслаць на той бок роту — у час атакі яна б пасобіла астатнім, узяўшы агонь на сябе. Ды і сама памагла б агнём. На самай справе! Ноччу прабрацца пад вышыню, напэўна, удалося б, кустоўе ў балоце маскіравала ад ракет і хоць не хавала ад агню з вышыні, усё ж байцам было ў ім надзейней. Хаця для таго, каб паслаць роту зноў, трэба звяртацца да камандзіра палка, зрабіць гэта без яго ведама камбат не меў права. Хіба што ўзвод? Скажам, таго ж Нагорнага...

Валошын хутка крочыў уніз, да балота, пад аціхлую ўранні вышыню. Вецер не пераставаў, было здорава холадна, мароз браўся, напэўна, градусаў пад семнаццаць. Набліжаўся світанак, стала зусім цёмна, толькі зоркі ў разрывах аблокаў бліскалі неспакойна і востра. Але ён ведаў, што неўзабаве іх бляск пачне слабнуць, неба нальецца сінькай, з начной цемры пачне выступаць шэры, непрытульны абсяг, і для батальёна праб'е яго час — шэсць трыццаць.

Валошын азірнуўся — Чарнаручанка з Прыгуновым адставалі, корпаючыся са сваёй катушкай, каторая часам гучна трашчэла, заядаючы кабель, мабыць, буксавала зубчатка. Ён хацеў як мага хутчэй асталявацца ў роце, але без сувязі цяпер не мог абысціся ні адной хвіліны і спыніўся, чакаючы байцоў. У пачуццях была кароткая палёгка, што ўдалося адчапіцца ад правяраючых, якія па сутнасці нічым памагчы не маглі, толькі блыталіся пад нагамі і заміналі. Кожны з іх адчуваў сябе разумнейшым у яго справах, а галоўнае — пнуўся са сваім правам указваць і нават загадваць. Як жа — яны былі пасланы ў батальён

зверху, з палка і дывізіі, і, значыцца, адчувалі сябе больш дальнабачнымі, чым усе, хто быў у батальёне. Нават і гэты дывізійны ветэрынар, якога гэтак ашаламіла яго негатоўнасць да атакі.

«Хай сядзяць сабе на КП, чакаюць Маркіна,— падумаў Валошын.— Утрох ім сумна не будзе».

Аднак ён памыліўся.

Толькі ён прыйшоў у роту Самохіна і загадаў Чарнаручанку паставіць тэлефон у траншэйцы, а Прыгунова паслаў у ланцуг па Самохіна, як ззаду трохі наводдаль ад роты пачуўся прыглушаны голас. Спярша здалося яму, што гэта хтосьці з байцоў, але затым данесліся характэрныя інтанацыі Гутмана, і ён узрадаваўся, падумаўшы, што Гутман, нарэшце, нясе доўгачаканыя звесткі аб разведцы вышыні «Малой».

Сапраўды, гэта быў Гутман, які хутка ішоў уніз да траншэі, але за ім, адстаючы, варушыўся хтосьці ў паўшубку, і камбат, прыгледзеўшыся да яго, пазнаў нядаўняга свайго правяральшчыка са штадыва.

— Таварыш камбат, вось прадстаўніка дывізіі прывёў,— бадзёра сказаў Гутман, быццам чакаючы пахвалы за сваю ініцыятыву.

Камбат у душы вылаяўся, згледзеўшы, як настырны маёр, сапучы, лезе ў вузкаватую для яго траншэйку.

— Хутка, аднак, вы ходзіце, камбат. Добра, што ваш ардынарац папаўся,— казаў ён як ні ў чым ні было.

**14**

Па меры таго як бліжэла хвіліна атакі, усё шпарчэй бег час, і Валошын баяўся, што не паспее, запарыцца з паспешлівай сваёй падрыхтоўкай, запарацца камандзіры рот, не паспеюць байцы. Але роты ў свой час атрымалі сняданак, разабралі падвезеныя ім боепрыпасы і цяпер з трывожнай напружанасцю бавілі рэшту гэтай пакутлівай перад атакай гадзіны. Нагорны

таксама, здаецца, паспеў. Мінула хвілін дваццаць, як ягоны ўзвод (зрэшты, хутчэй аддзяленне — чатырнаццаць чалавек), ціхенька споўзшы з узмежка, знік у перадранішняй цемры кустоўя, і ўсё там, за балотам, пакуль было ціха. Але што б ні рабіў камбат, чым бы ні займаўся ў сваёй прыбліндажнай траншэйцы, усёй сваёй абвостранай увагай ён быў там, за балотам. Ён вельмі баяўся, што немцы да часу заўважаць байцоў Нагорнага і сарвуць увесь яго план, які ён пакуль што ўтаіў ад камандзіра палка і стараўся ўтаіць ад гэтага датошнага прадстаўніка штаба дывізіі, што лез да яго з пытаннямі, нашто і куды ён пасылае байцоў. Але ішоў час, а перадсвітальная ціша над балотам нічым не парушалася, даючы камбату слабенькі спадзяванак на ўдачу.

Між тым разведчыкі Кізевіча ўсё не вярталіся, і гэта цяжкім каменем ляжала на свядомасці Валошына. Да апошняй хвіліны спадзеючыся на іх паяўленне, ён бавіў час у траншэйцы і не аддаваў загаду. Побач чакалі выкліканыя для таго камандзіры падраздзяленняў, з ракетніцай напагатове ляжаў на тыльным брустверы Гутман, а ён усё марудзіў, услухоўваўся і з усё большаю нецярплівасцю пазіраў у бок дзевятай — ці не ідзе Кізевіч? Але Кізевіч, напэўна, таксама чакаў да апошняй хвіліны, і камсорг Круглоў, які прыткнуўся ззаду на брустверы, зразумеўшы неспакой камбата, сказаў напаўголаса:

— Да, улопаліся, напэўна, вашы разведчыкі.

Напэўна, улопаліся, падумаў камбат, але дзе? Калі там,

на пагорку, свае, дык дзе ж яны маглі ўлопацца? Значыць, не свае, мабыць...

Аднак марудзіць далей стала немагчыма, да пачатку артпадрыхтоўкі засталося трыццаць хвілін, неба ўжо болей віднела, ужо добра стаў бачны хмызняк у балоце, і камбат спахапіўся:

— Гутман, бяжыце па камандзіра дзевятай.

Ардынарац сарваўся з бруствера і жвава пабег краем

балотца. У траншэі прымоўклі, адчуўшы набліжэнне самага важнага, для чаго сабраліся тут — аддачы баявога загаду, пасля чаго ранак ужо будзе належаць не ім. Пачнецца бой, цяжкі і доўгі, можа быць, на ўвесь дзень да вечара, і для некага з іх гэты дзень, напэўна, стане апошнім у ягоным жыцці. Але кожны з тых, хто стаяў цяпер у траншэі, пераборваў у сабе гэта дрыготкае адчуванне, маскіруючы яго то паспешнай закуркай, кароценькім жартам, пустой, неабавязковай тут рэплікай. Яны былі не навічкі на вайне і ўмелі валодаць сабой нават у такім самотна-гнятлівым чаканні, як гэтыя апошнія перад атакай хвіліны.

Камбат абвёў вачмі прысутных і, не ўбачыўшы камандзіра батарэі, запытаў:

— А дзе капітан Іваноў?

— А вунь бяжыць быццам,— сказаў, азірнуўшыся, Круглоў.

Сапраўды, з пагорка, прыгнуўшыся, спазнела прыбег камандзір батарэі і, шорхаючы палаткай, упаў бокам на бруствер. Два тэлефаністы з цяжкай, толькі што распачатай катушкай цягнулі за ім тэлефонную сувязь.

— Сюды, сюды давайце! — сцішана гукнуў ім капітан і вінавата сказаў прысутным: — Затрымаўся, прашу прабачыць. З боепрыпасамі марока. Толькі што прывезлі.

Стоячы на паўабарота, Валошын стрымана кіўнуў галавой. Позірк камбата слізгануў па маўклівай постаці лейтэнанта Муратава і спыніўся на ягоным суседзе Самохіне, які, прыпякаючы пальцы, нервова дакурваў «бычок». Камбат хацеў пра нешта запытаць у лейтэнанта, але па другі бок траншэйкі заварушыўся са сваім пакамечаным блакнотам усё той жа ветэрынар з дывізіі.

— Таварыш камандзір батальёна, прашу адказаць яшчэ

на адно пытанне. Як забяспечваецца ў вас падвоз боепрыпасаў?

— Усё, што далі, ужо прывезлі,— сказаў Валошын.— Больш не чакаецца.

— Як гэта?

— Проста. Болей сёння не дадуць. Выдалі ўсё, што было.

— Ах, што было,— зразумеў маёр.

— Таварыш маёр,— сказаў камбат.— Я б вам параіў, пакуль не развіднела, адправіцца на мой КП. А то, як пачнецца, адсюль не выберацеся.

Ветэрынар пакрыўджана ўскінуў крануты шчаціннем, трошкі азызлы за бяссонную ноч твар.

— А я і не маю намеру выбірацца, таварыш камбат. Я прысланы камандзірам дывізіі знаходзіцца тут, пакуль не будзе ўзята вышыня. Я абавязаны ажыццяўляць кантроль за выкананнем яго загаду.

— Ну як сабе хочаце,— спакойна сказаў камбат, адразу губляючы да маёра цікавасць — у яго была процьма спраў болей важных.

Ён чакаў Кізевіча з Гутманам, але спярша прыбег адзін Гутман, які кінуў камбату: «Няма разведчыкаў», пасля з прыцемак паказаўся камандзір дзевятай. Яго змрочны выгляд красамоўна пацвердзіў невясёлае паведамленне ардынарца, і камбат расчаравана адвярнуўся. Чакаць далей не было магчымасці.

— Таварышы камандзіры!..

У траншэйцы і на брустверы ўсе разам прыціхлі, хаця і так амаль усе маўчалі, спыніўся шорхат палатак аб зямлю, настала важная хвіліна, якая патрабавала засяроджанай увагі ўсіх.

— Слухайце баявы загад,— цвёрдым, трошкі напружаным голасам сказаў камбат.— Арыенціры.

Нумар адзін...

Аддаючы загад, ён стараўся прытрымлівацца пунктаў нядаўна ўведзенага баявога статута пяхоты, хоць у яго і была свая, адпрацаваная практыкай схема загаду. Але ён пакасіўся на ветэрынара, які азяблымі пальцамі старанна крэмзаў у сваім блакноце, напэўна, запісваючы ягоныя словы. Зрэшты, тое мала непакоіла камбата, увагу якога цалкам узяў сабе план бою, трудная, можа быць, марная магчымасць уварвацца на вышыню і адолець там немцаў. Ён бы хацеў і болей сказаць аб праціўніку, але ён мала пра яго ведаў, сістэма яго агню не была ўся раскрыта, ягоныя агнявыя магчымасці таксама. Паставіць задачы ротам было няцяжка, тут усё было звыкла, хаця камбата і не пераставаў непакоіць правы, адкрыты фланг яго батальёна. На выпадак якой непрыемнасці з-за гэтага фланга ён загадаў камандзіру дзевятай атакаваць вышыню ўступам, з загнутым у бок вышыні «Малой» флангам — мабыць, гэта будзе не лішне. Яму ж ён перадаваў адзін з двух кулямётаў Ярашчука, чым адразу ж выклікаў бурнае незадавальненне малодшага лейтэнанта.

— Што іх раскідваць! Так узвод, а то...

Камбат маўкліваю паўзай ігнараваў гэтую яго заўвагу і прадаўжаў ставіць задачы:

— Паўтараю: галоўны план бою заключаецца ў хуткасці дзеянняў. Роты пераадольваюць балота бягом, як мага хутчэй выходзяць на рубеж узвода Нагорнага. Камандзір дзевятай! Ваша задача асабліва важная — як мага глыбей ахапіць вышыню «Вялікую» справа і ні на хвіліну не ўпускаць з-пад увагі вышыню «Малую» за балотам.

— А калі там немцы? — сказаў з бруствера заклапочаны цяпер Кізевіч.

— Калі там немцы, вы не зможаце ажыццявіць гэты ахоп. Тады спярша трэба збіваць адтуль немцаў.

— Кім збіваць? Узводам?

— Гэта будзе відаць. У ходзе бою.

Ён яшчэ не паспеў скончыць аддачу загаду, як унізе ў паспешна выкапанай ячэйцы заварушыўся ля тэлефона Чарнаручанка.

— Дзесяты выклікае.

З незадавальненнем спыніўшы размову, камбат апусціўся на кукішкі і ўзяў з рук тэлефаніста трубку.

— Валошын, засталося пятнаццаць хвілін. Я чакаю даклад аб гатоўнасці,— раздражнёна напомніў камандзір палка.—Што вы доўга капаецеся там? Аператыўней трэба!

— Я аддаю баявы загад,— сказаў Валошын.

— Аддавайце і дакладвайце. Роўна ў шэсць трыццаць артылерыя павінна адкрыць агонь.

— Я буду гатовы ў час.

— Ну-ну. Я чакаю.

Камбат выпрастаўся ў траншэі і нечакана для сябе сустрэўся позіркам з камандзірам восьмай Муратавым.

— Галоўны ўдар наносіць восьмая, лейтэнант Муратаў.

— Як заўсёды,— з глухаватай няпэўнасцю азваўся Муратаў.

Валошын падумаў: сапраўды, як заўсёды. Але што рабіць, такі лёс усіх часцей і падраздзяленняў, якія знаходзяцца ў цэнтры баявога парадку, наступаюць у лоб і церпяць болей за іншых. Затое ў абароне больш дастаецца фланговым; усе непрыемнасці ў абароне звычайна сыплюцца з флангаў.

— Якія пытанні? Што незразумела? — запытаў камбат, зірнуўшы на гадзіннік.

Сапраўды, трэба было спяшацца, яго час канчаўся. Але ўсе заклапочана маўчалі, у траншэі зрабілася надта ціха, толькі Круглоў гулліва кідаў з бруствера камячкі зямлі на недалёкую плаху лёду.

— Калі пытанняў няма — па месцах! — сказаў камбат, з асаблівай выразнасцю адчуўшы, што ўжо зусім нічога не засталося.

Заставалася дачакацца прызначанай хвіліны і паслаць у неба букет зялёных ракет. Пасля будзе бой.

Камандзіры выскачылі з траншэі і, прытрымліваючы палявыя сумкі, пабеглі да сваіх падраздзяленняў. У траншэі стала вальней, разам з камбатам у ёй застаўся Самохін, дзіўны ў сваёй службісцкай упартасці ветэрынарны доктар, капітан Іваноў з двума сувязістамі. Праз дзверы расчыненага бліндажа засяроджана пазіралі сувязныя — па адным з кожнай роты. Чарнаручанка корпаўся ў сваёй ячэйцы, а Круглоў на брустверы, таропка прыкурыўшы ў Гутмана, сказаў да камбата:

— Пайду, напэўна, у роту Кізевіча. Гляджу, тут камандзіраў хапае.

— Правільна,— адобрыў Валошын, падумаўшы, што ў гэтай самай аддаленай роце прысутнасць лішняга камандзіра будзе дарэчы.— Ідзіце ў дзевятую. Там у выпадку чаго...

— Ясна,— сказаў камсорг і развітальна махнуў рукой.— Ну, хай будзе ўдача.

— Хай,— сказаў камбат і зрабіў крок да Іванова.— Паша, як батарэя?

— Батарэя гатова,— сказаў Іваноў, апускаючы ад вачэй бінокль, праз які ён разглядаў вышыню.— Вось толькі яшчэ не відаць ні д'ябла.

Ён ужо ўладкаваўся на броўцы бруствера, пасадзіў каля ног тэлефаніста, маладзенькага жвавага хлопца ў зялёным шынялі. З-за палы паўшубка ў капітана тырчэў

краёчак блакнота і кніжка табліцы стральбы з закладзеным у ёй алоўкам. Ніякіх артпрыбораў у Іванова пры сабе не было, як заўжды, прыстрэлку ён рабіў на вока, абыходзячыся старэнькім падрапаным біноклем.

— Ага, яшчэ цемнавата,— зірнуўшы на вышыню ў бінокль, пацвердзіў Валошын.

— Яшчэ хвілін дваццаць трэба. Пакуль развіднее. Паблізу відаць, а далячынь уся ў прыцемку. Куды ж страляць? Разрыву не ўбачыш.

— Значыцца, трэба пачакаць,— сказаў лейтэнант Самохін, запіхваючы ў кішэні гранаты. Затым ён закінуў за плячо ППШ і сказаў камбату: — Ну, я — у ланцуг.

— Значыць, бягом,— напомніў на развітанне Валошын. — Дзве перабежкі — і каб на вышыні. Толькі так, не інакш.

— Пастараемся, таварыш капітан,— сказаў лейтэнант і лёгка выскачыў з траншэі.

Унізе зноў зазумерыў тэлефон, і засяроджаны твар Чарнаручанкі зышоўся на ўвазе. Заклапочаным позіркам тэлефаніст пашукаў камбата: «Вас».

Камбат узяў трубку і, ужо ведаючы, якое пачуе пытанне, сказаў бадай што са злосцю:

— Яшчэ не гатовы. Як буду гатовы, далажу!

— Вы зацягваеце час, вы зрываеце тэрмін атакі! — раздражнена загаварыў камандзір палка.— Што за безабразіе, капітан?!

— Што — тэрмін! Мне нічога не відаць! Артылерысты яшчэ не бачаць вышыню.

— Вочы ім працерці, тваім артылерыстам! — загрымела ў трубцы.— Ужо зусім развіднела, відней не будзе!

— Таварыш дзесяты, трэба пачакаць яшчэ хоць дзесяць

хвілін,— спакойна сказаў камбат.— Навошта ж паліць у белы свет, як у капейку. Снарады яшчэ спатрэбяцца.

— Вы проста не гатовы. Вы толькі спіхваеце на артылерыстаў! Вы не арганізавалі атаку! — злосна крычаў камандзір палка, і Валошын адчуў, з якім бы задавальненнем ён таксама перайшоў на крык. Але ён з усяе сілы імкнуўся захаваць спакой і не згубіць вытрымкі, якая сёння яшчэ вельмі яму спатрэбіцца.

— Таварыш дзесяты, сапраўды я не гатовы. Як буду гатоў, далажу.

Ён апусціў клапан і перадаў Чарнаручанку трубку, тут жа спаткаўшы ўстрывожаны позірк маёра.

— Гэта хто? Гэта са штаба дывізіі?

— Гэта са штаба палка,— сказаў Валошын. Маёр, памаўчаўшы, дастаў свой тоўсты старасвецкі гадзіннік на срэбным бліскучым ланцужку.

— Засталося чатыры хвіліны,— сказаў ён трошкі дрыготкім ад хвалявання голасам.

— Трэба пачакаць,— сказаў, азірнуўшыся ад бінокля, Іваноў.— Яшчэ зусім кепска відаць!

Камбат адкінуўся да задняе сценкі траншэі, ён думаў. Вядома, пачынаць артпадрыхтоўку, якая б яна ні была, калі яшчэ не відно вяршыні вышыні, было бязглуздзіцай, але ён ведаў таксама, што любая затрымка з атакай дарма яму не абыдзецца. Ужо Гунько спагоніць з яго як мае быць, адвядзе душу за ўсе апошнія няўдачы палка, асабліва калі да іх дабавіцца яшчэ і няўдача ягонага батальёна. Гэта ўжо пэўна. Тым не менш ён рашыў з цвёрдасцю:

— Пачакаем!

Побач у нямым здзіўленні знерухомеў маёр.

— Як? Вы адкладваеце атаку?

— Адкладваю. На пятнаццаць хвілін.

— Я пратэстую. Вы парушаеце загад. Я буду дакладваць.

— Можаце дакладваць,— спакойна сказаў камбат.— Вы бачыце — цёмна. Куды ж страляць? Камандзір батарэі не бачыць цэляў.

Маёр разгублена глядзеў на яго.

— Але ж загадана ў шэсць трыццаць.

— Загад аддаваўся ноччу, калі было зусім цёмна. Але ж вось не развіднела па загаду.

Ветэрынар збянтэжана змоўк, пярэчыць яму не было чым, але і ігнараваць перанос тэрміну атакі ён таксама не мог і разгублена пазіраў на далонь з пакладзеным на яе гадзіннікам.

Валошын таксама выняў гадзіннік — доўгая стрэлка няўхільна набліжалася да шасцёркі, затым неўпрыкмет перапаўзла яе, і ўнізе зноў зазумерыў тэлефон.

— Скажы, што камбат пайшоў у роты,— сказаў Валошын, і Чарнаручанка, блытаючыся і заікаючыся, пачаў тлумачыць у трубку адсутнасць камандзіра батальёна.

— Так будзе лепш. Ну як бачнасць, Паша? — запытаў ён Іванова.

— Яшчэ б дзесятак хвілін. Ледзьве прыкметна стала траншэя.

Валошын узняў бінокль.

— Бачыш канец траншэі, самы яе ніжні адростак-вус? Там бліндаж або, можа, дзот, з кулямётам.

— Ага, бачу. Учора мае засеклі.

— Далей на павароце траншэі яшчэ кулямёт, ноччу засек сам. Гэты самы небяспечны. На два схілы працуе.

— Во яго мы і прыхлопнем,— упэўнена сказаў Іваноў,— У першую чаргу.

— Далей усё па траншэі. Там кулямётаў пяць-шэсць.

Трэба накрыць.

— Паспрабуем.

— Ну і спіраль Бруно. Хоць бы па адным пападанні на роту.

Не адрываючыся ад бінокля, Іваноў скамандаваў тэлефаністу:

— Батарэя, к бою!

— Батарэя, к бою! — як рэха, тэнарам адгукнуўся тэлефаніст і яснымі вачмі з-пад ссунутай на вуха шапкі ўставіўся ўгару на камбата — чакаў новыя яго каманды.

— Па кулямёту... Гранатай, узрывальнік асколачны... Зарад чацвёрты... Рэпер номер першы, лявей ноль сорак. Прыцэл сорак восем. Першаму адзін снарад — зарадзіць!

Тэлефаніст перадаў усё да апошняга слова, некалькі секунд пачакаў і нарэшце ўзняў да камбата ўсё той жа поўны гатоўнасці позірк сініх вачэй.

— Першая гатова! — амаль праспяваў ён.

— Ну што? — запытальна зірнуў на камбата Іваноў.— Я гатовы.

Валошын апусціў бінокль і рашуча працягнуў руку да трубкі. Чарнаручанка зразумеў і папрасіў даць дзесятага.

— Я гатовы! — сказаў камбат, як толькі пачуў у трубцы мікрафоннае шчоўканне клапана.

Камандзір палка са стогнам закрычаў нешта, але камбат, апярэдзіўшы яго, ускінуў левую руку ў напрамку да Гутмана.

— Гутман, ракету!

Гутман быў напагатове і, хруснуўшы курком нямецкай ракетніцы, узняў яе над галавой.

Валошыну здалося, што зялёны букет ракеты пырхнуў у цьмянае неба на імгненне раней, чым хлопнуў стрэл ракетніцы, і прыгожа расквітнеў у вышыні над чэзлым кустоўем балота.

— Агонь! — нягучна скамандаваў Іваноў.

Праз секунду ззаду пругка ўдарыла, слаба аддаўшыся за лесам, і першы гаўбічны снарад, распорваючы тугое паветра, прайшоў над галовамі. Пасля на некалькі секунд ягоная хада недзе заціхла, нібы згубілася ў небе, але вось на самай макаўцы вышыні ля траншэі абвальна грымнуў і раскаціўся разрыў. Вецер падхапіў воблака пылу і хутка панёс яго коса па схіле...

## 15

Байцы таропка павыскоквалі з сваіх акопчыкаў і, прыгінаючыся, з прытоенай страхавітасцю на тварах, сыпанулі з абмежка да балота. На працягу некалькіх секунд камбат бачыў амаль увесь батальён, за выключэннем хіба захінутай пагоркам роты Кізевіча, затым балотны хмызняк праглынуў усіх. Першы даволі дружны рывок падаваў надзею, цяпер бы яшчэ пару такіх рыўкоў, і батальён быў бы на схіле. Але камбат ведаў, што неўзабаве ўдараць немцы і ўсё можа скончыцца іначай.

Іваноў, не адрываючыся ад бінокля, перадаваў каманды, і ўгары цераз іх галовы з трэскам і стогнам ішлі цяжкія гаўбічныя снарады, якія з магутным глыбінным грукатам абрыналіся на вышыню. Цяпер ён біў па траншэі — з бліндажом і кулямётам, напэўна, было ўжо скончана. Немцы маўчалі, і Валошын хацеў быў сказаць камандзіру батарэі, каб той зрабіў паўзу — нашто дарма біць па аціхлай траншэі? Але толькі ён падумаў пра тое, як на вышыні апантана засакатаў кулямёт. Валошын

трошкі падвярнуў акуляры бінокля і ўбачыў за балотам у самым пачатку схілу некалькі шэрых прыгорбленых постацей, якія з натугай беглі па схіле ўгору. Хтось з іх там упаў, падняўся, наперад вырваўся адзін у ватоўцы з кароткім аўтаматам у руках, і Валошын пазнаў у ім Нагорнага. Пакуль роты пад прыкрыццем артагню перабягалі балота, Нагорны атакаваў траншэю.

— Паша, ты бачыш? — крыкнуў камбат.— Вунь мае вырваліся! Хутчэй накрый кулямёт! І праходы, праходы ў спіралі...

— Дзе ж ён? От чорт, не згледзець...

Кулямёт хлёстка біў па ўзводу Нагорнага, кулі з працяглым віскам несліся з вышыні над балотам, але кулямётнай пазіцыі згледзець не ўдавалася. Камбат да болю ўціскаў акуляры бінокля ў вачніцы, пакуль не пачуў, як ззаду задудукалі абодва яго ДШК, і цераз траншэйку і кустоўе да вышыні напяліся дымныя, прыкметныя ў небе струмені буйнакаліберных трас. Валошын падумаў, што Ярашчук бачыць цэль, і скіраваў позірк следам за трасамі, але прыкмеціць, дзе яны канчаліся, было немагчыма. Дымнатрасірныя чэргі імчаліся ў кірунку да вышыні і бясследна знікалі недзе на яе вяршыні.

Камбат напружыў зрок, чакаючы, што за балотам нарэшце пакажуцца ягоныя роты, але рот яшчэ не было відаць. Падобна было на тое, што Нагорны паспяшаўся, хаця гэта было лепш, чым калі б ён прамарудзіў — спазненне з атакай пляжыла ўсю задуму з гэтаю падманлівай вылазкай. Нагорны ўдарыў як трэба і чатырнаццаццю сваімі байцамі прыкрыў батальён. Нават калі ён і не ўварвецца ў траншэю, гэты манеўр зробіць для батальёна сваю добрую справу.

Аднак агонь з такой блізкай адлегласці быў для яго знішчальны, і Валошын унутрана сцяўся — чакаў таго непазбежнага моманту, калі Нагорны заляжа, наткнуўшыся на нябачную адгэтуль, дзесь там расцягнутую спіраль Бруно. Ён і сапраўды залёг — некалькі чалавек раптам упала на шэры задымлены

схіл, ратуючыся ад кулямётнага агню, ці, можа, былі забітыя. Але тут жа, нібы па ягоным жаданні, на вышыні выраслі поруч тры пыльных прыземістых выбухі, якія, напэўна, не разбурылі траншэю, затое пылам засланілі ад яе распластаных на схіле байцоў. І ўзвод падняўся. Некалькі чалавек, што нядаўна здаліся яму забітыя, раптам падхапіліся з зямлі і адважна пабеглі ўгору, у падняты мінамі пыл, які бакавы вецер коса зганяў з вышыні.

— Маладзец! — сказаў Валошын.— Ну давайце ж, давайце!

Апошнія яго словы адносіліся да суседзяў-мінамётчыкаў, што нарэшце адкрылі агонь і так памаглі Нагорнаму. Камбата захляснула спазнелае пачуццё ўдзячнасці гэтаму непрыкметнаму працаўніку вайны, які без позы і лішніх слоў толькі за апошнія суткі столькі зрабіў для батальёна. А ён не знайшоў нават часу сказаць яму добрае слова, крыху пажартаваць у размове — усё звяртаўся з халоднай камандзірскай афіцыйнасцю, тонам загаду. Спазнелае шкадаванне на хвіліну варухнулася ў душы камбата і тут жа забылася, выцесненае іншымі клопатамі.

— Ага, во ён, падлюга! Бачу! — узрадавана сказаў Іваноў і закамандаваў тэлефаністу: — Лявей ноль-ноль два, уравень больш ноль-ноль адзін...

Пачыналася ювелірная стральба, дакладнасці якой мог пазайздросціць снайпер. Але Іваноў умеў, калі было трэба, наперакор артылерыйскай тэорыі, пакласці тры снарады ў адну варонку, у сваёй справе ён таксама быў снайпер.

Тым часам мінамётчыкі далі яшчэ некалькі ўдалых залпаў — на задымленай вышыні заскакалі кусцістыя выбухі мін, між каторых магутна і роўна нішчылі бруствер траншэі гаўбічныя разрывы Іванова. Пахілы бок вышыні завалакло дымнаю імглой, якую свежы ранішні вецер ужо не паспяваў здзімаць прэч, і рванае клочча пылу коса цягнулася ў хмарнае неба. Бачнасць рэзка пагоршылася, бой грукатаў ва ўсю моц, усё там

бязладна ахала, трэслася, уздрыгвала, віскам і грукатам поўнячы сцюдзёны світальны прастор. Але роты, напэўна, ужо выходзілі з балота, і трэба было не даць ім спыніцца перад рашучым рыўком на схіл.

Валошын левай рукой выхапіў у Чарнаручанкі трубку.

— Алё, дзесяты! Няма дзесятага? Перадайце ад дваццатага з «Бярозы» — змена НП. Зразумелі? Мяняю НП.

І, кінуўшы ў рукі Чарнаручанкі трубку, ён з жвавасцю распарадзіўся ў траншэі:

— Гутман! Чарнаручанка! Зняць сувязь і за мной! Хутка!

Чарнаручанка з неўласцівай яму паспешлівасцю адной

рукой ірвануў зазямленне, другой згрэб свой апарат; Гутман падхапіў катушку з напалову зматаным кабелем, зірнуўшы на якую, камбат з трывогай падумаў: не хопіць. Гэтага кабелю да вышыні не хопіць, як тады быць? Зрэшты, сувязныя ад рот ужо лезлі на бруствер, і ён крыкнуў Іванову, які працягваў кіраваць агнём:

— Хвілін дзесяць паддай!

— Дзесяць паддам! — крыкнуў у адказ Іваноў.— Толькі не больш...

— А ты радзей, каб трапненька...

— Уравень менш ноль-ноль адзін,— камандаваў Іваноў.

«Ну цяпер накрые»,— падумаў камбат, збягаючы па мёрзлай траве на брудныя плахі падталага лёду. Першае радаснае адчуванне, выкліканае ўдалым пачаткам, аднак, хутка мінalася, ён ведаў напэўна, што некалькімі кулямётамі справа не абыдзецца, што неўзабаве немцы ўдараць чым-колечы і больш адчувальным. Ударацць з мінамётаў, і тады будзе горш. Але пакуль на вышыні магутна грымелі свае разрывы і дробным трэскатам заліваўся ручны кулямёт, хацелася

думаць, што ўсё абыдзецца. Яму б яшчэ хвілін дваццаць, за гэты час восьмая пад прыкрыццём артагню, напэўна, дабегла б да бліжняга адростку траншэі. Асабліва калі за яго ўдалося зачапіцца Нагорнаму.

Валошын разгоніста бег па лёдзе, заследжаны бруднымі падэшвамі байцоў яго рот, за ім блізенька трымаліся трое сувязных. Чарнаручанка з Гутманам неўзабаве адсталі, заблытаўшы ў кустах провад, і ён крыкнуў аднаму з сувязных, худому хлопцу ў кароткім шынялі і блакітных да калень абмотках, хутка памагчы ім. Баец з напружаным недаўменнем зірнуў на яго, але затым адкінуў назад споўзшую на жывот процівагазную сумку і спыніўся. Камбат прыгнуў галаву, прадраўся праз лазняковыя зараснікі, выскачыў на льдзістую з падталым снегам прагаліну і азірнуўся; за ім з-за куста, няспрытна расстаўляючы ў бакі ногі і коўзаючыся, бег ветэрынар. Яго расшпіленая кабура апусцела боўталася на дзязе, вузенькі раменьчык цягнуўся да рукі з варанёным наганам, якім маёр нязграбна ўзмахваў, імкнучыся захаваць раўнавагу на слізкіх падэшвах.

— А вы куды? — не стрымаўшыся, злосна крыкнуў Валошын.

Ветэрынар толькі раскрыў рот, каб нешта сказаць, як раптам абодва яны аглушана скалануліся, на імгненне страціўшы адчуванне.

«Ну во, нарэшце! — з дзіўнай злой радасцю падумаў камбат, інстынктыўна ўвабраўшы галаву ў плечы.— Нарэшце пачынаецца...»

У хмарнай вышыні над балотам аглушальна трэснула раз і другі, тугім звонам заклала левае вуха. Валошын паглядзеў угору — над балотам, нібы кінуты ўгару клок поўсці, плыло на ветры чорнае воблачка. «Прыстрэлачны!» — падумаў камбат і зноў азірнуўся. Ветэрынар ляжаў пад навіслым галлём альхі, нізка ўтупіўшы галаву ў падвязанай пад барадой вушанцы. Падумаўшы, што яму папала, Валошын кінуўся назад.

— Вы што? Паранены?

Маёр страпянуўся і з запытальным недаўменнем у вачах уважліва паглядзеў на камбата.

— Н-не, я не ранены,— выціснуў ён, заікаючыся.

— Устаць і бягом! Бягом! — скамандаваў Валошын, ведаючы, што ад брызантных разрываў тут не схавацца, што трэба як мага найхутчэй выскачыць з раёна паражэння іх смяртэльных асколкаў.— Бягом!

У наступнае імгненне з рэзкім аглушальным трэскам грымнулі яшчэ чатыры выбухі, трохі, праўда, далей, чым першы, бліжэй да краю балота,— якраз над тым месцам, дзе былі роты. Сотні сталёвых асколкаў гарачай віхурай абдалі кустоўе, зразаючы голле і наскрозь прапякаючы тоўсты, да самага дна, лёд. Ветэрынар зноў упаў, але тут жа падняўся; ззаду, ламаючы голле, яго даганяў Гутман.

Болей камбат не азіраўся, разам забыўшыся пра сябе і сваю бяспеку — трывога за роты, над якімі цяпер аглушальна загрукалі счацвяроныя выбухі брызантных, апаліла яго. Ён кінуўся наўпрасткі да блізкага ўжо краю балота, рашыўшы ў што б там ні было падняць батальён на апошні рывок, у якім было выйсце і адзіная магчымасць дасягнуць траншэі. Пад вышынёй на балоце яны доўга не вытрымаюць, у голым прамерзлым грунце не хутка акапаешся, ды і акопы ад гэтага агню не ўратуюць.

Чорт бы іх узяў, гэтыя брызантныя, ужо лепей бы агонь мінамётаў, збянтэжана думаў камбат, бегучы па кустоўі.

Ён выскачыў з балота пад новы брызантны залп, які прарэзліва і аглушальна грымнуў, здавалася, у некалькіх метрах над галавой, і збіты з ног гэтым залпам Валошын недарэчна ўпаў на жорсткую заінелую траву лужка. Але ён тут жа ўскочыў, акінуў позіркам ніз вышыні, дзе няроўна залеглі байцы восьмай роты. Нехта з іх ужо ліхаманкава працаваў лапаткай, хтось роспачна лаяўся справа, і ён павярнуў на гэтую лаянку, чакаючы ўбачыць там камандзіра роты, і ўбачыў купку

байцоў — тыя на каленях схіляліся над кімсь, што ляжаў на траве. Яшчэ не дабегшы да іх, ён убачыў знаёмыя хромавыя боты Муратава, падхапіўшы якога, двое байцоў валаклі, прыгінаючыся, назад да кустоўя.

— Стой! — крыкнуў ён і не пачуў уласнага голасу, зноў накрытага чарговай серыяй выбухаў угары — адзін з байцоў упаў на калені, выпусціўшы руку ротнага, і ўткнуўся плячом у траву. Другі лёг побач, разгубленым позіркам матляючы навакол і не пазнаючы камбата.

— Што з лейтэнантам? — спытаў Валошын, прысядаючы побач. Але толькі ён зірнуў на бела-бяскроўны твар Муратава, як усё зразумеў адразу. Шэрыя крупінкі мозгу з разбітай патыліцы ротнага густа абляпілі ягоны каўнер і плечы з новенькімі, акуратна прышытымі пагонамі. Шынель на баку быў шырока распораты асколкам, і з дзіркі тырчаў шкумат аўчыннай камізэлькі.

— Пакінуць забітага! — загадаў ён.

— Таварыш камбат! — узмаліўся баец, пажылы чалавек з чырвонымі слязлівымі вачмі.— Таварыш камбат, як жа гэта? Яго ж параніла, мы паняслі, а тут... Як жа гэта, таварыш камбат?..

— У ланцуг! — жорстка загадаў камбат і позіркам пашукаў каго-небудзь з сяржантаў.

Але сяржантаў паблізу не было відаць — на траве ніцма ляжала некалькі байцоў у новых і чыстых шынялях, высока насунутых на шапкі касках — учарашняе яго папаўненне. Іх трэба было падняць у атаку, прымусіць пераадолець пад агнём некалькі сот метраў на схіле, і гэтая задача здалася яму цяпер болей чым цяжкай.

Але іншага не заставалася.

Стараючыся перасіліць трэскат і дзіганне чэрг, ён прыпадняўся на руках і пракрычаў, выразна выгаворваючы кожнае слова:

— Ро-та!.. Пад-рых-тавацца да атакі!

Знешне рота амаль не адрэагавала на гэтую яго каманду, хаця рэагаваць на яе цяпер і не было патрэбы — трэба было яе ўясніць, а галоўнае — сабрацца з духам перад самым адчайным рыўком наперад. Разумеючы гэта і счакаўшы хвіліну, ён скамандаваў зноў:

— Пааддзялённа!.. Кароткімі перабежкамі!.. Упярод!

І лёг грудзьмі на зямлю, з трапяткім напружаннем чакаючы, паднімуцца ці не? У ланцугу відавочна марудзілі, і ён падумаў, што цяпер вельмі прыгадзіўся б стары камандзірскі прыём: устаць самому і скамандаваць проста «За мной!». Але за гэты прыём ён сам неаднойчы спаганяў з сваіх камандзіраў рот і не мог яго дазволіць сабе. Усё ж у яго быў батальён, лёс якога ў многім залежаў ад яго, жывога. Мёртвы ён батальёну быў непатрэбны.

Да яго данеслася з ланцуга некалькі няпэўных урыўкаў каманды, некалькі чалавек у розных месцах усё ж ускочыла і, прыгнуўшыся, кінулася пад узмежак наперад. Прама перад камбатам мільгануў руды ў падпалінах шынелак на спіне байца, які рухава ўзбег на ўзмежак, ды раптам упусціў вінтоўку, павярнуўся, нібы хочучы паглядзець назад, і плазам рухнуў у дол. Пападалі таксама і іншыя, што паслухаліся ягонай каманды і падняліся першымі. Кулямётныя струмені з мноствам мільготкіх зеленаватых трас цяпер усе зышліся сюды і густа лупілі па ўзмежку, ушчэнт разбіваючы травяністы дзірван і з пранізлівым віскам разлятаючыся ў бакі. Тыя з байцоў, чыя чарга надышла, каб падняцца, яшчэ болей прыціснуліся да зямлі, і камбат не падаў новай каманды. Ён ужо зразумеў, што атакаваць пад такім агнём немагчыма, што так ён вельмі проста пакладзе тут увесь батальён. І ён пачаў услухоўвацца ў грымлівае шматгалоссе бою, стараючыся знайсці ў ім хоць якую-небудзь магчымасць для выканання задачы, і не знаходзіў ніякай. Адзіная магчымасць, якую на некалькі хвілін даваў раптоўны ўдар Нагорнага, была беззваротна ўпушчана, і цяпер усё вырашалі суадносіны сіл, якія складваліся яўна не ў карысць батальёна. Агонь спрэс быў нямецкі, гэты бок

маўчаў. Некалькі мінамётных разрываў яшчэ трэснула на вышыні, і болей разрываў там не было. Замоўкла і батарэя Іванова, якая выпусціла, мабыць, усё, што магла выпусціць. Ён не прыкмячаў часу, але, мусіць, мінула болей чым дзесяць хвілін. Затое вышыня цяпер захадзілася ў звоне і гуле паўтузіна кулямётаў, патокі куль з густым віскам, не перастаючы, ішлі над балотам, хаця тут, за невысокім, да калена, узмежачкам, што аддзяляў сенакос ад нівы, было трохі схоўна, калі б не гэты брызантны абстрэл. Схавацца ад брызантных тут не было дзе.

Тым часам нямецкі карэкціроўшчык, напэўна, ужо прыстраляўся, і выбухі з невялікім адхіленнем па дальнасці і вышыні амаль усе ў лінію грукалі над ланцугом батальёна, дзеручы асколкамі травяны дзірван, пырскаючы крошкамі лёду на балоце, паднімаючы на вецер воблачкі пылу з нівы. Камбат на кукішках перабег некалькі крокаў да ўзмежка і азірнуўся, ліхаманкава шукаючы, што рабіць. Але Гутман з Чарнаручанкам, прыгнуўшыся, ужо валаклі да яго канец провада, за імі паўзлі на кукішках трое сувязных з рот, і за ўсімі кароткімі перабежкамі спяшаўся ветэрынар у папэцканым, мокрым на жываце паўшубку.

— Сувязь! Жыва!

Чанаручанка скорчыўся на баку і непаслухмянымі рукамі пачаў прымацоўваць провад да клемаў, а камбат, не паварочваючы галавы, пракрычаў:

— Сувязны сёмай роты!

Яму ніхто не адказаў, і ён гучнейшым голасам паўтарыў выклік:

— Сувязны сёмай!

Праз густы кулямётны трэскат і гром выбухаў угары, якія, зрэшты, пачалі трохі аддаляцца ўправа, напэўна, у раён дзевятай Кізевіча, зблізку нічога не было чуваць, і Гутман, павярнуўшыся на локці, крыкнуў тром

сувязным, што нерухома прыпалі да зямлі ў дзесяці кроках ззаду.

— Эй вы! Аглухлі?

Адзін з байцоў заварушыўся, з напружаннем на твары ўзіраючыся ў камбата, і той вылаяўся.

— Якога д'ябла маўчыш? Ану, бягом за камандзірам роты!

Баец, надта прыгінаючыся, ледзьве не наступаючы на абвіслыя полы шыняля, з вінтоўкай у правай руцэ пабег уздоўж балота налева.

— Перадайце па ланцугу: сяржанта Яршова — ка мне!

Гутман пракрычаў гучней, і, здаецца, ягоную каманду

перадалі далей. Калі Яршоў жывы, ён як-небудзь управіцца з сёмай, але невядома было, як справы ў дзевятай.

— Сувязны дзевятай!

— Я! — прыўзняўся на траве белабрысы баец.

— Бягом за камандзірам роты!

Толькі баец адбег паўсотню крокаў, як зноў грымнула над самым ланцугом восьмай, і ў паветры, выразна азначыўшы куткі трапецыі, зачарнелі чатыры воблачкі. Гэта таксама клас — мільганула ў галаве ў Валошына, прыстраляліся як мае быць. Хтось непадалёк, кінуўшы вінтоўку, нязграбна папоўз у хмызняк, цягнучы па зямлі параненую, з разматанай абмоткай нагу. Нехта крычаў напалоханым да жаху голасам:

— Пераб'е так усіх да д'ябла! Чаго ляжаць будзем?

— Ага! Дае, сволач, чых-пых! — сказаў Гутман. Чарнаручанка ўсё корпаўся са сваёй сувяззю, прадзімаючы трубку, і Валошын крыкнуў:

— Ну, ты доўга там?

Сувязіст, аднак, падняў да камбата занепакоены твар, зацепаў добрымі вачмі.

— Няма сувязі. Перабіла, напэўна...

— На лінію марш! Жыва!

Чарнаручанка нешта ўмольна кінуў да Гутмана, піхнуў за спіну карабін і, падхапіўшы провад, пабег да балота.

Валошын нядоўга чакаў, усё ўслухоўваючыся ў суцэльны няўрымслівы грукат, з неразумнай упартасцю імкнучыся ўчуць у ім хоць што-небудзь суцяшальнае для батальёна, але нічога ўчуць не мог. Цяпер ужо ўвесь агонь ішоў з боку немцаў, нашы ў ланцугу не стралялі, змоўкла артылерыя, і затаіліся ДШК за балотам, мусіць, падаўленыя гэтым гагатлівым шквалам куль і асколкаў, што абрынуліся на батальён. Разрывы брызантных у небе бязлітасна трэскаліся над раёнам дзевятай, адкуль праз якіх чвэрць гадзіны замест старшага лейтэнанта Кізевіча прыбег краем хмызняку жвавы баец у ватоўцы. Камбат памятаў яго ў твар, але прозвішча цяпер успомніць не мог. Кашляючы ад удушлівай трацілавай гаркаты, што асядала ў балоце, баец выцягнуўся поруч з Валошыным.

— Во запіска ад камроты.

Ён падаў пакамечаны ў бруднай жмені шкумат паперы, на якім без подпісу было накідана рукой Кізевіча: «Наступаць не магу, залёг у балоце. Выбіваюць брызантныя. Фланкіруючыя кулямёты з вышыні «Малой» не даюць ступіць кроку. Прашу дазволу адысці».

«Час ад часу ўсё не лягчэй,— падумаў Валошын.— Не хапіла брызантных, дык яшчэ і фланкіруючыя».

Прабегшы вачмі запіску, камбат пракрычаў байцу:

— Страты вялікія?

— Га?

— Страты, кажу, вялікія?

— Пэўна, чалавек дваццаць. Вунь як лупасіць зверху. А з фланга кулямёты. Старшы лейтэнант усё лаецца...

Праз хвіліну прыбег і распластаўся побач выкліканы фланга восьмай камандзір узвода Яршоў, спакойны з выгляду чалавек у зялёным бушлаце і запэцканых ватных штанах.

— Якія страты? — запытаў камбат.

— У роце не падлічваў,— аціраючы спатнелы твар, сказаў Яршоў.— Напэўна, чалавек восем. Пагорачак ратуе.

Пагорачак ратаваў восьмую, гэта пэўна, інакш бы яны тут не ляжалі. А вось у дзевятай пагорачка не аказалася, і таму ёй даводзіцца кепска.

Ззаду, няспрытна валюхаючы, да камбата падпоўз ветэрынар і, папраўляючы на галаве шапку, прасіпеў сарваным голасам:

— Што здарылася, камбат? Чаму не паднімаюцца ў атаку?

Камбат паглядзеў на яго абыякавым позіркам — у грымоцці і трэскаце бою ён выразна пачуў кулямётныя чэргі па той бок балота, якія білі па флангу Кізевіча, і з непрыяззю падумаў пра ягоных разведчыкаў. А заадно і пра палкавых, на якіх ноччу з такой упэўненасцю спасылаўся маёр Гунько. Панаразведвалі, называецца. На яго галаву.

— Чаму не паднімаеце роты ў атаку? — настойліва сіпеў ля вуха маёр, усё не выпускаючы з рук невядома для якой патрэбы выняты з кабуры наган, ствол якога быў шчыльна забіты зямлёй.

— Прачысціце зброю,— холадна сказаў Валошын.— А то разарве ствол.

Ветэрынар, спахапіўшыся, пачаў выбіваць са ствала

зямлю, а Валошын з яшчэ большай, чым раней, злосцю падумаў, што такія вось уедлівыя правяральшчыкі — куды большае зло, чым тыя, хто, слаба разумеючы ў справе, не вельмі і рвуцца ў яе, трымаючыся бліжэй да зямлянкі, дзе трохі бяспечней, чымся ў гэтым пекле.

Ён чакаў лейтэнанта Самохіна, якога ўсё не было, і ён пачаў сумнявацца, ці перададзены яму яго выклік, ці не застаўся дзе на дарозе пасыльны. Сувязі таксама не было. Гутман трымаў ля вуха тэлефонную трубку і ўсё дзьмуў у яе, але лінія, відаць, маўчала.

Калі з хмызняку ззаду з'явіўся лейтэнант Круглоў са споўзшай набок спражкай дзягі і без ценю звычайнага дабрадушша на ўзрушаным твары, камбат зразумеў, што становішча дзевятай на самай справе крытычнае. Камсорг размашыста рухнуў злева ад яго, выцер рукавом потны ў пыле і гары твар.

— Камбат, ратуйце дзевятую! Праз паўгадзіны ўсю выб'е.

— Кізевіч жывы?

— Жывы пакуль што. Але страты вялікія. Галоўнае — гэта шрапнель. Ды і кулямёты справа. Спярша трэба браць тую вышыню, за балотам. Інакш дрэнь справа, задарма пакладзеце людзей,— нервова загаварыў камсорг.

Камбат, падумаўшы, азірнуўся на Гутмана.

— Як сувязь?

Гутман замест адказу развёў рукамі.

— Ракетніцу! — патрабаваў камбат.

Ён выхапіў з рук ардынарца ракетніцу, лежачы, паварушыў у кішэні, выняў белы з чырвонай галоўкай патрон.

— Што ж, будзем лічыць, фокус не ўдаўся. Фокуснічкі!..

І, падняўшы руку, паслаў у дымнае ад выбухаў неба імклівы агеньчык чырвонай ракеты.

Роты па-пластунску і перабежкамі пачалі адыход за балота.

**16**

Ён разумеў, на што ішоў, і ведаў, як гэты яго адыход будзе ўспрыняты камандзірам палка. Але ён іначай не мог. Ён не мог паднімаць батальён пад такім агнём з вышыні — гэта было б свядомым яго знішчэннем. Роты, зрэзаныя кулямётным шквалам, назаўжды б засталіся на яе мёрзлых схілах, з кім бы тады ён вярнуўся на свой КП? Вярнуцца аднаму са жменькай упраўлення ён бы не здолеў, значыць, і ён павінен быў бы застацца на гэтай праклятай вышыні. Але гінуць ён яшчэ не збіраўся, ён хацеў ваяваць, каб паквітацца з немцамі.

Лежачы за ўзмежкам, ён прасачыў, як апошнія байцы восьмай роты зніклі ў кустоўі, і сам падняўся на ногі. Напэўна, усё ж край кустоўя не быў відаць з вышыні, кулі адтуль усе ішлі верхам. Падбегшы да цела Мурагава, ён азірнуўся: ззаду нікога не заставалася, Гутман, павесіўшы на плячо аўтамат, узяўся намотваць кабель. Але тут насустрач ардынарцу з кустоў выбег запараны Чарнаручанка, і камбат крыкнуў Гутману:

— Забярыце Муратава!

Усё па тым жа стаптаным падэшвамі лёдзе ён перабег балота. Следам, цюкаючы аб лёд і зразаючы вецце, хлёстка праносіліся кулі, адна сцебанула яго па поле шыняля, зрабіўшы ў ёй дзве новыя дзіркі. Камбату, аднак, было не да шыняля, недалёка ўжо бялеў бруствер выратавальнай траншэйкі сёмай, адтуль занепакоена высоўвалася знаёмая галава Іванова.

Некалькі байцоў наперадзе паспешна скочылі ў свае нядаўна пакінутыя і зноў радасна знойдзеныя акопчыкі. Ззаду і трохі ўбаку спазнела, але з ранейшым аглушальным трэскам бабахнулі разрывы брызантных.

Камбат, не спяшаючыся, хісткім крокам кіраваў па адкрытай мясціне да сваёй траншэі. Яго цяпер надта проста маглі зрэзаць кулямётнай чаргою ззаду, маглі накрыць разрывам брызантнага, але ён ужо не дбаў аб сваім жыцці пасля таго, як столькі чалавечых жыццяў засталося па той бок балота. Не зірнуўшы нават на змрочна паніклага за бруствером Іванова, ён скочыў у траншэю, апынуўшыся побач з апярэдзіўшым яго ветэрынарам. Камандзіры сустрэлі камбата моўчкі, і ён маўчаў, хвіліну пазіраючы, як з кустоўя, выблытваючы ў голлі провад, таропка выбіраўся Чарнаручанка. Тэрмінова патрэбна было звязацца з камандзірам палка.

— Да, глупства атрымліваецца,— адчуваючы настрой Валошына, паныла сказаў Іваноў.

— Чаму так кепска працавала артылерыя? — горача загаварыў у траншэі ветэрынар.— Чаму раптам замоўклі гарматы?

— Каб артылерыя добра працавала, патрэбны боепрыпасы,— сказаў Іваноў.— А боепрыпасаў якраз кот наплакаў.

— Гэта чаму? Хто вінаваты?

— А вы пра гэта ў штабе дывізіі запытайцеся,— стоячы да маёра бокам, сказаў камбат.— Падвоз і снабжэнне ў арміі ажыццяўляюцца зверху ўніз.

Маёр шумна і гаротна ўздыхнуў, напэўна, пачынаючы разумець нешта, і Іваноў сказаў:

— Восем снарадаў засталося. Як было апошнія выпусціць?

Ён быццам апраўдваўся перад маёрам ці перад камандзірам батальёна, але камбат не вінаваціў яго і нават не крыўдаваў, разумеючы, што без снарадаў камандзір батарэі яму не памочнік.

У невясёла-раздумнай маўклівасці Валошын стаяў, прысланіўшыся да тыльнай сцяны траншэі. Тым часам Гутман з двума байцамі вынеслі з балота цела

Муратава. Зышоўшы са слізкага лёду, яны, можа, ад стомы ці не ведаючы, куды скіраваць далей, нерашуча паклалі яго на траву, але Гутман тут жа пачаў падганяць іх, і байцы зноў узяліся за рагі палаткі. З натугай узлезшы на ўзмежак, яны паклалі забітага каля ўвахода ў траншэю, і ў камбата на хвіліну перацяла ў горле, калі ён прыпамятаў іх начную размову аб гадзінніку. Вось яна, забабоннасць! Зрэшты, хіба ён адзін? У тых многіх, што асталіся пад вышынёй, наўрад ці былі хоць якія-небудзь гадзіннікі. Ды і асаблівыя прадчуванні таксама.

— Накрыйце лейтэнанта! — крыкнуў ён Гутману.— Палаткай накрыйце.

Побач роспачна вылаяўся Іваноў, які наогул ніколі не лаяўся.

Бой, аднак, памалу сціхаў, нямецкая батарэя збавіла тэмп, падобна было, збіралася зусім спыніць агонь, па адным змаўкалі і кулямёты. Валошын працягваў паныла маўчаць, уяўляючы сабе, як нямецкія кулямётчыкі на вышыні разраджаюць цяпер перагрэтыя свае «машынан-гевэры», мяняюць гарачыя ствалы, закурваюць і выхваляюцца адзін перад адным, як яны спрытна адбілі атаку рускіх. Што ж, яны перамаглі, і хоць камбат не адчуваў сябе пераможаным, настрой яго быў болей чым кепскі. Чакаючы, пакуль Чарнаручанка наладзіць сувязь, ён пазіраў на вышыню і хмызняк, з якога ўсё яшчэ валакліся адставакі і параненыя. Апошнімі выйшлі два байцы, адзін аслабела абапіраўся на плячо другога. Яны брылі быццам сляпыя, абыякава глухія да стрэлаў ззаду, аб чымсьці скупа перагаворваліся між сабой. Пасля той, што быў паранены, адчапіўся ад пляча таварыша і знямогла апусціўся на дол, другі пачаў тузаць яго, прымушаючы падняцца, і, павярнуўшы твар, тонкім голасам пракрычаў да ўзмежка:

— Таварыш камроты! Санітара!

Валошын зірнуў у кірунку ягонага позірку і ўбачыў лейтэнанта Самохіна, які рашуча крочыў уздоўж

акопчыкаў сваёй роты.

— Ану, памагні ім! — крыкнуў ён там камусьці і грузна ўваліўся ў траншэю, ледзьве не збіўшы з ног Чарнаручанку.

— Што ж гэта атрымліваецца, таварыш капітан?

Валошын пахмурна зірнуў у поўныя злоснага адчаю вочы

ротнага. Галава таго пад коса насунутай вушанкай была свежазабінтавана, і скрозь марлю бінта праступіла і распаўзлася свежая пляма крыві. Лейтэнант хваравіта дакрануўся да павязкі бруднай рукой, і твар ягоны скрывіўся ў пакутнай грымасе.

— Што, здорава? — кіўнуў камбат.

— Мяне ерунда! — махнуў рукой лейтэнант.— А вось паўроты нібы карова языком злізала. Апошняга сяржанта ўхлопалі. Грак ранены ў абедзве нагі. Як жа так, таварыш камбат? Гэта ж безабразія. І гэта артылерыя, чорт бы яе задраў. Яе б саму ў ланцуг, хай ба папоўзала пад іх кулямі.

— Артылерыя ні пры чым,— змрочна сказаў Валошын.— Артылерыі снарады патрэбны.

— Тады не было чаго і пачынаць гэтае смертазабойства! — загарачыўся Самохін.— Трэба было сядзець, пакуль не падвязуць снарады. А так што? Голымі рукамі ваяваць? Ён вунь — паўдня брызантнымі крышыць...

Абодва капітаны падаўлена маўчалі, ветэрынар з заклапочаным выглядам апусціўся на каску ў дне траншэі. Чарнаручанка тым часам наладзіў сувязь і перагаворваўся з тэлефаністам штаба.

— Колькі чалавек засталося? — запытаў Валошын, набіраючыся рашучасці перад дакладам камандзіру палка, якому, апроч іншага, належала таксама далажыць пра страты.

— У роце? Сорак восем.

— Чарнаручанка, выклікайце дзесятага.

— Ёсць!

Трэба было растлумачыць як ёсць, і хоць ён разумеў, што размова будзе не лёгкая, ён гатовы быў да ўсяго. Ён не адчуваў якой-небудзь уласнай віны ў тым, што батальён адышоў на зыходныя, бо быў перакананы, што ўзяць вышыню пры такіх суадносінах сіл было справай марнай.

— Таварыш камбат,— падняў разгублены твар Чарнаручанка.— Дзесятага няма.

— Як няма? Выклікайце начальніка штаба.

У апошнюю хвіліну, якая заставалася да размовы, трэба было ўнутрана супакоіцца, каб дакладна сфармуляваць свае аргументы, і ў бязладных гуках пацішэлага бою ён не адразу пачуў тое, што, мабыць, раней за яго злавіў Гутман. Камбат перахапіў скіраваны да Самохіна шматзначны позірк ардынарца, яго чуйную насцярожанасць у рухавых вачах, і тады раптам пачуў і сам. З вышыні слабенька, як з-за далёкага пагорка, пратрашчала раз, другі і змоўкла. Пасля пратрашчала яшчэ. Стралялі з аўтамата. Але гэтыя гукі кароценькіх чэрг яўна адрозніваліся ад стрэлаў нямецкага аўтамата — гэта страляў ППШ.

Камбат рэзка павярнуўся да Самохіна.

— Нагорны вярнуўся?

— Ну да! Нагорны вернецца? Ён вунь куды выскачыў...

Валошын ліхаманкава замітусіўся па схіле вышыні біноклем, але схіл быў пусты, раскапаны снарадамі верх чарнеў пыльнымі плямамі, бруствер траншэі месцамі быў разварочаны да бурай гліны, немцаў там не было відаць. Чэргі таксама як быццам заглохлі. Мінула хвілін пяць, і з вышыні не данеслася болей ніводнага стрэлу.

«А можа, гэта ім толькі здалося? Можа, стралялі немцы»,— няўпэўнена падумаў камбат. Тым не менш трывога за лёс. Нагорнага калючаю стрэмкай упілася ў яго свядомасць і не давала супакоіцца. Лёс гэтай жменькі байцоў быў на яго сумленні, тут ужо ён ні ў малой ступені ні на каго спаслацца не мог.

Аднак няўжо Нагорнаму ўдалося ўварвацца ў траншэю?

Тое, што нядаўна яшчэ здавалася камбату жаданай удачай, цяпер амаль выклікала спалох, і ён заміраў у прадчуванні таго, што менавіта так усё і здарылася. Але тады што ж! Тады сяржант там загіне, пакуль батальён будзе сядзець на зыходнай пазіцыі і чакаць, што вырашыць начальства. Сам ён, вядома, прадпрыняць ужо нічога не мог.

А можа, усё ж гэта ім толькі здалося? Можа, Нагорны дзе-небудзь схаваўся ў варонках, дачакаецца ночы і выберацца назад. Або ён даўно ўжо загінуў? Мёртвы ён не выклікаў той трывогі, якую выклікаў жывы, хіба што слабае, амаль звыклае пачуццё ціхенькага шкадавання, надта звычайнага ў такіх выпадках. Валошын абвёў позіркам твары камандзіраў у траншэі, але твары гэтыя былі змрочна-спакойныя, падобна ніхто з іх асабліва і не ўслухоўваўся ў рэдкія, амаль выпадковыя стрэлы на вышыні. Хіба што Гутман...

Але Гутман, здаецца, ужо быў заняты іншым. Павярнуўшыся ў траншэі, ён нядоўга паўзіраўся ў тыл і заклапочана гукнуў да камбата:

— Таварыш капітан!

Валошын азірнуўся. Палоскай кустоўя, што цягнулася з пагорка амаль да балота, прабіралася ўніз група людзей, і ў першым з іх, што ішоў у накінутай паверх шыняля палатцы, ён адразу пазнаў камандзіра палка.

Дык вось чаму яго не аказалася ў штабе!

Зрэшты, усё было натуральна. Адбылася няўдача, і начальства пайшло ў батальён, каб ва ўсім разабрацца

на месцы. Што ж, магчыма, так яно і лепш. Можа, маёр яшчэ і назіраў усё гэта пабоішча, доўга тлумачыць яму не прыйдзецца.

— Гутман! — гукнуў ён ардынарцу.— Бягом у дзевятую, узяць звесткі аб стратах!

Праз якую хвіліну ў траншэйцы зрабілася цесна ад мноства людзей. Камандзір палка прыбыў сюды з усёй сваёй світай: ад'ютантам, ардынарцам, намеснікам па палітчастцы маёрам Міненкам; сюды ж прыбег Маркін і двое правяраючых са штаба палка. Добра, што брызантны абстрэл спыніўся, і рэдкія разрывы грукалі цяпер у баку саўгаса, а то аднаго трапнага залпу было б дастаткова для ўсіх...

Валошын адхінуў да сцяны начхіма і таропка палез насустрач камандзіру палка.

— Таварыш маёр, атака не ўдалася, батальён адышоў на...

— Хто дазволіў? — рэзка перапыніў яго камандзір палка, гняўліва варухнуўшы брывамі.

— Не было сувязі. Нямецкая артылерыя...

— Хто вам дазволіў? — з яшчэ большаю злосцю крыкнуў камандзір палка, нерухомым позіркам уставіўшыся яму кудысьці пад грудзі.

У траншэі зрабілася дужа ціха. Прадчуваючы скандал, усе напружана разглядалі земляныя камякі на брустверы.

— Я ж вам тлумачу,— павысіў голас Валошын, сабраўшы ў адно ўсю сваю вытрымку, каб хоць знешне заставацца спакойным.

— Хто вам дазволіў адысці? — выразна адсякаючы кожнае слова, дабіваўся камандзір палка.— Вы атрымалі загад на атаку?

— Я атрымаў загад на атаку, але мне не хапіла часу

разведаць вышыню, таварыш маёр. А там аказалася больш васьмі кулямётаў. Апроч таго, батальён папаў пад знішчальны агонь брызантных і страціў амаль трэць свайго складу...

— Я пытаюся,— цішэй і таму яшчэ болей зласліва паўтарыў сваё пытанне Гунько.— Я ў вас пытаюся, хто вам дазволіў адвесці батальён на зыходны рубеж?

Валошын змоўк. Ён ужо ведаў гэтую манеру многіх начальнікаў дапякаць падначаленых пытаннем і не даваць тым адказаць. Напэўна, і цяпер адказваць не мела сэнсу, ягоны адказ зусім не цікавіў камандзіра палка.

— Хто дазволіў адысці?

Апрануты ў новенькі белы паўшубак маёр Міненка, які стаяў за камандзірам палка, з нязменнай хітраватай усмешкай на дабрадушным твары з'едліва заўважыў:

— Можна падумаць, што ён першы дзень камандуе батальёнам. І не разумее, што перш, чым прыняць такое рашэнне, трэба параіцца.

Звыш сіл напружаны спакой камбата раптам разляцеўся ў шматкі.

— Я не першы дзень камандую батальёнам і ведаю, што трэба. Але аднаго ведання мала. Каб далажыць — трэба сувязь, а яе...

— А хто ж павінен клапаціцца пра сувязь? — з'едліва сказаў камандзір палка, зрабіўшы яўны промах у веданні нядаўна ўведзенага баявога статута, і камбат тут жа падхапіў гэты ягоны промах.

— У даным выпадку — ваш штаб, таварыш маёр. Паводле новага статута сувязь у часцях арганізуецца зверху ўніз і справа налева.

— Граматны! — нікольні не сумеўшыся, сказаў камандзір палка да свайго намесніка, кіўнуўшы ў бок камбата.— Граматны! А чаму не ўзята вышыня?

— Я растлумачыў чаму. Не падавіўшы агнявых сродкаў, я не магу губіць людзей у бескарыснай атацы,— сказаў ён цвёрда і нават з некаторым выклікам, тут жа зразумеўшы, між іншым, што сам дапусціў прамашку — пра людзей лепш было змоўчаць. І сапраўды камандзір палка падхапіў з'едліва:

— Ага, шкадуеш людзей! Шкадлівы які! Міненка, ты чуеш,— кіунуў ён нампаліту.— Яму людзей шкада. На загад яму напляваць — яго адолела шкадаванне. Вы чулі? — звярнуўся маёр да ўсіх, хто быў у траншэі, але ўсе прыгнечана маўчалі.— Можа, ты яшчэ і сябе пашкадуеш?

— Мне сябе не шкада. Але байцоў — да. І дарма губіць батальён не стану,— з унутранай рашучасцю сказаў камбат, падумаўшы, што цяпер ужо ўсё роўна, што траціць яму няма ўжо чаго.

Але ён памыліўся. Ён яшчэ не ведаў, што яму нарыхтуе камандзір палка.

— Во як! — здзівіўся маёр.— Тады я цябе адхіляю. Я цябе адхіляю ад камандавання! — на цвёрдым абсівераным твары камандзіра палка з'явілася няўмольная рашучасць.— Ты зразумеў?

— Я зразумеў,— чамусь мала што разумеючы, адказаў Валошын і, каб не пахіснуцца ад раптоўнай і дзіўнай расслабленасці, прысланіўся да сцяны траншэі.

Камандзір палка са стоенай злосцю абвёў позіркам камандзіраў у траншэі.

— Лейтэнант Маркін!

— Я вас слухаю,— адклікнуўся зводдаль начальнік штаба.

— Камандуйце батальёнам!

— Ёсць! — не вельмі ўпэўнена адказаў Маркін.

— Навесці ў батальёне парадак і атакаваць вышыню. Да

трынаццаці ноль-ноль далажыць аб узяцці. Ясна?

— Ясна! — упалым голасам выціснуў Маркін, і Валошын адхіснуўся ад сценкі.

— Якім гэта чынам ён яе возьме да трынаццаці? — бесцырымонна ўмяшаўся ён ужо не ў сваю справу.— Вунь на суседняй немцы. Яны б'юць батальёну ў фланг і спіну. Спярша трэба ўзяць вышыню «Малую».

Камандзір палка змераў яго амаль ненавісным поглядам.

— Якім чынам узяць вышыню? Магу параіць. Выстраіць батальён і сказаць: бачыце вышыню? Там будзе абед. У абед туды прыязджае кухня. І возьмуць!

— Таварыш камандзір палка! — пачуўся рашучы голас з дальняга канца траншэі.

Усе са здзіўленнем павярнулі галовы ў бок незнаёмага маёра, які, дзіўна заварушыўшы плячыма пад запэцканым паўшубкам, сказаў:

— Таварыш камандзір палка. Адну хвілінку... Я не згодны!

«Цікава, з чым ён не згодны, гэты конскі доктар?» — міжвольна падумаў Валошын. Аднак ветэрынар, астматычна сапучы грудзямі, ужо праціскаўся па траншэі бліжэй да камандзіра палка.

— Я не згодны са зняццем камандзіра батальёна.

— Вы? — здзівіўся Гунько.— Хто вы такі?

— Я ўпаўнаважаны штадыва, маёр ветэрынарнай службы Казькоў.

«Во як?» — зусім ужо недаўменна падумаў Валошын, які зусім не разлічваў на чыю-небудзь абарону, і цяпер заступніцтва гэтага ветэрынара з'явілася ўсё ж прыемным для яго суцяшэннем.

— Ну і што? — холадна кінуў камандзір палка.— Ну і што, што вы ўпаўнаважаны? Камандзір батальёна не забяспечыў выканання баявой задачы, вось я яго і адхіляю ад пасады. Дарэчы, з ведама камандзіра дывізіі.

— Вы памыляецеся! — рэзка сказаў маёр.— Я быў у батальёне і бачыў усё сваімі вачамі. Камандзір батальёна дзейнічаў правільна.

— Многа вы разумееце! — сказаў камандзір палка.— Тут я гаспадар, і я прымаю рашэнні. Вось са сваім намеснікам. Маркін!

— Я, таварыш маёр!

— Выклікайце камандзіраў падраздзяленняў, стаўце задачу!

— Ёсць выклікаць камандзіраў падраздзяленняў! — як рэха, адгукнуўся Маркін, і гэты яго паслухмяны адказ, нібы вядро сцюдзёнай вады, вярнуў да Валошына адчуванне няўхільнай рэальнасці.

У адно імгненне і з усёй выразнасцю ён зразумеў, што вось зараз ці, можа, праз некалькі хвілін стараннасцю гэтага паслухмянага Маркіна будзе канчаткова пагублены яго батальён. І каб не дапусціць гэтага, ён ухапіўся за апошні свой аргумент, іншых довадаў у яго не засталося.

— А снарады для батарэі нам выдзелены? Батарэя сядзіць без снарадаў, хто падавіць іх кулямёты? — злосна загаварыў ён, з адкрытай варожасцю гледзячы ў вочы камандзіру палка.

— Снарады я вам не раджу! — сказаў той.— Няхай іх лепш пашукае ў сябе камандзір батарэі.

— Батарэя — не снарадны завод,— цвёрда сказаў ззаду Іваноў.— Усё, што было, я ўжо выпусціў.

— Так ужо і ўсё?

— Да апошняга снарада. Можаце праверыць. Настала

пакутная паўза. Камандзір палка заклапочана паглядзеў у бакі, але тут жа хутка ўспомніў:

— Раз няма снарадаў, то — па-пластунску! Па-пластунску зблізіцца з праціўнікам і гранатамі закідаць траншэю. Зразумелі?

— Так точна! — з гатоўнасцю, хоць і без жаднага ўздыму паўтарыў Маркін.

— Гранаты ў байцоў ёсць?

— Ёсць.

— Таварыш кампалка,— зноў заварушыўся ў траншэі ветэрынарны маёр.— Пад такім агнём немагчыма нават і папластунску. Я бачыў...

— Мне напляваць, што вы бачылі! — ускіпеў Гунько.— Вы не для таго прысланы ў полк, каб перашкаджаць выкананню баявой задачы.

— Я прысланы кантраляваць яе выкананне,— раззлаваўся і ветэрынар.— І я буду дакладваць камандзіру дывізіі. Вы няправільна ставіце задачу...

— Не вам мяне вучыць, таварыш маёр ветслужбы! Маркін! Усіх у ланцуг! Камандзір батарэі, загадваю: ні на крок не адставаць ад камандзіра батальёна. Кулямёты... Дзе кулямёты ДШК?

— Тут. На сваіх пазіцыях,— азірнуўся Маркін.

— Кулямёты — упярод! Усяму батальёну паўзком упярод! Панялі? Толькі ўпярод!

— Паняў, таварыш маёр,— адказаў зводдаль Маркін, і да Валошына ўсё з большай выразнасцю даходзіў фатальны сэнс, што адбывалася цяпер у гэтай траншэі.

Уявіўшы сабе, які цяжар кладзецца на былога яго начштаба, ён непрыемна паморшчыўся — наўрад ці з ім Маркін справіцца. Але цяпер гэта яго не датычыла, ён перастаў быць камандзірам батальёна і ні за што больш

не адказваў. Ён быў тут чалавек старонні.

— Дазвольце, я далажу камандзіру дывізіі,— не сунімаўся ветэрынар.— Я прашу не пачынаць атакі да майго даклада камдзіву.

— Гэта не ваша справа,— сказаў камандзір палка і запытаў, на паўабарота павярнуўшыся да Валошына.— Камандзіры рот усе на месцы?

— Апроч забітага камандзіра восьмай,— змрочна сказаў Валошын.— І ў роце не засталося ніводнага сярэдняга камандзіра.

— А тут недзе Круглоў быў,— успомніў нампаліт.

— Я тут, таварыш маёр,— пачулася зводдаль, ад увахода ў бліндаж.

— Вось ён часова і заменіць камроты,— рашыў Міненка.

— Круглоў, прымайце роту. І батальён — упярод! — павысіў голас камандзір палка, суровым позіркам нішчачы Маркіна, які заклапочана стаяў у траншэі.

— Ёсць!

Яўна задаволены сабой і сваёй здольнасцю распарадзіцца, камандзір палка спрытна выскачыў з траншэі, за ім вылезлі астатнія. Па адным яны перабеглі адкрыты ўчастак поля і схаваліся ў грыўцы кустоўя. Штабісты таксама пайшлі, і апошні з некаторай нерашучасцю выбраўся з траншэі маёр ветэрынарнай службы. Ён быў заклапочаны і, ні з кім не развітаўшыся, моўчкі пабрыў па кустоўі.

У траншэі стала вальней. Маркін, чакаючы прыходу Кізевіча і Ярашчука, упарта маўчаў, прыдушаны цяжарам новага свайго абавязку. Іваноў ціха перагаворваўся з агневікамі па тэлефоне, высвятляючы, колькі ў іх засталося «агурчыкаў». Паводле ягоных падлікаў, іх павінна было быць на шэсць штук болей, чым дакладваў старшы на батарэі.

— Маркін,— сказаў Валошын, адкінуўшы ўсякую афіцыйнасць у адносінах да свайго пераемніка.— Вы не надта старайцеся.

Маркін недаўменна пацiснуў плячыма.

— Я — што? Загад! Чулі?

— Загад загадам, але не надта старайцеся. Зразумелі?

Маркін не адказаў. Здаецца, ён нічога не зразумеў з ягоных намёкаў, і Валошын нічога тлумачыць не стаў, тым больш што з тылу да іх траншэі бег Ярашчук, неўзабаве павінен быў падысці Кізевіч. Стараючыся зберагчы рэшту спакою і вытрымкі, Валошын праціснуўся за ягонай спіной і ўлез у апусцелы бліндаж.

**17**

У бліндажы ён сеў на салому і адхінуўся спіной да сцяны. Здрадніцкі франтавы лёс, думаў ён, як прывыкнуць да яго нечаканак? Толькі ўчора яго віншавалі з узнагародай, а сёння ён ужо адхілены ад камандавання. Ён болей не камандзір батальёна, усе яго планы насмарку, цяпер тут будуць камандаваць іншыя. Ніколі ён не адчуваў сябе ганарліўцам і цяпер усімі сіламі стараўся захаваць вытрымку, але гэта кепска ўдавалася. Было крыўдна. Можа, у іншых абставінах ён бы нават уздыхнуў з палёгкай, пазбаўлены гнятлівага пачуцця адказнасці, але цяпер уздыхнуць не мог. Нават калі ён ніколі не вернецца да свайго батальёна і будзе назаўжды аддзелены ад яго лёсу, ён не мог так проста і раптам вырваць са сваёй душы гэтую сотню людзей, з якімі яго зраднілі сумесна перажытыя імі пакуты і пралітая кроў. Што ні кажы, а такое сваяцтва — сіла, з якой не так проста ўправіцца, калі б ён захацеў яе вынішчыць.

Пакутна прыціхшы ў бліндажы, Валошын выразна чуў недалёкія размовы ў траншэйцы і з непрыемнасцю чакаў той хвіліны, калі ягоная адсутнасць будзе нарэшце заўважана. Напэўна, хтось запытаецца пра

яго, здзівіцца, і ён з трывогай падумаў, як бы ягонае адхіленне не выклікала непатрэбнага цяпер хвалявання сярод яго падначаленых. Усё ж ён стараўся быць добрым для іх камандзірам і, напэўна, пацярпеў праз гэта. Але прыбег Ярашчук, прывалокся запараны злосны Кізевіч, яшчэ нехта, паклікалі з ланцуга Круглова, і толькі калі Маркін узяўся тлумачыць план паўторнай атакі, з-за бруствера пачуўся голас Кізевіча:

— А камбат дзе? Хіба паранены?

Маркін змоўк, і Круглоў ціха паведаміў камандзіру дзевятай:

— Камандзір палка адхіліў...

— Ды ну? Ідрыт твае лапці...

Кізевіч прамармытаў яшчэ штось амаль абыякавае ў адносінах да яго, так, нібы ягонае адхіленне было чымсьці звычайным, чаго даўно трэба было чакаць. Зрэшты, Валошын разумеў, што камандзірам падраздзяленняў не да яго: роты панеслі страты, адзін з трох, хто ў такія хвіліны заўжды быў разам, ляжаў цяпер пад палаткай на выхадзе з траншэі, задача заставалася нявыкананай, і другая атака таксама не абяцала ўдачы. Хоць ён і не бачыў нікога з тых, хто сабраўся наверсе, але тым не менш выдатна адчуваў іхні настрой. Зрэшты, і ягоны быў далёка не лепшы.

Слухаючы шэраг не надта ўпэўненых распараджэнняў Маркіна, камандзіры паныла маўчалі. Толькі Самохін разы два вылаяўся, выказваючы сваю нязгоду з атакай у ранейшым напрамку, ды Кізевіч сказаў, што пакуль з вышыні «Малой» у фланг яго роце будзе біць кулямёт, рота не зрушыцца з месца, што спярша трэба ўзяць «Малую». Маркін нерашуча згадзіўся і загадаў Кізевічу самастойна атакаваць «Малую» ў той час, як астатнія будуць штурмаваць «Вялікую».

— Камандзіру батарэі — знаходзіцца сумесна са мной, ДШК — у баявых парадках стралковых рот,— заключыў Маркін словамі камандзіра палка.— Сігнал на атаку —

зялёная ракета. А ў каго ракетніца?

— У камбата была,— аднекуль зверху азваўся Гутман.

— Прынясіце ракетніцу,— сказаў Маркін.

Валошын выцяг з-пад рэменя партупеі ракетніцу, выняў з кішэні некалькі сігнальных патронаў і ўсё моўчкі сунуў у выстаўленыя рукі ардынарца.

Час быў на зыходзе, Маркін таропка скончыў загад на новую атаку. Камандзіры рот, таксама спяшаючыся, павыскоквалі з траншэі, накіроўваючыся да сваіх рот, і Валошын прыплюшчыў вочы — пачыналася самае цяжкае. Хутка загрукоча зноў, над балотам забушуе агонь, і на мёрзлую зямлю пальецца гарачая кроў яго батальёна, а ён будзе ляжаць тут і пакутаваць ад абсалютнай бяздзейнасці. Але што ж, ён ім не патрэбны. Ён раптам стаў не патрэбны камандзіру палка, батальёнам цяпер камандаваў іншы. Ну і няхай! — хацелася яму суцешыць сябе, тут яму горш не будзе. Як-небудзь ён перапакутуе да канца бою, а там будзе відаць. Яшчэ ён паглядзіць, як яны абыдуцца без яго, наўрад ці гэтая змена камбата паможа атацы, ён амаль быў упэўнены, што не. Камандзіру палка ды і Маркіну яшчэ давядзецца адчуць, што такое гэтая атака. Так ім і трэба. Але — батальён! Як Валошын ні супакойваў сябе, ён не мог прымірыцца з тым, што ў бліжэйшы час чакала яго батальён. Як было яму абы-якава глядзець на яго ў руках тых, для каго ён — не болей чым некалькі дзесяткаў людзей, якіх столькі ўжо перабыло ў батальёне і перабудзе яшчэ.

Седзячы на зляжалай саломе ў падземнай цішыні бліндажа, ён не мог ды і не стараўся перамагчы ў сабе накіпелы свой гнеў супраць камандзіра палка. Злавацца на маёра Гунько даводзілася яму не ўпершыню, але ніколі раней ён не быў такі бездапаможны, пазбаўлены ўсякай рэальнай магчымасці, сапраўды ад усяго адхілены, як сёння. Камандзір палка нават не назначыў яго камандзірам роты, а проста выставіў з батальёна, як абсалютную для яго непатрэбнасць. Зжыўшыся за гады службы з турботным пачуццём камандзірскай

адказнасці і цяпер раптам пазбаўлены яе, Валошын амаль разгубіўся. Ды і што мог ён зрабіць? Ён не мог нават каму-небудзь паскардзіцца, бо скардзіцца на строгасць начальніка ў арміі забаранялася. Ён мог толькі чакаць, калі батальён возьме вышыню ці ўвесь застанецца на яе мёрзлых схілах. Але ў абодвух выпадках радасці яму будзе не шмат.

Дзесь у глыбі яго падсвядомасці з'явілася ціхенькае, але ўпартае жаданне: хай не выйдзе і ў Маркіна, хай і ў яго атака не ўдасца. На самай справе, не ўдалася яму, чаму яна павінна ўдацца ў яго падначаленага, які ва ўсіх сваіх камандзірскіх якасцях уступаў Валошыну. Хіба што настойлівасці ў выкананні загаду ў начштаба будзе больш, усё ж ён у гэтым батальёне чалавек новы — месяц як прыбыў з франтавога рэзерву. Валошын адчуваў, што Маркін у сваім увогуле зразумелым для яго старанні выканаць задачу надта ашчаджаць батальён не будзе і за некалькі гадзін можа пакласці ўсіх.

Што тады скажа Гунько? Як ён тады аднясецца да гэтага старання?

Але, відаць, гэта ўжо будзе не ягоны клопат, ягоныя адносіны з маёрам Гунько, мабыць, ужо ўсе скончыліся. Што ж, таго і трэба было чакаць, гэта канец лагічны. Цяпер нават цяжка было прыпамятаць, з чаго ўсё пачалося. Напэўна, з нейкіх прыкрых драбніц, а можа, і не з драбніц нават,— проста яны былі надта розныя людзі, каб доўгі час суіснаваць у згодзе. Прывыкшы да пэўнай самастойнасці, якую даваў яму ранейшы камандзір палка, Валошын не мог прымірыцца з прыдзірлівым апякунствам маёра і ў многім працягваў рабіць па-свойму і незалежна, і тады аказалася, што новы камандзір палка не церпіць ніякай незалежнасці. Іншы на яго месцы, магчыма, даў бы некаторую паслабку камандзіру лепшага з сваіх батальёнаў, але Гунько даваць паслабкі не стаў і ўсёй уладай старэйшага начальніка абрушыўся на камбата-тры. Тое, што здарылася сёння, даволі наспела за месяц іх непрыязных адносін.

Аднак прымірыцца з гэтым Валошыну было не лёгка, асабліва калі ён не адчуваў сябе вінаватым і ва ўсім вінавацію камандзіра палка. Толькі ён не мог не разумець, што ў арміі заўжды застаецца правы старэйшы начальнік. Але чорт з ім, з гэтым начальнікам, падумаў Валошын, хіба ён ваяваў для Гунько? Або быў у яго на службе? Таксама як і камандзір палка, ён служыў Радзіме і, як умеў, стараўся дзеля агульнае справы перамогі. У гэтым сэнсе абодва яны былі роўныя. Несправядлівасць камандзіра палка была не болей за несправядлівасць маёра Гунько. Але, апроч таго, была вялікая армія, Радзіма, быў яго абавязак перад народам, людзьмі, нарэшце, перад яго батальёнам, які ён выхаваў, навучыў і дзякуючы якому стаў тым, кім ён быў дагэтуль. Думаючы так, Валошын адчуваў, што гэта былі простыя і абсалютна правільныя яго думкі, і ён проста ўзрадаваўся ім, калі б толькі яны суцяшалі. На жаль, суцяшэння ад іх было мала — па-ранейшаму грызла пачуццё несправядлівасці і было амаль па-дзіцячы крыўдна.

Раптам здорава грымнула ў баку саўгаса, залпам ударыла артылерыя, зямля пад спіной здрыганулася, пасыпаўся пясок у куце бліндажа. Валошын зірнуў на гадзіннік, было роўна дзесяць, мабыць, пачалі артпадрыхтоўку першы і другі батальёны. Вось-вось павінны былі ўстаць ягоныя роты. Што на гэты раз чакае іх за балотам?

Артылерыйская кананада тым часам ператварылася ў суцэльны аддалены грукат, у якім гучна трэснулі знаёмыя разрывы брызантных. Напэўна, тая нямецкая батарэя, што ўсю раніцу нішчыла яго батальён, зманеўравала траекторыямі і перанесла агонь на другі фланг палка. Цяпер там не салодка, але для ягонага батальёна ў гэтым можа быць паратунак, падумаў Валошын. Калі, не марудзячы, выкарыстаць гэты пераноc, падняць людзей і — рыўком цераз балота, на вышыню? Але чаму так марудзіць Маркін?

Маркін, аднак, не марудзіў, проста Валошын не пачуў сігнальнага стрэлу з ракетніцы, да яго данеслася толькі

некалькі прыглушаных каманд у ланцугу восьмай роты, якіх, зрэшты, было даволі, каб зразумець, што батальён падняўся. На гэты раз без артпадрыхтоўкі, нават без кароткага агнявога налёту. Група ўпраўлення камбата выбегла з траншэі адначасна з ротамі, Іваноў з тэлефаністам таропка сабралі сваё начынне і таксама пабеглі следам за ўсімі. У бліндажы і паблізу зрабілася ціха, і Валошын зацяў дыханне.

Яму не было патрэбы сачыць за перабежкамі рот да знаёмай ужо вышыні, ён з заплюшчанымі вачмі мог сабе ўявіць усё, што адбывалася на яе схілах і ў балоце. Напружана слухаючы аддалены раскацісты грукат, ён чакаў першых стрэлаў па батальёну, больш за ўсё баючыся брызантных. Зрэшты, цяпер тут, напэўна, будзе штосьці іншае.

Хвілін пяць немцы маўчалі, можа, не прыкмячаючы рыўка батальёна, а можа, наўмысна рашылі падпусціць яго бліжэй для кароткага кінжальнага ўдару ў лоб, і гэтыя хвіліны, як заўжды, былі самыя напружана пакутныя. Стомлены чаканнем, Валошын трохі адышоў ад тужлівых асабістых перажыванняў, імкнучыся ў думках туды, следам за ротамі. Ён ведаў, чакаць засталося нядоўга, восьмая ўжо, напэўна, адолела балота і выйшла да ўзмежка, значыць, вось-вось павінна было адтуль грымнуць. Павінна пачацца самае важнае, ад чаго будзе залежыць усё астатняе.

Як ён ні чакаў гэтых першых стрэлаў адтуль, грымнулі яны знянацку, і ён аж здрыгануўся, пачуўшы ў суцэльным аддаленым грукаце выразны здвоены залп. Мінныя выбухі раскаціліся дзесь паблізу, земляная падлога бліндажа хіснулася, вялікі мерзлы камяк з бруствера ўпаў на дно і разбіўся.

У той час раскаціста заліліся кулямёты.

Не скрануўшыся з месца, ён знерухомеў на ўтаптанай саломе, імкнучыся па гуках вызначыць ход бою. Але кулямёты страчылі на ўсёй вышыні, яшчэ колькі разоў раскаціста грымнула, напэўна, у балоце. Агонь мацнеў, стралкам станавілася ўсё горш, і цяпер павінна была

сказаць сваё слова артылерыя: варожую батарэю трэба было як мага хутчэй засеч і падавіць. Але чым было падавіць? Тым дзесяткам снарадаў, якія збярог Іваноў?

Нямецкія мінамётчыкі з цягам часу перайшлі на беглы агонь, і цяжкія міны з працяглым жудасным віскам абрынуліся з-за вышыні. Ірваліся яны трохі далей ад зыходнага рубяжа батальёна, напэўна, па той бок балота, значыць, роты паспелі ўжо пераадолець хмызняк. Але на схілах ім будзе горш. Усё будзе рашацца на схілах.

Сцяўшыся ў бліндажы, ён пільна ўслухоўваўся ў ашалелае грымоцце бою і думаў, што неўзабаве павінен наступіць пералом у той або іншы бок. Так доўга працягвацца не можа. Кулямёты ДШК, якія нядаўна адкрылі агонь, чамусьці ўсе разам замоўклі, і ў гэтым быў першы нядобры знак; батарэя Іванова, здаецца, наогул ні разу не стрэліла. І раптам у кароценькай паўзе паміж выбухамі ён пачуў крыкі. Ён ужо ведаў, што так можа крычаць камандзір, калі, апроч голасу, у яго няма іншых сродкаў уздзейнічаць на падначаленых. І ён зразумеў, што там сталася ліха. Не ў стане далей стрываць трывогу, ён выскачыў з бліндажа.

На левым флангу батальёна, дзе наступала сёмая, яўна парушыўся баявы парадак, і частка байцоў, бязладна бегучы па схіле, кіравала назад, у балота. Некаторыя з іх ужо дабеглі да краю кустоўя і знікалі ў ім, накіроўваючыся да выратавальных сваіх акопчыкаў, а на шляху іхняга адыходу ў балоце магутна грохалі чорныя фантаны выбухаў. Восьмая, здаецца, ужо ўся перайшла цераз балота і залегла пад знаёмым узмежкам, дзевятая справа, пасоўваючыся ў рэдкім кустоўі, быццам бы спрабавала яшчэ наступаць. Валошын не ведаў, дзе знаходзіцца Маркін, але, зразумеўшы, што батальёну кепска, краем балота кінуўся насустрач сёмай.

Ён не думаў тады, што права на ўмяшанне ў ход бою ў яго ўжо не было, што наогул усё, што тут адбывалася, яго не датычыла, але ён адчуў востра, што калі батальён зблытае баявы парадак, дык гэта абернецца

для яго разгромам. І ён, трошкі ўгінаючыся, бег праз хмызняк пад раскацістыя выбухі мін, раз за разам слізгаючы па разбітым, спрэс у варонках лёдзе. Аднойчы яго збіла з ног недалёкім выбухам, і, падаючы, ён балюча выцяўся каленам аб лёд. Пасля ён ускочыў, ледзьве не сутыкнуўшыся з байцом, які ў перакошанай на галаве новенькай касцы імчаўся насустрач, і Валошына непрыемна ўразіў выгляд байца, ніжняя сківаца якога адвісла, акругліўшы рот, смуглявы твар памярцвеў у сваёй ненатуральнай адзеравянеласці. Валошыну спярша здалося, што баец паранены, але, згледзеўшы, як той спрытна матлянуўся ў хмызняк пад новы віск мін, капітан зразумеў, што гэта ад страху. Тады ён спыніўся і нягучна, але ўладарна скамандаваў:

— Ану, стой! Стой!

Побач грымнуў чарговы выбух, абодвух абдало хлюпкай балотнай граззю, Валошын упаў, распластаўся за кустом і баец. Але не паспела апасці ўзнятая ў паветры дробная крошанка лёду, як баец падхапіўся і з зайздросным спрытам кінуўся прэч. Капітан выхапіў пісталет.

— Стой! Назад!

Ён стрэліў запар два разы над яго галавой, баец прысеў, жаласна, з нявыказанай тугой у вачах азірнуўся.

— Назад! — крыкнуў Валошын і махнуў у бок вышыні пісталетам.— Назад! — І зноў стрэліў паверх галавы байца.

Не адразу, з відавочным намаганнем адольваючы свой спалох, прыгнуўшыся на тонкіх у абмотках нагах, баец падбег да капітана і ўпаў на лёд.

— Як прозвішча? — крыкнуў Валошын.— Прозвішча як?

— Гайнатулін.

— Гайнатулін, упярод! — кіўнуў галавой капітан.— Упярод марш!

Ахоплены дробнай дрыжыкай, баец падняўся, і яны хутка пабеглі ў пашкуматаным хмызняку, па залітым граззю, пакарэжаным выбухамі лёдзе. Кулямёты з вышыні сыпалі кулямі па ўсім балоце, часам іх блізкія чэргі, б'ючы аб лёд, балюча сцябалі па твары ледзяной драбязой і пранізліва рыкашэцілі ў неба. У паднябессі рознагалоса вішчала і раўло, даносіліся незразумелыя крыкі, кожны раз заглушаныя магутнымі выбухамі мін. Падаючы і ўскокваючы, Валошын ужо выбягаў з хмызняку, калі спаткаў яшчэ трох байцоў, якія перабягалі паміж разрывамі ў тыл, і таксама завярнуў іх назад. Каля вялізнай, разварочанай у лёдзе і дрыгве варонкі на краі кустоўя тузаўся, спрабуючы ўстаць, адзін паранены, з яго расшкуматанага буйным асколкам нутра па шынялі і каленях лілася ручаямі цёмна-бурая кроў. Баец то ўскокваў на калені, заціскаючы рукамі жывот, то падаў, нешта намагаючыся сказаць.

— Двум узяць! Хутка! Здаць на медпункт і назад!

Байцы з яўным страхам на тварах падступіліся да пара-

ненага, а капітан з астатнімі двума выбег з кустоўя.

Тут пачынаўся адкрыты ўчастак поля з прамерзлай травой балотца, далей не крута паднімаўся адхон, і агняна-трасірныя чэргі з вышыні густа мільгалі вакол, здавалася, ва ўсіх кірунках. Ужо не ўхіляючыся ад іх, Валошын прабег крокаў дзесяць і ўпаў, па жорсткай траве нядоўга прапоўз наперад, шукаючы позіркам каго-небудзь з камандзіраў сёмай. Але людзей тут было не шмат, напэўна, сёмая ўжо паспела схавацца ў кустоўі, некалькі чалавек, падобна, забітых, у ненатуральных паставах ляжалі на закіданай камякамі зямлі, палеглым іржышчы. Перачакаўшы серыю мінных разрываў, калі, здавалася, усё на свеце вось-вось абрынецца ў правалле, ён зноў узняў галаву і ўбачыў байца, які то заміраў ля самай зямлі, напэўна, чакаючы, калі скончацца блізкія выбухі, то, зноў ліхаманкава перабіраючы рукамі, поўз у яго бок.

— Таварыш камбат!..

Валошын угледзеўся ў спрэс шэры, прысыпаны пылам ягоны твар, на шапцы байца затрымалася некалькі камячкоў зямлі. Вочы яго. аднак. цвёрда і заклапочана зірнулі на капітана, і той разам пазнаў у ім кулямётчыка сёмай Дзянішчыка.

— Таварыш капітан, бяда...

— Што такое, Дзянішчык? Дзе кулямёт?

— Ды во кулямёт разбіла.

— Ты цэлы?

— Пакуль што... А напарніка... І гэтага, камандзіра роты забіла,— цяжка дыхаючы, паведаміў Дзянішчык.

Валошын з намаганнем пераадолеў раптоўную спазму ў горле і запытаў:

— Многа... забітых?

— Хапае. Вунь ляжаць. Ды што — кулямёты сякуць так...

— Дзянішчык! — хутка адыходзячы ад яго весткі, сказаў капітан.— Паўзком у хмызняк і ўсіх — назад! Усіх назад, у ланцуг!

— Добра, добра, камбат,— з гатоўнасцю падхапіўся баец.— Я зраблю...

— Гайнатулін! — азірнуўся Валошын, і затрыманы ім баец лыпнуў вачмі.— Гайнатулін, за мной — упярод!

Але не паспелі яны па-пластунску адолець і двух дзесяткаў крокаў, як ззаду з кустоўя зноў даляцеў крык, у якім пачулася нешта знаёмае, і капітан азірнуўся.

Дзянішчык яшчэ не мог адпаўзці так далёка, туды, дзе з дробнага хмызнячку паўзком і прыгнуўшыся з'яўляліся ўцекачы сёмай роты. Хтось іх выганяў там на поле, яны азіраліся і, апынуўшыся на адкрытым, адразу ж падалі,

пачынаючы неахвотна паўзці наперад. Неўзабаве, аднак, капітан убачыў і таго, чый голас ужо некалькі разоў занепакоіў яго — гэта была малодшы сяржант Вераценнікава.

Валошын ціха, сам сабе вылаяўся — яшчэ тут яе не хапала. А ён думаў, што яна на світанні пайшла ў тыл. Выходзіць, на штосьці спадзеючыся, Самохін, пакуль быў жывы, хаваў яе ў роце. І дахаваўся. Зрэшты, з лейтэнантам ужо нічога не зробіш, але што зрабіць з ёй?

Тым часам Вераценнікава таксама заўважыла тут Валошына і, штось злосна пракрычаўшы на байцоў, амаль не ўгінаючыся, краем кустоўя зморана скіравала да капітана.

Рота, аднак, быццам бы затрымалася, уцекачы па адным вярталіся з балота і ўкладваліся на схіле ў няроўны крывулясты ланцуг. Трэба было падумаць, як наступаць далей — сёмая не мела права адставаць ад суседзяў справа. Азіраючы шырокі выпуклы схіл, над якім мільгалі зеленаватыя ў святле дня трасы, Валошын заўважыў у недалёкай варонцы скасабочаны край шчыта кулямёта і падумаў, што, пэўна, гэта і ёсць кулямёт Дзянішчыка. А можа, і не яго, а іншы, але пападанне было куды як трапнае, наўрад ці каму ўдалося там ацалець. Варонка ж была адзіным тут укрыццём, трэба было паспрабаваць дапаўзці да яе. Але спярша ён пачакаў Веру, якая, як толькі падбегла, бяссільна ўпала на дол:

— Таварыш капітан! Таварыш капітан!!!

Хвіліну яна рыдала, уткнуўшыся тварам у падкасаны рукаў шыняля, плечы яе скаланаліся, шапка спаўзла на патыліцу. Валошын нядобра маўчаў, цалкам падзяляючы яе няшчасце, але чым ён мог памагчы? Суцяшаць у такім становішчы было б з ягонага боку ханжаствам. Да таго ж ён не мог адолець у сабе злоснага пачуцця таго, што гэтае наравістае дзяўчо так і не выканала яго загад, самавольна застаўшыся ў батальёне і тым ускладніўшы сваё і без таго не простае

тут становішча.

— Так, хопіць! — строга сказаў капітан.— Хопіць! Слязьмі не паможаш. Дзе ён?

— Я ж казала... Я ж так і ведала,— падняла непрыгожы, змакрэлы ад слёз твар Вера.— Ён жа ўсё рваўся, усё наперад і наперад. Я стрымлівала, не пушчала... А тут... вырваўся!

— Дзе ён ляжыць?

— Там, пад самай гэтай спіраллю. Ён жа наперад за ўсіх выскачыў, ну і...

— Так, панятна! Давайце на левы фланг. Давайце ўсіх слабакоў упярод! Я паслаў Дзянішчыка, вы яму ў дапамогу.

— Я іх затрымала,— сказала Вера, раптам супакойваючыся, і бруднымі пальцамі выцерла твар.— Я іх павыганяла з балота. А то кінулі ўсё, пабеглі...

— Усіх сюды, у ланцуг! І чакаць сігналу ўпярод! Вера хутка папаўзла назад, у бок левага фланга роты, а ён зноў азірнуўся на Гайнатуліна.

— Гайнатулін, за мной упярод!

## 18

Здавалася, яны цэлую вечнасць паўзлі па схіле да гэтай разварочанай выбухам варонкі, раз за разам заміраючы пад гарачымі струменямі куль, што праносіліся над іх галовамі, прыціскаючыся грудзямі да пакрэмзанага міннымі асколкамі долу, чакаючы, пакуль скончыцца грымотны абвал блізкіх выбухаў, задыхаючыся ад патокаў узнятага ў паветры пылу. Аднойчы Валошыну так сцебанула па твары зямлёй, што ён, абліваючыся слязьмі, хвіліну цёр забітыя пяском вочы, пакуль нарэшце пачаў нешта бачыць. Ён не азіраўся, але адчуваў, што Гайнатулін быццам паўзе, і час ад часу прыкрыкваў цераз плячо: «Гайнатулін, упярод! Не

бойся, Гайнатулін! Упярод!»

Нарэшце, дабраўшыся да варонкі, ён пераваліўся цераз крайнія, бязладна наварочаныя выбухам глыбы і апынуўся ў яе выратавальнай зямной глыбіні. Тут ужо можна было ўздыхнуць. Рукі яго да лакцёў патанулі ў перамеленай выбухам і густа начыненай асколкамі зямлі, якою да плеч быў засыпаны баец-кулямётчык з акрываўленай разбітай патыліцай. Зямля ў дне варонкі густа змакрэла ад яго ліпкай крыві, ногі байца былі расшкуматаны выбухам, а адна рука ўсё яшчэ ўчэпіста трымалася за ручку паваленага набок ДШК з загнутай ударам сталёвай пласцінай шчыта. Валошын з натугай адарваў гэтую руку ад кулямёта і націснуў на спуск. Кулямёт, на яго здзіўленне, грымліва здрыгануўся, кароткай чаргой узбіўшы зямлю наперадзе, і канец доўгай, засыпанай пылам стужкі з патронамі ажывела варухнуўся ў варонцы.

— Гайнатулін, сюды!

Валошын, нібы выратаванню, узрадаваўся гэтаму кулямёту, клапотна здзьмухнуў з прыцэльнай рамкі пясок, выцяг з-пад камякоў усю стужку з паўсотняй жоўтых буйнакаліберных патронаў. Пасля, узяўшыся за кулямётныя ручкі, засцярожліва высунуўся з варонкі — трэба было вызначыць адлегласць і паставіць прыцэл.

Але, на ягоны жаль, аказалася, што не відно траншэі — пакатая паверхня схілу хавала яе ад ягоных вачэй, зрэшты, як і яго ад немцаў таксама, інакш бы яму сюды не дабрацца. Гэта было кепска, тым больш што ён ужо паспадзяваўся на сваю ўдачу. Значыць, трэба было выбірацца з гэтай варонкі, што пад такім агнём было самазабойствам. Гайнатулін тым часам, мабыць, пераадолеў у сабе свой спалох, зрабіўся, з выгляду болей спакойны і адкапаў у варонцы яшчэ дзве скрынкі з патронамі. Боепрыпасаў прыбавілася, трэба было неадкладна адкрываць агонь.

Валошын павёў позіркам па схіле ўправа, куды прыкметна аддаляліся выбухі і скіравала палова кулямётнага агню з вышыні — там, удалечыні за

балотцам, у падножжа вышыні «Малой», варушыліся байцы дзевятай. Адсюль цяжка было зразумець, ці яны рыхтаваліся кінуцца на вышыню, ці штось у іх не атрымалася, і яны гатовы былі адысці за балота. Праўда, вышыня была далекавата нават для яго ДШК, але ён рашуча павярнуў кулямёт у яе бок.

— Гайнатулін, рыхтуй каробку!

Ён паставіў на рамцы прыцэл, роўны васьмістам метрам, старанна навёў па самай вяршыні з траншэяй і, замацаваўшы наводку, вялікімі пальцамі плаўна націснуў на спуск. Кулямёт дужа затросся ў руках (спатрэбілася немалая сіла, каб утрымаць яго на наводцы), і чарга з дзесятка буйнакаліберных дванаццаціміліметровых куль, візгнуўшы, пайшла за балотца. Здаецца, трапіла яна з недалётам. Валошын дадаў прыцэл і зноў старанна навёў па траншэі.

На гэты раз ён выпусціў тры чаргі запар, вяршыня бугра закурылася ад разрыўных, і ён парадаваўся колішняму свайму захапленню кулямётнай стральбой. Праўда, тады ён страляў з «максімаў», што ўвогуле было прасцей. Затое ДШК — сіла, якую не зраўняеш з «максімкай». Толькі б хапіла патронаў.

Часта падпраўляючы наводку, ён пачаў біць разрыўнымі па разлеглай наўкось ад яго вышыні, у фланг нямецкай траншэі, сам застаючыся ў адноснай ад яе бяспецы. У прамежках ён бачыў, як заварушыліся пад ёй шэрыя постаці байцоў, і ўзрадавана падумаў: мабыць, памог! Калі не празяваць момант і зараз жа выкарыстаць гэты агонь, дык, можа, і ўдасца зблізіцца для рукапашнай. На рукапашную цяпер была ўся надзея, іншых пераваг у іх не засталося.

Дзевятая, аднак, усё бавіла час. Калі-нікалі мінныя выбухі ў балоце і на схіле зусім затулялі ад яго вышыню, і ён пераставаў бачыць, што там адбываецца. Але, калі было бачна, ён упарта націскаў на спуск, амаль фізічна адчуваючы, як ягоны агонь размятае земляны бруствер нямецкай траншэі. Самы момант быў атакаваць.

Пасля шостай ці сёмай чаргі, калі ён ужо няблага прыстраляўся, ззаду раптам пачуўся шорхат, і нехта ўваліўся ў яго варонку. Валошын адарваўся ад кулямёта — сплёўваючы пясок, ля яго ног сядзеў увесь запылены і закапцелы, з разадранай палой паўшубка Маркін.

— Куды вы б'яцё! — сарваным голасам крыкнуў новы камбат.— Куды к д'яблу лупіце?

— Выручаю Кізевіча. Вунь пад самай вышынёй залёг.

— Што мне Кізевіч! — праз грукат раздражнёна закрычаў Маркін.— Мне гэтая вышыня трэба. Яе загадана ўзяць.

— Не ўзяўшы тую, не возьмеш гэту! — таксама раздражняючыся, пракрычаў Валошын.

Па абодва бакі варонкі з аглушальным грымоццем пракаціліся тры выбухі, у небе завылі асколкі. Адзін з іх, нібы зубілам, звонка секануў па краі шчыта, пакінуўшы касы рваны шрам на метале. Зверху важка зашлёпалі камякі і густа пасыпалася зямля, не страсаючы якую, яны таропка ўзнялі галавы — яшчэ нехта ўваліўся ў варонку, за ім наступны,— аказалася, гэта быў Іваноў з тэлефаністам. Таксама плюючыся, камандзір батарэі працёр рукой вочы.

— Даюць, сволачы! Харашо, хоць варонак нарабілі. А то б хана!

— Некалі ў варонках сядзець,— сказаў Маркін.— Пара паднімацца. Сувязь з агнявой ёсць?

— Сузязь-то ёсць,— сказаў Іваноў.— Пакуль што. Ану, правер, Сыкуноў.

— Слухай,— павярнуўся да яго Валошын.— Кідані парачку па той вышыні. Глядзі, вунь Кізевіч ля самай траншэі ляжыць. Яму б самую маласць. Хоць для псіхікі.

— Хіба што парачку,— сказаў Іваноў і дастаў з-за пазухі свой пакамечаны блакнот.— Ану, перадавай, Сыкуноў.

— Ні ў якім разе! — трапятнуўся Маркін — Вы што? Кізевіч большай часткай адцягвае. Галоўнае для нас — гэтая вышыня!

— Яны ж там усе палягуць! — закрычаў Валошын.— Вы паглядзіце, куды яны падабраліся. І адысці ім нельга.

— Адыдуць! — спакойна сказаў Маркін. — Жыць захочуць — адыдуць. Справа няхітрая.

— Цяпер ім лягчэй наперад, чым назад.

— Давайце ўвесь агонь сюды, па траншэі! — жорстка запатрабаваў Маркін.— І батарэі і ДШК. Праз дзесяць хвілін я паднімаю сёмую з восьмай.

— А дзевятая? — рэзка запытаў Валошын і, зірнуўшы ў сцюдзёныя вочы свайго начштаба, не пазнаў іх — столькі ў іх было бязлітаснае рашучасці.

Ведама, гэта яго права — распараджацца прыдадзенай артылерыяй, маючы на ўвазе галоўную задачу, але ж Кізевіч ушчыльную наблізіўся да сваёй удачы або пагібелі. Па сутнасці ўвесь лёс дзевятай вырашаўся ў гэтыя кароткія секунды, як было не памагчы ёй?

— Два снарады ўсяго,— папрасіў Валошын, ледзьве стрымліваючы сябе, каб не ўзарвацца.— Два снарады!

— Не! — адсек Маркін.— Адкрывайце агонь для сёмай!

Іваноў чужым голасам скамандаваў даварот ад рэпера і

адвярнуўся з біноклем у руках, а Валошын на каленях кінуўся да кулямёта. Дрыготкімі рукамі ён зноў навёў яго на вяршыню «Малой». Напэўна, трэба было праверыць наводку, але ён ужо амаль што ў шаленстве націснуў на спуск, пасля яшчэ і яшчэ, пакуль пусты канец стужкі не выскачыў з прыёмніка.

З супакоеным усведамленнем зробленага ён выглянуў з-за кулямётнага кола: на вышыні за балотцам вецер здзьмуваў апошняе клочча пылу, і ён падумаў, што страляў недарма. Шэрыя, не спрытныя ўдалечыні

постаці, якія варушыліся на схіле, апынуліся ў якой-небудзь сотні метраў ад нямецкай траншэі. Але постаці не спяшаліся. Лаючы іх пра сябе за марудлівасць, ён са злосцю падумаў пра іх камандзіра Кізевіча, які, зрэшты, ніколі не вылучаўся спрытам, заўжды марудзіў і спазняўся. Але раптам ён згледзеў, як некалькі постацей матлянуліся на самай вышыні і там жа зніклі, напэўна, скочылі ў траншэю. Там, удалечыні, слаба бабахнула некалькі выбухаў гранат, дзьмухнула над траншэяй пылам, яшчэ нехта мільгануў чорным ценем на вяршыні задымленай вышыні, і ён узрадавана зразумеў: уварваліся! Цяпер для дзевятай усё будзе рашацца ў траншэі.

— Кізевіч уварваўся! — крыкнуў ён Маркіну і ўхапіў з-пад ног новую скрынку з патронамі.

Абыякавы да яго слоў, Маркін сядзеў на схіле варонкі, злосна ўставіўшыся ў тэлефаніста, які трывожлівым голасам выклікаў у трубку «Бярозу», і Валошын зразумеў, што сувязь з агнявой абарвалася. Канчаткова пераканаўшыся ў тым, тэлефаніст кінуў на апарат трубку і ледзь прыўзняўся, каб выскачыць з варонкі на лінію. Але не паспеў зрабіць і аднаго кроку, як войкнуў, схапіўся за грудзі і мякка асеў пад ногі Іванову.

— Сыкуноў, што? Куды цябе, Сыкуноў? — усхапіўся Іваноў, абедзвюма рукамі мацаючы сувязіста і спрабуючы расшпіліць непадаткія кручкі яго шыняля.

Але твар тэлефаніста хутка бялеў, павекі дзіўна затрэсліся, і ён слабым голасам выціснуў:

— Я ўсё... Забіты я...

Здаецца, сапраўды ён быў забіты, напаўзаплюшчаныя вочы яго спыніліся на нейкай далёкай кропцы, рука ўпала з грудзей, і Іваноў апусціў яго на дно варонкі.

— От чорт!

Побач ускочыў на калені Маркін.

— Мне трэба агонь! Агонь мне, капітан! Пасылайце

гэтага! — кіўнуў ён на Гайнатуліна.— Эй, чуеш? Хутка на лінію, знайсці парыў!

Гайнатулін, няўцямна міргнуўшы вачмі, перавёў позірк на Валошына.

— Наўрад ці сумее,— сказаў Валошын.— Ён з новенькіх.

— А мне напляваць, з новенькіх ці са старанькіх. Мне патрэбна сувязь. У мяне атака зрываецца!..

Сувязь, вядома, патрэбна, падумаў Валошын, але ж нашто так нервова? Ён павярнуўся да Гайнатуліна, да якога ўжо прывык за гэтыя некалькі гадзін бою і заставацца без каторага цяпер не хацеў. На жаль, апроч яго, паслаць на лінію тут не было каго.

— Давай! — сказаў ён.— Паўзком, провад — у руку, звяжаш парыў — і назад. Зразумеў?

Баец нешта зразумеў, кіўнуў галавой і на чацвярэньках перапоўз цераз край варонкі. Перад вачмі Валошына мільганулі нестаптаныя, усеяныя цвікамі падэшвы ягоных чаравікаў, і баец назаўжды знік у полі.

Яны пачалі чакаць. Сувязіст ужо адышоў, на ягоным збялелым, з жаўцізной, твары хутка цвярдзела чужая, незнаёмая іншым грымаса. Іваноў з Маркіным адцягнулі ягонае цела са дна варонкі бліжэй да яе краю, дзе ён меней замінаў жывым і дзе ляжаў пасечаны асколкамі кулямётчык. Маркін вальней выцяг ногі і патрабавальна ўставіўся на Іванова, які нервова сціскаў у руцэ маўклівую трубку. Звычайна ўласцівая капітану вытрымка на гэты раз прыкметна пакідала яго, і было ад чаго. Хаця і раней сувязь з агнявой пазіцыяй ірвалася не рэдка і ў няздатны час, але момант, горшы за гэты, проста немагчыма было прыдумаць.

Валошын асцярожна зірнуў з варонкі — мінныя выбухі цяпер шкуматалі вышыню «Малую», адкуль немцы яўна рашылі выбіць роту Кізевіча. Тут жа па схілах, дзе распаўзліся і пахаваліся ў варонках рэшткі сёмай і восьмая, толькі сцябалі нізкія кулямётныя трасы.

Валошын адамкнуў пустую патронную скрынку, каб замяніць яе поўнай, якая аказалася, аднак, дужа пакарэжаная выбухам. Каб не поркацца з ёй, ён выцягнуў з яе ўсю стужку і падраўняў патроны. Ён ужо паспеў прызвычаіцца да гэтага кулямёта і цяпер не без іроніі падумаў, што калі з яго не атрымаўся камбат, дык, можа, выйдзе хоць кулямётчык. Ва ўсякім выпадку, ён знайшоў у гэтым баі сваю справу і ўжо гатовы быў прымірыцца са сваім гэркім лёсам. Што ж яшчэ яму заставалася?

— Алё, «Бяроза», алё! — раптам узрадавана закрычаў у трубку Іваноў.— Гэта я. Сыкунова няма, забіты Сыкуноў. Слухайце каманды. Зараз перадаю каманды...

Валошын з палёгкай уздыхнуў і задаволена падумаў пра Гайнатуліна — малайчына, што не падвёў. Пераажыве першы страх, прывыкне і будзе добры баец. Калі толькі асколак ці нямецкая куля праміну́ць яго ў гэтай атацы, у якой ён патрэбны быў і Валошыну. Аднаму з цяжкім кулямётам яму не справіцца.

— Так. Але ж адсюль ні д'ябла не відаць! — выглянуў з варонкі Іваноў.— Трэба выпаўзаць.

— Выпаўзайце! — змрочна сказаў Маркін і выняў з кішэні трафейную, з белага металу ракетніцу.

— Асцярожна,— сказаў Іванову Валошын.— Яны тут кулямётамі ржышча стрыгуць.

Іваноў зматаў з пачатай катушкі даўгі канец провада і, схапіўшы за рэмень апарат, вываліўся з варонкі.

Абодва камбаты засталіся ў варонцы. Адносіны паміж імі былі прыкметна нацягненыя, размаўляць не хацелася, і Валошын сачыў, як пятляла-сучылася на скосе варонкі чырвоная нітка провада. Ён ведаў, што, пакуль яна варушылася, з Івановым было ўсё ў парадку.

— Вы з кулямётам застанецеся? — маючы на ўвазе хуткую атаку, запытаў Маркін.

— Я з кулямётам. Да, а вам вядома, што Самохін забіты?

— Ведаю. Сёмай пакуль камандуе Вера.

— Знайшлі камандзіра!

— А што? Дзеўка бядовая...

— Бядовая, ды цяжарная. Вы падумалі аб тым?

— Ну што ж, што цяжарная. Ніхто яе тут не трымаў. Сама засталася. Так што...

— Чорт бы вас узяў! — не стрымаўся Валошын, забыўшыся ў гэты момант, што гадзіну назад сам паслаў Веру наводзіць парадак у сёмай.

Але тады ён ужо страціў свае паўнамоцтвы адпраўляць яе ў тыл, тыя паўнамоцтвы, якія разам з іншымі перайшлі да Маркіна і якімі новы камбат распараджаўся па-свойму. І ўсё ж было прыкра, галоўным чынам ад усведамлення таго, што Веры ў батальёне не месца. Ні да, ні тым болей у часе гэтай, з самага пачатку няладнай, атакі, якая, апроч яшчэ адной непатрэбнай смерці, нічога іншага ім не абяцала.

Прыгнуўшы галаву, Валошын сядзеў на скосе варонкі. Провад памалу варушыўся ля яго ботаў, ціха знікаючы ў полі. Значыць, Іваноў усё поўз, напэўна, яшчэ не бачыў траншэі. Але вось шырокая пятля провада замерла на краі варонкі, Валошын старанна выпраміў яе загіб, ды провад не варухнуўся. «Зараз скамандуе»,— падумаў Валошын. Аднак мінула хвіліна, другая, каманды ўсё не было чуваць. Маўчала і батарэя.

— Ну што ён там? — нецярпліва сказаў Маркін і выглянуў з варонкі.

Валошын таксама выглянуў, але Іванова нідзе не ўбачыў, напэўна той схаваўся за выпукласцю гэтага схілу. Высоўвацца ж далей не мела сэнсу. Яны яшчэ пачакалі, але провад болей не кратаўся, і гаўбічная батарэя ззаду працягвала маўчаць.

— Чорт ведае што! — губляючы трыванне, вылаяўся Маркін, і ў свядомасць Валошына ўдарыла трывога.

Як на бяду, ні ў варонцы, ні каля яе нідзе не было нікога. Счакаўшы трохі і не могучы адолець вострага непакою за сябра, Валошын падаўся па ягоным следзе з варонкі.

— Вы куды? — крыкнуў наўздагон Маркін.

— Я зараз...

Ён таропка папоўз уздоўж провада, які чырвонаю ніткай пралёг па схіле, і яшчэ зводдаль убачыў сябра — той нерухома ляжаў ніц на пакрэмсаным чэргамі ржэўніку, і ён падумаў, што, відаць, найгоршыя яго апасенні спраўдзіліся. Адсюль ужо відаць была вышыня і брустверны бугорчык бліжняга канца траншэі са ствалом нямецкага кулямёта на сошках. Кулямёт, зрэшты, пыхкаючы дымком, біў некуды ў фланг сёмай. Валошын падпоўз да Іванова і лёгка перакаціў на бок яго сухарлявае цела, зваліўшы з галавы на леташні ржэўнік яго скамечаную шапку; з вуснаў капітана споўз па шчацэ тонкі струменьчык крыві. Іваноў прастагнаў і кволым позіркам паглядзеў на Валошына.

— Дружа, куды цябе? — ліхаманкава абмацваючы яго, запытаў Валошын.

— Папала і мне,— прастагнаў Іваноў і раптам загрэбаў сябе рукамі.

— Баліць, га? Я перавяжу. Дзе баліць?

— Сувязь... Сувязь трэба...

— Чакай ты з сувяззю. Давай у варонку назад!

— Трэба перадаць на агнявую...

— Я перадам, ладна,— запэўніў Валошын і перакінуў ягоную руку сабе за шыю, каб цягнуць яго па схіле назад да варонкі.

— Перадаць паварот,— упарта паўтарыў Іваноў, бездапаможна закінуўшы галаву.— Дай трубку!

Дрыготкімі рукамі, хвалюючыся і лаючыся, Валошын расшпіліў футарал апарата і выняў тэлефонную трубку. Іваноў прыўзняў аслабелую руку, у якую Валошын, адціснуўшы клапан, уклаў яго трубку.

— «Бяроза»...— ледзь чутна вымавіў камандзір батарэі.

— «Бяроза» слухае! — зараз жа бадзёра адгукнуўся ў трубцы.— «Бяроза» слухае, таварыш капітан.

— «Бяроза», я ранены. Даю паварот: рэпер нумар тры, правей ноль-сорак. Уравень больш ноль-ноль тры...

Лежачы побач, Валошын добра ўчуў у трубцы паўторы ягоных каманд, чаго сам Іваноў, здаецца, ужо не чуў. Камандзір батарэі ўвачавідкі губляў свае сілы, і з імі, здавалася, знікала яго свядомасць. Ён маўчаў, трубка таксама замоўкла, амаль выпаўшы з яго рукі, пасля з яе загучала з трывогай:

— Што, можна агонь? Можна агонь, таварыш камбат?

— Агонь... Беглы агонь,— няслушнымі вуснамі прашаптаў камбат і сціх.

Спалохаўшыся, што на агнявой маглі не пачуць ягонай каманды, Валошын падхапіў трубку і гучна пракрычаў у яе:

— Усімі снарадамі агонь! Адкрывайце агонь! Вы чулі, камбат скамандаваў агонь!

Пасля ён сунуў трубку ў футарал і, закінуўшы руку Іванова сабе за шыю, павалок яго назад да варонкі. Ён яшчэ не дапоўз да яе, як зямля пад ім пругка здрыганулася, і чатыры гаўбічныя выбухі грымотна прагрукацелі на вышыні каля самай траншэі. Гэта было так блізка, што асколкі з фыркатным звонам пранесліся над яго галавой, і ён спалохаўся, як бы каторы з іх ненаўмысля не зачапіў Іванова. Але асколкі іх абмінулі, ён зваліў сябра з плячэй на краі варонкі, пасля, ухапіўшы пад пахі, сцягнуў уніз. Маркіна тут ужо не было, на скосе адзінока стаяў кулямёт ды насупраць супакоена ляжалі двое забітых. Да іх ён паклаў

параненага.

Іваноў чуўся кепска, здаецца, губляў прытомнасць, і Валошын, не паспеўшы аддыхацца, кінуўся яго перавязваць. Ён расшпіліў дзягу з пісталетам, расхінуў запэцканы ў крыві паўшубак, пад якім аказалася мокрая, ліпкая ад крыві гімнасцёрка, і Валошын зразумеў, што куля ўдарыла капітана ў грудзі. Гэта было горш, рану ў грудзях перавязаць не проста, асабліва ў такіх умовах, калі няма часу і пад рукамі ўсяго адзін індпакет. Баючыся, што вось-вось прагучыць каманда на атаку, ён туга абгарнуў бінтам індпакета паверх гімнасцёркі з вялікаю плямай крыві і захінуў паўшубак. Яму трэба было не празяваць пачатак атакі, у якой заўжды нямала спраў кулямётчыку.

Але, здаецца, пакуль ён завіхаўся з параненым, атака ўжо пачалася. Наперадзе ля траншэі яшчэ рванула некалькі выбухаў, закідаўшы схіл камякамі зямлі, і хтось там ужо мільгануў сярод дыму і пылу, на секунду прапаў, пасля мільгануў зноў. Страляць па траншэі было ўжо позна, і Валошын, падумаўшы, што спазніўся, выкаціў цяжкі ДШК з варонкі, пацягнуў яго ўгору. Зводдаль і ззаду беглі байцы восьмай роты.

Відаць, збянтэжаныя знянацкім напорам, немцы на хвіліну разгубіліся, нават спынілі мінамётны агонь па вышыні «Малой», пераносіць жа яго па атакуючых так блізка ад сваёй траншэі яны, відаць, не адважыліся. Сёмая з восьмай жыва скарысталі гэтую нядоўгую замінку і ўварваліся на вышыню, амаль дабегшы да самай траншэі. Але з траншэі ва ўпор ім ударылі кулямёты, і байцы адзін за адным пачалі падаць на дол.

Адчуўшы на бягу, як густа зафукалі каля яго кулі, Валошын таропка павярнуў кулямёт і таксама ўпаў, затуліўшыся за пагорбленым яго шчытом. Лежачы, ён сцягнуў з пляча цяжкую з патронамі стужку і ўбачыў лейтэнанта Круглова, які на чацвярэньках поўз да яго і крычаў:

— Таварыш капітан!.. Таварыш капітан, вунь бачыце?.. Вунь, зараза, з-за бруствера...

Ён ужо ўбачыў на брустверы кулямёт, кулямётчык якога, мабыць, таксама заўважыў іх збоку. Звернуты крыху ўбок яго ствол раптам крута вывернуўся і, здавалася, упёрся ў Валошына. Не паспеўшы яшчэ прыўзняць ахоўнік, Валошын здрыгануўся, як ад апёку, аглушаны імклівым трэскатам скіраванай па ім кулямётнай чаргі. Аднак пагнуты, пакрэмзаны асколкамі шчыт ДШК яго ўратаваў, чарга сыпанула далей і ўзад, і ён, тузануўшы затвор, ударыў па кулямёту, зласліва адчуваючы, як ягоная разрыўная чарга змятае разам з рыхлай зямлёй усё, што было на брустверы. Калі ён расслабіў на спуску знямелыя ад намагання пальцы, кулямёта там ужо не было, толькі нешта пыльна шарэла нястрашным нежывым бугарком.

— Рота!..— ускочыў і хрыпата закрычаў Круглоў.— Рота, упярод!

Валошын расслаблена выдыхнуў пад казённік пасля кароткага напружання, якое, аднак, ушчэнт знясілела яго. Ён зірнуў убок і ўбачыў, як некалькі байцоў непадалёк ускочылі з долу і падаліся далей за камсоргам. Нехта, не шмат прабегшы, хутка ўпаў, але хтосьці ўжо ўскочыў на бруствер і тут жа знік, мабыць, саскочыў у траншэю.

Вялізнае напружанне, якое столькі часу валодала капітанам, разам апала ад адной радаснай думкі — нарэшце зачапіліся, і ён таксама падняўся, каб бегчы туды, да траншэі.

**19**

Ім пашанцавала. Паўтара дзесятка байцоў, што апынуліся на стыку сёмай і восьмай рот, уварваліся нарэшце ў траншэю.

Мокры ад поту, Валошын, цягнучы за сабой кулямёт, заўважыў, як зводдаль у траншэі мільганула некалькі нямецкіх касак, некалькі разоў падземным грукатам вухнулі ручныя гранаты, але, калі ён узбег на разварочаны нагамі і засыпаны гільзамі бруствер, у

траншэі ўжо ўсё было скончана. Ён з палёгкаю скокнуў у свежую, з выразным земляным пахам траншэю, прыкідваючы, дзе б да часу прыткнуцца з грувасткім кулямётам, які неўзабаве, мабыць, трэба было цягнуць далей. Але для таго ў вузкай траншэі яму патрэбна была дапамога. Азірнуўшыся, ён убачыў паблізу ў полі маладога байца ў новым шынялі і спыніўся, каб пачакаць яго, як аднекуль зверху, з не бачнай адсюль пазіцыі, гучна і грозна ўдарылі размераныя кулямётныя чэргі. Нізкія чырванаватыя трасы мільганулі наўкось па схіле, і баец, не дабегшы дзесятка метраў да бруствера, ткнуўся галавой у зямлю. Здаецца, яго зрэзала па самыя калені. У наступнае імгненне гэтыя трасы нізка пранесліся над галавой Валошына, той інстынктыўна прысеў, схапіўшыся за ручкі ДШК, але адсюль не было відаць за накапаным грабянём бруствера, адкуль біў гэты нямецкі буйнакаліберны. Біў, аднак, здорава — нізка па схіле ў фланг восьмай, некалькі чалавек якой, так і не дабегшы да траншэі, бездапаможна распласталіся на ржышчы. Іншыя пачалі таропка адпаўзаць пад выратавальную ахову ледзьве прыкметнага пагорачка ззаду. У той час зверху густа і прарэзліва завылі нямецкія міны, якія пыльнымі выбухамі ляглі ўпоперак па схіле, пасля па нізе вышыні, па балоце.

Валошын скаціў кулямёт ніжай, на броўку, упёр казённік у супрацьлеглую сценку траншэі. Ён зразумеў усё. Надзея на ўдачу не спраўдзілася, момант быў упушчаны, батальён аказаўся разрэзаны на тры часткі, бой ускладніўся, і цяпер з упэўненасцю вызначыць ягоны зыход было немагчыма. Ва ўсякім выпадку жменьцы байцоў, што ўварвалася ў траншэю, хутка будзе не соладка.

Стараючыся, аднак, захаваць вытрымку, ён апусціўся на дно траншэі і пад віск і грымоцце выбухаў згарнуў цыгарку. У ягоным болей чым азмрочаным з раніцы настроі настаў пералом, у гэтай безнадзейнасці ён нечакана знайшоў у сабе спакойную ўпэўненасць, амаль абнадзейнасць. Усё цяжка перажытае ім дагэтуль спакваля адсунулася прэч, яго чакала штось новае, і ён

адчуў, што самае галоўнае, мабыць, трэба яшчэ перажыць. І хоць ён не меў аніякіх ілюзій, ён быў упэўнены і спакойны. Ён уступіў у звыклую ролю салдата і не залежаў ужо ні ад Гунько, ні ад Маркіна, а толькі ад немцаў і сябе самога. Ягоны салдацкі лёс быў цалкам у ягоных руках.

Ён толькі раз зацягнуўся, як трохі вышэй у траншэі пачуліся незразумелыя крыкі і блізкая чарга з аўтамата секанула па брустверы. Было падобна на тое, што іх ужо спрабавалі адсюль выбіць і хтось там не ўтрымаўся. Але бегчы пад гэты агонь з траншэі, напэўна, азначала загінуць. Тузануўшы з кабуры пісталет, Валошын счакаў чвэрць хвіліны і, прыгнуўшыся, пабег па крывулястай траншэі. На другім ці на трэцім павароце ён наткнуўся ў дне на байца, што прысеў з прымкнёным да вінтоўкі штыхом і напружана ўзіраўся наперад, адкуль даносіўся крык і густа трашчалі аўтаматныя чэргі. Некалькі куль разбіла зямлю на брустверы, абдаўшы абодвух пяском і пылам.

— Што там? — запытаўся Валошын.

Баец пацісвуў плячыма, трымаючы напагатове зброю, сам, аднак, не спяшаўся падацца назад, і Валошын крыкнуў яму:

— Давай назад да кулямёта.

Яны ледзьве разышліся ў цеснай траншэі, на дне якой ён з гідлівасцю пераступіў цераз труп немца ў расхінутым на грудзях шынялі, і на чарговым павароце ледзьве не трапіў пад знянацкую чаргу ўздоўж траншэі, паспеўшы, аднак, захінуцца за земляны выступ. Аднекуль спераду на яго наскочыў Круглоў.

— Што такое, лейтэнант?

— Дрэнь справа, камбат! Назад гоняць!

— Спакойна! — сказаў Валошын і заступіў траншэю перад байцом, які следам за камсоргам выскачыў зза паваротні. Па ягонай шчацэ цякла за каўнер кроў.—

Спакойна. Ану гранаты! Гранатамі — агонь!

Баец штосьь усхвалявана крычаў, памінаючы нейкага Лёшку, і машынальна размазваў даланёй кроў па шчацэ. Падпарадкоўваючыся камандзе, ён сарваў з брызентавай дзягі гранату і з лаянкай шпурнуў яе далей у траншэю. Калі яна разарвалася за паваротам, абдаўшы іх смуродам і пылам, спераду з-за калена выскачыла яшчэ двое, і ў тым, што быў без шыняля, у непадпяразанай гімнасцёрцы, Валошын раптам пазнаў Чарнаручанку.

— Чарнаручанка, ты што? Дзе Маркін?

Чарнаручанка матлянуў па ім недаўменным позіркам.

— Там,— кінуў ён, падхапіў вінтоўку і стрэліў два разы па траншэі.

Туды ж ударыў з пісталета Круглоў.

— Так. Адсюль ні кроку! — пачынаючы адчуваць заблытаныя акалічнасці бою, сказаў Валошын.— Адсюль ні з месца. Зразумела?

— Так точна, таварыш камбат,— сказаў Чарнаручанка і пераразарадзіў вінтоўку.

Іх сабралася за каленам траншэі чалавек пяць, аднекуль спераду напіралі немцы, густа абсыпаючы бруствер і павароты траншэі аўтаматнымі чэргамі, а яны адстрэльваліся і час ад часу кідалі туды гранаты. Немцы таксама шпурлялі гранаты, дзве з якіх разарваліся, на шчасце, за бруствером, адну Чарнаручанка ўхапіў за доўгую ручку і адкінуў назад. Было зразумела, што з ходу выбіць немцаў з гэтай траншэі ў іх не хапіла сілы, і цяпер іх саміх як бы не выгналі ў поле. Гэта ўжо было горш, тым болей што дапамагчы ім тут не было каму.

— Вось дык становішча! — клапотна сказаў Круглоў, стоячы на адным калене ў траншэі.

Усе трымалі зброю напагатове. Першы каля паваротківі

стаяў згорблены баец са скрываўленай распухлай шчакой, за ім Чарнаручанка. Валошын азірнуўся, шукаючы позіркам яшчэ каго-небудзь ззаду, і ўбачыў яшчэ аднаго байца з учарашняга папаўнення, вочы якога на смуглявым твары пазіралі надзіва спакойна, амаль бясстрасна — так, нібы ўсё, што адбывалася навакол, было для яго звычайным, нават апрыклым.

— Па-руску разумееш? — запытаў Валошын.

— Разумею,— ціха адказаў баец.

— Давай па траншэі за кулямётам. Удвух возьмеце кулямёт — і сюды.

Баец пабег па траншэі, і Круглоў запытаўся з надзеяй:

— А патроны? Патроны хоць ёсць?

— На адну чаргу.

Камсорг толькі памкнуўся нешта сказаць, як наперадзе штось грукнула, ён усхапіўся і стрэліў з пісталета. За ім стрэліў Чарнаручанка і паранены ў скроню баец. Пасля яны пачакалі, але з-за павароту ніхто не паказваўся, і Валошын апусціў пісталет.

— Так. Колькі тут нас усяго? Шасцёра? — запытаў ён.— Здаецца, больш бегла.

— Астатнія там,— азірнуўся Чарнаручанк.— У бліндажы.

— У якім бліндажы?

— А там бліндаж ёсць. Як фрыцы ўдарылі, яны не паспелі. Мы выскачылі, а тыя не паспелі.

«Час ад часу зусім не лягчэй»,— падумаў Валошын. І так невялікія сілы іх былі раздзелены ў траншэі. Вядома, немцы хутка прыкончаць тых у нейкім там бліндажы, пасля возьмуцца за астатніх.

— Лейтэнант, трэба прабіцца наперад,— сказаў

Валошын.

— Яно б не кепска. Але...

— Трэба прабіцца. Дайце гранату.

Чарнаручанка кінуў Валошыну круглае яйка нямецкай гранаты, капітан тузануў за гузічак са шнурком і шпурнуў яе цераз бруствер. Як толькі там грымнула, Валошын крыкнуў:

— Быстра ўпярод!!

Чарнаручанка з параненым хутка кінуліся за паварот, і ён па-над іх галовамі стрэліў уздоўж наступнага адрэзка траншэі. Прабегшы дзесятак крокаў, яны ўтрох затаіліся каля чарговага павароту. Паранены баец, відаць, зразумеўшы манеўр, выставіў з-за рога аўтамат і стрыкнуў туды кароткай чаргой. Пасля, прыгнуўшыся, сігануў за вугал, за ім сігануў Валошын, і абодва адразу ўпалі на дно — баец ад стрэлу з-за павароту, а Валошын — наскочыўшы на байца. Гэта падзенне, аднак, засцерагло капітана ад чаргі, якая пранеслася вышай, абдаўшы яго зямлёй. Тут жа, аднак, грымнуў вінтовачны стрэл Чарнаручанкі, і немец у непадпяразаным, з шырокім каўняром шынялі выпусціў з рук аўтамат і з падкручанай галавой асеў упоперак траншэі. Валошын з зямлі стрэліў у яго два разы і, падхапіўшы за почапку аўтамат, ускочыў на ногі.

Ля чарговай павароткі яны затаіліся, прыпаўшы плячыма да закапцелага выбухам землянога выступу, за якім яўна адчувалася прысутнасць немцаў,— тыя, відаць, таксама чагось чакалі. Вядома, чакалі, калі яны туды сунуцца. Аднак яны ўсё марудзілі, таму што гранат у іх ужо не было. Валошын позіркам запытаў у Круглова, і той клапотна развёў рукамі — маўляў, скончыліся. Трэба было камусьці выскачыць з аўтаматам і сваёй нечаканасцю збянтэжыць немцаў. Хаця якая тут магла быць нечаканасць, падумаў Валошын, калі яны там трымаюць пальцы на спусках скіраваных сюды аўтаматаў. Не надумаўшы нічога іншага, ён сарваў з сябе палявую сумку і,

размахнуўшыся, кінуў яе цераз бруствер. У той жа момант адтуль ударыў аўтамат, засыпаўшы ўсіх пяском, і яны, угнуўшы галовы, рынуліся за паваротку. Ён не адпусціў пальца са спуску, пакуль аўтамат у яго руках не заглох, у паднятым чэргамі пыле наперадзе мільганула некалькі спінаў немцаў, але ніхто з іх не ўпаў, ён падхапіў знад ног сваю сумку з вялікаю дзіркай у баку і, задыхаючыся, прыціснуўся да сцяны ля чарговай павароткі траншэі.

Падобна, аднак, немцы ўцякалі далей. Валошын нясмела, кораценька зірнуў з-за выступу і ўбачыў унізе прыступкі на ўваходзе ў бліндаж, з якога тырчаў кароценькі ствол ППШ. Відаць, гэта і быў той бліндаж, пра які гаварыў Чарнаручанка.

- Гэй! — падаў голас Валошын.— Свае! Ствол хіснуўся, і з увахода высунуўся запэцканы зямлёй малады твар, на якім узрадавана бліснулі жвавыя вочы.

- Камбат! Таварыш камбат!..

«Я не камбат»,— хацеў сказаць Валошын, але, не сказаўшы нічога, пабег да наступнага павароту і там зноў прыціснуўся да падзёўбанай чэргамі земляной сцяны. Камсорг прыпыніўся і зазірнуў у бліндаж.

- Жывыя?

- Лейтэнант паранены.

- Давай выходзі! — скамандаваў Круглоў.— Адзін хай застанецца, а ўсе выходзі!

Трымаючы напагатове нямецкі аўтамат, Валошын чуйна застыў ля паваротکі, не ведаючы, што там, і кожную секунду чакаючы адтуль чаргу ці гранату. Але, здаецца, там не было нікога, немцы ўцяклі. Хаця ён ведаў, што далёка яны не ўцякуць, наадварот, хутка пачнуць іх выкурваць з гэтай траншэі, якая заставалася апошнім для байцоў прыстанішчам. На схіле ім смерць.

— Ану, давай усе сюды! — загадаў ён, калі некалькі байцоў высунулася з бліндажа.— Даставай лапаткі.

Быстра перакапаць траншэю. Закрыць праход!

Ён адступіў крок назад, і першы баец — даўгі, у старой ватоўцы, хлопец па прозвішчу Лучкін, з сілай уваткнуўшы ў броўку лапатку, адваліў пад ногі пласт яшчэ свежай, па-летняму сырой зямлі. Па другі бок пачаў старанна абрушваць зямлю яшчэ адзін баец у новенькай зялёнай касцы.

— Так. Астатнім прыкрыць іх! Узяць у рукі гранаты! — распарадзіўся Круглоў.— Ні чорта! Яшчэ мы пабачым...

Плюючыся ад узнятага ў траншэі пылу, Валошын адышоўся на некалькі крокаў назад, прыслухаўся. Нябачны кулямёт справа ўсё грукацеў чэргамі на вышыні, з віскам несліся над схілам міны, і ад іх перуновых выбухаў няспынна калацілася зямля. Але ў траншэі страляніна заціхла. Ці надоўга толькі? Безумоўна, немцы не маглі іх пакінуць у спакоі, значыць, рыхтаваліся ўдарыць як мае быць. Адрэзаўшы іх ад асноўных сіл батальёна, тыя, вядома, маглі не спяшацца. Дзецца тут усё роўна не было куды.

З бліндажа выглянуў усё той жа замурзаны баец у ссунутай на вуха шапцы.

—Таварыш капітан! Лейтэнант кліча.

Азірнуўшыся на знерухомеўшага каля байцоў Круглова, Валошын павярнуў назад і спусціўся па прыступках у адмысловы, пад двума накатамі глыбокі бліндаж. У яго паўзмроку было цяжка што ўбачыць, ён толькі згледзеў выцягнутыя на праход ногі ў ботах, абмотках, некалькі напружаных у паўзмроку твараў, па адным выглядзе якіх было зразумела, што гэта параненыя. Тут жа, прысланіўшыся спіной да сцяны, напаўляжаў на шынялі Маркін.

— Што з вамі? — запытаў Валошын.— Сур'ёзна параніла?

— Ды во, у нагу,— варухнуў лейтэнант забінтаванай, без бота нагой.— Так што зноў вам камандаваць.

«Куды як зайздросна,— падумаў Валошын,— прыняць гэта камандаванне ў такі здатны час». Батальён рассечаны на некалькі частак, адна з якіх залегла пад вышынёй, другая сунулася ў гэтую пастку, упраўлення ніякага, камбат паранены і цяпер перадае камандаванне. Але што ж... Так ці інакш ён тут старшы па званню, прыйдзецца, відаць, брацца за справу.

— Нашто было бегчы наперадзе ўсіх? Што і каму вы даказалі гэтым? Цяпер вы разумееце становішча батальёна?

— Я ўжо адразумеўся,— са змрочным спакоем сказаў Маркін.— Я ранены.

— А да ранення вы не маглі падумаць аб тым?

— А што думаць? Загадаюць — палезеш, куды і шыла не лезе.

— Да-а,— уздыхнуў Валошын і, ціха вылаяўшыся, стомлена апусціўся каля ўвахода.

Ішла вайна, гінулі сотні тысяч людзей, паасобнае чалавечае жыццё, здавалася, страціла звычайны свой кошт і вызначалася толькі мерай шкоды, якую яно наносіла ворагу. І тым не менш, будучы сам салдат і сам кожную хвіліну рызыкуючы галавой, Валошын не мог не адчуваць, што ўсё ж самае каштоўнае на вайне — жыццё чалавека. І чым больш у чалавеку сапраўды чалавечага, тым важней для яго сваё ўласнае жыццё і жыцці блізкіх яму людзей. І ў той жа час якім бы ні было дарагім жыццё, ёсць рэчы даражэйшыя за яго, нават не рэчы, а паняцці, пераступіўшы, аднак, цераз якія, жыццё разам губляла сэнс, рабілася прадметам ганьбы, а можа, і каменем для сябе самога. Праўда, да Маркіна гэта апошняе, мабыць, не датычылася.

Паклаўшы на калені рукі, Валошын хвіліну пасядзеў у спакоі, пакуль не адчуў, як запякло ў правай кісці — па пальцах на бот жыва скацілася некалькі цёплых кропляў. Ён памацаў кісць левай рукой і ўбачыў на пальцах кроў. Што за халера, падумаў капітан, які нават

не заўважыў, калі гэта яго параніла. Але так, параніла, і трэба было перавязацца, каб спыніць кроў — кроў яму яшчэ будзе патрэбна.

— У каго ёсць бінт? — запытаўся ён, ссоўваючы рукаў шыняля.

— Во ў яго,— пачулася за ягонай спіной, і Валошын аж скалануўся.

З паўзмрочнага кутка бліндажа на яго пакутна глядзелі знаемыя вочы радавога Аўдзюшкіна, і Валошына пранізала спалохам, калі ён успомніў, што Аўдзюшкін быў ва ўзводзе Нагорнага.

— Аўдзюшкін, ты?

— Я, таварыш камбат.

— Ты што, паранены?

— Раніты, таварыш камбат. Воногі ў мэнэ прастрэленыя.

— А Нагорны?

— Нагорны вбіты. Ёго гранатай вбіла. Тут, у траншэйцы.

— Раніцай?

— Ранкам, ну,— з натугай, стрымліваючы стогн, казаў Аўдзюшкін.— Як мы сунуліся, ну ён і навалівся. Всех пэрэбілы. Тількы я остався. І то во фрыц гэты спас. Пэрэвязав ногі.

— Які фрыц?

— Во цэй,— кіўнуў галавой Аўдзюшкін, і Валошын убачыў у змроку бліндажа яшчэ адзін белы твар у насунутай на лоб казыркатай шапцы,— немец ціха сядзеў у кутку за Аўдзюшкіным.— Тэж ранітый.

— Прыстрэліць трэба,— сказаў ад дзвярэй мурзаты баец з аўтаматам.— Яшчэ яго не хапала...

— Ні, нэ дам,— пераканана сказаў Аўдзюшкін.— Він мэнэ спас, цэ харошы фрыц. А то я б крывёй сплыў у гэтым бліндажы. Ану, фрыц, дай камбату бінтэц.

Фрыц сапраўды нешта, відаць, зразумеў з іх гутаркі і, памацаўшы ў кішэні шыняля, дастаў свежы скрутак бінта, які Аўдзюшкін перадаў Валошыну.

Валошын левай рукой пачаў абматваць кісць правай. Рана ўвогуле была лёгкая, куля слізганула па мякаці, ён нават не заўважыў калі. Аднак крывёй агідна заліло рукаў, які цяпер невядома дзе было вымыць. Завязваючы канцы бінта, ён прыслухаўся да выбухаў на схіле і з недаўменнем заўважыў, што ў траншэі ўсё пакуль сціхла. Пасля таго, што адбылося за гэтую раніцу, яго ўжо не так, як раней, дапякаў выпадак з Нагорным, хаця ён па-ранейшаму адчуваў сябе вінаватым у адносінах да сяржанта і ягоных байцоў. Але пад гэты час у яго адчуваннях столькі перамяшалася, наслаілася адно на адно, што аб Нагорным ён проста перастаў думаць. Ён з сумам і шкадаваннем падумаў пра Іванова, без усякай дапамогі пакінутага ім у варонцы, дзе той, магчыма, і сканаў. Заўжды Валошын у першую чаргу клапаціўся аб раненых, імкнуўся ў час эвакуіраваць іх з-пад агню, а вось свайго лепшага сябра ўратаваць не здолеў. Не мог. А тут што ж? Тут усё ж давядзецца ўступіць у камандаванне не батальёнам, вядома, да якога адсюль яму не дапяцца, а гэтаю маленечкай групай, каб неяк пратрымацца да вечара. Увечары, магчыма, да іх і праб'юцца. Магчыма, дапаможа камандзір палка. Але яму не падабалася гэтая нечаканая гісторыя з Аўдзюшкіным і яго выратоўцам-немцам, з якім цяпер немаведама што рабіць. Можа, лепш, каб Аўдзюшкін маўчаў пра сваю перавязку, так было б прасцей. Дык не, раззваніў перад усімі, цяпер разбірайся...

— Так,— сказаў ён, перавязаўшы руку.— Трэба адбіваць траншэю. Інакш яны нас выб'юць адсюль.

— З кім адбіваць? — змрочна сказаў Маркін.

— З кім ёсць. Трэба сабраць усе гранаты. Можа,

нямецкія гранаты засталіся?

— Нямецкіх тут поўна,— заварушыўся ў куце паранены. — Во, цэлая скрынка.

— Ану, давайце яе сюды.

Валошын вылез у траншэю — зверху на схілах усё калаціліся выбухі і сцябалі зверху ўніз кулямёты, не даючы ротам падняцца. Ротам трэба было тэрмінова дапамагчы адсюль, каб тыя пасля маглі памагчы ім. Толькі з'яднаўшы ўсе намаганні, яны маглі ўратаваць сябе і чагосьці дабіцца. Раз'яднанасць была раўназначна пагібелі.

Байцы ўжо перакапалі траншэю, зрабіўшы ў ёй невысокую, да пояса, перагародку, і Валошын скамандаваў:

— Стоп, болей не трэба. Усім запасціся гранатамі. Вунь у бліндажы гранаты.

Позіркам ён падлічыў байцоў. Ля перагародкі іх засталося шасцёра, двух ён адправіў за кулямётам, якога ўсё не было, плюс двое іх, камандзіраў; параненыя ў бліндажы, вядома, ім не памочнікі. Але і без раненых іх назбіралася болей дзесятка. Калі скарыстаць гэтую незразумелую паўзу і з дапамогай гранат ударыць уздоўж па траншэі, можа б, і ўдалося прабіцца да вяршыні, каб заткнуць горла таму буйнакалібернаму кулямёту, які сарваў усю справу. Тады магчыма, паднялася б сёмая з рэштаю восьмай.

Байцы таропка разабралі ў падзеленай на соты жоўтае скрынцы нямецкія гранаты з доўгімі драўлянымі ручкамі, парожнюю скрынку піхнулі ў засланую саломай і засыпаную гільзамі ячэйку нямецкага кулямётчыка. Валошын апусціўся на гэтую скрынку.

— Што, будзем штурмаваць траншэю? — запытаў Круглоў.

Валошын затрымаў погляд на энергічным, нягледзячы на

пераржытае, твары камсорга.

— А што ж застаецца, лейтэнант? Лепш штурмаваць, чым драпаць. Як вы лічыце?

Камсорг падышоў бліжэй і апусціўся на кукішкі, прагна дасмактаў нямецкую цыгарэту.

— Баюся, мала сілы, капітан.

— Болей не будзе. Падавім кулямёт — паднімуцца роты. Круглоў ткнуў у зямлю і прытаптаў ботам акурак.

— Калі падавім. І калі паднімуцца.

Гэта, безумоўна, уся вайна — калі. Магчыма, ім нічога і не ўдасца. Але адысці з гэтай вышыні пасля такіх ахвяр і намаганняў ён проста не мог, бо ўсё паўтарыць спачатку ні ў яго самога, ні ў батальёна ўжо не было сілы. Сядзець жа, нічога не робячы, азначала ўступіць ініцыятыву немцам, якія, вядома, не замарудзяць яе і выкарыстаць. Значыць, трэба паспрабаваць. Трэба адбіць хоць бы палову траншэі.

— Што ж, зразумела,— сказаў Круглоў і, устаючы, нягучна скамандаваў байцам: — Падрыхтавацца да штурму!

## 20

Усе ў рад яны пасталі каля павароткі з левага боку траншэі. Наперадзе стаяў лейтэнант Круглоў, за ім прыціснуўся да сцяны Валошын, затым Чарнаручанка і астатнія. Перад рыўком на хвіліну замерлі, прыслухаліся. З-за бартоў шынялёў, з кішэняў ватовак, з-пад дзяг у байцоў густа тырчалі драўляныя ручкі гранат, твары ва ўсіх былі напружаныя і рашучыя. Нічога, аднак, не ўчуўшы праз грымотныя выбухі ў полі, Круглоў, па нядаўняму прыкладу Валошына, зняў з галавы каску і шпурнуў яе за калена. Але ніякай чаргі адтуль не раздалося, і камсорг першы кінуўся за паваротку; за ім, прыгнуўшыся, пабеглі байцы. За павароткай, аднак, нікога не аказалася — разбітая

снарадамі, засыпаная зямлёй, траншэя была пустая. Яны дабеглі да наступнай яе павароткі і зноў усе спыніліся. Пачатак як быццам аказаўся ўдалы. Круглоў задаволена, амаль узрадавана, зірнуў на Валошына. які, аднак, адказаў яму па-ранейшаму заклапочаным позіркам — яму гэта спадабалася менш. Немцы кудысь зніклі, але не маглі ж яны кінуць траншэю, нехта павінен прыкрыць іх кулямёты, значыць, яны дзесьці тут. За каторым каленам толькі?

Байцы мінулі яшчэ дзве-тры паваротки і нерашуча спыніліся — траншэя падзялялася на дзве, адна ішла ў ранейшым кірунку, а другая пад вострым вуглом забірала ўбок і вышэй. Валошын позіркам паказаў Круглову на тую, што адгаліноўвалася ўбок, а сам сігануў прама.

Ён зрабіў усяго тры крокі і, скалануўшыся, рэзка азірнуўся — ззаду пачуўся вокрык, і ў тое ж імгненне два гранатныя выбухі абдалі яго пяском, смуродам і дымам. Чарнаручанка, які бег следам, размахнуўся гранатай, але кінуць яе не паспеў — з-за паваротки ў іх бок спалохана матлянуліся два байцы, у спіну якім горача пыхнула з аўтамата. Запырскаўшы камякамі гліны, кулі густа падзяўблі гладкую сцяну траншэі. Пасля грымнула далей, і Валошын зразумеў, што гэта кінулі гранаты байцы. Тады ён вырваў з рукаяткі шнурок і разам з Чарнаручанкам таксама кінуў гранату. Здвоена ляснуўшы запаламі, гранаты зніклі за бруствeрам, і яшчэ да таго, як яны выбухнулі там, з-за павароткиываліўся збялелы, без шапкі, у распораным на плячы паўшубку Круглоў.

— С-сволачы!..

Ён падаў, слепа хапаючыся за сцены траншэі. Валошын крыкнуў Чарнаручанку: «Вазьмі лейтэнанта», а сам кінуў цераз бруствер у адростак траншэі дзве гранаты запар. Тры байцы, што апынуліся па той бок адростка, шпурнулі свае.

Затым яны сунуліся галовамі пад сцяну, каб перачакаць серыю грымотных выбухаў, якія закідалі ўсё навакол

зямлёй. Чарнаручанка тым часам падхапіў Круглова пад пахі і павалок яго па траншэі. Кінуўшы яшчэ па гранаце, байцы пачалі перабягаць следам, і Валошын, каб не застацца аднаму, рыўком праскочыў якіх тры крокі насупраць адростка, з якога зноў шыбанула аўтаматным агнём. Аднак на долю секунды ён апярэдзіў кулі і нават паспеў заўважыць там двух згорбленых, у касках, немцаў і ніцма распластанага на дне байца з акрываўленай, без валасоў, патыліцай.

Абсыпаныя зямлёй, яны адбегліся на дзесятак крокаў да наступнага калена і спыніліся, накіраваўшы на паваротку зброю. Валошын ужо зразумеў, што недаравальным чынам перааацаніў свае наступальныя магчымасці. З дзесяццю чалавекамі траншэю яму не адбіць, немцы неўзабаве выкінуць самога ў поле, калі толькі ён тэрмінова не прыдумае штось выратавальнае.

— Стоп! — ціха скамандаваў ён, раптам узрадаваны новаю думкай.— Ану, разыдзіся радзей. Па адным за паварот! Гранаты кідае першы. Ну, жыва!

Байцы, усё ўгінаючыся, разбегліся па траншэі, знікаючы за яе паваротамі. Апошняга, падпяразанага па ватоўцы нямецкаю дзягай з дзіркай у спражцы, ён спыніў за рукаў.

— Ты — са мной! Бяры дзве гранаты!

Не паспеў баец перахапіць у левую руку вінтоўку, як у паветры над брустверам матлянулася доўгая ручка гранаты. Яны ледзьве справіліся прыгнуцца пад сцяну — вышэй на брустверы аглушальна грымнула. Пасля грымнула далей і ззаду, асколкамі коса секанула па адным баку траншэі, балюча сцебануўшы па шчацэ пяском, і тугі шчыльны корак заляпіў Валошыну вуха. Ведаючы, што будзе далей, капітан тройчы стрэліў за паварот, і, здаецца, у час — хтось там толькі сунуўся, ценем мільгануўшы ў пыле, і зноў знік за каленам. Не чакаючы новай гранаты, Валошын адскочыў назад, ледзьве паспеўшы прыгнуцца пад кінутай цераз яго гранатай напарніка. Ззаду пачуліся нямецкія выкрыкі, хтось пагрозліва закрычаў за каленам, і ён зразумеў,

што іх там напірала шмат. Яны ўпэўнена выбівалі яго пераважнай сілай пяхоты, ратунку ад якой тут, здаецца, ужо не было.

Але ён усё яшчэ спадзяваўся. У іх яшчэ засталіся гранаты, дзве ён падабраў пад нагамі ў траншэі і таропка скруціў каўпачкі. Аднак калі наперадзе, дзе застаўся баец, адразу ляпнуліся аб бруствер і сцены некалькі кінутых адтуль гранат, ён з кепскім, амаль безнадзейным адчуваннем падумаў, што, напэўна, доўга не вытрымае. Перачакаўшы грымотныя раскаты выбухаў, ён кінуў свае, але аўтаматная чарга, якая зараз жа секанула ўздоўж па траншэі, зноў прымусіла яго на чацвярэньках ратавацца за наступным паваротам, дзе яшчэ можна было ўратавацца. Там, прысеўшы на адно калена, яго чакаў з дзвюма гранатамі ў руках той самы флегматычны баец з папаўнення, які нядаўна ўразіў яго сваім біблейскім спакоем. Капітан згорбіўся поруч. Пакінуты ім за папярэднім каленам баец болей не з'явіўся.

Амаль таксама, як нядаўна яны, цяпер іх паслядоўна і метадычна пачалі выбіваць гранатамі немцы. Ратавалі ўсіх павароткі. Загнана дыхаючы, Валошын спрабаваў прыпамятаць, колькі яшчэ паваротак засталося ззаду — здавалася, не больш за чатыры. У гэтых павbooротках была ўся іх надзея, іншай быццам ужо не прадбачылася.

— Ну, кідай! — кіўнуў галавой Валошын.— Пасля я.

Баец нетаропка, левай рукой тузануў за гузічак і, счакаўшы, калі хлясне запал, правай без размаху сунуў гранату за земляны паваротак.

— Бяжы, капітан! — азірнуўся ён у дыме, як выбухнула. — Давай свой гранат!

— Разам! — зразумеўшы ягоны намер, крутнуў галавой Валошын.— Бягом да бліндажа!

— Бяжы хутка!!! — крыкнуў той, хапаючыся за вінтоўку — мабыць, да павароткі ўжо кінуліся немцы.

Баючыся спазніцца, Валошын ускочыў і, адбегшы на некалькі крокаў, спыніўся.

— Бяжы!

Не ўбачыўшы, аднак, што сталася з байцом, ён у наступнае імгненне прахапіўся ад новай трывогі — ззаду ў траншэі пачалася частая страляніна з вінтовак, там жа грымнулі і гранатныя выбухі, як здалося яму — ля бліндажа, і ён кінуўся па граншэях назад.

Байцы, мабыць, ужо адбегліся далей, ён наткнуўся на апошняга, якому крыкнуў: «Ні з месца!», а сам, прабегшы дзве павароткі, убачыў сваю перамычку і за ёй яшчэ аднаго байца, які з калена таропка страляў уздоўж траншэі з вінтоўкі.

— Што там?

— Немцы! — кінуў баец, ляцнуўшы затворам.— Двух напавал.

З увахода ў бліндаж таксама тырчала некалькі ствалоў, якія стралялі туды ж. Значыцца, ён не памыліўся, немцы ўдарылі з тылу, відавочна захапіўшы і пачатак траншэі. Яны сціскалі іх тут, бы ў гармоніку,— з абодвух бакоў, зганяючы ўсіх да сярэдзіны, дзе, на шчасце, яшчэ заставаўся бліндаж. Але што бліндаж? У гэткіх умовах бліндаж — не сховішча, а хутчэй брацкая магіла для ўсіх.

Але што рабіць?

Ухіляючыся ад аўтаматнай чаргі, якая імпэтна паласнула па сценах траншэі, Валошын сунуўся ў земляны правал бліндажа і ўпаў на прыступкі. Кулі шалёна зашчоўкалі па сцяне, з якой абрушыўся цэлы пласт гліны, запоўніўшы траншэю пылам. Пад бокам у яго апынуўся кірзавы бот, на якім ён згледзеў знаёмы авальны лапік на задніку, і ўбачыў перад сабой адтапыраныя вушы Чарнаручанкі. Тэлефаніст кароценькімі чэргамі тыркаў па рагу траншэі, і той памалу крышыўся, абвальваўся камякамі, адкрываючы

погляд па траншэі. Гарачыя гільзы з яго аўтамата сыпаліся капітану на галаву і за каўнер, ён таксама падняў свой пісталет, адчуваючы, аднак, што патроны ў магазіне вось-вось скончацца. Але ён ведаў, што, пакуль яны прастрэльваюць адсюль траншэю, немцы ў бліндаж не прарвуцца, пятнаццаціметровы адрэзак яе па абодва бакі ад увахода быў надзейна закрыты. Але — гранаты! Немцы маглі закідаць іх гранатамі, ад якіх паратунку тут не было. Хіба што ў бліндажы.

Тым часам у траншэйным паядынку настала няпэўная паўза. Зрэдку з бруствера зляталі разбітыя кулямі камякі зямлі, і Валошын, аглушаны на правае вуха, не адразу зразумеў, што гэта стралялі знізу. Адтуль жа, аслаблены адлегласцю, даносіўся часты перастук ДШК, які вёў агонь па траншэі, відаць, не даючы немцам падабрацца да бліндажа зверху. Што ж, у тым была пасільная дапамога яго батальёна, і ў капітана на момант пацяплела ў душы ад удзячнасці тым, што ляжалі ўнізе. Галоўнае, думаў ён, не даць немцам кінуць гранату ў бліндаж, у траншэі ж няхай яны рвуць, колькі хочуць.

Павярнуўшыся раўней, ён разрадзіў пісталет, сунуў яго за борт шыняля, пасля зачарпнуў жменю патронаў у кішэні і ўзяўся таропка набіваць магазін. Але Чарнаручанка зноў паласнуў чаргой па траншэі, і ён схапіўся за пісталет.

— Таварыш камбат, дайце я,— сказаў нехта побач, і ён, азірнуўшыся, убачыў байца з шырока забінтаванай галавой, які, трымаючы ў руках аўтамат, лез заняць ягонае месца на выхадзе.

Счакаўшы, Валошын устаў. Баец улез на ягонае месца, а капітан саступіў з прыступак і стаў ля дзвярэй. У бліндажы на засланым саломай доле цесна ляжалі параненыя, у паўзмроку бялелі бінты і слаба варушыліся збялелыя твары, у куце нехта роспачна ціха пагойдваўся ў белай нацельнай кашулі; востра пахла лякарствам. Некалькі пар вачэй у цесным паўзмроку з запытальным чаканнем уставіліся на Валошына, і ён раптам адчуў такую тужлівую бездапаможнасць, якой

не адчуваў пад градам асколкаў у траншэі.

— Нічога! — сказаў ён з суцяшэннем не так для іх, як болей для самога сябе.— Будзем адбівацца. У каго ёсць зброя? Давай сюды да дзвярэй.

— Зброя ёсць. Але што зброя...

— Пакуль ёсць зброя, мы байцы. Будзем трымацца.

У адказ яму было труднае напружанае маўчанне, хтось безнадзейна выдыхнуў, і ён перавёў погляд на Маркіна, які ў ранейшай позе ляжаў на шынялі.

— Чорт! Не ўдалося,— ціха, ні да каго не звяртаючыся, сказаў начштаба.— Усё к чортавай матары!..

Ды ўжо ж не ўдалося, падумаў Валошын і, успомніўшы камсорга, позіркам пашукаў яго ў бліндажы.

— А Круглоў тут? Што з Кругловым?

— Усё, няма Круглова,— азірнуўся з прыступак Чарнаручанка.— Во яго аўтамат. А там сумка,— кіўнуў ён у бліндаж.

Валошын унутрана сцяўся — значыцца, не стала і Круглова, разам з якім яны прайшлі ўвесь гэты не доўгі, але так густа ўкладзены смерцямі шлях батальёна... Хто на чарзе наступны?

Нехта з байцоў у накінутым на плечы шынялі і з забінтаванай рукой, няспрытна ступаючы паміж целаў, прабраўся да выхаду і перадаў Чарнаручанку два набітыя магазіны. Байца з разрэзаным да пляча рукавом, у якога аказалася граната, Валошын пасадзіў каля самых дзвярэй. Але адной гранаты тут было мала.

— Гранат трэба болей. У каго яшчэ ёсць гранаты?

— Во апошняя,— сказаў Аўдзюшкін.— Для сэбэ обэрэгав. Ды чорт з ёй...

Ён падаў з кутка «Ф-1», якую Валошын планкай начапіў

сабе каля спражкі. Іншых гранат у яго не засталося. Цяпер ён зноў быў гатовы да бою і, стоячы каля яловага, з карой, вушака, пазіраў у траншэю. Побач на прыступках, выставіўшы ў розныя бакі аўтаматы, сядзелі Чарнаручанка і панылы баец з тоўста забінтаванай галавой.

— Гэта... Наце во яшчэ каскі,— клапатліва перадалі з бліндажа дзве нямецкія каскі.

Чарнаручанка адну надзеў зверху на шапку, а другую паранены баец, прымерыўшы, злосна шпурнуў у траншэю.

— Падлай смярдзіць.

Валошын дастаў з маленькай кішэні гадзіннік і са здзіўленнем ахнуў: была чвэрць пятай. А ён усё думаў, што яшчэ ранак. Сапраўды, да вечара засталося зусім мала часу, добра, калі б удалося дацягнуць да вечара. Адным вухам слухаючы грымоты бою, ён думаў: а раптам паднімецца батальён? Калі б ён падняўся, можа б, што і ўдалося. Можа б, і яны тут уцалелі і яшчэ спатрэбіліся.

Але батальён, напэўна, ужо не меў сілы падняцца...

Раптам абодва байцы на прыступках разам схапіліся за аўтаматы, і адначасова з абодвух канцоў траншэі мільганула ў паветры. Адна з гранат, раней чым разарвацца, ляпнулася канцом аб сцяну і адляцела далей, другая тарчком паскакала на дне траншэі. Як толькі яны разарваліся, падняўшы воблака пылу, абодва аўтаматчыкі на прыступках ударылі са сваіх ППШ, напоўніўшы бліндаж густым аўтаматным трэскам. Валошын ціснуўся плячмі да сцяны і напагатове трымаў пісталет. З кутка бліндажа, цягнучы за сабой прастрэленыя, без ботаў, ногі, выпаўз да дзвярэй Аўдзюшкін. У яго сцятай руцэ бліснула малая сапёрная лапатка.

— Ах, гады! Ну ідзіце, гады! — джгаючы чэргамі, роспачна крычаў на прыступках паранены.

Чарговай гранаты Валошын не паспеў заўважыць. Магчыма, яе кінулі цераз бруствер, толькі побач у траншэі раптам аглушальна грымнула, пыхнуўшы ў расчыненыя дзверы гарачым смуродам трацілу, і нямецкая каска з галавы Чарнаручанкі з жалезным звонам выцялася аб перакладзіну. На прыступках, адкінуўшыся назад, канвульсіўна затузаўся Чарнаручанка, Валошын падхапіў яго забіты пяском, гарачы яшчэ ППШ і адскочыў ад расчыненых на завесах дзвярэй.

— Дзверы! Дзверы! — закрычалі ў бліндажы некалькі галасоў.— Трымайце дзверы!!!

Нечыя спрытныя рукі ляпнулі з сілай дзвярыма, якія туга і шчыльна зачыніліся, адразаючы ўсё, што было ў траншэі. У бліндажы разам сціхла. Яны чакалі. Валошын не ведаў, што здарылася з Чарнаручанкам, забіты той або ранены, не ведаў, у якім стане паранены ў галаву баец, аўтамат якога, аднак, таксама замоўк. Спалохаўшыся, што ў бліндаж вось-вось уварвуцца немцы, капітан праз дошкі дзвярэй смалянуў у траншэю трыма кароткімі чэргамі і зноў знерухомеў ля вушака.

— Маты моя рідная! — загаласіў у прыцемку хтосьці з параненых.— Роды мэнэ обратна...

— Мовчі! — крыкнуў з падлогі Аўдзюшкін. — Бэз тэбэ тошно...

Зноў настала пакутная паўза, якая, відаць, папярэднічала самай рашучай сутычцы. Цяпер ужо памагчы ім не мог ніхто ў цэлым свеце, і нават яны самі памагчы сабе не маглі. Напэўна, надышоў час развітвацца адзін з другім і падумаць, як даражэй аддаць свае жыцці.

— Ух, сволачы! Ух, якія ж яны гады-сволачы! — плакаў у куце паранены ў сподняй кашулі.— Завошта яны нішчуць нашу маладую жызню? Што мы ім зрабілі?

— Чакайце! — не ведаючы яшчэ, чым суцешыць іх і сябе, сказаў Валошын.— Яшчэ не ўсё страчана. Яшчэ

мы патрымаемся. У нас жа браня.

— Браня?

— А як жа! — бадзёра сказаў капітан.— Во, зямля родная. Лепшай няма ў свеце брані. Паспрабуй прабі,— стукнуў ён кулаком па сцяне.— Там, на касагоры, бугарка не было. А тут... Там бы такі бліндаж!

— А цэ ж правда! — раздаўся раптам прасветлены голас.— Я там за лапатачку ховався...

Не паспеў ён скончыць, аднак, як сцены бліндажа зноў скалануліся ад магутнага выбуху, пасля яшчэ аднаго і яшчэ двух запар. Дзверы яны трымалі падпёртыя ля самай зямлі нагамі. Валошын з усяе сілы ўпіраўся ў іх абцасам бота, і ў яго ледзьве хапала сілы ўтрымаць там нагу пры выбухах. Уся верхняя палова тоўстых дзвярэй, пасечаная асколкамі, засвяцілася дзесяткамі шчылін і дзір, з якіх тырчалі доўгія трэскі. Напружваючы нагу, Валошын чакаў, калі гэтыя дзверы рухнуць у бліндаж ці разляцяцца ў трэскі, і тады... Тады настане апошняя сутычка з мінімальным шанцам застацца жывымі. Але дзверы трымаліся. Гранаты ўсё ж ірваліся зводдаль метры праз тры ў траншэі, і ён здзівіўся, што ніводная з іх не разарвалася пад дзвярыма. Зрэшты, ён здагадаўся, што скаціцца гранатам пад дзверы не давалі двое забітых. Застаўшыся на прыступках, мёртвыя абаранялі жывых, прымаючы на сябе ўсю сілу выбухаў і ўсе асколкі. Ім там хапіла. Валошын ужо адчуў пад падэшвай мокрую лужынку і зразумеў, што гэта было. Мёртвыя сцякалі жывой, яшчэ цёплай крывёй.

Ля сцяны трывожна заварушыўся Маркін.

Не выпускаючы з рукі пісталета, ён выцягнуў з-пад галавы сумку, коратка кінуўшы ў аціхлы бліндаж:

— У каго запалкі?

Хтосьці падаў запалкі, і лейтэнант, пашукаўшы ў сумцы, выняў адтуль некалькі паперак, разарваў іх у клочча. У бліндажы загарэўся невялікі дымны агеньчык, у які

Маркін, нервова камячачы, пачаў совацць паперы. «Прадбачлівы, аднак»,— падумаў пра яго Валошын. У ягонай палявой сумцы таксама знайшлося б што-колечы, што ў такую хвіліну лепш было знішчыць, але ён усё марудзіў, быццам на што спадзеючыся. Маркін, аказваецца, у гэтых адносінах быў разумнейшы і ўжо не спадзяваўся. Што ж, мабыць, начштаба меў рацыю.

— Карта ў вас? — узняў ён змрочны твар да Валошына.

Карта з нанесенай на яе абстаноўкай батальёна была ў

ягонай сумцы, і хаця абстаноўка гэтая здорава змянілася за суткі, капітан моўчкі выняў яе і кінуў Маркіну. Тады ж ён зірнуў на томік Ясеніна ў сумцы і падумаў, што прачытаць яго ўжо не прыйдзецца. Ні яму, ні Іванову таксама.

Бліндаж неўзабаве напоўніўся дымам. У дадатак да дакументаў з палявой сумкі начштаба, імянных спісаў і карты хто-колечы з байцоў пачаў кідаць на праход свае пісьмы і дакументы, якія пражэрліва нішчыў агонь. У агнянай кучы загарэлася маленькае дзяўчачае фота — спярша плячо, блузка, пасля кучаравыя валасы прычоскі, роўненькі носік, грыўка на лобе. Застаўся вузенькі краёчак поля, які хутка патануў у агнявым попеле.

Немцы, аднак, усё марудзілі, гранат больш не кідалі. Не стрываўшы гэтую няпэўную паўзу, Валошын павярнуў аўтамат ствалом да дзвярэй і зноў пусціў некалькі чэрг. Пасечаныя кулямі і асколкамі дзверы давалі, аднак, згледзець толькі вузкі адрэзак траншэі насупраць. Зазірнуўшы ў адну шчыліну, Валошын убачыў паблізу разбіты выбухам твар Чарнаручанкі, з крывавага месіву якога жахліва тырчэў белы абломак сківіцы. Болей там нічога не было відаць. У траншэі, здаецца, нікога не было, мабыць, немцы хаваліся за паваротакамі. Час ад часу капітан пачаў зазіраць у гэту вузкую вертыкальную дзірку ў дошцы і ў трэці або чацвёрты раз заўважыў штосьці такое, што амаль здзівіла яго.

Спярша яму выдалася, што гэта быў дым, струмені

якога цягнуліся ў падстоллі ў бок да дзвярэй і адтуль выцякалі ў траншэю. Але, прыгледзеўшыся, ён зразумеў, што гэта было нешта іншае. Густа-шэрае дымнае воблака хутка напаўняла траншэю, у ім ужо знікла супрацьлеглая яе сцяна, і цяпер знікаў пакалечаны твар Чарнаручанкі. Пагрозліва-ўдушлівы хімічны смурод тым часам пачаў запаўняць бліндаж. Байцы нядобра заварушыліся, пачалі кашляць, і паранены ў руку баец, які ляжаў ля самых дзвярэй, закрычаў:

— Браткі! Ды яны ж нас газам! Вы чуеце?

— Ціха! — крыкнуў Валошын. Але было позна.

Увесь бліндаж трывожна заварушыўся, затузаўся, нехта захрыпеў у цемры, шмат хто пачаў удушліва кашляць, і Валошын адчуў, як у яго самога нясцерпна запякло ў горле і з вачэй паліліся слёзы. Ёп апусціўся на кукішкі ля сцяны, прыдушапы гэтым вераломствам немцаў, і думаў: няўжо ж яны на самай справе рашыліся прымяніць газ? Але чаму б і не прымяніць? Калі яны прымянілі ўсё, што стагоддзямі праклінала чалавецтва, чаму б не ўзяцца яшчэ і за газ? На тое няшчасце, ён даўно занядбаў сваім процівагазам, пакінуўшы яго ў абознай фурманцы. Зрэшты, тут амаль усе аказаліся без процівагазаў, і цяпер за гэты свой промах ім належала заплаціць жыццём.

Дымнай удушлівай імглы нацякала ў бліндаж усё болей, зрабілася цёмна, дыхаць не было чым. Уткнуўшыся тварам у суконны рукаў шыняля, Валошын ледзьве намагаўся на дробныя, недастатковыя для лёгкіх удыхі. Наверсе ж на схілах сваёю чаргой ішоў агнявы бой, да якога ён хоць і прыслухоўваўся, але ўжо даўно перастаў у ім разбірацца. Відаць, гэты бой іх ўжо не датычыў. З кожнай хвілінай яго ўсё болей дапякала ўдушша і ўсведамленне сваёй бездапаможнасці, бяссільная злая нянавісць да тых, хто нарыхтаваў ім гэтую пакутную смерць. Ён не адразу адчуў, як хтось пацягнуў яго за рукаў, і тады няўцямна падняў павекі.

— Таварыш камбат, вазьміце!

Нечая салдацкая рука працягвала яму знаёмую сумку з процівагазам, у якой цяпер быў паратунак. Аднак ён не адразу наважыўся працягнуць сваю руку насустрач, ён не быў гатовы да гэткага жэсту велікадушша. Каб ўратавацца аднаму, калі гінулі астатнія, патрэбна была рашучасць асаблівага роду, якой ён не меў. Але рука яго інстынктыўна, амаль без удзелу волі, пацягнулася да вузкай пакручастай лямкі ды так і павісла ў паветры.

— Я — камбат! Я тут камбат! — раптам амаль істэрычна выкрыкнуў пад сцяной Маркін і, рэзка падаўшыся наперад, перахапіў сумку.

Валошын з сорамам тузануў сваю недарэчна працягнутую руку, тут жа спалохаўшыся, што нехта заўважыў гэты міжволыіы жэст, і ягоную свядомасць разам з сорамам акаціла пякотная нянавісць да былога начальніка штаба.

— Мярзотнік! — выціснуў ён, задыхаючыся.— Выжыць хочаш?

Маркін не адказаў, і ён, заціснуўшы рот рукавом, падумаў, што ўсё натуральна. У гэтым яго бессаромным учынку ўвасобілася лагічнае завяршэнне цынічнага характару начштаба. Такое ён ужо бачыў. Маркін між тым дрыготкімі ад спешкі рукамі пачаў нацягваць на твар процівагазную маску, у якой гучна захрыпеў гумай клапан. Апускаючыся ўсё ніжэй ля парога і амаль ужо перастаючы дыхаць, Валошын, аднак, са зларадствам адчуў нешта такое, што абнадзеена збянтэжыла яго. Ён не ведаў, які гэта быў газ і колькі можа працягнуцца тут іхняя агонія, але раптам адчуў, што пакуль што жывы, што смерць не наступае, што тут проста няма чым дыхаць ад процьмы дыму, што, можа, гэта і не газ. Але толькі ён падумаў аб тым, як знадворку данеслася некалькі дальніх трывожных крыкаў, і ён напружыў увагу, каб учуць іх. Ён не адразу заўважыў, як нехта ў бліндажы рашуча сігануў да дзвярэй і шырока рвануў іх на сябе.

— Немец! Немца трымайце! — закрычалі ў бліндажы.

Валошын, які бліжэй за іншых быў да дзвярэй, памкнуўся, каб схапіць немца, але адразу спатыкнуўся на выхадзе і ўпаў цераз целы забітых. Калі ён ускочыў, немец ужо схаваўся ў клубах шэрага дыму. Задыхнуўўшыся, Валошын ціскануў на спуск аўтамата, паспешлівая чарга з якога паласнула ў дымную імглу, ён ірвануўся наперад і тут жа выцяўся грудзьмі аб броўку траншэі. Ён яшчэ не паспеў ускочыць на ногі, як зноў упаў, балюча збіты нечымі ботамі. Не ведаючы, хто гэта, і зноў задыхнуўўшыся, ён з апошніх сіл схапіў чалавека за ногі, перакуліў яго цераз сябе і, наткнуўўшыся рукамі на сцюдзёны метал зброі, ірвануў за яе. Здаецца, ён не памыліўся, гэта быў немец, прынамсі, аўтамат у яго аказаўся нямецкі, Валошын зразумеў гэта навобмацак і, не ўстаючы, выпусціў увесь магазін па цёмнай задымленай постаці на дне траншэі. Але далей у клубах шэрага дыму чуліся валтузня, воклічы, незразумелая мітусня немцаў. Дзесь побач, агняна хліпнуўўшы полымем, выбухнула граната, з розных кірункаў ударылі чэргі, ды заліты слязьмі, ён не мог ужо зразумець, хто і куды страляў. Не марудзячы ні секунды, ён ускочыў і, нізка прыгнуўўшыся, кінуўся ўздоўж па траншэі, пакуль не наткнуўся на яе калена.

Тут ён удыхнуў на паўлёгкага і пачуў ззаду два ці тры выкрыкі, знаёмы салдацкі мацюк — гэта беглі з бліндажа свае. Не чакаючы іх, ён падаўся далей па траншэі. Напэўна, гэта было бязглузда, так вось усляпую кідацца па невядома кім занятай траншэі, за кожнаю павароткай рызыкуючы атрымаць чаргу ў грудзі. Але ён задыхаўся, яму трэба было хоць пару глыткоў паветра без гэтага атрутнага дыму, які ўсё валіў па траншэі. Чаргі, аднак, пакуль не было, немцы кудысь зніклі, і ён, трошкі асмялеўшы, прыцішыў крок, каб слепа не тыцкацца аб земляныя вуглы, і хістка пабрыў уніз па траншэі. У яго не хапала ні сілы, ні голасу клікнуць за сабою байцоў, ды ён і не ведаў, каго было клікаць, хоць ззаду ўжо нехта крычаў: «Сюды, сюды!»

У іх не стралялі, немцаў тут не было, амаль наўздагон за ім нехта бег, і гэта яго супакойвала. Не спыняючыся,

ён хапаў ротам дымнае, зрэшты, трохі пасвяжэлае паветра, пакуль не стаў бачыць наперадзе бруствер, броўку траншэі, прыцьмелае неба ўгары. Вецер дзьмуў насустрач яму па траншэі, ззаду чулася недалёкая аўтаматная страляніна (нібыта на вышыні), і ён пайшоў крокам. У ягоных вачах усё плыло і хісталася, абпаленыя атрутным дымам ягоныя лёгкія натужна хрыпелі ў грудзях.

Ён ішоў па траншэі ўніз, у пракляты той вус, у які з кулямётам уварваўся ранкам. За ім валакліся па траншэі параненыя. Ён не бачыў іх і не ведаў, колькі іх засталося, але ён чуў іх задышлівы кашаль і галасы. Ён хацеў спыніцца, каб расставіць па траншэі тых, хто яшчэ мог трымаць у руках зброю і абараняцца. Але немцаў у траншэі, здаецца, ужо не было, і гэта яго здзіўляла і палохала адначасна. Некалькі разоў ён натыкаўся на трупы. Але ён не глядзеў уніз і не ведаў, свае гэта ці ворагі, а хістаючыся, нібы п'яны, і мала што разумеючы, усё ішоў па траншэі ў той бок, дзе ранкам пакінуў роты і дзе быў яго батальён.

Яго спыніў узрадаваны вокрык ззаду, і ён, не сцяміўшы, у чым справа, спалохана адскочыў, схапіўшыся за ствол аўтамата.

- Ядрыт твае лапці, камбат! — раптам басавіта прагудзела ўгары, і ён зразумеў, што нарэшце гэта свае.

Каб не ўпасці, ён бокам прыпёрся да сцяны траншэі, у якую, зрушыўшы сухі пласт зямлі, уваліўся старшы лейтэнант Кізевіч.

— Камбат! — амаль закрычаў ён і няўклюдна аблапіў яго сваімі доўгімі, у рукавіцах рукамі.— Жывы, значыць?

— Я? — няўцямна перапытаў Валошын.

— Ты, хто ж! А мы ўжо было цябе пахавалі. Як згледзелі, што вас немцы смажаць...

— Ты? А рота? — з натугай перамагаючы задышку, слабым голасам сказаў Валошын і закашляўся.

— Вунь, немцаў пагнала. З тылу зайшлі, разумееш? Куля што — куля дура, штык маладзец! — засмяяўся камандзір роты, і Валошын падумаў, які ўсё ж малайчына ў яго камандзір дзевятай і як ён раней не заўважаў таго.

Збочыўшы галаву, ён услухаўся левым вухам у густую аўтаматна-вінтовачную страляніну за вышынёй і, здаецца, упершыню падумаў, што ўратаваўся.

## 21

Было ціха. Як і мінулай ноччу, у сцюдзёнай цемры пранізліва дзьмуў вецер, і звечара браўся востры марозік. Агнявы бой, які шалёна грукатаў увесь дзень, памалу заціх. Немцаў прагналі з саўгаса і нейкім дзівам спіхнулі з вышыні, вяршыня якой цёмным пакатым горбам бяспечна высілася побач на фоне трошкі светлаватага закрайка неба. Часам з-за яе ўгору ўзляталі агняныя раі куль і, аддаляючыся над галавой у бяззорнае неба, памалу затухалі ўдалечыні. Праз якое імгненне даносіўся густы кулямётны рокат МГ — немцы ўсё агрызаліся. Роты за вышынёй маўчалі.

Валошын хаваў забітых.

Трое лёгка параненых і два байцы з камендацкага ўзвода зносілі іх са схілаў вышыні да адростка траншэі, дзе гаўбічны снарад выкапаў ранкам шырокую ў мяккім грунце варонку. Варонку трохі паглыбілі, зачысцілі дно, і выйшла магіла. Не вельмі каб акуратная, затое на здатным месцы, з шырокім паглядам у тыл — на балота і пагорак з учарашнім КП. Нямецкія чэргі сюды не запяталі, і нішто ўжо не трывожыла вечны спакой забітых.

Валошын памагаў байцам выцягваць забітых з абрушанай гранатамі, залітай крывёй траншэі, навярэдзіў руку, якая цяпер разбалелася ўся, ад перадплечча да кісці (напэўна, усё ж рана была болей сур'ёзная, чым яму здалося спачатку), і цяпер стаяў на кучы накапанай зямлі ля магілы. Ніжэй на разасланых

нямецкіх коўдрах складзеныя ў рад ляжалі забітыя. Крайнім адсюль ён паклаў вынесенага з траншэі лейтэнанта Круглова ў густа скрываўленай і ўжо падмерзлай суконнай гімнасцёрцы. Пасечаны кулямі паўшубак камсорга Валошын накінуў на сябе — ад страты крыві і пераджытага яго прабірала сцюжа. Адзін баец знімаў з забітых шынялі, вымаў з кішэняў дакументы, якія кідаў на пакладзеную ля ног палатку. Валошын моўчкі і пакутна перажываў нядаўняе; усім ля магілы дзелавіта распараджаўся Гутман. Пасля таго як Валошына знялі з камандавання, Гутман, каб не ісці да Маркіна, уцёк у дзевятую, дзе па ўласнай ініцыятыве ўзначаліў узвод з новенькіх. У часе атакі на вышыню «Вялікую» яго параніла асколкам гранаты ў шыю.

Маўклівы баец з папаўнення падроўніваў дно магілы, у якую неўзабаве трэба было апусціць забітых.

— Раз, два, тры, чатыры... Усяго васемнаццаць,— падлічыў нерухомыя целы Гутман і зазірнуў у варонку. — Малавата, халера, трэба расшырыць. Вунь яшчэ цягнуць...

Валошын з кучы зямлі сышоў уніз — у цемры было відаць, як два байцы за рукі і за ногі неслі правіслае да зямлі цела, якое знямогла апусцілі на ржышча каля нябожчыкаў — на коўдрах месца ўжо не хапала. Валошын нагнуўся над супакоеным назаўжды тварам, на секунду бліснуў па ім прыцьмелым святлом ліхтарыка ды так і знерухомеў, прыгнуўшыся.

— Вера?!

— Ну,— зморана сапучы, сказаў баец.— Там, на спіралі, ляжала. Зачапілася, ледзьве адчапілі.

«Вот так яно і бывае,— пакаянна падумаў ён і аслабела выпрастаўся.— Не хапіла настойлівасці ў час адправіць з батальёна, цяпер што ж — цяпер закапвай разам з усімі». Недзе ў сярэдзіне рада ляжаў з прастрэленай галавой Самохін, тут жа ляжала і Вера, яго франтавое каханне, нявенчаная і нераспісаная жонка ротнага. І з імі застанецца трэці, які так і не дажыў да свайго

нараджэння.

Глытнуўшы даўкі ў горле камяк, Валошын адышоў убок, пазіраючы, як байцы, трохі спачыўшы, зноў пайшлі ў змрок. Кожны раз ён чакаў і баяўся, што наступнага яны прынясуць Іванова. Але Іванова пакуль што не было. Не было яго і ў варонцы, дзе яго ранкам пакінуў Валошын. Магчыма, камандзіра батарэі ўсё ж паспелі адправіць у тыл — пасля ранення яго ніхто тут не бачыў.

Праз нейкі час байцы прынеслі кагосьці яшчэ, знялі падсумкі, шынель, вынялі з гімнасцёркі дакументы, якія перадалі Валошыну. Раскрыўшы новенькую, загорнутую ў газетку чырвонаармейскую кніжку, ён павёў па ёй слабаю плямкай з ліхтарыка і ўбачыў знаёмае: Гайнатулін. Вось і яшчэ аднаго не мінула нямецкая куля, падумаў капітан. Не шмат жа давялося табе паспытаць гэтай вайны, Гайнатулін, хоць і паспытаў ты яе поўнай мерай. За адзін дзень перажыў усё, ад трусасці да геройства, а як ты загінуў, мабыць, ніхто і не бачыў.

— Давайце апускаць,— нецярпліва падганяў Гутман і скокнуў у магілу.— Насіце, мы пераймаем.

Утрох з капітанам байцы ўзяліся падцягваць забітых на ўскраек магілы і, падтрымліваючы іх за ногі, памалу падаваць Гутману. Той удвух з яшчэ адным байцом падхопліваў іх акрываўленыя, пашкуматаныя асколкамі, з перабітымі рукамі і нагамі целы і валок у другі канец ямы. Першага там паклалі лейтэнанта Круглова, пасля тых, каго яны павыцягвалі раней з траншэі. Сярод іх Валошын затрымаў на краі магілы тэлефаніста Чарнаручанку, разам з якім перажыў тры цяжкіх месяцы пад нямецкім абстрэлам, у ровіках, траншэях, зямлянках і прывык да гэтага нетаропкага, маўклівага байца, гаспадара іх бітончыка-групкі. Але вось і яго не будзе. Цела Чарнаручанкі ўжо закалянела ў згорбленай нязручнай паставе — скурчаныя рукі з пасечанымі ў лахманы рукавамі тырчалі лакцямі ў бакі, і калі капітан адну выпрастаў, яна зноў пругка сагнулася, займаючы ранейшы скорчаны стан. Твар тэлефаніста было не

пазнаць, так яго знявечыла разрывам гранаты, і Валошын ціха сказаў:

— Хлопцы, перавязаць трэба.

У некага знайшоўся перавязачны пакет, Гутман, стоячы ўнізе, хутка абкруціў бінтам галаву і твар забітага. Пасля яны апусцілі яго на дно.

Яны заклалі там адзін рад і пачалі класці другі. Крайні ў гэтым радзе лёг лейтэнант Самохін, байцы неслі кагось наступнага, і Валошын раптам прыпамятаў:

— Стойце! Давайце сюды санінструктара.

— А што? Якая розніца? — запярэчыў змораны, у ватоўцы баец, якому, відаць, не хацелася ісці лішні раз па забітага.

— Давай, давай! Там яна, недалёка...

Яны паднялі з зямлі і паднеслі да ямы худзенькае, амаль дзіцячае цела малодшага сяржанта медслужбы Вераценнікавай. Гутман акуратна паклаў яе побач з Самохіным.

— Хай ляжаць. Тут ужо нікога баяцца не будуць...

«Тут ужо нікому нічога не страшна, ужо адбаяліся»,—

падумаў Валошын, гаротна пазіраючы ў змрок ямы, дзе Гутман у цьмяным святле з ліхтарыка паправіў на Веры гімнасцёрку, склаў на грудзях яе заўжды залітыя ёдам рукі. Колькі людзей гэтыя рукі ўратавалі ад смерці, павыцягвалі з-пад агню, паўладкоўвалі ў выпадковыя палявыя сховішчы, перавязалі, дагледзелі... Але вось наступіла і яе чарга.

Так адно за адным паклалі яны і другі рад. Апошні застаўся Гайнатулін, месца якому ў радзе ўжо не было, і яго ўціснулі ў вузкую шчыліну каля ног забітых.

— А што? Чым кепска? — сказаў Гутман.— Асобна, затое як камандзір будзе.

Ён выбраўся з ямы, у якую байцы ўзяліся дружна ссоўваць зямлю, быццам хацелі хутчэй скончыць з гэтай малапрыемнай работай. Валошыну было нязручна з яго балючай рукой, і ён выпрастаўся. Пахаванне канчалася, заставалася закапаць магілу і насыпаць земляны бугорчык, на які заўтра тылавікі паставяць драўляную піраміду з фанернай зоркай наверсе. На гэтым абавязак жывых перад мёртвымі можна будзе лічыць закончаным. Батальён, магчыма, прасунецца далей, калі будзе загад наступаць, атрымае новае папаўненне, з франтавога рэзерву прышлюць афіцэраў, і яшчэ менш застанецца тых, хто перажыў гэты пякельны бой і памятаў жывымі тых, хто тут закапаны. А пасля і тых не застанецца. Ранейшы будзе толькі нумар палка, нумары батальёнаў, і недзе, у далечы вайны, як дым, растане іх франтавы лёс.

— Ну во і парадак! — абапіраючыся на гладкі тронак нямецкай рыдлёўкі, з выдыхам сказаў Гутман.— Можна курыць. Што не дароблена, заўтра ўдзень даробяць. Абібокаў у тыле хапае.

Байцы заканчвалі падчышчаць зямлю ля магілы, выціралі спатнелыя лбы і моўчкі па адным адступаліся да бруствера ля траншэі. Валошын закурыў і перадаў свой партсігар Гутману, у якога ахвотна закурылі астатнія. Замест запалак у некага знайшлася «кацюша» — папырскаўшы сіняватымі іскрынкамі з крэменя, баец высек агонь, і ўсе па чарзе прыкурылі ад трута — абрыўка тасьмы з дзягі.

— Думаў, сёння мяне закапаюць,— перапыніў усеагульную маўклівасць Гутман.— Ды во самому закапваць прыйшлося. Цуд, і толькі!

— Як шыя? — запытаў капітан.

— Шыя? Баліць, халера. Тыдні са два прыйдзецца пакантавацца ў санбаце. Даўно ўжо не быў, аж уздрадаваўся. А што — лішне не будзе, я чалавек не горды, як-небудзь вытрываю...

Валошын не падтрымаў гаваркога ардынарца, а зморана

сядзеў на брустверы, тупа адчуваючы, як у гэты злашчасны дзень нешта для яго скончылася. З нейкім вялікім кавалкам у яго жыцці адышло яго труднае камандзірскае мінулае і, мабыць, пачалося штосьці іншае. Сёння ён пабыў радавым байцом, і хоць і раней не далёка адступаўся ад яго, але тады была ўсё ж дыстанцыя. Сёння ж яе не стала, і ён поўнаю мерай адчуў неабдымнасць салдацкага ліха і заплаціў сваю крывавую плату за вяршок гэтай адбітай з боем зямлі.

Байцы поруч дакурвалі, і ён адчуваў, што набліжаўся час уставаць і ісці. Толькі куды? Як і трое з іх, ён быў паранены і фармальна меў права ісці ў санроту, адкуль яго маглі на тыдзень-другі адправіць у медсанбат. Спакусліва было паваляцца дзе-небудзь у тылавой вясковай школцы, выспацца на саломе, адпачыць ад спрадвечных камандзірскіх клопатаў, атак і абстрэлаў, ад складаных адносін з начальствам. Але калі б там можна было забыцца пра ўсё перажытае, выкрэсліць з памяці тое, што і там будзе душыць, грызці і мучыць. Ён ведаў, што праз дзень-два тылавая вёсачка яму надакучыць і ён зноў пачне рвацца туды, дзе бой, кроў і смерць — ягоны франтавы лёс, апроч якога, яму нічога болей не будзе. Пакуль ён жывы і грыміць вайна, іншага, на бяду ці на шчасце, яму не дадзена.

На душы ў капітана было тужліва і роспачна, як толькі і можа быць пасля пахавання. Не ведаючы, на што наважыцца, ён знямогла сядзеў, каўняром паўшубка затуліўшыся ад ветру. Пакуль дыміла цыгарка, можна было бавіць час і рашаць, але, дакурыўшы, трэба было ўставаць і ісці. Уніз па схіле ў санчасць ці назад за вышыню ў батальён.

— Стой, ціха! — раптам трапятнуўся Гутман і ўскочыў з бруствера. Баец, што сядзеў побач, схапіўся за карабін, але карабін не спатрэбіўся — Гутман узрадавана-сцішана крыкнуў, звяртаючыся да Валошына:

— Глядзіце, глядзіце! Таварыш капітан, Джым!

Валошын азірнуўся амаль спалохана — у начным прыцемку было відаць, як, матлянуўшы над чорнай

траншэяй, на бруствер ускочыў іх дужы, імклівы, узрадаваны гэтай сустрэчай Джым. Не звяртаючы ўвагі на незнаёмых, ён крута скокнуў угору на грудзі к Валошыну, ледзьве не паваліўшы яго на зямлю, затым заскуголіў ціхенька і радасна і шархоткім языком пругка лізнуў па бруднай шчацэ капітана, і Валошын не адхінуўся — сцяў на сваіх плячах яго дужыя сцюдзёныя лапы.

— Джым!.. Ах ты, Джым!..— з горкай радасцю пагладзіў ён рухавую спіну сабакі, думаючы, аднак, пра іншае. Пасля ўсяго, што здарылася, радасць сустрэчы з Джымам нечакана аказалася сумнай, несапраўднай, заслоненай болем іншых, болей дарагіх страт.

— Глядзіце, глядзіце — ён жа сарваўся! — Гутман тузануў на сабаку ашыйнік, з якога віснуў недаўгі канец адарванага рэменя.— Во жывёліна!

— Жывёліна — не тое слова, Гутман,— сказаў Валошын, сядаючы побач з сабакам.

— Ну не жывёліна, вядома. Сабака! Сабачка, але бы чалавек! Дзівосы!

Валошын абмацаў свае кішэні, у якіх, аднак, апроч пяску і некалькіх пісталетных патронаў, нічога болып не было, і Джым, нахіліўшы галаву, з цікавасцю паназіраў за гэтым знаёмым для яго рухам.

— Ах, Джым, Джым...

Хутка, аднак, спакайнеючы ад першае радасці, Джым звыкла застрыг вушамі, засцярожліва азіраючыся па баках. Байцы адышліся на некалькі крокаў і задумліва пазіралі то на сабаку, то ў неба над вышынёй, у якім ад саўгаса ўсё несліся ўгору трасірныя кулямётныя чэргі і блукалі недалёкія водблескі нямецкіх ракет. Нямецкі кулямёт з-за вышыні выпусціў даўжэзную чаргу, частка яе куль, ударыўшыся ў зямлю, з віскам разляцелася ў бакі.

— Так, Гутман! — сказаў Валошын сваім звыклым

камандзірскім тонам.— Вядзіце параненых.

— А вы што?

— Я застаюся.

— Да? — няпэўна перапытаў Гутман і моўчкі прыціх праз два крокі ад Валошына.

— Пакуль застаюся.

— Ну што ж. Тады да сустрэчы!

— Да сустрэчы, Гутман,— устаючы, сказаў капітан.— Дзякуй за службу. І за дружбу.

— Ды што... Няма за што, таварыш капітан. Дай бог, каб яшчэ сустрэцца,— патаптаўся на месцы Гутман і адвярнуўся.— Ну што? Шагам марш, славяне!

Яны хутка пайшлі ўніз па перакапаным мінамі схіле, а ён, азірнуўшыся на прыцьмелы ў змроку магільны курганчык, пастаяў так хвіліну. Гэта была не першая закапаная ім магіла, але, як заўжды, яе выгляд выклікаў у ім тужлівае да слёз адчуванне, жалобу па тых, хто там заставаўся, і яшчэ болей — па сабе самім. Хоць, калі разабрацца, яму асабіста здорава пашанцавала сёння. Тым не менш камень благога прадчування ляжаў на яго душы. Нібыта разумеючы стан гаспадара, Джым праскуголіў, ціхенька і патрабавальна пацёрся аб ягоныя боты.

— Што ж, пайшлі, Джым!

Усё было вырашана — ён вяртаўся ў свой батальён. Няважна, што яго там чакала, не мела значэння, як яму будзе далей. Галоўнае — быць з тымі, з кім яго зраднілі франтавыя пакуты, з кім ён гінуў, уваскрасаў і як умеў рабіў сваю салдацкую справу. Ён быў упэўнены, што яму не сорамна будзе глядзець у вочы яго падначаленым, сумленне яго спакойнае. І калі ён для іх ужо не камбат, дык што гэта мяняе? Можа, ён яшчэ болей — ён іх таварыш. Для тых, хто выбіў немцаў з гэтай траншэі і хто застаўся ў свежай, толькі што

закапанай магіле, дзе вельмі проста мог бы ляжаць і ён. Але воля выпадку распарадзілася інакш. У поўнай адпаведнасці са сваёй сляпой уладарнай сілай.

Яна не ўладарна толькі над яго чалавечнасцю. Над тым, што адрознівае яго ад Маркіна, што ў ім — Чалавек.

Таму што Чалавек, часам нягледзячы ні на што, становіцца вышэй за свой лёс і, значыцца, вышэй за магутную сілу выпадку.

Ён стомлена ішоў за сабакам уздоўж разбітага траншэйнага бруствера, абыходзячы чорныя правалы варонак, кіруючы да недалёкай вяршыні, з-за якой усё мільгалі ў небе агняныя светлякі куль і даносілася аддаленае вурчанне нямецкіх «машынан-гевэраў».

Вайна прадаўжалася.

Камандзір 294-га стралковага палка Герой Савецкага Саюза маёр Валошын Мікалай Іванавіч забіты 24 сакавіка 1945 года і пахаваны ў брацкай магіле, што знаходзіцца ў 350 метрах на паўночны захад ад населенага пункта Штайндорф (Усходняя Прусія).

*Даведка з архіва*






# Васіль Быкаў

Васіль Быкаў (1924-2003) Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці. Навучаўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Скончыў Саратаўскую пяхотную вучэльню. У 1942 годзе будучы пісьменьнік уступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Ваяваў на Другім і Трэцім Украінскіх франтах, прайшоў па тэрыторыі Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, двойчы быў паранены.

Упершыню творы Васіля Быкава былі апублікаваныя ў 1947 годзе, аднак творчая біяграфія пісьменьніка пачынаецца з апавяданьняў, напісаных у 1951 годзе. Тэматыка раньніх апавяданьняў, дзеючымі асобамі якіх сталі жаўнеры і афіцэры, вызначыла далёйшы лёс Быкава, многія з твораў якога прысьвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Бескампраміснасьць прозы Быкава стала прычынай нападаў савецкай крытыкі, якая абвінавачвала пісьменьніка ў ачарненьні савецкага ладу.

У 1974 годзе Васіль Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесьць "Дажыць да світання", 1973), у 1980 годзе атрымаў званьне Народнага пісьменьніка Беларусі, у 1986 годзе - быў уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесьць "Знак бяды".

Некаторыя творы пісьменьніка, такія як аповесьці "Трецяя ракета" (1962), "Дажыць да світання", былі экранізаваныя.

З 1972 па 1978 год Васіль Быкаў займаў пасаду сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

Вядомасьць Васілю Быкаву прынесла аповесьць "Трэцяя ракета", напісаная ў 1962 годзе. У 1960-е ён публікуе аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", у 1970-я - "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі ваеннай прозы XX стагодзьдзя.

Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменьніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэньне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой.

1. Мне здалося, рускі... (ням.)

2. - Наперад, там неглыбока! (ням.)

3. - Тут прорва (ням.)

Падрыхтаванае на падставе: Васіль Быкаў, Поўны збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 5, Аповесьці. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2006. — 544 с.

ISBN 5-9691-0122-2

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924-2003). Падчас укладання тамоў найперш улічвалася думка самога аўтара, які паспеў спланаваць праспект выдання свайго 8-томнага Збору твораў. У пяты том Поўнага збору твораў увайшлі аповесці "Круглянскі мост" (1968 г.), "Дажыць да світання" (1972 г.), "Воўчая зграя" (1974 г.), "Яго батальён" (1974 г.).